ток: Методичні рекомендації за матеріалами науково-методичної наради, квітень 1990 р. К., 1990; Страшко Віктор. Правила передачі тексту кириличних документів XVI—XVIII стст. дипломатичним і популярним методами та рекомендації для застосування цих правил у виданнях наукового і науково-популярного типів (проект). К., 1992; Гісцова Любов. Методичні рекомендації по підготовці до видання «Архіву Коша Нової Запорозької Січі». К., 1992; Дубровіна Л. А., Гальченко О. М. Кодикографія української та східнослов'янської рукописної книги і кодикологічна модель структури формалізованого опису рукопису. К., 1992 (имеется текст и на русском языке) и др.

[43] См.: Пашуто В. Т., Хорошкевич А. Л. Совместная публикация советских и польских историков // Вопросы истории. 1981. № 2. С. 158—160; Бычкова М. Е. Литовская метрика — совместное издание советских и польских историков // История СССР. 1981. № 4. С. 214—215.

[44] Дополнения к ряду статей рекомендаций сделаны белорусским филологом А. Н. Булыко, замечания по тексту — историками В. И. Мелешко и Н. Н. Улащиком.

[45] Опубл. в Археографическом ежегоднике за 1975 год. М., 1976.

***Ю. У. Несцяровіч***

## ЭКСПЛІКАЦЫЯ ПАНЯЦЦЯ НАВУКІ І АКРЭСЛЕННЕ АРХЕАГРАФІІ ЯК САЦЫЯКУЛЬТУРНАГА ФЕНОМЕНА

Нягледзячы на тое што сёння ў навуковай літаратуры амаль не сустракаецца характарыстыка археаграфіі як навукі (яна характарызуецца як навуковая дысцыпліна), у склад археаграфіі часта ўключаюць практыку. Пры вырашэнні пытання аб ўключэнні практыкі ў склад археаграфіі істотнае значэнне мае эксплікацыя паняцця навукі. Такая эксплікацыя, як будзе бачна ніжэй, звязана з эксплікацыяй паняцця сацыяльнага інстытута. Апошняя вельмі карысна пры распрацоўцы тэмы: археаграфія як сацыякультурны феномен.

У працах па філасофіі, навуказнаўстве, сацыялогіі навука вызначаецца адначасова і як сацыяльны інстытут, і як сукупнасць даследаванняў, якія ажыццяўляюцца ў межах навуковых дысцыплін, і як навуковая парадыгма, і як фактар развіцця вытворчасці, і як сістэма ведаў, а нярэдка — і інакш. (Пры выкладанні разнастайнага паняцця навукі звычайна спасылаюцца на кнігу Дж. Бернала [1, с. 18].) Шматслойнасць паняцця навукі робіць выкладанне яго невыразным і няпэўным.

Т. Г. Ляшкевіч растлумачвае, што: «Навука, маючы шматлікія вызначэнні, выступае ў трох асноўных іпастасях. Яна разумеецца як форма дзейнасці, або як сістэма ці сукупнасць дысцыплінарных ведаў, або як сацыяльны інстытут» [2, с. 84]. Тэзіс пра навуку як утварэнне, якое выступае ў некалькіх аспектах (іпастасях), — спекулятыўны. У дадзеным выпадку належыць разважаць пра розныя паняцці (паняцце навуковай дзейнасці як



сістэмы дзеянняў, накіраваных на атрыманне агульназначных верыфікацыйных, лагічна несупярэчлівых ведаў, паняцце навуковай дысцыпліны і паняцце інстытута навукі), якія абазначаюць адным тэрмінам «навука». Дадзеная ёю характарыстыка — «форма дзейнасці» з'яўляецца няпэўнай. У межах сацыялогіі адштурхоўваюцца ад паняццяў сацыяльнага інстытута і грамадскай дзейнасці, у межах анталогіі — ад паняццяў тыпу, формы і віду дзейнасці. Аднак навуку, у адрозненне ад вытворчасці, псіхічнай дзейнасці, неадэкватна вызначаць формай дзейнасці.

Аналіз шматслойнага паняцця навукі (дэфініцыя якога прыводзіцца ніжэй), замацававнага ў філасофскай і навуказнаўчай літаратуры, паказвае, што яго належыць разглядаць і як штучнае аб'яднанне комплексу паняццяў — паняцця навуковай дзейнасці, навуковых ведаў, навуковых метадаў, навуковай думкі як формы грамадскай свядомасці, навуковага суграмадства.

Пры дэфініцыі: «Навука — сфера даследчай дзейнасці, якая накіравана на вытворчасць новых ведаў пра прыроду, грамадства і мысленне і якая ўключае ў сябе ўсе ўмовы і моманты гэтай вытворчасці, вучоных з іх ведамі і здольнасцямі … навуковыя ўстановы, эксперыментальнае і лабараторнае абсталяванне, метады навукова-даследчай працы, паняційны і катэгарыяльны аппарат, сістэму навуковай інфармацыі, а таксама ўсю суму наяўных ведаў…» [3; с. 296], навука, па сутнасці, трактуецца як асобная сфера грамадскага жыцця (а не толькі грамадскай дзейнасці). Але пры такой дэфініцыі не высветлены суадносіны паміж паняццямі навукі і (навуковага) пазнання. Змешваюцца паняцці даследчай дзейнасці і навуковага пазнання, сферы грамадскай дзейнасці і сферы грамадскага жыцця, не ўдакладняецца характарыстыка ведаў, атрымліваемых менавіта ў межах навуковага пазнання.

Пры дэфініцыі паняцця навукі, якую прапануе расійскі эпістэмолаг В. С. Сцёпін: «Навука — асаблівы від пазнавальнай дзейнасці, які накіраваны на выпрацоўку аб'ектыўных, сістэмна арганізаваных і абгрунтаваных ведаў пра сусвет» [4, с. 661; 5, с. 612], паняцце навукі атаясамліваецца часткова з паняццем навуковага пазнання, а часткова з паняццем навуковай дзейнасці. Тэрмінам «навуковае пазнанне» аптымальна абазначаць паняцце спецыялізаванага тыпу пазнання, якое адбываецца на аснове строгіх прынцыпаў і дакладных метадаў яго ажыццяўлення; больш коратка, навуковае пазнанне — адзін з тыпаў пазнання. Паняцце навуковага пазнання атрымліваецца пры дзяленні паняцця пазнання. У склад (шырокага) паняцця навукі ўключаюць кампанентам сукупнасць метадаў даследавання, але не пэўны тып пазнання. Няма падстаў для ўжывання тэрмінаў «навука» і «навуковае пазнанне» ў якасці сінонімаў.

Вельмі распаўсюджана шырокае паняцце навукі як сферы па вытворчасці ведаў; разам з ім часта выкарыстоўваецца і паняцце наву-

ковай (даследчай, пазнавальнай) дзейнасці (якое іншы раз таксама абазначаецца тэрмінам «навука»). Аднак пакольki паняцце пазнання па змесце зусім адрозніваецца ад гэтых паняццяў, то абгрунтоўванне навукі як асаблівага віда пазнавальнай дзейнасці, як аднаго з тыпаў пазнання з'яўляецца таксанамічна неадэкватным.

У працах заходняга філосафа Т. Куна «…навука разглядаецца як прадукт мноства падыходаў шматлікіх груп і школ» [6, с. 455], г. зн. у іх навука атаясамліваецца ў значнай ступені з навуковай парадыгмай. У вучэбным дапаможніку «Філасофія і метадалогія навукі» навука трактуецца ў ім і як працэс пазнання, і як сацыяльны інстытут. Прычым патлумачэнне навукі як сацыяльнага інстытута ў ім не адпавядае адзнакам, па якіх прынята ствараць паняцце сацыяльнага інстытута: «Сёння навука, па сутнасці, уяўляе сабой моцную галіну па вытворчасці ведаў з аграмаднай матэрыяльнай базай, з развітой сістэмай камунікацый» [14, с. 7, 15, 25]. Пры такім тлумачэнні навука выступае як сацыятальная арганізацыя і фактар вытворчасці, але не як сацыяльны інстытут.

У наступным выкладанні, якое прадпрынята ў межах сацыялогіі, паняцце навукі застаецца нявысветленым: «…навука сёння — не столькі чыстая форма, колькі складаны працэс сацыяльнай вытворчасці, праца на падставе папярэдніх ведаў і пераўтварэння яго… Навука — сацыяльна абумоўленая з'ява, якая ўзнікае ў такім кантэксце, у якім культурныя каштоўнасці і інтарэсы вучоных, а таксама больш шырокіх слаёў аказваюць патэнцыяльны ўплыў на працэс пазнання» [6, с. 455].

Расійскі сацыёлаг С. Э. Крапівенскі абгрунтоўвае і выкладае комплекснае паняцце навукі, якое ўключае паняцце навукі як формы грамадскай свядомасці (прычым гэта «асабліва важная ў нашы дні форма»), як галіны духоўнай вытворчасці («асноўнай прадукцыяй якога [якой? — *Ю. Н.*] з'яўляюцца паняцці, законы, тэорыі»), як сацыяльнага інстытута і як непасрэднай вытворчай сілы грамадства. Прычым ён слушна ўказвае, што: «Надзвычайная шматаспектнасць навукі як грамадскага феномена ўскладняе выпрацоўку дэфініцыі… якая ўсебакова адлюстроўвала б яе сутнасць» [7, с. 258—259].

Расійскі філосаф А. В. Ляскоў, пазначаючы тэрмінам «навука» «працэс пабудовы сістэматызаванага вобраза часткі рэальнасці, якая арыентавана на выяўленне яе агульных уласцівасцей», атаясамлівае тым самым у значнай ступені навуку з навуковым пазнаннем, а пасля гэтага непаслядоўна (у адносінах да дадзенай ім дэфініцыі) разважае пра навуку як пра сферу грамадскага жыцця: «Узнікненне і развіццё навукі як самастойнай сферы чалавечай дзейнасці праходзіла ў агульным русле сусветнай гісторыі…» [8, с. 347—348].

Айчынны метадолаг навукі В. К. Лукашэвіч, канстатуючы наяўнасць у навуковым абарачэнні шырокага паняцця навукі: «…сёння ў філасофскіх



дысцыплінах і навуказнаўстве замацавалася найбольш агульнае ўяўленне пра навуку як з'яву грамадскага жыцця (і культуры), спецыфіка якога выражаецца ўказаннем на яго асноўныя аспекты: 1) навука як спецыфічная дзейнасць; 2) навука як сістэма ведаў; 3) навука як сацыяльны інстытут; 4) навука як вытворчая сіла; 5) навука як форма грамадскай свядомасці», прапануе дэфініцыю паняцця навукі: «Навука — сфера чалавечай дзейнасці, якая накіравана на вытворчасць і тэарэтычную сістэматызацыю аб'ектыўных ведаў пра прыродную, духоўную і сацыяльную рэальнасць.» [9, с. 12, 24], якая з'яўляецца спрашчэннем філасофскага паняцця навукі як сферы па вытворчасці ведаў. Разам з тым, тлумачачы навуку як сістэму пазнавальных дзеянняў, ён, па сутнасці, абгрунтоўвае навуказнаўчае паняцце навукі.

Мы лічым мэтазгодным выкарыстоўваць у рамках сацыялогіі разам з паняццем інстытута навукі і паняцце навуковай дзейнасці як сферы грамадскай дзейнасці, якая (калі зыходзіць з праксеалагічнай трактоўкі дзейнасці і не змешваць паняцці навуковай дзейнасці і навуковага пазнання) уяўляе сабой сукупнасць спраў, такіх, як паступленне у навукова-даследчы інстытут, правядзенне лабараторных эксперыментаў, пабудова навуковых тэорый і канцэпцый, напісанне навуковых прац, рэцэнзаванне іх рукапісаў, пастаўка абсталявання для правядзення эксперыментаў, удзел у канферэнцыях, падрыхтоўка кадраў вышэйшай навуковай кваліфікацыі і г. д. Падобная, хаця больш сціслая і спецыяльна не абгрунтоўваемая трактоўка навуковай дзейнасці выкладзена ў Законе РБ аб навуковай дзейнасці (гл. [10, с. 65—66]).

Археаграфія як навуковая дысцыпліна разам з іншымі навуковымі дысцыплінамі, напрыклад, квантавай фізікай, археалогіяй, не з'яўляецца аб'ектам сацыялогіі, яна ўваходзіць кампанентам у склад шырокага паняцця навукі. Разам з тым комплексная праца па пошуку, апісанні, падрыхтоўцы да друку і выданні дакументальных і наратыўных археаграфічных матэрыялаў уяўляе сабой, разглядаючы сацыялагічна не навуковую дзейнасць, а іншую сферу грамадскай дзейнасці, — археаграфію.

Ужыванне агульнапрынятага сёння шырокага паняцця навукі вядзе да супярэчлівасці пры яго выкладанні. Сапраўды, пры разглядзе навукі як сацыятальнага[*] інстытута і навукі як феномена культуры і спецыфічнай дзейнасці ўзнікненне навукі датуюць па-рознаму. Узнікненне навукі як спецы-

[*] Будзем ужываць у пэўных выпадках тэрмін «сацыятальны» замест «сацыяльны», зыходзячы з таго, што сацыяльнае — гэта датычнае становішча індывідаў і сацыяльных груп у грамадстве (сацыяльных статусаў і стратыфікацыі), а сацыятальнае ахоплівае і сацыяльнае, і палітычнае, і эканамічнае; тэрмін «сацыятальны» патрэбны для разгружэння тэрміна «грамадскі» (гл. [12, с. 103—105]).

фічнай дзейнасці датуюць звычайна антычным перыядам гісторыі грамадства. Узнікненне навукі як сацыяльнага інстытута і выдзяленне яе ў якасці асобнай сферы грамадскага жыцця аптымальна адносіць да XIX ст.

Пры ўжыванні тэрміна «навука» навуказнаўцы, філосафы і сацыёлагі выкарыстоўваюць, як правіла, розныя (і неэксплікаваныя) паняцці навукі: першыя — паняцце навукі як сістэмы пазнавальных дзеянняў, якія накіраваны на атрыманне верагодных агульназначных ведаў; другія — паняцце навукі як сферы па вытворчасці ведаў; трэція — паняцце навукі як сацыяльнага інстытута.

У рамках сацыяльнай філасофіі нярэдка выкарыстоўваюць паняцце, з дапамогай якога ў пэўнай ступені інтэгруюцца апошнія два з вышэйадзначаных паняццяў. У прыватнасці, расійская сацыяфілосаф С. А. Хмялеўская карыстаецца паняццем галоўнага сацыяльнага інстытута, якое блізка па змесце да паняцця сферы грамадскага жыцця. Яна сцвярджае: «Сацыялогія цікавіцца ў першую чаргу дзейнасцю галоўных сацыяльных інстытутаў, звязаных з рэалізацыяй першасных патрабаванняў грамадства (інстытуты сям'і і адукацыі), забеспячэннем матэрыяльнай жыццядзейнасці (інстытуты матэрыяльнай вытворчасці), інтэграцыяй сацыяльных груп і калектываў (палітычныя і дзяржаўна-прававыя інстытуты), падтрымкай і захаваннем духоўных каштоўнасцей (інстытуты культуры) і інш.» [11, с. 115—116].

Расійскі сацыёлаг Т. Х. Керымаў, атаясамліваючы сферы дзейнасці чалавека і віды грамадскай дзейнасці (што таксанамічна неадэкватна, трэба выдзяляць віды дзейнасці і сферы грамадскай дзейнасці), выдзяляе (насуперак гэтай яго трактоўцы, пры якой сацыяльны інстытут не дзейнасць, а толькі форма рэгуляцыі яе) у якасці відаў грамадскай дзейнасці сям'ю, дзяржаву, навуку, права: «…адпаведна відам чалавечай дзейнасці выдзяляюцца сацыяльныя інстытуты, якія ўяўляюць сабой аналітычную абстракцыю — напрыклад, навука, права, дзяржава, сям'я…» [13, с. 654]. Паводле яго пабудовы атрымліваецца, што навука, дзяржава і г. д. з'яўляюцца адначасова і сферай грамадскай дзейнасці, і сацыяльным інстытутам.

С. Э. Крапівенскі выдзяляе сферы дзейнасці (яны ж галіны грамадскай жыццядзейнасці). Ён указвае, што пры разглядзе грамадства пад функцыянальным зрэзам: «З улікам біяфізіялагічных і грамадскіх патрэб чалавека звычайна вылучаюць такія асноўныя сферы дзейнасці: эканоміка, транспарт, сувязь, выхаванне, абарона, ахова здароўя, мастацтва, «інфарматыка»…» [7, с. 76]. Мы лічым мэтазгодным ужыванне дадзенага паняцця ў межах сацыялогіі (для класіфікацыі тых родаў дзейнасці, якія прымальна выдзяляць у якасці самастойных адзінак сацыятальнай дзейнасці), а ў межах сацыяльнай філасофіі больш прыдатна паняцце сфер сацыяльнага жыцця.



Сацыялагічнае паняцце сацыяльнага інстытута і сацыяфіласофскае паняцце сфер грамадскага жыцця (і дзейнасці) непрымальна абгрунтоўваць як эквівалентныя. Таму мы лічым мэтазгодным ў межах сацыялогіі адштурхоўвацца ад паняцця навукі як сацыяльнага інстытута, а ў межах сацыяльнай філасофіі — ад паняцця навукі як сферы грамадскага жыцця.

Т. Г. Ляшкевіч сцвярджае, што: «Навука як сацыяльны інстытут або форма грамадскай свядомасці, якая звязана з вытворчасцю навукова-тэарэтычных ведаў, уяўляе сабой пэўную сістэму ўзаемасувязей паміж навуковымі арганізацыямі, часткамі навуковага суграмадства, сістэму норм і каштоўнасцей» [2, с. 84]. Але ж навука як сацыяльны інстытут і навуковая думка — гэта розныя з'явы.

У літаратуры па сацыялогіі адзначаецца, што «інстытут» — шматзначны тэрмін, які абазначае ўстаноўленую мадэль паводзін, з якой складаецца нарматыўна-абмежавальны парадак [15, с. 119]. Частка сацыёлагаў, у прыватнасці Т. Х. Керымаў, абмяжоўваюць змест паняцця сацыяльнага інстытута комплексам устойлівых адзнак, норм, установак, якія рэгулююць пэўную сферу чалавечай дзейнасці.

Расійскі філосаф і сацыёлаг М. С. Камароў паведамляе, што: «У сацыялагічнай навуцы склалася даўняя традыцыя вытлумачэння сацыяльнага інстытута як асаблівага каштоўнасна-нарматыўнага комплексу, які рэгулюе асноўныя віды чалавечай практыкі, без якіх немагчыма нармальнае функцыяніраванне і ўстойлівае развіццё грамадства. Больш дакладнае паняцце сацыяльнага інстытута прадугледжвае пэўную, толькі яму ўласцівую сукупнасць сацыяльных роляў і статусаў», пры гэтым ён вызначае сацыяльны інстытут навукі як «пэўную сацыяльную арганізацыю» [16, с. 197]. Дадзенае выкладанне паказвае на невыразнае адрозніванне ім паняццяў формы арганізацыі грамадства і сацыятальнай арганізацыі.

З дэфініцыі: «Сацыяльны інстытут — адносна ўстойлівая форма арганізацыі грамадскага жыцця, якая забяспечвае ўстойлівыя сувязі і адносіны ў рамках грамадства. Сацыяльныя інстытуты належыць адрозніваць ад канкрэтных арганізацый і сацыяльных груп» [17, с. 661] зразумела, што сацыяльныя інстытуты і сацыятальныя арганізацыі — гэта розныя адзінкі сацыялагічнага апісання і тлумачэння з'яў грамадства, але незразумела, ці ўключаюцца сацыятальныя ўстановы ў склад сацыяльнага інстытута. Калі ўключаюцца, то да выказвання «форма арганізацыі грамадскага жыцця, якая ўяўляе сабой сукупнасць стандартаў паводзін» належыць дадаваць — «якая фарміруецца і замацоўваецца ў сістэме ўстаноў (у «канкрэтных арганізацыях»)».

Дарэчы, англійскія сацыёлагі Джэры ўказваюць на недастатковую вызначанасць тэрміна «сацыяльная арганізацыя»: «Сацыяльная арганіза-

цыя — адносна ўстойлівы ўзор у межах грамадства і працэс, з дапамогай якога ён ствараецца або падтрымліваецца. Тэрмін мае зусім агульнае значэнне, якое пераклікаецца з іншымі» [18, с. 234]. Пры падобным вытлумачэнні сацыяльнай арганізацыі змест паняццяў сацыяльнай арганізацыі і сацыяльнага інстытута ў пэўнай ступені супадае. Джэры, адзначаючы двухсэнсоўнасць тэрміна «сацыяльны інстытут», пазбягаюць трактоўкі яго як сукупнасці ўстаноў: «Сацыяльны інстытут — устаноўлены парадак правіл і стандартызаваных мадэляў паводзін» [6, с. 248].

У дэфініцыі паняцця сацыяльнага інстытута, які прапануе айчынны вучоны А. І. Ляўко (са спасылкай на кн. [19]): «Сацыяльныя інстытуты можна вызначыць як сукупнасць розных форм арганізацыі і рэгулявання грамадскіх адносін, спецыяльных устаноў, сістэмы норм, сацыяльных роляў… Сацыяльнымі інстытутамі з'яўляюцца дзяржава, палітычныя партыі, армія, суд, сям'я, права, мараль, рэлігія, адукацыя і інш. … кожны больш-менш афармлены інстытут мае сваю мэту» (з такім жа поспехам прымальна прыпісваць уласную мэту лексічным катэгорыям альбо натуральным знакавым сістэмам), змешваюцца паняцці сацыяльнага інстытута і сацыяльнай арганізацыі, што вынікае з наступнага выказвання: «Паколькі большасць інстытутаў — бюракратычныя арганізацыі…» Разам з тым для яго «сацыяльныя інстытуты з'яўляюцца сістэмай устаноў…» [20, с. 114—116]. Але хіба мараль і права, якія выдзяляюцца ім у якасці сацыяльных інстытутаў, маюць мэты. Складана абгрунтоўваць мараль — «сукупнасць рэгулятараў належных паводзін» [8, с. 337] і права — «сукупнасць этычных грамадскіх каштоўнасцей» [21, с. 357] у якасці сістэмы ўстаноў пры адначасовым выдзяленні ў якасці сацыятальнага інстытута дзяржавы, якая паглынае ў свой склад органы юстыцыі.

Расійскі сацыёлаг А. І. Краўчанка вызначае сацыяльны інстытут не толькі як «сукупнасць норм, якія рэгулююць пэўную сферу грамадскіх адносін» (што адпавядае першапачатковаму запазычванню паняцця інстытута сацыёлагамі з паняційнага апарату правазнаўства), але і як «рэальную сукупнасць людзей, якія працуюць у дадзенай сферы, а таксама сістэму канкрэтных законаў, кіраўніцкіх рашэнняў і практычных мерапрыемстваў» і нават як «сацыяльную сістэму, якая ахоплівае «сукупнасць статусаў і роляў, сацыяльных норм і санкцый, сацыяльных арганізацый, прадпрыемстваў, універсітэтаў, фірм, агенцтваў, калгасаў і г. д.)» [22, с. 54, 58]. Пры падобнай трактоўцы сацыяльнага інстытута застаецца незразумелым, чым адрозніваюцца нормы, якія рэгулююць сферу грамадскіх адносін, і сацыяльныя нормы. Пры ёй сацыятальныя ўстановы неадэкватна абазначаюцца як «сацыяльныя арганізацыі». Сукупнасць устаноў, у прыватнасці агенцтваў, можа скласці сацыяльную арганізацыю — таварную біржу, але асобнае агенцтва неаптымальна характарызаваць як сацыяльную арганізацыю.



Расійскі сацыёлаг А. Г. Эфендыеў пры вызначэнні паняцця сацыяльнага інстытута робіць акцэнт на від сацыятальнага ўзаемадзеяння, якое дазваляе забяспечваць патрэбы ўзнаўлення грамадства: «Сацыяльныя інстытуты — гэта віды сацыяльных узаемадзеянняў, якія склаліся гістарычна і замацаваны, устойлівыя, самаўзнаўляюцца, прызваныя задаволіць тыя ці іншыя патрэбы людзей…» [23, с. 215]. Вылучэнне разам з тыпамі сацыяльнага ўзаемадзеяння (гвалтавання, супрацоўніцтва і інш.) відаў яго мэтазгодна, аднак аднясенне да іх і сяброўства, і дзяржавы, на наш погляд, таксанамічна, недасканала. Эфендыеў вылучае сацыяльнымі інстытутамі як дзяржаву і вясковую гаспадарку, так і пэўныя віды сацыятальных адносін, у прыватнасці, канкурэнцыю, сяброўства, суседства [23, с. 215, 232]. Тым самым надзвычай пашырае колькасць сацыяльных інстытутаў. Заўважым, што ў адпаведнасці з класіфікацыяй Я. К. Вайшвілы і М. С. Дзегцярова прадметаў пазнання як аб'ектаў мыслення сяброўства вызначаецца як абстрактны тэарэтычны аб'ект мыслення (гл. [24, с. 160]), г. зн., што падобныя ўтварэнні неадэкватна разглядаць як пэўную дзейнасць (гэта толькі пэўны аспект дзейнасці) і тым больш як сацыяльны інстытут.

Аналіз дэфініцый паняцця сацыяльнага інстытута, якія сустракаюцца ў савецкай і постсавецкай літаратуры па сацыялогіі, паказвае, што базаваўтваральнымі адзнакамі яго выступаюць адзнакі норм і стандартаў паводзін, сукупнасці сацыятальных устаноў і пэўнага роду дзейнасці (а пры вузкай трактоўцы яго — толькі першая з гэтых адзнак).

Сацыяльны інстытут мы вызначаем як такую форму арганізацыі грамадскага жыцця, пры якой наяўныя такія элементы, як сістэма сацыятальных устаноў, адпаведная дзейнасць, сукупнасць стандартаў і норм сацыяльных паводзін, якія ў гэтых установах выпрацоўваюцца і з дапамогай якіх рэгулюецца дзейнасць індывідаў і карэкцiруюцца ўзаемаадносіны, якія ўзнікаюць на аснове яе. Гэта азначае, што сацыяльны інстытут не зусім дакладна будзе вызначаць менавіта як сістэму сацыятальных устаноў, у якіх фарміруюцца і замацоўваюцца пэўныя нормы і стандарты паводзін. Сацыятальную арганізацыю мы вызначаем як сістэму ўстаноў з жорстка фіксаванымі функцыямі і паўнамоцтвамі яе членаў, у рамках якой ажыццяўляецца пэўная дзейнасць (напр., у рамках архіваў — архіўная справа, у рамках акадэмій навук — археаграфія), а сацыятальную дзейнасць — як сукупнасць спраў і дзеянняў, якія маюць значнасць для сацыяльных груп і агульнасцей).

Разглядаючы анталагічна, дзейнасць — спецыфічна чалавечы спосаб адносін да асяроддзя. У рамках сацыялогіі запатрабавана паняцце дзейнасці як сукупнасці сацыяльных дзеянняў сацыяльных груп (і індывідаў) па пераўтварэнні грамадскіх адносін у адпаведнасці з іх мэтамі і інтарэсамі. У рамках сацыялогіі дзейнасць належыць разглядаць у плос-

касці яе адносін да сацыятальнай арганізацыі і сацыяльнага інстытута. У сувязі з гэтым таксанамія пры зыходжанні з анталагічнага і сацыялагічнага паняццяў дзейнасці атрымліваецца розная. Анталагічна відамі дзейнасці выдзяляюцца, напрыклад, праца, гульня; сацыялагічна сферамі грамадскай дзейнасці належыць выдзяляць, напрыклад, архіўную справу, археаграфію, хірургію. У адпаведнасці з такім падыходам да навуковай дзейнасці адносяцца справы і дзеянні, якія анталагічна характарызуюцца галоўным чынам як даследаванне, эксперымент, навучанне. А да археаграфіі адносяцца такія справы і дзеянні, якія характарызуюцца як палявая праца, эдыцыйная праца, распрацоўка методыкі.

У адпаведнасці з патлумачаным вышэй адрозненнем паняццяў дзейнасці належыць выдзяляць (сацыясофскі і сацыялагічна) у грамадстве не розныя тыпы і віды дзейнасці, а рознага роду грамадскую (сацыятальную) дзейнасць, якая ўваходзіць у склад сацыяльных інстытутаў і сацыятальных арганізацый або канстытуіруецца як адносна самастойная сфера яе. Паняцці тыпу і віду грамадскай дзейнасці неадэкватна ўжываць пры тлумачэнні сацыялагічнага статуса розных грамадскіх утварэнняў. Пры ўстанаўленні апошняга на аснове дзейнаснага падыходу для ўлічвання тых праяў грамадскага жыцця, якія не ахопліваюцца ўключэннем іх у склад сацыяльных арганізацый і сацыяльных інстытутаў, мэтазгодна выдзяляць іншую сацыялагічную адзінку — сферу (але не тып і не від) грамадскай дзейнасці. Фінансы, гаспадарку, архівы, царкву адэкватна вызначаць сацыяльнымі інстытутамі і арганізацыямі, аднак не тыпамі і відамі грамадскай дзейнасці. Адносна самастойнымі сферамі грамадскай дзейнасці прымальна вылучаць, у прыватнасці, архіўную справу (дзейнасць па камплектаванні, уліку, захаванні і выкарыстанні архіўных дакументаў) і археаграфію (дзейнасць па пошуку, апісанні, падрыхтоўцы па правілах да друку пісьмовых гістарычных матэрыялаў).

Такім чынам, належыць адрозніваць паняцце навукі як сферы па вытворчасці верагодных агульназначных ведаў, якое мае адзнакамі — быць фактарам вытворчасці, складаць сістэму ўстаноў, ўтвараць навуковае суграмадства, складаць сукупнасць ведаў і г. д.; паняцце (сацыяльнага) інстытута навукі, якое ствараецца праз адзнакі — утвараць сукупнасць норм і стэрэатыпаў паводзін, ажыццяўляць пэўную дзейнасць, складаць сукупнасць устаноў, і паняцце навуковай (даследчай, пазнавальнай) дзейнасці як сістэмы дзеянняў, накіраваных на атрыманне верагодных, агульназначных ведаў. Навуковую дзейнасць, разглядаючы праксеалагічна, прымальна трактаваць як сукупнасць спраў, запатрабаваных у грамадскіх установах; разглядаючы навуказнаўча — як дзейнасць, якая ажыццяўляецца праз розныя лагічныя і моўныя формы.



У навуковым і даведачным выданні В. Л. Абушэнка і Н. Л. Кацук даюць логіка-тэрміналагічна і метадалагічна недасканалую дэфініцыю (якую прывядзём на мове арыгінала) паняцця навуковай дысцыпліны як сукупнасці «…процессов и результатов организации, структурации, институциогнализации теоретических знаниевых практик как предустанавливающих нормированный, санкционированный и легитимный порядок мышления и вытекающих из этого порядка действий (деятельности) в конкретных предметно-проблемных областях (отраслях) познания» [25, с. 334], на што паказваюць тэрміны «тэарэтычныя практыкі», «галіны пазнання». Прынята выдзяляць галіны («отрасли») навукі і тыпы пазнання, але не «отрасли познания». Тэрмін «тэарэтычныя практыкі» супярэчлівы, паколькі паняцці тэорыі і практыкі — супрацьлеглыя паняцці. Выраз «знаниевые практики» — не зусім удалы. Калі ўжываць больш адэкватны тэрмін — «пазнавальныя практыкі», то апошні будзе супярэчлівы, улічваючы, што пазнанне і практыку прынята вызначаць як розныя тыпы дзейнасці.

В. Л. Абушэнка і Н. Л. Кацук тлумачаць, што: «У філасофіі і сацыялогіі навукі склалася тэндэнцыя абмяжоўваць паняцце дысцыплінарнасці (дысцыпліны) толькі сукупнасцю навуковых спосабаў пазнання і разглядаць паасобныя навукі як самастойныя дысцыпліны» [25, с. 334]. Але палажэнне пра разгляд і характарыстыку ўжо існуючай навукі як навуковай дысцыпліны метадалагічна неадэкватнае і лагічна супярэчлівае, улічваючы, што менавіта выдзяленне навуковых дысцыплін дазваляе канстытуіраваць паасобныя навукі (г. зн. сістэмы навуковых дысцыплін). Афармленне пэўнай галіны пазнання ў навуковую дысцыпліну адбываецца пры вылучэнні для яе спецыфічных метадаў і прадметных межаў даследавання.

Мы ўжо выкладалі сцісла наш пункт гледжання на суадносіны паняццяў навукі, навуковай дысцыпліны і практыкі (гл. [26, с. 16—17]). Дададзім да гэтага яшчэ некалькі палажэнняў. Археаграфія як навуковая дысцыпліна, у межах якой абагульняецца вопыт дзейнасці па пошуку, апісанні і навукова абгрунтаванай падрыхтоўцы да публікацыі дакументаў і матэрыялаў, распрацоўваюцца прынцыпы, метады, правілы, канцэпцыі такой дзейнасці, з'яўляецца састаўной часткай сістэмы гістарычных дысцыплін. Калі зыходзіць з паняцця навуковай дысцыпліны як пэўнай галіны навуковай дзейнасці (не пазнання), для якой акрэслены прадметныя межы і якой уласціва сукупнасць метадаў даследавання, адносна якой ствараецца сістэма ведаў, якія вывучаюцца і выкладаюцца, то ў склад навуковай дысцыпліны, у прыватнасці, археаграфіі (публікацыязнаўства), хірургіі, вінаградарства, недапушчальна ўключаць адпаведнага роду практыку. Увогуле ў адносінах да пэўнай галіны пазнання, якая афармілася (або не афармілася) як навуковая дысцыпліна, вылучаюцца эмпірычны і

тэарэтычны ўзроўні даследавання, аднак не практычны ўзровень яго, не практыка, якую аптымальна вызначаць як адзін са спосабаў дзейнасці.

Заўважым, што калі зыходзіць з трактоўкі пазнання і практыкі як спосабаў дзейнасці, то характарыстыку навукі, археаграфіі, архіўнай справы і г. д. як практыкі нельга лічыць дакладнай. Такая характарыстыка запазычваецца ў навуказнаўства і ў тэарэтычныя раздзелы спецыяльных навуковых дысцыплін з філасофіі, прычым тых яе галін, якія не аформіліся належным чынам ў навуковыя дысцыпліны. Разгляд археаграфіі як сферы грамадскай дзейнасці на аснове дзейнаснага падыходу прымушае характарызаваць яе як пэўнага роду практыку, пры пэўным атаясамліванні паняццяў практыкі і дзейнасці.

Апошні час постсавецкія тэарэтыкі археаграфіі, у першую чаргу расійскія, значную ўвагу ўдзяляюць разгляду археаграфіі як феномена культуры. Выдзелім у гэтым плане працы расійскіх вучоных І. І. Глебавай, Я. М. Дабрушкіна, Г. І. Каралёва і Б. Г. Літвака [27; 28; 29; 30]. Сярод айчынных археографаў пытанне пра археаграфію як сацыякультурны феномен закранае М. Ф. Шумейка (гл. [31]). Разгляд археаграфіі як сацыякультурнага феномена прадугледжвае, акрамя эксплікацыі паняцця археаграфіі, ужыванне сацыялагічнага і культуразнаўчага падыходаў да аналізу вывучаемых з'яў.

І. І. Глебава пры разглядзе археаграфіі як кампанента культуры грамадства канстатуе і падрабязна разглядае розныя трактоўкі прадмета і паняцця археаграфіі, але не акрэслівае ўласны пункт гледжання на іх. Сцвярджаючы, што ў сацыякультурным аспекце археаграфія — гэта «…адзін з каналаў узаемадзеяння гістарычнай навукі і грамадства, пранікнення грамадскіх уплываў на прафесійную карпарацыю гісторыкаў, а таксама шляху фарміравання грамадскай гістарычнай свядомасці» [27, с. 67], яна вызначае грамадскі статус археаграфіі як «адносна самастойны», характарызуючы археаграфію як «з'яву ў сферы гуманітарных ведаў і ў грамадстве ў цэлым», як «адзін са сродкаў адбору, перадачы і захавання гістарычнай памяці грамадства», а таксама як «самастойную складаючую грамадскай культуры, сацыяльнага жыцця» [32, с. 104; 27, с. 65]. Ацэнка археаграфіі як самакаштоўнага элемента культуры грамадства, безумоўна прымальная. Разам з тым характарыстыка археаграфіі як адносна самастойнага элемента грамадскага жыцця патрабуе раскрыцця сацыялагічных паняццяў формы і элементаграмадскага жыцця.

І. І. Глебава, разглядаючы ўклад Я. М. Дабрушкіна ў канцэпцыю спецыфічнасці археаграфіі і робячы слушныя заўвагі па яго працы «Асновы археаграфіі» [33], лічыць, што дадзеная праца не ўнесла прынцыпова новых ідэй і поглядаў на, як яна адзначае, «сутнасць археаграфіі». Яна лічыць, што палажэнні гэтай працы «…не маюць прынцыповых адрозненняў ад выказаных у больш ранні перыяд поглядаў» [27, с. 63]. На нашу думку, канцэптуальнае палажэнне, якое абгрунтоўваў Дабрушкін, што археаграфічная публікацыя дакумента — гэта публікацыя дакумента ў якасці гістарычнай крыніцы, з'явілася новым у тэорыі археаграфіі і паглыбіла ўяўленні пра «сутнасць археаграфіі».



І. І. Глебавай падкрэсліваецца «шырокае сацыяльнае, дзяржаўнае, палітычнае значэнне публікацыі гістарычных крыніц» [32, с. 104; 27, с. 67]. Аднак значнасць для дзяржавы (г. зн. вярхоўнай улады, якая прадстаўлена органамі ўлады і кіравання) і палітыкі (г. зн. сферы грамадскага жыцця, датычнай барацьбы за ўладу і яе захаванне), юрысдыкцыі маюць публікацыі заканадаўчых і нарматыўных актаў, але не археаграфічныя публікацыі. На наш погляд, ёю яўна перабольшваецца роля археаграфіі ў палітычным жыцці грамадства.

Не адмаўляючы таго, што ў пэўныя моманты развіцця дзяржаўных утварэнняў гісторыкі абгрунтоўваюць дзяржаўна-палітычную важнасць апублікавання пэўных гістарычных матэрыялаў (класічным прыкладам для беларускай археаграфіі з'яўляецца дзейнасць яе заснавальніка М. В. Доўнар-Запольскага ў сярэдзіне 1920-х гг. па закліку дзяржаўных устаноў БССР па хутчэйшым апублікаванні матэрыялаў Метрыкі ВКЛ (гл. [34]), лічым, што больш адэкватна разважаць пра дзяржаўна-культурную значнасць археаграфічных публікацый.

На наш погляд, пры разглядзе археаграфіі як сацыякультурнага феномена, недастаткова трактаваць яе як канал узаемадзеяння гістарычнай навукі і грамадства. Належыць вызначыць сацыялагічны і культуралагічны статусы яе. Апошняе цесна звязана з культуралагічным разглядам архіва і архіўнай справы як сацыякультурных феноменаў, з выдзяленнем наяўных ў архіве і архіўнай справе форм культуры, з суаднясеннем і размеркаваннем элементаў архіўнай справы і археаграфіі. Сацыялагічнае вызначэнне археаграфіі сферай грамадскай дзейнасці, адносна самастойнай і тым самым незалежнай ад архіваў як сацыятальнай арганізацыі і архіўнай справы як іншай сферы яе, не выключае таго, што пэўныя элементы археаграфічнай працы супадаюць з элементамі дзейнасці, наяўнай у архівах і пры архіўнай справе. Паняцці архіўнай справы і археаграфіі як сфер грамадскай дзейнасці перакрыжоўваюцца па змесце, галоўным чынам па адзнацы апісання, камеральнай апрацоўцы пісьмовых матэрыялаў (гістарычных дакументаў).

Расійскі культуролаг Ю. У. Раждзественскі займае пэўны пункт гледжання на культуралагічны статус архіваў: «Калектыўная культура мае славеснае ўвасабленне. Гэта славеснае ўвасабленне арганізацыі з'яўляецца

архівам. Архіў — гэта дакументы, якія ўяўляюць сабой «здзейсненыя» справы, г. зн. тыя дакументы, у якіх засведчана, што мяркуемыя дзеянні поўнасцю здзейснены… Архіў уяўляе сабой суму вопыту арганізацыі: пазітыўнага і негатыўнага. На падставе гэтага вопыту арганізацыя можа зрабіць высновы пра ўласны вопыт і будаваць планы на будучыню» [35, с. 223—224], адносячы архіў культуралагічна не да матэрыяльнай або да духоўнай культуры, а да культуры ў арганізацыях, да калектыўнай культуры; а сацыялагічна — не да сацыяльнага інстытута, а да арганізацыі. Тым самым для Ю. У. Раждзественскага архіў як сацыякультурны феномен — гэта такая форма назапашвання сацыяльнага вопыту людзей як дакументы (што недакладна; дакументы, як і справы, — гэта форма назапашвання вопыту, уласцівая справаводству).

Не аспрэчваючы тэзіс пра архіў як грамадскае ўтварэнне, якое адносіцца да калектыўнай культуры, звяртаем увагу на тое, што ў архіве выпрацоўваюцца формы культуры, якія прымальна абгрунтоўваць як формы, якія адносяцца і да матэрыяльнай, і да духоўнай культуры. Сапраўды, архіўная справа выкарыстоўвае і дае вынікам такія формы культуры, як вопісы архіўных дакументаў, каталогі архіўных фондаў, дакументаваная архіўная інфармацыя. Невыпадкова ў рамках тэарэтычнай культуралогіі лічыцца, што: «Спалучэнне трох форм культуры адносіцца да любых арганізацый: адукацыйных устаноў, культурных інстытутаў, інфармацыйных агенцтваў, банкаў, вытворчых і гандлёвых арганізацый розных форм уласнасці і да т. п.» [35, с. 231—232].

Займаючыся культуралагічным разглядам архіваў, архіўнай справы і археаграфіі, мы лічым карысным прапанаваць унесці пэўныя карэкціва ў тэрміналогію тэарэтычнага культуразнаўства. У рамках культуралогіі ўсемагчымыя грамадскія з'явы разглядаюцца як разрады і з'явы культуры — матэрыяльнай, духоўнай, фізічнай.

Аднясенне розных з'яў культуры да пэўных сацыяльных утварэнняў ажыццяўляецца Ю. У. Раждзественскім у адпаведнасці з базісным падзелам культуры на тры формы (фізічную, духоўную і матэрыяльную культуру) і тры віды (уласную, калектыўную і грамадскую культуру) [35, с. 17, 19] (Ю. У. Раждзественскі вылучае асноўныя разрады («катэгорыі») асэнсавання матэрыяльнай, фізічнай і духоўнай культуры (гл. [35, с. 141, 58, 82, 84]). Пры гэтым адрознівае з'явы і факты культуры. Ён указвае: «…факт культуры — не любы факт, які ўяўляе або правіла, або прэцэдэнт… Паколькі факты культуры ёсць правілы і прэцэдэнты, яны унікальныя». Факты культуры праходзяць пэўны адбор, а «пасля адбору ажыццяўляецца сістэматызацыя рэчаў і тэкстаў для захавання (у архіве, бібліятэцы, музеі)» [35, с. 11—13]. Паняцце фактаў культуры ў расійскага культуролага блізкае да паняцця гістарычнай крыніцы (і нават ў пэўнай ступені змешваецца з ім).



Тое, што пэўная сфера грамадскай дзейнасці (а архіўную справу і археаграфію мы вызначаем па выніках сацыялагічнага аналізу менавіта як сферы грамадскай дзейнасці), дарэчы, як і пэўны сацыяльны інстытут, характарызуецца як праява пераважна (падкрэсліваем — пераважна, не поўнасцю) калектыўнай культуры не перашкаджае таму, што ў ёй выкарыстоўваецца, і вынікам яе маюцца пэўныя формы назапашання сацыятальнага вопыту людзей. Акрамя таго, на наш погляд, у межах тэарэтычнай культуралогіі матэрыяльную, духоўную і фізічную культуру аптымальней характарызаваць не як формы, а як тыпы культуры, улічваючы тое, што як «формы культуры» ў культуралогіі фіксуюцца і формы назапашання сацыятальнага вопыту людзей, паняцце якіх аптымальней абазначаць як «з'явы культуры». Формы культуры — гэта, напрыклад, звычай, архіўны фонд (але не архівы), мова, гульня. А канкрэтныя праявы такіх форм (напр., звычаі абарыгенаў Аўстраліі да еўрапейскай каланізацыі, фандзіраванне архіўных дакументаў у НГАБ, беларуская мова, футбол Італіі) аптымальна абазначаць як з'явы культуры, а не формы яе.

Заўважым, што пры шырокай трактоўцы паняцця сацыяльнага інстытута, які абгрунтоўвае шэраг сацыёлагаў, у прыватнасці А. Г. Эфендыеў, архівы належыць характарызаваць як сацыяльны інстытут і тым самым разглядаць як сістэму сацыятальных устаноў, узятых разам з іх супрацоўнікамі, у якой фарміруюцца пэўныя ўзаемаадносіны і адбываюцца пэўныя ўзаемадзеянні, якія накіраваны на захаванне перш за ўсё архіўных дакументаў, у якіх выпрацоўваецца пры ажыццяўленні такіх узаемадзеянняў сукупнасць стэрэатыпаў паводзін.

Улічваючы тое, што ў рамках сацыялогіі сацыяльны інстытут вызначаецца і абгрунтоўваецца як форма арганізацыі грамадства, г. зн. як спосаб (механізм) упарадкавання сацыяльных адносін, архіў неадэкватна вызначаць і абгрунтоўваць як сацыяльны інстытут (хаця прымальна, калі карыстацца тэрміналогіяй А. Г. Эфендыева, характарызаваць гэта як «інстытуцыю»). Вызначаючы сацыялагічна, архіў — гэта арганізацыя хутчэй абсалютнай, чым адноснай складанасці, пры тым, што арганізацыя трактуецца як «…штучнае аб'яднанне інстытуцыянальнага характару, якое займае пэўнае месца ў грамадстве і прызначана для выканання канкрэтнай функцыі… Арганізацыі адносяцца да ліку звышскладаных аб'ектаў… іх складанасць можа быць абсалютнай (якая выцякае са складанасці самога аб'екта) і адноснай (суб'ектыўнай)» [11, с. 117—118]. Разам з тым сацыялагічнае канстытуіраванне архіва як сацыятальнай арганізацыі не адмаўляе сацыялагічнага вылучэння архіўнай справы сферай грамадскай дзейнасці.

Археаграфію і пры пашыранай трактоўцы сацыяльнага інстытута недапушчальна вызначаць як сацыяльны інстытут; археографы не

ўтвараюць самастойную сетку спецыялізаваных ўстаноў. Як вядома, паасобныя спецыяльныя ўстановы, у якіх займаюцца археаграфіяй (археаграфічныя камісіі і археаграфічныя цэнтры), як правіла, уваходзяць ў склад НДІ і архіўных ўстаноў.

Архіўная справа (а архіўную справу мы трактуем у адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Пра нацыянальны архіўны фонд і архівы ў Рэспубліцы Беларусь» як «дзейнасць па камплектаванні архіваў, арганізацыі захавання, уліку і выкарыстанні архіўных дакументаў» [36, с. 2]) як сфера грамадскай дзейнасці ўключае некаторыя элементы, якія ўключаюцца і ў археаграфію як сферу грамадскай дзейнасці (публікацыя дакументаў і матэрыялаў у якасці гістарычных крыніц, апісанне калекцый дакументаў і матэрыялаў). Калі разважаць тэрміналагічна строга, то ва ўстановах архіва як сацыятальнай арганізацыі займаюцца не археаграфіяй (г. зн. пошукам, апісаннем і публікацыяй дакументаў і матэрыялаў разам з распрацоўкай археаграфіі як навуковай дысцыпліны), а выкарыстаннем архіўных дакументаў, што не толькі адпавядае пабудовам тэорыі архівазнаўства, а і зафіксавана ў заканадаўчых і нарматыўных актах, датычных органаў і ўстаноў Дзяржаўнай архіўнай службы РБ і крыніц і дакументаў Нацыянальнага архіўнага фонду РБ. Адным з накірункаў выкарыстання архіўных дакументаў з'яўляецца публікацыя іх у навуковых, навукова-папулярных і прапагандысцкіх мэтах.

Такім чынам, публікацыя архіўных дакументаў, ажыццяўляемая архіўнымі ўстановамі і разглядаемая з пазіцый выкарыстоўваемай у архіўнай справе тэрміналогіі, — гэта частка архіўнай справы. А дзейнасць па пошуку і падрыхтоўцы да публікацыі археаграфічных матэрыялаў, разглядаемая з пазіцый выкарыстоўваемай ў тэорыі археаграфіі тэрміналогіі — гэта археаграфія. З пункту гледжання сацыялогіі як архіўную справу, так і археаграфію прымальна характарызаваць сферамі грамадскай (сацыятальнай) дзейнасці.

### Літаратура


1. Бернал Дж. Наука в истории общества. М., 1956.
2. Лешкевич Т. Г. Философия науки: традиции и новации. М., 2001.
3. Философский словарь. М., 1980.
4. Степин В. С. Наука // Новейший философский словарь. Мн., 2003.
5. Степин В. С. Наука // Социология. Энциклопедия. Мн., 2003.
6. Большой толковый социологический словарь. Том 1 (А—О). М., 1999.
7. Крапивенский С. Э. Социальная философия. М., 2004.
8. Словарь философских терминов / Науч. ред. В. Г. Кузнецова. М., 2004.
9. Лукашевич В. К. Основы методологии научных исследований. Мн., 2001.
10. Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. 1996. № 34.
11. Социальная философия и социология. Учеб. пособие. М., 2002.





12. Несцяровіч Ю. У. Тэарэтычныя праблемы метадалогіі гісторыі, гістарыяграфіі, навуказнаўства і этналогіі. Мн., 2004.
13. Керимов Т. Х. Социальный институт // Современный философский словарь / Под общ. ред. В. Е. Кемерова. М., 2004.
14. Философия и методология науки / Под ред. В. И. Купцова. М., 1996.
15. Лоусон Т., Гэррод Дж. Социология. А—Я. М., 2000.
16. Комаров М. С. Социология. Учеб. пособие. М., 2003.
17. Коростелева Е. А. Социальный институт // Новейший философский словарь. Мн., 1998.
18. Большой толковый социологический словарь. Том 2 (П—Я). М., 1999.
19. Щепаньский Ян. Элементарные понятия социологии. М., 1969.
20. Социология. Учеб. пособие для студ. вузов / Под общ. ред. А. Н. Елсукова. Мн., 2003.
21. Философский энциклопедический словарь. М., 2004.
22. Кравченко А. И. Основы социологии. М., 2002.
23. Общая социология. Учебное пособие / Под ред. А. Г. Эфендиева. М., 2004.
24. Войшвилло Е. К., Дегтярев М. Г. Логика. М., 2000.
25. Абушенко В. Л., Кацук Н. Л. Дисциплина, дисциплинарность // Новейший философский словарь. М., 2004.
26. Несцяровіч Ю. У. Тэрміналогія і дэфініцыя паняцця археаграфіі // Беларускі археаграфічны штогоднік. Вып. 5. Мн., 2004.
27. Глебова И. И. Археография как компонент общественной культуры // БАШ. Вып. 3. Мн., 2002.
28. Добрушкин Е. М. История отечественной археографии: Современные проблемы и задачи изучения. М., 1989.
29. Королев Г. И. Иностранные интерпретации статуса теории и методики издания исторических источников // Археографический ежегодник за 1989 год. М., 1990.
30. Литвак Б. Г. Археография и историческое исследование // Археографический ежегодник за 1992 год. М., 1994.
31. Шумейко М. Ф. О роли и месте археографии в ряду исторических дисциплин источниковедческого цикла // Крыніцазнаўства і спецыяльныя гістарычныя дысцыпліны. Мн., 2002.
32. Глебова И. И. Археография в историко-культурном аспекте // Вестник архивиста. 2004. № 3—4.
33. Добрушкин Е. М. Основы археографии. М., 1992.
34. Доўнар-Запольскі М. В. Літоўская Метрыка // Савецкая Беларусь. 1925 г. 24 жніўня.
35. Рождественский Ю. В. Введение в культурологию М., 2001.
36. Закон Республики Беларусь «О национальном архивном фонде и архивах в Республике Беларусь» (В редакции от 6 января 1999 г.) // Ведамасці Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. 1999. № 5—6.

# АРХІВАЗНАЎСТВА

***В. В. Федосов***

## О СОДЕРЖАНИИ ТЕОРИИ АРХИВОВЕДЕНИЯ И МЕСТЕ В НЕЙ ТЕОРЕТИЧЕСКИХ ОСНОВ ЭКОНОМИКИ АРХИВНОГО ДЕЛА

В последние годы в литературе по архивоведению время от времени появляются статьи, в которых ставятся под сомнение целесообразность разработки архивоведения как науки, возможность отнесения архивоведения к науке, провозглашается кризис архивоведения, указывается на необходимость приведения основ архивоведения в соответствие с новыми научными парадигмами, констатируется отсутствие исследований, которые бы развивали теорию и методику архивоведения. Рассмотрим некоторые подобные точки зрения.

Российский автор Т. И. Хорхордина, соглашаясь с тезисом о кризисе в традиционном архивоведении (которое, как она сообщает, «в последнее время многие отечественные (т. е. российские. — *В. Ф.*) архивоведы с достаточным основанием называют «технологическим») и считая, что необходимо принять конкретные шаги по его «лечению», особенно в части, относящейся к учебно-научному компоненту общей теории архивов как феномена общечеловеческой культуры», утверждает, что «лечение» прежде всего упирается «…в необходимость научного осмысления причин и следствий общего кризиса, который в настоящее время переживает господствующая до недавнего времени историко-философская парадигма, в рамках которой практически отвергается культурно-ценностный подход к архивам как фиксированному «самоценному» результату деятельности живой, т. е. «очеловеченной», природы»[1].

Не вполне ясно, почему архивоведение должно подстраиваться под методологические новации и катаклизмы, захлестнувшие историческую науку. Почему архивоведение, будучи комплексной дисциплиной, не включаемой в систему дисциплин исторической науки, должно перестраивать свою теорию в соответствии с новой парадигмой исторического знания? Оно должно развивать теорию архивного дела в соответствии, прежде всего, с новыми веяниями в информатике, а не с преобразованиями теоретико-методологических основ исторических знаний. Хотя, разумеется, эти преобразования и следует учитывать в архивном деле — в той степени, в которой они могут быть востребованы.

Т. И. Хорхордина характеризует выражение «технологическое архивоведение» лексическим, лукавым эвфемизмом. На наш взгляд, более уместно характеризовать его как деформированный плеоназм, поскольку архивоведение по характеру разрабатываемой в нем проблематики — это преимущественно область технического познания процессов накопления, учета, хранения, использования документов. Кроме того, рассуждения об общем кризисе довольно неопределенны, требуют более детального анализа.



Украинские ученые И. Б. Матяш и С. Г. Кулешов в высшей степени содержательной статье сообщают, что в конце 1990-х гг. в украинской исторической науке сложились представления об архивоведении как о «комплексной системе знаний, которая изучает теорию, историю, практику архивного дела, его правовые и экономические основы»[2], со ссылкой на терминологический словарь[3]. Не вполне понятно здесь указание на историческую науку. Ведь архивоведение не является исторической наукой, несмотря на то что в архивоведении востребованы и широко используются исторические знания и что архивоведение в значительной степени развивают ученые, которые являются по полученной научной специальности историками-архивистами.

Архивоведение «преподносилось» в качестве области исторической науки в советское время. Украинский педагоговед Т. В. Гуртовенко, обращая на это внимание, отмечает, что «архивоведение как наука большей частью подменялось источниковедением… сверхинтеграция с исторической наукой обошлась архивоведению отсутствием статуса в научном мире, а также низким статусом профессии архивиста в мире»[4].

В рамках архивоведения производятся не исторические знания. В них производятся историко-архивные знания, которые составляют систему не исторических, а архиводческих знаний. Среди разделов исторической науки отсутствует такой раздел, как история архивного дела. Это междисциплинарная область исследований. Эту область исследований принято включать в архивоведение в качестве ее раздела. Хотя имеются и другие подобные области исследований (напр., политическая история), которые относят к смежным областям именно исторической науки.

Если относить архивоведение к исторической науке, то тогда невозможно рассматривать и обосновывать в качестве раздела архивоведения экономику архивного дела. В этом случае она будет междисциплинарной областью исследований. О том, что экономику архивного дела рассматривают как раздел архивоведения, указывают приводимые нами здесь определения архивоведения. Обоснованию экономики архивного дела в качестве раздела архивоведения посвящено ряд статей[5].

В белорусской науке получило закрепление почти идентичное с украинским определение и понимание архивоведения: «Архивоведение — комплексная дисциплина, которая изучает историю, организацию, теорию и практику работы архивов в области описания, использования, обеспече-

не. Менавіта ў гэты перыяд вайной 1812 г. і рабаўніцтвамі 1814—1815 гг. былі ненесены непапраўныя страты яго каштоўнейшай часткі — старажытным пергаментным дакументам.

Нягледзячы на тое што ў 1814 г. разам з усёй Нясвіжскай ардынацыяй архіў набыў новага ўладальніка — прадстаўніка клецкай галіны роду кн. Антонія Радзівіла, спакойнага ўладкавання яго не адбылося. Права на архіў з ім падзяляла прадстаўляемая апекунамі кн. Стэфанія Радзівіл, якой мусілі перадацца ўсе аладыяльныя маёнткі яе бацькі кн. Дамініка. Для вырашэння маёмасных спрэчак Радзівілаў загадам Аляксандра I была створана камісія, а пазней і Пракураторыя Радзівілаўскай масы. У непасрэднае і неабмежаванае распараджэнне гэтых органаў і перайшоў Нясвіжскі архіў Радзівілаў.

З 1817 г. у статусе Генеральнага архіва Радзівілаўскай масы з абноўленым штатам служачых архіў узнавіў сваю працу. Змест яе ў параўнанні з перыядам кн. Дамініка не змяніўся: прадастаўленне дакументальных пацвярджэнняў і ўсемагчымай інфармацыі ў маёмасных справах. Аднак значна павялічыўся аб'ём выдаваемых з архіва дакументаў. Права доступу да архіва мела вялікая колькасць асоб і ўстаноў. Галоўным чынам яны запатрабоўваліся Пракураторыяй, але разам з ёй апекай кн. Стэфаніі Радзівіл, нясвіжскім і альцкім ардынатам кн. Антоніем Радзівілам, судамі розных інстанцый і прыватнымі асобамі, у тым ліку навукоўцамі. Кантроль за выдачай і зваротам дакументаў не здзяйсняўся на належным узроўні. Акрамя таго, амаль двухгадовая перасылка дакументаў з Нясвіжа да Вільні ў Пракураторыю не маглі садзейнічаць захаванню дакументаў і прыводзілі да дадатковых пашкоджанняў і страт.

Так распачынаўся для Нясвіжскага архіва кн. Радзівілаў дваццацігадовы перыяд яго знаходжання ў складзе Генеральнага архіва Радзівілаўскай масы ў Вільні. Падчас яго архіў фактычна не меў адзінага клапатлівага гаспадара ні ў асобе яго ўладальнікаў, ні ў асобе архіварыусаў (за адзінкавымі выключэннямі). Гэта стала прычынай «вымывання» дакументаў з архіва, многія з якіх беззваротна зніклі менавіта тады.

[1] Леонтьева Т. Е. Несвижский архив князей Радзивиллов (Обзор документальных материалов) // Научно-информационный бюллетень Архивного управления при Совете Министров БССР. Мн., 1961. № 2, С. 12—25; Яна ж. Документальные материалы фонда князей Радзивиллов как исторический источник // Вопросы архивоведения и источниковедения в БССР. Мн., 1971. С. 306—319.

[2] Грицкевич А. П. Документальные материалы архивов БССР по истории частновладельческих городов // Вопросы архивоведения и источниковедения в БССР. Мн., 1971. С. 334—341.

[3] Шумейко М. Ф. Собрать рассеянное. О реституции белорусских архивов в прошлом и настоящем. Мн., 1997. С. 9.



[4] Ульяновський В. «Русское дело в Северо-Западном крае» через призму історії магнатських архівів Сапєг та Радзивиллів у XIX ст. Київ, 1998 (далей — Ульяновський В. «Русское дело в Северо-Западном крае»).

[5] Biblioteka Narodowa w Warszawie, Nr. ark. 9067 pt. Tuhan-Taurogiński B. Geneza powstania Archiwum Radziwiłłów oraz wartość zbiorów dla nauki polskiej. Warszawa, 1955; у Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (далей — НАРБ) захоўваецца нарыс, прысвечаны гісторыі Нясвіжскага архіва з XVI ст. па 1908 г., складзены Б.Туган-Таўрагіньскім у Варшаве ў 1935 г. Ф. 4. Воп. 27. Спр. 364.

[6] Barwiński Eugeniusz, Archiwum ks. Radziwiłłów w Nieświżu. Rys jego historii i sprawozdanie z poszukiwań // Archiwum Komisji Historycznej PAU. Seria 1. T. XI, 1909—1911.

[7] Radziszewski F. Wiadomość historyko-statystyczna o znakomitszych bibliotekach i archiwach publicznych i prywatnych tak niegdyś byłych jako i obiecnie istniejących. Kraków, 1875 (далей — Radziszewski F. Wiadomość); Zielińska T. Archiwa Radziwiłłów i ich tworzy // Archejon, 1978, T. 66, S. 105—129.

[8] НГАБ. Ф. 694. Воп. 1. Спр. 438. Л. 5. Спр. 411. Л. 17.

[9] Там жа. Спр. 411. Л. 20—23адв.

[10] Ф. Асіповіч займаў пасаду шамбеляна (?), карыстаўся гербам «Ляліва».

[11] НГАБ. Ф. 694. Воп. 1. Спр. 411. Арк. 17.

[12] Шумейко М. Ф. Собрать рассеянное. С. 9; НАРБ. Ф. 4. Воп. 27. Спр. 364. Л. 2.

[13] НГАБ. Ф. 694. Воп. 1. Спр. 411. Л. 21.

[14] Ульяновський В. «Русское дело в Северо-Западном крае». С. 10.

[15] НГАБ. Ф. 694. Воп. 1. Спр. 438. Л. 5.

[16] А. Ёдка знайшоў дакументальныя сведчанні на права валодання кн. Дамінікам шмат якімі невядомымі апошняму ўладаннямі. Князь высока цаніў паслугі архіварыуса: пры звальненні А. Ёдкі 01.08.1809 г. ён ўзнагародзіў яго сумай у 12 000 польскіх злотых: НГАБ. Ф. 694. Воп. 1. Спр. 411. Л. 21адв. Звальненне, відаць, было звязана з сыходам прызначыўшага А. Ёдку паўнамоцнага прадстаўніка князя Радзівіла Міхала Залескага і ўстанаўленнем новай «адміністрацыі Адамовіча». Гэта тэндэнцыя назіралася і пазней, падчас працы Радзівілаўскай камісіі і Пракураторыі Радзівілаўскай масы, калі пры змене пракуратара змяняўся звычайна і галоўны архіварыус.

[17] НГАБ. Ф. 694. Воп. 1. Спр. 411. Л. 21адв.

[18] Ю. Дмухоўскі знаходзіўся ў штаце архіва яшчэ на 04.07.1835 г., аб чым сведчаць даты капіравання ім дакументаў. НГАБ. Ф. 694. Воп. 4. Спр. 1383. Л. 30, 35—35адв., 52; звольнены ён быў хутчэй за ўсё пры завяршэнні працы камісіі і Пракураторыі.

[19] 24.08.1804 — 1809 гг. кіраванне паўнамоцных прадстаўнікоў кн. Дамініка Залескага і Брахоцкага; 1809—1810 гг. кіраванне пад назвай «адміністрацыі Адамовіча» пад кантролем Камінскага і Брахоцкага; 1810—1814 гг. кіраванне Камінскага, адказнага перад царскай казной.

[20] НГАБ. Ф. 694. Воп. 1. Спр. 430.

[21] Гл.: Грицкевич А. П. Документальные материалы архивов БССР по истории частновладельческих городов // Вопросы архивоведения и источнико-

ведения в БССР. Мн., 1971. С. 334.

[22] Ульяновськй В. «Русское дело в Северо-Западном крае». С. 7; НГАБ. Ф. 694. Воп. 1. Спр. 421.

[23] Там жа. Спр. 411. Л. 21адв.; Спр. 438. Л. 5адв.; літаральна гэта адзначаў і Ф. Радзішэўскі, які, верагодна, карыстаўся тымі ж крыніцамі: Radziszewski F. Wiadomość, S. 52.

[24] Козлов В.П. Колумбы российских древностей. М., 1981. С.73—74.

[25] Ульяновський В. «Русское дело в Северо-Западном крае». С. 7; Археографический сборник документов, относящихся к истории северо-западной Руси, издаваемый при управлении Виленского учебного округа. Т. 7: Собранный в Несвиже, изданный П. Гильтебрандтом и А. Миротворцевым. Вильна, 1870. Т. VII. С. V.

[26] Шлюбскі А. Матэрыялы да крыўскае гісторапісі: Доля кнігасховаў і архіваў // Спадчына, 1992. № 4. С. 19; Шумейко М. Ф. Собрать рассеянное. С. 9; Шумейко М. Ф., Козак К. И., Селеменев В. Д. Архивоведение Беларуси: Учеб. пособие для студ.ист.фак-ов. Ч. 1. История и организация архивного дела. Мн., 1998. С. 50, 113.

[27] НГАБ. Ф. 694. Воп. 1. Спр. 411. Л. 21адв.; Спр. 438. Л. 5адв.

[28] Каятан Квяткоўскі, шамбелян былога каралеўскага двара, працаваў бібліятэкарам у кн. Дамініка Радзівіла шэсць гадоў — з 1804 па 10.10.1810 г. Быў звольнены князем з узнагародай у 6000 польскіх злотых. К. Квяткоўскі трымаў у сябе 20 кніг і дакументаў (па яго ўласным сцверджанні, яны былі пакінуты яму на захаванне касірам у Заблудаўскім графстве Юзафам Расінскім). Нягледзячы на тое што 19.07.1819 г. ён перадаў іх паўнамоцнаму прадстаўніку Пракуратарыі Якубу Паплаўскаму (што пацвярджаў адпаведны рэверс), гэты факт спрычыніўся да абвінавачванняў К. Квяткоўскага ў беспадстаўным трыманні дакументаў Радзівілаў і да судовых прэтэнзій аб прысваенні ім княжацкіх кніг, дакументаў, старажытных манет і г. д. Абвінавачванні перыядычна распачыналіся судом камісіі пры кожным новым пракуратары масы. Аднак згодна выпіса дэкрэта Радзівілаўскай камісіі ад 11/23 студзеня 1837 г., суд прызнаў К. Квяткоўскага невінаватым: НГАБ. Ф. 694. Воп. 1. Спр. 439. Л. 13—14адв. Тым не менш многія даследчыкі адзначалі прысутнасць каштоўных кніг і дакументаў з нясвіжскіх бібліятэкі і архіва сярод збораў К. Квяткоўскага ў складзе калекцыі Т. Дзялыньскага ў Курніку (Польшча) (арыгінальныя дакументы 1530—1547 гг., рукапісы, Tomiciana): Галенчанка Г. Я. Архівы Радзівілаў // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1. Мн., 1994. С. 171; Radziszewski F. Wiadomość, S. 52.

[29] Гэта маёмасць ў аб'ёме прыблізна 1,3 млн. дзесяцін зямлі і 120 тыс. душ (былыя Слуцкае і Капыльскае княствы, мястэчкі Мір, Глыбокае, Смалявічы і інш., у розныя часы набытыя Радзівіламі ). У 1828 г. кн. Стэфанія Радзівіл была выдадзена замуж за графа Людзвіга Леана (Ільва Пятровіча) Вітгенштэйна, які і стаў уладальнікам такога багатага пасагу.

[30] Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Украіны ў Кіеве. Ф. 257. Воп. 1. Спр. 132. Л. 1—5адв., 6: цыт. па кн.: Ульяновськй В. «Русское дело в Северо-Западном крае». С. 8.



[31] Застаецца пытаннем: была гэта звычайная следчая камісія ці яна ўжо мела пэўную сувязь з разглядаемай Радзівілаўскай?

[32] Гл.: Піліпчік В. Поверниісь к Біларусї: Награбованне! // Пам'яткі Україні. 1994. № 1—2. С. 72.

[33] Ульяновський В. «Русское дело в Северо-Западном крае». С. 7.

[34] НГАБ. Ф. 694. Воп. 1. Спр. 411. Л. 22.

[35] Падрабязней аб ім гл.: Рыбчонак С., Свяжынскі У. Радавод Ходзькаў гербу Касцеша // Спадчына, 2001. № 3. С. 188—200; Гардзееў Ю. З гісторыі гарадзенскіх масонаў // Гістарычны альманах. Т. 5. Гародня. 2001. С. 78—104.

[36] Відаць гэта быў архіў, які ў верасні 1745 г. паўнамоцныя прадстаўнікі новага ўладара «нойбургскай спадчыны» кн. Геранiма Фларыяна Радзівіла камісар Крыштаф Сазін і Ян Слабоцкі атрымалі ў Кралаўцы (ранейшыя назвы — Königsberg, Królowiec, зараз — Калінінград, Расійская Федэрацыя). Частку ж архіва мусілі забіраць і з г. Манхайма: НГАБ. Ф. 694. Воп. 8. Спр. 45. Л. 5—7адв.

[37] Там жа. Воп. 1. Спр. 411. Л. 4—5адв.

[38] Там жа. Спр.412. Л. 12—13.

[39] У нясвіжскіх дамініканаў Л. Вайніловічам былі адшуканы і вернуты пераплеценыя ў кнігі манускрыпты і розная літаратура з замкавых архіва і бібліятэкі. Самымі каштоўнымі сярод іх былі рэестравыя кнігі Метрыкі Вялікага княства Літоўскага з прывілеямі на ўладанні і пасады часу да і пасля Люблінскай уніі 1596 г.: НГАБ. Ф. 694. Воп. 1. Спр. 412. Л. 12—13.

[40] Рамуальд Сымановіч (03.02.1793 — не раней 05.10.1873) прысвяціў архіву больш за 56 гадоў свайго жыцця (з 14.02.1817 па 05.10.1873 г.). Паходзіў з роду Сымановічаў герба «Побаг»: НГАБ. Ф. 694. Воп. 1. Спр. 417а; Малы гербоўнік навагрудзкай шляхты / Склад. С. А. Рыбчонак; маст. А. Леўчык. Мн., 1997. С. 109—110.

[41] НГАБ. Ф. 694. Воп. 1. Спр. 417а. Л. 15, 17 (арыгіналы); Спр. 438. Л. 12 (копіі a, b), 14.

[42] Там жа. Спр. 417а. Л. 6 (арыгінал), 12—12адв. (копія c), 14адв.; К 03.05.1829 г. Р. Сымановіч ужо працаваў памочнікам генеральнага архівіста Пракуратарыі Радзівілаўскай масы Мікалая Маліноўскага. За добрае выкананне службовых абавязкаў граф Л. П. Вітгенштэйн узнагародзіў яго 50 рублямі срэбрам: НГАБ. Ф. 694. Воп. 1. Спр. 438. Л. 12адв. (копія d).

[43] Там жа. Спр. 412. Л. 11—11адв.

[44] Там жа. Спр. 411. Л. 22—22адв.; Спр. 438. Л. 6.

[45] Там жа. Спр. 411. Л. 27, 59; Воп. 3. Спр. 269. Л. 104адв.

[46] Там жа. Воп. 1. Спр. 439. Л. 13.

[47] Т. Е. Лявонцьева памылкова падае дату перавозу архіва ў Вільню як 1816 г.: Леонтьева Т. Е. Документальные материалы фонда князей Радзивиллов как исторический источник // Вопросы архивоведения и источниковедения в БССР. Мн., 1971. С. 318; Ульяновський В. «Русское дело в Северо-Западном крае». С. 8.

# КРЫНІЦАЗНАЎСТВА. КАДЫКАЛОГІЯ

***Р. Б. Гагуа***

## ХРОНІКА КАНФЛІКТУ УЛАДЗІСЛАВА, КАРАЛЯ ПОЛЬШЧЫ, З КРЫЖАКАМІ Ў ГОД ХРЫСТОЎ 1410

«Хроніка канфлікту Уладзіслава, караля Польшчы, з крыжакамі ў год хрыстоў 1410» з'яўляецца грунтоўнай крыніцай для даследавання Грунвальдскай бітвы — цэнтральнай падзеі так званай «Вялікай вайны» Польшчы і ВКЛ з Тэўтонскім ордэнам 1409—1411 гг. Больш падрабязныя даныя для даследавання наяўныя толькі ў «Гісторыі Польшчы» Яна Длугаша.

Дакладная дата напісання «Хронікі канфлікту» не ўстаноўлена. У гістарычнай літаратуры існуе некалькі версій аб часе яе паходжання. Нямецкі даследчык Ф. Хунерт пасля параўнання яе тэксту з апісаннем Грунвальдскай бітвы Длугашам і лістамі, якія маюць адносіны да Канстанцкага сабора, палічыў, што хроніка з'явілася ў 1416 г.[1] Яго падтрымалі нямецкі даследчык К. Хевекер і польскі даследчык С. Куёт[2]. З іх меркаваннямі не пагадзіўся расійскі гісторык А. Барбашаў, які заўважыў, што паведамленні «Хронікі канфлікту» не заўсёды супадаюць са зместам лістоў Канстанцкага сабора, але цалкам падцвярджаюцца лістамі Ягайлы і яго саноўнікаў, напісанымі ў ліпені і жніўні 1410 г. Ён прыйшоў да высновы, што «Хроніка канфлікту» створана менавіта ў канцы 1410 г. Погляд Барбашава падтрымаў польскі гісторык А. Прахаска. Зыходзячы з таго, што апавяданне абрываецца на восеньскіх падзеях 1410 г., ён зрабіў выснову пра здарэнне падзей у ёй у канцы 1410 або ў пачатку 1411 г. Да аналагічных высноў прыйшлі нямецкія навукоўцы Штрэльке, Бялоўскі, Кара і польскія даследчыкі З. Цэліхоўскі, С. Кучынскі і інш.[3] Разам з тым Прахаска прапанаваў версію, паводле якой тэкст «Хронікі канфлікту», які знаходзіўся ў навуковым ужытку, быў «пазнейшай копіяй не з арыгінала, але, можа, ужо са скароту хронікі»[4].

Канчаткова гіпотэза пра існаванне поўнага спісу «Хронікі канфлікту», з якога быў зроблены яе скарот, аформілася ў 1911 г. З. Цэліхоўскі, знайшоўшы копію «Хронікі канфлікту» ў бібліятэцы ў Курніку, ажыццявіў трэцяе яе выданне (якое па сённяшні час захоўвае, на наш погляд, найбольш высокі навуковы ўзровень)[5]. Ва ўступным артыкуле гэтага выдання ён сцвярджае, што публікуемы манускрыпт з'яўляецца скаротам, выкананым нейкай духоўнай асобай. Па яго версіі, скарот быў прызначаны для карыстання ў якасці апорнага канспекта ўрачыстага звароту да вернікаў з нагоды гадаўшчыны Грунвальдскай бітвы. У абарону свайго погляду Цэліхоўскі ставіў наяўнасць на апошняй старонцы рукапісу плана гэтага казання[6].

Частка гісторыкаў прыняла версію А. Прахаскі і З. Цэліхоўскага пра першапачатковае існаванне так званай «абшырнай хронікі», скарот якой з'явіўся



недзе ў XVI ст.[7] Тым не менш факт наяўнасці поўнага спісу «Хронікі канфлікту» дагэтуль не даказаны і, больш таго, гэтая версія абапіраецца выключна на домыслы навукоўцаў. Па-першае, на сённяшні дзень не знойдзена ні аднаго «поўнага» спісу «Хронікі канфлікту», хаця «кароткіх» спісаў існуе некалькі[8]. Па-другое, у крыніцах не ўзгадваецца пра існаванне «абшырнай хронікі». Па-трэцяе, ніхто з польскіх храністаў XVI ст. пры апісанні «Вялікай вайны» не прыводзіць звесткі з «Хронікі канфлікту», хаця ўсе яны абапіраюцца на звесткі «Гісторыі Польшчы» Яна Длугаша. Напрошваецца пытанне: калі ім тэкст «абшырнай хронікі» не быў вядомы, адкуль ён стаў вядомы аўтару «кароткага» спісу, які зрабіў скарот таксама ў XVI ст.? Урэшце, навошта было рабіць скарот для казання вернікам на лацінскай мове, якая была вядома вельмі вузкаму колу людзей, а потым рабіць яшчэ і план казання, г. зн. скарот скароту? На наш погляд, «Хроніка канфлікту» створана верагодней за ўсё (як лічыў А. Прахаска) або ў канцы 1410 г., або ў студзені 1411 г. Аргументам на карысць такога погляду служыць тое, што ў тэксце крыніцы не ўзгадваецца пра падпісанне Toруньскага міру ў лютым 1411 г., якім скончылася вайна паміж Польшчай—ВКЛ і Тэўтонскім ордэнам.

Тэкст «Хронікі канфлікту» напісаны на лацінскай мове і з'яўляецца закончаным апавяданнем, даволі вялікім па аб'ёме, улічваючы час яго стварэння. Яе аўтар застаўся невядомы. Выстаўляюцца непадмацаваныя крыніцамі версіі, паводле якіх гэтая хроніка была складзена Збігневым з Олесьніцы альбо Мікалаем Тромбай[9].

«Хроніка канфлікту» з'яўляецца найбольш каштоўнай і верагоднай першакрыніцай для вывучэння гісторыі Грунвальдскай бітвы. Яна заслугоўвае больш даверу, чым іншыя летапісныя крыніцы таму, што была створана амаль адразу пасля бітвы чалавекам, які вельмі добра быў інфармаваны пра ваенныя падзеі таго часу. Сёння большасць даследчыкаў схіляецца менавіта да падобнай крыніцазнаўчай ацэнкі «Хронікі канфлікту»[10].

У апошні час І. Данка і А. Надольскі зрабілі новы пераклад «Хронікі канфлікту» на польскую мову, які быў апублікаваны ў 1983, 1985 і 1986 гг.[11] На рускай альбо беларускай мове «Хроніка канфлікту» дагэтуль не публікавалася.

Прапануемы ніжэй пераклад першакрыніцы на беларускую мову, зроблены аўтарам паводле тэксту выдання: Цэліхоўскі З. Cronica conflictus Wladislai regis Poloniae cum cruciferis anno Christi 1410. Poznań, 1911.

### Хроніка канфлікту Уладзіслава, караля Польшчы, з крыжакамі ў год хрыстоў 1410

Спачатку ў аўторак, у самы дзень Святога Іаана Хрысціцеля[12], найяснейшы пан Уладзіслаў, кароль Польшчы, правёў у горадзе Вольбажу агуль-

ны з'езд разам з усімі саноўнікамі, нобілямі, дыгнітарыямі, шляхцічамі і гэтак далей. І, скончыўшы нараду ў чацвер,[13] адышоў адтуль і стаў сваімі абозамі на полі пэўнай вёскі Любохня, адкуль на наступны дзень рушыў далей. І таго ж самага дня рушыўшы, межы свайго каралеўства перайшоў і трапіў у межы Мазовіі, рухаючыся праз якую дайшоў у пятніцу[14] да ракі Віслы і праз гэтую раку разам з часткай сваіх войскаў, якія ў той час яшчэ цалкам не сабраліся вакол яго, а таксама з гарматамі, машынамі і іншымі вайсковымі прыстасаваннямі. Без якой-небудзь шкоды і небяспекі пераправіўся па месце цудоўнай канструкцыі, перайшоўшы які, сустрэў з вялікай радасцю і задавальненнем свайго брата, найслаўнейшага князя Літвы Аляксандра, якога звалі Вітаўтам, і ўсіх людзей з ягонага войска. Там, затрымаўшыся на тры дні, канчаткова вырашылі пачаць выправу супраць прусакоў. І, адышоўшы адтуль, рухаліся на працягу наступных двух дзён і дайшлі да пэўнай ракі, над якой сталі лагерам. На наступны дзень Святога Працэсуса[15] прыбылі да караля паслы караля Венгрыі: пан Мікалай дэ Гара, палацін Венгерскага каралеўства, Сцыборый, палацін Седзьміграддзя і Крыстаф дэ Канцэндорф, якія ад імя таго ж караля Венгрыі і крыжакоў спыталі караля, ці схіліўся б ён да міру, які кароль Венгрыі паміж ім і крыжакамі жадаў бы заключыць. Кароль жа адказаў: «Мілыя панове і мае сябры, заўсёды прагнуў міру, ніколі не жадаў адысці ад справядлівасці і зараз, калі б я мог атрымаць, ахвотна прыму і гатовы прыйсці да згоды».

Паслы ж на наступны дзень[16], агледзеўшы каралеўскае войска, прыбылі да магістра і пераказалі яму ў адпаведным парадку словы караля, якія заахвочвалі да міру і згоды. Магістр ім адказаў: «Мае сябры! Кароль Польшчы жадае сабе міру, якога ні ў якім разе мець не можа, таму што на нашых вачах прынёс агонь у нашыя землі і паставіўся да нас з такой пагардай, з якой ніхто дагэтуль да нашага Ордэна не ставіўся. Чаму ж, калі прагнуў міру, не прасіў аб ім перад навалаю на нашыя землі? Належыць, каб за тое, што ўчыніў, атрымаў адпаведную кару. Няхай не выйдзе непакараным з межаў нашых земляў і не пазбегне нашае рукі. Зваліся б мы кабетамі, а не мужчынамі, калі б не жадалі атрымаць над нашымі ворагамі перамогу, якая сама ідзе нам у рукі».

Тады паслы, выслухаўшы тыя няслушныя словы, не пажадалі больш вяртацца да караля. У наступную нядзелю[17] кароль сам уступіў у землі ворага, якую пан Земавіт заклаў за пэўную суму грошай і загадаў знішчаць. На гэтых землях, якія былі закладзены панам Земавітам узгаданым крыжакам, кароль затрымаўся перад уварваннем у іх уласныя землі ад узгаданай нядзелі да серады і ў сераду[18] перад полуднем уступіў у іхні край. Выдатна і ва ўсёй моцы развярнуў харугвы і знакі і загадаў ім сабрацца на пэўным полі паблізу Малога Ольштыну, якое з усіх бакоў было акружана лясамі і гаямі. Развярнуўшы харугвы, прыбыў да месца, на якім стаў лаге-



рам, і разам з войскамі знаходзіўся адзін дзень. У лагеры былі схоплены тыя, хто забыўся на ўласнае ўратаванне і якія адважыліся ўварвацца ў дамы божыя і ўчыніць у іх рабаванні; з усёй сур'ёзнасцю ім было загадана, каб самі сябе, уласнымі рукамі, павесілі, што тыя былі вымушаны здзейсніць. А потым кароль прайшоў са сваім войскам на адлегласць дзвюх міль і затрымаўся там у чацвер на цэлы дзень, у наступны дзень рушыў з гэтага лагера зноў да таго лагера, з якога выйшаў, павярнуў, пакінуўшы ва ўзгаданым лагеры пэўную колькасць гарматных ядраў. Прусакі, калі знайшлі іх кінутымі, сказалі магістру: «Магістр, кароль ужо ўцёк і як след пакінуў ядры каменныя на тым месцы, дзе стаяў учора».

Магістр пачаў дапытвацца ў пасланцоў, але не мог даведацца, чаму кароль адступіў; а таму, што гэты шлях, якім пачынаў, не мог бы прайсці без вельмі вялікіх страт з-за ракі Дрвенцы і іншых перашкод. Вымушаны быў кароль павярнуць і абысці ўзгаданую раку ў яе вытокаў. Такім чынам, у пятніцу[19], перад святам Святой Маргарыты, кароль стаў лагерам у трох мілях ад горада Дамброўна, які ў сам дзень Святой Маргарыты сілай захапіў. У тым лагеры адпачываў два дні і, рушыўшы з таго ж самага лагера ў дзень Святой Маргарыты, стаў лагерам каля самага горада. І пад вечар загадаў захапіць узгаданы горад не свайму рыцарству, а простаму люду. І гэтым жа месцам за няпоўныя тры гадзіны сілай авалодаў. Пад тым горадам заставаўся два дні. Калі ж надышла ноч перад тым днём, калі рушылі з узгаданага лагера, здарыліся вялікія ўспышкі, маланкі і громы, і вялікі дождж прайшоў той ноччу; зрабіў ён вялікую зручнасць, таму што намачыў і ўвільгатніў зямлю, якая ад празмернага сонечнага жару бязмежна пылілася так, што, калі войскі рухаліся праз палі, адзін аднаго не мог бачыць у тумане пылу. Такі ж віхор наляцеў гэтай ноччу, што ўвесь лагер і шатры павыварочваў. Паўтараючы словы вартых даверу рыцараў, якія гаварылі, што ў гэтую ноч бачылі месяц, пакрыты крывёю, які быццам указваў чырвоны меч над ім.

Тады ў аўторак, у самы дзень Разаслання Апосталаў[20], рушылі ад указанага горада, і ў той жа час пайшоў вельмі моцны дождж, які намачыў усю зброю нашых рыцараў. Тады ж, калі скончыўся лівень і калі разышліся цёмныя хмары, заблішчэла яркае сонца. Як толькі надвор'е ўсталявалася, кароль загадаў капіланам падрыхтавацца да імшы, таму што не мог, нягледзячы на свой трывалы звычай, выслухаць імшы раней па прычыне перашкод, якія ствараліся парывамі ветру, калі выйшлі з лагера. І калі сам затрымаўся на вяршыне пэўнага пагорка, а войска, якое стаяла вакол пагорка, здзіўлялі палыхаючыя агні, якія бушавалі па краю, здзіўляючы сваёй колькасцю і памерамі, дайшла да караля вестка аб надыходзе ворага, дарэчы, няпэўная, для караля неверагодная. Потым усе людзі ў войсках, узброеныя, селі на коней, якіх толькі дзеля выкарыстання ў бітве трымалі. Кароль жа тады прыступіў да вы-

канання божага абавязку — да выслухвання імшы, пакорна молячыся на каленях. Адзін ягоны шляхціч, які ў той дзень быў прызначаны да аховы войска, размаўляў у той час з каралём, гаворачы і сцвярджаючы, што бачыў ворагаў. Кароль жа спытаў вестуна аб колькасці ворагаў, а той сказаў, што заўважыў толькі два іхніх атрады. І гаварыў кароль: «Няхай выступяць супраць іх чатыры альбо шэсць атрадаў з маршалкам войска, а мы тым часам выслухаем імшу». Калі гэта яшчэ мовіў, прыбыў іншы ганец і заявіў: «Кароль, не марудзь, ворагі рухаюцца супраць цябе». І адразу кароль накіраваў ганцоў да свайго брата Вітаўта са словамі: «Наймілы брат мой, падрыхтуйся да бітвы і загадай падрыхтавацца вайскам тваім разам з рыцарамі, таму што я ўпэўнены ў прысутнасці ворагаў». Адправіўшы ганцоў, у той жа час на вусны свае наклаў маўчанне і, абараціўшы да нябёсаў вочы і рукі, пачаў маліцца і не жадаў ні на чые словы адказваць да заканчэння малітвы і слухання імшы. Такі быў змест той малітвы: «Табе, — сказаў, — пан Бог, дадручаю дух, сваю душу і аддаю маіх братоў па зброі. Беражы мяне, пан, разам з імі. А вас, мілыя браты па зброі, прашу і патрабую, каб памяталі аб маёй душы».

Тым часам, хутка бегучы, прыбыў ганец і сказаў: «Найяснейшы кароль! Ворагі твае стаяць у паўмілі ад цябе, сабраныя ў вялікай сіле. Чакаюць цябе. Не марудзь! Сядай на каня і рухай супраць іх, таму што чым больш ты марудзіш з пачаткам бітвы, тым больш ставіш сябе ў вялікую небяспеку, таму што тая справа не церпіць прамаруджання і запушчэння!» Кароль, які разумеў, што гэтыя словы для яго істотны, не падаў віду, таму што ўсім сэрцам узнёсся да Бога. А, устаўшы з малітвы, у той жа час загадаў усім павязаць якія-небудзь павязкі з саломы для ўзаемнага распазнання і ўсталяваў для рыцараў словы баявых покліч аў — Кракаў і Вільня; сам жа, сеўшы на каня, уласнай асобай паспяшыў паглядзець на ворага і ў той час жа пачаў строіць шыкі на полі паміж двума гаямі; потым ўласнымі рукамі апяразаў тысячу альбо больш рыцараў так, што аж змучыўся тым апяразваннем. І калі ўжо больш апяразваць не здолеў, прыбылі да караля два герольды: адзін караля венгерскага, які прынёс каралю аголены меч ад імя магістра, другі — шчэцінскага князя, які трымаў у руцэ падобны меч, што маршал прыслаў князю Вітаўту, і сказаў: «Кароль! Магістр прысылае табе гэты меч, а другі мы павінны ўручыць ад імя маршала брату твайму Вітаўту, калі зможам з ім сустрэцца». Кароль у той жа час паслаў да Вітаўта верных ганцоў і папрасіў устрымацца ад пачынання бітвы, да якой ён імкнуўся ўжо з людзьмі сваімі. Пакінуўшы сваіх рыцараў, Вітаўт шыбка прыбыў да караля, і пасля яго прыбыцця ўзгаданыя герольды аддалі яму меч ад імя маршала і сказалі каралю і Вітаўту: «Кароль і Вітаўт! Магістр і маршал прысылаюць вам гэтыя мячы ў якасці падтрымкі і заклікаюць вас да бітвы і запытваюць вас аб месцы спаткання, прапануючы, каб вы самі яго абралі і аб зробленым вамі выбары паведамілі. І не хавайцеся ў гушчы гэтага лесу і не марудзьце з выступленнем да бою, таму што ва ўсялякім выпадку вы не здолееце пазбегнуць бітвы». Кароль жа і Вітаўт прынялі ўспамянутыя мячы з вялікай дабратой душы і так адказалі магістру і маршалу праз паслоў: «Прымаем дапамогу гасподню як самую важную, а разам з ёю тыя мячы ў якасці нашай падтрымкі і жадаем з магістрам зысціся ў бітве. Таксама не будзем хавацца па лясах, таму што прыбылі памерацца з вамі [сіламі], паколькі не можам атрымаць ад вас справядлівасці. А месца бітвы аддаём на волю і ласку Бога».



Таго ж часу з плачам і слязьмі кароль пачаў звяртацца да сваіх рыцараў, іх заахвочваючы: «О рыцары мае, сябры і славутыя! Вядома вам, якімі бедамі і бяспраўямі турбавалі нас і нашых папярэднікаў гэтыя фанабэрыстыя, на якіх глядзяць вашы вочы, колькі і як шмат учынілі нашым землям, як зняважалі боскія святыні і ганьбілі асоб, Богу прысвечаных. Памятайце аб рабаванні святыняў, гвалтах, злачынствах і цёмных справах, якія чынілі ў нядаўнім яшчэ часе! Прыняўшы ў якасці падтрымкі тую справядлівасць, якую кожны заўважыць можа, таму яна сама за нас біцца будзе, узбройцеся дзеля абароны гэтай справядлівасці і не бойцеся, зараз лепш загінуць за яе разам са мною, чым жыць. Таму ўжо я і рыцары мае гатовы пайсці з вамі на жыццё альбо на смерць супраць тых, хто прагне нашай гібелі».

Калі скончыў, усе разам пачалі са слязьмі спяваць «Багародзіцу» і рушылі да бітвы, праліваючы слёзы, якія сам кароль выцягнуў з іх сэрцаў сваімі словамі. На правым крыле выступіў да бітвы князь Вітаўт са сваімі людзьмі, харугвай Святога Георгія і харугвай пярэдняй стражы. На кароткі час перад самым пачаткам бітвы прайшоў лёгкі і цёплы дождж, змыў пыл з конскіх капытоў. А на самым пачатку гэтага дажджу гарматы ворага, а вораг меў шматлікія гарматы, далі два залпы каменнымі ядрамі, але не здолелі гэтым абстрэлам учыніць ніякай шкоды; і пры першай жа сутычцы з людзьмі караля былі адкінуты ад гэтых гарматаў без малога на стадый. У той час разгарэўся вельмі жорсткі бой.

Калі ўжо абодва войскі, як каралеўскае, так і Вітаўтава, зышліся і біліся з усімі атрадамі ворага, а большая частка войска прусакоў з лепшых атрадаў была пастроена супраць людзей князя Вітаўта, харугвы Святога Георгія і харугвы нашай пярэдняй стражы сустрэліся з вялікім гулам і бязмежнай конскай шпаркасцю ў пэўнай даліне такім чынам, што супрацьлеглы бок з гары, а наш бок таксама з гары ўзаемнымі ўдарамі адзін аднога разіць пачалі. На гэтым жа месцы пасля бітвы з дзідаў, якія ў той час былі зламаны па той прычыне, што конскія ногі спіхвалі туды з вяршынь абодвух пагоркаў зламаныя дрэўкі, якія з-за пахіласці не здольны былі ўтрымацца на пагорках, і грамаздзіліся, і збіраліся ў даліне паміж тымі пагоркамі так, што выглядалі як нейкі рукатворны маналітны мост з гэтых дзідаў.

Іншая ж частка ворагаў сярод тых, самых лепшых людзей крыжацкіх, сышлася з найвялікшай гарачнасцю і крыкам з людзьмі Вітаўта, і пасля, без малога гадзіны ўзаемнай бойкі, многія з абодвух бакоў паляглі так, што людзі князя Вітаўта вымушаны былі адысці. Тады ворагі, праследуючы іх, лічылі, што ўжо атрымалі перамогу, і ў рассеянасці аддаліліся ад сваіх харугваў і шыку сваіх атрадаў і перад тымі, якіх да ўцёкаў прымусілі, пачалі ўцякаць. У хуткім часе, калі прагнулі павярнуць, адрэзаныя ад сваіх людзей і харугваў каралеўскімі людзьмі, што іх харугвы напрамую ад крылаў прарэзалі, былі ўжо альбо захоплены, альбо пасечаны мячамі. Тыя ж, што стаялі з левага боку ад тых, што былі адрэзаны, засталіся жывыя, вярнуліся да сваіх людзей з непрыяцельскага войска і, зноў злучыўшыся, сышліся з вялікай харугвай каштэляна кракаўскага, ваяводы сандамірскага, зямлі Вялюнскай, зямлі Галіцкай і шматлікімі іншымі харугвамі. У гэтай сутычцы разгарэўся вельмі жорсткі бой, і таму ў той час шмат палягло. Цягнулася бітва шэсць гадзін, і тады толькі пачалі адыходзіць. У той раз ўцякалі аж да лагера.

Сабраўшы тады для вяртання сілы, магістр са сваімі застаўшыміся людзьмі, маючы з сабою пятнаццаць альбо больш харугваў, з пэўнага малога лесу пажадаў накіраваць свае атрады супраць караля; і ўжо дзіды і пікі, зняўшы з плячэй, паклалі на шчыты і сталі па месцах, жадаючы разведаць, дзе зручней і найбольш паспяхова сысціся з ворагам. Кароль жа тады, калі крыжакі сталі супраць яго, жадаў, схапіўшы дзіду ў руку, з вялікай смеласцю накіраваць каня супраць іх, але, затрыманы супраць сваёй волі сілай з найвялікшай цяжкасцю сваімі саноўнікамі, не здолеў здзейсніць сваё жаданне. Тады адзін, добра ўзброены рыцар з Тэўтонскага ордэна, жадаючы ў паядынку накіраваць свайго каня супраць караля, пад'ехаў бліжэй да яго. Кароль жа, схапіўшы ў руку сваю дзіду, смяротна параніў яго ў твар, і ў той жа час той, іншымі з каня скінуты, упаў на зямлю мёртвы. Гэтыя ж харугвы магістра са свайго месца сталі рухацца супраць караля, наткнуліся на вялікую харугву і мужна сшыбліся пікамі. І ў першай сутычцы магістр, маршал і комтуры ўсяго Тэўтонскага ордэна былі забіты. Тыя ж, хто ўцалеў, убачыўшы, што магістр, маршал і іншыя саноўнікі Ордэна паляглі, пачалі адыходзіць і вярнуліся ў хуткім часе аж да свайго лагера, які быў папярэдне разбіты. А калі ўжо да лагера прыбылі, убачыўшы, што яшчэ шмат было атрадаў, якія пакуль што не ўступілі ў бітву, і ўбачыўшы таксама, што іх правадыр паў забіты, сапраўды пусціліся на ўцёкі і ўрассыпную пабеглі. Кароль жа, згодна з парадамі сваіх аронаў, не дазволіў праследаваць так шыбка бягучых ворагаў, не жадаючы, каб людзі рассеяліся па акрузе, але, зняўшы па прычыне незвычайнай спякоты свой шлем, з усімі сваімі людзьмі падышоў да крыжацкага лагера.

У лагеры ж многія, убачыўшы, што ўцёкі ніяк не дазволяць пазбегнуць смерці, стварыўшы з вазоў падабенства вала, там жа ўсе пачалі абараняцца,



але ўсё ж такі, пераможаныя, у пашчы мяча загінулі. У гэтым жа месцы больш палягло, чым ва ўсёй бітве. Кароль, перайшоўшы праз невялікі лясок з месца ўзгаданага лагера, прыбыў на вяршыню аднаго пагорка, дзе ў той жа час злез з каня і, стаўшы на калені на зямлі, пачаў дзякаваць Богу за перамогу, якую той яму дазволіў атрымаць над ворагам. На гэты ж пагорак прывялі да караля незлічоных палонных, сярод якіх менавіта князёў Казіміра Шчэцінскага і Конрада, князя Сілезіі, а таксама шмат рыцараў, баронаў і іншых людзей з розных краін свету і розных народаў, якія прыбылі з дапамогай крыжакам.

Адтуль жа кароль, адышоўшы, прыбыў да пэўнага месца, дзе загадаў разбіць лагер і, злезшы з каня, загадаў наламаць галінак з дрэва і разаслаць на зямлі, на якіх пасля цяжкасцей лёг і там жа адпачыў. Бітва ж пачалася за тры гадзіны перад полуднем, а скончылася менш чым за гадзіну да заходу сонца[21].

Назаўтра з ранку кароль загадаў спяваць імшу вельмі ўрачыста менавіта пра Дух Святы, пра Святую Тройцу, пра Разасланне Апосталаў. Пасля імшы на працягу цэлага дня і на працягу наступнага прыносілі да караля захопленыя харугвы ворага і прыводзілі палонных. На працягу трох дзён кароль заставаўся на месцы бітвы, пад час якіх прыносілі каралю харугвы ворага, так што любы мог іх пабачыць. У тыя ж дні кароль таксама загадаў адшукаць сярод трупаў цела магістра і, знойдзенае, загадаў прынесці да свайго шатра абгорнутае ў белае пакрывала, накрыць зверху найдаражэйшым каралеўскім пурпурам і з пашанаю адвезці аж у Мальбарк. Астатнія ж целы саноўнікаў, як нашых, так і варожых, загадаў з пашанаю і павагаю пахаваць у пэўным касцёле паблізу поля бітвы.

Трэцяга ж дня[22], пакінуўшы поле бітвы, прыбыў да пэўнага горада Маенсторка, які разам з замкам без якіх-небудзь цяжкасцей і адпору захапіў. Падобна ў дзень Арнольфа[23] прыбыўшыя мяшчане прынеслі самому каралю клятву ў вернасці ад прыморскага горада Эльбланга і дзвюх прускіх земляў. Акрамя гэтага, у дзень Марыі Магдалены[24] здаўся каралю вельмі значны замак, а менавіта Ольштым. Потым у дзень Святога Якава[25] кароль узяў у аблогу замак Мальбарк. І трымаў у аблозе яго аж да свята Апостала Матфея[26], пасля чаго ўсе землі Прусіі і Памор'я, за выключэннем пэўных замкаў Прусіі, менавіта Мальбарка, згодна з правам, прысягнулі ў вечнай вернасці каралю, але потым парушылі, як свецкія паны, абывацелі і ўсе з усіх земляў Прусіі і Памор'я і, не клапоцячыся аб сваім гонары і забыўшы аб уласным выратаванні, ганебна, без якіх-небудзь прычын, зламалі і зняважылі, адступаючы без прычыны ад паслушэнства самому каралю і сваёй Польскай Кароне.

[1] Thunert F. Der grosse Krieg zwischen Polen und dem Deutschen Orden 1410 bis 1 Februar 1411 // Zeitschrift des Westpreussischen Geschichtsvereins. Heft 16. Danzig, 1886. C. 93.

[2] Heveker K. Die Schlacht bei Tannenberg. Berlin, 1906. С. 10—12. Kujot S. Rok 1410 // Roczniki Towarystwa Naukowego w Toruniu. T. 17. Toruń, 1910. С. 139.
[3] Kuczyński S. Wielka Wojna z Zakonem Krzyżackim w latach 1409—1411. Warszawa, 1985. С. 43—45.
[4] Prochaska A. Długozs a Cronica conflictus o grunwaldzkiej bitwie // Kwartalnik Historyzcny. T. XXIV, 1910. С. 411.
[5] Cronica conflictus Wladislai regis Poloniae cum cruciferis anno Christi 1410. Poznań, 1911.
[6] Там жа. С. 6—8.
[7] Kuczyński S. Wielka Wojna z Zakonem Krzyżackim w latach 1409—1411. С. 43—45.
[8] Cronica conflictus Wladislai regis Poloniae cum cruciferis anno Christi 1410 // Scriptores Rerum Prussicarum. Bd. III. Leipzig, 1866; Cronica conflictus Wladislai regis Poloniae cum cruciferis anno Christi 1410. Poznań, 1911.
[9] Kuczyński S. Wielka Wojna z Zakonem Krzyżackim w latach 1409—1411. С. 43—45.
[10] Ekdahl S. Die Flucht der Litauer in der Schlacht bei Tannenberg // Zeitschrift für Ostforschung. 1963. № 12.
[11] Kronika konfliktu Władysława króla polskiego z Krzyżakami w roku pańskim 1410. Olsztyn, 1983, 1984, 1986.
[12] 24 чэрв. 1410 г.
[13] 26 чэрв. 1410 г.
[14] 27 чэрв. 1410 г.
[15] 2 ліп. 1410 г.
[16] 3 ліп. 1410 г.
[17] 6 ліп. 1410 г.
[18] 9 ліп. 1410 г.
[19] 11 ліп. 1410 г.
[20] 15 ліп. 1410 г.
[21] Г. зн. пачалася ў 9.00, а скончылася ў 21.00.
[22] 18 ліп. 1410 г.
[23] 18 ліп. 1410 г.
[24] 22 ліп. 1410 г.
[25] 25 ліп. 1410 г.
[26] 21 верас. 1410 г.

***Г. М. Сагановіч***

## МАСКОЎСКАЯ КАЛЕКЦЫЯ ДАКУМЕНТАЎ ПА ГІСТОРЫІ АДНОСІН ВКЛ І НЯМЕЦКАГА ОРДЭНА

У гісторыі гэтай калекцыі яшчэ шмат нявызначанага, але агульныя рысы яе лёсу і цяперашні стан ужо вядомы. Пачатак ёй паклала дзейнасць князя Адама Чартарыйскага. Добра вядома, што, карыстаючыся сваім уплывовым становішчам і блізкасцю да імператара Аляксандра I, гэты патрыёт Рэчы Паспалітай змог шмат зрабіць для развіцця польскай гісторыі і культуры



пад расійскай уладай. Адным з яго даробкаў з'яўляецца і стварэнне згаданага збору дакументаў. Яшчэ будучы куратарам Віленскай навучальнай акругі, А. Чартарыйскі ў 1822 г. ініцыяваў арганізацыю групы археографаў, якой даручылі здымаць копіі з дакументаў архіва Тэўтонскага ордэна. Карпатлівая праца доўжылася не адзін год, а знятыя копіі захоўваліся ў бібліятэцы князя Чартарыйскага ў яго родавых Пулавах. Пасля падаўлення антырасійскага паўстання 1830—1831 гг. і капітуляцыі Варшавы князь А. Чартарыйскі, які ўзначальваў паўстанцкі ўрад, мусіў эміграваць за мяжу, а яго ўладанні, як і маёнткі іншых удзельнікаў паўстання, былі канфіскаваны. Расійскія ўлады забралі і славутую Пулаўскую бібліятэку, перавёзшы ў 1831 г. каля 25 тыс. тамоў яе кнігазбораў у фонд Генеральнага штаба ў Пецярбург[1].

Менавіта гэтымі дакументамі ў 1838—1939 гг. займаўся ў Пецярбургу член Археаграфічнай камісіі Ігнат Анацэвіч, паколькі сярод апрацаваных ім рукапісных калекцый фігуруюць «200 спіскаў актаў з Каралявецкага сакрэтнага архіва»[2], забраных з Пулаўскай бібліятэкі. З імі мог быць знаёмы і Ігнат Даніловіч. Аднак пра пецярбургскі перыяд гісторыі гэтага фонду недастаткова звестак.

У 1918 г. частка бібліятэкі Генеральнага штаба, у тым ліку каралявецкіх копій, была перавезена ў Маскву. Каля дзесяці гадоў пад рознымі назвамі яна існавала тут як самастойная ўстанова, пакуль у 1929 г. яе фонды не ўключылі ў Дзяржаўную бібліятэку СССР імя У. І. Леніна[3].

Першай на важны набытак галоўнай бібліятэкі дзяржавы звярнула ўвагу С. В. Жытомірская. У 1957 г., апісваючы калекцыі рукапісных фондаў, звязаных з гісторыяй і культурай Заходняй Еўропы, як «асабліва цікавыя» характарызавала «16 тамоў дакументаў за 1204—1464 гг. са збору Генеральнага штаба, скапіяваных у Каралявецкім архіве». Цяпер яны ўваходзілі ў фонд № 68 Аддзела рукапісаў Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна. Пры гэтым даследчыца зазначыла, што «спіскі дакументаў завераны захавальнікам архіва Фойгтам. У гэтых дакументах утрымліваецца перапіска Ордэна з польскімі каралямі, літоўскімі вялікімі князямі (…). Асабліва поўна сабраны дакументы XV ст. Верагодна, тут скапіяваны ўсе наяўныя ў архіве матэрыялы гэтага часу»[4].

Пазней да лёсу гэтай калекцыі адмыслова звяртаўся даследчык гісторыі ўзаемаадносін Нямецкага ордэна і Маскоўскай дзяржавы В. М. Бялязін. Ён першы напісаў (і меў рацыю), што згаданыя С. Жытомірскай дакументы і з'яўляюцца калекцыяй копій князя Адама Чартарыйскага, знятых у 1822—1830 гг., сляды якіх зніклі пасля падаўлення антырасійскага паўстання[5]. Самімі дакументамі гэтай калекцыі маскоўскі даследчык не займаўся.

Застаецца дадаць, што не абмінулі цікавага фонду і аўтары ўказальніка па фондах Рукапіснага аддзела Дзяржаўнай бібліятэкі СССР, якія, праўда, толькі скупа адзначылі, што ў зборах Генеральнага штаба

«ў позніх спісках захаваліся граматы з архіва Тэўтонскага ордэна ў Караляўцы»[6]. Аднак за апошнія дзесяцігоддзі гэтыя дакументы амаль не выкарыстоўваліся вучонымі, а для беларускіх гісторыкаў яны, праўдападобна, заставаліся наогул невядомымі. Між тым пры цяперашняй цяжкадаступнасці фондаў былога архіва Нямецкага ордэна копіі яго дакументаў могуць стаць вельмі важнай крыніцай для даследчыкаў сярэднявечнай гісторыі Беларусі і Вялікага княства Літоўскага.

Сярод скапіяваных спраў Каралявецкага сакрэтнага архіва выразна пераважаюць дакументы па ўласна польскай гісторыі і ўзаемаадносінах Польскага Каралеўства з Тэўтонскім ордэнам, што, відаць, і адпавядала задачам археаграфічнай групы князя Адама Чартарыйскага. Але многія копіі непасрэдна ці ўскосна кранаюць і гісторыю Вялікага княства Літоўскага. Найбольшую цікавасць для гісторыка Беларусі могуць уяўляць калекцыі тамоў № 1, 3, 11 і 12[7], сціслае апісанне якіх дапаможа атрымаць уяўленне пра змест і агульны характар гэтых крыніц.

Том 1 утрымлівае выключна лацінамоўныя дакументы XV — пачатку XVI ст. — гэта пераважна карэспандэнцыя польскіх і нямецкіх біскупаў і свецкіх саноўнікаў, а таксама лісты Ягайлы і Вітаўта (разам 112 арк.). Праблема, аднак, у тым, што ўсе яны не датаваныя. На тытуле тома пазначана, што ў ім сабраны спіскі 1413—1524 гг., але гэта не зусім дакладна. У прыватнасці, тут знаходзяцца лісты Ягайлы і мазавецкага князя Яна да Юнгінгена[8], так што ў гэтай калекцыі могуць сустракацца і больш раннія дакументы.

У томе 3 сабрана карэспандэнцыя галоўнай сядзібы Нямецкага ордэна за 1413 г. (187 арк.)[9]. У большасці гэтых дакументаў непасрэдна ці ўскосна закранаюцца праблемы ўзаемаадносін Мальбарка з Вільняй і Кракавам. Некаторыя з іх па арыгіналах у 1882 г. былі надрукаваны Антоніем Прахазка ў томе карэспандэнцыі Вітаўта[10], іншыя змешчаны ў шматтомным археаграфічным выданні Ф. Бунге[11], але копіі, завераныя каралявецкім архівістам Ёганам Фойгтам, застаюцца таксама каштоўным дакументам.

Як вядома, у 1413 г. узрастала небяспека новай вайны Ягайлы і Вітаўта супраць Нямецкага ордэна, пра што з трывогай гаворыцца і ў многіх пасланнях вялікага магістра Генрыха фон Плаўэна. У прыватнасці, тут знаходзіцца яго ліст з просьбай дапамогі, накіраваны ў крытычны момант з Мальбарка да біскупаў, графаў і герцагаў нямецкіх зямель. У дакуменце неаднаразова паўтараецца, што «кароль Польшчы і герцаг Вітаўт з іх памагатымі, насуперак Бога і права», моцна зваявалі «беднае хрысціянства» ў Прусіі, прыціснулі выплатай вялізнай сумы грошай, якія Ордэн дзеля міру выплаціў, але вось цяпер кароль з Вітаўтам «у вялікім мностве хрысціян і паганых збіраюцца ўварвацца ў гэтую хрысціянскую зямлю і грунтоўна знішчыць наш Ордэн». Генрых фон Плаўэн усведамляў, што сваімі сіламі супрацьстаяць не зможа, таму прасіў «дапамогі і рады», заклікаў князёў і паноў «прыйсці ці прыслаць свае рыцарства»[12]. Праз нейкі час у пасланні да інфлянцкіх саноўнікаў вялікі магістр скрушна піша: «…справы нашага Ордэна з каралём палякаў і герцагам Вітаўтам настолькі дзіка (wilde) складваюцца, што мы прадбачым не столькі мір, колькі вайну»[13]. У іншым лісце ён патрабуе ад свайго стрыечнага брата да дня Св. Тройцы прыйсці ў Прусію на дапамогу супраць Вітаўта, узяўшы з сабой 50 воінаў. Пры гэтым Генрых фон Плаўэн піша пра саюз Вітаўта з «вялікімі Русінамі» (*grossen Russen*)[14], тады як у лістах вялікага магістра, надрукаваных А. Прахазка, ён выкарыстоўвае азначэнне «белыя Русіны» («*weisen Rewsen*», «*Wissen Russen*»)[15].



Шмат месца ў карэспандэнцыі гэтага года займае спрэчка наконт умоў міру, у якой найчасцей фігуруе выплата грошай, прыналежнасць Жамойці і замка Велунь. У прыватнасці, у Мальбарку не хацелі, каб гэты замак, «узведзены каля мяжы Ордэна, быў разбураны»[16]. У лісце да імператара Жыгімонта ад 14 лютага 1413 г. вялікі магістр настойвае, што Велунь знаходзіцца на зямлі Ордэна — за 6 міль ад мяжы[17]. Тут жа ён паведамляе, што па інфармацыі ад інфлянцкіх ордэнскіх саноўнікаў, у якіх было пасольства Вялікага Ноўгарада і Пскова, Вітаўт ужо разарваў мір[18].

Да справы магчымага ўрэгулявання ўзаемаадносін тычыцца ліст эльблангскага комтура рыцара Германа Ганса да Ягайлы і Вітаўта[19], пасланне Вітаўта Міхалу Кюхмайстру[20] і шэраг іншых дакументаў. У некалькіх копіях утрымліваецца праект прымірэнчага з'езда (eines freundliches Tags) з Ягайлам і Вітаўтам, планаванага на пасляВялікодныя дні.

У томе 11 сабрана карэспандэнцыя за 1430—1432 гг. (201 арк.)[21]. Гэта адрасаваныя вялікаму магістру Паўлу Руздорфу лісты імператара Жыгімонта, вялікіх князёў Свідрыгайлы і Вітаўта, караля Ягайлы, а таксама пасланні ордэнскіх саноўнікаў — вялікага маршала і комтураў Астэродскага, Балгскага, Крыстбургскага, Рагніцкага, Торуньскага і інш. Усе яны напісаны на старанямецкай мове (за выключэннем некаторых па-лацінску), і кожная копія, як і ў папярэдніх тамах, заверана Ёганам Фойгтам. Тут, напрыклад, захоўваецца копія ліста Вітаўта, напісанага з Варанаў да Паўла Руздорфа ў 1430 г. у справе крыўды, якую купцы ВКЛ цярпелі ў Данцыгу[22], а таксама пасланне Вітаўта да вялікага магістра, у якім той піша, што перасылае Ягайлаў ліст з перасцеражэннем пра хуткі напад гусітаў, а сам збіраецца плыць Нёманам з Гародні да Коўны[23]. Вялікі маршал (ён жа торуньскі комтур) перасылае ліст Вітаўта ў справе прыезду гасцей (у тым ліку самога Руздорфа) на яго каранацыю[24].

Асаблівую цікавасць выклікае адказ вялікага магістра на ліст Свідрыгайлы, датычны саюза ВКЛ і Нямецкага ордэна (1431). Паўл Руздорф піша, што цэніць гатоўнасць «вашага народа верна дапамагаць нам, калі

палякі нападуць на нас і нашу зямлю»[25]. Ваенны канфлікт паміж Польскім Каралеўствам і Вялікім княствам Літоўскім і ангажаванне ў яго Ордэна абумовіла насычанасць тагачаснай карэспандэнцыі вялікага магістра інфармацыяй пра яго саюзнікаў і ворагаў. У дакументах за 1431—1432 гг. вельмі часта гаворыцца пра накіраваных у Літву шпегаў ці пасланцоў (*Bothen zu Littauwen*), згадваюцца Свідрыгайла (*Herr Grossfürste* або *Herzog Swiedrigal*) і Ягайла, падзеі ў ВКЛ. Асабліва многа інфармацыйных лістоў у Мальбарк перасылаў астэродскі комтур. У адным з пасланняў 1431 г., напрыклад, ён кажа Руздорфу, што накіраваў свайго шпега да Берасця[26], ад якога ведае, што Ягайла яшчэ пад Луцкам, дзе збіраецца заключыць са Свідрыгайлам «вялікі мір»[27].

У пасланні вялікаму магістру, датаваным 1432 г., імператар Жыгімонт піша пра магчымасці разгляду праблемы адносін з Польшчай на Базельскім саборы. Калі «ерэтыкі з палякамі з'ядналіся», заўважае ён, то нельга пакінуць без дапамогі прыгнечаны Ордэн «і ўсю нямецкую зямлю», а таксама «нашага любімага брата князя Свідрыгайлу»[28]. Падрабязней Базельскага сабора тычыцца шмат лістоў вялікага ордэнскага пракуратара. Комтур замка Мэве рыцар Людвіг фон Ланзе (Ludwig von Lansee) ў пасланні ад 31 снежня 1432 г. інфармуе вялікага магістра, што ён знаходзіцца са Свідрыгайлам каля *Weitwischke* (…), адкуль яны збіраюцца з інфлянцкімі рыцарамі, русінамі і татарамі рушыць супраць Літвы (Littauen). Далей знаходзіцца яшчэ некалькі лістоў гэтага ж рыцара, напісаных з Трокаў. Комтур Астэроды паведамляе ў Мальбарк пра падступныя планы палякаў і адзначае, што дэтранізаваны Свідрыгайла яшчэ валодае землямі русінаў (Switrigal die Russischen lande noch habe).

Дакументальныя сведчанні пра разгортванне падзей у ВКЛ у 1433—1434 гг. сабраны ў томе 12 (160 арк.)[29]. Па складзе гэта калекцыя такога ж характару, як папярэдняя. Найбольш цікавым дакументам можна лічыць копію ліста ўжо згаданага Людвіга фон Ланзе, які напісаў да вялікага магістра ў 1433 г. з Полацка, ад Свідрыгайлы, куды прыйшоў не адзін[30]. У пасланні гаворыцца пра план Свідрыгайлы разам з інфлянцкімі рыцарамі ўдарыць па Літве, пра тое, што Вялікі Ноўгарад дапамог звергнутаму вялікаму князю грашыма, пра татараў і шмат іншага. Найбольш інфармацыйных пасланняў да Паўла Руздорфа зноў піша комтур Астэроды, які, між іншым, у адным з лістоў паведамляе, што Свідрыгайла з інфлянцкімі рыцарамі ўжо ў Літве, а да Жыгімонта Кейстутавіча ўвесь час прыходзіць падмога[31], у наступным адзначае, што абодва князі (Свідрыгайла і Жыгімонт) з войскамі ўжо знаходзяцца «ў полі» і пішуць адзін аднаму, выклікаючы на генеральную бітву[32]. Адзіны ліст Жыгімонта Кейстутавіча, пасланы вялікаму магістру, напісаны ў Троках ужо пасля Вількамірскай бітвы. Падпісаўшыся «вялікім князем



Літвы і Русі», ён паведамляе Паўлу Руздорфу пра перамогу, пра тое, што ў бітве загінулі нямецкія рыцары і сам інфлянцкі магістр[33].

1 Рукописные собрания Государственной библиотеки СССР им. В. И. Ленина. Указатели. Т. 1. Вып. 2. М., 1986. С. 290; Белязин В. Н. История одной коллекции документов // Вестник Московского университета. Сер. История. 1963. №. 3. С. 34.

2 Улащик Н. Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 35. Спас. 44.

3 Рукописные собрания Государственной библиотеки СССР им. В. И. Ленина. Указатели. Т. 1. Вып. 2. С. 288.

4 Житомирская С. В. Западное средневековье в рукописях Государственной библиотеки СССР им. В. И. Ленина // Средние века. Вып. 10. М., 1957. С. 295.

5 Белязин В. Н. История одной коллекции документов // Вестник Московского университета. Сер. История. 1963. № 3. С. 36.

6 Рукописные собрания Государственной библиотеки СССР им. В. И. Ленина. Указатели. Т. 1. Вып. 2. С. 299.

7 Рукописный отдел Российской государственной библиотеки (далей — РО РГБ). Ф. 68. № 358.

8 Там жа. № 358-1, а. 31, 54.

9 На тытуле тома ад рукі напісана: «Rękopisma kopijowane w Archiwum Królewieckim, 1263—1413. Teki I—II» (РО РГБ. Ф. 68. № 358-3). Такім чынам, нумары тэчак і храналагічныя рамкі іх калекцый не супадаюць. Відаць, у Пецярбургу першапачатковыя тэчкі былі разабраны і ўкладзены па-новаму.

10 Codex epistolaris Vitoldi. Wyd. A. Prochaska. Kraków, 1882.

11 Liv-, Esth-, und Kurländusches Urkundenbuch nebst Regesten. Hrg. von F. G. Bunge. T. IV (Reval, 1859), VI (Riga, 1873), X (Riga—Moskau, 1896) і інш.

12 РО РГБ. Ф. 68. № 358-3, а. 8.

13 Там жа, а. 31а.

14 Там жа, а. 142.

15 Codex epistolaris Vitoldi. Wyd. A. Prochaska. S. 245, 262.

16 Гэты ліст надрукаваны ў: Codex epistolaris Vitoldi. Wyd. A. Prochaska. S. 258—258.

17 РО РГБ. Ф. 68. № 358-3, а. 54.

18 «Herczog Wytowt en den frede habe of gesagt…»

19 РО РГБ. Ф. 68. № 358-3, а. 73—74.

20 Там жа. а. 187—187а.

21 Там жа. № 358-11,а. 1—201.

22 Там жа. а. 27.

23 Там жа. а. 28.

24 Там жа. а. 30—31.

25 «…uns getreulich wellet helfen, aß die Pole nuns und unsir Land angreifen wurden».

26 Russen Briske.

27 РО РГБ. Ф. 68. № 358-11, а. 79.

28 Там жа. а. 105—106.

29 Там жа. № 358-12, а. 1—160.

[30] «So bin ich mit alle den menen … gekommen her zum Herrn Grosfürsten zu Plotozkow…».
[31] РО РГБ. Ф. 68. № 358-12, а. 31—32.
[32] Там жа. а. 36.
[33] Там жа. а. 49—49а.

***Н. С. Саверчанка***

## КАЛЕКЦЫЯ ІНКУНАБУЛАЎ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭКІ БЕЛАРУСІ

Збор інкунабулаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі (НББ) уключае 42 першадрукі і ахоплівае храналагічны перыяд з 1470 па 1495 г. Гэта адносна невялікая колькасць, бо, паводле меркаванняў некаторых даследчыкаў, у XV ст. было надрукавана 13 000 назваў, ці 4 мільёны экземпляраў кніг[1].

Да сённяшняга часу згадкі аб выданнях XV ст. з калекцый бібліятэк краіны былі змешчаны толькі ў Зводным каталозе інкунабулаў, выдадзеным у СССР[2]. Бібліяграфічныя звесткі аб інкунабулах Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея знаходзяцца ў каталозе, выдадзеным гэтай установай у 2003 г.[3] Сёння рыхтуецца поўнае навуковае апісанне інкунабулаў для Зводнага каталога першадрукаў на Беларусі.

Калекцыя інкунабулаў НББ складаецца: з 16 кніг, выдадзеных у 70-я гг. XV ст. (10 — нямецкія, 3 — італьянскія, 2 — французскія і 1 — швейцарская), 12 — у 80-я (5 — нямецкія, 4 — італьянскія, 2 — швейцарскія і 1 — французская), 15 — у 90-я (4 — нямецкія, 7 — швейцарскія, 4 — італьянскія).

У зборы НББ захоўваецца 19 кніг, якія выйшлі ў свет у 11 друкарнях нямецкіх гарадоў — Аўгсбургу, Кёльне, Майнцы, Нюрнбергу, Спэеры, Ульму, Эслінгену. Сярод друкароў, выданні якіх знаходзяцца ў бібліятэцы, можна адзначыць такіх, як Антон Кобергер (Anton Koberger), Каспар Хохфедэр (Kaspar Hochfeder), Іаган Цайнер (Johann Zainer), Гюнтэр Цайнер (Gunter Zainer), Мікалай Готц (Nicolaus Gotz), Петэр Шофер (Peter Schoeffer).

На тэрыторыі Беларусі захавалася 8 кніг А. Кобергера, аднаго з найбольш паспяховых выдаўцоў Германіі. Сем яго выданняў можна знайсці ў Нацыянальнай бібліятэцы, сярод іх *Corpus iuris civilis. Codex Iustinianis* (Nürnberg, 1488), *Petrus Lombardus. Sententiarum libri IV* (Nürnberg, 1481), *Antonius Florentinus. Chronicon* (Nürnberg, 1484), *Shedel, Hartmann. Liber chronicarum* (Nürnberg, 1493).

Антон Кобергер адкрыў у Нюрнбергу друкарню ў 1471 г., а да канца 70-х гг. яна была ўжо адной з самых буйных у Еўропе. Выданні, што выпускаліся тут, прызначаліся тэолагам і прадстаўнікам адукаванай эліты. У другой яго друкарні ў Ліёне выходзіла пераважна юрыдычная літаратура. Усяго А. Кобергер надрукаваў 236 выданняў. Акрамя выдавецкай дзейнасці ён займаўся кніжным гандлем і вёў свой бізнес не толькі з нямецкімі гарадамі, але і з Парыжам, Міланам, Фларэнцыяй, Балонняй, Венецыяй, Ліёнам, Венай і Кракавам. Хутчэй за ўсё менавіта праз Кракаў кнігі А. Кобергера траплялі на тэрыторыю сярэднявечнай Беларусі.



Выдадзеная ім *Хроніка* нюрнбергскага лекара і гуманіста Гартмана Шэдэля, адзін экземпляр якой захоўваецца ў НББ, — даволі амбіцыйнае выданне і лічыцца адной з лепшых кніг XV ст., выкананай дасканалай тэхнікай. Сам тэкст вылучаецца аб’ёмам і дакладнасцю матэрыяла, але аўтар не быў арыгінальным і застаўся верным сярэднявечнай традыцыі сусветных хронік, якія традыцыйна складаліся з біблейскай і класічнай гісторыі. Папулярнасць гэтай кнігі вызначаў не толькі змест, але і яе мастацкае афармленне, выкананае Міхаэлем Вальгемутам і Вільгельмам Плейдэнвурфам. У *Хроніцы* ўпершыню ў гісторыі друкаванай кнігі падаваліся звесткі аб выканаўцах дрэварытаў. У ілюстрацыйнай схеме кнігі выкарыстана складаная вёрстка, якая выглядае даволі грувастка. Яна ўключае вялікія двайныя аркушы тапаграфічных планаў гарадоў, якія падзяляюць тэкст на розныя структурныя ўтварэнні, а таксама дрэварыты, раскіданыя ў тэксце. Характэрна для *Хронікі* і паўтарэнне гравюр з рознымі подпісамі. Так, 198 партрэтаў рымскіх пап выканана з 28 дошак, партрэты 224 каралёў — з 44, 69 розных аб’ектаў з выявамі гарадоў — з 22, 598 усіх ілюстрацый партрэтаў зроблена з 67 дошак[4], а ўсяго ў кнізе паўтараецца 1164 дрэварыты. Для 1806 ілюстрацый было зроблена толькі 645 арыгінальных дошак. Дзякуючы шыкоўнаму афармленню і высокаму ўзроўню друкарскага майстэрства *Хроніка* з’яўляецца выдатным помнікам мастацтва кнігі.

Вялікую цікавасць для сярэднявечнага еўрапейскага і беларускага чытача ўяўлялі выданні Іагана і Гюнтэра Цайнераў, якія, паводле некаторых звестак, вучыліся друкаваць у аднаго з самых выбітных выдаўцоў XV ст. Іагана Ментэліна. У фондзе Нацыянальнай бібліятэкі можна знайсці як кнігу Іагана Цайнера *Astesanus. Summa de casibus conscientia* (Strassburg, non post 1473), так і выданне Гюнтэра Цайнера *Apollonius von Tyros. Historia Apollonii regis Tyri* (Augsburg, 1471) — самы ранні з дакладна датаваных у фондзе аддзела рукапісаў, рэдкай кнігі і старадрукаў экземпляр папулярнага ў свой час грэчаскага рамана Апалонія Тырскага *Historia Apollonii regis Tyri*, першага перакладу твора на нямецкую мову. Ён убачыў свет у друкарні добра вядомага не толькі ў Германіі, але і далёка за яе межамі Гюнтэра Цайнера, які прыехаў у Аўгсбург у 1467 г. і стаўся не толькі першым у горадзе друкаром, але і першым, хто надрукаваў гравіраваныя ініцыялы і ілюстрацыі разам з тэкстам. Доўга лічылася, што абодва Цайнеры раней працавалі перапісчыкамі, але некаторыя факты сцвярджаюць, што Г. Цайнер не мог раней быць перапісчыкам, паколькі ў тыя часы ў Аўгсбургу пісары былі найбяднейшымі сярод рамеснікаў.

Справа ў тым, што дзеля заробку грошай перапіскай займаліся не толькі прафесіяналы, але і сакратары, муніцыпальныя клеркі, натарыусы, укладаючы кантракты, тэстаменты і іншыя дакументы. Для прафесійнага ўжытку і вучобы літаратуру перапісвалі выкладчыкі і студэнты. Вельмі часта на такую працу наймаліся абсалютна выпадковыя людзі, таму даход ад яе быў даволі малы. Тым не менш памер падаткаў, якія плаціў Цайнер з 1468 па 1478 г., сведчыць аб яго даволі высокім маёмасным стане. Як сцвярджаюць асобныя даследчыкі, хутчэй за ўсё раней ён займаўся мастацкай апрацоўкай металу. За час сваёй работы Г. Цайнер надрукаваў 36 тысяч кніг (каля 1000 выданняў).

Выданне *Herbarius Moguntiae impressus* (Майнц, 1484), якое знаходзіцца ў фондзе НББ, раней належала нясвіжскай бібліятэцы князёў Радзівілаў. Яно з'яўляецца сведчаннем трыумфу першых друкаваных кніг, якія заваёўвалі геаграфічную прастору не толькі на Захадзе, але і на Усходзе. Надрукаваў гэтую адметную кнігу нямецкі друкар Петэр Шофер, які ўнёс значны ўклад у развіццё кнігадрукавання ў Еўропе. Ён скончыў Парыжскі універсітэт і лічыўся выдатным каліграфам. У 1450-х гг. П. Шофер абаснаваўся ў Майнцы і быў вучнем і памочнікам у Гутэнберга, а затым, пасля яго разарэння, кампаньёнам другога знакамітага нямецкага друкара Іагана Фуста. Пасля смерці І. Фуста П. Шофер ажаніўся з яго дачкой і атрымаў у спадчыну друкарню. Згодна са знойдзеным спісам кніг, якія выйшлі з-пад яго прэсаў, Шофер быў вельмі працаздольным і пладавітым выдаўцом. За 50 гадоў працы ён выпусціў 253 выданні. У асноўным гэта літургічныя кнігі, богаслужэбныя тэксты, місалы, а таксама кнігі па тэалогіі, юрыспрудэнцыі, філалогіі. Даследчык яго дзейнасці Гельмут Легман-Хаўпт у сваёй працы[5] параўнаў усе рукапісныя запісы, зробленыя рукой П. Шофера, яго першыя друкаваныя шрыфты, размаляваныя літары яго лістоў за 1449 г. і друкаваныя ініцыялы, якія ён зрабіў праз 50 гадоў, і такім чынам прыйшоў да высновы, што П. Шофер перанёс свой рукапісны досвед у друкарскую практыку. Шрыфт яго выданняў пераважна тэкстура ці гуманістычны. Толькі ў канцы сваёй кар'еры П. Шофер ужыў для некалькіх кніг бастарду, паколькі выданні прызначаліся шырокаму чытацкаму колу. Якраз прыкладам такога выдання з'яўляецца *Herbarius* — збор звестак аб лекавых якасцях раслін. Аўтар тэксту *Гербарыя* не названы, але мяркуецца, што гэта быў франкфурцкі доктар Іаган Вонекен фон Кубэ і што ініцыятарам выдання стаўся дэкан Майнцкага сабора Бернард фон Брэйдэнбах. Магчыма, што ён замовіў медыку скласці гербарый, выкарыстаўшы творы знакамітых дактароў старажытнасці і сярэднявечча.

*Гербарый* утрымлівае 150 контурных гравюр, якія дапаўняюцца тлумачальным тэкстам. Кніга пабудавана выключна дакладна. Гравюры размешчаны ў верхняй частцы кожнай няцотнай старонкі, пад імі пачынаецца тэкст, які мае працяг на адвароце гэтай старонкі. Некаторыя ілюстрацыі ў кнізе Шофера



былі хутчэй за ўсё скапіраваны з рукапісных крыніц, але многія з іх замалёўваліся з натуры, што з'яўлялася незвычайным для таго часу. Усе гравюры змешчаны ў першым раздзеле кнігі, а ў другім раздзеле апісаны іншыя лекавыя сродкі, якія атрымліваюць з садавіны, семя, каранёў, мінералаў, камянёў і ўключна цел жывёл. На жаль, прадмова ў экземпляры НББ адсутнічае. Але з іншых ацалелых экземпляраў вядома, што ў ёй паведамлялася аб прызначэнні кнігі людзям, якія не мелі сродкаў на аплату дактароў і лекаў, але маглі карыстацца травамі, што лёгка знайсці ў садах, лясах і лугах. Кніга была заўважана і яе адразу ж пачалі перавыдаваць у розных друкарнях.

Італьянскі сярэднявечны друк прадстаўлены ў фондзе НББ пяццю друкарскімі цэнтрамі — Балоння, Венецыя, Рым, Трэвіза, Фларэнцыя — з 11 друкарнямі. У італьянскай калекцыі НББ знаходзяцца такія сусветна вядомыя кнігі, як *Rollewinck, Werner. Fasciculus temporum* (Venezia, 1485) ці *Dante Alighieri. La commedia* (Firenze, 1481). Паколькі кнігадрукаванне ў Італіі XV ст. было справай пераважна іншаземцаў, якія заняліся перавыданнем твораў класічных аўтараў, на калафонах італьянскіх друкаў НББ можна ўбачыць такія імёны, як Мікалай Енсэн (Nicolaus Jensen), Эўхарый Сілбер (Eucharius Silber), Іаган Рубэус (Johannes Rubeus), Томас дэ Блавіс (Tomas de Blavis), Эрхард Ратольт (Erchardus Ratholt), Іаган фон Кёльн (Johann von Koln), Іаган Мантэн (Johann Manthen). З пералічаных з першай генерацыі італьянскіх друкароў выдзелім вучня Гутэнберга Н. Енсэна, кніга якога *Gregorius IX, Papa. Decretales* (Venezia, 1475) захоўваецца ў аддзеле рукапісаў, рэдкай кнігі і старадрукаў бібліятэкі.

Кніга з фонду НББ *Rollewinck, Werner. Fasciculus temporum* (Venezia, 1485), якая карысталася вялікай папулярнасцю ў Еўропе і ў ВКЛ, з'яўляецца ўзорам самастойнай працы яшчэ аднаго з прыезжых друкароў Італіі — Эрхарда Ратольта, ураджэнца Аўгсбурга, сына аўгсбургскага сталяра і рэзчыка драўлянай скульптуры. Паміж 1471 і 1475 гг. ён працаваў у Нюрнбергу ў друкарні, заснаванай нямецкім матэматыкам Іаганам Мюлерам, больш вядомым як Рэгіёмантан. З 1475 г. Ратольт распачаў сваю справу ў Венецыі, а ў 1476 г. ён увёў у італьянскую кнігу арнаментаваную рамку, ініцыялы і першы поўнасцю афармлены тытульны аркуш з назвай і годам выдання, імем аўтара і друкара. Паводле якасці выканання яго дэкаратыўнае майстэрства значна апярэджвала час. Ратольт клапаціўся аб прыгажосці і зручнасці шрыфтоў, таму спрацііў гатычную фрактуру і наблізіў яе да класічных форм італьянскай антыквы. У кнізе змешчаны 2 гравіраваныя ініцыялы і 65 дрэварытаў у тэксце. Венецыянскія выданні *Звязкі часоў* каштоўныя тым, што змяшчаюць вывы Венецыі, якія не паўтараюцца ў іншых выданнях гэтага твора.

Прадстаўлены ў калекцыі НББ экземпляр *Камедыі* — адзін з 150 тысяч выданняў гэтага твора, якія выйшлі ў свет у XV ст. Да таго ж гэта першая

кніга, надрукаваная Міколам дэ Ларэнца ў родным горадзе паэта, і адно з самых ранніх выданняў з гравюрамі на метале, якія так і не сталі папулярнымі да сярэдзіны XVI ст. Першым выданнем з медзярытамі лічыцца кніга гэтага ж друкара *Bettinus. Monte Sancto di Dio* (Florence, 1477). Гравюры ў выданні *Камедыі* выкананы Мазо Фінічэры, майстрам школы Бача Балдыні, паводле малюнкаў знакамітага мастака С. Батычэлі. Лічыцца, што мастаком былі зроблены ілюстрацыі толькі да першых двух раздзелаў кнігі. У экземпляры НББ засталіся сляды ад клею і прэса на аркушах [225] з раздзела *Purgatorio*, а таксама на [331] з раздзела *Paradiso*, што дае нам падставы выказаць меркаванне аб магчымай наяўнасці гравюр на гэтых месцах да рэстаўрацыі кнігі.

У НББ захоўваюцца папулярныя ў XV ст. выданні, якія прадстаўляюць швейцарскі горад Базель: *Ambrosius, episcopus Mediolanensis. Opera* (1492), *Augustinus, Aurelius. Epistolae* (1493), *Bernardinus Senesis. Sermones de evangelio æterno* (ca 1490/1495), Gregorius I, Papa. *Moralia sive Expositio in Iob* (1496), *Nider, Johannes. Præceptorium divinae legis sive Expositio decalogi* (ca 1470). Дзесяць экземпляраў швейцарскіх кніг, што знаходзяцца ў фондзе, былі выдадзены такімі вядомымі друкарамі, як Бертольд Рупель (Berthold Ruppel), Іаган Амербах (Johann Amerbach), Міхаэль Венслер (Michael Wenssler), Мікалай Кеслер (Nicolaus Kessler), Петэр Колікер (Peter Kollicker).

Унікальная кніга *Nider, Johannes. Præceptorium divinae legis sive Expositio decalog* Бертольда Рупеля з Ханау (які адкрыў першую друкарню ў Базелі не пазней за 1468 год) уваходзіць у склад калекцыі інкунабулаў НББ. Базель быў універсітэцкім горадам і таму Б. Рупель выпускаў у свет пераважна вучэбную, навуковую і рэлігійную літаратуру. Мяркуецца, што ён быў адным з работнікаў у І. Гутэнберга. Да 1471 г. у Базелі было надрукавана толькі 11 выданняў памерам у folio. У свеце налічваецца ўсяго 16 назваў кніг, якія выйшлі з-пад прэсаў друкарні Рупеля. А такія адметныя экземпляры з фонду НББ, як *Bernardinus Senesis. Sermones de evangelio aeterno*, Gregorius I, Papa. *Moralia sive Expositio in Iob* утрымліваюць першую ў Швейцарыі добра вядомую даследчыкам друкарскую марку Мікалая Кеслера, яшчэ аднаго знакамітага выдаўца XV ст.

У калекцыі НББ прадстаўлены французскія выданні з друкарняў Іагана Ментэліна, Марціна Шота, Хейнрыха Грана, што размяшчаліся ў двух цэнтрах — Страсбургу і Агено (Haguenau). Самым вядомым сярод пералічаных быў Іаган Ментэлін, які нарадзіўся каля Майнца паміж 1420—1430 гг., а ў 1447 г. перасяліўся ў Страсбург. Ён быў залатапісцам, а гэта прафесія карысталася вялікім попытам у эпоху рукапіснай кнігі. Існуе меркаванне, што Ментэлін асвоіў друкарскую працу, выконваючы абавязкі ілюмінатара і каліграфа для Гутэнберга ці ў яго страсбургскі перыяд да 1450 г., ці пазней — у Майнцы.



Збор інкунабулаў НББ паводле зместу даволі разнастайны. Ён уключае біблейскія тэксты і каментарыі да іх, творы філосафаў — Аўгусціна Аўрэлія, Арыстоцеля, Пятра Ламбардскага, Плутарха, Фамы Аквінскага, Цыцэрона і інш., мастацкую літаратуру, юрыдычныя і гістарычныя працы.

Мастацкая літаратура прадстаўлена *Боскай камедыяй* Дантэ Аліг'еры і таксама ўжо згаданым раней грэчаскім раманам *Гісторыя Апалонія, караля Тырскага*. Пераклад на нямецкую мову гэтага рамана быў зроблены нямецкім гуманістам Генрыхам Штайнгавелем, які вучыўся ў Вене і Падуі і атрымаў папулярнасць дакладнымі і якаснымі перакладамі антычных і італьянскіх твораў.

Кнігі *тэалагічнага* зместу складаюць больш за палавіну ўсіх выданняў — іх 30 экземпляраў. Гэта невыпадкова, таму што, па-першае, друкаваная кніга мусіла заваёўваць свайго чытача, які прызвычаіўся да багата арнаментаванага рукапіснага тэалагічнага ці літургічнага тэксту. Па-другое, мэтай самых першых друкароў было перавыданне раней напісаных кніг, попыт на якія заставаўся незадаволеным. Да таго ж перадрукоўка рукапісных тэкстаў была справай больш таннай і лёгкай, чым пошук новых аўтараў.

У калекцыі НББ сярод найбольш значных першадрукаў можна вылучыць выданне Плутарха *Vitae illustrum virorum* (Venezia, 1491). Гэтая праца займае галоўнае месца ў яго творчасці. Тут змешчаны жыццяпіс знакамітых людзей Грэцыі і Рыма. Пры гэтым ён дае паралельную характарыстыку грэчаскіх і рымскіх дзеячаў, падобных становішчам ці характарамі, ацэньвае перш за ўсё маральны бок іх жыцця. Плутарх тут больш мараліст, чым гісторык. І калі да біяграфічных фактаў можна паставіцца насцярожана, дык нельга не ацаніць ужытыя аўтарам фрагменты твораў, што не захаваліся да нашых дзён.

Яшчэ адзін значны твор збору НББ — Rollewinck, Werner. *Fasciculus temporum (Звязка часоў)* (Venezia, 1485). Гэта універсальная храналогія, якая працярпела шмат выданняў, а ў 1514 г. была дапоўнена Лінторыюсам і перавыдадзена. Асаблівую цікаўнасць уяўляюць змешчаныя на 64 аркушах звесткі аб пачатку кнігадрукавання (*Artifices mira celeritate subtiliores solito sunt. Et impressores librorum multiplicant in terra. Надзвычай тонкае і цудоўнае рамяство, якое хутка памножыла колькасць друкаваных кніг у свеце*). Калі ўлічыць, што друкарская справа з'явілася ў Італіі ў 1465 г., а ў Венецыі ў 1469 г., такое сцверджанне можна прызнаць адметным прадбачаннем і даволі дакладнымназіраннем. Да нас дайшло трыццаць тры выданні гэтага твора, і прызначаліся яны пераважна клірыкам, аб чым сведчыць лацінская мова большасці з іх і невялікая колькасць ілюстрацый.

Адной з адметных кніг у калекцыі НББ з'яўляецца праца найвялікшага філосафа і вучонага антычнасці Арыстоцеля — *De animalibus* (Venezia,

1476). Гэта адзін з тых шчаслівых твораў, якія чыталіся на працягу стагоддзяў (напісаны ў 330-я гг. да н. э., ён выкарыстоўваўся нават у XVIII ст.). У зборы НББ захоўваюцца і іншыя каштоўныя кніжныя помнікі гуманістычнага Адраджэння з творамі антычных аўтараў. Сярод іх кніга з трактатамі Марка Тулія Цыцэрона, старажытнарымскага аратара і палітыка, якая выдадзена ў Венецыі ў 1485 г. *Cicero Marcus Tullius. De oratore etc*. Тут змешчаны працы, якія адлюстроўваюць багаты вопыт антычнай рыторыкі і асабісты практычны досвед аўтара, што дае падставы лічыць кнігу вартай увагі не толькі кнігазнаўцаў, але і гісторыкаў, літаратуразнаўцаў і моваведаў. Трактаты *Аб красамоўстве*, *Аб аратары*, *Брут*, *Аратар* сведчаць аб тым, што асноўную ўвагу ён удзяляе канкрэтнай асобе-аратару — ідэалу антычнасці, чалавеку-грамадзяніну, чалавеку слова і справы, у якім ёсць як філасофская глыбіня ведаў, так і практычны навык дзеяння. Такі вобраз застаўся на стагоддзі ўвасабленнем антычнага гуманізму.

Многія выданні ўтрымліваюць даволі аб'ёмныя *гласарыі*, аўтары якіх — вядомыя вучоныя гуманісты: Акурсій Фларэнтыйскі (Accursius Florentinus), Бернард Парменсій (Bernardus Parmensis), Хрыстафор Ландына (Christophorus Landinus), Амнібон Леаніцэн (Omnibonus Leonicenus). Сярод гэтых славутых асоб асабліва вылучаецца імя фларэнтыйца Хрыстафора Ландына, італьянскага філолага, юрысконсульта і літаратара, які, дзякуючы пратэкцыі Космы Медычы, вывучыў філасофію і паэтыку. Пазней ён з'яўляўся адным з самых уплывовых членаў Акадэміі, выкладаў літаратуру ў фларэнтыйскім універсітэце, унёс вялікі ўклад у адраджэнне італьянскай літаратуры. Хрыстафор Ландына дасягнуў значных поспехаў у творчасці і яшчэ пры жыцці здабыў шырокую вядомасць. Яго каментар да *Камедыі* Дантэ, напісанай і выдадзенай на італьянскай мове, лічыцца выдатным узорам літаратуразнаўчай працы.

Пры апрацоўцы кніг высвятляліся не толькі дакладныя бібліяграфічныя даныя экземпляраў, але і гісторыя іх з'яўлення ў фондах. Тут неацэнную ролю выконваюць правененцыі, якія абавязкова ўваходзяць у парадыгму навуковай апрацоўкі выдання. У апісанне кнігі ўключаліся тры асноўныя групы правененцый паводле іх функцыянальна-эстэтычных прыкметаў[6]: надпісы, дэвізы і іншыя рукапісныя запісы; экслібрысы, ярлыкі, штампы і пячаткі; аправы з суперэкслібрысамі, манаграмамі і іншымі знешнімі прыкметамі ўладальніка.

У працэсе вывучэння экземпляраў высветлілася наступнае: маргінальныя запісы, праўкі XV—XVI стст. чорным і чырвоным чарнілам маюць 40 выданняў. Гэта пацвярджае, што яны правіліся перапісчыкамі-карэктарамі — першымі чытачамі кнігі. Ёсць маргіналіі XVI—XVII стст., якія сведчаць аб актыўным выкарыстанні экземпляра. Асабліва трэба адзначыць кнігу *Herbarius Moguntiae impressus* (Mainz, 1484), дзе назвы 150 лекавых раслін запісаны чарнілам ад рукі па-польску ў XVIII ст. У чатырох выданнях



змешчаны рукапісныя глосы, прычым многія з іх рабіліся рознымі почыркамі, што падкрэслівае вельмі ўважлівае вывучэнне гэтага твора карыстальнікамі, магчыма студэнтамі. Трэба адзначыць, што маргіналіі сярэднявечнага чытача адрозніваюцца ад сучасных: мы звычайна выражаем сваё стаўленне да прачытанага, наш продак стараўся дапоўніць аўтара ці каментатара для лепшага разумення сэнсу твора. Ва ўсіх кнігах ёсць паметы ранейшых бібліятэк, 8 з іх утрымліваюць і ярлыкі з расстановачнымі шыфрамі, а 7 выданняў прадавалася на аўкцыёне і маглі быць набыты грамадзянамі нашай краіны. У 13 кнігах можна ўбачыць падкрэсліванні ў тэксце, а ў выданні *Камедыі* Дантэ — паметы тыпу «спроба пяра». 15 выданняў раней належалі прыватным асобам, 4 адзінкі — уладальнікам з Германіі, 3 — з Польшчы, 2 — з Расіі і па адной — з Англіі і Францыі. Навучальным, рэлігійным і іншым установам належала 11 кніг. З іх 8 — установам Германіі, 1 — Аўстрыі, 1 — Англіі і 1 — Нясвіжскай ардынацыі на Беларусі. Аправы 27 кніг з'яўляюцца аўтэнтычнымі, прычым пяць з іх утрымліваюць фрагменты рукапісаў, а ў дзвюх рэстаўраваных захаваліся фрагменты скуры XV ст. На вечках чатырох выданняў змешчаны суперэкслібрысы.

Збор інкунабулаў з кніжнай калекцыі НББ, з'яўляючыся гісторыка-культурнай каштоўнасцю, служыць карыснай крыніцай для вывучэння сярэдневяковай гісторыі культуры Беларусі.

### Поўны рэестр інкунабулаў, што захоўваюцца ў НББ[7]

AMBROSIUS, episcopus MEDIOLANENSIS. Opera. Basel : Johann Amerbach, 1492. T. 1—3. 268, 302, 290 f. (094/1022; 094/1023; 094/1024).

ANSELMUS CANTUARIENSIS. Opera. [Basel : Johann Amerbach, Non post 1497]. 208 f. (094/3648).

ANTONIUS FLORENTINUS. Chronicon. Nürnberg : Antonius Koberger, 31 VII 1484. 260 f. (094/1027).

APOLLONIUS von TYROS. Historia Apollonii regis Tyri. Augsburg : Gunter Zainer, 1471. 30 f. (094/1037).

ARISTOTELES. De animalibus. Venezia : Johannes de Colonia et Johannes Manthen, 1476. 252 f. (094/1005).

ASCONIUS PEDIANUS, QUINTUS. Commentarii in orationes Ciceronis … Venezia : Johann von Koln et Johann Manthen, [Post 2 VI 1477]. 184 f. (094/1008).

ASTESANUS. Summa de casibus conscientia. [Strassburg : Johann Mentelin, non post 1473]. 422 f. (094/1032).

AUGUSTINUS, AURELIUS. Epistolæ. Basel : Johann Amerbach, [14]93. 328 f. (094/1014).

AZO, PORTIUS. Summa super Codice Institutis. Speyer : Peter Drach, 1482. 324 f. (094/1031).

BAPTISTA DE SALIS. Summa casuum conscientiæ : Acced. Sixtus IV Papa. Bulla. Roma, 30 XII 1479. Nürnberg : Anton Koberger, Die Tiburtii et Valeriani [14 IV] 1488. 276 f. (094/1013).

BERNARDINUS SENESIS. Sermones de evangelio æterno. Basel : Nicolaus Kessler, [ca 1490/1495]. 300 f. (094/1020).

BARTHOLOMAEUS DE SANCTO CONCORDIO. Summa de casibus conscientiæ. [Augsburg : Gunter Zainer], 1475. 192 f. (094/1026).

BRUNUS ARETINUS, LEONARDUS. Historiæ Florentini populi. Venezia : Jacobus Rubeus, 12. II. 1476. [218] f. (094/1007).

CAMPANUS, JOHANNES ANTONIUS. Opera. — Cum additionibus. Roma : Eucharius Silber, expensis Michael Fernus, Pridie Kal. Nov. [31 X] 1495. T.1 — 7. (094/1012).

CARRACCIOLUS, ROBERTUS. Sermones quadragesimales de poenitentia. Strassburg : [Martin Schott], III. Non. Sept. [3 IX] 1485. [302] f. (094/364).

CASTIGLIONE, GIROLAMO DE. Fiore di Terra Santa : Cum præfatione latina. Roma : Eucharyus Sylber, [post 2 V 1491]. 50 f. (094/3916).

CHRONICA. [Kolnische Chronik] : Die Cronica van der hilliger Stat van Coellen. Koln : Johann Koelhoff, 23 VIII 1499. 362 f. (094/1002).

CICERO, MARCUS TULLIUS (106 — 43 a. ae. n.). De oratore etc. Venezia : Thomas de Blavis, 16 V 1488. 212 f. (094/1010).

CORPUS IURIS CIVILIS. Codex Iustiniani. Nürnberg : Anton Koberger, III. Kal. Febr. [30 I] 1488. [3], 402 f. (094/1017).

CORPUS IURIS CIVILIS. Iustiniani Institutiones. Basel : Michael Wenssler, 1486. [1], 102 f. (094/1018).

DANTE ALIGHIERI. La commedia. Firenze : Nicolaus Laurentius, Alamanus, 30 VIII 1481. 372 f. (094/1029).

DURANDUS, GUILELMUS. Rationale divinorum officiorum. Ulm : Johann Zainer, 18 III 1475. 257 f. (094/1035).

GREGORIUS IX, PAPA). Decretales. Venezia : Nicolaus Jenson, 1 III [non ante 8 III] 1475. 306 f. (094/1034).

GREGORIUS I, PAPA. Moralia sive Expositio in Iob. Basel : Nicolaus Kessler, 1496. 364 f. (094/1015).

HERBARIUS MOGUNTIÆ IMPRESSUS. Mainz : Peter Schoeffer, 1484. 150, [16] f.; il. (094/3647).

JACOBUS DE JUETERBOG. De animabus exutis a corporibus sive De apparitionibus receptaculis anumarum. [Esslingen : Konrad Fyner, 1475/1476 ?]. (094/1040).



LEONARDO DE UTINO. Sermones aurei de sanctis. [Augsburg : Monasterium St. Ulrici et Afrae], 1474. 430 f. (094/1019).

LUDOLPHUS DE SAXONIA. Vita Jesu Christi. Koln : Nicolaus Gotz, Philippi Jacobique profesto, [30 IV] 1474. T.1. 238 f. 094/1025.

MARCHESINUS, JOHANNES. Mamotrectus super Bibliam. [Basel : Peter Kollicker, Ca 1484]. 258 f. (094/1039).

NIDER, JOHANNES. Præceptorium divinæ legis sive Expositio decalogi. Basel : Berthold Ruppel, Ca 1470. 329 f. (094/1036).

PETRUS LOMBARDUS. Sententiarum libri IV. Nürnberg : Anton Koberger, 10. V. 1481. [169] f. (094/1003).

PLATINA, BARTHOLOMAEUS. Vitae pontificum. [Treviso] : Johannes Rubeus, 10 II 1485. 136 f. (094/1006).

PLUTARCHUS. Vitae illustrum virorum. Venezia : Giovanni Ragazzo pro Lucantorio Giunta, 7 XII 1491. 290 f. (094/102).

PSALTERIUM. LAT. [Nürnberg] : Anton Koberger, 1497. 172 f. (094/3648).

RAINERIUS DE PISIS. Pantheologia sive Summa universae theologiae. Nürnberg : Johann Sensenschmidt et Heinrich Kefer, VI. Id. Apr. [8 IV] 1473. 422. P.2. (094/1033).

RAMPEGOLLOS, ANTONIUS. Aureæ Biblia sive Repertorium bibliorum. Ulm : Johann Zainer, Die altera post Viti et Modesti martyrum, [16 VI] 1475. 160 f. (094/1004).

ROLLEWINCK, WERNER. Fasciculus temporum. Venezia : Erhardus Ratdolt, 1485. [8], 66 f. (094/1001).

THOMAS DE AQUINO. Catena aurea super quattuor evangelistas. [Esslingen : Konrad Fyner, Ca 1475]. 417 f. (094/1030).

SHEDEL, HARTMANN. Liber chronicarum. Nürnberg : Anton Koberger, 12 VII 1493. 326 f. (094/1028).

WANN, PAULUS. Sermones de tempore. Hagenau : Heinrich Gran pro Johanne Rynman, 16 X 1499. 266 f. (094/1038).

[1] Падлікі зроблены даследчыкамі П'ерам-Клодам-Франсуа Дуну (Pierre-Claude-François Dounou) у яго працы *Essai sur l'imprimerie* і аргенцінскім даследчыкам Эскаларам Сабрынам (Escolar Sobrino).

[2] Сводный каталог инкунабул небольших собраний, хранящихся в библиотеках СССР. Москва, 1982.

[3] Каталог выданняў XV—XVI стагоддзяў: з фондаў Гродзенскага дзяржаўнага музея. Слонім, 2003.

[4] Levarie N. The Art and History of Books. New York, 1968.

[5] Legmann-Haupt, Helmut. Peter Schoeffer of Geimshein and Mainz. Rochester, N. I., 1950.

[6] Pearson, D. Provenance research in book history. London, 1994.

[7] Пры ўкладанні рэестра мы карысталіся наступнымі выданнямі: Gesamtkatalog der Wiegendrucke; Herausgegeben von der Kommission fur der Wiegendrucke, Hiersemann. Leipzig, 1925—1940. Т. 1—81; Brunet, J.-C. Manual du Libraire et de l'Amateur de Livres. 4 ed. Paris, 1842—1844. Т. 1—5; Incunabula quae in bibliothecis Poloniae asservantur. Wratislawa; Varsavia; Cracoviae, 1970. Т. 1—2; Stillwell, M. B. Incunabula in American Libraries. New York, 1940.

**_І. А. Сынкова_**

## ІНКУНАБУЛЫ Ў ФОНДАХ ЦНБ НАН БЕЛАРУСІ

Артыкул прысвечаны апісанню кніг першага этапу еўрапейскага кнігадрукарства (XV ст.), якія маюць найменне «інкунабулы» і з'яўляюцца як гістарычнымі помнікамі, так і творамі мастацтва[1].

Пералічым агульныя рысы, характэрныя для вонкавага выгляду інкунабулаў (першадрукаў). Значная колькасць першадрукаў выканана in-folio[2]. У многіх з іх адсутнічае звыклы для сучаснага чытача тытульны аркуш з выходнымі данымі (месца і час выдання, імя друкара). Ён з'яўляецца ў 70-х гг. XV ст., але шырока распаўсюджваецца і ўкараняецца ў друкарскай практыцы толькі ў наступным стагоддзі. У многіх выпадках выходныя даныя знаходзяцца ў канцы кнігі, у калафоне. Дата выхаду кнігі часта змяшчае не толькі год, але таксама месяц і дзень. Тэкст, як правіла, не мае абзацаў; з новага радка пачынаецца толькі новы раздзел. Усе гэтыя асаблівасці першадрукі атрымалі ў спадчыну ад рукапісных кніг Сярэднявечча, вонкавы выгляд якіх яны пераймалі. Падабенства ўзмацнялася яшчэ дзякуючы шматлікім рукапісным дадаткам. Ілюмінатары ўпісвалі маляўнічыя ініцыялы, разрысоўвалі старонкі рознакаляровымі бардзюрамі і віньеткамі, афарбоўвалі ад рукі надрукаваныя гравюры. Рубрыкатар вылучаў чырвонай фарбай новыя радкі і вялікія літары. Першыя кнігі друкаваліся гатычным шрыфтам, які быў у XV ст. прадстаўлены мноствам гатункаў. У некаторых краінах узнікалі свае нацыянальныя формы, але шрыфты адрозніваліся ў кожнага друкара і маглі быць індывідуальнымі для канкрэтнага выдання.

На працягу XV ст. першадрукары паступова выпрацоўвалі прынцыпы і правілы новага мастацтва — мастацтва друкаванай кнігі. Інкунабулы захоўваюць спецыфічныя рысы (шэраг своеасаблівых мастацкіх вартасцей надаюць ім цэласнасць мастацкага твору), якія адрозніваюць іх як ад рукапісных кніг Сярэднявечча, так і ад друкаваных кніг наступных стагоддзяў. Яны маюць асобую арганічнасць і непаўторную выразнасць знешняга афармлення[3].

Калекцыя заходнееўрапейскіх старадрукаў у ЦНБ НАН Беларусі прадстаўлена чатырма інкунабуламі, якія выдадзены на тэрыторыі Свяшчэннай Рымскай імперыі, і адзіным, які выдадзены ў Італіі. Адзін з гэтых інкунабулаў паходзіць са Страсбурга (другога горада пасля Майнца, дзе пачалося развіццё друкарства). Ён даволі хутка зрабіўся буйным цэнтрам гэтай новай справы. У XV ст. тут працавала звыш за 20 умелых майстроў[4].



Страсбургскае выданне — гэта даволі папулярны ў познім Сярэднявеччы твор на лацінскай мове «Тлумачэнне божых службаў»[5] Г. Дзюрана[6].

У гэтым творы разглядаецца структура царкоўнага будынка і яго аснашчэнне, царкоўныя саны і адзенне святароў, парадак набажэнства, царкоўныя абрады і святы на працягу года, каляндарныя разлікі і г. д. Асаблівая ўвага ў ім надаецца іх сімвалічнаму і містычнаму значэнню. Аўтар адзначае таксама важную ролю рэлігійнага мастацтва («карціны і аздабленні ў царкве — гэта грамата [літ. чытанне і пісьмо] для простых людзей», яны даюць магчымасць праз зрок далучыцца да разумення найвышэйшай ісціны[7]). Заслуга аўтара ў тым, што ён дакладна апісаў усе цырымоніі і абрады. Кніга знайшла шырокае распаўсюджванне і была перакладзена на нацыянальныя мовы. З пачаткам кнігадрукавання яна была выдадзена адной з першых (Майнц, друкарня Фуста і Шофера, 1459 г.). На працягу другой паловы XV ст. яна друкавалася яшчэ некалькі разоў.

Асобнік з фондаў акадэмічнай бібліятэкі быў выдадзены Г. Хуснерам[8] у Страсбургу ў 1484 г. У гэтым выданні, як і ў большасці інкунабулаў, тытульны аркуш адсутнічае. Назва твора адзначана ў першым сказе, які знаходзіцца перад пралогам і выконвае ролю тытула («Incipit rationale divinorum officiorum Guilhelmi Minatensis Ecclesie episcope»). Выходныя звесткі знаходзяцца ў калафоне. Пераплёт больш позні: дошкі, абцягнутыя цёмна-карычневай пацёртай скурай з рэшткамі ціснення. На вечках захаваліся рэшткі металічных засцежак. Пераплёт вельмі пашкоджаны. На верхнім і ніжнім вечку «праглядваецца» арнаментальная рамка, у цэнтры верхняга вечка — сляды суперэкслібрыса.

Папера з вадзянымі знакамі здавальняючай захаванасці. Некаторыя аркушы падклееныя. Папера месцамі ў падцёках. Фаліяцыя лацінскімі лічбамі ў верхніх ражках аркушаў. Набор у дзве калонкі. Друк у адну фарбу гатычным шрыфтам. Выданне аздабляюць дзевяць намаляваных чырвонай фарбай ініцыялаў, якімі адкрываюцца прадмова і восем кніг.

Каля 50 рукапісных «ініцыялаў», напісаныя карычневым чарнілам, пачынаюць раздзелы, але значная колькасць ініцыялаў наогул адсутнічае (не намаляваны). Характар гэтых «аздабленняў» указвае на непрафесійнасць выканаўцы, хутчэй за ўсё гэта было зроблена кімсьці з былых уладальнікаў для зручнасці чытання. Вядома, што ў друкарнях ілюмінатары дэкарыравалі толькі частку тыражу. «Паколькі поўная разрысоўка кніг ініцыяламі каштавала дорага, то ў большасці экземпляраў, якія дайшлі да нашага часу, гэтыя белыя квадраты засталіся незапоўненымі…»[9]. Такім чынам, у продаж паступалі кнігі з рознай ступенню дэкаратыўнага афарм-

лення. Часам на месцах для ініцыялаў ставіліся невялічкія літары (так званыя «рэпрэзентанты»), якія пісаліся для ілюмінатара ў якасці падказкі.

На асобных аркушах чырвонай фарбай вылучаны вялікія літары (у асноўным на першых аркушах кніг). На першым аркушы маецца рукапісны запіс XVII ст.: «Набыта ў Казіміра Спачэўскага (?) 1635» і далей неразборліва. На палях многіх аркушаў знаходзяцца рукапісныя надпісы, некаторыя з іх абрэзаны, што сведчыць пра іх больш ранняе напісанне (да пераплёту).

Кніга раней уваходзіла ў кнігазбор Радзівілаў. Аб гэтым сведчыць экслібрыс з ўнутранага боку верхняга вечка з выявай герба і надпісам «Biblioteka Ordynacji Nieswieskiej» і з такім жа абазначэннем авальная пячатка чырвонага колеру на аркушы 8а[10].

З друкарні Антона Кобергера[11] ў Нюрнбергу выйшла ўпершыню ў 1493 г. «Сусветная хроніка»[12] Гартмана Шэдэля[13]. «Хроніка» Шэдэля, як і творы многіх іншых гісторыкаў гэтай эпохі, змешвае сярэдневяковыя і рэнесансныя рысы. У цэлым у ёй узнаўляецца традыцыйная гістарыясофская схема: развіццё грамадства разглядаецца ў лінейным руху ад стварэння Богам усяго існага да сучаснасці (г. зн. да канца XV ст.) з адзначаным у цьмяной перспектыве будучыні «канцом свету»; чалавечы род за гэты час праходзіць праз шэсць перыядаў («шэсць узростаў»), апошні — шосты перыяд — пачаўся з прыходам Хрыста і павінен скончыцца з яго «другім прышэсцем» і Страшным Судом. Але ў гэтай кнізе Шэдэль таксама паведамляе пра выдатных сучасных вучоных і пра новыя геаграфічныя адкрыцці.

Для гэтага твора характэрна надзвычай некрытычнае стаўленне да гістарычных крыніц. Як адзначаюць даследчыкі, «…у хроніцы Шэдэля ўзноўлены ўсе сярэднявечныя легенды, басні, усе забабоны, якія былі абвергнуты і асуджаны сучаснымі яму італьянскімі гуманістамі»[14].

У творы Г. Шэдэль надаў увагу гістарычнаму і геаграфічнаму апісанню Рэчы Паспалітай, якую ён называе «Сарматыя». Вялікае княства Літоўскае разам з Каралеўствам Польскім двойчы ўзгадваецца ў тэксце (на арк. 279—280 і на ненумараваных укладных аркушах паміж 266 і 277 арк.). Пры апісанні тэрыторыі Сарматыі аўтар блытае інфармацыю з розных крыніц, і калі заходнія, паўднёвыя і паўночныя рубяжы дзяржавы пазначаюцца ў адпаведнасці з рэчаіснасцю, то ўсходнюю (не паўднёвую!) мяжу ён адносіць да Дона[15]. Шэдэль узгадвае і пра суровы клімат, і пра велізарныя лясы, у якіх ходзяць статкі «бізонаў». Паведамляючы пра розныя гістарычныя падзеі, ён больш клапаціўся аб займальнасці апавядання, чым аб правільнасці фактаў, і ў некаторых выпадках гэта не пазбаўлена пэўнай тэндэнцыйнасці. Так, напрыклад, Шэдэль даволі шмат месца адводзіць апавяданню пра тое, як стаў каралём польскі князь. Паводле версіі нямецкага гісторыка, Баляслаў, які правіў Польшчай у тыя часы, устроіў надзвычай шчодры і пышны прыём імператару Атону. Расчулены «веліччу душы» польскага валадара, галава Свяшчэннай Рымскай імперыі ўручыў гасціннаму гаспадару каралеўскія рэгаліі — скіпетр і карону. Такім чынам, нямецкі імператар выступае ў якасці «патрона» ў адносінах да польскага караля. Палітычная падаплёка гэтага аповеду відавочна. Але калі суаднесці гэта з гістарычным фактам — абвяшчэннем сябе каралём, на якое адважыўся Баляслаў, то ўся цікавая гісторыя, якую расказаў Шэдэль, з'яўляецца не чым іншым, як міфам. Абражаныя кпінамі італьянцаў з невуцтва і грубасці германскіх «варвараў», нямецкія гуманісты ўмацоўвалі свой патрыятычны дух спецыфічнымі гістарычнымі «даследаваннямі». Г. Бебель у двух сваіх творах («Пра аўтахтоннасць немцаў», «Пра славу, старадаўнасць і дзеянні немцаў») не толькі абараняў ідэю культурнай незалежнасці немцаў ад рымлян, але даказваў уплыў немцаў на Рымскую імперыю і запэўніваў у паходжанні многіх народаў ад нямецкага. Такія пасажы пацвярджаюць думку вядомага рэнесансазнаўцы П. Крыстэлера пра «рытарычны», г. зн. пераважна мастацкі, але не навуковы характар гуманістычнай гістарыяграфіі[16].



Трэба адзначыць, што менавіта ў выданні шэдэлеўскага твора ўпершыню ў гісторыі кнігадрукарства былі пазначаны ў калафоне імёны мастакоў. «Хроніка» з яе 1809 гравюрамі стала самай багата ілюстраванай кнігай XV ст. Ілюстрацыі змяшчаюць біблейскія сюжэты ад стварэння свету, падзеі старажытнай гісторыі і шматлікія «партрэты». Асобнае месца займаюць выявы гарадоў, з якіх адны з'яўляюцца плодам фантазіі мастака, іншыя — аўтэнтычныя[17]. Ксілаграфіі (на дзвюх старонках) паказваюць многія месцы ў Еўропе і Азіі. Асабліва прыкметныя выявы нямецкіх гарадоў, якія, відавочна, былі зроблены на аснове замалёвак з натуры. Прыём шматзначнага выкарыстоўвання ілюстрацый шырока ўжываўся ў выданнях XV ст. «Хроніка» Шэдэля ставіць у гэтых адносінах рэкорд — з 1809 гравюр гэтай кнігі 1164 з'яўляюцца паўторамі. Тытульны аркуш з гравюрай у асобніку з фондаў акадэмічнай бібліятэкі адсутнічае.

У кнізе змешчаны дзве карты ў выглядзе ксілаграфій: карта свету і карта Германіі. Апрача шматлікіх ксілаграфій выданне аздоблена гравюрнымі застаўкамі і намаляванымі чырвонай і сіняй фарбай адна- і двухкаляровымі ініцыяламі. Самы вялікі ініцыял (8,5×7,5 см) пачынае пралог. Рознакаляровы ініцыял з ціснёнай залатой фольгай упрыгожвае аркуш 267. На некаторых аркушах знаходзяцца даволі вялікія двухкаляровыя ініцыялы (5×5 см) з запоўненай арнаментам унутранай прасторай і ўзорнымі адгалінаваннямі, якія адыходзяць на палі. Мноства больш простых ініцыялаў розных памераў на працягу ўсяго тэксту надаюць вонкаваму вобразу дэкаратыўнасць і прыгажосць. На першым аркушы гатычным пісьмом зроблены ад рукі надпіс,

пачатковая літара якога падобна да мудрагелістага ўзору: «Змест гэтага твора — кнігі хронік з фігурамі і выявамі ад пачатку свету» («Registrum huius operis libri cronicarum cum figuris et ymaginibus ab initio mundi»).

Выходныя звесткі змешчаны ў калафоне. Але ў дадзеным выпадку завяршальны запіс утрымлівае яшчэ інфармацыю пра мастакоў, якія працавалі над падрыхтоўкай шматлікіх гравюр гэтай кнігі, — Міхаэля Вальгемута і Вільгельма Плейдэнвурфа.

Кніга мае мастацкі пераплёт у здавальняючым стане, але пазнейшы: кардон, абцягнуты цёмна-карычневай скурай з цісненнем у выглядзе двайной рамкі па перыметру вечка — з тонкай пазалочанай лініі і арнаментальнай (меандр) рамкі, якая выканана блінтаваным цісненнем. На карашку таксама знаходзіцца цісненне (раслінны і геаметрычны арнамент) і выціснены золатам надпіс: «HARTMANNI // [SCH]EDELI // [CH]RONICON» і ўнізе «NUREMBERGE 1493». На форзацы — карычневая мармуровая папера. Па абрэзе крапленне чырвонага і карычневага колеру.

Папера з вадзянымі знакамі здавальняючай захаванасці. Асобныя аркушы падклееныя. Папера месцамі ў падцёках і плямах. Першы аркуш, з якога пасля зместу пачынаецца асноўны тэкст кнігі, меншага за астатнія фармату. Друк у адну фарбу. Фаліяцыя ў верхніх ражках аркушаў. Пасля аркуша 266 маецца 5 ненумараваных. Тэкст набраны гатычным шрыфтам ў адну альбо дзве калонкі.

Рукапісны запіс карычневым чарнілам на першым аркушы адносіцца да XVI ст. (1555) і называе магчымае імя былога ўладальніка — Ліборый фон Брэдаў (Liborius von Bredow)[18]. На ўнутраным баку верхняга вечка — экслібрыс іншага былога ўладальніка — П. В. Губара. На старонках кнігі, асабліва на першых аркушах, знаходзяцца шматлікія рукапісныя надпісы карычневым чарнілам.

Яшчэ адзін інкунабул акадэмічнага кнігазбору паходзіць з Любека[19]. Яго ажыццявіў С. Арндэс[20]. Любекская Біблія з'яўляецца выдатным помнікам культуры XV ст. дзякуючы шэрагу асаблівасцей. Перш за ўсё належыць адзначыць, што гэта яшчэ адна спроба перакладу Бібліі на нямецкую мову (нягледзячы на забарону друкаваць Св. Пісанне на народных мовах), пра што паведамляецца ўжо на тытульным аркушы («in dudesck averghesettet»). Усяго на працягу XV ст. было падрыхтавана 14 выданняў на нямецкай мове[21]. Але пераклад Св. Пісання ў іх рабіўся не з яўрэйскага і грэчаскага арыгінала, а з Вульгаты, лацінскага перакладу, зробленага Іеранімам паміж 390 і 405 гг. Згаданы «dudesck» быў стараніжненямецкім дыялектам, на якім размаўлялі на поўначы Германіі. Гэта акалічнасць абмяжоўвала натуральным чынам распаўсюджванне дадзенага перакладу. Другая асаблівасць гэтага выдання Бібліі — наяўнасць тлумачэнняў знакамітага французскага тэолага XIV ст., прафесара Парыжскага універсітэта Мікалая дэ Ліра (Nikolaus de Lyra) (пам. у 1340 г.), які напісаў першы поўны звод каментарыяў да ўсіх кніг Старога і Новага Запаветаў.



Любекская Біблія вядома сярод кнігазнаўцаў і бібліяфілаў як адзін з найбольш прыгожа ілюстраваных інкунабулаў («Па свайму мастацкаму ўзроўню гравюры любекскай Бібліі належаць да ліку вышэйшых дасягненняў нямецкай кніжнай графікі»)[22]. Гравюры гэтага выдання былі падрыхтаваны, як мяркуецца, двума майстрамі. Большая частка гравюр выканана невядомым майстрам, якога абазначаюць «майстрам А» любекскага выдання Бібліі, які лічыцца адным з найлепшых гравёраў XV ст. На жаль, захоўваемы ў ЦНБ НАН Беларусі экземпляр пазбаўлены ўсяго гэтага ў выніку варварскага абыходжання з ім.

Мастацкі пераплёт зроблены не пазней за XVI ст.: дошкі, абцягнутыя светлай (свіной) скурай з блінтаваным цісненнем, захаваліся рэшткі металічных засцежак, на ражках вечкаў — металічныя накладкі. Цісненне вельмі цікавае, у выглядзе некалькіх арнаментальных рамак, адна ў адной; на некаторых з іх бачны рэльефныя профілі ў прамавугольных альбо круглых рамках. Прастору паміж рамкамі запаўняе ўзор. Пераплёт на гэты час знаходзіцца ў дрэнным стане і патрабуе кваліфікаванага рамонту.

Папера з вадзянымі знакамі здавальняючай захаванасці, але месцамі ў падцёках. Літарныя сігнатуры. Набор ў дзве калонкі. Друк у адну фарбу гатычным шрыфтам.

Ад першапачатковага аздаблення кнігі захавалася ледзь за 1000 ксілаграфічных ініцыялаў (у тым ліку пашкоджаныя) з 29 дошак, амаль усе афарбаваныя ад рукі. Ілюмінатар выкарыстоўваў некалькі фарбаў: чырвоную, жоўтую, зялёную і светла-карычневую. Размалявана неакуратна, месцамі фарба выходзіць за межы літары альбо рамкі ініцыяла. Унутраная прастора ініцыяла пакрыта ўзорам альбо выявамі твараў і фігур. Некаторыя ініцыялы з рознымі літарамі надрукаваны з адной дошкі, якая выкарыстоўвалася ў нармальным і ў перавернутым стане.

На тытульным аркушы маецца рукапісны запіс гатычным пісьмом у некалькі радкоў (падобны да вершаў). Асобнік дэфектны. Поўнасцю адсутнічаюць больш за 70 аркушаў. Апроч таго, страчаны фрагменты больш за 200 аркушаў.

Чацвёрты інкунабул з акадэмічнай калекцыі таксама знаходзіцца ў кепскім стане. Гэта твор на лацінскай мове венгерскага тэолага Пэлбарта «Зорная карона благаслвёнай Дзевы Марыі»[23]. Освальд Пэлбарт (з Тэмэсвара) (XV—XVI ст.), францысканец, славуты прапаведнік, які напісаў шмат твораў у выглядзе збору казанняў. Усе яны былі неаднаразова выдадзены ўжо ў XV ст. Першае выданне «Зорнай кароны»

з'явілася ў Страсбургу ў 1496 г. Але асобнік з кнігазбору акадэмічнай бібліятэкі, магчыма, быў надрукаваны ў Гагенау ў 1498 г.

Пераплёт у дадзеным асобніку адсутнічае. Захаванасць тэксту дрэнная. Экземпляр дэфектны; першы і апошнія аркушы страчаны. Папера з вадзянымі знакамі вельмі пашкоджана, але аркушы рэстаўрыраваны. Набор ў дзве калонкі.

Друк у адну фарбу гатычным шрыфтам (ратондай). Выданне аздабляецца ксілаграфічнымі ініцыяламі разнастайных форм і памераў (з 66 дошак). Ініцыялы змяшчаюцца ў квадратных рамках і з'яўляюцца светлымі літарамі на чорным фоне. Самі літары даволі простай формы, часам з невялікімі завіткамі, але так, што літара лёгка ўспрымаецца, мае простую і ясную форму. Ініцыялы аздоблены выявамі жывёл, часам фантастычных (напрыклад, дракон, які згінаецца ў літару «S»), кветак. На пачатку тэксту — пустое месца (вышынёй у 7 радкоў, 3×3 см) для вялікага ініцыяла, які павінен быў быць намаляваны. Сустракаецца яшчэ некалькі пустых месцаў для ініцыялаў меншага памеру (прычыны гэтага былі выказаны раней). На некаторых аркушах захаваліся рукапісныя запісы карычневым чарнілам.

Італьянскі інкунабул з фондаў акадэмічнай бібліятэкі быў выдадзены ў Балонні. Ён быў надрукаваны Джакопам з Рагацоні (Jacobus de Ragazonibus) у 1495 г. для выдаўца Бенедыкта Бранёлі (Benedictus Brognolus). Гэта твор на лацінскай мове Дыягена Лаэрцкага «Жыццё і погляды выдатных філосафаў»[24]. Выходныя звесткі знаходзяцца ў калафоне.

Экземпляр з фондаў ЦНБ НАН Беларусі мае мастацкі пераплёт (пазнейшы) здавальняючай захаванасці: кардон, абцягнуты цёмна-карычневай скурай, пашкоджанай на ніжнім вечку. Спінка пераплёту аздоблена залатым цісненнем і мае выцісненыя золатам надпісы: «DIOG. // LAERT.» і «BONO[N] // 1495». На форзацы — белая папера. Абрэз пафарбаваны ў чырвоны крап.

Папера з вадзянымі знакамі здавальняючай захаванасці, толькі месцамі ў падцёках. Некалькі апошніх аркушаў падклееныя. Фаліяцыя пазначана ў верхніх ражках аркушаў; маюцца памылкі. Сігнатуры літарныя.

Друк у адну фарбу шрыфтам антыква. Гэта невыпадкова, бо шрыфт, як адзін са сродкаў знешняга афармлення тэксту, знаходзіцца ў поўнай адпаведнасці са зместам кнігі. Гарманічнае ўзгадненне формы і зместу з'явілася адным з асноўных правіл у эстэтыцы рэнесанснага гуманізму. Для антычных твораў яшчэ ў рукапіснай гуманістычнай кнізе ў канцы XV ст. у Італіі быў распрацаваны новы шрыфт — антыква, які павінен быў зрокава выразіць іншы духоўны змест. За аснову былі ўзяты рукапісны шрыфт VIII—IX стст. — каралінгскі мінускул, які быў дапоўнены вялікімі літарамі (маюскул), якія ўзыходзілі да манументальных старажытнарымскіх надпісаў.



Гэта выданне ўпрыгожана толькі адным ксілаграфічным ініцыялам, які адкрывае першую кнігу. Некалькі аркушаў маюць напісаныя чорным чарнілам буквы замест ініцыялаў. У шмат якіх выпадках ініцыялы наогул адсутнічаюць. На першым аркушы наклейкай, відавочна, утойваецца пячатка.

Такім чынам, інкунабулы з фондаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі добра дэманструюць усе вызначаныя, уласцівыя першадрукам асаблівасці і, акрамя таго, маюць свае індывідуальныя рысы, якія робяць кожны асобнік унікальным.

[1] Добиаш-Рождественская О. А. История письма в средние века. М., 1987. С. 226.

[2] Ад лац. in folio — літаральна, у аркуш; самы буйны фармат выдання (памерам у палавіну аркуша), які атрымліваўся пры фальцоўцы ў адзін згіб. Адсюль — фаліянт, выданне памерам in-folio.

[3] Нессельштраус Ц.Г. Немецкая первопечатная книга. Декорировка и иллюстрации. СПб., 2000. С. 8.

[4] Найбольш вядомыя з іх — Іаган Ментэлін, Генрых Эгештайн, Адольф Руш, Генрых Кноблохтцэр, Мартын Шот, Іаган Грунінгер, Іаган Прус, Барталамей Кістлер, Маціс Гупфуф.

[5] Durandus, Guilelmus. Rationale divinorum officiorum. Argentina [Strassburg], (Georg Husner), 1484. 2°. [2], 272 f [Д15/Ср1-Нр4873].

[6] Гіём Дзюран (Guillaume Durand, лацінізаванае — Guilelmus Durandus) (1237—1296), знакаміты тэолаг і біскуп, які атрымаў мянушку «Спэкулатар» (ад лац. speculator — сузіральнік, даследчык, мысліцель), быў даволі актыўным царкоўным дзеячам і адыграў важную ролю ў царкоўным жыцці XIII ст. Неаднойчы Дзюран выконваў важныя загады рымскай курыі. Але перш за ўсё ён быў вядомы як знаўца кананічнага права і літургіі. Гэты вучоны праваўнаўца быў выкладчыкам у Балонні, распрацаваў самую поўную на той момант сістэму кананічнага і свецкага права, якая была выказана ў трактаце «Люстэрка судзейскае» («Speculum judiciale» — адсюль і яго мянушка). Яго «Глумачэнне божых службаў» (1286) з'яўляецца вучоным кампендыумам і найбольш поўным сярэднявечным трактатам у сферы богаслужэбнай літаратуры, дзякуючы чаму яно служыць найважнейшай крыніцай па гісторыіі заходняй царквы.

[7] Durandus, Guilelmus. Rationale divinorum officiorum. Argentina [Strassburg], (Georg Husner), 1484. F. VIIa.

[8] Георг Хуснер. Вядома, што ён на пачатку быў ювелірам. З 1473 па 1479 г. і потым з 1493 г. Хуснер друкаваў кнігі і вызначаў сваё імя ў калафонах. Па не зусім зразумелых прычынах выданні, якія выходзілі з яго друкарні з 1479 па 1493 г., не змяшчалі ў калафоне ніякага імя. Існуе адметная група хуснерскіх кніг гэтага перыяду, вельмі падобных адна на адну па асаблівасцях друкавання. Першая з іх — казанні Йордана Квэдлінбурга — была надрукавана ў 1483 г. Вядомы навуковец і інкунабулазнаўца Проктар адзначыў выканаўцу гэтых выданняў: «Друкар Йордана Квэдлінбурга 1483 (Георг Хуснер)».

[9] Кацпржак Е. И. История книги. М., 1964. С. 85.

[10] Пра кнігазбор Радзівілаў у Нясвіжы гл. артыкулы З. Ярашэвіч-Пераслаўцава, В. М. Герасімава і А. В. Стэфановіча ў зб.: Здабыткі: Дакум. Помнікі на Беларусі / Нац. б-ка Беларусі. Склад. Л. Г. Кірухіна, Т. І. Рошчына. Мн., 1988. Вып. 3.

[11] Першае выданне Антона Кобергера (Anton Koberger) (каля 1445—1513 гг.) з'яўляецца ў 1473 г. А. Кобергеру ўдалося стварыць буйное прадпрыемства, дзе на 24 прэсах працавалі каля 100 падмайстраў. Да арганізацыі свайго прадпрыемства ён прыцягваў заможных партнёраў і сам прымаў удзел у іншых прадпрыемствах. Кобергер часта карыстаўся паслугамі чужых друкарняў, разлічваючыся з імі часткай тыражу. Часам ён выменьваў свае выданні на прадукцыю чужых прэсаў. Ён ствараў свае філіялы ад Венецыі да Любека, ад Парыжа да Кракава і рассылаў агентаў па ўсёй Еўропе, тым самым забяспечваючы для сябе даволі вялікую сферу збыту. Ён друкаваў папулярную літаратуру вялікімі тыражамі, падтрымліваў добры ўзровень афармлення сваіх кніг, спрабаваў уніфікаваць, а значыць, зрабіць больш таннымі шрыфт і набор. Асаблівымі шрыфтамі ён забяспечваў толькі свае галоўныя выданні, такія, як Біблія на нямецкай мове 1483 г., «Скарбніца» 1491 г. (пераказ евангельскіх сюжэтаў з маральнымі настаўленнямі) і «Сусветная хроніка» Гартмана Шэдэля (Fuke F. Buchkunde. Ein Überblick über die Geschichte des Buch- und Schriftwesens. 3. Aufl. Leipzig, 1972. S. 86—87). Да канца XV ст. Кобергерам было надрукавана каля 250 выданняў.

[12] Schedel, Hartmann. Liber chronicarum. Nürnberg, typ. Antonio Koberger, 12 VII 1493. 2°. [20], 266, [5], 267—300 f. [Д15/Ср3-Ср2015].

[13] Гартман Шэдэль (Hartmann Schedel) (1440—1514), гарадскі ўрач Нюрнберга і заўзяты збіральнік кніг, у юнацтве вучыўся ў Лейпцыгскім універсітэце і потым ў Італіі, дзе быў захоплены гуманістычнай адукацыяй. Пасля таго ён многа падарожнічаў па Італіі і Германіі. Пасяліўшыся ў родным Нюрнбергу, Шэдэль працягнуў свае вучоныя штудыі, вынікам якіх стаў яго знакаміты гістарычны твор. Крыніцамі для «Сусветнай хронікі» з'яўляліся Біблія, творы антычных гісторыкаў, сярэдневяковыя хронікі і ўласныя назіранні за сучаснымі яму падзеямі. Па просьбе двух жыхароў Нюрнберга — Зэбальда Шрайера и Себасцьяна Камермейстэра, былі выдадзены два варыянты «Хронікі» на нямецкай і лацінскай мовах (абодва ў 1493 г.). Асобнік з фонду бібліятэкі НАН Беларусі з'яўляецца лацінамоўным.

[14] Вайнштейн О. Л. Западноевропейская средневековая историография. М.—Л., 1964. С. 224.

[15] Відавочна, услед за антычнымі аўтарамі, якія апавядалі пра гістарычную Сарматыю.

[16] Kristeller P. O. Studien zur Geschichte der Rhetorik und zum Begriff des Menschen in der Renaissance. Göttingen, 1981.

[17] Узорам для многіх ксілаграфій з выявамі гарадоў у «Хроніцы» Шэдэля служылі гравюры Эрхарда Рёвіха ў кнізе «Паломніцтва Брэйдэнбаха».

[18] Чалавек з такім імем у XVI ст. з'яўляўся комтурам — кіраўніком акругі духоўна-рыцарскага ордэна з рэзідэнцыяй ў Міраве, але ён памёр у 1541, і цяжка вызначыць, ці мае ён дачыненне да гэтай кнігі.

[19] Biblia. Lübeck, typogr. Steffen Arndes, 19 XI 1494. 2°. [492] f. [Д15/Ср4-Ср2283].



[20] Стэфэн Арндэс (Steffen Arndes) (1486—1516) — вандроўны друкар, які паходзіў з Гамбурга, кнігадрукаванню вучыўся ў Майнцы. У 1470 г. ён працаваў у Італіі, затым пераехаў у Шлезвіг і, нарэшце, асеў у Любеку. Ён уважліва сачыў за дасягненнямі іншых друкароў. Так, напрыклад, у выданні «Пасіяналя» 1488 г. Арндэс выкарыстоўваў у якасці прыкладу гравюры аўгсбургскага друкара Гюнтэра Цайнера, а ў той жа кнізе, надрукаванай у 1492 г., бачны ўплыў нюрнбергскіх гравюр кобергераўскага выдання. Але «яго галоўная праца разам з іншымі значнымі дасягненнямі — гэта другое, пасля кёльнскай, выданне Бібліі на ніжненямецкай мове, аздобленая выдатнымі ксілаграфіямі». Fuke F. Buchkunde. С. 88.

[21] Люблинский В. С. На заре книгопечатания. Л., 1959. С. 69.

[22] Нессельштраус Ц. Г. Немецкая первопечатная книга… С. 242.

[23] Pelbartus de Themeswar. Stellarium coronae Beatae Mariae Virginis» [Hagenau (?), 1498 (?)]. 2°. [103] f. [Д15/Ср5-ор8767].

[24] Diogenes Laertius. Vitae et sententiae eorum qui in philosophia [pro]bati fuerunt. Ed. Benedictus Brognolus. Bononiae [Bologna], Jacobus Ragazonibus, 30 III 1495. 2°. 112 f. [Д15/Ср2-Ср1509].

***Дз. В. Лісейчыкаў***

## ВІЗІТЫ І ІНВЕНТАРЫ УНІЯЦКІХ ХРАМАЎ БЕЛАРУСІ ЯК КРЫНІЦА ПА ГІСТОРЫІ ШТОДЗЁННАСЦІ (ПАВОДЛЕ МАТЭРЫЯЛАЎ НГАБ)

У артыкуле мы разгледзім найбольш інфарматыўныя для распрацоўкі гісторыі штодзённасці на Беларусі крыніцы — інвентары і візіты (інвентары, якія складаліся ў час правядзення планавай праверкі (візітацыі) уніяцкіх храмаў. Працы па дадзенаму накірунку даследаванняў, якія з'явіліся ў апошні час, не абапіраюцца на першакрыніцы[1]. Найбольш грунтоўныя працы па царкоўнай штодзённасці на Беларусі адносяцца да канца XIX — пачатку XX ст.[2] Карыснымі для распрацоўкі гэтага накірунку адзначаны некаторыя археаграфічныя публікацыі[3].

Складанне візітаў і інвентароў было ў царкоўным жыцці Беларусі з'явай сістэматычнай, нават планавай[4]. Мелі месца візітацыі двух тыпаў: генеральныя і дэканскія. Для правядзення генеральнай візітацыі епіскап прызначаў адмысловага чалавека. Ім мог быць і звычайны парах — парафіяльны святар. Так, у 1763 г. тураўскі епіскап Антанін Младоўскі абраў на ролю візітатара Лагойшчыны і Мядзельшчыны бягомльскага параха Рыгора Песляка[5]. У дапамогу візітатару даваўся пісар, які і занатоўваў вынікі праверкі на паперу.

Адбываліся і звычайныя, амаль штогадовыя, рэвізіі ў межах дэканата. Іх плён мог зводзіцца ўсяго да некалькіх радкоў — пацвярджэнне старой візіты. Таксама маглі заносіцца толькі новапрыдбаныя альбо страчаныя рэчы. Дэканскія праверкі не былі такімі строгімі, як генеральныя, і рэвізуемыя святары падчас самі рыхтавалі пратаколы агляду.

Перыядычнасць правядзення не была ўстаноўленай дакладна, але прыблізныя лічбы можна назваць. Напрыклад, Лахвянская царква ў Наваградскім павеце за перыяд 1745—1784 гг. падлегла 7 генеральным і 18 дэканскім візітацыям[6].

На практыцы правядзенню візітацыйміналі бясконцыя войны, якія адбываліся на тэрыторыі ВКЛ, і варожасць паміж землеўласнікамі, на чыіх землях знаходзіліся цэрквы. Акрамя таго, у сувязі з тым, што ў 1772 г. частка полацкай архіепархіі разам з асяродкам, Полацкам, апынулася ў складзе Расійскай імперыі, гэта значна ўскладніла перамяшчэнне візітатараў. Яшчэ існавалі і пэўныя прыродныя перашкоды, як, напрыклад, знакамітыя палескія балоты, якія зачынялі доступ да шэрагу цэркваў на працягу цёплай часткі года. Такі стан адбіўся і ў крыніцах царквы розных рэгіёнаў Беларусі, прадстаўленых ў візітах колькасна нераўнамерна.

Акты генеральных візітацый беларускіх уніяцкіх храмаў, якія захоўваюцца ў НГАБ, ахопліваюць храналагічны перыяд з 1680 па 1839 г. Каля 90% з іх складзены на польскай мове[7], невялікая частка (пераважна за 30-я гг. XIX ст.) — па-расійску і адзінкавыя асобнікі[8] — па-старабеларуску. Варта адзначыць, што візіты і інвентары уніяцкіх храмаў, якія захоўваюцца ў НГАБ, не ахопліваюць ўсіх уніяцкіх цэркваў Беларусі. Найбольш поўна прадстаўлены апісанні цэркваў на тэрыторыі былой Мінскай губ.

У асноўнай сваёй масе візіты і інвентары сшываліся ў адмысловыя кнігі. Яны ўяўлялі сабой кардонную вокладку з пераплётам, умацаваным скурай. Папера кнігі — белая альбо блакітная з філігранямі. Такія кнігі аб’ядноўвалі ў сабе апісанне цэркваў аднаго ці некалькіх дэканатаў (у XVII ст. пратапопій) за вызначаны год (гл. Дадатак).

Акрамя гэтага, адзінкава візіты і інвентары могуць сустракацца ў фондах кансісторый, дэканатаў альбо цэркваў. За невялікім выключэннем, яны дублююць даныя з названых кніг.

Візіты і інвентары уніяцкіх храмаў з’яўляюцца адной з галоўных крыніц пры вывучэнні гісторыі царкоўнай штодзённасці. Як правіла, яны складаліся паводле дакладна ўсталяванага ўзору, што можа значна аблегчыць сістэматызацыю матэрыяла для сённяшняга даследчыка.

На тытульны аркуш заносілася, паводле чыёй «волі і загаду» прызначаецца візітацыя. У генеральнай гэта было прозвішча тагачаснага епіскапа, у дэканскай — дэкана. Далей адзначалася асоба, прызначаная на пасаду візітатара, і час прызначэння[9].

Звычайна візіта складалася з наступных раздзелаў:

**Царкоўнае начынне** (магчымы польскі варыянт — «*ołtarze*»). У большасці уніяцкіх храмаў у XVIII ст. паводле каталіцкай абраднасці акрамя галоўнага ўзводзіліся бакавыя алтары. У 30-х гг. XIX ст. яны



былі знішчаны. Раздзел утрымлівае звесткі пра алтары, абразы, кандэлябры, свечкі, крыжы і дараносіцы.

**Вырабы са срэбра, волава, медзі і бронзы.** Пералік азначаных вырабаў: крыжыкі, кубкі, дыскасы, алтаровыя званочкі (атрыбут каталіцкай абраднасці), кадзільніцы, ёмістасці для святога алею і інш. Паказальнік асаблівай раскошы — пазалочаныя срэбныя прадметы.

**Кнігі.** Пералік выданняў з царкоўнай бібліятэкі альбо з асабістага кнігазбору святара. Падчас складаўся з некалькіх дзесяткаў пазіцый. Гэта рукапісныя і друкаваныя псалтыры, трэбнікі, вялікія і малыя мшалы, актоіхі, евангеллі і вытрымкі з іх, апосталы, катэхізісы і інш. У некаторых візітах падавалася месца і год выдання. Пэўную цікавасць уяўляюць пералікі альбо апісанні рукапісных кніг, як, напрыклад, знакамітага Мсціжскага евангелля XIII—XIV стст.[10], якое да 20-х гг. XIX ст. захоўвалася ў Юр’еўскай царкве м. Мсціж Барысаўскага пав.

Асобна адзначана наяўнасць кнігі запісаў хрышчэнняў, шлюбаў і пахаванняў у парафіі і год, з якога яна вядзецца.

**Святарская вопратка і літургічны рэквізіт** (магчымы варыянт *apparamenta* альбо *apparencya processyonalna*). Апісанне адзення і матэрыялу, з якога яно пашыта — колер, памеры (вялікі, малы, з рукавамі і г. д.), стан, колькасць. Сюды ж таксама заносілася інфармацыя пра ўсе вырабы з тканіны: рушнікі для выцірання рук святара, харугвы, накрыўкі на алтары і святыя дары і інш.

**Апісанне царкоўнага будынку.** Ці не самая важная крыніца для рэканструкцыі знешняга выгляду царквы. Адзначаны памеры будынку (у адзінкавых выпадках нават малюнкі[11]), матэрыял, з якога ўзведзены сцены, насцелена падлога, накрыты дах. Занесены колькасць і размяшчэнне дзвярэй, акон, лавак (паводле каталіцкай абраднасці), хароў і інш. Пры некаторых храмах — апісанне цвінтароў і іх агароджы.

**Апісанне парафіі.** У больш ранніх візітах і інвентарах проста пералічваліся назвы вёсак, жыхары якіх былі прыпісаны да царквы. У пазнейшых дакументах пазначалася колькасць прыхаджанаў з улікам полавай прыналежнасці, узросту (здольных хадзіць на споведзь ці не). Калі пры царкве мелася брацтва, запісвалася ягоная назва, прывілеі, правы (звычайна дазволеная колькасць сычэння мёду і вырабу воску на патрэбы царквы[12]).

Цікавымі звесткамі можа быць адлегласць (у мілях) ад асобных вёсак да парафіяльнай царквы, стан дарог і магчымасць беспераШкоднага доступу. Гэта асабліва тычылася палескіх вёсак, што знаходзіліся на балотных выспах і жыхары якіх на працягу некалькіх месяцаў на год былі пазбаўлены магчымасці прысутнічаць на службах, а таксама хрысціць дзяцей і адпяваць нябожчыкаў.

**Царкоўныя дакументы.** Раздзел уяўляе хутчэй краязнаўчую каштоўнасць, паколькі складаецца з пераліку большай часткай страчаных дакументаў (аж да XVI ст.) пра заснаванне царквы, на права валодання зямельнымі надзеламі і капіталам (фундушамі), прыгоннымі сялянамі. На падставе гэтых звестак можна вызначыць год заснавання царквы і імя яе фундатара. Для гісторыка штодзённасці могуць быць карыснымі звесткі пра прадукты харчавання, якія сяляне аддавалі свайму параху, пра віды прац, якія яны выконвалі на святарскім двары.

Калі ў царкоўным архіве былі копіі ранейшых візітацый — даваўся іх поўны пералік. Заадно візітатар мог пракантраляваць, ці выканаў святар рэкамендацыі папярэдніх праверак. Часам нядобрасумленныя парахі спецыяльна знішчалі такую інфармацыю. Так, у 1782 г. святар Сітніцкай царквы (Наваградскі павет) Лявон Радакоўскі забраў з царквы ўсю дакументацыю папярэдніх візітацый і надзейна схаваў яе[13]. Настолькі надзейна, што забыў месца. Праз два гады ён прыгадаў схованку і «адшукаў» страчанае. Але паколькі сховішча было «blisko zemi»[14] (магчыма, і ў самой зямлі) — паперы згнілі. Візітатар здолеў разабраць усяго некалькі дат і подпісаў.

**Святар і ягоная рэзідэнцыя.** Раздзел, які з'яўляецца найбольш інфарматыўным для даследчыка штодзённасці. Ён апісвае знешні выгляд гаспадарчых і плебанальных пабудоваў святара. Адзначаны матэрыял, з якога ўзведзены сцены, накрыты дах, спосаб ацяплення памяшканняў («хата белая» альбо «хата чорная»[15]), колькасць пакояў і акон у іх. Пра паходжанне і багацце святара могуць гаварыць архітэктурныя асаблівасці: «шляхецкі» галоўны ўваход — з навесам і калонамі — альбо просты. Другім атрыбутам шляхецкасці магла быць наяўнасць ганаровай брамы замест звычайных варот. Пра заможнасць парафіі можа сведчыць і печ у пакоях плябаніі — цагляная альбо кафляная.

У некаторых візітах[16] адводзіўся адмысловы падраздзел для вызначэння прыбытковасці фундуша, т. зв. *taxa beneficii*. Тут у грашовым эквіваленце (у злотых) падаваўся сярэднегадавы прыбытак святара. Гэта дапаможа класіфікаваць парафіі паводле прэстыжнасці.

У рэдкіх выпадках можна сустрэць апісанне асабістай маёмасці святара[17]. Такія занатоўкі мелі месца пры передачы парафіі святаром (ці спадкаемцамі святара-нябожчыка) свайму наступніку. Пры правядзенні генеральнай візітацыі яны апускаліся. Тут можна адшукаць інфармацыю пра такія цікавыя моманты, як транспарт святара (вазы, брычкі, сані), хатні і прамысловы посуд, мэбля і каштоўныя рэчы з ліку хатняга ўбранства — гадзіннікі, абразы і інш.

Раздзел утрымлівае інфармацыю і пра парафіяльнага святара. Пазначаны ягонае імя, прозвішча, узрост, адукацыя (якую духоўную



вучэльню скончыў), год хіратанізацыі (высвячэння ў сан), год прызначэння на пасаду параха, склад сям'і і інш.

Калі да храма былі прыпісаны капліцы альбо могілкавыя цэрквы — яны апісваліся ў асобным раздзеле. Ён ёсць у 10—15% візітаў і можа сведчыць пра некаторыя асаблівасці парафіі. Напрыклад, у 1784 г. у в. Дзяніскавічы Наваградскага пав. прыхаджане мясцовай Петрапаўлаўскай царквы аддавалі перавагу невялікай Успенскай каплічцы, што знаходзілася сярод лесу, ва ўрочышчы «Збійскі Бор»[18]. Хутчэй за ўсё капліца была заснавана на месцы былога паганскага капішча. І гэтае месца па-ранейшаму заставалася аб'ектам пакланення сялян, якія з меншай ахвотай наведвалі царкву ва ўласнай вёсцы.

**Вынікі.** У канцы запісу візітатар падводзіў вынікі праверкі: адзначаў маральныя якасці святара, ягоную дбайнасць і адпаведнасць займаемай пасадзе. Асобна пералічваў слабыя месцы ў вядзенні гаспадаркі, службе ў царкве, вядзенні асветніцкай працы з прыхаджанамі і іх дзецьмі. Даваў заключэнне аб стане царкоўных і плебанальных будынкаў (калі трэба — хадайнічаў аб іх рамонце). Прыводзіўся спіс таго, пра што трэба паклапаціцца параху да наступнай візітацыі.

У дадатку пералічаны назвы, крайнія даты і архіўныя шыфры адзінак захоўвання НГАБ, якія ўтрымліваюць кнігі візітаў і інвентароў уніяцкіх храмаў. Адзінкі захоўвання падаюцца ў храналагічным парадку.

*Дадатак*

**Візіты і інвентары уніяцкіх храмаў Беларусі, якія захоўваюцца ў фондах НГАБ[19]**

*Ф. 136 «Мінская [праваслаўная] духоўная кансісторыя»*

| Назва адзінкі захоўвання | Крайнія даты | Архіўны шыфр |
|---|---|---|
| Візіты цэркваў Наваградскай, Мінскай, Бабруйскай, Барысаўскай, Нясвіжскай, Клецкай, Лагойскай і Цырынскай пратапопій | 1680—1682 | Воп. 1. Спр. 42042 |
| Візіты цэркваў Лагойскага і Мядзельскага дэканатаў | 1763 | Воп. 1. Спр. 41235 |
| Візіты цэркваў Бабруйскага і Рэчыцкага пав. | 1764 | Воп. 1. Спр. 41268 |
| Візіты цэркваў Рагачоўскага дэканата | 1764, 1780—1781 | Воп. 1. Спр. 41078 |
| Візіты цэркваў Пухавіцкага дэканата | 1774 | Воп. 1. Спр. 41239 |
| Візіты цэркваў Бабруйскага, Мазырскага і Рэчыцкага пав. | 1776—1778 | Воп. 1. Спр. 41240 |

| | | |
|---|---|---|
| Візіты цэркваў Блоньскага і Пухавіцкага дэканатаў | 1783 | Воп. 1. Спр. 41285 |
| Візіты цэркваў Лагойскага дэканата | 1784 | Воп. 1. Спр. 41290 |
| Візіты цэркваў Бабруйскага, Рагачоўскага і Рэчыцкага пав. | 1784 | Воп. 1. Спр. 41241 |
| Візіты цэркваў Бабруйскага дэканата | 1792 | Воп. 1. Спр. 41268 |
| Візіты цэркваў Мінскага дэканата | 1792—1793 | Воп. 1. Спр. 41245 |
| Візіты цэркваў Лідскага, Мазырскага, Пінскага і Рэчыцкага пав. | 1792 | Воп. 1. Спр. 41244 |
| Візіты цэркваў Цырынскага дэканата | 1793 | Воп. 1. Спр. 41248 |
| Візіты цэркваў Пінскага і Мазырскага пав. | 1799 | Воп. 1. Спр. 41247 |
| Візіты цэркваў Барысаўскага дэканата | 1806 | Воп. 1. Спр. 41254 |
| Візіты цэркваў Ашмянскага, Бабруйскага, Барысаўскага, Ігуменскага, Мінскага і Свянцянскага пав. | 1819 | Воп. 1. Спр. 41256 |
| Візіты цэркваў Слуцкага і Пінскага пав. | 1819 | Воп. 1. Спр. 41258 |
| Візіты цэркваў Мазырскага і Рэчыцкага пав. | 1819—1820 | Воп. 1. Спр. 41259 |
| Візіты цэркваў Ігуменскага пав. | 1823 | Воп. 1. Спр. 41262 |
| Візіты цэркваў Забярэзінска-Барысаўскага дэканата | 1825 | Воп. 1. Спр. 41264 |
| Візіты цэркваў Бабруйскага дэканата | 1828 | Воп. 1. Спр. 41265 |
| Візіты цэркваў Блоньскага дэканата | 1828 | Воп. 1. Спр. 41266 |

*Ф. 937 «Мінская рымска-каталіцкая кансісторыя»*[20]

| | | |
|---|---|---|
| Інвентары цэркваў Мінскага дэканата | 1800 | Воп. 1. Спр. 4 |

*Ф. 1234 «Ігуменскі дэканат Мінскай рымска-каталіцкай епархіі»*

| | | |
|---|---|---|
| Візіты цэркваў Мінскага пав. | 1766 | Воп. 1. Спр. 9 |
| Візіты цэркваў Мінскага пав. | 1792 | Воп. 1. Спр. 5 |



| | | |
|---|---|---|
| Візіты цэркваў Ігуменскага пав. | 1800 | Воп. 1. Спр. 1 |
| Візіты цэркваў Барысаўскага пав. | 1818 | Воп. 1. Спр. 2 |

*Ф. 1245 «Рагачоўскі духоўны дэканат Мінскай епархіі»*

| | | |
|---|---|---|
| Візіты цэркваў Рагачоўскага дэканата | 1792 | Воп. 1. Спр. 1 |

*Ф. 1299 «Глускі дэканат Мінскай рымска-каталіцкай епархіі»*

| | | |
|---|---|---|
| Візіты цэркваў Глускага дэканата | 1791 | Воп. 1. Спр. 2 |
| Візіты цэркваў Глускага дэканата | 1792 | Воп. 1. Спр. 1 |

*Ф. 1781 «Магілёўская рымска-каталіцкая кансісторыя Сінода»*

| | | |
|---|---|---|
| Візіты цэркваў Мінскага пав. | 1796—1797 | Воп. 24. Спр. 256. |
| Візіты цэркваў Бешанковіцкага, Задзвінскага, Веліжскага, Веляшкоўскага, Мікулінскага і Віцебскага дэканатаў | 1822 | Воп. 26. Спр. 1410 |

*Ф. 3245 «Беларуская грэка-уніяцкая духоўная кансісторыя г. Полацка»*

| | | |
|---|---|---|
| Візіты і інвентары цэркваў Барысаўскага пав. | 1741—1754 | Воп. 8. Спр. 1 |
| Візіты і інвентары цэркваў Клецкага і Няс-віжскага дэканатаў | 1784 | Воп. 7. Спр. 3 |
| Візіты і інвентары цэркваў Ігуменскага пав. | 1818 | Воп. 5. Спр. 5 |
| Візіты і інвентары цэркваў Мінскага пав. | 1818 | Воп. 5. Спр. 24 |
| Візіты і інвентары цэркваў Барысаўскага і Рэчыцкага пав. | 1830 | Воп. 3. Спр. 1 |

[1] Церашковіч П. У. Грамадскі быт і духоўная культура ў канцы XVIII — першай палове XIX ст. // Грамадскі быт і культура гарадскога насельніцтва Беларусі. Мн., 1990. С. 42—52; Каспяровіч Г. І. Ежа і харчаванне // Навіны Беларускай акадэміі. 1993. № 10—11; Словік С. Інтэр’ер шляхецкай сядзібы як фактар культуры сям’і ў першай палове XIX ст. // Гісторыя, культуралогія, мастацтвазнаўства: Матэрыялы III Міжнар. кангрэса беларусістаў «Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый» (Мінск, 21—25 мая, 4—7 снежня 2000 г.). Мн., 2001. С. 333—340.

[2] Бобровский П. О. Русская греко-униатская церковь в царствование императора Александра I. СПб., 1890; Киприянович Г. Я. История православия, католичества и унии в Белоруссии и Литве. Вильно, 1899; Warszawa, 1912.

[3] Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею (АВАК). Т. XVI: Документы, относящиеся к истории церковной унии в России. Вильна, 1889; Т. XXXIII: Акты, относящиеся к истории западно-русской церкви. Вильна, 1908; Записки Иосифа, митрополита Литовского. Т. 1—3. СПб., 1883 і інш.

[4] Выключэнне — інвентары, складзеныя пры разглядзе маёмасных прэтэнзій паміж святарамі, паміж святарамі і свецкімі землеўласнікамі альбо пры падзеле спадчыны паміж сваякамі памерлага святара.
[5] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41235. Л. 1.
[6] Там жа. Ф. 3245. Воп. 7. Спр. 3. Л. 4адв.—5.
[7] Ці, дакладней, т. зв. «крэсовай» польскай мове, якая ўтрымлівае вялікую колькасць беларусізмаў.
[8] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 42042. Л. 1—1адв.
[9] На некаторых візітах пасля даты ставілася абрэвіятура «wsk» — «wedtug starego kalendarza» (польск.). Г. зн., што дата пададзена паводле старога стылю.
[10] НГАБ. Ф. 118. Воп. 1. Спр. 1.
[11] Там жа. Ф. 3245. Воп. 1. Спр. 3. Л. 36—37.
[12] Там жа. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41268. Л. 19.
[13] Там жа. Ф. 3245. Воп. 7. Спр. 3. Л. 10адв.
[14] Блізка да зямлі (польск.).
[15] Аўтарам гэтых радкоў адшуканы толькі адзін выпадак «чорнага» прасталюдзінскага спосабу ацяплення святарскай хаты ў в. Мілавіды Слонімскага пав. пад 1682 г. Гл.: НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 42042. Л. 79адв.—80.
[16] НГАБ. Ф. 3245. Воп. 7. Спр. 3.
[17] Там жа. Воп. 2. Спр. 479. Л. 12.
[18] Там жа. Воп. 7. Спр. 3. Л. 15адв.—16.
[19] Частка інфармацыі ўзята з Даведачна-інфармацыйнага фонду (НГАБ. № 1845).
[20] Фарміраванне фондаў адбывалася ў 50-я гг. XX ст. і іх папаўненне часта не адпавядае назве. У сваю чаргу назвы таксама маюць недакладнасці, як, напрыклад, азначэнне «духоўны» ў адносінах да дэканата (гл. ніжэй).

*А. В. Стефанович*

## ЭКСЛИБРИСЫ КНЯЗЕЙ РАДЗИВИЛЛОВ В КНИЖНЫХ СОБРАНИЯХ НЕСВИЖСКОЙ ОРДИНАЦИИ

На протяжении всей истории существования Несвижской ординатской библиотеки, начиная с XVI по 40-е гг. XX в., в ее фондах вместе с уникальными книгами хранились и многочисленные художественно оформленные книжные знаки — экслибрисы (от лат. ex-libris — из книг). Сохранились многочисленные экслибрисы на книгах в фондах библиотек Беларуси, России, Литвы, Польши, Финляндии, Украины. Целостное описание и исследование экслибрисов в коллекциях Несвижской ординации Радзивиллов сегодня отсутствует.

Практически все родственные ветви Радзивиллов (Гоняндзко-Мядельская ветвь, основанная Радзивиллом Николаем II (1470—1521) [20, с. 316]; Несвижско-Оликская ветвь, основанная от Яна Радзивилла (1474—1522) [21, с. 191], Биржанско-Дубинская ветвь, основанная от Юрия Радзивилла (1480—1541) [22, с. 225]), использовали экслибрисы. Это



способствовало учету частновладельческих книжных собраний и отличало их от уже существующих.



Рис. 1



Рис. 2



Рис. 3


Рис. 4




Рис. 5




Рис. 6



Рис. 7






Рис. 8




Рис. 9




Рис. 10




Рис. 11




Рис. 12




Рис. 13



Рис. 14



Рис. 15





Рис. 16




Рис. 17




Рис. 18




Рис. 19




Рис. 20

Радзивиллы были потомственными библиофилами и часто приобретали интересующие их книги в Западной Европе. В основном это были книги из западноевропейских типографий. Скорее всего там они заказывали и книжные переплеты, на которых ставили суперэкслибрисы (рис. 14). Такие издания по внешнему виду очень отличались от традиционных переплетов. Это были библиофильские издания, имевшие и экслибрис, и суперэкслибрис [13, с. 1].

Первое упоминание о экслибрисе Несвижской ординации мы находим в рукописном инвентарном каталоге — реестре 1651 г. Несвижской библиотеки [25, с. 65]. С этого момента и на протяжении всей истории существования Несвижской библиотеки книги, находящиеся в Несвижской ординации, имели экслибрисы, которые выполняли роль книжного паспорта. У книг с экслибрисами или суперэкслибрисами было постоянное место хранения — Несвижский замок. Именно благодаря экслибрисам впоследствии удалось выявить значительное число книг библиотеки Несвижской ординации Радзивиллов, которые в силу различных обстоятельств попали в другие книжные собрания далеко за пределы Несвижа.

На протяжении всей истории существования это частновладельческое книжное собрание было одним из богатейших в Беларуси. Поэтому изучение многочисленных Радзивилловских экслибрисов этой и других родственных ординаций Радзивиллов, хранящихся в Несвижской библиотеке в книгах в виде экслибрисов, суперэкслибрисов, а также печатей-штемпелей и книжных ярлыков, дает нам дополнительные ценные сведения о книжных коллекциях, которые существовали на протяжении многих столетий [31, с. 15—18, 25, 37, 55, 63, 75], с того самого момента, когда Несвиж перешел во владения Радзивиллов и стал крупным культурным центром.

Благодаря экслибрисам возможно освещать не только отдельные фрагменты уцелевших собраний, но и реконструировать сами описи и инвентарные реестры в различных архивах Польши, Беларуси [2], России, Финляндии.

Кроме Несвижской библиотеки экслибрисы имели и другие крупные книжные собрания Радзивиллов: в Долятичах, Биржанах, Кейданах, Любче, Слуцке, Клецке [5, с. 178, 230]. Экслибрисы из этих собраний мы можем встретить на книгах, которые относятся к книжной коллекции Несвижской ординации.

Книги из библиотеки Несвижской ординации Радзивиллов, хранящиеся в ЦНБ НАН Беларуси (условное название — «Библиотека Несвижской ординации Радзивиллов 1940 г.»), по всей вероятности, не имеют никакого отношения к коллекциям библиотек, существовавших до второй половины XIX в. Это книжное собрание, из фонда которого были выявлены многочисленные экслибрисы, суперэкслибрсы, печати-штемпели и др., предположительно, было собрано позднее, уже во второй половине XIX в. (1880) княжной Марией Каштелян, супругой Антония Радзивилла. Значительная часть книг этой коллекции была закуплена во Франции, о чем свидетельствуют сохранившиеся геральдические экслибрисы и суперэкслибрисы библиотеки Несвижской ординации Станислава Радзивилла с вклеенным ярлыком на французском языке.



Часть уцелевшего рукописного инвентарного каталога XIX в. [2, с. 1] из библиотеки Несвижской ординации, который в настоящее время хранится в Национальной библиотеке Беларуси, имеет экслибрис княжны Марии Каштелян. Данный каталог ограничен временными рамками — XIX веком.

Экслибрисы Несвижской библиотеки Радзивиллов, которая существовала в Беларуси до 1940 г., можно проследить по хронологии на сохранившихся книгах, дошедшей до нас в виде именных экслибрисов, суперэкслибрисов, а так же печатей-штемпелей (рис. 17, 18), книжных ярлыках (рис. 19), уцелевших на книгах из этого собрания. Все упомянутые выше экслибрисы хранятся в фондах ЦНБ НАН Беларуси.

Экслибрисы, как правило, наклеивали на форзац книги. Иногда ими заклеивались записи дневникового характера предыдущего владельца книги. В фондах ЦНБ НАН Беларуси таких изданий много. Это в основном книги XVI — конца XIX в. На изданиях начала XX в. экслибрисов было меньше; к тому же, если в книге и были экслибрисы, то ими уже не заклеивали рукописные пометы.

Значение личного геральдического экслибриса заключается в том, что он указывает на факт принадлежности книги конкретному лицу. Сошлемся, к примеру, на экслибрисы Антония Радзивилла (1833—1904) [21, с. 160] и Юрия Радзивилла (1860—1914) [16, с. 111] и др.

Часть книг, которые хранятся в фондах ЦНБ НАН Беларуси, имеет не только вклеенные экслибрисы, но и суперэкслибрисы. Суперэкслибрисом называются такие экслибрисы, которые ставились на переплет книг сверху. Их иногда покрывали золотом.

В XX в. экслибрисы заменили на печати-штемпели красного цвета двух форм: круглую (рис. 17) и овальную (рис. 18).

Экслибрисы, суперэкслибрисы, печати-штемпели, книжные ярлыки, сургучные печати и другие особенности экземпляров из библиотеки Несвижской ординации Радзивиллов выявлены в фондах ЦНБ НАН Беларуси.

Немалую часть Несвижского книжного собрания из фондов ЦНБ НАН Беларуси составляют книги с геральдическими экслибрисами, которые лишены фамилии конкретного владельца и снабжены только родовым гербом. Поэтому необходимо четкое деление Радзивилловских экслибрисов по группам.

К первой группе относятся адресные экслибрисы, имеющие общие геральдические черты экслибриса Несвижской ординации, выявленные в фондах ЦНБ НАН Беларуси. Это:

«Biblioteka Ordynacji Nieswieskiej» (рис. 2);

«Biblioteka Zamku Nieswieskiego» (рис. 3);

«BIBLIOTEKA ORDYNACYI BIRZANSKIEI» (рис. 13).

Ко второй группе относятся именные Радзивилловские экслибрисы, выявленные в фондах ЦНБ НАН Беларуси. Это:

«Экслибрис Станислава Радзивилла (Ex-libris Stanislaw Radziwill)» [25, с. 1] (рис. 4);

«Экслибрис Юрия Радзивилла (Ex-libris Jerzy Radziwill)» [7, с. 1] (рис. 5);

«Экслибрис Иеронима Радзивилла (Ex-libris Hieronum Radziwill)» [10, с. 1] (рис. 7);

«Экслибрисы принцессы Антонии Радзивилл (Ex-libris Bibliothéque de la Princesse Antoine Radziwill)» [18, с. 1] (рис. 8), [25, с. 1] (рис. 9).

К третьей группе относятся суперэкслибрисы (суперэкслибрис (от лат. super — сверху и экслибрис), особый владельческий знак, оттиснутый обычно на крышке или корешке кожаного переплета книги. Представляет собой геральдическую, вензельную или иную композицию) [1, с. 621] Радзивиллов, выявленные в фондах ЦНБ НАН Беларуси [23; 14] (рис. 14, 15, 16).

Четвертую группу составляют единичные экземпляры радзивилловских экслибрисов, которые условно можно отнести к книжным знакам (рис. 19), печатям-штемпелям (рис. 17, 18), сургучной печати (рис. 20), и другие единичные печатные и рукописные особенности экземпляров.

Многие издания, относящиеся к этой группе, помимо экслибриса, имеют рукописные пометы, которые написаны рукой: «Ex-libris JR.» [4, с. 1] (рис. 6).

Отдельные книги содержат по нескольку экслибрисов или печатей-штемпелей, указывающих на то, что они могли быть подарены или куплены в букинистических магазинах, книжных лавках, что вполне вероятно, учитывая неоднократные потери и хищения как единичных экземпляров, так и всего книжного собрания, как это случилось в 1772 г.

Такие книжные экслибрисы являлись паспортом персонального книгохранилища, символом династии и подчеркивали принадлежность экземпляра не кому-либо из членов семейства, а магнатскому роду в целом, со всеми его многочисленными нисходящими и восходящими ветвями.

Результаты исследования многочисленных экслибрисов в книгах, хранящихся в фондах ЦНБ НАН Беларуси, дают нам основание предположить, что фонды библиотеки Несвижской ординации Радзивиллов (1940) как цельной книжной коллекции состоят из разрозненных частных библиотек Радзивиллов не только Несвижской ординации, существовавшей в Беларуси на протяжении многих столетий, но и других родственных ветвей (Иероним, Антоний, Станислав и многие другие).

Наиболее интересные экслибрисы, суперэкслибрисы, книжные ярлыки, печати-штемпели и сургучную печать на книгах, которые сохранились до настоящего времени, следующие:



I. Первый экслибрис библиотеки Несвижской ординации Радзивиллов, сохранившийся на инвентарном рукописном реестре 1561 г. [19; 24, с. 64/65].

II. Экслибрис библиотеки Несвижской ординации Радзивиллов (Ex-libris Biblioteka Ordynacji Nieswieskiej) [12, с. 1] (рис. 2).

III. Экслибрис библиотеки замка Несвижского (Ex-libris Biblioteka Zamku Nieswieskiego) [8, с. 1] (рис. 3).

IV. Экслибрис Станислава Радзивилла (Ex-libris Stanislaw Radziwill) [25, с. 1] (рис. 4).

V. Экслибрис Юрия Радзивилла (Ex-libris Jerzy Radziwill) [7, с. 1] (рис. 5).

VI. Экслибрис Иеронима Радзивилла (Ex-libris Hieronum Radziwill) [10, с. 1] (рис. 7).

VII. Экслибрис княжны Антонии Радзивилл (Ex-libris Bibliothéque de la Princesse Antoine Radziwill) [15, с. 1] (рис. 8).

VIII. Экслибрис княжны Антонии Радзивилл (Ex-libris Bibliothéque de la Princesse Antoine Radziwill) [18, с. 1] (рис. 9).

IX. Экслибрис княжны Антонии Радзивилл [2, с. 2] (рис. 8).

X. Экслибрис из библиотеки Радзивиллов Несвижских (Ex-libris EX BIBLIOTHECA DUCALI RADIVILLIANA NESVISIENSI) [26, с. 58] (рис. 10).

XI. Экслибрис из библиотеки Радзивиллов Несвижских (Ex-libris Bibliothecae Ducalis Radivillianae Nesvisiensis) [26, с. 59] (рис. 11).

XII. Экслибрис из библиотеки Радзивиллов Несвижских (Ex-libris EX BIBLIOTHECA RADIVILIANA DUCALI NESVISIENSI) [3, с. 1; 26, с. 60] (рис. 12).

XIII. Экслибрис из Библиотеки ординации Биржанской (Ex-libris BIBLIOTEKA ORDYNACYI BIRZANSKIEI) [9, с. 1] (рис. 13).

XIV. Суперэкслибрис Радзивиллов. Библиофильское издание [7, с. 1] (рис. 13).

XV. Позолоченный суперэкслибрис Радзивиллов с родственными ветвями. Библиофильское издание, имеет художественный переплет [23, с. 1] (рис. 14).

XVI. Библиофильское издание, имеет художественный переплет, а также позолоченный суперэкслибрис Юрия Радзивилла [14, с. 1] (рис. 15).

XVII. Красная сургучная печать Радзивиллов. Книга имеет владельческую запись: *Książka Ks. Jerza Radzwilla* [17, с. 1] (рис. 20).

XVIII. Книжный ярлык с владельческой записью Леона Радзивилла (1888—1959) [11, с. 1] (рис. 19).

В настоящее время в фонде отдела редких книг и рукописей ЦНБ НАН Беларуси выявлено более 3 тыс. экземпляров книг с экслибрисами Радзивиллов. Из них научно описано более половины. Хронологические рамки книг, которые отмечены экслибрисами, суперэкслибрисами, печатями-штемпелями и книжными ярлыками, определяются XV — 40-е гг. XX в.

Самое раннее издание с экслибрисом из библиотеки Несвижской ординации — Durandus Guilelmus. Rationale divinorum officiorum. Argentina [Strassburg], 1484 [6, f. 1].

Самое позднее издание, датируемое XX в., имеющее круглую печать и печать-штемпель красного цвета, — Gertel, Moritz. Hilfsbuch zum praktischen Unterricht der deutschen Sprache. Одесса: у Е. П. Распопова, 1900. 216 s., снабженное книжным ярлыком: *Книжный магазин Тов-ва М. О. Вольфа*. В книге имеется владельческая запись: «*Из книг Льва Радзивилла уч. III кл. ПЕИВ корпуса*» [11, с. 1].

Книги с экслибрисами и суперэкслибрисами из частновладельческих собраний князей Радзивиллов Несвижской ординации способствуют наиболее полному и всестороннему изучению книжной культуры Беларуси.

## Литература и источники


1. Книга: Энциклопедия / Редкол.: И. Е. Баренбаум, А. А. Беловицкая, А. А. Говоров и др. М., 1998.
2. НББ. Ф. 091/239. Cataloque de la biblioteque de Jon Ałłesse la Princesse Antoine Radziwill Nieswiez.
3. ЦНБ НАН Беларуси. Ф. 23. Оп. 1. Ед. хр. 5. Философские трактаты. Рукописная книга на латинском языке (XVIII в.). 421 л.
4. Bonacina, Martin (….—1631) Martini Bonacinae s. theologiae, et J. V. D. Comitis Palatini, et utrisque Signatura Referendarij Apostolici. Rerum omnium de Morali Theologia, que tribus Tomiscontinentur Compedium; nunc postremo editium, et praecaeteris omnium emendatissimum. Auctore. Ioanne de la Val Belga Sacrae Theologiae Doctore… Venetiis /Venezia/, Apud Combi, et La Noi, 1666.
5. Cubrzyńska-Leonarczyk M. Polskie superekslibrisy XVI—XVIII wieku w zbiorach Biblijteki Uniwersyteckiej w Warszawie: centuria druga (oprac.). Red. M. Kozłowska. Warszawa, 2001.
6. Durandus Guilelmus. Rationale divinorum officiorum. Argentina [Strassburg], 1484.
7. Duchesse Laurinne. Pour etre aimee: Conceils d'une coquette. Secreta feminins. Paris, 1886. 324 p.
8. Echard L. Dykcyonarzyk geograficzny … Warszawa, T. 2. 1782.
9. Encykłopedyja powszechna. T. 1—28. Warszawa, Nakład, druk I własność S. Orgelbranda ksiegarza i typografa, 1859—1869. T. 13 (Jan.—Kapil.). 1863.
10. Geschichte des gegenwërtigen Kriegs zwischen Russland, Polen und der Ottomanischen Pforte. Mit Kupfern. 1—36 Theil. Frankfurt und Leipzig, 1771—1773.
11. Gertel, Moritz. Hilfsbuch zum praktischen Unterricht der deutschen Sprache. Одесса, 1900. 216 s.
12. Kaliński J. D. (1663—1726) Zodiacus Caeli Sarmanici in palmari solea soli … Lyricorum libri IV et Epodon liber unus. Warszawa, 1715. 246 p.
13. Klemensiewicz Z. Bibliografia Ekslibrise Polskiego. Przejrzała i uzupełniła H. Lipska. Wrocław, 1952. 154 s.





14. Kossakowski S. K. Monografie historyczno-genealogiczne niektorych rodzin polskich. Warszawa, 1876.
15. Laurianne (duchesse) Pour être aimée: Conseils d´une coquette. Secrets Feminins. Paris, 1886.
16. Mackiewicz S. Dom Radziwiłłów. Warzsawa, 1990. 253 s.: il., 1 m.
17. Nabożeństwo kościelne. Na niedziele i święta całego roku w przekł. pol. Obok z tekstemłat / przez X. S. M. Kozłowskiego. Petersburg, 1899.
18. Notice des dessins, cartoms, pastels, miniatures et emaux exposes dans les salles du 1-er et du 2-e etage au Musee Imperial du Louvre. 2-eme pt : Ecole francaise, dessins indiens, emaux par M. F. Reiset. Paris, 1869.
19. Polska Akademia Nauk, Biblioteka Kórnicka, dyial rękopisów, BK 1320. S. 1—42.
20. Polski słownik biograficzny / PAN. Wrocław etc.: Ossolineum, 1987. T. 30/3.
21. Там же. Т. 30/1.
22. Там же. Т. 30/2.
23. Radziwiłł M. K. (1549—1616). Peregrinacya Abo Pielgrzymowanie do Ziemie Swietey… Mikołaja Christofora Radziwiłła, Xiążecia na Ołyce y Nieświeżu Przez J. M. Xiędza Tomasza Tretera, Kustosza Warmienskiego ięzykiem Łacińskim napisana y wydana przez x. Andrzeia Wargockiego na polski ięzyk przełqżona… Kraków, 1628. 356 s.
24. Saikowski A. Od Sierotki do Rybeńki: W kręgu radziwillowskiego mecenatu. Poznań, 1965. 254 s.
25. Stecki Tadeusz Jerzy. Miasto Rowne Kartka z Kroniki Wolynia. Warszawa, 1880.
26. Wittyg W. Ex-librisy bibliotek polskich XVI — XX wiek cz.1—2. Warszawa. 1903—1907. (Cz. 1. 1—98 s. z il.).


## Список используемых рисунков

Рис. 11 Экслибрис из библиотеки Радзивиллов Несвижских (Ex-libris Bibliothecae Ducalis Radivillianae Nesvisiensis).
Рис. 12 Экслибрис из библиотеки Радзивиллов Несвижских (Ex-libris EX BIBLIOTHECA RADIVILIANA DUCALI NESVISIENSI).
Рис. 13 Экслибрис из Библиотеки ординации Биржанской (Ex-libris BIBLIOTEKA ORDYNACYI BIRZANSKIEI).
Рис. 14 Позолоченный суперэкслибрис Радзивиллов Несвижской ординации.
Рис. 15 Позолоченный суперэкслибрис Юрия Радзивилла.
Рис. 16 Библиофильское издание, имеет желтый кожаный переплет, на нем суперэкслибрис Радзивиллов.
Рис. 17 Круглая печать-штемпель, сделана красными чернилами — Библиотека ординации Несвижской (Biblioteka Ordynacji Nieswieskiej).
Рис. 18 Овальная печать-штемпель, красными чернилами — Библиотека ординации Несвижской (Biblioteka Ordynacji Nieswieskiej).
Рис. 19 Книжный ярлык: *Книжный магазин Тов-ва М. О. Вольфа*, имеет владельческую запись, которая гласит: Из книг «*Льва Радзивилла уч. III кл. ПЕИВ корпуса*».
Рис. 20 Единственное печатное издание, которое имеет на форзаце красную сургучную печать Радзивиллов и владельческую запись: *Książka Ks. Jerza Radzwilla*.

***А. І. Цітавец***

## ЗВЕСТКІ ПРА ПЕРАПІСЧЫКАЎ РУКАПІСНЫХ КНІГ БЕЛАРУСКІХ ТАТАРАЎ XVII—XX стст.

Татары пачалі сяліцца на землях ВКЛ з XIV ст. Ужо ў XVI ст. яны страцілі родную мову і карысталіся афіцыйнай мовай княства. У мэтах захавання свайго веравызнання татары пераклалі кнігі з мусульманскімі свяшчэннымі тэкстамі на беларускую і польскую мовы, дадаўшы да іх новыя тэксты, створаныя на новай радзіме. Атрымаліся шматмоўныя арабаграфічныя зборнікі на арабскай, цюркскай, беларускай і польскай мовах, у якіх нават беларускія і польскія тэксты пісаліся арабскімі літарамі.

Тэксты арыентальнага паходжання ўяўлялі сабой узоры арабскай і цюркскай літатаруры на мовах арыгіналаў, іх пераклады на польскую і беларускую мовы, а таксама адаптаваныя і апрацаваныя ўсходнія тэксты. Тэксты мясцовага паходжання складаліся з запазычанняў з літаратуры ВКЛ на польскай мове, адаптаваных твораў з літаратуры ВКЛ, а таксама мусамадзейных твораў беларускіх татараў (напрыклад, палемічных). Змест рукапісаў фарміраваўся з сярэдзіны XVI да канца XVIII ст., потым кнігі перапісваліся без істотных змяненняў да XX ст. Асобныя рукапісы захавалі імёны перапісчыкаў і іх запісы на кнігах, што з'яўляецца дадатковай крыніцай для вывучэння гісторыі культуры беларускіх татараў.



Выяўленне імён перапісчыкаў і кола перапісаных імі кніг ускладняе тое, што звесткі пра захаваныя рукапісы часта няпоўныя і недакладныя. Адны навукоўцы ідэнтыфікуюць кнігу па перапісчыку (С. Крычынскі пазначае — «кітаб[1] Шагідэвіча»[2], В. Несцяровіч — «кітаб Хасяневіча»[3]), а іншыя даследчыкі — па ўладальніку (А. Антановіч вызначае — «хамаіл[4] С. Х. Александровіча»[5], Г. Янкоўскі і Ч. Лапіч — «кітаб Мількамановіча»[6]). Адным з вынікаў ужывання розных падыходаў да ідэнтыфікацыі кнігі з'яўляюцца выпадкі непаразуменняў. Напрыклад, А. Антановіч пісаў пра «кітаб Аляксандра Александровіча» 1852 г., а І. Канапацкі згадваў «кітаб Шагідэвіча» 1852 г. Калі мець на ўвазе, што І. Канапацкі называў прозвішча перапісчыка, а А. Антановіч — уладальніка, то належыць дапусціць, што даследчыкі згадвалі адну і тую ж кнігу. Але калі ўлічыць, што вядомы таксама і іншы перапісчык — Аляксандр Александровіч (ён перапісаў хамаіл канца XIX ст.[7]), то можна прыйсці да высновы, што былі два розныя кітабы, напісаныя ў 1852 г.[8]

Мы прааналізавалі звесткі з трох каталогаў: «Рукапісныя і друкаваныя кнігі беларускіх татараў»[9], «Piśmiennictwo i muhiry Tatarów polsko-litewskich»[10] і «Рукапісы беларускіх татараў канца XVII — пачатку XX ст. з калекцыі ЦНБ НАН Беларусі»[11], а таксама інфармацыю з кніг і артыкулаў, якая не была ўлічана ў каталогах[12]. У выніку зарэгістраваны 121 асобнік татарскіх рукапісных кніг, найбольшая колькасць з іх (59%) захоўваецца ў дзяржаўных калекцыях: у зборах Літвы — 27%, Беларусі — 14%, Польшчы — 8% і інш.

Самы вялікі дзяржаўны кнігазбор (29 рукапісаў) захоўваецца ў калекцыі Літоўскага нацыянальнага музея ў Вільнюсе. Другім значным кнігазборам з'яўляецца калекцыя ЦНБ НАН Беларусі (14 асобнікаў). Гэта самая вялікая калекцыя на тэрыторыі сучаснай Беларусі. У яе складзе тэфсір 1686 г., які змяшчае самую старую захаваную копію перакладу Кур'ана на польскую мову. Асобныя рукапісы беларускіх татараў можна сустрэць і ў бібліятэках Лондана, Лейпцыга, Казані, Львова і інш. Значная частка кніг знаходзіцца ў прыватных калекцыях, многія з іх яшчэ не зарэгістраваны і не апісаны. На 57 кнігах 1645—1986 гг. з айчынных і замежных кнігазбораў былі выяўлены запісы перапісчыкаў, устаноўлены імёны 49 перапісчыкаў.

Каштоўныя звесткі пра перапісчыка, часам і заказчыка, а таксама дату (яна прыводзілася часцей, чым прозвішча перапісчыка) і месца напісання кнігі можна знайсці ў калафонах. Даты пазначаліся па мусульманскім календары, а нярэдка адначасова па двух летазлічэннях: мусульманскім і хрысціянскім. У XVII—XVIII стст. (сустракаліся і ў XIX ст.) выходныя звесткі звычайна запісваліся па-арабску і цюркску, з XVIII ст. з'явіліся калафоны на беларускай і польскай мовах.

Адзін з самых старых захаваных калафонаў маецца ў тэфсіры[13] 1686 г. (Р214) з калекцыі ЦНБ НАН Беларусі. На аркушы 514а па-цюркску напіса-

на: *«Мінск імам перакладчык Ур’яш ібн Ісмаіл… у дзевяноста восьмым годзе ў блаславенны месяц мухарам скончаны ў горадзе Мінску 1098 [=1686] год…»*. На адвароце аркуша запіс перапісчыка на арабскай мове з удакладненнем: *«Перапісчык Ур’яш ібн Ісмаіл, імам мусульман акругі Мінска»*[14].

Дарэчы, польскі даследчык Я. Тышкевіч сцвярджаў, што імёны і прозвішчы перапісчыкаў з’явіліся ў калафонах арабаграфічных рукапісаў у XVIII ст.[15], аднак, тое, што ў тэфсіры 1686 г. змешчана імя перапісчыка і звесткі пра час напісання кнігі на арабскай і цюркскай мовах, даказвае больш ранняе існаванне калафонаў з імёнамі перапісчыкаў.

У адным рукапісе выходныя звесткі маглі быць пададзены ў некалькіх версіях. Напрыклад, у Кур’ане 1854 г. на аркушы 302б калафон напісаны на цюркскай мове арабскім пісьмом, а на аркушы 307а — на рускай мове грамадзянскім пісьмом (*«Писал сию книгу Мустафа Жданович февраля 18 дня 1854 года, тог ж месяца февраля окончил»*) і арабскім пісьмом (*«…Алі ібн Мустафа Ждановіч… месяц джумада аль-ахір, трынаццаты дзень, чацвер»*)[16]. У кітабе 1792 г. былі тры версіі выходных звестак: па-польску арабскім пісьмом, па-польску лацінкай, па-руску кірыліцай[17]. Хаця калафоны не заўсёды поўнасцю прадстаўлены ў каталогах (дарэчы, яны маглі проста не захавацца з-за таго, што пісаліся на апошніх аркушах, якія страчваліся хутчэй за іншыя).

Перапісвалі кнігі мулы, муэдзіны, знахары і пажылыя вернікі, якія ўжо не займаліся фізічнай працай. У асобных выпадках кнігі перапісвалі палонныя туркі. Вядомы імёны перапісчыкаў, якія былі імамі: Карыцкі Мустафа, Карыцкі Юзэф, Смайкевіч Алі, Ур’яш ібн Ісмаіл, Хусейн, Ясінскі Стэфан. Перапісваў кнігі былы ваенны, намеснік літоўскіх войск Карыцкі Мустафа[18]. Сярод перапісчыкаў дзве жанчыны — Смольская Айша з Мышы і Канапацкая Халіма з Саколак[19]. Былі татары, якія прафесійна займаліся перапісваннем Кур’ана і іншых рэлігійных кніг.

Часам перапісчык у пачатку кнігі даваў кароткую прадмову ад сябе, у якой тлумачыў змест кнігі і запрашаў да чытання. У кітабе 1852 г. Мустафы Шагідэвіча са Слоніма напісана: *«У гэтай кнізе змешчаны загады і забароны, запаведзі, абяцанні і пагрозы Божыя, а таксама сутнасць таго, што падыходзіць або не, паслухмянасць і непаслухмянасць, знакі праўды, адплата як для ўзнагароды, так і для пакарання…»*[20]

Пісалі пра значныя падзеі жыцця сваёй сям’і: *«Мая дачка Фаціма нарадзіла ў чацвёрты год у блаславенны месяц мухарам у панядзелак, імя яго Раджаб»*[21].

Пакідалі гаспадарскія рэцэпты: *«Лёгкі спосаб развядзення садовых дрэваў»*, *«Агульныя звесткі пра пладовыя дрэвы … і іх прышчэпліванне»*, *«Спосаб хуткага адбельвання палатна»*[22].





**Тэфсір. Мінск, 1686 г. (Р214)**

На аркушы 514а знаходзяцца ранейшыя запісы перапісчыка (карычневым чарнілам) і больш познія прыпіскі іншай асобы (чорным чарнілам). Калі ўлічваць радкі, напісаныя асноўным почыркам карычневым чарнілам, у першым радку напісана — «Мінск імам»; у другім радку на арабскай мове — «перакладчык Ур’яш ібн Ісмаіл» (пад радком чорным чарнілам прыпісана па-руску арабскімі літарамі — «переводчик»); далей змешчана рэлігійная формула на цюркскай мове (5 радкоў, 3—7), у восьмым радку па-цюркску — «канец»; у дзявятым радку па-цюркску напісана — «у дзевяноста восьмым годзе ў блаславенны месяц мухаррам скончаны ў горадзе Мінску»; у дзясятым (апошнім) радку — «1098 [1686] год», паміж дзявятым і дзясятым радкамі чорным чарнілам прыпісана дата ў адваротным парадку — «8901», з правага боку ад даты — па-польску (арабскімі літарамі) — «roku», з левага боку — па-беларуску (арабскімі літарамі) — «hoda».

Перапісвалі тэксты, якія падабаліся, напрыклад хадзіс[23] на арабскай мове: «*Убачыў ён [Мухамад] чалавека, які збівае другога па твару, і забараніў яму біць па твару, і сказаў: «Сапраўды, Аллах Высокі стварыў чалавека па аблічча свайму … і не змянілася аблічча яго падчас выгнання з раю ў свет*»[24].

Капіраваннем рэлігійных кніг з больш даўніх экземпляраў займаліся татары, якія ведалі арабскае пісьмо, але не заўсёды мелі свецкую адукацыю. Яны старанна перапісвалі тэксты, захоўваючы ў ім архаічныя формы і стыль, аднак папаўнялі памылкі ў скланенні і спражэнні. Часам перапісчыкі ўжывалі арабскія тэрміны і тэрміналагічныя спалучэнні рэлігійнага зместу ў значэнні, не адпаведным традыцыйнаму разуменню[25].

Лічылася, што свяшчэнная кніга не павінна была ўзнаўляцца на паперы механічна і што яна павінна перапісвацца вернікамі з добрай рэпутацыяй. Папярэднічала гэтаму малітва і спецыяльны настрой. Перапісчыкі лічылі сваю справу богаўгоднай, прыгожым каліграфічным почыркам пісалі Кур'аны, тэфсіры і кітабы і менш старанна — паўсядзённыя хамаілы. На перапіску хамаіла затрачвалася некалькі месяцаў, а на Кур'ан значна больш часу. Але былі і выключэнні: за адзін месяц былі перапісаны Кур'ан 1854 г.[26] і кітаб 1832 г.[27] Магчыма, перапісчыкі хацелі завяршыць працу да заканчэння мусульманскага посту ў месяцы рамазан, а магчыма, яны спяшаліся, каб выканаць заказы ў тэрмін.

Кніга магла на працягу многіх гадоў дапаўняцца новымі тэкстамі: частка аркушаў страчвалася, узамен дадаваліся новыя, запоўненыя іншымі перапісчыкамі. Напрыклад, адным з перапісчыкаў Кур'ана апошняй чвэрці XIX ст. быў Алі Хасяневіч, які дапісаў страчаны фрагмент кнігі і зрабіў такі запіс на змешанай польска-беларускай мове арабскім пісьмом: «*Алі ібн Хасан Хасяневіч дапісал эты свенты Кур'ан месяца шавалля*»[28]. Хамаіл Александровіча быў напісаны рознымі перапісчыкамі ці, магчыма, адным і тым жа, але на працягу доўгага часу (з 1876 па 1923 г.)[29].

Перапісчыкі стараліся захоўваць даўнія традыцыі пісьма: пісалі гусіным пяром, чарніла выраблялі самі з раслін па старых рэцэптах, нават у хамаіле Я. Якубоўскага, напісаным у 20—30-я гг. XX ст., было выкарыстана карычневае чарніла, зробленае па старых рэцэптах[30].

Адзін перапісчык мог «выдаць» некалькі кніг. Напрыклад, вядомы перапісчык Мустафа Шагідэвіч са Слоніма (памёр пасля 1852 г.) быў перапісчыкам і аўтарам «Турэцка-беларускага размоўніка» 1836 г. (R 13043), перапісчыкам кітаба 1837 г. (R 13042) і кітаба 1852 г. Ясінскі Стэфан Мустафа, імам абшчыны ў Крушынянах, перапісаў у 1986 г. два хамаілы: адзін — лацінкай, другі — арабскім пісьмом[31].

Замест імя і прозвішча іншы раз перапісчыкі пакідалі толькі ініцыялы «N. N., J. D.»[32] ці імя — «Хусейн»[33]. Сустракаліся яўна мусульманскія прозвішчы — Абд ал-Вахаб Муса б. Мустафа (Габдулвахаб Муса ібн Мустафа)[34] і славянскія — Александровіч Аляксандр. У многіх перапісчыкаў прозвішчы, якія сфарміраваліся на беларускі манер пры дапамозе суфіксаў *-іч*, *-овіч*, што дадаваліся да імён бацькоў — Асановіч[35], Хасяневіч. Іншыя прозвішчы — Александровіч[36], Багдановіч[37], Лебедзь (апошняе ўзнікла ад мянушкі)[38] не адрозніваліся ад беларускіх. У большасці перапісчыкаў прозвішчы славянскага тыпу, а імёны цюркскія (ці хутчэй арабскія) — Алі, Ібрагім/Абрагам, Хусейн, Айша і інш. Многія беларускія татары выкарыстоўвалі двайное імя, адно — славянскае — для кантактаў з мясцовым насельніцтвам, другое — цюркскае — пісалі арабскім пісьмом на дакументах. З цягам часу славянскія імёны ў татар выцяснялі цюркскія.



Калі на некаторых мусульманскіх кнігах захаваліся прозвішчы перапісчыкаў, то імёны стваральнікаў беларускіх тэкстаў, мясцовых мусульманскіх перакладчыкаў засталіся невядомыя. Адзінае імя перакладчыка тэксту кітабаў з «фарсейскай» (персідскай) і турэцкай моў на старабеларускую — «Хадына» — захавалася на кітабе 1645 г. (1446). Сёння вядомы аўтар (ён жа перапісчык) «Турэцка-беларускага размоўніка» 1836 г., які захоўваецца ў Нацыянальным музеі Літвы ў Вільнюсе, — Мустафа Шагідэвіч са Слоніма. Выклікае пытанне, чаму перапісчык тэфсіра 1686 г. на аркушы 514а напісаў пра сябе — «*перакладчык*», а на яго адвароце — «*перапісчык*». Гэта, мабыць, памылка альбо перапіска звестак з ранейшага тэфсіра.

Геаграфія месцаў жыхарства перапісчыкаў наступная: Арда, Беласток, Бутрыманцы, Гданьск, Рэйжы, Кашалі каля Студзянкі, Крушыняны, Лоўчыцы, Малюшыцы / Малюшычы, Мінск, Мыш, Навагрудак, Немеж, Саколка, Сандыкаўшчына, Слонім, Сорак Татар / Сорак Татары, Ясінаўка. Пра перапісчыкаў звычайна атрымліваецца ўстанавіць мінімум сведчанняў: прозвішча, якое пастаўлена на рукапісе, і месца жыхарства. Маецца некалькі публікацый, у якіх устанаўліваюцца іх біяграфічныя даныя. Так, А. Дрозд у артыкуле «Chamaił Sobolewskiego» распавядае пра перапісчыка з Арды Алея Байрашэўскага, сына Давіда[39].

Матэрыялы пра ўцалелыя кнігі беларускіх татараў і іх перапісчыкаў маладаследаваны ў айчыннай навуцы. У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі збіраецца і аналізуецца інфармацыя пра ўсе захаваныя асобнікі, вядзецца каталагізацыя і навуковае апісанне рукапісаў з кнігазбораў Беларусі. У рамках гэтай работы быў падрыхтаваны паказальнік перапісчыкаў кніг з айчынных і замежных калекцый:

| **Перапісчыкі** | **Варыянты імён** | **Назва кнігі** | **Месца перапіскі** | **Дата перапіскі** | **Месца захоўвання** | **Крыніцы** |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Абд ал-Вахаб Муса ібн Мустафа[40] | Габдул-вахаб Муса ібн Муста-фа | Кітаб | | 1055 / 1645 | Універсітэцкая біб-ка ў Казані (№ 1446) | Каталог А. Драз-да[41] С. 11, 51. № 15 |
| Абдулах Ісмаіл Мус-тафа | | Кур'ан | | 1682 | Пскоўскі гісторыка-археалагічны музей (Ж8/56) | Каталог А. Драз-да С. 11 |
| Александро-віч Абрагам з Малюшыц / Малюшычаў | | Хама-іл[42] | | 1877 | Прыватны кнігазбор | Каталог А. Драз-да С. 58. № 38 |
| Александро-віч Аляк-сандр з Ас-молава | | Хама-іл | | Канец XIX ст. | Біб-ка факуль-тэта арабістыкі і ісламістыкі інстытута арыенталістыкі Варшаўскага універсітэта | Каталог А. Драз-да С. 9. № 35 |
| Александро-віч Аляк-сандр[43] | | Кітаб | | 1852 | Знаходзіўся ў кнігазборы Муфціята ў Вільнюсе. Недзяржаўны кнігазбор | Антано-віч С. 43[44] |
| Александро-віч Ібрагім | | Кур'ан | [Узда] | 1857 | Прыватны кнігазбор | Каталог БУК С. 7, 20. № 2[45] |
| Асановіч Адам Рафа-лаў | | Тэфсір | [Даўгінава] | Пач. XX ст. | Прыватны кнігазбор | Каталог БУК С. 10, 20. № 6 |
| Асановіч Багдан сын Шабана, імам з Лоўчыцаў | Асановіч Богдан | Тэфсір | | 1725 | Беларуская біб-ка імя Ф. Скарыны ў Лондане (без сігн.) | Каталог А. Драз-да С. 11, 48. № 3 |
| Баграновіч Абрагам з Ясінаўкі | | Кітаб | | 1850 | Прыватны кнігазбор (?) | Konopac-ki M. Piś-mien-nictwo… S. 202[46] |



| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Баграновіч Мустафа са Слоніма | | Хама-іл | | 1828 | Брытанская біб-ка ў Лон-дане (OR 13,054) | Каталог А. Дра-зда С. 11, 55. № 29 |
| Байрашэўскі Алей сын Давіда з Арды | Байрашэў-скі Алі | Хама-іл | Арда | 1905 — 1914 | Прыватны кнігазбор | Drozd A. Chamaił Sobolews-kiego… S. 48—62[47] |
| Байрашэўскі Алі сын Давіда з Арды | Байрашэў-скі Алей | Хама-іл | | Пач. XX ст. | Прыватны кнігазбор | Каталог А. Драз-да С. 58. № 37 |
| Байрашэўскі Юзэф з Беластока | | Кітаб[48] | Беласток | 1982 | Прыватны кнігазбор | Tyszkie-wicz J. Treści… S. 122[49] |
| Біцютка Алі | | Кур'ан | [Мінск] | 1797 | Прыватны кнігазбор | Каталог БУК С. 7, 8, 20. № 3[50]. |
| Біцютка Алі | Біцутка | Тэфсір | | 1788 | Універсітэцкая біб-ка ў Віль-нюсе (№ 392) | Каталог А. Драз-да С. 11 |
| Гельяшэвіч Юсуф з Сандыкаў-шчыны, намеснік літоўскіх войск | Ельяшэвіч Юсуф | Кітаб | | 1206 / 29.01.1792 | Кітаб страчаны | Каталог А. Драз-да С. 53. № 21 |
| Ёзафовіч Адам | Ёзэфовіч | Кітаб | | 1882 | Прыватны кнігазбор | Каталог А. Драз-да С. 52. № 19 |
| Ёзафовіч Адам В. | Ёзэфовіч | Тэфсір | Дунілаві-чы (?) | 03.11.1890 | Нацыянальны літоўскі музей у Вільнюсе (R13012) | Каталог А. Драз-да С. 9, 49. № 4 |
| Езуфовіч | | Кітаб | Крынкі (?) | 1888 | Прыватны кнігазбор | Łapicz Cz. Kitab Tatarów… S. 67[51] |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Езуфовіч Ян з Немежа | | Хамаіл | Немеж | 1765 | Нацыянальны літоўскі музей у Вільнюсе (R13029) | Каталог А. Дразда С. 10, 54—55. № 26 |
| Ждановіч Алей сын Якуба | Ждановіч Алі | Кур'ан | | 1835 | Нацыянальны літоўскі музей у Вільнюсе (R13021) | Каталог А. Дразда С. 9, 50. № 11 |
| Ждановіч Мустафа | | Кур'ан | | 18.01.1854 | ЦНБ НАН Беларусі | Каталог ЦНБ С. 8—9. № 2[52] |
| Ждановіч Мустафа з Мінска | | Кур'ан | Мінск | 1847 | Прыватны кнігазбор | Каталог А. Дразда С. 50. № 12 |
| Канапацкая Халіма з Саколкі | | Хамаіл | | 30-я гг. XX ст. | Біб-ка фак-та арабістыкі і ісламістыкі інстытута арыенталістыкі Варшаўскага універсітэта | Каталог А. Дразда С. 9 |
| Карыцкі Мустафа, імам | | Хамаіл | | 1217 / 1802 | Біб-ка ПАН у Гданьску (akc692) | Каталог А. Дразда С. 9, 56. № 30 |
| Карыцкі Н. | Карыцкі М. | Кітаб | | 1843 | Біб-ка Вільнюскага універсітэта (№ 391) | Каталог А. Дразда С. 10 |
| Карыцкі Юзэф, былы імам | | Кур'ан | | 1900 | Прыватны кнігазбор | Konopacki M. Piśmiennictwo… S. 202 |
| Лебедзь Давід з Бутрыманцаў / Бутрыманцоў Рэйжаўскай абшчыны | | Кур'ан | | 1841 | Прыватны кнігазбор | Каталог А. Дразда С. 49. № 6 |



| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Лебедзь Ян | | Кітаб | | 1771 | Нацыянальны літоўскі музей у Вільнюсе (R13035) | Каталог А. Дразда С. 10 |
| Мейшутовіч Хасень | | Кітаб | | 1882 | Прыватны кнігазбор | Каталог А. Дразда С. 52, № 19 |
| Мускевіч Аляксандр | | Хамаіл | Ляхавічы | 1840 | Прыватны кнігазбор (?) | Самайловіч С. 183[53] |
| НН | ММ. | Кітаб | | 1882 | Прыватны кнігазбор | Каталог А. Дразда С. 52. № 19 |
| Палтужыцкі Ян | | Тэфсір | | 1843 | Прыватны кнігазбор | Антановіч С. 42 |
| Паўтарыцкі Мустафа з Малюшыцаў / Малюшычаў | | Кур'ан | | 1824 | Гістарычны музей у Беластоку (філіял музея ў Падляшшы) (MBH1121) | Каталог А. Дразда С. 9 |
| Радэцкі Сулейман | Радзецкі | Хамаіл | | XIX ст. | Гістарычны музей у Беластоку (філіял музея ў Падляшшы) (MBH1256) | Каталог А. Дразда С. 57. № 34 |
| Радкевіч Н. | Радкевіч М. | Кітаб | | 1882 | Прыватны кнігазбор | Каталог А. Дразда С. 52. № 19 |
| Сафарэвіч Юзэф з Наваградка | | Хамаіл | | 1870 | Гістарычны музей у Беластоку (філіял музея ў Падляшшы) (MBH1122) | Каталог А. Дразда С. 9 |
| Смайкевіч Алі, імам гміны ў Гданьску | | Хамаіл[54] | | 1971 | Прыватны кнігазбор | Каталог А. Дразда С. 59. № 44 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Смольская Айша з Мышы | | Кітаб | | 1815 | Нацыянальны літоўскі музей у Вільнюсе (R13032) | Каталог А. Дразда С. 10 |
| Смольскі Ібрагім | | Кітаб | | 1775 | Універсітэцкая біб-ка ў Казані (№ 3180) | Каталог А. Дразда С. 11 |
| Ур’яш ібн Ісмаіл, імам мусульман г. Мінска | | Тэфсір | Мінск | 1686 | ЦНБ НАН Беларусі | Каталог ЦНБ С. 12—13. № 6 |
| Халецкі Б. з Рэйжаў | | Хамаіл | | 27.02.1835 | Прыватны кнігазбор | Каталог А. Дразда С. 58. № 40 |
| Хасяневіч Абрагім | | Кітаб | [Смілавічы] | 20.02.1832 | Прыватны кнігазбор | Каталог БУК С. 8, 9, 20. № 4 |
| Хасяневіч Адам сын Ібрагіма | Хасяневіч Абрагам | Кур’ан | | 21.03.1839 | Беларускі дзяржаўны музей рэлігіі ў Гродна (№ 4738) | Каталог А. Дразда С. 11, 49 |
| Хасяневіч Аляксандр | | Кітаб | | 1868 | Раней знаходзіўся ў Гісторыка-этнаграфічным музеі АН ЛітССР (№ 13) | Антановіч С. 84—88 |
| Хасяневіч Алі | | Кур’ан | | Апошняя чвэрць XIX ст. | ЦНБ НАН Беларусі | Каталог ЦНБ С. 9—10. № 3 |
| Хусейн, мураўскі імам з Сорак Татар / Сорак Татары | | Кур’ан | | 1-я чвэрць XIX ст. | Нацыянальны літоўскі музей у Вільнюсе (R13027) | Каталог А. Дразда С. 9 |
| Шагідэвіч Мустафа | Шагідзевіч | Кітаб | | 1852 | Прыватны кнігазбор (?) | Мішкінене… С. 31[55] |



| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Шагідэвіч Мустафа са Слоніма | Шагідзевіч | Турэцка-беларускі размоўнік | | 1836 | Нацыянальны літоўскі музей у Вільнюсе (R13043) | Каталог А. Дразда С. 10, 60. № 47 |
| Шагідэвіч Мустафа са Слоніма | Шагідзевіч | Кітаб | Слонім | 1837 | Нацыянальны літоўскі музей у Вільнюсе (R13042) | Каталог А. Дразда С. 10, 54. № 24 |
| Шагідэвіч Ян, імам з Лоўчыцаў | Шагідзевіч | Хамаіл[56] | | 1907 | Нацыянальны літоўскі музей у Вільнюсе (R13036) | Каталог А. Дразда С. 10 |
| Юзафовіч Н. | Юзэфовіч М. | Кур’ан | | 1850 | Нацыянальны літоўскі музей у Вільнюсе (R13014) | Каталог А. Дразда С. 10 |
| Я. Д. з Кашалёў каля Студзянкі | | Хамаіл | | 02.10.1808 | Дзяржаўная публічная бібліятэка ў Львове (без сігн.) | Каталог А. Дразда С. 11 |
| Яблонскі Ісмаіл сын Мустафы | | Тэфсір | | 1723 | Прыватны кнігазбор | Каталог А. Дразда С. 48 |
| Якубоўскі М. | | Хамаіл | [Мядзел] | Кан. XIX — пач. XX ст. | Прыватны кнігазбор | Каталог БУК С. 7, 8, 20. № 3 |
| Ясінскі Стэфан Мустафа, імам абшчыны ў Крушынянах | Ясіньскі | Хамаіл[57] | Беласток | 1986 | Прыватны кнігазбор | Каталог А. Дразда С. 59. № 45 |
| Ясінскі Стэфан Мустафа, імам абшчыны ў Крушынянах | Ясіньскі | Хамаіл | Беласток | 1986 | Прыватны кнігазбор | Каталог А. Дразда С. 59. № 46 |

[1] Кітаб — у перакладзе з арабскай мовы азначае «кніга», але беларускія татары называлі кітабамі не ўсе кнігі, а зборнікі, у якіх змяшчаліся паданні пра Мухамада, апісанні абрадаў, рытуалаў мусульман, маральна-павучальныя апавяданні, палемічныя творы.

2 Kryczyński S. Tatarzy litewscy: Proba monografii hist.-etnogr. // Rocz. tatarski. 1938. T. 3. S. 223.

3 Несцяровіч В. Кітабы як крыніца маральна-этычных нормаў, або Яшчэ раз пра кітаб Хасяневіча // Байрам, 2001. № 41. С. 25 — 34.

4 Хамаіл — малітоўнік, у ім сабраны малітвы на арабскай і цюркскай мовах, тлумачэнні рэлігійных абрадаў, а таксама парады па лячэнні хвароб, тлумачэнні сноў, календары шчаслівых і нешчаслівых дзён.

5 Антонович А. К. Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система. Вильнюс, 1968. С. 144—145.

6 Jankowski H., Łapicz Cz. Klucz do raju: Księga Tatarów litewsko-polskich z XVIII wieku. Warszawa, 2000. S. 7.

7 Drozd A. Piśmiennictwo i muhiry Tatarów polsko-litewskich / A. Drozd, M. M. Dziekan, T. Majda Warszawa, 2000. S. 57, № 35.

8 Да з'яўлення больш падрабязных звестак мы пакуль улічваем два кітабы.

9 Рукапісныя і друкаваныя кнігі беларускіх татараў: Каталог выставы (Да 600-годдзя татар. асаднiцтва на Беларусі) // Беларус. ун-т культуры; Б-ка; Аддз. рэд. кн. Мн., 1997. 22 с.

10 Drozd A. Piśmiennictwo… 84, 74 s. il.: il.

11 Рукапісы беларускіх татараў канца XVII — пачатку XX ст. з калекцыі ЦНБ НАН Беларусі: Каталог / Уклад.: І. А. Ганчарова, А. І. Цітавец, М. У. Тарэлка. Мн., 2003. 55 с.: іл. (на правах рукапісу).

12 Konopacki M. Piśmiennictwo Tatarów polsko-litewskich w nauce polskiej i obcej // Przegląd orientalistyczny. 1966. № 3. S. 193—204; Drozd A. Chamaił Sobolewskiego // Rocz. Tatarów Pol. 1993. T. 1. S. 48—62; Tyczkiewicz J. Treści kitabów tatarskich // Rocz. Tatarów Pol. 1993. T. 1. S. 117—122; Łapicz Cz. Kitab Tatarów litewsko-polskich (Paleografia. Grafia. Język). Toruń, 1986. 236 s.; Самойлович А. Н. Избранные труды о Крыме: Сб-к / Ред.-сост.: Е. Г. Эмирова. Симферополь, 2000. С. 181—187; Miškinienė G. Seniausi lietuvos totorių rankraščiai (Grafika. Transliteracija. Vertimas. Tekstų struktūra ir turinys): Metodinė mokymo priemonė. Vilnus, 2001. 262 s.

13 Тэфсір — тлумачэнне Кур'ана. У беларускіх татараў тэфсір змяшчаў тэкст Кур'ана на арабскай мове з падрадковым перакладам на польскую мову.

14 Звычайна лічыцца, што пераклад Кур'ана на польскую мову (тэфсір) быў здзейснены ў апошніх дзесяцігоддзях XVI — пачатку XVII ст. невядомым аўтарам, а потым яго праца была распаўсюджана перапісчыкамі. У тэфсіры 1686 г. перапісчык Ур'яш ібн Ісмаіл напісаў аб сабе «перакладчык». Мабыць, пры капіраванні кнігі ў гэтым выпадку разам з тэкстам перапісвалася і імя ранейшага перапісчыка ці перакладчыка.

15 Tyszkiewicz J. Z historyi Tatarów Polskich 1794 — 1944: Zbiór szkiców z aneksami źródłowymi / Wyższa Shkoła Humanistyczna w Pułtusku. Pułtusk, 1998. S. 60.

16 Кур'ан 18.02.1854 г. (Р259) з калекцыі ЦНБ НАН Беларусі.

17 Drozd A. Piśmiennictwo … S. 53, № 21.

18 Ibid. S. 53. № 21.

19 Ibid. S. 9, 10.



20 Kryczyński S. Tatarzy litewscy… S. 223. Канапацкі І. Б., Смолік А. І. Гісторыя і культура беларускіх татар: Вучэб. дапам. Мн., 2000. С. 215.

21 Тэфсір Р214. (Мінск, 1686 г.) з калекцыі ЦНБ НАН Беларусі. Арк. 518б.

22 Dziekan M. M. Chamaił Aleksandrowicza // Rocz. Tatarów Pol. 1997. T. 4. S. 30.

23 Хадзіс — паданне пра жыццё і дзейнасць прарока Мухамада і яго паплечнікаў.

24 Тэфсір Р214 (Мінск, 1686 г). з калекцыі ЦНБ НАН Беларусі. Арк. 517а.

25 Miškinienė G. Seniausi lietuvos totorių rankraščiai… S. 9, 20.

26 Кур'ан 1854 г. (Р259) з калекцыі ЦНБ НАН Беларусі.

27 Несяцяровіч В. Кітаб 1832 года: палеаграфія, змест, графіка, арфаграфія // Весн. Віцеб. джярж. ун-та. 2001. № 2. С. 81—82.

28 Кур'ан Р211 з калекцыі ЦНБ НАН Беларусі. Арк. 169б.

29 Dziekan M. M. Chamaił Aleksandrowicza // Rocz. Tatarów Pol. 1997. T. 4. S. 28.

30 Антонович А. К. Белорусские тексты… С. 140.

31 Drozd A. Piśmiennictwo… S. 11, 59. № 45, 46.

32 Ibid. S. 11, 52, № 19.

33 Ibid. S. 9.

34 Ibid. S. 11, 51. № 15.

35 Рукапісныя і друкаваныя кнігі беларускіх татараў… С. 10, 20. № 6; Drozd A. Piśmiennictwo… S. 11, 48. № 3.

36 Рукапісныя і друкаваныя кнігі беларускіх татараў… С. 7, 20. № 2.

37 Konopacki M. Piśmiennictwo… S. 202.

38 Drozd A. Piśmiennictwo… S. 49, № 6.

39 Drozd A. Chamaił Sobolewskiego… S. 53.

40 Напісанне прозвішчаў перапісчыкаў можа быць не зусім дакладным: у каталогу «Piśmiennictwo i muhiry Tatarów polsko-litewskich» прозвішчы прыведзены ў польскай транскрыпцыі, а ў выпадках з калафонам на арабскай ці цюркскай мовах — у лацінскай транслітарацыі з гэтых моў.

41 Drozd A. Piśmiennictwo… 84, 74 s. il.:il.

42 Двухтомны хамаіл.

43 Невядома, быў Александровіч Аляксандр перапісчыкам ці ўладальнікам.

44 Антонович А. К. Белорусские тексты… 418 с.

45 Рукапісныя і друкаваныя кнігі… 22 с.

46 Konopacki M. Piśmiennictwo… S. 193 — 204.

47 Drozd A. Chamaił Sobolewskiego… S. 48 — 62.

48 Машынапіс лацінкай на польскай мове.

49 Tyczkiewicz J. Treści kitabów… S. 117—122.

50 У каталогу памылкова пазначаны як «Аль-Кітаб».

51 Łapicz Cz. Kitab Tatarów litewsko-polskich…. 236 s.

52 Рукапісы беларускіх татараў канца XVII — пачатку XX стагоддзя… 55 с.: іл.

53 Самойлович А. Н. Избранные труды о Крыме… С. 181—187.

54 Тэкст машынапісны.

55 Miškinienė G. Seniausi lietuvos totorių rankraščiai… 262 s.

56 Напісаны кірыліцай.

57 Транскрыбіраваны лацінкай, машынапісны.

***А. Л. Самович***

# К ВОПРОСУ О ВОЕННОПЛЕННЫХ НАПОЛЕОНОВСКОЙ АРМИИ В 1812—1814 гг. В РОССИЙСКОЙ ИМПЕРИИ

На первом этапе кампании 1812 г., когда отступавшие русские войска неоднократно вступали с противником в боевые столкновения, количество французских военнопленных, этих «узников войны»*, было незначительно, что свидетельствует о высокой боеспособности наполеоновских войск. Положение кардинально изменилось на втором этапе, когда преследуемая российскими войсками «Великая армия» Наполеона понесла значительные небоевые потери, утрачивая по мере приближения к границе способность к сопротивлению. В отчете Александру I о сражении при Березине (с 23 ноября по 2 декабря) М. И. Кутузов писал, что противник потерял 50 тыс. человек, но из них 25 тыс. — пленные. 28 декабря 1812 г. фельдмаршал сообщал, что Наполеон «оставил нам, по крайней мере, 150 тыс. пленных»[1].

Несмотря на то что во многих трудах, освещающих историю периода Отечественной войны 1812 г., содержатся некоторые сведения и отдельные цифровые данные о захваченных в плен солдатах и офицерах наполеоновских войск, информация о дальнейшей судьбе «узников войны» и обо всем, что связано с их пребыванием в положении военнопленных, отсутствует. Причина того, что историки-профессионалы редко обращались к разработке этой темы, коренится не только в узком круге источников, но и вызвана также политической остротой ряда изучаемых вопросов.

Акцентируем внимание на органично вписывающемся в контекст поднимаемом вопросе — отношении представителей власти и населения к поверженному противнику. Отношение различных слоев российского общества к представителям «Великой армии», как свидетельствует частная переписка, дневники русских офицеров и гражданских лиц, по ходу войны менялось. Так, в июле 1812 г. петербургский чиновник И. Б. Оденталь писал: «Удивляюсь, что французов берут живых в плен. Это сущая зараза. Изверги сии напитаны таким духом, что их более еще должно опасаться пленных, нежели сражаться с ними». Он же обвинял М. И. Кутузова в излишней милости к врагам[2]. Осенью 1812 г. отношение стало заметно меняться. Так, генерал Д. М. Волконский в ноябре писал: «Морозы пресильные… Встретил пленных. Они в гибельном положении. Их ставят на биваках без одежды и даже почти без пищи… их множество по дороге умирает…»[3] Другой очевидец полковник М. М. Петров, описывая мучения французов, делает вывод: «Как бы не были велики злодеяния французов, мера лютостей страдания их… превозмогла справедливую к ним ненависть»[4].

* В английском языке существует аббревиатура POWs (prisoners of war — узники войны), которой обозначаются военнопленные. Точное название, передающее драматизм судеб воинов, оказавшихся во власти противника.



В ряде случаев русские дворяне, принимая живое участие в судьбе военнопленных (в первую очередь генералов и офицеров), снабжали их деньгами и одеждой, устраивали на жительство и принимали в своих домах. Так, у генерала А. П. Ермолова до самого вступления армии за границу жил старый израненный полковник-француз. Он же отправил в имение своего отца, буквально снятого со штыков на Бородинском поле, генерала Ш.-А. Бонами[5]. Под опеку Ермолова и его адъютанта П. Х. Граббе был взят и плененный под Красным полковник-артиллерист Марион[6]. Несколько пленных были взяты «из жалости» под попечение генералов Д. С. Дохтурова[7] и М. А. Милорадовича[8]. И даже прославленный партизан Д. В. Давыдов, поначалу разработавший специальную инструкцию для крестьян по истреблению вражеских фуражиров, осуждал своего соотечественника А. С. Фигнера за жестокость к пленным. Сам же Д. В. Давыдов оставил при себе мальчика-барабанщика В. Бода и довез его до Парижа, где сдал на руки отцу. В другом случае им были приложены все усилия для того, чтобы пленному поручику Тилингу вернули изъятые у него вещи (кольцо, портрет, письма любимой)[9]. Прапорщик Н. Д. Дурново поведал в своем дневнике, что пленных французских офицеров приглашали в Витебске к обеду генералы Л. Л. Бенигсен и Ф. А. Чорба. При этом он отмечал, что «безоружный неприятель — это просто человек»[10].

В военной истории мы без труда обнаружим факты, свидетельствующие о том, что и поверженный противник нередко по достоинству оценивал благородство победителя, проявленное в отношении военнопленных. Так, русский генерал И. Н. Инаев, участник Италийского и Швейцарского походов А. В. Суворова, Отечественной войны 1812 г. и последовавших за ней Заграничных походов, в 1814 г. был удостоен французского ордена за гуманное отношение к оказавшимся в плену. В то же время казаки, нижние чины и ополченцы допускали жестокое обращение с неприятельскими солдатами при их пленении и конвоировании, грабили пленных, присваивали положенные им деньги и провиант, размещали в неприспособленных для жилья помещениях[11].

Разумеется, тяжкая участь отдельных военнопленных была обусловлена целым рядом факторов и прежде всего тем, что сам характер противостояния сторон в период ведения военных действий оказывался исключительно ожесточенным. Несколько оправдывая подобные действия своих соотечественников, фельдмаршал М. И. Кутузов писал начальнику Главно-

го штаба наполеоновской армии Бертье буквально следующее: «…весьма трудно удержать в пределах умеренности народ, уже 300 лет не знавший внутренней войны, готовый жертвовать собою за Отечество и неспособный различать, что принято или воспрещается в войнах обыкновенных»[12].

Судя по документам, в числе военнопленных были представители всех родов оружия — пехотинцы, артиллеристы, гусары, уланы, кирасиры и др. Многие из них участвовали в крупнейших сражениях Европы, побывали в Москве и, покинув ее, испытали на себе все ужасы отступления — голод, холод, роковую переправу через Березину. Их пленили под Смоленском, Борисовом, Вильной, Ковно, Кенигсбергом, Минском, Варшавой, Берлином. Некоторые полки были хорошо известны русским и упоминаются в их мемуарах. Так, из 9-го легкого полка дивизии генерала Ж.-Б. Брусье в плен попали Л. Отур, Ж.-П. Любель. Этот полк, сформированный в основном из парижан, имел почетный штандарт и звание «несравненного», участвовал в Бородинском сражении и, по словам Ф. Н. Глинки, «исполнял дело с блестящей неустрашимостью», явив тем самым «образчик храбрости французов»[13].

Среди пленных были солдаты и офицеры из 30-го полка дивизии Ш.-А. Морана, корпуса маршала Л.-Н. Даву. Этот полк во главе с генералом Ш.-А. Бонами был «буквально расстрелян» на Бородинском поле. Были и солдаты из 37-го полка отважного Ф. Фортье, названного Наполеоном «Березинским» за удачную переправу, а также — из 61-го, 108-го полков, познавших победу под Аустерлицем и «кровавую сечу» Бородина, из 4-го артиллерийского полка, где когда-то служил сам Наполеон Бонапарт и др.

Бригадный генерал барон Антуан-Шарль-Бернар Делетр (1776—1838) был участником Египетской, Прусской, Польской кампаний, сопровождал Наполеона в Испанию, воевал при Сомосьере. В 1812 г. он командовал бригадой конных егерей в 9-м корпусе маршала К.-П. Виктора. В плен был взят во время переправы через Березину[14]. Его имя, среди нескольких сот других имен генералов, высечено на Триумфальной арке Парижа.

Ж. Бенуа (22-й полк), Л. Бурден, С. Борелль и А. Дорбон (8-й кирасирский полк) прошли через весь ад отступления со своими женами, одной из которых — Жюли-Жюстин Дорбон было только 18 лет. 13 марта 1814 г. у супругов Борелль родилась дочка. Ее назвали Дарьей и, по желанию родителей, крестили в православную веру…[15]

Необходимость содержать (охранять, кормить, лечить и одевать) все увеличивающееся число военнопленных вынуждала русское правительство к поиску путей сокращения издержек на их содержание. Циркулярным предписанием от 14.1.1813 г. предлагалось использовать труд военнопленных в различных сферах хозяйства. Для этого все они были разделены на четыре категории:



уроженцы Польши;

пленные, желавшие поступить на работы в России по своим гражданским профессиям или определиться на заводы и фабрики;

пленные-земледельцы, которых предлагалось селить среди иностранных колонистов в Саратовской и Екатеринославской губерниях;

прочие военнопленные, которых предполагалось использовать для восстановления разрушенных домов в Москве и других городах.

Находившихся в плену польских уроженцев предписывалось отправлять на укомплектование российских полков, действовавших на Кавказе, в Грузии и на Сибирской линии. С решением этой задачи, по мнению Комитета министров, «не только уменьшится число пленных на содержании казны остающихся, но сохранятся еще собственные рекруты для усиления армий, против французов действующих»[16]. Здесь следует отметить, что судьбы значительной части уроженцев Польши, во многом предвзятое отношение к ним со стороны российской власти и общества были предопределены задолго до начала вторжения Наполеона в пределы России, а именно — предшествовавшими разделами Речи Посполитой. Поляки и поддерживавшие их литвины в годы противостояний традиционно рассматривались российским государством как изменники и мятежники. Соответственно и поступать с ними предписывалось, как с предавшими интересы «единоязычного и единоплеменного» с ними русского народа.

Кроме военнопленных, учтенных военными и гражданскими органами, на территории России существовала еще одна категория, к которой относились те, кто отстал при отступлении «Великой армии» и разбрелся по окрестным деревням и дворянским усадьбам, ища защиты от холода и голода. Обращает на себя внимание тот факт, что население западных губерний относилось к пленным (прежде всего польского происхождения) более лояльно и оказывало им помощь, скрывая от властей. Об этом можно судить на примере Минской губернии. 1 июня 1813 г. Барклай де Толли сообщил минскому губернатору о высочайшем соизволении предавать вместо гражданского военному суду всех людей, замеченных в укрывательстве оружия и военнопленных «по причине той, что сей последний, производясь медленно и завися окончательным решением о дворянах от Правительствующего Сената, не может иметь того на умы действия, какое производит суд военный, когда оный со всею строгостью и скоростью совершаем будет»[17]. На основании этого распоряжения с августа 1813 г. по февраль 1814 г. было взято под стражу для предания военному суду 29 человек, из них 19 за укрывательство военнопленных, четверо за содействие к побегу пленным, четверо «за вредные разглашения» и двое «за сокрытие оружия»[18].

Сообщая о трудностях формирования очередных партий военнопленных в Новогрудке, Слониме, Кобрине, Бресте, Волковысске, Лиде и других городах, один из местных чиновников отмечал, что ему приходилось требовать у своих подчиненных «взятия у местных помещиков подписки, что если они не отдадут прижившихся у них в имениях военнопленных, то все они будут подвергнуты военному суду». Наибольшие трудности по изъятию у помещиков военнопленных, используемых ими «в разных хозяйственных и приусадебных работах», имели место в Волковысском и Лидском уездах. Среди удерживаемых преимущественно были военнопленные из числа уроженцев Варшавского княжества. Вот имена некоторых из них: Иосиф Олеховский, Иоахим Прусак, Ян Вогчинович, Вавринец Енашевский, Иосиф Гаевский, Николай Храпчинский, Войтех Едамент, Иосиф Доброговский, Иосиф Ковалевский, Николай-Адам Самсонский, Валенты Щавинский, Павел Матеевич, Якуб Зардзавшил, Войтех Прашилович, Базылий Рубашинский, Петрук Недружил, Иосиф Ванатович и др.[19]

Жители исконно российских территорий относились к военнопленным иначе. Тогда и теперь проекция различных негативных стереотипов на противника представляла собой психологическую закономерность формирования соответствующего образа врага. Так, в массовом сознании россиян существовал определенный традиционный набор антипольских стереотипов. Он был востребован и приспособлен к условиям рассматриваемого времени. В ситуации военного противоборства отчасти стихийно, но в большей степени целенаправленно происходила психологическая мобилизация населения и армии для борьбы с наполеоновским нашествием. Это достигалось не только переносом различных негативных стереотипов на солдат и офицеров «Великой армии», но и максимальной дегуманизацией их образа. Об этом свидетельствуют, в частности, опубликованные письма современницы тех событий М. А. Волковой[20]. Крайне предвзятое отношение российской общественности к польским военнопленным выражается такими строками: «…теперь открывается, что величайшие неистовства совершены были в Москве немцами и поляками, а не французами»[21].

Пограничное положение белорусских губерний, участие части их населения в войне на стороне Франции вынуждало российское правительство незамедлительно отправлять военнопленных на восток. Временное исключение делалось лишь для больных и раненых. Между тем их число было немалым: военные госпитали и лазареты не справлялись с их лечением. Почти во всех лечебных заведениях существовали проблемы с медперсоналом, лекарствами и продовольствием, в результате многие военнопленные не могли своевременно получить квалифицированную медицинскую помощь. Тяжелые раны, явившиеся следствием участия в боевых действиях, а также инфекционные болезни, вызванные непривычным климатом и антисанитарными условиями, при недостаточном медицинском обеспечении во многом определяли значительную смертность среди поступавших в госпитали военнопленных. Так, в Старобыховском военном госпитале со времени его развертывания 28 февраля 1813 г. и до момента расформирования в 1814 г. от ран и болезней скончалось 12 военнопленных. В Мстиславльском военном госпитале за 4 месяца 1813 г. — 57 человек. В Могилевском военном госпитале потери были значительней. В 1813 г. в нем умерло 110 наполеоновских солдат и офицеров[22].



И в крайне сложных для человека физических и психологических условиях плена некоторые военнопленные решались на побег. Так, в 1813 г. из Игумен бежали поручик Скриповский (служил в корпусе Домбровского), Антоний Лесновский и Матвей Вербицкий; из Пружан — капитаны Владислав Дзерговский и Матвей Гротовский[23].

С целью сокращения расходов на содержание военнопленных им было разрешено вступать в российское подданство. В ноябре 1813 г. Министерство полиции внесло на утверждение Комитета министров «Правила», коими следовало руководствоваться, принимая военнопленных в подданство России. Согласно им, письменную присягу «на временное или вечное подданство России» мог приносить любой солдат и офицер армии Наполеона и жить затем «вольным человеком» в любом месте Российской империи, исключая Польшу, Прибалтику, Финляндию, Бессарабию, Белостокскую и Тарнопольскую области, а также российские столицы — Петербург и Москву. Следует отметить, что среди военнопленных были желающие навсегда остаться в России. В частности, уроженец Княжества Варшавского Станислав Жилинский, принятый на жительство экспедитором Оршанского поветового земского суда Ефремом Суходольским[24].

Любопытно, что в секретных предписаниях Министерства полиции затрагивался вопрос и о правах военнопленных, но с рядом оговорок. Так, военнопленные получили право совершать акты на принадлежавшие им имения, за исключением поляков, чьи земли по высочайшему манифесту от 12 декабря 1812 г. состояли под запретом.

В указанном высочайшем манифесте объявлялось прощение проживавшим в присоединенных к России от Польши областях людям, которые находились на службе неприятеля, и тем, кто в течение двух месяцев покинет неприятельскую армию и вернется в свои дома. Относительно же военнопленных говорилось, что «пленные, взятые с оружием в руках, хотя не изъемлются из сего всеобщего прощения, но без нарушения справедливости, не можем Мы последовать движениям нашего сердца, доколе плен их разрешится окончанием настоящей войны. Впрочем, и они в свое время вступят в право сего нашего всем и каждому прощения»[25]. Следует заме-

тить, что 12 мая 1814 г. по секретной части последовало разъяснение к предписаниям, касавшимся возвращения военнопленных на родину. Вязмитинов указывал, что посылаемые губернаторам распоряжения об отправлении пленных в отечество никоим образом не касаются сосланных под присмотр полиции «поляков и других наций людей». Всех их предписывалось оставить на местах и содержать под надзором до соответствующих распоряжений. Отметим, что численность таких военнопленных была невелика, поэтому и решение их участи откладывалось до подходящего момента, который наступил после окончания Заграничного похода.

Констатируя, что к настоящему времени изучена лишь часть сохранившегося до наших дней корпуса источников, касающихся пребывания наполеоновских солдат и офицеров в российском плену, мы надеемся, что освоение документальных источников, прежде всего из Государственного архива Российской Федерации (ГАРФ) и НИАБ, позволит установить немало новых фактов о последствиях войны 1812 г. и судьбах ее «узников».

[1] Сироткин В. Наполеон и Россия. М., 2000. С. 179.
[2] К чести России. Из частной переписки. 1812 год. М., 1988. С. 58, 91.
[3] Волконский Д. М. Дневник 1812 г. // 1812 год… Военные дневники. М., 1990. С. 153.
[4] Петров М. М. Рассказы… // 1812 год. Воспоминания воинов русской армии. М., 1991. С. 203—204.
[5] Ермолов А. П. Записки. М., 1991. С. 91, 191, 253.
[6] Давыдов Д. В. Дневник партизанских действий 1812 г. // 1812 год в русской поэзии и воспоминаниях современников. М., 1987. С. 244.
[7] К чести России… С. 182.
[8] Глинка Ф. Н. Сочинения. М., 1986. С. 249.
[9] Давыдов Д. В. Дневник… С. 191, 211—212, 223, 236—237.
[10] Дурново Н. Д. Дневник 1812 г. // 1812 год. Военные дневники. М., 1990. С. 107.
[11] Из воспоминаний Вагевира, Рооса // Россия I пол. XIX в. глазами иностранцев. М., 1991. С. 381—383.
[12] Журнал для чтения воспитанникам военно-учебных заведений. СПб., 1837. Т. VI. № 22. С. 170.
[13] Глинка Ф. Н. Очерки Бородинского сражения // 1812 год в русской поэзии и воспоминаниях современников. М., 1987. С. 379, 382, 352.
[14] Histoire et dictionriaire du Consulat et de l' Empire. Paris, 1995. P. 710.
[15] Bergerot B. Daru. Tallandier, 1991. P. 139—140.
[16] НИАБ. Ф. 295. Оп. 1 Д. 101. Л. 104.
[17] ГАРФ. Ф. 1165. Оп. 1. Д. 161, Л. 1об.; ПСЗРИ. Т. 32. СПб., 1830. № 25. 416. С. 593.
[18] ГАРФ. Ф. 1165. Оп. 1. Д. 161. Л. 7, 14, 20.
[19] Черепица В. Н. «Если он жив, то дозволить ему возвратиться домой…» Французские военнопленные в Гродненской губернии после 1812 года // …Не потерять связующую нить: История Гродненщины XIX—XX столетий в событиях и лицах (исследования, документы, комментарии). Гродно, 2003. С. 159.



[20] Опасались худшего, или Во всем виден перст божий. Из писем М. А. Волковой к В. И. Ланской / Наполеон в России глазами русских. М., 2004. С. 56, 72.
[21] Там же. С. 85.
[22] НИАБ. Ф. 2001. Оп. 1. Д. 29. Л. 136—138.
[23] Черепица В. Н. «Если он жив…». С. 161.
[24] НИАБ. Ф. 2001. Оп. 1. Д. 29. Л. 133об.
[25] Бессонов В. Перевертыши. Полицейский надзор за пленными 1812 года // Родина. Спец. выпуск «Россия и Наполеон». 2004. С. 97—98.

# ТЭКСТАЛОГІЯ

*І. П. Клімаў*

## БЕЛАРУСКІЯ І ЎКРАІНСКІЯ КАТЭХІЗІСЫ 16—18 стст.

### З гісторыі стварэння катэхізісаў (да 17 ст.)

Як узор павучання ці настаўлення, катэхізіс быў уласцівы царкве з самых ранніх часоў, калі пачалося хрышчэнне. З'яўленне ў эпоху праследу хрысціянства (2—4 стст.) інстытута катэхумната (падрыхтоўчай стадыі перад хрышчэннем) спрыяла вывучэнню асноў хрысціянскай веры і маралі, што адбывалася праз знаёмства з запаветамі, постам, малітвай Гасподняй, сімвалам веры і царкоўнымі сакрамантамі (таінствамі). Гэтыя асновы часта выкладаліся ў выглядзе катэхізічных казанняў[1], якія прамаўлялі ў царкве біскупы, святары, дыяканы або прыватным чынам простыя вернікі, ці катэхізічных твораў[2]. Падобныя акцыі адбываліся як над дарослымі празелітамі, так і над дзецьмі, якіх у хрысціянскіх сем'ях часта хрысцілі немаўлятамі і толькі потым выхоўвалі ў хрысціянскім духу. Аднак з прыняццем хрысціянства ў якасці афіцыйнай рэлігіі (4 ст.) і распаўсюджаннем яго па ўсёй Рымскай імперыі катэхумнат адмірае, а катэхізацыя паступова адыходзіць на задні план і становіцца індывідуальнай справай выхавання малодшага пакалення, якая вядзецца пераважна ў сям'і. У сферы ўмацавання веры і маралі насельніцтва царква, відавочна, аддае перавагу іншым формам, такім, як набажэнствы ці царкоўнае казанне альбо ўласны прыклад добрых паводзін.

Дыялогавая ці пытальна-адказавая (эротапакрытычная) форма для выкладу філасофскіх ці тэалагічных пытанняў выкарыстоўвалася з часоў антычнасці і эпохі ранняга хрысціянства. Толькі з пачаткам новага тысячагоддзя заходнееўрапейскія схаласты пачынаюць выкарыстоўваць дыялогавую форму для папулярызацыі тэалагічных дагматаў. Упершыню дактрынальнае кіраўніцтва набыло форму пытанняў і адказаў у Бруна Вюрцбургскага († 1045). Але нават у гэтым выпадку такія творы адрасаваліся не самім вернікам, а святарам, што рыхтаваліся да прымання святарскага чыну, а таксама для манахаў і манашак.

Сярэднявечныя катэхізісы ўяўлялі сабой размову ці дыялог паміж духоўным настаўнікам і вернікам, дзе апошні запытваўся ў першага. У выглядзе дыялога паміж імі і выкладалася хрысціянскае вучэнне. Такія працы складаліся на лацінскай мове, а затым перакладаліся і пераказваліся (пераважна ў манаскім асяроддзі) на народныя мовы, на якіх шырока распаўсюджваліся шляхам перапіскі. У 13 ст. царкоўныя ўлады заканадаўча абавязваюць святароў тлумачыць вернікам сэнс сімвала веры і іншых паняццяў і дагматаў хрысціянскага вучэння.



Найбольш папулярным еўрапейскім катэхізісам у дарэфармацыйную эпоху стаў *Elucidarium* ананімнага аўтара (найбольш верагодна, што гэта быў Ганорый Аўгустадунскі, † пасля 1137 г.). Незвычайная папулярнасць гэтага катэхізічнага трактата абумоўлена выбарам даходлівай формы і абмеркаваннем найбольш хвалюючых хрысціяніна пытанняў. У выглядзе дыялога вучня і настаўніка, які адказвае на пытанні вучня, аўтар тлумачыць асноўныя царкоўныя дагматы і галоўныя моманты біблейнай гісторыі, пачынаючы са стварэння свету і канчаючы Апошнім Прысудам і чаканым другім прышэсцем Сына Божага. Вобразнасць, трапнасць, лагічнасць і апеляцыя да відавочнасці спрыялі лёгкаму засваенню і завучванню зместу гэтага катэхізіса.

Рымска-каталіцкія катэхізічныя працы ў эпоху Сярэднявечча звычайна мелі дзве часткі, у якіх тлумачыліся малітва Госпада і сімвал веры, зрэдку да іх магла дадавацца трэцяя частка, дзе разглядаліся смяротныя грахі. У асноўным трохчасткавымі былі катэхізісы дарэфармацыйных гетэрадаксальных рухаў, такіх, як вальдэнсы ці гусіты, у іх трэцяй частцы гаворка ішла пра дзесяць запаветаў Маісеевых.

Раскол заходняга хрысціянства на каталіцтва і пратэстантызм у часы Рэфармацыі зрабіў патрэбу ў сродках катэхізацыі зноў актуальнай і надзённай. Рэфармацыя, з аднаго боку, звяртаецца да асобнага чалавека і імкнецца яму данесці свае ідэі, а з другога, шукае дастаткова аўтарытэтную і даходлівую форму для выражэння свайго новага вучэння. Тады і надыходзіць час катэхізіса як сістэматызаванага і папулярнага выкладу хрысціянскіх дагматаў у выглядзе дыялога, звернутага да верніка. Менавіта з гэтага часу пад катэхізісам пачынае разумецца дагматычна дакладны выклад асноў хрысціянскай веры ў форме пытанняў і адказаў, адрасаваны перш за ўсё моладзі і навучэнцам[3].

Дарэчы, менавіта ў пратэстанта Андрэя Альтхамера († 1539) такі выклад у выглядзе пытанняў і адказаў набыў (у 1528 г.) грэчаскую назву «катэхізіс». Але асаблівую папулярнасць і аўтарытэт сярод пратэстантаў атрымалі складзеныя Марцінам Лютэрам два катэхізісы: Малы і Вялікі (абодва выйшлі ў 1529 г.). Першы прызначаўся для ўмацавання ў веры дзяцей і сям'і, другі адрасаваўся пастарам дзеля навучання моладзі і сялянства. Вядомымі былі таксама катэхізісы іншых лютэранскіх тэолагаў: Філіпа Меланхтана († 1560), які выйшаў у 1549 г., і Ёгана Брэнца († 1569) з Вюртэмберга, надрукаваны ў 1551 г.[4]

Катэхізісы таксама складалі і прадаўжальнікі ідэй Рэфармацыі, якія развівалі пастулаты новай веры далей. У 1541 г. Жан Кальвін выдаў катэхізіс на французскай мове (першая рэдакцыя была створана ім у 1537 г.), у 1545 г. — на лацінскай (т. зв. Жэнеўскі катэхізіс). Як і праца Лютэра, катэхізіс Кальвіна атрымаў вялікую папулярнасць. Для нямецкіх кальвіністаў Бадэна, Вюртэмберга і Эльзаса прафесарамі Захарыем Урсіне († 1583) і Каспарам Алевітанам

(† 1587) у 1563 г. быў складзены т. зв. Гейдэльбергскі катэхізіс, які набыў аўтарытэт сярод іншых рэфармацкіх цэркваў (перш за ўсё ў Пфальцы і Галандыі)[5]. Яго аўтарытэт на Брытанскіх астравах пераняў калектыўна складзены т. зв. Вестмінстэрскі катэхізіс 1647 г., які быў зацверджаны англійскім, а потым шатландскім парламентамі. Ён складаўся з Вялікага катэхізіса, які прызначаўся для казнадзеяў, і Кароткага, што адрасаваўся дзецям і вучням.

Першы каталіцкі катэхізіс у эпоху Рэфармацыі з'явіўся яшчэ ў 1535 г. Аднак каталіцкім адказам на выклік новай веры сталі дакладна распрацаваныя і строга дагматызаваныя езуіцкія катэхізісы. Найбольш вядомым і папулярным з іх стаў катэхізіс нямецкага езуіта Пятра Канізія († 1597), які выйшаў у трох версіях: у 1555 г. (*Summa doctrinae christianae*), 1556 г. (*Catechismus minimus*) і 1558—1559 гг. (*Parvus catechismus catholicorum*). У 1598 г. італьянскі тэолаг Раберта Белярміна († 1621) выдаў свой катэхізічны дапаможнік для святароў, які карыстаўся вялікай папулярнасцю, не меншай за твор Канізія. Найбольш аўтарытэтнай працай у каталікоў стаў Рымскі катэхізіс 1566 г. (*Catechismus Romanus*), які адрасаваўся святарам, адрэдагаваны архібіскупам Карлам Барамео († 1584). Ён не меў формы пытанняў і адказаў, а падаваў толькі выпісы з пастаноў Трыдэнцкага сабора, дзе вызначаўся сэнс апостальскага сімвала веры, сакрамантаў, дзесяці запаветаў Маісеевых і малітвы Гасподняй. Дарэчы, на гэтым саборы катэхізіс, як форма і жанр вучыцельнай літаратуры, быў ухвалены і рэкамендаваны для шырокага ўжытку.

Ва ўсходняй царкве не склалася катэхізічнага жанру накшталт таго, што ўзнік на захадзе ў эпоху Сярэднявечча. Як і ў старажытнай царкве, праваслаўныя ва Усходняй Славіі да сярэдзіны 16 ст. задавальнялі свае катэхізічныя патрэбы зборнікамі казанняў, палемічных твораў, дэкрэтаў розных сабораў, пасланняў царкоўных іерархаў ці малітоўнікамі[6]. Твора, што змяшчаў бы ад імя царквы тлумачэнне дагматаў веры ў агульнадасяжнай форме, у грэка-праваслаўнай традыцыі не існавала.

Катэхізіс у выглядзе пытанняў і адказаў быў прынесены ва ўсходні праваслаўны свет з лацінскага захаду, на хвалі Рэфармацыі і контррэфармацыі. Яго форма прыйшла з ужо завершанай структурай, жанрава-стылістычнымі адметнасцямі і сталым зместам. Таму гісторыя ўсходнеславянскіх катэхізісаў — гэта гісторыя ўспрымання і прыстасавання заходняй формы катэхізіса да традыцыйнай грэка-візантыйскай рэлігійнасці і адпаведна гісторыя рэцэпцыі гэтай формы праваслаўнымі (і уніяцкімі) супольнасцямі.

### Лік і склад беларускіх і ўкраінскіх катэхізісаў

Найбольшай увагі заслугоўваюць, зразумела, друкаваныя катэхізісы, паколькі яны давалі стабільны тэкст і былі дасяжныя значнаму колу чытачоў. Да друкаваных катэхізісаў належаць 10 выданняў, 6 з якіх



упершыню выйшлі ў Беларусі (Нясвіж, Вільня, Куцейна, Магілёў, Супрасль), 1 у Маскве, 3 ва Украіне (Кіеў, Унеў, Пачаеў, Львоў)[7].

1. Пратэстанцкі *Катихисис* (Нясвіж, 1562), складзены Сымонам Будным і выдадзены ў друкарні Кавячыньскіх на старабеларускай мове[8]. Таксама Буднаму належыць твор катэхізічнага зместу *Об оправдании грешного человека пред Богом* (Нясвіж, 1562)[9], склад якога невядомы, паколькі твор цяпер страчаны.

2. Каталіцкі *Катехизм* (Вільня, 1585), перакладзены паводле твора Пятра Канізія з лацінскай мовы езуітамі, але не на старабеларускую, як лічылася дагэтуль, а на царкоўнаславянскую[10]. Гэты катэхізіс быў надрукаваны альбо ў друкарні Віленскай езуіцкай акадэміі, альбо на іх замову ў друкарні Мамонічаў (выкарыстаны шрыфт Мамонічаў, але друк неахайны, з памылкамі, месца выдання не пазначана).

3. Праваслаўны катэхізіс Лаўрэна Зізанія (Масква, 1627) на царкоўнаславянскай мове ў пытаннях і адказах[11], які быў раскрытыкаваны маскоўскімі царкоўнымі ўладамі і таму не атрымаў шырокага распаўсюджання.

4. Уніяцкі катэхізіс *Наука яко верити мает каждый … православный* (Вільня, 1628), надрукаваны ў кляштары Св. Тройцы айцоў-базыльянаў[12] на старабеларускай мове. Праўдападобна, уяўляе сабой публікацыю катэхізіса, напісанага Язафатам Кунцэвічам напачатку 17 ст.

5. Праваслаўны кароткі катэхізіс Сільвестра Косава пад назвай *Дидаскалия* (Куцейна, 1637, 1638, 1653), на старабеларускай мове[13]. 2-е выданне катэхізіса выйшла пад назвай *О мистериях, или таинах в посполитости* ў складзе кнігі *Синод в року 1638 в церкви кафедральной луцкой отправованый* (Крамянец, 1638)[14].

6. Праваслаўны катэхізіс *Собрание короткой науки о артикулах веры* (Кіеў, 1645)[15], які ў тым самым годзе выйшаў таксама ў друкарні Кіева-Пячэрскай лаўры на польскай мове. На гэтай мове ён быў хутчэй за ўсё і напісаны, а затым перакладзены на старабеларускую мову.

7. Уніяцкі катэхізіс *Катихисис албо наука христианская* (Унев, 1685), перакладзены паводле лацінскага катэхізіса Якаба Маршана і выдадзены перамышльскім біскупам Інакенціем Вінніцкім на старабеларускай мове ў пытаннях і адказах.

8. Уніяцкі катэхізіс *Краткий Катихисм исторический* (Пачаеў, 1756), перакладзены з польскай мовы базыльянінам Макарам Нерановічам і выдадзены паралельна на адной старонцы царкоўнаславянскай і польскай мовамі.

9. Праваслаўны катэхізіс Феафана Пракаповіча, які выходзіў пад назвай *Катехизис* ці *Катехизм* (Магілёў, 1757, 1761), выдадзены мясцовым праваслаўным брацтвам на царкоўнаславянскай мове расійскай рэдакцыі.

10. Уніяцкі катэхізіс *Общие и естественные поучения христианскаго богочестия / Собрание великаго катехизму* (Супрасль, 1788; Львоў, 1788), паралельна на царкоўнаславянскай і польскай мовах.

Можна заўважыць, што катэхізісы з'яўляліся ў Беларусі і Украіне ў пэўныя перыяды: у 2-й палове 16 ст., затым на працягу 17 ст. (з 1627 па 1685 г.) і ў 2-й палове 18 ст. Раннія катэхізісы былі складзеныя пераважна мясцовымі аўтарамі, тады як з канца 17 ст. пачынаюць з'яўляцца толькі пераклады заходніх альбо расійскіх твораў.

Апрача асобных выданняў невялікія катэхізісы з канца 16 ст. маглі публікавацца ў вучэбнай літаратуры для моладзі — букварах і граматыках. У гэтых кнігах падаваліся асноўныя малітвы (у т. л. «Ойча наш») і некаторыя хваласпевы, маглі выкладацца Дэкалог, 7 сакрамантаў, 5 Божых запаветаў, 9 дабрадацей, 7 грахоў і да т. п., часам — сімвал веры. Склад, назва, змест гэтых тэкстаў у праваслаўных і уніяцкіх выданнях быў крыху розны. Часам гэтыя тэксты атрымлівалі ў букварах і граматыках тое ці іншае тлумачэнне, аднак нярэдка разам з ім (ці замест яго) магло публікавацца асобнае тлумачэнне дагматаў веры, звычайна пад назвай «навука для дзецей».

Першым вучэбным катэхізісам з'яўляецца *Стефана Зизания изложение о православной вере*, якое было апублікавана на царкоўнаславянскай мове ў буквары *Азбука — наука ку читаню и разуменю писма словенского* (Вільня, 1596), што быў складзены Лаўрэнам, братам Стафана, і надрукаваны ў брацкай друкарні[16]. У 17—18 стст. падобныя вучэбныя катэхізісы нярэдка выдаваліся ў Беларусі і Украіне. Аднак склад і лік такіх катэхізічных публікацый у вучэбнай літаратуры таго часу пакуль не даследаваны, таму іх разгляд застаецца за межамі гэтай працы.

Вывучэнне рукапісаных катэхізісаў знаходзіцца толькі напачатку, таму іх дакладная колькасць невядома, а мова і склад практычна не даследаваны[17]. Зараз можна назваць 2 катэхізісы, што засталіся ў рукапісах.

11. Праваслаўны рукапісны катэхізіс з 1600 г. у пытаннях і адказах[18]; адзіны рукапіс яго цяпер страчаны.

12. Уніяцкі рукапісны катэхізіс Язафата Кунцэвіча, напісаны пасля 1615 г.[19] і вядомы ў адзіным рукапісе.

У навуковай літаратуры трапляюцца згадкі пра некаторыя катэхізісы, цяпер неадшуканыя альбо страчаныя. Некаторыя з такіх катэхізісаў, відаць, ніколі не існавалі.

А. Пратэстанцкі «катэхізіс для дзетак хрысціянскіх» Васіля Цяпінскага, пра які згадвае толькі сам Цяпінскі ў рукапіснай прадмове да свайго друкаванага Евангелля. Калі такі катэхізіс сапраўды існаваў, то гэты твор быў надрукаваны Цяпінскім разам з Евангеллем і мусіў служыць уводзінамі ў пратэстанцкую тэалогію[20].



Б. Праваслаўны «катэхізіс у выглядзе пытанняў і адказаў» (Вільня, 1595) Стафана Зізанія на дзвюх мовах, польскай і старабеларускай, у адной кнізе[21]. Гэты твор не захаваўся, калі ён і існаваў, то верагодна, што версія ці частка гэтага катэхізіса была прэзентавана Лаўрэнам Зізаніем у Маскве ў 1627 г.

В. Праваслаўны катэхізіс, нібыта складзены Мялетам Смятрыцкім яшчэ ў 1623 г. і надрукаваны ў Дармані ў 1627 ці 1628 г. (ці каля таго года)[22]. На самай справе гаворка можа ісці толькі пра польскамоўны катэхізіс Смятрыцкага *Krótki wykład*, надрукаваны ў яго трактаце Θρηνος (Вільня, 1610) у якасці асобнага раздзела[23].

### 1. Нясвіжскі катэхізіс

Поўная назва твора паводле тытульнага ліста: *Катихисис, то есть наука стародавная христианьская от светого писма для простыхъ людей языка рускоґо, в пытаниах и отказех събрана*. Складаецца з 4 частак: а) катэхізіс для дзетак хрысціянскіх мовы рускай, у якой апавядаецца пра дзесяць запаветаў Божых (арк. 1—105), б) пра веру (арк. 106—165), в) пра малітву Гасподнюю (арк. 165адв.—210), г) пра таінствы (арк. 210—234адв.), апошняя частка ўтрымлівае асобны раздзел пра вячэру Гасподнюю (арк. 234адв.—251). Апрача таго, кніга мае дэдыкацыю кн. Мікалаю Радзівілу Чорнаму, фундатару выдання (арк. 1—6) і прадмову Сымона Буднага (арк. 1—3), прадмова і дэдыкацыя падпісаны 10 і 12.06.1562 г. Дэдыкацыю падпісалі таксама Мацвей Кавячынскі і Лаўрэн Крышкоўскі. Ці вынікае з гэтага, што яны (ці хто-небудзь з іх) разам з Будным працавалі над гэтым творам?

Абставіны выдання Будным катэхізіса добра не вядомы. Без сумневу, ён прызначаўся праваслаўным чытачам, а з улікам складаных пытанняў, якія закраналіся ў творы, адрасаваўся хутчэй за ўсё святарам. Мова перакладу старабеларуская[24], аднак біблейныя цытаты пакінуты без перакладу, на царкоўнаславянскай мове. Амаль не вывучаны змест і склад гэтага катэхізіса, яго крыніцы, а таксама крыніцы цытат[25].

Некаторыя аўтары лічаць, што Нясвіжскі катэхізіс быў складзены Будным паводле Малога катэхізіса Лютэра, але на самай справе гэта памылка[26]. Толькі склад частак твора паўтарае Малы катэхізіс Лютэра, але іх змест не супадае з Лютэравым[27]. Гэта хутчэй «вялікі папулярны трактат па хрысціянскай дагматыцы, самастойна напісаны, не змадэляваны ні на які ўзор, апрача знешняй формы пытанняў і адказаў»[28]. Часта катэхізіс Буднага называецца арыянскім, і гэтае пытанне патрабуе далейшага даследавання, але малаверагодна, што ў ім сапраўды выказваюцца арыянскія (антытрынітарныя) ідэі. Па-першае, на той час Будны яшчэ сам прытрымліваўся кальвінізму; па-другое, казнадзей, нядаўна пакліканы да двара заможнага пратэктара пратэстантызму ў ВКЛ Мікалая Ра-

дзівіла Чорнага, наўрад ці адважыўся б выдаць на грошы свайго пратэктара арыянскі твор, ды яшчэ і з прысвячэннем яму.

Ёсць меркаванне, што катэхізіс Буднага быў перавыдадзены ў 1625 ці ў 1628 г. у Стакгольме для ўсходнеславянскага насельніцтва тых раёнаў Масковіі (Інгерманландыя, Карэлія), што паводле Стаўбцоўскага міру 1617 г. трапілі пад уладу Швецыі[29]. Аднак гэта памылка. Сапраўды, у сувязі са з'яўленнем новага непратэстанцкага насельніцтва шведскі кароль Густаў II загадаў у 1625 г. зрабіць некалькі кірылічных шрыфтоў, каб надрукаваць некалькі рэлігійных выданняў для гэтага насельніцтва[30]. У адпаведнасці з загадам у Стакгольме ў 1628 г. быў выдадзены пераклад Малога катэхізіса Лютэра, а таксама буквар (да 1639 г.). Перакладчыкам катэхізіса выступіў Ханс Флёрых, нямецкі перакладчык пры маскоўскім двары Барыса Гадунова. У сваім загадзе шведскі кароль падкрэсліў, што перакласці рэлігійныя кнігі трэба на правільную рускую мову, але цытаты са Св. Пісьма не перакладаць, а пакінуць у царкоўнаславянскай версіі. Хаця гэтая практыка блізка нагадвае працу Буднага, аднак на самай справе пераклад быў здзейснены на рускую (царкоўнаславянізаваную) мову.

### 2. Віленскі каталіцкі катэхізіс

Поўная назва твора паводле тытульнага ліста: *Катехизм или наука всем православным християном к повчению велми полезно*. Складаецца з 5 частак: а) пра веру і паданне апостальскае (арк. 2—13), б) пра надзею і малітву Гасподнюю (арк. 13—19адв.), в) пра любоў і запаветы Божыя (арк. 19адв.—31), г) пра сакраманты (арк. 31—40адв.), д) пра абавязкі і справядлівасць хрысціянскую (арк. 40адв.—52адв.). За выключэннем тытульнага ліста і зместу, надрукаванага на яго адвароце, увесь тэкст кнігі на царкоўнаславянскай мове, хаця на тытульным лісце паведамляецца, што яна *з латинского языка на русский язык ново преложоно*[31].

Віленскі катэхізіс уяўляе сабой пераклад лацінскага катэхізіса Пятра Канізія *Parvus catechismus catholicorum* на царкоўнаславянскую мову[32]. Існуюць меркаванні, што яго перакладчыкамі былі тыя ці іншыя беларусы-канвертыты з атачэння А. Пасевіна[33]. Аднак паводле высноў А. Фалоўскага, які ўважліва даследаваў гэтае пытанне, катэхізіс быў перакладзены ў езуіцкім калегіуме (у Вільні, што найверагодней, ці ў Браневе (непадалёк ад вусця Віслы), першай езуіцкай школе ў Польшчы (з 1564 г.), што вынікае з аднаго ліста Пасевіна)[34]. Выданне катэхізіса, сапраўды, было часткай грандыёзнага плана папскага легата Антона Пасевіна па распаўсюджанні каталіцкай веры сярод усходніх славян[35].

Пераклад насіў калектыўны характар, перакладчыкі, добра разумеючы лацінскі тэкст, сутыкаліся з вялікімі цяжкасцямі ў той мове, на



якую перакладалі[36]. Праблемы ў іх выклікалі і граматычныя, і лексічна-семантычныя асаблівасці гэтай мовы. Біблейныя цытаты падаваліся ў іх царкоўнаславянскіх адпаведніках.

Катэхізіс прызначаўся хутчэй за ўсё езуіцкім вучэльням у Вільні і Полацку, дзе з 1583 г. існавала выкладанне старабеларускай, а пазней і царкоўнаславянскай мовы. Твор Канізія служыў галоўным падручнікам контррэфармацыі і шырока ўжываўся ў езуіцкіх школах да 2-й пал. 17 ст. Няясна, аднак, у якой ступені яго пераклад на старабеларускую мову выкарыстоўваўся вернікамі — беларусамі-канвертытамі.

Ёсць меркаванне, што Віленскі катэхізіс уяўляе сабой перавыданне Рымскага катэхізіса *Канизие Петр. Сумма науки* (Рым, 1583). Аднак гэта памылка, рымскі друк не мае дачынення да віленскага выдання, хаця ў абодвух выпадках перакладзены быў твор Пятра Канізія[37]. У Рыме ў 1583 г. кірыліцай быў выдадзены пераклад задарскага каноніка Шымуна Будыніча на харвацкую мову, які раней, у 1582 г., друкаваўся лацінкай[38].

### 3. Катэхізіс Лаўрэна Зізанія

Твор фактычна не мае поўнай назвы, і на першым лісце адразу пачынаецца тэкст зместу: *Книга, глаголемая по-гречески катехисис, по литовски оглашение, русским же языком нарицается беседословие*. Ён складаецца з 80 раздзелаў, у якіх разглядаюцца розныя пытанні праваслаўнай дагматыкі, абраднасці, хрысталогіі і нават царкоўнай гісторыі. Разгляд часам набывае палемічную накіраванасць, што ператварае твор хутчэй у трактат у эротапакрытычнай форме.

Пасля Берасцейскай уніі праваслаўная інтэлігенцыя Беларусі і Украіны, шукаючы паратунку і падтрымкі для процідзеяння уніятам, звяртае свае погляды на Маскву, якая ўспрымалася на Захадзе як апірышча праваслаўя. Напэўна таму Лаўрэн Зізаній у 1626 г. накіроўваецца ў Маскву, жадаючы там апублікаваць свой твор і пазнаёміць з ім маскоўскае духавенства. Аднак без пільнай царкоўнай цэнзуры ніякую кнігу ў Масковіі ўвогуле нельга было надрукаваць. Таму Зізаній «біў чалом» патрыярху Філарэту, каб выправіць свой рукапіс на маскоўскі кшталт. Пасля неістотных змен, зробленых на загад самога патрыярха двума маскоўскімі царкоўнікамі, кніга з некаторымі лакунамі была надрукавана, і ўвесь яе наклад быў здараваны аўтару.

Аднак некаторыя месцы і выразы ў кнізе Лаўрэна выклікалі падазрэнні ў маскоўскіх абскурантаў, таму для абмеркавання спрэчных момантаў пад час друкавання кнігі быў наладжаны багаслоўскі дыспут[39]. Большасць зробленых на ім заўваг тычылася недакладных выразаў і друкарскіх памылак у творы, аднак у некаторых выпадках закраналіся пытанні дагматыкі і абраднасці. Маскоўскім артадоксам, напрыклад, не падабаліся

апеляцыі Лаўрэна да аўтарытэтаў заходняй царквы — Аўгусціна і Ераніма і да грэчаскіх аўтарытэтаў, яго выклад астранамічных ведаў. Далягляд Зізаніевай кнігі не ўпісваўся ў тэалагічную эрудыцыю маскавітаў.

У выніку дыспута маскоўскія царкоўныя ўлады прыйшлі да высновы, што з ухвалай кнігі яны крыху паспяшаліся. Патрыярх загадаў надрукаваную кнігу з друкарні не выпускаць, хаця Лаўрэну пакінулі раней аддадзеныя яму паасобнікі. З надрукаваных аркушаў было сабрана некалькі няпоўных паасобнікаў, што не маюць тытульнага ліста і выходных звестак.

Тым не менш пазней праца Зізанія атрымала папулярнасць сярод расійскіх старавераў, якія бачылі ў ёй апірышча сваёй ідэалогіі і абраднасці. У іх асяроддзі твор Зізанія распаўсюджваўся ў рукапісных копіях, а на іх замову неаднаразова перавыдаваўся (Гродна, 1783, 1787, 1788; Пскоў, 1874).

### 4. Віленскі уніяцкі катэхізіс

Поўная назва твора паводле тытульнага ліста: *Наука яко верити мает каждый, который щитится наречением православия, згодная з писмом святым и со святыми учителми церковными*. Складаецца з 4 частак: а) пра веру (арк. 2адв.—9) разам з падраздзелам пра хросны знак (арк. 9адв.—10адв.), б) пра малітву Гасподнюю (арк. 10адв.—14), в) пра дзесяць запаветаў (арк. 14адв.—21), г) пра сем таямніц царкоўных (арк. 21адв.—24).

Здаецца, што гэты твор уяўляе сабой публікацыю катэхізіса, напісанага Св. Язафатам Кунцэвічам. Але гэтае пытанне яшчэ патрабуе ўдакладнення.

### 5. Катэхізіс Сільвестра Косава

Поўная назва твора паводле тытульнага ліста: *Дидаскалия альбо наука, которая ся первей из уст священником подавала о седми сакраментах албо ли тайнах*. Ён складаецца з адной часткі: пра сакраманты ці царкоўныя тайны (арк. 1—31адв.). Апрача таго, кніга мае прадмову аўтара да чытача (арк. 1адв.—2адв. асобн. фал.).

Хаця катэхізіс Сільвестра Косава прызначаўся святарам, але, як вынікае з прадмовы, аўтар жадаў бачыць яго чытачамі таксама простых вернікаў. З гэтай прычыны прадмова да выдання (на старабеларускай мове) вызначалася простай архітэктонікай, лапідарнасцю і лаканічнай дасяжнасцю пададзенага матэрыялу.

Пазней твор Косава выходзіў ва Украіне пад назвай *О сакраментах* (Кіеў, 1657, 1668) ці з больш працяглым загалоўкам: *Краткое поучение о семи сакраментах или тайнах церковных* (Чарнігаў, 1716). Маецца таксама пераклад катэхізіса Косава на царкоўнаславянскую мову, які быў выкананы ў 17 ст. і застаўся ў рукапісе.



### 6. Катэхізіс Пятра Магілы

Поўная назва твора паводле тытульнага ліста: *Собрание короткой науки о артикулах веры православно-кафолической христианской, ведлуг вызнаня и науки Церкве св. Восточной, соборной и апостолской*. Ён налічвае 260 пытанняў і адказаў і складаецца з 3 частак, сімвалічна названых «пра веру, надзею і любоў». У 1-й разглядаецца сімвал веры па «артыкулах» (складніках) і сакраманты (арк. 2—40адв.), у 2-й — малітва «Ойча наш» і вучэнне пра сем дабрадацей (арк. 41—53адв.), у 3-й — Дэкалог (арк. 54—65адв.). Катэхізісу папярэднічаюць кароткія ўводзіны пад назвай *Книга, зовомая Катихизис* (арк. 1—1адв.).

Катэхізіс у пытаннях і адказах прызначаўся для парафіяльных святароў і простых вернікаў, як падкрэсліваецца ў прадмове, перш за ўсё моладзі і сялян. Таму ён быў напісаны на старабеларускай мове і нават біблейныя цытаты ў ім падаваліся ў перакладзе.

Гэты катэхізіс нарадзіўся з працы над праваслаўным вызнаннем веры. Патрэба ў афіцыйных творах, дзе выкладаліся б дагматы праваслаўнай веры, сталася ў праваслаўным асяроддзі асабліва вострай пасля скандала з веравызнаннем канстанцінопальскага патрыярха Кірылы Лукарыса[40], якое было прасякнута пратэстанцкім духам[41]. Напрыклад, Мялет Смятрыцкі, які пазнаёміўся з гэтым веравызнаннем яшчэ ў рукапісе, знайшоў у ім шматлікія элементы, запазычаныя з кальвінісцкай тэалогіі. Пасля вяртання са сваёй вандроўкі на Блізкі Усход ён выкрываў дагматычныя памылкі твора[42].

Інтэлектуальныя сродкі для стварэння сістэматызаванага праваслаўнага катэхізіса знайшліся ў Кіеўскай мітраполіі — адзінай правінцыі, залежнай ад праваслаўнага Усходу, але вольнай ад іншавернага турэцка-мусульманскага панавання і асвечанай заходняй адукацыяй. Ініцыятарам стварэння катэхізіса стаў кіеўскі мітрапаліт і патрыяршы экзарх Пётр Магіла, чаму ў спецыяльнай літаратуры гэты твор часта называюць «Магілін катэхізіс». Аднак на думку даследчыкаў, Магілін катэхізіс быў напісаны выкладчыкам Кіева-Пячэрскай лаўры Ісаем Казлоўскім, які пасля чытання на саборы катэхізіса і ўхвалы яго атрымаў годнасць доктара тэалогіі[43].

У падмурак праваслаўнага веравызнання Магілай быў пакладзены Рымскі катэхізіс, складанне вялося паводле лацінскіх крыніц і нават пісалася на лацінскай мове[44]. Мітрапаліт Пётр Магіла, малдаўскі арыстакрат па паходжанні, прайшоў польскамоўную школу, захапляўся раманскай культурай і «быў пераканаx заходнік, заходнік паводле сваіх густаў і звычак»[45]. Ён рэфармаваў Кіеўскую мітраполію на ўзор рымска-каталіцкіх дыяцэзій, узмоцніў дысцыпліну сярод святароў і падпарадкаваў усе буйныя праваслаўныя брацтвы сваёй уладзе. Створаная на ўзор езуіцкіх вучэльняў, Кіеўская калегія ўзроўнем выкладання пераўзышла уніяцкія вучэбныя ўстановы. Большасць

прадметаў у ёй выкладалася на лацінскай мове, на ёй таксама выдаваліся кнігі ў друкарні. Значная частка тэрміналогіі і шмат якія паняцці ў кіеўскім праваслаўным веравызнанні былі запазычаны з прац лацінскіх тэолагаў[46].

Праца абмяркоўвалася ў 1640 г. на царкоўным саборы ў Кіеве, а затым разглядалася ў 1642 г. на саборы ў Ясах, куды прыбылі прадстаўнікі ўсходніх патрыярхаў[47]. Галоўным экзаменатарам з грэчаскага боку і перакладчыкам твора на грэчаскую мову выступаў іераманах і казнадзей Мялет Сірыг († 1667), вядомы сваёй вучонасцю і прававернасцю гадаванец Падуанскага універсітэта. Лацінскі дух веравызнання Магілы выклікаў вострую крытыку ў грэкаў, і некаторыя месцы ў ім былі пераменены, пасля чаго твор быў ухвалены саборам[48]. Працу паслалі на зацвярджэнне ўсходнім патрыярхам (канстанцінопальскаму, александрыйскаму, антыяхійскаму і іерусалімскаму). Пасля належнай рэдактуры яны прызналі твор правільным і прававерным, вартым для ўжытку не толькі русінаў, але і праваслаўных грэкаў, што было зацверджана подпісамі патрыярхаў у 1643 г.

Аднак Магіла з нейкіх прычын прысланае яму веравызнанне не надрукаваў[49], а вырашыў выдаць уласную рэдакцыю ў скарочаным выглядзе як катэхізіс у пытаннях і адказах. На пачатку ў 1645 г. з друкарні Кіева-Пячэрскай лаўры выйшла версія на польскай мове пад назвай *Zebranie krotkiey nauki o artykułach wiary*, якой паслядоўнічала і старабеларуская версія, што з’явілася ў тым жа годзе. Твор неўзабаве быў перавыдадзены Міхалам Слёзкам (Львоў, 1646[2]), хутка перакладзены на царкоўнаславянскую мову і з дадаткам некаторых іншых рэлігійных тэкстаў[50] выдадзены нанова (Масква, 1649; Кіеў, 1712)[51]. Маскоўскае выданне шмат пазней перавыдалі уніяты для старавераў пад назвай *Собрание краткия науки о артикулах веры* (Пачаеў, 1782, 1783, 1785; Супрасль, 1788).

### 7. Унеўскі катэхізіс

Поўная назва твора паводле тытульнага ліста: *Катихисисъ албо наука христианская вкоротць з розных авторов зобраная*. Ён складаецца з 2 частак: а) пра Бога (арк. 5—40адв.), б) пра царства нябеснае (арк. 41—86адв.). Апрача таго, кніга мае прадмову друкара Сямёна Стаўніцкага (арк. 2—4адв.), некалькі малітваў і духоўных вершаў на царкоўнаславянскай мове і трактат перамышльскага біскупа Інакенція Вінніцкага *Наука або способ диспонованя ся на смерть кожному християнину* (арк. 86адв.—99адв.)[52]. Біскуп (с 1679 г.) патаемна сімпатызаваў уніяцтву, але толькі ў 1691 г., як лічыцца, адкрыта перайшоў ва уніяцтва.

Унеўскі катэхізіс уяўляе сабой пераклад-апрацоўку катэхізічнага твора каталіцкага тэолага Якаба (сапраўднае імя — Жак) Маршана († 1648) *Hortus pastorum*, які ўпершыню з’явіўся на лацінскай мове (1638)[53]. Гэты твор у



пытаннях і адказах па катахетыцы, дагматыцы і казальнай практыцы быў папулярны ў эпоху барока і меў дзесяткі перавыданняў і перакладаў у Еўропе, напрыклад на польскай мове (Кракаў, 1648, 1682)[54]. Пераклад на старабеларускую мову выкананы хутчэй за ўсё з польскай мовы, біблейныя цытаты збольшага прыведзены на царкоўнаславянскай. Перакладчык катэхізіса невядомы, наўрад ці ім быў сам біскуп.

### 8. Пачаеўскі кароткі гістарычны катэхізіс

Поўная назва твора паводле тытульнага ліста: *Краткий Катихисм исторический от Писаний Ветхаго и Новаго Завета избранный, не токмо Правоверным Христианом, но наипаче всем Иереем Парохиальным, обучения ради себе в Историах Писаний святых Всепотребный от многих зводов послежде на Диалект Славенский трудом честнаго отца Макария Нероновича чина святаго Василия Великаго инока Провенции Полска Богослова преведенный*. Ён складаецца з 2 частак: а) першая частка, *содержащая в себе краткое собрание Истории святыя* (арк. 2—52адв.), б) другая частка, *вкратце содержащая в себе учение Христианское* (арк. 53—98адв.). Твор заканчваецца падрабязным зместам *Оглавление* (арк. 1 асоб. фал.—3адв.) і спісам памылак друку *Ключившаяся в книжице сей, в тексте славенском, погрешения типографския да исправятся тако* (арк. 4 асобн. фал.—4адв.).

Тэкст надрукаваны ў выглядзе дыглоты ў двух слупках на старонку: злева царкоўнаславянскі пераклад, справа — яго польскі ўзор[55]. Пераклад мае моцны струмень усходнеславянскіх дамешкаў. Перакладчыкам выступіў нейкі базыльянін Макар Нерановіч. Выданне было благаслаўёнае уніяцкім біскупам Луцкім і Астрожскім Сільвестрам Любянецкім-Рудніцкім.

### 9. Магілёўскі катэхізіс

Поўная назва твора паводле тытульнага ліста: *Катехизис, или краткое начальное Христианское учение в пользу и спасение юношам, купно же и старым ненаученным, в трех беседах написанный*[56]. Ён складаецца з 3 «размоў»: 1) першая размова (арк. 8адв.—31адв.), якая ўключае тры часткі: а) пра Бога (арк. 9—21адв.), б) пра Тройцу (арк. 22—26), в) *о создании мира и о общем смотрении* (арк. 26—31адв.), 2) другая размова (арк. 31адв.—82адв.), якая таксама ўключае тры часткі: а) пра першага чалавека (арк. 32—35адв.), б) пра награшыўшага чалавека (арк. 35адв.—43), в) *о милосердии божии к падшему человеку и о его спасении* (арк. 43—82адв.), 3) трэцяя размова (арк. 82зв.—128зв.), якая складаецца з дзвюх частак: а) пра сімвал веры (арк. 83—106), б) пра Дэкалог (арк. 106—128адв.). У 2-м выданні сюды дададзена сімфонія (арк. 1—5 асобн. фал.) і тлумачэнне малітвы Гаcподняй (арк. 5адв.—

7адв. асобн. фал.). Апрача таго, кніга мае прадмову (арк. 1—4адв.) і ўводзіны *Повесть краткая о бозе и его смотрении* (арк. 4адв.—8адв.).

Катэхізіс уяўляе сабой публікацыю твора Феафана Пракаповіча († 1736)[57], выдадзеную захадамі Георгія Каніскага († 1795), які пры архіярэйскім доме ў 1757 г. завёў друкарню ў Магілёве. Гэты катэхізіс прызначаўся хутчэй за ўсё для брацкай школы, а таксама для экспарту ў Расію.

### 10. Супрасльскі катэхізіс

Поўная назва твора паводле тытульнага ліста: *Общих и естественных поученый христианскаго богочестия Часть первая*. Ён скаладаецца з 2 частак: 1) кароткі катэхізіс у пытаннях і адказах (арк. 1адв.—17) і 2) працяглы катэхізіс без пытанняў *Собрание великаго Катехизму без питаний з доводящими словеси писма святаго* (яго загаловак па-польску: *Krotkie zebranie wielkiego katechizmu*). Гэтая частка складаецца з 5 раздзелаў: а) пра веру, б) пра надзею, в) пра міласць, г) пра святыя сакраманты, д) пра хрысціянскую справядлівасць з дадаткам «пра чатыры рэчы астатнія».

Паколькі на тытульным лісце выданне прызначалася *ку употреблению русским училищам*, то трэба меркаваць, што яно выкарыстоўвалася ва уніяцкіх вучылішчах.

Пакуль не даследавана, якая польская крыніца выступала арыгіналам для выдання; хутчэй за ўсё гэта быў стандартны каталіцкі падручнік таго часу *Wielki katechizm w pytaniach i odpowiedziach*, які ўжываўся ў школах для рэлігійнага навучання.

1 Прыкладам могуць служыць катэхізічныя настаўленні Кірылы, патрыярха Іерусалімскага (4 ст.), а таксама цэлыя цыклы катэхізічных павучанняў ці гамілій, што належалі Св. Аўгусціну ці Іаану Залатавуснаму. Пазней яны паслужылі ўзорам для складальнікаў сярэднявечных катэхізісаў.

2 Прыкладам могуць служыць узоры катэхізісаў, пакінутыя Св. Аўгусцінам: *De catechizandis rudibus i De doctrina Christiana*. У гэтых творах выкладаюцца галоўныя палажэнні хрысціянскай дагматыкі (вучэнне пра Бога, Тройцу, Сына Божага) і гісторыі (стварэнне свету і чалавека, яго грэхападзенне, выкупленне Хрыста, яго пакутніцкая смерць і уваскрэсенне, суд для ўсіх людзей). Першым з такіх твораў лічыцца праца Св. Ірынея Ліёнскага Εις επίδειξιν του αποστολικου κηρύγματος (2 ст.), якая захавалася ў армянскім перакладзе.

3 Ад катэхізіса трэба адрозніваць два іншыя жанры, што выражаюць веру і вучэнне царквы ў сістэматызаваным выглядзе, — сімвал веры і веравызнанне. Сімвал веры (*symbolum fidei*, інакш (паводле пачатковых слоў): *credo, верую*) утрымлівае пералік ва ўсталяванай паслядоўнасці дагматаў веры. Веравызнанне (*confessiones*, інакш *спавяданне*) дае строга дагматычнае тлумачэнне і абгрунтаванне сімвала веры, значэнне малітвы Гасподняй, асноўных паняццяў хрысціянства (дзесяць Божых запаветаў, сем святых сакрамантаў (таінстваў), сем дароў



Св. Духа, сем галоўных грахоў і да т. п.), а таксама значэнне галоўных момантаў у лёсах чалавечай душы (смерць, Божы прысуд, неба ці пекла). Як бачна, паводле зместу веравызнанне блізкае да катэхізіса, аднак адрозніваецца ад яго формай.

4 Абодва тэолагі раней выпусцілі катэхізічныя кіраўніцтвы ў пытаннях і адказах: у Меланхтана ў 1532 г. выйшаў катэхізіс на лацінскай мове для студэнтаў, а Брэнц выдаў у 1535 г. свой катэхізіс для моладзі, хаця яшчэ ў 1528 г. ён падрыхтаваў для моладзі два даходлівыя катэхізісы (Вялікі і Малы), таксама ў пытаннях і адказах.

5 Большасць пратэстанцкіх цэркваў трымалася традыцыі хрышчэння дзяцей, таму захоўвала катэхізісы ў якасці абавязковай вучыцельнай і тэалагічнай літаратуры, адрасаванай не толькі моладзі, але і дарослым. Як і ў лютэранскіх школах, катэхізіс быў галоўным прадметам вывучэння ў кальвіністкіх школах. Некаторыя з радыкальных пратэстанцкіх плыней (у 16 ст. — анабаптысты і антытрынітарныя рухі, што знаходзіліся пад іх уплывам, з 17 ст. — баптысты) надавалі хрышчэнню іншае значэнне і праводзілі яго над дарослымі (ці ўвогуле адмаўлялі хрышчэнне), а таму абыходзіліся без катэхізіса. Але некаторыя з анабаптыстаў (т. зв. мараўскія браты) стваралі веравучыцельныя творы. Прыкладам можа служыць катэхізіс у пытаннях і адказах, напісаны, верагодна, Пятром Валпатам († 1578) у 1570-х гг. і прызначаны для дзяцей. Гэты твор пад назвай *Kinderbericht für die erwachsene Jugend, in Frag' und Antwort* выкарыстоўваўся ў школах мараўскіх братоў для выхавання моладзі. З 17 ст. галандскія менаніты таксама пачынаюць карыстацца ўласнымі катэхізісамі.

6 Гл. класічныя працы на гэты конт: Kimmel E. I. Libri symbolici Ecclesiae Orientalis. Jena, 1843; Michalcescu J. Die Bekenntnisse und die wichtigsten Glaubenszeugnisse der griechisch-orientalischen Kirche. Leipzig, 1904; Καρμιρις I. N. Τα δογματικα και συμβολικα μνημεια της ορθοδοξου καθολικης εκκλεσιας. Αθηναι, 1952—1953. B. 1—2 (перавыданне: Graz, 1960—1968. Bd. 1—2); Handbuch der Ostkirchenkunde / Hrsg. E. von Ivanka, J. Tyciak, P. Wiertz. Düsseldorf, 1971. S. 697—720 (новае, перапрацаванае выданне: Handbuch der Ostkirchenkunde / Hrsg. W. Nyssen, H.-J. Schulz, P. Wiertz. Düsseldorf, 1984; 1989; 1997. Bd. 1—3).

7 Гл. гэтыя выданні ў каталогах кірылічных старадрукаў: Лукьяненко В. И. Каталог белорусских изданий кирилловского шрифта XVI—XVII вв. Вып. 1 (1523—1600). Л., 1973; Вып. 2 (1601—1654). Л., 1975; Лобанов В. В. Славянские книги кирилловской печати XVI—XVIII веков. Томск, 1975; Запаско А. П., Ісаєвич Я. Д. Пам'ятки книжкового мистецтва: Каталог стародруків, виданих на Україні. Кн. 1 (1574—1700). Львів, 1981; Кн. 2. Ч. 1 (1701—1764); Ч. 2 (1765—1800). Львів, 1984; Голенченко Г. Я. Старопечатные кириллические издания XVI—XVIII вв. // Кніга Беларусі 1517—1917: Зводны каталог. Мн., 1986. С. 10—192.

8 Твор Буднага набыў фотатыпічнае ўзнаўленне і транслітарацыю тэксту (не поўнасцю), гл.: http://belreform.org/katech1.php, плануецца таксама яго пераклад на беларускую і рускую мовы. Гэтая праца некалькі гадоў таму была распачата ў Беларусі калектывам пратэстанцкіх вернікаў на чале з Н. Кабелкай і размешчана ў Інтэрнеце. У 2002 г. у Японіі выйшла выданне 1-й часткі катэхізіса Буднага, падрыхтаваная калектывам японскіх і расійскіх славістаў і балтыстаў, гл.: Shimon Budoni «Kyōri-mondō» (1562-nen), dai-ichibu: Tekisuto oybi kaisetsu / Ed.: T. Okamoto, T. Inoue, L. Ermakova, K. Takahashi, T. Shimizu. Kobe, 2002 (Annals

for Foreign Studies, 56). Зусім нядаўна твор Буднага выйшаў асобным выданнем, гл.: Катэхізіс: Помнік беларускай Рэфармацыі XVI ст. / Адапт. тэкст, перакл. Н. Кабелка. Мн., 2005.

[9] Прадмова да гэтага твора датавана 11.10.1562 г., пра змест гэтага твора маюцца толькі меркаванні, гл.: Парэцкі Я. І. Сымон Будны. Мн., 1975. С. 40—44.

[10] Нядаўна твор набыў фотатыпічнае ўзнаўленне ў Польшчы, гл.: Fałowski A. Język ruskiego przekładu Katechizmu jezuickiego z 1585 roku. Kraków, 2003 (Studia Ruthenica Cracoviensia, 2) С. 111—163, там жа апублікаваны яго лацінскі ўзор (с. 167—196).

[11] Гл. публікацыю тэксту: Ильинский Ф. М. Большой катехизис Лаврентия Зизания // Труды Киевской духовной академии. 1898. № 2. С. 157—180; № 5. С. 75—87; № 6. С. 229—267; № 8. С. 559—607; № 10. С. 264—300; 1899. № 3. С. 394—414 (тое ж асобным адбіткам: Киев, 1899).

[12] Гл. публікацыю тэксту: Саверчанка І. В. Aurea mediocritas; Кніжна-пісьмовая культура Беларусі: Адраджэнне і ранняе барока. Мн., 1998. С. 245—260.

[13] Там жа С. 261—271.

[14] Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі: Спроба паясніцельнай кнігопісі ад канца X да пачатку XIX стагодзьдзя. Коўна, 1926. С. 557.

[15] Гл. публікацыю тэксту (рэпрынт выдання 1645 г. з паралельным перакладам на ўкраінскую мову): Катехизис Петра Могили / Упоряд. А. Жуковський. Пер. В. Шевчука. Київ—Париж, 1996.

[16] Поўная назва твора паводле тытульнага ліста: *Стефана Зизания изложение о православной вере: Коротким пытаньем и отповеданьем для латвейшаго вырозуменя християнским детем*. Невялічкі катэхізіс Стафана Зізанія займае ўсяго 3 старонкі і складаецца з 2 частак: а) пра ўчалавечанне Гасподняе (арк. 43адв.—44), б) пра крыжовы знак (арк. 44адв.). Нягледзячы на невялікі памер, палемічная завостранасць катэхізіса падкрэслена ў падзгалоўку: *Странный пытает зловерный, а православный благоверный отповедает*. Твор, змешчаны ў буквары, адрасаваўся вучням. На тытульным лісце буквара была адзначана наяўнасць катэхізіса: *Наука ку читаню и розуменю писма словенского, тутыж о святой троици и о въчеловечении господни*. Апрача катэхізіса ў гэтым буквары змешчаны царкоўнаславянска-старабеларускі слоўнік *Лексіс*, складзены Лаўрэнам Зізаніем.

[17] Можна адзначыць рукапісаны катэхізіс украінца Рыгора Скаварады († 1794) *Катехизис або вступни двери до християнської добронравности (Написана в 1766 році для молодого шляхетства Харківської губернії)*, які мае характар індывідуальнага вучэння і катэхізісам фактычна не з'яўляецца (гл. яго публікацыю: Сковорода Г. Катехизис або початкові двері до християнських чеснот. Торонто—Детройт, 1963). Гл. таксама: Сковорода Г. Сочинения: В 2 т. М., 1973. Т. 1—2; Сковорода Г. Твори: В 2 т. / Підгот. В. О. Шевчук. Київ, 1994. Т. 1—2; Сковорода Г. С. Сочинения. Мн., 1999.

[18] Гл. публікацыю тэксту: Катехизис албо вызнание веры святое соборное апостолское всходнее церкви (1600) / Изд. С. Т. Голубев // Чтения в Историческом обществе Нестора-летописца. 1890. Т. 4. Отд. 3: Материалы. С. 8—81.



[19] Гл. публікацыю тэксту: Матер'яли до історії життя і смерти св. священномученика Йозофата Кунцевича: 1. Катехизм; 2. Правила для священників / Від. Д. Дорожинський. Львів, 1911; Kuncewicz Josaphat: Catechismus, Polock, 1618—1623 // S. Josaphat Hieromartyr (= SJH) Documenta Beatificationis et Canonisationis / Coll. G. Welykyj. Roma 1952. Vol. 1 (1623—1628). P. 293—299 (Analecta Ordinis S. Basilii Magni: Sectio 3: Documenta ex archivis Romanis); Саверчанка І. В. Aurea mediocritas; Кніжна-пісьмовая… С. 237—244. Гл. таксама: Жукович П. Н. О неизданных сочинениях Иосафата Кунцевича // Известия отделения русского языка и словестности Императорской академии наук. 1909. Т. 14. Кн. 3. С. 199—231 (тое ж асобным адбіткам, датаваным 1910 г.).

[20] У дэталях абгрунтаванне гэтай гіпотэзы гл.: Клімаў І. П. Пытанне паходжання і складу «Прадмовы В. Цяпінскага» ў святле кніжнай культуры XVI ст. // Матэрыялы трэціх міжнародных кнігазнаўчых чытанняў «Кніга Беларусі: Повязь часоў» (Мінск, 16—17 верасня 2003 г.). Мн., 2005. С. 118—131.

[21] Пра гэты твор маецца нямала дробных згадак у літаратуры, аднак сінтэтычнай працы, прысвечанай яму, пакуль бракуе, і гэтае пытанне ў цэлым застаецца не даследаваным.

[22] Памылковае меркаванне ўзыходзіць да расійскага царкоўнага гісторыка 19 ст. мітрапаліта Макарыя (гл.: Макарий, митроп. История Русской церкви [2-е изд.]. СПб., 1882. Т. 11. Кн. 2. С. 330—331, 575). Апісаныя ім акалічнасці на самай справе суправаджалі спробы Смятрыцкага выдаць за кошт праваслаўнай царквы свой трактат пра вандроўку («перыгрынацыю») на Блізкі Усход, у якім тлумачыліся дагматычныя разыходжанні паміж праваслаўнымі і каталікамі і абгрунтоўваліся патрэбы ўсталявання адзінства цэркваў. Захадамі уніята Касьяна Саковіча, былога праваслаўнага, кніга выйшла пад назвай *Apologia peregrinatiey do Kraiow wschodnych* (Львоў, 1628). Памылковыя звесткі Макарыя на гэты конт неаднойчы паўтараліся ў розных расійскіх крыніцах канца 19 — пачатку 20 ст.

[23] Гл. публікацыю тэксту: Θρηνος, To iest Lament iedyney ś. Powszechney Apostolskiey Wschodniey Cerkwie // Collected works of Meletij Smotryc'kyj / Ed. D. Frick. Cambridge / Mass., 1987. Vol. 1. P. 1—235 (Harvard Library of Early Ukrainian literature: Texts, 1), катэхізіс гл. с. 224—235. Меркаванне, што гэты катэхізіс Смятрыцкага стаў падмуркам катэхізіса Пятра Магілы (гл.: Соловій М. М. Мелетій Смотрицький як письменник. Рим—Торонто, 1978. Ч. 2. С. 345), беспадстаўнае.

[24] Апісанне мовы катэхізіса гл.: Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1967. Т. 1. С. 188—201, а таксама: Карский Е. Ф. Два памятника старого западнорусского наречия: 1) Лютеранский катехизис 1562 года и 2) Католический катехизис 1585 года // ЖМПН. 1893 (Ч. 288). № 8. С. 406—430 (перавыданне: Карский Е. Ф. Труды по белорусскому и другим славянским языкам. М., 1962. С. 188—207). Нягледзячы на параўнанне з Віленскім катэхізісам 1585 г., асноўная ўвага Карскага прысвечана Нясвіжскаму катэхізісу 1562 г.

[25] Пра яго змест маюцца толькі заўвагі: Merczyng H. Szymon Budny jako krytyk tekstów biblijnych. Kraków, 1913. S. 13—23.

[26] Merczyng H. Szymon Budny, jako krytyk… S. 13.

[27] Саверчанка І. В. Хрысціянскі катэхізіс ў кніжна-пісьмовай… С. 5. Малы катэхізіс Лютэра пачынаўся з тлумачэння 10 запаветаў, затым тлумачыўся сімвал веры і малітва «Ойча наш». Нельга выключаць, што ў Нясвіжскім катэхізісе маглі выкладацца лютэранскія погляды: да 1557 г. Радзівілы трымаліся лютэранства (Merczyng H. Szymon Budny, jako krytyk… S. 11).

[28] Merczyng H. Szymon Budny, jako krytyk… S. 23.

[29] Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай)… С. 521; Саверчанка І. В. Хрысціянскі катэхізіс ў кніжна-пісьмовай… С. 5.

[30] Jensen A. Die Anfänge schwedischen Slavistik // Archiv für slavishe Philologie. 1912. Bd. 33. № 1/2. S. 136—165; Bring S. K. Till den svenska slavistikens äldsta historia // Nordisk tidskrift för bok- och biblioteksväsen. 1919. Årg. 6. S. 186—194.

[31] Як ужо адзначалася, першае апісанне мовы гэтага было зроблена Я. Карскім, гл.: Карский Е. Ф. Два памятника старого… Ён карыстаўся толькі моцна дэфектным пецярбургскім паасобнікам, што налічвае ўсяго 11 лістоў, а таму змог даць толькі прыблізнае ўяўленне пра мову твора. Новае, пільна выкананае даследаванне мовы гэтага катэхізіса (разам з каменціраваным слоўнікам) было нядаўна апублікавана кракаўскім славістам А. Фалоўскім, гл.: Fałowski A. Język ruskiego przekładu… S. 29—108. Як ён выснаўляе, мова твора насычана многімі беларускімі і ўсходнеславянскімі рысамі, што набліжае яе да выданняў Ф. Скарыны (S. 101—102).

[32] Крыху раней А. Фалоўскі меркаваў, што ў Вільні быў надрукаваны пераклад нейкага іншага лацінскага катэхізіса, а не твора Канізія, гл.: Fałowski A. Rola jezuitów w rozwoju szkolnictwa, języka i piśmiennictwa zachodnioruskiego w XVI w. // Krakowsko-Wileńskie Studia Sławistyczne: Studia poświęcone starożytnościom słowiańskim. Kraków, 2001. T. 3. S. 193—214, гл. s. 206, 197.

[33] Fałowski A. Język ruskiego przekładu… S. 15, 21—24.

[34] Там жа. S. 25.

[35] Пра гэтыя грандыёзныя планы і іх сціплую рэалізацыю гл.: Fałowski A. Rola jezuitów w rozwoju… S. 200—206; Fałowski A. Język ruskiego przekładu… S. 17—21, а таксама: Крип'якевич І. Унійні видання і «руські» переклади Антонія Посевіна в 1980-тіх рр. // Analecta Ordinis S. Basilii Magni. Львів, 1928—1930. Vol. 3. С. 537—552.

[36] Fałowski A. Język ruskiego przekładu… S. 25, 91—99.

[37] Там жа. S. 24.

[38] Цікава адзначыць, што ў харватаў першыя друкаваныя катэхізісы (гаворка ідзе толькі пра кірылічныя выданні) таксама былі апублікаваны пратэстантамі, якім паслядоўнічалі каталікі. Першы кірылічны сербахарвацкі катэхізіс *Катекизам* (Урах, 1561) уяўляў сабой пераклад славенскага катэхізіса, складзенага Прымажам Трубарам паводле двух катэхізісаў Лютэра. Перакладчыкамі твора Трубара выступілі харвацкія пратэстанты Сцяпан Конзул і Антун Далмата. Каталіцкім адказам стаў катэхізіс Якуба Ледэсмы, перакладзены езуітамі і выдадзены на сродкі дуброўніцкіх шляхціцаў Загураў пад назвай *Наукь карьстианьски* (Венецыя, 1583), адначасова з якім выйшаў згаданы катэхізіс *Сумма наука христианског*а (Рым, 1583) Пятра Канізія ў перакладзе Шымуна Будыніча з Задара. Можна таксама згадаць баснійскі катэхізіс *Наук карстианскь* (Венецыя, 1611; 1621; 1640), складзены баснійскім францысканцам Мацьем Дыўкавічам паводле розных контррэфармацыйных аўтараў.



[39] Гл.: Прения литовского протопопа Лаврентия Зизания с игуменом Ильею и справщиком Григорием по вопросу исправления составленного Лаврентием катехизиса // Летописи русской литературы и древности / Изд. Н. Тихонравов. М., 1859. Т. 2. С. 80—100; Заседание в книжной палате 18 февраля 1607 г. по поводу исправления «Катехизиса» Лаврентия Зизания. СПб., 1878 (Общество любителей древней письменности, 17).

[40] Кірыл Лукарыс († 1638) у 1594—1597/8 і 1599—1601 гг. быў пасланнікам александрыйскага патрыярха Мялета Пігаса ў Рэчы Паспалітай, пэўны час быў рэктарам Віленскай брацкай школы і выкладаў у Астрожскай школе. Пазней ён стаў александрыйскім (1601—1620), а затым усяленскім патрыярхам у Канстанцінопалі (1620—1635, 1637—1638), нізложаны ў 1638 г. Пад час свайго падарожжа на Усход Мялет Смятрыцкі сустракаўся з Лукарысам і адначасова пазнаёміўся з працамі патрыярха.

[41] Твор выйшаў на лацінскай мове пад назвай *Confessio fidei orthodoxae* (Жэнева, 1529) і складаўся з 18 раздзелаў і 4 пытанняў з 4 адказамі, у якіх шмат якія моманты праваслаўнай дагматыкі тлумачыліся ў кальвіністкім духу. Так, адзінай крыніцай царкоўнай навукі абвяшчалася Св. Пісьмо, апакрыфічныя кнігі Бібліі адкідаліся, прызнаваліся толькі 2 таінствы, устаўляваныя Хрыстом. Гэта дало падставу езуіцкай прапагандзе абвінавачваць праваслаўных у адступніцтве і ерасі. Ужо праз год, у 1632—1633 гг. з'явіліся пераклады гэтага твора на нямецкую, англійскую і французскую мовы. У 1632 г. веравызнанне Лукарыса было надрукавана па-грэчаску ў самім Канстанцінопалі, а ў 1633 г. выйшла паўторна на грэчаскай і лацінскай мовах у Жэневе. Яшчэ ў 1624 г. Лукарыс падрыхтаваў да выдання ў Вітэнбергу грэчаскі катэхізіс, які, паводле слоў французскага пасланніка-каталіка ў Канстанцінопалі, здольны быў зрабіць усю Усходнюю царкву кальвіністкай.

[42] Пераемнік і вораг Лукарыса патрыярх Кірыла Верыйскі асудзіў на саборы ў 1638 г. не толькі твор, але і самога Лукарыса. Асуджэнне было падпісана тады 3 патрыярхамі і 20 мітрапалітамі. На саборы ў Ясах у 1640 г. веравызнанне Лукарыса было зноў разгледжана з ініцыятывы пераемніка Кірылы патрыярха Парфена. Айцы сабора прыйшлі да высновы, што ўсе 18 раздзелаў гэтага твора (апрача 7-га), таксама як і пытанні з адказамі, напоўнены кальвіністкай ерассю. У саборнай грамаце, падпісанай грэчаскімі, малдаўскімі і рускімі іерархамі, коратка ўказаны памылка і ерась у кожным раздзеле і прыведзена правільная фармулёўка. Усе артыкулы веравызнання Лукарыса былі адрынуты як неправаслаўныя, а іх стваральнік, не названы па імю, абвешчаны чужым для праваслаўнай веры і адлучаны ад царквы, таксама як і любы іншы, хто б паспрабаваў трымацца гэтага вучэння і называць яго праваслаўным. Грамата была адразу надрукавана ў Ясах у гаспадарскай друкарні малдаўскага ўладара Лупула ў канцы 1641 г., а затым па загаду Пятра Магілы перакладзена на польскую мову і выдадзена ў Кіеве. Пасля таго яна была надрукавана на дзвюх мовах, грэчаскай і лацінскай, у Парыжы, гл.: Макарий, митроп. История Русской церкви… С. 576—577. Спас. 463.

[43] Макарий, митроп. История Русской церкви… С. 586, 590, 591.

[44] Флоровский Г. Пути русского богословия. Париж, 1932. С. 48, 50—51; Ševčenko I. Byzantium and the Slavs in Letters and Culture. Cambridge / Mass.; Naples, 1991. P. 651—687, даследчык не выключае і выкарыстанне польскай мовы для чарнавіка.

[45] Флоровский Г. Пути русского богословия… С. 44, 45.

[46] Гл.: Корзо М. А. «Православное исповедание веры» Петра Могилы: К вопросу о западном влиянии на киевское богословие XVII в. // Сравнительная история: Методы, задачи, перспективы; Сборник статей. М., 2003. С. 33—56. Рэферат гэтай працы быў апублікаваны па-польску: Korzo M. Prawosławne wyznanie wiary Piotra Mohyły: Kilka uwag w sprawie wpływów zachodnich na teologię kijowską // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. 2002. Vol. 46. P. 141—149.

[47] На саборы ў Ясах прысутнічалі канстанцінопальскі патрыярх Парфен разам з іншымі грэчаскімі іерархамі, малдава-валашскі мітрапаліт Варлаам разам з біскупамі і кіеўскі мітрапаліт Пётр Магіла з некаторымі біскупамі.

[48] Публікацыю лацінскага тэксту веравызнання, прадстаўленага Магілай на саборы ў Ясах, гл.: Malvy A., Viller M. La Confession Orthodoxe de Pierre Moghila métropolite de Kiev (1633—1646): Approuvée par les Patriarches Grecs du XVII siècle; Texte latin inédit (Orientalia Christiana. 1927. Vol. 10. № 39).

[49] Паводле традыцыйнага меркавання, розныя неспрыяльныя палітычныя акалічнасці (перамена ўлады на канстанцінопальскім патрыяршым пасадзе, прамаруджванне грэкаў з рэдагаваннем) перашкодзілі выданню Магілай праваслаўнага веравызнання, гл.: Макарий, митроп. История Русской церкви… С. 595—597. Аднак на думку іншых даследчыкаў, Магіла сам не жадаў публікаваць твор, са складу якога грэкамі быў выдалены гэтак любы яму раманскі дух, гл.: Флоровский Г. Пути русского богословия… С. 50. Урэшце-рэшт, праваслаўнае веравызнанне з фармулёўкамі, што задавальнялі грэчаскіх царкоўнікаў, было надрукавана, але — на Захадзе: Ορθοδοξος ‘ομολογια της πιστεος της καθολικης και αποστολικης εκκλεσιας της ανατολικης (Амстэрдам, 1662, 1667; Лейпцыг, 1695), яго аўтарам быў пазначаны Мялет Сірыг. Амстэрдамскае выданне было здзейснена былым перакладчыкам пры двары султана грэкам Панагіётам, які пераклаў твор на размоўную грэчаскую мову. Лейпцыгскае перавыданне мела лацінскі пераклад, з якога ў Маскоўіі пры патрыярху Адрыяне адным з манахаў, што выкладаў ў грэка-славянскай школе Ліхудаў, быў зроблены пераклад веравызнання на царкоўнаславянскую мову (Масква, 1696). Твор неаднаразова перавыдаваўся ў 18 ст. пад назвай *Православное исповедание веры* (Кіеў, 1708, 1750, 1769; М., 1709, 1743[2], 1744[2], 1794; Чарнігаў, 1752). Пазней яго асобна перавыдаваў маскоўскі протаіерэй П. Аляксееў (М., 1769, 1781). Твор быў перакладзены на нямецкую мову Ё. Фрышам і выйшаў пад назвай *Liber Symbolicus Russorum Oder Der Grössere Catechismus der Russen* (Франкфурт—Лейпцыг, 1727). Апрача таго, можна згадаць, што пасля выдання Магілы каталіцкая Congregatio de propaganda fide выдала веравызнанне ў выглядзе дыглоты на лацінскай і царкоўнаславянскай мовах *Professio orthodoxae fidei ab orientalibus facienda: Исповедение православное веры, от восточных творимое* (Рым, 1648). Твор складаўся з 38 артыкулаў і выдаваўся Congregatio з канца 16 ст. на розных усходніх мовах.



[50] Сімвал веры ў рэдакцыі александрыйскага патрыярха Апанаса (арк. 2—4 асобн. фал.), кароткі выклад пра веру анаталійскага патрыярха бл. Анастаса і Кірылы Александрыйскага (арк. 4адв.—6 асобн. фал.), кароткі выклад пра веру св. Максіма (арк. 6адв.—8адв. асобн. фал.). У канцы кнігі было змешчана казанне пра веру канстанцінопальскага патрыярха св. Генадзя (арк. 66—78).

[51] Маскоўскае выданне выйшла пад назвай *Собрание краткия науки о артикулах веры… ради учения и ведения всем православным христианом, наипаче же детем учащимся*, кіеўскае выданне мела назву *Катехизис сиреч исповеданеє православныя вери*. Пад назвай *Катехизис* твор выдаваўся ў скарочаным выглядзе (Чарнігаў, 1715; Кіеў, 1794).

[52] Публікацыя трактата гл.: Winnicki Innocenty, bp. Ustawy rządu duchownego i inne pisma / Przygot. W. Pilipowicz. Przemyśl, 1998. S. 68—75.

[53] Поўная назва твора: *Marchantius Jacobus. Hortus pastorum in quo continentur Omnus Doctrina fidei et morum ad Conciones Catechismus Controvers et Casus Conscientiae Omnibus Animarum Curatoribus necessaria*.

[54] Поўная назва першага польскага выдання: *Marchantius Jakub. Katechism abo nauka chrzescianska. Nie tylko swieckim, ale y pannom zakonnym; także y plebanom wielce użyteczny*. Польскае выданне налічвае 270 аркушаў і складаецца з 32 раздзелаў.

[55] Польскую крыніцу перакладу пакуль адшукаць не ўдалося. Магчыма, гэта пераклад адной з прац вядомага французскага педагога і гісторыка царквы Клода Флёры († 1723), які праславіўся сваёй 20-томнай *Histoire ecclesiastique* (Парыж, 1691—1720), даведзенай у выкладзе падзей толькі да 1414 г. (пазней гэтую працу спрабавалі працягнуць два каталіцкія манахі, але без вялікага поспеху). Гэтая праца мела шмат пазнейшых перавыданняў і была перакладзена на лацінскую, нямецкую і італьянскую мовы. Апрача гэтай працы ён таксама выдаў у 1679 г. *Catéchisme historique, contenant en abrégé l'histoire sainte, et la doctrine chrétienne у двух варыянтах: Grand catéchisme і Petit catéchisme*. Гэты твор таксама карыстаўся папулярнасцю, у 1705 г. з'явіўся яго пераклад на лацінскую мову, у 1707 — на іспанскую, у 1750 г. — на нямецкую. Праўда, выданне 1728 г. гэтага твора трапіла ў індэкс забароненых кніг. Польскі пераклад (*Katechizm Historyczny, krótko zawieraiąy w sobie pismo swięte*) з'явіўся, здаецца, таксама ў 2-й палове 18 ст.

У адваротным выпадку справа можа ісці пра *Katechizm historyczny* смаленскага каталіцкага біскупа Юрыя Мікалая Хыльзена († 1775), які паходзіў з Лівоніі. Але праца гэтая зусім рэдкая і малавядомая.

[56] Загаловак у выданні 1761 г. крыху адрозніваецца ад 1-га выдання: *Катехизм, или Краткое началное учение христианское в ползу и спасение юношам, равно же и старым ненаученным, в трех беседах написанный*.

[57] Аднак не ўдалося ўдакладніць, ці маецца гэтая праца ў зборы прац Пракаповіча, гл.: Прокопович Ф. Богословские сочинения полного собрания. Ч 4. СПб., 1774. Твор адсутнічае ў спісе прац Ф. Пракаповіча, складзеным В. М. Нічык у савецкім выданні «Твораў» гэтага пісьменніка (гл.: Прокопович Ф. Філософські твори: В 3 т. Т. 1—3.Київ, 1979, 1980, 1981., гл. Т. 1. С. 444—451).

РДАСА. Ф. 389. Воп. 1. Адз. зах. 30. Л. 100адв. *Копія канца XVI ст. Правапіс адаптаваны*.

**6. 1546.06.16. Вільня. — Пацвярджэнне («потверженье») Жыгімонтам Аўгустам «тэстамента» піўнічага гаспадарскага Мікіты Мікалаевіча сваёй жонцы Фяцінні, дачцэ Багдане, яе мужу Грыню Васкевічу і іх дзецям: Федасею і Марку, — а таксама «листов» каралевы Боны і намесніка гарадзенскага Войцеха Грышкавіча Кімбара на дом з усёй маёмасцю рухомай і землі «выслужаные»: Гяйбоўшчыну, Баранаўшчыну, трэцюю частку Драбышоўшчыны — у поўную ўласнасць пры ўмове службы вялікаму князю.**

**Потверженье листу судовог[о] намѐстника городенског[о]| Грыню Васкевичу, дому и иных земль.|**

Жикгимонт Авъгустъ, Божю милостью корол и великий князь […].|
**Ч**инимъ явъно симъ нашымъ листомъ.

Билъ намъ чоломъ служебный| нашъ Гринь Васкевичъ и поведилъ передъ нами.

Ижъ пивъничъный| нашъ Микита Миколаевичъ, сходячы с того света, отъписалъ та|стаменътомъ своимъ жоне своей Фетимъи, и дочъце своей, жоне его,| Богъдане, и ему, зятю своему, и ихъ детямъ, а вънучатомъ своимъ| Федосью а Марку домъ свой зо въсими речъми рухомыми и статъки| домовыми и тежъ земъли вси, часть отъчизъны своее, а къ тому| земъли свои выслужоныи наймя Гейбовъўыну, Барановъўыну и тре|тюю часть земъли Дробышовъўыны со въсимъ, яко ся тыи земъли| сами в собе маютъ и яко онъ ихъ на себе державъ, гдежъ и листы —| твердости, которые в себе на тое именьечъко свое мелъ, ему, зятю| || [128 (101)] своему, в руки поотъдавал.

То пакъ служебъныи нашы: Иванъ а Васько| Михайловичы, а Хотъянъ Матъфеевичъ, а Конъдратъ Ивановичъ за комисеею| королевое ее милости навышъшое кнегини Боны, пани матъки нашое,| передъ наместникомъ ее милости городенъскимъ, паномъ Войтехомъ Гришъ|ковичомъ Кимъбаромъ, а судьею и хоружым городенъскимъ Яномъ| Толочъковичомъ, а передъ наместъникомъ королевое жъ ее милости ски|делъскимъ и крынъскимъ, подсудъкомъ городенъскимъ Львомъ Михайловичом| право с тымъ Гринемъ о въси тыи земъли вышейменены, яко отъчизныи| и выслужоныи, мели, поведаючы рекомо бы они потомъ Миките пивъ|ничъному яко по брате своему были ку тому близъшии, нижъли| оный Гринь, а наболей даючы тую причыну, ижъ сынове ихъ яко изъ ихъ| земль властъныхъ, такъ и с тыхъ земъль оного Микиты небожчыка| при дъворе короля его милости, пана отъца нашого, и тежъ ее кролевской| милости, пани матъки нашое служать.

Гдежъ оный наместъникъ коро|левое ее милости, панъ Гришъко съ судьями вышейписаными, не от|ступуючы отъ статуту правъ земъскихъ, знашъли оную Богъ|дану Гриневую в томъ отъ нихъ правую и при тыхъ всихъ| земъляхъ отъчызъныхъ и выслужоныхъ водъле листовъ короля| его милости, пана отъца нашого, и тежъ королевое ее милости и водле| тастаменъту остаточъное воли Микитины ее з мужомъ ее, Гринемъ,| изъ матъкою ее, изъ жоною Микитиною Фетиньею навечъность заставили| и на то имъ выписъ с книгъ судовыхъ подъ печатьми своими дали. Яко ж| перьвей сего королевая ее милость, пани матъка наша, оный тастамент пив-



ничъ|ного| || [128адв. (101адв.)] Микитинъ и листъ судовый в тыхъ речахъ наместъника городенъского пана| Гришъковъ рачыла ему листомъ своимъ навечъность потвердити и при том| всемъ жону и дочъку Микитину Богдану з мужомъ ее Гринемъ зосъта|вити. Который жо онъ листъ королевое ее милости с привесистою печатью| и с подписью руки ее милости передъ нами покъладалъ и тастаментъ| тежъ Микитинъ и листъ судовый наместъника городенъского вказывалъ.|

Ино мы, того листу королевое ее милости, пани матъки нашое, огледавшы,| з ласки нашое на чоломъбитье его в то вчынили: при томъ лисьте потвер|женью ее милости жону Микитину и дочъку ее Богдану з мужомъ ее| Гринемъ зоставуемъ, и то все, што на листе ее кролевъской милости, и на| тастаменъте оного Микиты, и тежъ на листе судовомъ наместъника| городенъского пана Гришъковомъ описано, потвержаемъ имъ самимъ,| и детямъ, и потомъкомъ ихъ на вечъные часы.

Маютъ они то к рукамъ| своимъ мети и того всего вжывати, а намъ с того тую службу слу|жыти, которая и первей с тыхъ земль бывала.

И на то дали есьмо имъ| сесь нашъ листъ, до которого и печать нашу привесить казали.

П[и]санъ| у Вильни, подъ летъ Божъ[его] нарож(еня) 1546, м(е)с(я)ца июнь 16 день,| инъдиктъ 4.|

РДАСА. Ф. 389. Воп. 1. Адз. зах. 30. Л. 127адв—128адв. *Копія канца XVI ст. Правапіс адаптаваны*.

**7. 1546.08.26. Вільня. — Пацвярджэнне («потверженье») Жыгімонтам Аўгустам берасцейскаму яўрэю Іллі Бермановічу на куплю лазні ў яўрэя пазнанскага Хаіма Шмайловіча ў г. Бярэсці.**

**Потвѐрженье жыду берестейскому| Ільи Берменовичу купли его лазни в месте| Берестейском и у жида познанског(о) Шмойловича,| навечность.|**

Жикгимонт Август, Божю м(и)л(о)стью корол и великий князь […].|
**О**знаймуем симъ нашымъ листомъ.

Поведил перед нами жыдъ| места нашого Познанъского Хаимъ Шмойловичъ о томъ, иж што| онъ купил собе у месте нашомъ Берестейском лазню над рекою Бугом| и Мухавъцомъ за сто копъ грошей литовъскихъ у земянина| Коруны Полское Адама Жуковъского, которую куплю его водлугъ| листу продажного оного Адама Жуковъского корол его м(и)л(о)сть,| панъ отецъ нашъ, за чоломъбитемъ его листом своимъ ему и потомком| || [184адв. (157адв.)] его потвердити рачилъ, даючы имъ волность тую купълю ихъ водъле| листу ихъ купъчого где хотя ку лепъшому и пожыточъному ихъ обер|нути.

Который жо онъ листъ короля его м(и)л(о)сти, пана отца нашого, перед| нами вказывал и поведил, иж онъ тую лазню в месте нашомъ Берестей|скомъ над рекою Бугомъ и Мухавъцомъ, куплю свою, за певную суму пенезей| спустил и продал навечность жиду места нашого Берестейского Или| Берменовичу и его жоне, и детемъ, и ихъ потомкомъ. На што и лист свой про|дажный и иные вси листы свои, которыи на тую лазню в себе мелъ,| ему дал. И бил намъ чоломъ тот Хаимъ Шмойловичъ, жыдъ познанъский,| абыхмо ласку нашу

г(о)с(по)д(а)ръскую вчинили и тую продажу его тому| жиду берестейскому Ильи Берменовичу листомъ нашымъ потвер|дили и дали ему на то нашъ листъ.

А такъ мы, оного листу его кро|левъское м(и)л(о)сти, отца нашого, на тую куплю его ему даного огле|давшы и бачечы в томъ прозбу его быти слушъную, и кгдыжъ| онъ тую лазню в месте Берестейскомъ, купълю свою, тому Ильи Бер|меновичу навечност продалъ, з ласки нашое г(о)с(по)д(а)ръское на чоломъбите его| то есмо вчынили, на то тому Или Берменовичу сесь нашъ лист дали| и то ему тымъ листомъ нашымъ потвержаемъ.

Мает онъ самъ| и его жона, и дети, и потомъки ихъ тую лазню в месте нашомъ Бере|стейскомъ надъ рекою Бугомъ и Мухавцомъ, куплю свою, к рукамъ| своимъ держати, и того вживати, и где хотя к своему доброму| а пожиточному то обернути, яко самъ налепей розумеючы, подле| купли своее и листу купъчого.

А на твердость того и печат нашу казали| есмо привесити к сему нашому листу.

П[и]санъ у Вилни, под летъ Бож(его)| нарож(еня) 1546, м(е)с(я)ца августъ 26 ден(ь), индикт 4.| || [185 (158)]

РДАСА. Ф. 389. Воп. 1. Адз. зах. 30. Л. 183—184адв. *Копія канца XVI ст. Правапіс адаптаваны.*

**8. 1546.08.29. Вільня. — Пацвярджэнне («потверженье») Жыгімонтам Аўгустам баярам мсціслаўскім: Борку, Канку, Уласу Вараводзіным Пятровічам куплі сяла Міхалеўскага ў Сахонаве (вотчыны баярына мсціслаўскага Багдана Корсакавіча Ожага) на службе земскай вялікаму князю.**

**Потверженье бояром мстиславскимъ| Власу, Бурку а Конку Варыводам купли их| села Михалѐвъского у Богдана Корсако|вича, навечност.|**

Жикгимонт Август, Божю милостю корол и великий князь […].|

**Б**или намъ чоломъ бояре нашы мстиславъские наймя Власъ, а Бурко, а Канко| Петровичи Вараводина и поведили передъ нами. Ижъ они за доз|воленьемъ маршалка нашого, државцы мстиславъского, князя Василя| Анъдреевича Полубенъского купили собе у боярина мстиславъского| Богдана Корсаковича Ожога село его отчизное у Сохонъне наймя Миха|левъское за певную суму пенезей. На што тот Богдан Корсаковичъ Ожогъ| и листъ свой имъ далъ, в которомъ такъ ся описал, ижъ ани онъ| самъ, ни жона, ни дети, ни ближние его в тое село ничымъ ся уступо|вати не мели. Который же они лист ихъ продажный перед нами ука|зывали и били намъ чоломъ, абыхъмо ласку нашу г(о)с(по)д(а)ръскую вчинили| и дали имъ на то нашъ лист, и тую куплю ихъ листомъ нашымъ на веч|ность имъ потвердили.

А такъ мы, того листу ихъ купъчого огле|давъшы и бачечы в томъ прозбу ихъ быти слушную, з ласки нашое г(о)с(по)д(а)ръ|ское на чоломъбите ихъ то вчинили, тую куплю ихъ потвердили и тым| листомъ нашымъ имъ потвержаем навечност.

Мают они и ихъ жоны,| дети и потомъки ихъ тое село в Сохонове Михалевъсксое, купълю| свою, держати и того вживати со всимъ по тому, яко ся| тое село Михалевъское в собе мает, и водъле листу своего купъчого.| А нам с того службу земъскую служити они мают.

И на то есьмо| тымъ бояром мстиславъскимъ Уласу, а Борку, а Канъку Петровичом| дали сес нашъ лист под нашою печатю.



П[и]санъ у Вильни, подъ лет(о) Бож(его) нарож(еня)| 1546, м(е)с(я)ца августъ 29 день, инъдикт 4.| || [185адв. (158адв.)]

РДАСА. Ф. 389. Воп. 1. Адз. зах. 30. Л. 185. *Копія канца XVI ст. Правапіс адаптаваны.*

[1] Метадычныя рэкамендацыі па публікацыі рукапісных актавых кірылічных крыніц ў Беларусі (XIII—XVIII стст., перыяд Вялікага княства Літоўскага) / Аўт.-склад. А. І. Груша. Мн., 2003. С. 61—62.

[2] Груша А. З вопыту падрыхтоўкі да выдання кнігі Метрыкі ВКЛ 44 (1559—1566) // БАШ. Вып. 3. Мн., 2002. С. 28—29.

[3] Рыбаков А. Е. Общее делопроизводство в центральном аппарате государственного управления Великого княжества Литовского в XVI в. / Дис. … канд. ист. наук. (На правах рукописи) // Библиотека БелНИИДАД. С. 55.

[4] Гл.: Методические рекомендации по изданию и описанию Литовской метрики / Сост.: А. Л. Хорошкевич, С. М. Каштанов. Вильнюс. 1985.

*Публікацыя В. С. Мянжынскага і Ю. У. Несцяровіча*

## ВІЗІТЫ ЗАСЛАЎСКАЙ УНІЯЦКАЙ ЦАРКВЫ ПРААБРАЖЭННЯ ГАСПОДНЯГА ЗА 1681, 1792 гг.

Упершыню ў навуковы ўжытак уводзяцца два дакументы, якія дазваляюць прасачыць моманты гісторыі Заслаўскай уніяцкай царквы Праабражэння Гасподняга[1]. Гэта візіты[2] уніяцкіх цэркваў за 1681 і 1792 гг. Справы захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў фондзе «Мінская духоўная кансісторыя» (№ 136). Гэты фонд налічвае каля 43 тыс. адзінак захавання, згрупаваных у 21 вопіс, якія можна ўмоўна падзяліць на 2 групы. Яго матэрыялы — гэта каштоўная крыніца па гісторыі рэлігіі, архітэктуры і развіцці грамадскіх адносін у Беларусі канца XVIII — пачатку XX ст.

Важнай крыніцай звестак аб ролі жывапісу і скульптуры, іх узаемасувязі ў беларускім храме, гісторыі самой святыні, мясцовых парафій з’яўляюцца інвентарныя вопісы («візіты»), якія складаліся ў час перыядычных аглядаў царкоўнай маёмасці рэвізорамі-візітатарамі ад біскупаў.

Фонд уключае збор указаў Сінода, мінскага архіепіскапа, справаздачы аб стане благачыній, цэркваў і кляштараў, дакументы аб далучэнні ў праваслаўе асоб іншага веравызнання, аб узаемаадносінах дзяржавы і пануючай рэлігіі з уніятамі і рыма-каталікамі, аб дабрачыннай дзейнасці царквы, адкрыцці царкоўнапрыходскіх школ, выданні духоўных часопісаў, будаўніцтве, рамонце, асвячэнні цэркваў, наданні духавенству зямлі, налажэнні епітыміі, аб інвентарах цэркваў і кляштараў, метрычных кнігах цэркваў. Акрамя гэтых дакументаў у фондзе захоўваюцца дакументы Кіеўскай, Пераяслаўскай і Слуцкай кансісторый за 1792—1793 гг.

Першая група — вопісы № 1—7, 12, 14 — уключае пратаколы пасяджэнняў, рэестры дакументаў, справы кансісторыі. Аб'ём гэтых вопісаў — 40,4 тыс. адзінак спраў. Другая група — вопісы № 10, 11, 13, 15—23 — метрычныя кнігі цэркваў. Аб'ём гэтых вопісаў складае 2,4 тыс. адзінак спраў. Вопіс № 1, у якім знаходзяцца публікуемыя дакументы, складаецца з 7 тамоў.

Справа «Візіты цэркваў Навагрудскай, Менскай, Бабруйскай, Барысаўскай, Нясвіжскай, Клецкай, Лагойскай, Цырынскай, Даўгінаўскай і Завілейскай пратапопій за 1681 г.» мае 107 аркушаў[3]. У канцы XX ст. зроблена яе рэстаўрацыя. З правага боку тэксту справы ёсць калонкі, уверсе якіх напісана: «Cerkwi» («цэрквы»), «Duszy» («душы»). У дачыненні візіты Заслаўскай царквы ў іх нічога не пазначана. На адвароце ўнізе першага аркуша ёсць дата «2.09.1681». З другога па трэці аркуш апісаны цэрквы Мінскай пратапопіі. Далей ідзе візіт царквы ў Тарасаве (цяпер знаходзіцца ў Ждановіцкім с/с Мінскай вобл. Мінскага р-на) у маёнтку пана Хаткевіча (л. 3адв.). Далей ідзе візіт Заслаўскай царквы.

Справа «Візіты цэркваў Мінскага павета за 1792—1793 гг.» мае тытульны ліст, дзе на польскай мове напісана: «Akta wizity generalney surrogaciy y dekanatu Mińskiego roku 1792 1 maia sporządzone» («Акта візіты генеральнай сурагацыі і дэканата Мінскага, учыненая 1792 года 1 мая»)[4]. Першай звізітаванай была Насілаўская* грэка-уніяцкая царква Праабражэння Гасподняга (л. 4—5). У той жа дзень (1.05.1792) была звізітавана Хажоўская** царква пад тытулам святога Юрыя Пакутніка (л. 5адв.—6адв.). На наступны дзень святар прыбыў з візітам да Краснасельскай*** святыні пад тытулам святога Іллі Прарока (л. 6адв.—9). 4 мая 1792 г. была звізітавана Ушанская**** царква пад тытулам святога Іллі Прарока (л. 9—10), 5 мая — Дуброўская***** царква пад тытулам Раства Найсвяцейшай Панны Марыі (л. 10—11) і, нарэшце, 6 мая святар прыбыў да Заслаўскай уніяцкай царквы Праабражэння Гасподняга (л. 11—13). Апошняй звізітаванай царквой у гэтай справе з'яўляецца Вякоўская****** царква пад тытулам святога Яна (10.02.1793). На апошнім 108-м аркушы гэтай справы ёсць надпіс: «Te akta ze są wernie spisane przycijesnioney pie/częci własney podpisem ręki stwierdzam / X. Izajasz Szulakiewicz ZSBW opat Koadjater Poll[oc]ki / wizytatar G[eneralney] Surr[ogaciy] Mins[kiey] y Poleskiey / Stefan Potapowicz / Wizyty Generalney Sur[rogaciy] Min[skiey] i Pol[eskiey] Pisarz» з пячаткай абата закона святога Базыля, Вялікага каад'ютара полацкага візітатара генеральнай сурагацыі Мінскай і Палескай Ізаяша Шулякевіча. Пячатка ўяўляе сабой круглы сургучовы адбітак (дыяметрам 24 мм). У цэнтры яго на рэнесансавым шчыце выява герба «Ляліва». На версе шчыта шляхецкая карона з 5 паўлінавымі пёрамі пад святарскім капелюшом з шасцю кутасамі на шнурах. Уверсе каля шчыта з левага боку — пастараль (посах), а з правага — карона. Пад шчытом замацаваны роўна бакавы крыжык.

Дакументы, якія падаюцца ніжэй, напісаны на жаўтаватай паперы з філігранямі. Папера, на якой напісаны візіты уніяцкіх цэркваў за 1681 г., зроблена на Слонімскай паперні. Паводле Э. Лаўцявічуса, такія ж філіграні сустракаюцца пад 1677 г.[5] На паперы, на якой напісаны візіты 1792—1793 гг., — філігрань з аднаго боку ліста ў выглядзе літар «БОФАУ», на другім баку лічбы «1790». Гэта значыць, што папера зроблена ў Расіі на фабрыцы Аляксандра Угрумава Маскоўскай губерні Багародскай акругі. Паводле С. А. Клепікава, такія ж філіграні сустракаюцца пад 1781—1791 гг.[6]

У дакументах сустракаюцца скарачэнні: Dom: (дом, дамы), G-ne, G-llney (генеральны, генеральнай), IB (Яснавяльможны), IW: (Іх Вяльможны ці Вялебны), Jm$^{s}$ (Яго міласці), Metr: (мітрапаліт), Nayśw. (Найсвяцейшы), Przew$^{e}$: (Прывялебны), R$^{\underline{u}}$ (Год), S$^{\underline{o}}$, SS. (Святы, Святыя), W. (Вялебны), W. O. (Вялебны айцец), Wiel: (Вяльможны), W-dztwie (ваяводства), W-dy (ваяводы), W$^{\underline{o}}$X$^{\underline{a}}$Lit$^{\underline{o}}$ (Вялікае княства Літоўскае), X$^{\underline{a}}$ (ксёндз), P: X: (Прывялебны ксёндз) WX. (Вяльможны ксёндз).

У 1619 г. Мікалай Янавіч Глябовіч, на той час ваявода смаленскі і спадчыннік Заслаўя, пабудаваў у мястэчку на каменным невысокім падмурку драўляную царкву Праабражэння Гасподняга. Царква час ад часу атрымлівала розныя падараванні. Пачатковы фундуш Заслаўская уніяцкая царква, як сведчаць архіўныя крыніцы, атрымала ад князёў Сапегаў[7]. У 1681 г. Казімір Ян Сапега падараваў яе святару фундуш на бровар і млын. Паводле фундушу 13.05.1681 г. Заслаўскаму брацтву Праабражэння Гас-

* Цяпер знаходзіцца ў Цюрлёўскім с/с Мінскай вобл. Маладзечанскага р-на.

** Цяпер в. Хажова, цэнтр Хажоўскага с/с Мінскай вобл. Маладзечанскага р-на.

*** Цяпер в. Краснае, цэнтр Красненскага с/с Мінскай вобл. Маладзечанскага р-на.

**** Цяпер знаходзіцца ў Красненскім с/с Мінскай вобл. Маладзечанскага р-на.

***** Цяпер знаходзіцца ў Аляхновіцкім с/с Мінскай вобл., Маладзечанскага р-на.

****** Цяпер не існуе, парафія знаходзілася на ўсходзе сучаснага Дзяржынскага р-на.

подняга было дазволена тры разы на год варыць мёд і гандляваць ім без усялякай перашкоды. Юры Станіслаў Сапега, вялікі стольнік ВКЛ, дарue царкве фундушы з сенажацямі ў вёсцы Мацках[8]. 29.06.1727 г. маршалак ВКЛ Аляксандр Павел Сапега пацвярджае вышэйшыя наданні, а таксама ахвяруе Заслаўскай уніяцкай царкве Праабражэння Господняга тры валокі зямлі з двума падданымі, сенажаць і грунт, званы «Стэльмахоўшчына»[9]. Так, з цягам часу фундуш Заслаўскай уніякай царквы стаў налічваць 240 моргаў[*] зямлі, куды ўваходзілі пашня, сенажаць, агароды, пляц пад будаўніцтва плябанскіх будынкаў. Святар меў свой дом і гаспадарку[10].

У межах Заслаўскай парафіі знаходзіліся чатыры капліцы: у вёсцы Шапавалы — пад тытулам Узлажэння Прачыстай Ружы, у вёсцы Вязыні — святога Юрыя, у засценку Чахаўшчына (Чайкаўшчына) — святога Мікалая і вёсцы Мацках — на могілках старая драўляная святых Кузьмы і Дзям'яна[11].

На пачатку XIX ст. Заслаўская царква прыйшла ў заняпад. Гэты факт адлюстраваны ў рапарце асэсара Літоўскай грэка-уніяцкай духоўнай кансісторыі ў Мінскую рымска-каталіцкую кансісторыю ад 8.04.1832 г. Рапартуючы разам з «заседателем Гущою обозрели Заславскую греко-униацкую церковь и, найдя её совсем ветхою и угрожающую подением, запретили входить в оную»[12]. Пасля гэтага царква не ўзнаўлялася.

Пры публікацыі дакументаў выкарыстаны наступныя правілы: радкі тэксту захаваны, прозвішчы, імёны і геаграфічныя назвы напісаны з вялікай літары, знакі прыпынку расстаўлены па сучасных правілах пунктуацыі. Абазначэнне нумара ліста ў дакуменце даецца ў квадратных дужках. Назвы некаторых вёсак, якія ўваходзілі ў склад Заслаўскай уніяцкай парафіі ў той час, сёння не захаваліся. Гэта — Маляўшчына, Швалі, Вознаўшчына, Карчавая Буя, Каленкі, Чайкаўшчына, Сяледчыкі, Гарновічы, Харлоўшчына, Загор'е, Лафаровічы. У тэксце ў лацінскіх словах літара «q» напісана як «g», таму пры перадачы дакумента яна не змянялася. Крэскаваныя літары «ł, ż, ś, ą, ę» і інш. транскрыбіраваны, як у арыгінале, таксама, як і вялікія літары пасля косак. Адпаведна не выпраўляліся і такія словы, як «ctyry, tam extra guani, cum reguisitis» і інш. Транскрыбіраванне дакументаў было выканана з захаваннем тагачасных асаблівасцяў арыгінала.

[*] Зямельная мера. Морг складаўся з 3 квадратных шнуроў (300 квадратных прутоў = 16 875 квадратным локцям = 1 452 квадратным сажням = 0,605 дзесяціны), г. зн. 0,661 га.



Пераклад даецца па сучасных археаграфічных правілах. Тэкст падзелены на абзацы, без вызначэння нумара ліста ў дакуменце. Населеныя пункты маюць у перакладзе сучасныя тапанімічныя назвы.

**Візіта Заслаўскай уніяцкай царквы Праабражэння Гасподняга за 1681 г.**

[л. Задв.]

W Zasławiu w maiętnosci Jasnie Wiel: Jms Pan Woiewody Połóckiego Wielebny Ociec Bobr trzyma cerkiew załozenia Przemieninia Panskiego.

Venerabile na ołtarzu w pusce cynowey[*] stoi. Tuwalen dwie stare barzo, kielich srebny s patynią[**] y lyzeczką, wozduszkow dwa małych, wielki W. Oica. krzyz srebny do pocałowania. Na obrazie Naswięts[e]y Pany tabliczek niewielkich cztyry[***], korałow prawdziwych drobnych sznurow dwa, paciorki czarne zdiękami zawianemi sznur ieden, krzyzikow[***] dwa srebnych, zasłonka czerwona kitayczana. Apperat adamaszkowy barszczowy bez stuły i naręczakow, drugi buratikowy takze[***] bez stuły i naręczakow. Antependium czerwona buratikowa. Tuwalen na drugich ołtarzach cztyry. Chustka jedwabiem czerwonym szyta. Chorągew cztyry. Alba tkacka,

[л. 4]

lichtarzow mosiądzowych pięc. Na dzwonnicy dzwonow cztyry, do sygnowania jeden. Zasłonka kitayczana. Na obrazie Swiętego Spasa tabliczka cynowana. Kadzilnica mosiądzowa. Krzyz do procesiey tuwalnią okryty. Funduszu niepokazał. Gruntu do tey cerkwi włok dwie. Placow dwa. Ieden, na kturym poddany wielebnego oyca, a drugi pustuie podd[a]ny odszed precz. Placow siedm, naktyrych plebania wielebnego Oyca. Budynki. Izba biała wielka s komorą y sie[nmi]. Piekarnia na przeciwku. W sieniach swiatelka bokowa. Stary budynek. Izba biała, obory porządne, swiren, gumno odrynek trzy. Parafia. Miasteczko Zasławie, Wies[***] Windzielew, Wiekszyczy, Pietryszki, Kryczki, Lipienow, Sieleczyki, Horoszki, Sukowicze, Prudziszcz, Woroszyły, Zacharycze, Słobotka.

Tenze W. O.: Zasławski cerkiew drugo trzyma We wsi Wiazuni, w maiętnosci Jasnie Wiel. Jm[s] Pana Starosty Zmuyckiego, załozenia Jerzego Swiętego. Do ktorą cerkwi zadnego niemasz aparamętu y gruntu.

НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 42042. Л. Задв.—4.

**Пераклад**

У Заслаўі ў маёмасці Ясна Вяльможнага Яго міласці пана ваяводы Полацкага Вялебны айцец Бобр трымае заснаваную царкву Праабражэння Гасподняга.

Святыя дары стаяць на алтары ў дараносіцы валавянай. Абрусы два вельмі старыя, простыя, келіх срэбны з дыскасам і лыжачкай, вездушкаў два малых, Вялебнага айца крыж срэбны да цалавання. На абразе Найсвяцейшай Панны таблічак невялікіх чатыры, каралаў сапраўдных дробных шнуры два, пацеркі чорныя

[*] На версе слова напісана «NB», што значыць «звярні ўвагу».
[**] На версе слова напісана «gwiazda», што значыць «зорка».
[***] Так у тэксце.

з «падзякамі» шнур адзін, крыжыкаў срэбных два, заслона чырвоная кітайчатая. Арнат адамашкавы баршчовы без епітракілі і поручаў, другі бурачковы таксама без епітракілі і поручаў. Антэпендыум чырвоны бурачковы. Абрусоў на іншых алтарах чатыры, хустка чырвоным ядвабем вышываная. Харугваў чатыры. Альба тканая, падсвечнікаў мядзяных пяць. На званіцы чатыры званы, да абвяшчэння адзін. Заслона кітайчатая. На абразе Святога Збаўцы таблічка, волавам пакрытая. Кадзільніца медная. Крыж да працэсіі ручніком накрыты.

Фундушу не прадставіў. Грунтаў да гэтай царквы валок[*] дзве. Пляцаў два. Адзін, на якім падданы Вялебнага айца, а другі пустуе — падданы сышоў. Пляцаў сем, на якіх плябанія Вялебнага айца.

Будынкі. Хата белая вялікая з каморай і сенямі. Пякарня насупраць. У сенях святліца бакавая. Стары будынак. Хата белая, аборы, свіран, гумно, адрынак тры.

Парафія. Мястэчка Заслаўе, вёскі Вендзелава[**], Векшыцы[**], Пятрышкі[**], Крычкі[**], Ліпяні[**], Сялец[***], Гарошкі[***], Сукавічы[***], Прудзішча[***], Варашылы[**], Захарычы[**], Слабада[***].

Гэты ж Вялебны айцец Заслаўскі трымае другую царкву ў вёсцы Вязані[****], у маёмасці Ясна Вяльможнага Іх міласці пана старосты Жмуйцкага, пад назвай Святога Юрыя. Да гэтай царквы няма ніякіх начынняў і грунту.

**Візіта Заслаўскай уніяцкай царквы Праабражэння Гасподняга за 1792 г.**
[л. 11]

Inwentarz parochij Zasławskiey pod tytułem Przemienienia Pańskiego w W-dztwie Surrogacyi i Dekanacie Minskim, w Kollacyi powieczney IW Przeżdzieckich w dożywotney Dzierzawie IW: Mostowskich Kaszttellanow Raciońskich, w czasie Wizyty G-llney Kanoniczney za instrumentem IW$^{o}$ Rostockiego Arcy Biskupa Kijowskiego, Halickiego i Całey Rusi Metropolity R$^{u}$ 1792 Me$_{c}$a Maja 6 Dnia VS[*****] sporządzony.

Wszedłszy[******] do Cerkwi Sanctissimum w Cyboryum gradusowym stolarskiey roboty malowanym zamczystym w puszce srebrney tam extra guani[******] intus pozłacaney

[л. 11адв.]

pozłacaney z wierzchem, krzyżykiem i Passyiką pozłacanemi ważąca lotow 17 na korporale asservatur.

Ołtarze

Ołtarz wielki stolarskiey roboty na optykę malowany z obrazem Spasytela, na którym korona srebrna z trzema kamykami waży lotow 9, wotow srebrnych 14, ważące lotow 30 za zasłonką kitaykową niebieską. Na mensie antemis IW$^{o}$ Hrebnic-

[*] Зямельны надзел роўны 21,36 га.
[**] Цяпер знаходзіцца ў Пятрышкаўскім с/с Мінскай вобл. Мінскага р-на.
[***] Цяпер знаходзіцца ў Лашанскім с/с Мінскай вобл. Мінскага р-на.
[****] Цяпер в. Вязынка Мінскага р-на.
[*****] «VS» азначае, што дата падаецца па старым стылі.
[******] Так у тэксце.



kiego Metropolity. Tuwalni dwie: iedna szwabska z falbą kartunową, druga tkacka i obrus, poduszka pod mszał materialna w paski, nakrywadełko sukienne czerwone. Lichtarzy malowanych drewnianych par 3. Lichtarzy cynowych stołowych par 3, ważą funtow 5 i lot 1. Krzyż z Passyą drewniany malowany. Za nim obraz Nayśw. Maryi Panny Częstochowskiey z szkłem, przy antepedium obicia perskie.

Drugi ołtarz z obrazem Nayśw. Maryi Panny, na którym koron srebrnych 2, ważą lotow 10 y cwierć. Korali sznurkow 15. Bisiur sznurkow 11 z zausznicą, Szata dzewniana pod srebrem i złotem malarskim za zasłonką iedwabną z brzegami wyszywanemi. Na mensie tuwalni 3 tkackie, z nich iedna wyszywana antemis Iwielm: Szeptyckiego Metropolity, poduszka włoczkowa pod mszał, nakrywadełko sukienne czerwone. Krzyż drewniany z Passyą malowany. Lichtarzy drewnianych malowanych par 2. Antepedium[*] na płutnie suknem wybiane z wyrazem imie Marya, Jezus.

Trzeci Ołtarz S$^{o}$ Mikołaia za zasłonką gredyturową białą. Na mensie tuwalni 3 tkackich, z nich iedna wyszywana w kwiaty. Lichtarzy par 2. Krucyfix drewniany z Passyą cynową, poduszka włoczkowa pod mszał. Nakrywadełko sukienne czerwone, antepedium[*] płocienne dnuzkowe. Obydwa obrazy w ramach śnicerskiey roboty, ieden obok obrazami, drugi carskiemi wrotami ozdobione.

Srebro, Cyna, Śpiż

Kielich srebrny z pateną into pozłacany od lotow 34 ważący. Drugi także z pateną także intus pozłocisty waży grzywnę 1 i Lotow 15. Trzeci z pateną srebrny intus pozłocisty waży grzywnę 1 y lotow 11. Monstracya z sedesem z promieniami y Melchisedekiem częścią pozłacana waży grzywien 4 y lotow 3. Waskulum mosiężne po wierchu wyzłacane, ze spodu i wierch ze srzodka pobielana. Łyżyca srebrna wazące[*] lotow 9. Łyżyć srebrnych ołtarzowych dwie, ważą lotow dwa. Krzyż srebrny do pocałowania we srzedzinie z drzewem waży grzywien 3, lotow 11. Ampułek cynowych starych para bez tacy ważą lotow 23. Mirnica cynowa, trybularz mosiężny, dzwonkow ałtarzowych 4. Lótka blaszana, szczypce 1.

Apparaty

Apparatow 8. Ieden sztofowy w kwiaty na dnie koloru niebieskiego frężelką iedwabną obłożony cum reguisitis[*], drugi gredyturowy na dnie białym w kwiaty czarne ze wszystkim porządkiem, 3ci rolowy biały z kołnierzem haftowanym[*] na dnie kafowym kompaneczką srebrną obłożonym ze wszystkim, 4ty atłasowy czerwony, 5ty dymy angielskiey w paski, 6sty drojetowy czarny cum reguisitis[*], 7my kamlatowy czarny z narakwicami i stułą, 8smy adamaszkowy niebieski z stułą i narakwicami odmiennemi. Alb z humerałami szwabskich dwie: iedna z szeroką koruną, druga z węższą[*] z falbami podłożonemi tkackich z korunkami i humerałami dwie. Komża szwabska z korunami iedna, tkackich bez korun 4. Korporałow 6. Puryfikaterzow 6. Tuwalni w szufladzie 3. Baldachim pułatłasowy w paski z frenzelką włoczkową. Umbrakulum takież. Gwiazda orderowa.

Xięgi

[*] Так у тэксце.

Mszał Wilenskiey edycyi, drugi mały. Ewangelia polska z naukami. Połustaw 1 stary. Trebnik 1 y inne księgi do nabożenstwa własciwe, kapłańskie. Metryki chrzstow, szlubow y pogrzebow od R$^{\underline{u}}$ 1749 do ninieyszey daty znaydują się.

Apparencya processyonalna

Ołtarzyk ponożny* stolarskiey roboty malowany z obrazem Nayśw. Maryi Panny. Na nim koronka srebrna, szata z mędzy białey, korali sznurkow 5. Bisiur sznurkow 6. Z drugiey strony Spasytela. Oba za zasłonkami staremi gazowemi. Chorągwi w różnych kołorach 3. Krzyżow processyonalnych 2. Całun sukienny

[л. 12]

Sukienny płótnem podszyty.

Sama cerkiew brusowana, gontami kryta. Z dwóma kopułami o krzyżach żełaznych. Z dwóma zakrystyami. Drzwiami potroynemi na zawiasach żelaznych. Z chorem y drzwiami dużemi podwoynemi futrowanemi. Za zasuwą i faciatą przednią sygnaturka w srzedniey kopule. Okien 10. W zakrystyi kapłańskiey mensa do ubierania się z trzema szufladami. Przy oknie para okiennic drewnianych. Prezbiterium balasami odłączone. Balasami też cerkiew do połowy tanicami nastolona y cegłami wymoszczona. Konfessyonałow dwa stolarskiey roboty: ieden z amboną malowany, drugi biały. Ta cerkiew sumptem i gorliwym staranie$^{m}$ Przew$^{e}$: X$^{\underline{a}}$ Bazylego Weryhi Dziekana Ihumeńskiego iest zabudowana. Cmentarz nie oparkaniony, na nim w słupach dzwonow 3.

Parochia

Miasteczko Zasław. Domow 45. Wieś. Zacharycze. Dom: 12. Kirsze. Dom: 13 Szabniki. Dom: 12. Uhły, Kryłowo i Woroszyły. Dom: 6. Krzywosioło. Dom: 8. Dawżany. Dom: 19. Woznowszczyzna, Marjaiewszczyzna. Dom: 4. Wiekszyce. Domow 14. Wiendzielowo. Domow 10. Pietryszki. Dom: 8. Kryczki. Dom: 8. Szwale. Dom: 14. Horoszki. Dom: 3. Nowoszyno. Dom: 16. Karczarwaha Buja. Dom: 3. Chmielowka. Dom: 18. Nowodwoszczyzna, Kaleńki, Czarniawszczyzna. Dom: 15. Szepawały. Dom: 13. Czaykowszczyzna, Krynica, Haiszcze. Dom: 9. Hornowicze. Dom: 12. Sieledczyki. Dom: 14. Lipieniowo. Dom: 22. Szczoki. Domow 3. Szczerbiny. Dom: 7. Zbarewicze. Dom: 2. Łomżyn. Dom: 14. Deynarowicze. Dom: 8. Macki. Dom: 15. Bouble, Charłowszczyzna. Dom: 4. Sielec. Dom: 6. Browki. Dom: 3. Sukowicze. Dom: 25. Sielawszczyzna. Dom 1. Sajowszczyzna. Dom: 4. Słoboda. Dom: 18. Prudziszcze. Dom: 10. Łafarowicze. Dom: 16. Łabenszczyzna. Dom: 6. Zahorze. Dom: 14. Dziczki. Dom: 3. Niedreska. Dom: 18. Łoszany. Dom: 10. In universum domow wszystkich 485, a w nich męszczyzn 803, chłopcow 666, kobiet 817, dziewcząt 655, w ogule oboiey płci 2941.

Kaplice

Pierwsza w Wiazyniu pod tytułem S$^{\underline{o}}$ Jerzego. Z bierwion rąbiona stara. Dranicami kryta. Pod kopułką o krzyżu żelaznym w którey dzwon. Drzwi na zawiasach zelaznych z zamkiem wnętrznym. Ołtarz stolarskiey roboty malowany z obrazem protekcyi Maryi Panny za zasłonkami parą kitaykowemi i kartunową. Na mensie tuwalni 2. Antemis* IW$^{\underline{o}}$ Kiszki Metropoll: kielich z pateną cynowy mały. Apparat sukienny czerwony cum reguisitis*. Krucyfix z passyą mosiężną. Lichtarzy drewnianych par 2, dzwonek ołtarzowy



1, alba z humerałem tkacka, pasek, korporał, puryfikaterzow 2. Drugi ołtarz stolarskiey roboty malowany z obrazem S$^{\underline{o}}$ Jerzego, na którym wotum srebrne 1. Na mensie tuwalnia. Lichtarzy drewnianych para. Innych obrazow 5. Chorągwi 2. Krzyż processyonalny malowany. Cmentarz nieoparkaniony. Mszał Supraślskiey edycyi.

Druga w zaścianku Czaykowszczyżnie. Z bierwion rąbiona, gontami kryta. Pod kopułą o krzyżu żełaznym, w ktorey dzwon mierny, pod Tytułem S$^{\underline{o}}$ Mikołaja. Drzwi na zawiasach z zaszczepką i probojami. Ołtarz stolarskiey roboty malowany z obrazem Nayś. Panny. Na nim koron srebrnych 2. Wotum srebrne za zasłonkami kitaykowemi. Obok ołtarze z obrazami S$^{\underline{o}}$ Tadeusza i S$^{\underline{o}}$ Mikołaja. Na nim korona srebrna za zasłonką kitaykową. Na mensie tuwalni 3 antemis* IW$^{\underline{o}}$ Wołodkowicza Metropolity. Krzyż cynowy z Passyią i dwóma osobami, drugi do pocałowania cynowy. Lichtarzy cynowych stołowych para, drewnianych malowanych par 3. Kielich z pateną cynowy mały. Łyżeczka prezmentalowa. Apparat kitayczany zielony cum reguisitis*. Drugi sukenny stary sine reguisitis*. Alba z humerałem tkacka, pasek. Korporał. Puryfikaterzow 2. Dzwonek ołtarzowy. Ołtarzyk ponośny stolarskiey roboty malowany. Chorągwi 3. Krzyż processyonalny z Passyą. Mszał Poczajowskiey edycyi Całun sukienny. Cmentarz nie oparkaniony. Dzwonnica o czterech słupach. W niey dzwon mierny.

Trzecia we wsi Mackach brusowana nowa, gontami kryta. Pod kopułą wyniosłą na przedzie o krzyżach dwóch żelaznych. Drzwi podwoyne na zawiasach potroynych: iedne za zasuwą, drugie z zamkiem wnętrznym. Oltarz śnicerskiey roboty we dwie

[л. 12адв.]

we dwie kondygnacye z obrazem SS. Kozmy i Damjana. Pod tytułem tymże. Za zasłonką harusową w górze obraz S. Tróycy. Na mensie tuwalni 2. Antemis* IW$^{\underline{o}}$ Horbackiego Biskupa Pińskiego. Obok ołtarzyki dwa z obrazami SS. Apostołow Piotra i Pawła, drugi S$^{\underline{o}}$ Jerzego. Kielich z pateną srebrny intus pozłocisty. Apparat pułatłasowy w paski z galonikiem szychowym białym cum reguisitis*. Alba z humerałem tkacka. Pasek, korporał, puryfikaterzow 2. Stuła atłasowa żółta. Ałtarzy pobocznych malowanych 2. Ieden protekcyi Maryi Panny za zasłonką sukienną, drugi S$^{\underline{o}}$ Antoniego za zasłonką harusową. Na mensach po tuwalni iedney. Mszałik prazniczny, dzwonkow ołtarzowych 2. W kopule sygnaturka. Cmentarz oparkaniony. Na nim dzwonica brusowana, gontami kryta. Dzwon duży ieden, drugi mały. Przy teyże kaplicy szpital, gumno, gruntu włoka iedna. In vim której mieysca paroch z nabożeństwem pięć razy do roku dojeżdza*, jako in sesonat dokument pod R$^{\underline{m}}$ 1721 Me$_{c}$a Marca 20 D: w grodzie Min: aktykowany.

Czwarta we wsi Szapowałach z bierwion rąbiona. Dranicami kryta. Pod kopułą o krzyżu żelaznym nastolowana. Drzwi na zawiasach żelaznych z zamkiem wnętrznym. Ołtarz stolarskiey roboty małowany z obrazem Nays: Panny za zasłonką kitaykową czerwoną, drugą harusową. Na mensie tuwalni 2. Antemis* IW$^{\underline{o}}$ Wołodkowicza Metropol: Antepedium druczkowe Krzyż z passyą mosiężny. Lichtarzy cynowych stołowych para, drewnianych para. Apparat kamlotowy w paski czerwony cum reguisitis. Alba z humerałem kużelna. Pasek. Korporałow 2. Puryfikaterz. Mszał prażniczny. Dzwonek

---

* Так у тэксце.

ołtarzowy, drugi w widłach zawieszony. Mogily nie oparkanione. Taż kaplica pod tytułem położenyia czestnyia Ryzy. Z kaplic dwóch starych opadłych a ta za miasteczkiem stojących, w Zasławiu i drugiey w Wiazynie, jakie są mobilia. Obrazy, do aktualney Cerkwi pod Regestrem przenieść X. paroch obowiązanym jest.

Bractwo przy cerkwi aktualney Zasławskiey pod tytułem Przemienie nia Pańskiego przy wolnosći funduszow utrzymuie się, którzy z kollekty i składek swych apparencyą processyonalną utrzymują, xięgę przychodow i roschodow mają

Dokumenta

Vigore Funduszow autentycznych in archivo Metropolitano et per Extractum przy cerkwi naydującychsię. 1mo pod R$^{m}$ 1681 od IW$^{o}$ Jerzego hrabi Sapiehi Stolnika W$^{o}$ X$^{a}$ Lit$^{o}$ Starosty Mereckiego. 2do pod Rm 1709 od IW$^{o}$ Stanisława hrabi Sapiehi W-dy Trockiego. 3tio od IW$^{o}$ Alexandra Pawła Sapiehi Marszałka W$^{o}$ X$^{a}$ Lit$^{o}$ pod R$^{m}$ 1727 Me$_{c}$a Junij 29 Dnia potwierdzaiący powyzsze nadania, w których exprimitur włok 3 we trzy zmiany z placami w mieście nayduiącemi się: 1mo za rzeczką Czernicą na wygonie w obrembie plebania z ogrodami i wszelkim zabudowaniem domowym i gumiennym zabudowana. Tamże sianożęć aż do ogrodow. Grunta połowe orome z zaroślami trzebieżami sianożętnemi, murożnemi i błotnemi tak się w sobie mają iako i całego miasteczka osady w zmianach: Pierwszy poletek nazwany Hołubowszczyzna zaczynający się od gościńca Mińskiego, a kończy się wpieraiąc do granicy Sieleckiey. Druga zmiana nazywającasię Borowa od rzeki Świsłoczy, wpiera do stawow Czernica zwanego. Trzecia zmiana od stawu Świsłocz zwanego zaczyna się a kończy się przy gruntach Dominikańskich. Przydatek do tych gruntow nazwany Zascianek* odtegoż stawu Swisłocz zwanego zaczynający się a kończący się przy tych że gruntach Dominikańskich. Drugi zaścianek nad rzeką Czernicą z puszczą i sianożęcią. Przydatki sianożęcne. Pierwszy nad rzeką Czernicą Wołoszczyzna nazwany. Drugi nad rzeką Świsłoczą uroczyszczem morgi między morgami mieyskiemi. Trzecia włoka gruntu we wsi Nowoszynie we trzy zmiany. Idąca pościeńnie

[л. 13]

pościeńnie szerokością i długością z zaroślami, trzebieżami sianożętnemi, murożnemi i błotnemi tak się w sobie mają iako i całey osady wsi Nowoszyna. W powyższych nadaniach wyraża się wolność, wręb do puszczy. Mliwo bez miarki we młynach Zasławskich. Na tych gruntach poddaństwo zabudowane 1mo w samym miasteczku Janko Brek. Syn Hryszko żonaty, drugi syn Symon trzyma gruntu puł włoki pomiędzy mieyskiemi. Plac w mieście. Ma wołow 2, koni 2. Pańszczyzny dni 2 męszczyzna, trzeci kobieta. Drugi Wasil Brek żonaty. Ma brata Jaśkę, synow dwóch Andrzeja i Lukasza. Wołow 2, koń 2. Gruntu puł włocza i plac w mieście. Pańszczyzna równa pierwszego. Trzeci Hryszko Brek żonaty. Ma braci dwóch Maxima i Michała dorodnych. Woły 2, koni 1. Gruntu puł włoki i plac przy plebanij. Pańszczyzna takaż. Czwarty w Nowoszynie Ignacy Brek z synami Piotrem, Jakubem i Teodorem nie żonatemi. Gruntu trzyma puł włoki. Wołow 2, koni 2. Placi czynszu 36. Służby w rok męszczyzna i kobieta po dni sześć, z czym każą, miod połowiczny oddaie. Przy wsi Nowoszynie obręb gruntu Horką zwany z sianożęcią na wozow dwadzieścia. Ci wszyscy

* Так у тэксце.



podymne podług taryffy opłacaią: oraz posługi do cerkwi, osobliwie czasu festow odbywaią. Do gruntow cerkiewnych vigore nadania pod R$^{m}$ 1709 pozyskał P:X: Paroch sianożęć Stelmachowszczyzna zwana, od IX$^{a}$ plebana łacińskiego a gruntu puł włocza do tąd ode dworu uzyskać niemoże. Przy tey cerkwi wizyty G-une i inwentarze takie się nayduią idem pod rokiem 1725, i 1730, i 1743, i 1749, i 1773, i 1774, i 1784$^{m}$.

Rezydencya

Izba biała z komorą, piec kaflany kafowy z kominkiem. Okien 4. Drzwi dwoje na zawiasach żelaznych z klamkami. W tyle alkierz*. Przez sień piekarnia z piece$^{m}$ gospodarskim. Okno większe iedne, małych 3. Ten budynek dranicami kryty, w roku 1783. Zbudowany kosztem parocha. Chlewow dwa, staynia, warzywnia z sionkami, browar z laznią, przy nim studnia. Nad rzeczką Czernicą izba biała z sienią i staienką, gumno z osiecią, odryn 2. Ta budowla częścią płotem, częścią parkanem ogrodzona z bramą zamczystą. Swirnow dwa. Z wyż wyrażonych budynkow, ieden tylko swiron jest dawnieyszego parocha.

Oratorium dla odległości Cerkwi wraz za izbą białą przy wiedzy Konsystorza Metr: Mińskiego jest poświęczona.

Aktualnym tey cerkwi parochem P. X. Bazyli Weryha Dziekan Ihumeński prezentowany od IW$^{o}$ Przezdzieckiego Podkanclerzego WX Lit: $^{w}$ Roku 1762 Me$_{c}$a Iulij 22 Dnia wyordynowany 1760 Dnia 16 Januar: na prowizyią cerkwi Zasławskiey installowany od IW$^{o}$ Hrebnickiego Metropolity w R$^{u}$ 1762 Me$_{c}$a Iunij 23 Dnia VS. Do tey że cerkwi koadjutorem jest WX. Alexander Weryha cum futura sukcessione* prezentowany 1786 R$^{u}$ Me$_{c}$a Februar: 13 Dnia od IW IPani Anny z Xiążąt Radziwiłłow Przezdzieckiey Starościney Mińskiey, Wyordynowa$^{n}$y od IW$^{o}$ Horbackiego Biskupa Pińskiego i Turowskiego 1786 R$^{u}$ Me$_{c}$a Marca 25 Dnia V. S.

Nayprzewielebnieyszy wizytator generalny surrogacyi Mińskiey y Poleskiey dopełniając urząd wizitatora cerkiew zwizytował. Cerkiewny sprzęt przeyrzał. I ten w nieubogim składzie a w lepszym uporządkowaniu znalazł. Parocha i iego Koadjutora dopełniających $^{obowiązki}$ dostregłszy* i lud pastwie ich powierzony chrześciańskich prawideł wiadomym, w dalszy czas równą pilność i dbałość zalecił mocą ninieyszego wyroku.

НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41245. Л. 11—13.

**Пераклад**

Інвентар парафіі Заслаўскай пад тытулам Праабражэння Гасподняга ў павеце, сурагацыі і дэканаце Мінскім у каляцыі** Яснавяльможных Пшаздзецкіх у пажыццёвай арэндзе Яснавяльможных Мастоўскіх кашталянаў Рацёньскіх, падчас генеральнага кананічнага візіту за інвентаром Яснавяльможнага Растоцкага, архібіскупа Кіеўскага, Галіцкага і ўсёй Русі мітрапаліта 1792 года 6 мая складзены.

Увайшоўшы ў царкву, святыя дары ў даразахоўніцы ярруснай, сталярскай работы, фарбаванай, што зачыняецца на замок. У дараносіцы, срэбнай

* Так у тэксце.

** Права, па якім вотчыннік аддаваў царкоўныя парафіі ў сваіх маёнтках асобам на свой погляд. Вотчыннікі гэтыя называліся «kolatorowie», а іх права на раздачы парафій — «kolatorstwo».

звонку і ў сярэдзіне пазалочанай з накрыўкай, крыжык з распятым Хрыстом пазалочаны, якія важаць лотаў[***] 17, на карпарале захоўваюцца.

Алтары

Алтар вялікі сталярскай работы, на аб'ёмнае фарбаваны, з абразом Збаўцы, на якім карона срэбная з трыма каменьчыкамі важыць лотаў 9, вотаў срэбных 14, важаць лотаў 30, за блакітнай кітайчанай заслонай. На мэнсе[*] антымінс Яговяльможнага Грабніцкага, мітрапаліта. Абрусоў два: адзін швабскі са зборкай паркалёвай, другі тканы і абрус, падушка з матэрыі ў палоскі пад імшал, пакроў суконны чырвоны. Падсвечнікаў фарбаваных драўляных 3 пары. Падсвечнікаў валавяных настольных 3 пары, важаць фунтаў[**] 5 і лотаў 1. Распяцце драўлянае фарбаванае. За ім абраз Найсвяцейшай Панны Марыі Чэнстахоўскай са шклом, пры антэпендыуме персідскія абіўкі.

Другі алтар з абразом Найсвяцейшай Марыі Панны, на якім карон срэбных 2, важаць лотаў 10 і чвэрць. Каралевых шнуроў 15. Бісерных шнуроў 11 з завушніцай. Шата драўляная пад срэбрам і золатам малярскім за заслонай шоўкавай з краямі вышыванымі. На мэнсе абрусоў 3 тканых, з іх адзін вышываны, антымінс Яснавяльможнага Шаптыцкага, мітрапаліта, падушка вязаная пад імшал, пакроў суконны чырвоны. Распяцце драўлянае фарбаванае. Падсвечнікаў драўляных фарбаваных пары 2. Антэпендыум з палатна суконнага, на якім выбіты імёны: Марыя, Езус.

Трэці алтар Св. Мікалая за заслонай ядвабнаю белай. На мэнсе абрусы 3 тканыя, з іх адзін вышываны ў кветкі. Падсвечнікаў пары 2. Распяцце драўлянае з валавянай постаццю ўкрыжаванага Хрыста, падушка вязаная пад імшал. Пакроў суконны чырвоны, антэпендыум з палатна донкавага. Абодва абразы ў рамах разьбярскай работы, адзін каля абразоў, другі царскай брамай упрыгожаны.

Срэбра, волава, медзь

Келіх срэбны з дыскасам, пышна пазалочаны, каля лотаў 34 важыць. Другі таксама з дыскасам, гэтак жа ў сярэдзіне пазалочаны, важыць 1 грыўню і лотаў 15. Трэці з дыскасам срэбны, у сярэдзіне пазалочаны, важыць грыўню 1 і лотаў 11. Манстранцыя са святыняй з промнямі і Мельхісэдэкам, часткова пазалочаная, важыць грыўняў 4 і лотаў 3. Васкулум мядзяны, звонку пазалочаны, знізу і ў сярэдзіне верх пабелены. Лыжыца срэбная, важыць лотаў 9. Лыжыц срэбных алтарных дзве, важаць лотаў два. Крыж срэбны да цалавання ў сярэдзіне з дрэва, важыць грыўняў 3, лотаў 11. Ампулак мядзяных старых пара без падносікаў, важаць лотаў 23. Мірніца мядзяная, кадзільніца мядзяная, званочкаў алтарных 4. Лодка бляшаная, шчыпцы 1.

Касцёльныя рэчы

[***] Адзінка вагі роўная $^{1}/_{32}$ фунта.
[*] Мэнса — стол, дзе праводзілася богаслужэнне, клалася ахвяра.
[**] Адзінка вагі: фунт = 16 унцыям = 32 лотам = 128 драхмам = 384 скрупулам = 9 216 гранам = 405,5 г.



Прыладаў 8. Адзін штафовы ў кветкі на тле блакітны, кантам шаўковым аздоблены абапал з усімі рэчамі, другі ядвабны, на тле белы ў чорныя кветкі з усімі рэчамі, трэці ралёвы белы з каўнярам вышываным, на тле кававы, шнурочкам срэбным абапал абшыты, чацвёрты атласны чырвоны, пяты цёмнашэры ангельскі ў палосы, шосты драетовы чорны з усімі рэчамі, сёмы барка́навы чорны з поручамі і епетракіллю, восьмы адамашкавы блакітны з епетракіллю і поручамі, якія здымаюцца. Альбаў з гумераламі швабскіх дзве: адна з шырокімі карункамі, другая меншая з фальбонамі падложанымі, тканымі, з карункамі і гумераламі дзве. Комжа швабская з карункамі адна, тканых без карункаў 4. Карпаралаў 6. Пурыфікатараў 6. Абрусоў у шуфлядзе 3. Балдахін паўатласны ў палосы з махрамі вязанымі. Умбракулум такі ж. Зорка ардэровая.

Кнігі

Імшал Віленскага выдання, другі малы. Евангелле на польскай мове з навукамі. Паўустаў 1 стары. Трэбнік 1 і іншыя кнігі да набажэнства, святарскія. Метрыкі хростаў, шлюбаў і пахаванняў ад 1749 года да сённяшняй даты захоўваюцца.

Рэчы да працэсіі

Алтарык пераносны сталярскай працы, фарбаваны, з абразом Найсвяцейшай Марыі Панны. На ім каронка срэбная, шаты з медзі белай, каралавых шнуроў 5. Бісерных шнуроў 6. З другога боку Збаўца. Абодва за заслонамі старымі марлевымі. Харугвы розных колераў 3. Крыжоў працэсіянальных 2. Плашчаніца суконная, палатном падшытая.

Сама царква з бруса, крытая гонтам. З двума купаламі і крыжамі жалезнымі. З дзвюма закрысціямі. Дзверы патройныя на завесах жалезных. З хорамі і дзвярыма вялікімі падвойнымі абітымі. За засовай і пярэдняй сценкай сігнатурка ў сярэднім купале. Вокан 10. У закрысціі святарскай стол для апранання з трыма шуфлядамі. Каля вакна пара драўляных ваконніц. Празбітэрый балясінамі аддзелены. Гэта царква да паловы танікамі засцеленая і цэглай вымашчаная. Спавядальніц дзве сталярскай працы: адна з амбонам фарбаваным, другая белая. Гэтая царква коштам і руплівай стараннасцю Правялебнага ксяндза Базыля Вярыгі, дэкана Ігуменскага, збудавана. Могілкі неагароджаныя, дзе на слупах звонаў 3.

Парафія

Мястэчка Заслаўе. Дамоў 45. Вёскі. Захарычы[*]. Дам. 12. Кіршы[*]. Дам. 13. Шубнікі[*]. Дам. 12. Вуглы[**], Крылава[****] і Варашылы[*]. Дам. 6. Крывое Сяло[*]. Дам. 8. Даўжаны[*]. Дам. 19. Вознаўшчына, Маляўшчына. Дам. 4. Векшыцы[*]. Дам. 14. Вендзелава[*]. Дам. 10. Пятрышкі[*]. Дам. 8. Крычкі[*]. Дам. 8. Швалі. Дам. 14. Гарошкі[***]. Дам. 3. Навашына[*]. Дам. 16. Карчавая

[*] Цяпер знаходзіцца ў Пятрышкаўскім с/с Мінскай вобл. Мінскага р-на.
[**] Цяпер знаходзіцца ў Юзуфоўскім с/с Мінскай вобл. Мінскага р-на.
[***] Цяпер знаходзіцца ў Лашанскім с/с Мінскай вобл. Мінскага р-на.

Буя. Дам. 3. Хмелеўка[*]. Дам. 18. Навадворшчына[****], Каленкі, Чарняўшчына[*]. Дам. 15. Шапавалы[*****]. Дам. 13. Чайкаўшчына, Крыніца[***], Гаішча[******]. Дам. 9. Гарновічы. Дам. 12. Сяледчыкі. Дам. 14. Ліпяні[*]. Дам. 22. Шчокі[*]. Дам. 3. Шчарбіны[***]. Дам. 7. Збаравічы[*******]. Дам. 2. Ломшына[***]. Дам. 14. Дзійнаровічы[***]. Дам. 8. Мацкі[***]. Дам. 15. Боўблі[***], Харлоўшчына. Дам. 4. Сялец[***]. Дам. 6. Браўкі[***]. Дам. 3. Сукавічы[***]. Дам. 25. Сяляўшчына[***]. Дам. 1. Саеўшчына[***]. Дам. 4. Слабада[***]. Дам. 18. Прудзішча[***]. Дам. 10. Лафаровічы. Дам. 16. Лабеншчына[***]. Дам. 6. Загор'е. Дам. 14. Дзічкі[*]. Дам. 3. Недраска[*]. Дам. 18. Лашаны[***]. Дам. 10. Агульна складзеных дамоў усіх 485, у іх мужчын 803, хлопцаў 666, жанчын 817, дзевак 655, усяго абодвух палоў 2941.

## Капліцы

Першая ў Вязынцы пад тытулам Св. Юрыя. З бярвенняў зробленая, старая. Дранкай крытая. На купале крыж жалезны і звон. Дзверы на завесах жалезных з замком унутраным. Алтар сталярскай работы, фарбаваны з абразом Апекі Панны Марыі за парай кітайчатых і набіваных фіранак. На мэнсе абрусоў 2. Антымінс Яснавялебнага Кішкі, мітрапаліта, келіх з дыскасам алавяным малым. Арнат суконны чырвоны з усімі рэчамі. Распяцце мядзянае. Падсвечнікаў драўляных дзве пары, званок алтарны 1, альба з гумералам тканая, пояс, карпарал, пурыфікатараў 2. Другі алтар сталярскай работы, фарбаваны, з абразом Св. Юрыя, на якім вотум срэбны 1. На мэнсе абрус. Пара драўляных падсвечнікаў. Іншых абразоў 5. Харугваў 2. Крыж працэсіянальны, фарбаваны. Могілкі неагароджаныя. Імшал Супрасльскага выдання.

Другая капліца пад тытулам Св. Мікалая ў засценку Чайкаўшчына. З бярвенняў зробленая, гонтам крытая. На купале з крыжам жалезным сярэдні звон. Дзверы на завесах з зашчэпкай і прабоем. Алтар сталярскай работы, фарбаваны, з абразом Найсвяцейшай Панны. На ім карон срэбных 2. Вотум за заслонамі кітайчатымі. Абапал алтары з абразамі Св. Тадэвуша і Св. Мікалая. На ім карона срэбная за заслонай кітайчатай. На мэнсе абрусоў 3, антымінс Яснавялебнага Валадковіча, мітрапаліта. Крыж алавяны з постаццю ўкрыжаванага Хрыста і дзвюма асобамі, другі алавяны да цалавання. Пара настольных мядзяных падсвечнікаў, драўляных, фарбаваных пары 3. Келіх з дыскасам мядзяным малы. Лыжѓчка празменталовая. Арнат кітайчаты зялёны з усімі рэчамі. Другі суконны, стары, без некаторых рэчаў. Альба з гумералам тканая, пояс. Карпарал. Пурыфікатараў 2. Званок алтарны. Алтарык пераносны сталярскай работы, фарбаваны. Харугваў 3. Крыж працэсіянальны з укрыжаваным Хрыстом. Імшал Пачаеўскага выдання. Плашчаніца суконная. Могілкі неагароджаныя. Званіца на чатырох слупах. У ёй сярэдніх памераў звон.

Трэцяя ў вёсцы Мацках брусаваная новая, гонтам крытая. Над фасадам купал з двума жалезнымі крыжамі. Дзверы падвойныя на завесах трайных: адзін за засовай, другі з замком унутраным. Алтар сталярскай работы двух'ярусны з абразамі

---

[****] Цяпер знаходзіцца ў Гаранскім с/с Мінскай вобл. Мінскага р-на.
[*****] Цяпер знаходзіцца ў Ракаўскім с/с Мінскай вобл. Валожынскага р-на.
[******] Цяпер знаходзіцца ў Хацежынскім с/с Мінскай вобл. Мінскага р-на.
[*******] Цяпер знаходзіцца ў Рагаўскім сельсавеце Мінскай вобл. Мінскага р-на.



Св. Кузьмы і Дзям'яна. Пад тым жа тытулам. За гарусна[********] заслонай наверсе абраз Св. Троіцы. На мэнсе абрусоў 2, антымінс Яснавялебнага Гарбацкага, біскупа Пінскага. Абапал два алтарыкі з абразамі Святых апосталаў Пятра і Паўла, другі Св. Юрыя. Келіх з дыскасам срэбны, у сярэдзіне пазалочаны. Арнат паўатласны ў палосы з галуном мішурным белым з усімі рэчамі. Альба з гумералам тканая. Пояс, карпарал, пурыфікатараў 2. Стула атласная жоўтая. Алтароў бакавых фарбаваных 2. Адзін Апекі Марыі Панны за заслонай суконнай, другі Св. Антонія за заслонай гарусна. На мэнсах па адным абрусе. Імшалік святочны, званкоў алтарных 2. У купале сігнатурка. Могілкі агароджаныя. На іх званіца з бруса, гонтам крытая. Звон вялікі адзін, другі малы. Пры гэтай капліцы шпіталь, гумно, грунту валока[*] адна. Да яе парах з набажэнствам пяць разоў на год прыязджае, паводле дакумента ад 20.03.1721 года, актыкаванага ў Мінскім гродскім судзе.

Чацвёртая ў вёсцы Шапавалах з бярвенняў збудаваная. Дранкай крытая. На купале крыж жалезны. Дзверы на завесах жалезных з замком унутраным. Алтар сталярскай работы, фарбаваны, з абразом Найсвяцейшай Панны за заслонай кітайчатай чырвонай, другая гарусная. На мэнсе абрусоў 2, антымінс Яснавялебнага Валадковіча, мітрапаліта. Антэпедыум дручковы. Распяцце мядзянае. Падсвечнікаў мядзяных настольных пара, драўляных пара. Апарат камлёвы ў палосы чырвоныя з усімі рэчамі. Альба з гумералам карункавая. Паясок. Карпаралаў 2. Пурыфікатар. Імшал святочны. Званок алтарны, другі на вільчаку падвешаны. Могілкі неагароджаныя. Гэтая капліца пад тытулам Узлажэння Прачыстай Ружы. З капліц дзвюх старых, абваленых, што за мястэчкам знаходзяцца, у Заслаўі і другая ў Вязыні, якія можна перанесці, абразы да гэтай царквы пад рэестрам перанесці ксёндз парах павінны.

Брацтва пры царкве гэтай Заслаўскай пад тытулам Праабражэння Гасподняга за вольнасцю фундушаў утрымліваюцца, якое з ахвяравання і складчыны сваёй рэчы працэсіянальныя захоўвае, кнігі прыбытку і расходу мае.

## Дакументы

Згодна з фундушамі аўтэнтычнымі ў архіве мітрапаліцкім паводле запісаў пры царкве знаходзяцца. 1-ы пад 1681 годам Яснавяльможнага Юрыя графа Сапегі, стольніка ВКЛ, старосты Мярэцкага. 2-і пад 1709 годам ад Яснавяльможнага Станіслава графа Сапегі, ваяводы Троцкага. 3-і ад Яснавяльможнага Аляксандра Паўла Сапегі, маршалка ВКЛ, пад 1727 годам 29 чэрвеня, што пацвярджае вышэйшыя наданні, у якіх 3 валокі ў тры надзелы з пляцамі ў мястэчку знаходзяцца. 1-ы за ракой Чарніцай на выгане ў межах плябаніі з агародамі і ўсёй забудовай хатняй і гуменнай пабудаванай. Там жа сенажаць аж да агародаў. Грунту палова пад пашню з зараснікамі выкарчаванымі, сенажатнымі, мурожнымі і балотнымі, таксама ў сабе маюць, як і ўсяго мястэчка ў надзелах: першы палетак, званы Галубоўшчынай, пачынаецца ад гасцінца Мінскага, а заканчваецца шчыльна да мяжы Сялецкай. Другі надзел, званы Баровы, ад ракі Свіслачы, мяжуе са ставам Чарніца. Трэці надзел пачынаецца ад ста-

---

[********] Гарус — тонкая шарсцяная тканіна.
[*] Адзінка памера зямлі роўная 21 га.

ва, званага Свіслач, а заканчваецца пры грунтах даміниканскіх. Дадатак да гэтых грунтаў, званы Засценкам, ад гэтага става, званага Свіслач, пачынаецца, а заканчваецца пры гэтых жа даміниканскіх грунтах. Другі засценак над ракой Чарніцай з пушчай і сенажаццю. Дадаткі сенажатныя. Першы над ракой Чарніцай, Валошчынай званы. Другі над ракой Свіслаччу урочышчам моргі паміж маргамі местачковымі. Трэцяя валока зямлі грунту ў вёсцы Навашыно ў тры надзелы. Ідзе ўздоўж шырыні і даўжыні з зараснікамі, выкарчаванымі, сенажатнымі, мурожнымі і балотнымі, таксама ў сабе мае, як і ўсю вёску Навашыно. У вышэйзгаданых надзелах, вольна дадзеных, уступ да пушчы. Памол без меры ў млынах Заслаўскіх.

На гэтых грунтах падданыя забудаваліся. 1-ы ў самім мястэчку, Янка Брэк. Сын Грышка жанаты, другі сын Сымон трымае грунту палову валокі сярод местачковых, пляц у мястэчку. Мае валоў 2, коней 2. Паншчына — 2 дні мужчына, трэці — жанчына. Другі, Васіль Брэк, жанаты. Мае брата Яську, двух сыноў Андрэя і Лукаша. Валоў 2, коней 2. Грунту палову валокі і пляц у мястэчку. Паншчына такая ж, як у першага. Трэці, Грышка Брэк, жанаты. Мае братоў двух родных Максіма і Міхала. Валоў 2, конь 1. Грунту палову валокі і пляц пры плябаніі. Паншчына такая ж. Чацвёрты ў Навашыно, Ігнаці Брэк, з сынамі Пятром, Якубам і Фёдарам, не жанатымі. Грунту трымае палову валокі. Валоў 2, коней 2. Плаціць чыншу 36. Службу адбываюць мужчыны і жанчыны ў год па 6 дзён, з чым кожны мёд палавічны аддае. Пры вёсцы Навошына надзел грунту Горкай званы з сенажаццю на вазоў дваццаць. Гэтыя ўсе падымныя згодна тарыфу плацяць, акрамя таго, паслугі царкве, асабліва падчас святаў, аказваюць. Да грунтоў царкоўных згодна надання 1709 года даравана пароху сенажаць, Стэльмахоўшчынай званая, ад ксяндза пароха лацінскага, а грунту палова валокі да гэтага часу ад двара атрымаць не можа. Пры гэтай царкве генеральныя візіты і інвентары знаходзяцца пад 1725, 1730, 1743, 1749, 1773, 1774 і 1784 гадамі.

Рэзідэнцыя

Хата белая з каморай, печ кафляная колеру кавы з камінам. Вокнаў 4. Дзвярэй двое на завесах жалезных з клямкамі. З тылу спіжарня. Праз сенцы пякарня з печкай гаспадарчай. Вакно вялікае адно, меншых 3. Гэты будынак дранкай крыты, у годзе 1783 г. збудаваны. Збудаваны коштам пароха. Хлявоў два, стайня, варыўня з сенцамі, бровар з лазняй, пры ім студня. Над рэчкай Чарніцай хата белая з сенцамі і стайняй, гумно з асецямі, адрын 2. Гэтая забудова часткова плотам, часткова парканам агароджаная, з брамай, якая зачыняецца на замок. Свірнаў два. З усіх вышэйзгаданых будынкаў, толькі адзін свіран папярэдняга пароха.

Араторыум дзеля адлегласці царквы адразу за хатай белай з ведама кансісторa мітрапаліта Мінскага асвечаны.

Цяперашні гэтай царквы парох ксёндз Базыль Вярыга, дэкан Ігуменскі паданы ад Яснавяльможнага Пшаздзецкага, падканцлера ВКЛ, у 1762 годзе месяца ліпеня 22 дня ардынаваны ў 1760 годзе месяца студзеня 16 дня на правізію царквы Заслаўскай, інсталяваны ад Яснавяльможнага Грабніцкага, мітрапаліта, у 1762 годзе месяца чэрвеня 23 дня. Да гэтай царквы каад'ютарам з'яўляецца ксёндз Аляксандар Вярыга, прэзентаваны ў 1786 годзе месяца лютага 13 дня ад Яснавяльможнай панны Ганны з князёў Радзівілаў Пшаздзецкіх, жонкі старосты Мінскага, ардынаваны ад Яснавяльможнага Гарбацкага, біскупа Пінскага і Тураўскага, 1786 года сакавіка 25 дня.



Найвялебны візітатар генеральнай сурагацыі Мінскай і Палескай, выконваючы абавязкі візітатара, царкву звізітаваў. Царкоўныя рэчы агледзеў. І іх не ў занядбалым, а ў добрым стане знайшоў. Прыкмеціў, што парох і яго каад'ютар выконваюць абавязкі добра, і люд парафіяльны, ім даручаны, хрысціянскія абавязкі ведае, у далейшы час пільнасць і дбаласць ухваліў моцай цяперашняга рашэння.

[1] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41245, 42042.
[2] Візіта — (з лац. Visito — адведаць, глядзець, дапамагаць) — інвентар, адмысловае, планавае апісанне каталіцкіх і уніяцкіх устаноў, зробленае пад кіраўніцтвам спецыяльнага чалавека — візітатара, якога прызначаў епіскап. У адрозненне ад інвентароў, дзе змяшчаюцца ў асноўным звесткі эканамічнага характару, у візітах асобная ўвага надаецца душпастарскай дзейнасці рэвізуемага святара. Адзначаюцца колькасць парафіян, набажэнстваў, фэстаў, літургій за здароўе жывых і спачын памерлых фундатараў; інтэлектуальны, маральны і прафесійны ўзровень святароў, іх недахопы, ды загады аб ліквідацыі заўваг да наступнай візіты. Візіты былі дэканскія і генеральныя. Існаваў спецыяльны інстытут візітатараў.
[3] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 42042.
[4] Там жа. Спр. 41245.
[5] Лауцявичюс Э. Бумага в Литве в XV—XVIII вв. Вильнюс, 1967. Філігрань № 3418.
[6] Клепиков С. А. Филиграни на бумаге русского производства XVIII — начала XX века. М., 1978. Філігрань № 90.
[7] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41256. Л. 77адв.
[8] Там жа. Ф. 1727. Воп. 1. Спр. 16. Л. 191—192адв.
[9] Там жа. Ф. 1769. Воп. 1. Спр. 18. Л. 147—148адв.
[10] Там жа. Спр. 41256. Л. 80—80адв.
[11] Там жа. Л. 12—12адв.
[12] Там жа. Ф. 1781. Воп. 24. Спр. 547. Л. 306адв.

*Публікацыя А. А. Цвіркі і З. Л. Яцкевіча*

## Т. КАСЦЮШКА — ГЕНЕРАЛУ А. ХРУШЧОВУ: «ВЯРТАЮ ВАМ ВАШУ СЯМ'Ю»

Ніжэй друкуюцца дакументы, якія сведчаць пра падзеі вайны, на якой, як вядома, дэвальвуюцца маральныя нормы і якасці людзей.

Адзін з прапанаваных лістоў унікальны, таму што ў ім дыктатар паўстання 1794 г. Тадэвуш Касцюшка тлумачыць сваё разуменне чалавечнасці, асабліва ў адносінах да палонных праціўніка.

Лічыцца, што падчас паўстання 18 красавіка варшавяне захапілі ў палон каля 2 тыс. расейцаў[1], а жыхары Вільна заняволілі 23 красавіка 2 135 расіян[2]. Сярод палонных у Варшаве апынулася і сям'я генерал-маёра Аляксея Іванавіча Хрушчова. Ён служыў пры штабе барона Івана Яўстаф'евіча Ферзена, які разам з прускімі войскамі прыступіў 10 ліпеня да аблогі Варшавы перад яе штурмам[3]. Т. Касцюшка

ў гэты час займаўся абаронай сталіцы ў полі і перамясціўся разам абозам з Крулікаў (10 ліпеня) у Мокатава (5 жніўня). Дзесьці там або на шляху паміж імі ён чытаў ліст і пісаў адказ.

Для характарыстыкі пачуццяў карэспандэнтаў будзе дарэчы прывесці словы таго ж І. Ферзена, які прызнаваў, што тутэйшыя сяляне далучаліся са зброяй у руках да паўстанцаў: «… поелику без всякой пощады делаются им обиды, притеснения, грабительства и тираническим и варварским образом даже убиваютца» расійскімі войскамі[4]. Не менш паказальна і тое, што А. В. Сувораў пасля жудаснага штурму Варшавы захапіў у палон 29 500 чал., з якіх адпусціў на волю 24 500[5]. З публікуемых дакументаў відаць, што ў паўстанні 1794 г. ворагі ведалі розніцу паміж бацькоўскім клопатам і бязлітасным павадырствам вайсковымі масамі.

Тэксты публікуемых дакументаў з французскай мовы пераклаў Лявон Казыра.

**№ 1**
**Ліст генерала А. Хрушчова да Т. Касцюшкі**

19.06.1794 г.

Васпане!

Добра вядомы пачуцці кожнага прыстойнага, чэснага чалавека, і я радуюся, Васпане, што ў гэтым маім звароце да Вас Вы ўбачыце дэмарш мужа і клапатлівага, чуллівага бацькі, які звяртаецца да асобы, што ведае і правілы гонару, і правілы вайны.

Мае жонка і дзеці, якія ніколі не мелі ніякага дачынення да дзяржаўных спраў, выпадкова апынуліся ў Варшаве ў час рэвалюцыі. З вялікім задавальненнем я даведаўся, што адносна іх не было дапушчана ніякай зняваги. Жанчыны і дзеці ў час ваенных дзеянняў застаюцца нейтральнымі асобамі. Парадаваўся я, Васпане, яшчэ і таму, што тыя ж гуманістычныя пачуцці падштурхнулі нашага генерал-маёра адразу ж пасля яго прыезду адправіць усю сям'ю Кёніга[6], якая была ў нас. Вы зрабілі б вялікую ласку, калі б вярнулі мне маю сям'ю, бо Вы, як і я сам, добра ведаеце цану учынку, які выконваецца з пачуцця гонару, а лёс адной асобнай сям'і не можа нанесці ніякай шкоды агульнаму ходу ваенных падзей.

У добрай надзеі атрымаць у хуткім часе адказ, гонар маю.

[подпісу няма]

РДВГА. Ф. 467. Спр. 11. Л. 3. *Копія.*

**№ 2**
**Адказ Т. Касцюшкі на ліст А. Хрушчова**

19.07.1794 г.

Васпане!

Атрымаў Ваш ліст і з задавальненнем чытаў, з якой справядлівасцю Вы ставіцеся да свайго народа і да самога паняцця чалавечнасці. У рэшце рэшт



законы гуманізму і дазволяць паступова забыць пра варварскую вайну тыранаў, разбурэнні, разграбленні і пажары.

Ваша жонка і дзеці апынуліся ў Варшаве таму, што лёс звычайных людзей, якія пакутуюць ад несправядлівых правадыроў, у тым і заключаецца, каб згладжваць іх злачынствы або загінуць ад іх капрызаў. Народ, даведзены да адчаю, гатовы ламаць аковы. А ў людзях, за якіх Вы просіце, гэты народ бачыць заложнікаў, сваіх суайчыннікаў, якія нясуць чужаземны дэспатызм, парушэнне правоў, зняваги чалавечай годнасці, раз'яднанне сем'яў і далёкія турмы, Аднак наша помства не пойдзе па такому шлуху і мы не будзем паўтараць Вашых рэпрэсій. Ваша жонка раскажа, як да яе адносіліся, з якой павагай мы ставіліся да чужога гора. Вы гаворыце мне пра гуманізм (чалавечнасць). Што ж, я вяртаю Вам вашу сям'ю. Дык ведайце гуманізм, адчуйце яго, Вы і ўсе вашыя!

Маю гонар.

[подпісу няма]

РДВГА. Ф. 467. Спр. 11. Л. 3. *Копія.*

[1] Bauer K. Blaski i cienie insurekcyi Kosciuazkowskiej / Warsz., 1950. C. 100.
[2] Tokarz M. Insurekcja warszawska. Warsz., 1950. C. 255.
[3] Herbst S. Zdziejow wojskowych powstania Kosciuszkowskiego. 1794 roku. Warsz., 1983. C. 344.
[4] РДВГА. Ф. ВПА. Спр. 269. Л. 331.
[5] РДВГА. Ф. 43. Спр. 85. Л. 68, 70, 72.
[6] Кёніг (Караль Станіслаў) — палкоўнік каралеўскіх уланаў, удзельнічаў у баях з корпусам А. В. Суворава пад Брэстам (Цірасполем). Пры чытанні прозвішча ў арыгінале магчыма разумець таксама і як Кёпінг (Іяган Фёдаравіч), які быў капітанам артылерыі. (*Заўвага рэд.*)

*Публікацыя Я. К. Анішчанкі*

## РАПАРТЫ Р. ЗЯМКЕВІЧА Ў ІІ АДДЗЕЛ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА ПОЛЬСКАГА ВОЙСКА ЗА 1922 г.

Друкуемыя ніжэй дакументы ўзяты з фонду Цэнтральнага вайсковага архіва (ЦВА) ў Рэмбертаве (Польшча). Сярод дакументаў ЦВА па змесце і ступені канцэнтрацыі інфармацыі вылучаюцца матэрыялы польскай контрразведкі міжваеннага часу — ІІ аддзела Галоўнага камандавання, Генеральнага штаба і Міністэрства вайсковых спраў. Дакументы ЦВА з'яўляюцца крыніцай па вывучэнні беларускага руху ў пачатку XX ст. У прыватнасці, напісаны афіцэрамі ІІ аддзела ў 1928 г. «Krotki zarys zagadnienia bialoruskiego» стаў адной з асноўных крыніц па гісторыі беларускага руху для цэлага пакалення даследчыкаў.

Сярод дакументаў ЦВА (у фондах польскай контрразведкі) маюцца агульныя агляды гэтага руху і шматлікія справаздачы ІІ аддзела за пэўныя

перыяды часу (гадавыя, паўгадавыя, квартальныя, месячныя, штотыднёвыя і г. д.). Значны комплекс складаюць першасныя матэрыялы, на аснове якіх пасля складаліся абагульняючыя дакументы (даклады і рапарты розных устаноў і службовых асоб, службовая і прыватная перапіска і інш.). Характэрнай рысай пераважнай большасці матэрыялаў контрразведкі вылучаны даволі глыбокі аналіз агульнай сітуацыі і, што не менш істотна, грунтоўнае веданне фактычнага боку справы. Гэта апошняе ў значнай ступені дасягалася за кошт выкарыстання шырокай сеткі інфарматараў, у т. л. з асяроддзя найбольш аўтарытэтных беларускіх палітыкаў. З найбольш вядомых інфарматараў дэфензівы можна ўзгадаць Я. Ладнова, Я. Міткевіча, В. Адамовіча (Дзергача). У сувязях з II аддзелам знаходзіліся і іншыя беларускія дзеячы. Асабістыя данясенні многіх з іх з'яўляюцца адной з найбольш інфарматыўных частак архіўных фондаў польскай разведкі міжваеннага часу. Матэрыялы аднаго з інфарматараў — В. Адамовіча (Дзергача) былі ўведзены аўтарамі дадзенага артыкула ў навуковы зварот раней[1].

Ніжэй змешчаны дакументы яшчэ аднаго з інфарматараў польскай дэфензівы — піянера беларускага культурнага адраджэння Р. Зямкевіча.

Рамуальд Зямкевіч — вядомы бібліяфіл, бібліёграф, публіцыст, гісторык беларускай літаратуры, краязнавец, перакладчык. Па прафесіі Р. Зямкевіч — інжынер-механік, нарадзіўся 7 лютага 1881 г. у Варшаве ў сям'і ўраджэнца Случчыны. Вучыўся ў Кіеве і Пецярбургу, аднак большую частку свайго жыцця правёў у Варшаве. У 1920-я гг. займаў кіруючую пасаду ў польскай Вышэйшай кантрольнай палаце. Сабраў унікальную бібліятэку беларускіх выданняў. У яго жонкі Л. Дунін-Баркоўскай захоўваўся архіў Беларускай сацыялістычнай грамады. Быў сябрам шматлікіх беларускіх асветніцкіх арганізацый. Адзін з выкладчыкаў першых беларускіх настаўніцкіх курсаў у Мінску ў канцы 1918 г. Пачынаючы з 1909 г. друкаваў літаратуразнаўчыя артыкулы ў «Нашай ніве», у т. л. апублікаваў невядомыя рукапісы М. Багдановіча, К. Каганца, Я. Лучыны. Аўтар навуковых прац «Адам Ганоры Кіркор (біяграфічна-бібліяграфічны нарыс у 25-летнюю гадавіну смерці)» і «Ян Баршчэўскі, першы беларускі пісьменнік XIX стагоддзя» (абедзве выйшлі ў 1911 г. асобнымі брашурамі). Пазней друкаваўся па асветніцкай тэматыцы ў газетах «Вольная Беларусь», «Беларуская думка», «Беларусь», «Новае жыццё», часопісах «Родныя гоні», «Калосься», зборніку «Заходняя Беларусь» і нават у 1942—1943 гг. выступаў з сатырычнымі вершамі на старонках беластоцкай газеты «Новая дарога». У пачатку 1920-х гг. працаваў над кнігай па гісторыі партыі «Зялёны дуб»[2] (паводле Н. І. Стужынскай[3], Р. Зямкевіч з'яўляўся і сам сябрам гэтай арганізацыі) і арміі генерала С. Булак-Балаховіча[4]. Р. Зямкевіч вядомы і як палітычны дзеяч — у 1917 г. ён удзельнічаў у з'ездзе беларускіх нацыянальных арганізацый і I Усебеларускім з'ездзе ў Мінску. У міжваеннай Польшчы праз яго адбывалася канспіратыўная сувязь паміж сябрамі Беларускага пасольскага клуба ў польскім парламенце і прадстаўнікамі з правінцыі.



У публікацыю ўключаны рапарты, якія былі пададзены Р. Зямкевічам у лістападзе—снежні 1922 г., адразу пасля заканчэння паспяховых для беларусаў парламенцкіх выбараў. Большасць рапартаў звычайна падпісваліся ім уласным прозвішчам, некаторыя — псеўданімамі «Шэршань» і «Дземяновіч». Асноўным іх зместам з'яўляецца характарыстыка беларускіх дзеячаў, якія былі выбраны ў парламент.

Апрача публікуемых матэрыялаў у ЦВА аўтарамі дадзенага артыкула выяўлены яшчэ 23 рапарты Р. Зямкевіча ў II аддзел: 2 з іх адносяцца да 1922 г., 19 — да 1923, па 1 — да 1924 і 1925 гг. У іх знайшлі адлюстраванне многія закулісныя працэсы, якія адбываліся ўнутры беларускіх арганізацый і не выносіліся на агульнае абмеркаванне. Р. Зямкевіч дакладваў пра спробы ўплыву на заходнебеларускіх палітыкаў з боку савецкіх, літоўскіх і нямецкіх эмісараў, пра развіццё беларуска-ўкраінскіх узаемадачыненняў, пра рознагалоссі ўнутры Беларускага пасольскага клуба і Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні. Вельмі падрабязна канфідэнт II аддзела апісвае агульную атмасферу падчас правядзення «працэсу 45-ці». Не засталіся па-за ўвагай і тыя агульныя настроі, якія панавалі ў той час сярод насельніцтва Заходняй Беларусі.

Усе дакументы друкуюцца паводле рукапісных арыгіналаў, якія захоўваюцца ў ЦВА (фонд II аддзела Генеральнага штаба Польскага войска, сігнатура I.303.4.2664, падтэчка 1, аркушы ў справе не пранумараваны), у перакладзе на беларускую мову. Рапарт з кароткай характарыстыкай усіх беларускіх дэпутатаў у польскі парламент (дакумент № 2) не падпісаны і не датаваны. Аўтарства Р. Зямкевіча ўстаноўлена па почырку, дата прыблізна вызначана па змесце. Лісты публікуемых дакументаў у архіўнай справе не пранумараваны.

**№ 1**
**Рапарт Рамуальда Зямкевіча ў II аддзел Генеральнага штаба аб плане дзейнасці выбраных беларускіх дэпутатаў у польскі сейм**

Варшава
24 лістапада 1922 г.

У II аддзел
Генеральнага штаба

Рапарт.

Беларуская справа, якую збіраюцца закрануць у сейме толькі што выбраныя паслы-беларусы, выглядае на сённяшні дзень сур'ёзна.

Паводле зусім пэўных і верагодных звестак, яны збіраюцца адразу ж закрануць у сейме наступныя справы:

1) Справа падкідвання на выбарчым участку (Вільня, вул. Віленская 12) пачка пракламацыяў Беларускага камуністычнага камітэта. Гэтую справу ўжо абскардзіў у віленскай паліцыі беларус Валэйша[5]. Гэтую аферу прыпісваюць II аддзелу Генеральнага штаба або партыі «Зялёны дуб».

2) Справа перашкодаў пры выбарах з боку польскай адміністрацыі, а таксама інтрыг і тэрору з боку II аддзела Генеральнага штаба (у асобе ген. Балаховіча і яго жаўнераў, нанятым штабам у якасці баявых дружын) і яго функцыянераў.

3) Справа «далучэння да Айчыны» Віленшчыны, а разам з ёю і Крэсаў, насуперак волі і жаданням насельніцтва, якое ў асноўнай сваёй масе як безумоўная мясцовая большасць праз ашуканства спіхаецца да ролі меншасці, не хацела ці, прынамсі, не хоча «польскага апякунства», якое так добра адчула ў перыяд 1919—1922 гадоў. Беларусы, безумоўна, байкатавалі сейм у Вільні[6], які, нягледзячы на гэта, насуперак беларуска-літоўскай большасці бясспраўна абвясціў рашэнне толькі нязначнай польскай меншасці.

4) Справа зачыненых беларускіх школ насланымі з Усходняй Галічыны «выпрабаванымі дзеячамі»-паланізатарамі, якія планава размяшчаюцца адміністрацыяй Начальніка Пілсудскага, нібыта вялікага аматара Крэсаў і прыхільніка фразы «Вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі».

5) Справа зачыненых і расколатых беларускіх спажывецкіх кааператываў, працуючы ў якіх беларуская інтэлігенцыя мела кавалак хлеба. Цяпер жа яна гэтага абсалютна пазбаўленая.

6) Справа бязвінна зняволеных на працягу цэлых гадоў беларусаў, у апошні час вызваленых па прычыне абсалютнай адсутнасці віны. Пытанне кампенсацыі ім панесеных страт з бюджэту той дзяржавы, якая так лёгкадумна і бясспраўна знішчае здароўе і маёмасць грамадзян.

7) Справа беларускіх выданняў, пазачыняных за пісанне праўды, непрыемнай для прысланай польскай адміністрацыі.

8) Справа планавых ашуканстваў у друку, прызначаных як для замежжа, так і для атуманьвання польскага грамадства. Да іх прылічваюцца фальшывы і тэндэнцыйны перапіс насельніцтва, фальшывыя карты нацыянальнага становішча на Крэсах, цэлы шэраг брашур, кніг і планаў з фальсіфікацыяй маёмаснага стану і дзейнасці Крэсовай Стражы[7]. Усё гэта аж залішне выразна і дакладна нагадвае прускі гакатызм[8], які ператварыўся ў Польшчы ў «польскі гакатызм», што талеруецца і фінансава падтрымоўваецца польскім урадам.

9) Безумоўнае патрабаванне тэрытарыяльнай (у этнаграфічных межах) аўтаноміі Беларусі з асобным сеймам у Вільні, з прадстаўнікамі мясцовага насельніцтва, выбранымі на адміністрацыйныя пасады ў колькасна-працэнтных суадносінах да ўсіх нацыянальнасцяў Крэсаў, а таксама безумоўнае выдаленне чужынцаў, асабліва галічан.

Усе згаданыя тэзісы, захоўваючы ўсю іх яскравую задзірлівасць і нахабнасць, ніжэй падпісаны, стараўся правільна і дакладна скрышталізаваць і накрэсліць на аснове размоў з беларусамі.



У размовах беларусы сцвярджаюць, што нічога і нікога цяпер не баяцца, у польскі сейм не вераць, а размаўляць будуць … з Лігай Нацый[*].

Маё асабістае ўражанне, паводле добра мне вядомага невысокага інтэлекту выбраных паслоў-беларусаў, якія зусім не адзначаюцца веданнем усяго беларускага пытання і свайго руху, такое, што тут поўным ходам дзейнічае чужы ўплыў, гэта значыць літоўскі, а можа, і схаваны нямецкі. З размоў я пераканаўся, што кантакт з віленскімі літоўцамі цесны, але трэба было б праверыць, наколькі такі кантакт падтрымоўваецца з Коўнам, Берлінам і Мінскам. Па Вільні ходзяць пагалоскі, што ранейшы вораг беларускага руху пасол Васіль Рагуля[9] быў пастаўлены на спіс па патрабаванні Мінска.

Лічу, што па прычыне гэтых даволі пагражальных на будучыню намераў пажадана было б звярнуць асабліва пільную ўвагу на асобу Антона Луцкевіча[10] ў Вільні і пільна сачыць, хто і дзе з ім кантактуе, бо гэта можа даць каштоўны абцяжальны матэрыял. Тайныя агенты, якія сочаць у Вільні сёння, павінныя быць усе змененыя, бо беларусы іх залішне добра ведаюць.

Беларускі камітэт у Варшаве[11] (Шпітальная, 12) панове паслы вырашылі ўзяць у свае рукі і зрабіць там свой штаб і клуб. Трэба было б гэта таксама выкарыстаць і падумаць наконт плана.

Лічу пажаданым, каб нехта цяпер паехаў у Вільню і зблізку прасачыў намеры паслоў-беларусаў перад іх прыездам у Варшаву, бо цяпер там без перапынку ідуць нарады і пасяджэнні.

На заканчэнне сведчу, што за сапраўднасць пададзеных тут звестак безумоўна бяру на сябе поўную адказнасць.

Еду ў Вільню з мэтай збору больш поўнай інфармацыі, рапарт паводле яе падам як мага хутчэй.

Інж. Рамуальд Зямкевіч

Centralne Archiwum Wojskowe (CAW) w Rembertowie, sygn. I.303.4.2664, podteczka 1.

**№ 2**

**Рапарт Рамуальда Зямкевіча ў II аддзел Генеральнага штаба з кароткімі характарыстыкамі дэпутатаў у сейм і сенат беларускай нацыянальнасці**

Варшава
[лістапад 1922 г.]

1. Кс. Адам Станкевіч[12], сын селяніна з вёскі Арляняты Ашмянскага павета. Стойкі, энергічны, свядомы барацьбіт, мае адукацыю Духоўнай акадэміі ў Пецярбургу, вядомы як дзеяч, які адпольшчвае касцёл на Беларусі. Гэта лічаць ягонай заслугай, асабліва праваслаўныя. Быў і ёсць рэдактарам і кіраўніком антыпольскай народніцкай газеткі ў каталіцкім духу «Krynica»[13]. Належыць да партыі Беларускай хрысціянскай дэмакратыі.

[*] Тут і далей падкрэсленні зроблены Р. Зямкевічам. — *Рэд.*

2. Міхал Кахановіч[14], сын папа. Скончыў універсітэт у Харкаве, быў настаўнікам гімназіі. Родам, здаецца, з Магілёўшчыны, хоць цяпер сцвярджае, што нарадзіўся ў Навагрудскім ваяводстве. У Магілёве выдаваў выразна антыпольскія газеты: «Могилевские губернские ведомости» і «Могилевские епархиальные ведомости»[15]. Заўсёды быў маскалём, у 1918 годзе па-беларуску не мог яшчэ склеіць двух сказаў. Дзеля быту і кар'еры стаў беларусам, хоць і да цяперашняга часу па-беларуску гаворыць вельмі слаба. Зацяты вораг палякаў, інтрыган сярод беларусаў, беларусаў-каталікоў ненавідзіць. Быў дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі, з гэтай пасады за інтрыгі і злоўжыванні з грашыма, атрыманымі з Ковенскай Літвы, паніжаны да звычайнага настаўніка. Літоўскі і нямецкі агент, увогуле агент кожнага, хто добра плаціць. Закончаны п'яніца.

Сярэдніх здольнасцяў, слабы прамоўца. Сацыяліст-рэвалюцыянер.

3. Фабіян Ярэміч[16], родам з Віленшчыны, тэхнік. Літоўска-нямецкі агент. Часта ездзіў за мяжу па грошы. Па характару ўпарты і імпульсіўны. Сядзеў у турме за палітыку. Перакананы вораг палякаў. Сацыял-дэмакрат выразна бальшавіцкай афарбоўкі.

4. Васіль Рагуля. Селянін, родам з Навагрудскага ваяводства. Былы народны настаўнік. У 1917 годзе ў Мінску на з'ездзе настаўнікаў-беларусаў клеймаваў беларускі рух як польскую інтрыгу, прапагандуючы расейскія мову і нацыянальнасць. У 1917 г., у снежні, разганяў Усебеларускі кангрэс, выкрыкваючы: «Хай жыве бальшавізм!» У 1918 годзе разбіў і раскалоў беларускі з'езд у Смаленску. Незразумела, чаму такі антыбеларус і сапраўдны камуніст быў прыняты беларусамі і пастаўлены імі на спіс. Ходзяць чуткі, што гэтага патрабавалі камуністы ў Мінску, абяцаючы фінансавую дапамогу для выбарчай агітацыі. Рагуля па-беларуску не ведае ані слова, мае намер у сейме гаварыць толькі па-расейску. Вельмі верагодна, што гэта савецкі агент і схаваны камуніст.

5. Браніслаў Тарашкевіч[17], сын селяніна з Віленшчыны, дацэнт філалогіі Пецярбургскага універсітэта. Выхаванне атрымаў у Вільні ў польскім духу. Чалавек вельмі слабога характару, заўсёды гатовы перакінуцца на бок таго, хто больш дасць. Быў на літоўскім утрыманні, падобна на тое, што выкарыстоўваў і польскую дэфензіву. Неакрэсленых палітычных перакананняў. Аднак лічыцца сацыял-дэмакратам.

6. Сымон Рак-Міхайлоўскі[18], сын селяніна з-пад Радашковіч. Народны настаўнік. Разумовыя здольнасці пасрэдныя, затое нерастрачаная энергія. Гэта ён арганізаваў у Мінску Беларускую вайсковую раду[19] ў 1917 годзе, у 1918 годзе за нямецкія грошы арганізаваў 10 месячныя настаўніцкія курсы. Быў рэдактарам газеты «Беларускае слова» ў Гродне[20]. У Барунах Ашмянскага павета адчыніў і кіраваў беларускай настаўніцкай семінарыяй, зачыненай уладамі ў 1921 годзе. Памяркоўных перакананняў, незалежны сацыяліст.

7. Сяргей Баранаў[21], сын начальніка турмы ў Гродне. Маскаль, народжаны ў Гродне. Гімназійная адукацыя. Народны настаўнік. У 1920 годзе падчас акупацыі Гродна бальшавікамі быў бальшавіцкім камісарам з юрыдычнага аддзела. Здаецца, што з-за яго былі расстраляныя двое грамадзян-палякаў, якія засталіся ў фальварках. Баранаў быццам бы мог сваім меркаваннем да гэтага спрычыніцца. Быў зняволены ў 1920 і 1921 гг. у Гродне. Польскія ўлады маюць пра яго самае найгоршае меркаванне. Быў старшынёй Беларускай рады ў Гродне[22]. Па перакананнях сацыяліст-рэвалюцынер. Закончаны какаініст.



8. Антон Аўсянік[23], родам з Вілейскага павета. Адукацыя невядомая. Падае сябе як інжынера, але гэта несумненны падман, бо падчас вайны быў толькі канторшчыкам у інжынера. Быў старшынёй Беларускай рады ў Бабруйску. Як нямецкі агент, даносіў на Доўбар-Мусніцкага[24], які загадаў Аўсяніка арыштаваць, аднак ён уцёк. Сябар вядомага нямецкага шпіёна з часоў акупацыі Мінска — Зуэміля[25]. У 1919, 1920 і 1921 гадах прывозіў грошы, здаецца, толькі літоўскія, з Коўна на беларускія мэты. Вельмі небяспечная асоба. Сацыял-дэмакрат.

9. Пятро Мятла[26], селянін з-пад Дзісны. Народны настаўнік. Каапператар дэмакратычных перакананняў, беспартыйны. У беларускім руху малавядомы.

10. Назарэўскі[27]. Маскаль. Уладальнік дома і сада ў Баранавічах. Толькі цяпер пачынае вучыцца размаўляць па-беларуску. Рэпутацыяй сярод сваіх братоў-маскалёў у Баранавічах карыстаецца не асабліва добрай. Кажуць пра яго: *жулік, мазурик*[28]. Несумленны ў грашовых справах. У беларускім руху абсалютна невядомы.

Здаецца, па перакананнях расейскі манархіст.

Centralne Archiwum Wojskowe (CAW) w Rembertowie, sygn. I.303.4.2664, podteczka 1.

**№ 3**
**Рапарт Рамуальда Зямкевіча ў ІІ аддзел Генеральнага штаба з характарыстыкай беларускага дэпутата Сяргея Баранава**

Варшава
30 лістапада 1922 г.

Сяргей Баранаў, беларускі пасол у сейм

Сяргей Баранаў паходзіць з Гродзенскай зямлі. Як беларус выступіў у 1919 годзе. Актыўна кантактаваў у 1919 і 1920 гадах з Коўнам, адкуль атрымоўваў грошы на супрацьпольскую агітацыю і куды нават у 1919 г. асабіста ездзіў.

Беларускай мовай валодае вельмі слаба, што, аднак, не перашкодзіла яму стаць старшынёй Беларускага камітэта.

Цікавую дзейнасць ён разгарнуў у 1920 г. Калі Гродна 19 ліпеня 1920 г. было ўзятае бальшавікамі, ён не хаваў сваёй радасці. На сходзе Беларускага камітэта ў садзе жаночага праваслаўнага манастыра ён востра сутыкнуўся з інж. Зямкевічам, які раіў яму быць асцярожным і не ўлазіць у бальшавіцкія справы, зазначаючы, што Гродна, якое знаходзіцца на самай этнаграфічнай мяжы Польшчы, можа быць адабранае, і тады ўлады прыціснуць супрацоўнікоў і прыхільнікаў Саветаў. Тады ён здзекліва выгукнуў: «*Польская сволач ужо ніколі не ўвідзіць Гродна!*» Інжынера Зямкевіча ён пастаянна пераследаваў і высмейваў за ягонае паланафільства. Да бальшавікоў пайшоў добраахвотна, папрасіўшыся сам, і стаў камісарам прававога аддзела. Яму, здаецца, прыпісваюць віну за расстрэл двух грамадзян-палякаў, дробных сялян з-пад Гродна. Трэба дадаць, што з-за сваёй слабой дзейнасці і тупой галавы быў арыштаваны бальшавікамі. Вобыск, зроблены ў яго, паказаў, што ён з'яўляецца старшынёй «Нацыянальнага» Беларускага камітэта. Так Баранава аддалі

Чразвычайцы разам з сакратаром гэтага самага камітэта Якавюком[29]. Пры ўцёках з Гродна бальшавікоў Чразвычайка забрала з сабой Баранава і Якавюка. Па дарозе, калі іх гналі пехатой, яны змаглі ўцячы і вярнуліся дахаты.

Польскія ўлады арыштавалі абодвух і трымалі ў турме. Гэтыя ўлады, безумоўна, маюць больш матэрыялаў пра Баранава, які вельмі добра вядомы Гродну як вораг Польшчы.

Дземяновіч

Centralne Archiwum Wojskowe (CAW) w Rembertowie, sygn. I.303.4.2664, podteczka 1.

**№ 4**
**Рапарт Рамуальда Зямкевіча з характарыстыкай беларускага дэпутата Васіля Рагулі**

Варшава
30 лістапада 1922 г.

Дадзеныя пра беларускага пасла Васіля Рагулю

Васіль Рагуля, б. народны настаўнік, родам з Наваградскага павета, у 1917 годзе, адразу ж пасля рэвалюцыі, у выніку абвешчанай свабоды з'явіўся на з'езд настаўнікаў-беларусаў у Мінск у траўні месяцы.

З'езд быў скліканы беларускімі дзеячамі, каб скансалідаваць беларускія сілы і распачаць энергічную нацыянальную працу ў новых, спрыяльных умовах.

Гэты з'езд, аднак, праявіў няздольнасць да такой працы, бо ўсе гэтыя беларусы-настаўнікі, з малымі выключэннямі, аказаліся настолькі зрусіфікаванымі, што іх варожыя адносіны да беларускага народа не давалі ніякай надзеі на працу ў арганізацыі, задуманай патрыётамі-нацыяналамі. Рагуля ў той час выступаў нечувана азартна і варожа ў дачыненні да беларускай ідэі. На Аркадзя Смоліча[30] ён накінуўся, што той падтрымоўвае і пашырае гэту польскую інтрыгу, якой з'яўляецца ўздыманне і падпітванне беларускага руху. Беларускую мову ён называў жаргонам, сумессю польскай, літоўскай і габрэйскай і даводзіў, што злачынствам з'яўляецца адкіданне дзяржаўнай расейскай мовы, такой развітой і багатай, з цудоўнай літаратурай агульнасусветнага значэння.

Не дапамагло прафесійнае абвяржэнне Рагулі прысутным там інж. Зямкевічам, які апеляваў да аўтарытэту прафесара і акадэміка Карскага. Рагуля, нягледзячы на публічнае выяўленне яго некампетэнтнасці ў гэтых справах, застаўся пры сваёй думцы, павёў за сабою рэшту сваіх таварышаў-настаўнікаў і гэтым давёў з'езд да расколу і заканчэння пасяджэнняў без рэзалюцыяў.

Дзейнасць Рагулі падчас Беларускага кангрэса ў Мінску[31] была надзвычай правакацыйная і раскольніцкая. Ён свістаў і крычаў, калі выступалі па-беларуску, злаваўся і шалеў, бо ў выніку вялікай нацыянальнай агітацыі з дапамогай прамоў, выключна добрых і раскошна зробленых беларускіх пастановак у тэатры, канцэртаў і дэкламацый, уся аўдыторыя, пачаткова варожая беларусам-нацыяналам, безумоўна перайшла на іх бок. Пачуцці настолькі ўзялі верх, што ў вылучаную Беларускую раду[32] былі выбраныя беларускія свядомыя элементы, якія валодалі беларускай мовай.



Перамога беларусаў-нацыяналаў, нягледзячы на перашкоды і правакацыі з боку дзяржаўніцка настроеных бальшавікоў — маскалёў, латышоў і армян, бо з такіх розных элементаў складаўся тагачасны (у снежні 1917 г.) Мінскі рэўком, павінная была разгневаць і занепакоіць бальшавікоў, прыхільнікаў інтэрнацыяналу і ворагаў нацыяналістаў.

Роля кангрэса скончылася. Беларуская рада павінная была быць разбітая. Кангрэс разам з новастворанай Радай Беларусі было вырашана разагнаць сілай. На гэтую ролю галоўны бальшавіцкі камісар Ландэр[33] (латыш) прызначыў Мяснікова[34], Рэзаускага[35] і Рагулю. Гэта тройка вырашыла выклікаць разлад *(произвести брожение)* і разагнаць кангрэс. Якраз гэта было і зроблена. Рагуля з вінтоўкай у руцэ крычаў: «*Да здравствует Интернационал! Да здравствует единый рабоче-революционный фронт! Долой контрреволюционных националистов белоруссов!*»

Пры разгоне кангрэса білі прыкладамі. Удар у шыю ад Рагулі атрымалі інж. Р. Зямкевіч і Ладноў[36], Рак-Міхайлоўскі і Варонка[37] ад латыша Рэзаускага. На цынічную прапанову, зробленую армянінам Мясніковым беларусцы-настаўніцы, апошняя адказала гучнай поўхай, пасля чаго яе арыштавалі.

Кангрэс быў разбіты і разагнаны. Рагуля, як адзіны і галоўны натхняльнік разгрому, трыумфаваў. Беларуская рада з гэтага часу пачала дзейнічаць канспірацыйна.

Пасля ўзяцця Мінска немцамі аказалася, што Рагуля збег у Смаленск. У Смаленску ў ліпені 1918 года павінен быў быць скліканы з'езд беларусаў. Калі ўсе з'ехаліся на з'езд і ледзь толькі распачалі выбары яго прэзідыума, як з-пад зямлі з'явіўся Рагуля, крычучы: «*Да здравствует Коммуна! Долой укрытых контрреволюционеров и врагов Интернационала!*», і з дапамогай зброі разагнаў з'езд.

Пастаўленне Рагулі на спісе Блока[38] здзівіла многіх беларусаў, якія ведалі пра тую ролю, якую Рагуля адыгрываў у дачыненні да руху. Вусныя пратэсты і выкрыцці ніяк не дапамаглі, а антыблокавыя газеты нічога пра Рагулю не падавалі, таму Рагуля застаўся на спісе, горача баронены пры самых малых атаках на яго.

Сёння зразумелым і абсалютна дакладным з'яўляецца тое, што Рагуля быў змешчаны на спісе па патрабаванні Мінска. Так сцвярджаюць у Вільні, дзе беларусы незадаволеныя кандыдатурамі некаторых паслоў, ніколі раней невядомых грамадскасці.

Рагуля падчас агітацыі на Крэсах, карыстаючыся выключна расейскай мовай, бо беларускай не ведае, нападаў на ўрад, чыноўнікаў і Начальніка дзяржавы.

Дзіўным выглядае нерэагаванне на гэта адміністрацыі і паліцыі. Падаецца, што паліцыя на Крэсах расейскай мовы не разумела, бо інакш яе пасіўнасць і абыякавасць патлумачыць немагчыма.

Дземяновіч

Centralne Archiwum Wojskowe (CAW) w Rembertowie, sygn. I.303.4.2664, podteczka 1.

**№ 5**
**Рапарт Рамуальда Зямкевіча ў II аддзел Генеральнага штаба аб размове з беларускім дэпутатам Фабіянам Ярэмічам**

Варшава
6 снежня 1922 г.

У II аддзел
Генеральнага штаба

Рапарт.

З снежня, у нядзелю, ніжэй падпісаны меў размову з беларускім паслом Ярэмічам пра беларускія справы. Падчас размовы ў кавярні прысутнічаў і Я. Ладноў.

Пасля агульных нараканняў на нашу палітычную блізарукасць і шкоду, якую мы гэтым прынеслі руху, пасол Ярэміч меў ласку заявіць, што нашыя віны ўжо прабачаныя і мы зноў прынятыя ў лона святога руху Беларусі.

Пры гэтым ён зазначыў, што не адныя мы апякліся, спрабуючы нешта зрабіць у кантакце з дэфензівай II аддзела, бо і такія людзі, як Тарашкевіч, Смоліч, Дубейкаўскі[39] ды нават і Аляксюк[40], былі ашуканыя, здыскрэдытаваныя, выціснутыя як лімоны і выкінутыя на сметнік. Найспрытнейшым аказаўся Аляксюк, бо надурыў дэфензіву, Бельведэр[41], міністэрствы і ваяводаў на буйныя сумы, нічога добрага палякам не зрабіў і кпіць сабе з іх, добра ведаючы, што нічога яны яму не зробяць, бо ў выпадку суда была б залішне вялікая Панама[42], на што ніхто ніколі не пойдзе.

Ворагамі беларускага руху Ярэміч лічыць II аддзел у асобах маёра Чарноцкага[43] і паручніка Блонскага[44]. Гэтыя двое, асабліва першы, з усіх сілаў стрымоўвалі ўсялякія, нават самыя дробныя палёгкі і абяцанні для беларусаў. У гэтай двудушнасці, у салодка-гліцэрынавых абяцанках, якія кідаюцца на вецер і нідзе ніколі нават не спрабуюцца ўводзіцца ў жыццё, пераканаліся ўсе сумленныя беларусы і сёння ўжо не маюць ніякіх ілюзіяў. Яны лічаць, што самымі найпадлейшымі і найнікчэмнейшымі ў свеце з'яўляюцца палякі, якія ніколі не выконваюць абяцанняў, легкадумныя ў самых важных для сябе справах, арыстакраты па форме і паводзінах, якія не шануюць ні ўлады, ні аўтарытэту і абсалютна не здольныя да прыняцця ідэалаў дэмакратызму. Польшча ідзе да краху і заняпаду. Нічога іншага палякі не вартыя. Пад Люцыферам у пекле беларусам не было б горш, чым цяпер у Польшчы. Ніхто так не душыць беларускай асветы, як палякі. Маскалі, латышы, літоўцы, ды нават чэхі і немцы давалі і даюць беларусам асвету на сваёй мове, бо не з'яўляюцца ворагамі беднага люду. Не можа і не хоча гэтага даць нікчэмная Польшча, якая так трубіць пра свабоду, цярпімасць і сваю велікадушнасць. Паслы-беларусы, як абаронцы пакрыўджанага, няшчаснага беларускага народа, ні на што ў сейме не спадзяюцца, аднак будуць у ім і па-за ім пратэставаць на ўвесь свет супраць крыўды народа.

Маёру Чарноцкаму, пар. Блонскаму, Бельведэру яны ніколі не даруюць сваіх крыўдаў, будуць іх біць, біць без перапынку, не даючы ім часу нават на тое, каб заплакаць.

Тут пасол Ярэміч дадаў: «Гэтыя хлапчукі не маюць паняцця пра дэфензіву. Мы маем лепшую дэфензіву і лепшыя матэрыялы пра іх. Нам гэтага хопіць для іх поўнага знішчэння. Мы добра ведаем пра іх камбінацыі ў Белавежскай пушчы, пра хадайніцтвы аб канцэсіях у Лясным дэпартаменце, пра фірму Балаховіча. На гэта мы маем і копіі дакументаў і таму перашкодзім гэтым замахам на багацці беларускай зямлі. Скончацца панскія зладзействы. Спяшаюцца панове палякі, бо адчуваюць, што на Крэсах у іх хістаецца грунт пад нагамі, ужо трашчыць на Крэсах, а што іх далей чакае? Пачакаем, мы цярплівыя — таму пабачым.

А тая знакамітая «*невялічкая кумпанія, хоць і чэсная*», складзеная з нашых апекуноў, дачакаецца свайго суда і даўно заслужанай узнагароды».



Уся размова пасла Ярэміча была напоўненая жывёльнай, бязмежнай нянавісцю да палякаў, была нечувана вострай па сваёй форме і зместу і надзвычай непарламенцкай у выразах.

Ладнову быў запрапанаваны выезд у Латвію і палітычная праца, паабяцана выдзеліць на гэта грошы. Ніжэй падпісанаму пакуль ніякіх функцыяў не вызначылі, зазначаючы, што Нацыянальная рада ў Вільні[45] гэта разгледзіць і вырашыць.

Вось такі вынік маёй выведкі, які я тут старанна і дакладна намагаўся апісаць!

Інж. Рамуальд Зямкевіч

Centralne Archiwum Wojskowe (CAW) w Rembertowie, sygn. I.303.4.2664, podteczka 1.

[1] Пашкевіч А. В., Чарнякевіч А. М. Атаман Дзяргач: невядомыя старонкі біяграфіі, ці Да гісторыі палітычнага авантурызму ў беларускім нацыянальным руху // Берасцейскі хранограф. 2004. Вып. 4. С. 314—334.

[2] «Зялёны дуб» — беларуская сялянская партыя паланафільскай арыентацыі, на выбарах 1922 г. выставіла асобны спіс, які канкурыраваў з Блокам нацыянальных меншасцяў.

[3] Стужынская Н. І. Беларусь мяцежная: з гісторыі ўзброенага антысавецкага супраціву: 20-я гг. XX ст. Вільня, 2000. С. 89.

[4] Булак-Балаховіч Станіслаў (1883—1939) — генерал-маёр, камандуючы вайсковымі фарміраваннямі пад беларускім сцягам падчас польска-савецкай вайны 1920 г.

[5] Валэйша Станіслаў — беларускі грамадскі дзеяч, старшыня Беларускага грамадзянскага сходу.

[6] Выбары ў Віленскі сейм адбыліся 8 студзеня 1922 г.

[7] Таварыства Стражы Крэсовай — грамадска-палітычная арганізацыя ў Польшчы ў 1920-х гг., створаная з мэтай абароны польскіх інтарэсаў на Усходніх Крэсах.

[8] Гакатызм — асіміляцыйная палітыка, паходзіць ад назвы нямецкай шавіністычнай арганізацыі «Гаката», што дзейнічала ў канцы XIX — пачатку XX ст. і ставіла сабе за мэту германізацыю этнічна польскіх земляў у складзе кайзераўскай Германіі.

[9] Рагуля Васіль (1879—1955) — беларускі палітык, пасол польскага сейма (1922—1927), сенатар (1928—1930).

[10] Луцкевіч Антон (1884—1942) — беларускі дзеяч, нефармальны кіраўнік заходнебеларускага руху ў пачатку 1920-х гг.

[11] Беларускі камітэт у Варшаве — створаны ў 1919 г., у значнай ступені знаходзіўся пад уплывам II аддзела Генеральнага штаба.

[12] Станкевіч Адам (1892—1949) — беларускі палітык, каталіцкі ксёндз, пасол польскага сейма (1922—1927)

[13] «Кгуніса» — беларуская газета ў 1917—1925 гг., орган Беларускай хрысціянскай дэмакратыі.

[14] Кахановіч Міхал (1882—1934) — беларускі палітык, пасол польскага сейма (1922—1925).

[15] «Могилевские губернские ведомости» — афіцыйная газета ў Магілёве ў 1838—1917; «Могилевские епархиальные ведомости» — штотыднёвік праваслаўнай кансісторыі ў Магілёве ў 1883—1917 гг. Факт рэдагавання Кахановічам гэтых двух выданняў не ўстаноўлены, але ён рэдагаваў у 1917 г. газету «Могилевские известия».
[16] Ярэміч Фабіян (1891—1958) — беларускі палітык, пасол польскага сейма (1922—1935).
[17] Тарашкевіч Браніслаў (1892—1938) — беларускі палітык, пасол польскага сейма (1922—1927).
[18] Рак-Міхайлоўскі Сымон (1885—1938) — беларускі палітык, пасол польскага сейма (1922—1927).
[19] Цэнтральная беларуская вайсковая рада — беларуская арганізацыя, створаная ў кастрычніку 1917 г. на з'ездзе вайскоўцаў-беларусаў.
[20] «Беларускае слова» — беларуская газета, якая выходзіла ў Гродне з кастрычніка 1920 да студзеня 1921 г.
[21] Баранаў Сяргей (1897—1937?) — беларускі палітык, пасол польскага сейма (1922—1927)
[22] Беларуская рада ў Гродне — маецца на ўвазе Беларускі нацыянальны камітэт у Гродне, прадстаўнічы орган гродзенскіх беларускіх нацыянальных арганізацый, існаваў у 1918—1919 і 1920—1921 гг.
[23] Аўсянік Антон (1888—1933?) — беларускі палітык, пасол польскага сейма (1922—1927).
[24] Доўбар-Мусніцкі Юзаф (1867—1937) — польскі вайсковы дзеяч, камандуючы выступленнем супраць Савецкай Расіі ў 1918 г.
[25] Зузэміль Эдмунд — нямецкі агент, падчас І сусветнай вайны цэнзар беларускай газеты «Homan».
[26] Мятла Пятро (1890—1936) — беларускі палітык, пасол польскага сейма (1922—1927).
[27] Назарэўскі Аляксей (1881—?) — беларускі палітык, сенатар (1922—1927).
[28] Тут і далей вызначаны курсівам словы і выразы ў дакуменце, напісаныя на мове арыгінала.
[29] Якавюк Сымон (1881—1973) — беларускі палітык, пасол польскага сейма (1922—1925), у 1923 г. эмігрыраваў у Літву.
[30] Смоліч Аркадзь (1891—1938) — беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, навуковец, сябар урада БНР, з 1922 г. у Савецкай Беларусі.
[31] Беларускі кангрэс у Мінску — маецца на ўвазе І Усебеларускі з'езд, які адбыўся 5—17 снежня 1917 г. у Мінску.
[32] Беларуская рада (Рада Усебеларускага з'езда) — выканаўчы орган, створаны падчас Усебеларускага з'езда.
[33] Ландэр Карл (1883—1937) — савецкі дзеяч, у 1917—1918 гг. Старшыня Савета народных камісараў (СНК) Заходняй вобласці і фронту.
[34] Мяснікоў Аляксандр (1886—1925) — савецкі дзеяч, у 1917 г. старшыня Абласнога выканаўчага камітэта Заходняй вобласці і фронту.
[35] Рэзаускі Людвіг (1887—1980) — савецкі дзеяч, у 1917 г. народны камісар народнай асветы і ўнутраных спраў у СНК Заходняй вобласці і фронту.



[36] Ладноў Яўген — беларускі палітык, старшыня беларускай дэлегацыі на Парыжскай мірнай канферэнцыі.
[37] Варонка Язэп (1891—1952) — беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, першы старшыня ўрада БНР.
[38] Маецца на ўвазе Блок нацыянальных меншасцяў, створаны падчас парламенцкіх выбараў у 1922 г.
[39] Дубейкаўскі Лявон (1867—1940) — беларускі дзеяч, старшыня Беларускага камітэта ў Варшаве.
[40] Аляксюк Павел (1892—?) — беларускі дзеяч паланафільскай плыні, старшыня шэрагу прапольскіх арганізацый.
[41] Бельведэр — Бельведэрскі палац у Варшаве, у міжваеннай Польшчы рэзідэнцыя кіраўніка дзяржавы.
[42] Панама — махлярская афера пры пабудове Панамскага канала ў канцы XIX ст., у якую аказаліся ўцягнутыя многія высокапастаўленыя асобы Францыі. Тут слова ўжыта для падкрэслівання маштабу алексюкоўскіх махінацый.
[43] Чарноцкі Віктар (1886—1925) — кіраўнік нацыянальнага сектара ІІ аддзела Генеральнага штаба.
[44] Блонскі-Ліс Станіслаў (1890—1939) — адзін з кіраўнікоў ІІ аддзела Генеральнага штаба.
[45] Нацыянальная рада ў Вільні — хутчэй за ўсё маецца на ўвазе Віленскі беларускі нацыянальны камітэт, галоўны прадстаўнічы орган беларускіх арганізацый у Польшчы.

*Публікацыя А. В. Пашкевіча і А. М. Чарнякевіча*

## ЖЫЦЦЯПІС К. ДУЖ-ДУШЭЎСКАГА

У БАШ ужо друкаваўся дакумент (вытрымкі), які асвятляў дзейнасць беларускага палітычнага, культурнага і грамадскага дзеяча Клаўдзія Сцяпанавіча Дуж-Душэўскага[1]. Прапануем чытачу аўтабіяграфію Дуж-Душэўскага, якую ён напісаў у 1934 г., відаць, для Міністэрства сувязі Літвы, дзе ён у гэты час працаваў.

Усё сваё жыццё К. Дуж-Душэўскі прысвяціў служэнню сваёй Айчыне — Беларусі, барацьбе за яе незалежнасць. Асабліва востра ён выступаў супраць акупацыі Заходняй Беларусі Польшчай, за што і быў арыштаваны польскімі ўладамі ў 1921 г. і змешчаны ў сумнавядомую Лукішскую турму ў Вільні. Пасля вызвалення ў тым жа 1921 г. эмігрыраваў у Каўнас.

У Каўнасе К. Дуж-Душэўскі працаваў у розных установах Літвы, прыняў літоўскае грамадзянства, авалодаў літоўскай мовай; сваёй другой радзімай, паводле ўласнага выказвання, лічыў Літву, але да канца жыцця заставаўся беларусам, займаўся беларускай справай, актыўна ўдзельнічаў у грамадска-культурным жыцці беларусаў Літвы, узначальваў розныя грамадскія арганізацыі беларусаў, выдаваў беларускія часопісы і газеты.

Пасля далучэння Літвы да СССР у 1940 г. К. Дуж-Душэўскі быў арыштаваны савецкімі ўладамі, а ў 1943 г. — нямецка-фашысцкімі ўладамі і адпраўлены ў канцлагер. Пасля вызвалення Літвы ў 1944—1946 гг. працаваў дацэнтам Каўнаскага універсітэта. У 1946—1947 гг. быў пад следствам у Вільнюсе. У 1952 г. зноў арыштаваны як «актыўны беларускі нацыяналіст» і асуджаны да 25 гадоў зняволення. Пасля вызвалення (1955) працаваў у інстытуце «Літбудпраект».

Прапанаваная чытачу аўтабіяграфія К. Дуж-Душэўскага захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Дакумент уяўляе сабой аўтарызаваны машынапіс, напісаны на літоўскай мове. Ад рукі пазначана толькі дата — **31.VIII.1934** і ўказана месца напісання дакумента — **Каўнас**. Падпісаны дакумент крыптанімам: «**К. Д.**» Тэкст аўтабіяграфіі падзелены на 7 раздзелаў, кожны з якіх мае сваю назву. Пададзеныя ў аўтабіяграфіі звесткі дапаўняюць і ўдакладняюць некаторыя факты біяграфіі палітычнага і грамадскага дзеяча. Акрамя таго, дакумент з'яўляецца каштоўнай крыніцай па гісторыі беларуска-літоўскіх сувязей.

У гэтай жа архіўнай справе захоўваецца і яшчэ адзін цікавы для асвятлення асобы К. Дуж-Душэўскага дакумент — кароценькія накіды яго ўспамінаў пра тое, як абудзілася ў ім беларуская самасвядомасць. Аўтограф уяўляе сабой паўтары аркуша тэксту на беларускай мове, напісанага чырвоным чарнілам, без назвы, подпісу і даты. Праведзены аналіз іншых дакументаў К. Дуж-Душэўскага, якія захоўваюцца ў справе № 241, не дазваляе дакладна ўстанавіць год напісання ўспамінаў; датаваць іх належыць канцом 1920-х — пачаткам 1930-х гг. Пры публікацыі дакументаў захоўваем арфаграфію арыгінала, дзе-нідзе толькі паправіўшы відавочныя апіскі і знакі прыпынку. Пераклад аўтабіяграфіі з літоўскай мовы ажыццявіла аўтар публікацыі.

## № 1
## Curriculum vitae[2] інжынера К. Дуж-Душэўскага

Нарадзіўся я 27 сакавіка 1891 г. у мястэчку Глыбокае Дзісенскага павета Віленскай губерні[3], аднак прыпісаны да горада Тракай.

У 1912 г. скончыў Віленскую рэальную вучэльню і, вытрымаўшы конкурсныя экзамены, паступіў у Пецярбургскі горны інстытут, дзе прабыў да студзеня 1919 г.

Паколькі ні дыплома, ні нават пасведчання пра заканчэнне інстытута я не атрымаў, то для легалізацыі свайго цэнзу вырашыў паступіць ва Універсітэт Літвы.



У 1927 г. закончыў будаўнічае аддзяленне тэхнічнага факультэта Літоўскага універсітэта і атрымаў званне дыпламаванага інжынера будаўніцтва.

### Служба і стаж

Дзед і бацька мае былі будаўнікамі. З ранняга юнацтва я бываў на будоўлях, дапамагаў у працы майстрам, чарціў, складаў каштарысы дамоў, касцёлаў, збудаванняў, дарог і невялікіх мастоў. Будучы вучнем старэйшых класаў, я ўжо кіраваў працай пры невялікіх будоўлях і пад кіраўніцтвам свайго бацькі рабіў праекты.

У студэнцкія гады я шмат працаваў у розных галінах інжынерыі як практыкант — на фабрыках, капальнях, як каморнік і тапограф. Шмат прыйшлося ніверліраваць. Самастойна займаўся гідрагеалагічнай працай у Сібіры, спачатку — як майстра бурэння, а пазней — як гідратэхнік. У Жыгулях на Волзе працаваў на цэментным заводзе, выконваючы геалагічныя работы.

Яшчэ будучы студэнтам, у сакавіку 1917 г. уладкаваўся на службу ў Міністэрства харчавання, і праз два месяцы мяне прызначылі загадчыкам аддзела — па пятаму класу. Гэтыя абавязкі я выконваў да 25 кастрычніка 1918 г.*, г. зн. да бальшавіцкага перавароту.

Некаторы час я нідзе не служыў, а пазней мяне паклікалі на службу як «старшага спецыяліста» ў «Камісію па эвакуацыі Петраграда». На гэтай пасадзе я праслужыў да восені 1918 г.

У жніўні 1918 г. мне пашчасціла наведаць Вільню і Берлін, дзе ўдзельнічаў у дэлегацыі да Эрцберга[4]. Вярнуўшыся ў Петраград і ўрэгуляваўшы справы ў Горным інстытуце — здаўшы ўсе залікі, у лютым 1919 г. я паступіў у Мінскі сельскагаспадарчы камісарыят, дзе заняў пасаду губернскага геолага. 15 красавіка таго ж года быў камандзіраваны ў Вільню для закупкі інвентару і быў забяспечаны авансам у некалькі дзесяткаў тысяч рублёў. 19 красавіка Вільня была занята польскімі войскамі. Свой аванс я вярнуў толькі ў 1920 г. тымі ж грашыма, якія я атрымаў, калі ў Вільню прыйшла Армія Саветаў**, і я змог выехаць у Мінск і разлічыцца з грашыма.

Падчас першай польскай акупацыі Вільні я займаўся беларускай грамадскай дзейнасцю, быў выкладчыкам у гімназіі і на настаўніцкіх курсах, працаваў у кааперацыі, выдаваў газету.

Калі ў 1920 г. Армія Саветаў разам з арміяй Літвы заняла Вільню, я быў мабілізаваны як «спец» і атрымаў пасаду загадчыка «губтопа» (забяспячэнне губерні палівам).

* Так у тэксце. Трэба — 1917 г.

** Так у тэксце.

9 верасня 1920 г. разам з апошнімі літоўскімі вайскоўцамі я выехаў у Літву, таму што не захацеў яшчэ раз заставацца на акупіраванай палякамі тэрыторыі. З гэтага часу я пасяліўся ў Каўнасе.

5 красавіка 1923 г. тагачасны міністр замежных спраў П. Э. Галванаўскас[5] даў мне звышштатную пасаду XIII катэгорыі, на якой я праслужыў да 1930 г.

У 1930 г., яшчэ падчас маёй службы ў Міністэрстве замежных спраў, я быў запрошаны акцыянерным таварыствам «Майстас» («Прадукты харчавання») на пасаду тэхнічнага дырэктара і будаўніка халадзільнікаў. Займаючы гэтую пасаду, пабудаваў беконныя фабрыкі ў Панявежысе і Каўнасе, халадзільнік для масла ў Клайпедзе, спраектаваў і пабудаваў фабрыку па апрацоўцы кішак у Каўнасе і свінарнік на 1 000 галоў свіней, спраектаваў сумесна з фірмай «Франс Куль» новыя тыповыя беконныя фабрыкі ў Таўраге і Шаўляй. Праца была складаная, паколькі прыйшлося распрацаваць усе тыпы і нормы забудоў. З-за вялікай перагрузкі моцна захварэў, акрамя таго, мне не вельмі падабалася праца бойняў, і таму я пайшоў у адстаўку.

У 1930 г. я паступіў у Міністэрства сувязі, дзе служу па сённяшні дзень рэферэнтам будаўніцтва Паштовага ўпраўлення.

Грамадская і палітычная дзейнасць

Дзед маёй маці Урублеўскі, баярын і шляхціц Полацкага павета, загінуў падчас польскага паўстання 1831 г., бацька маёй маці Высоцкі загінуў у польскім паўстанні 1863 г. Першыя гады свайго жыцця маці мая правяла ў Антокальскай турме ў Вільні. Бацькі мае лічылі сябе беларусамі польскай культуры.

Зразумела, што, яшчэ будучы вучнем малодшых класаў, я быў уцягнуты ў польскія канспіратыўныя гурткі. Там пазнаёміўся з Недвалкоўскім[6], Арцішэўскім[7], Касцялкоўскім[8] і іншымі сучаснымі Польскімі дыпламатамі і грамадскімі дзеячамі, але, сутыкнуўшыся каля 1910 г. з беларускімі дзеячамі праф. Іваноўскім, В. Ластоўскім, А. Луцкевічам, вельмі хутка зразумеў, што я не паляк, і адразу ж уключыўся ў беларускі адраджэнскі рух. Я пачаў наведваць лекцыі на беларускія тэмы ў польскіх гуртках, і там мяне пачалі лічыць беларусам.

У той жа час я пазнаёміўся з літоўскім нацыянальным адраджэннем. Удзельнічаў у агульных сходах з А. Жмуйдзінавічусам[9], Янулайцісам[10], інж. Кайрысам[11] і інш. Добра ведаў пра Антанаса Сметану[12], кс. Тумаса[13], Басанавічуса[14], Біржышку[15], Жэмайціса[16] і г. д.

У 1912 г. я скончыў рэальную вучэльню і паступіў у Пецярбургскі горны інстытут. Знаходзячыся ў інстытуце, увесь вольны ад вучобы час прысвяціў беларускаму адраджэнню і на працягу 7 гадоў фактычна кіраваў у Петраградзе беларускім рухам. Быў старшынёй Беларускага саюза студэнтаў і старшынёй беларускай касы ўзаемадапамогі, удзельнічаў у стварэнні беларускага хору, рэгентамі якога былі літоўцы Шымкус[17] і Талат-Кялпша[18].



У 1913 г. я ўдзельнічаў у тайнай літоўска-польска-ўкраінскай канферэнцыі. З беларускага боку ўдзельнічалі я і Тарашкевіч, з літоўскага — цяперашні адвакат Сугінтас, з украінскага — Кушнін і яшчэ нехта, з польскага — Ратман. Пратаколы гэтай канферэнцыі ў мяне не захаваліся, пра што шкадую.

У гэты час я выдаваў беларускі часопіс «Раніца» і пад кіраўніцтвам літоўскага прафесара Вольтэра[19] ўдзельнічаў у працах і выданнях Петраградскага універсітэта, дзе ёсць артыкулы як праф. Вольтэра, так і мае.

Прыблізна ў той жа час разам з іншымі беларусамі я рэдагаваў і выдаваў у Петраградзе беларускія газеты «Дзянніца» і «Светач». У той час было вельмі мала інтэлігенцыі, і нам давялося шмат працаваць на ўсіх франтах.

На пачатку вайны і падчас рэвалюцыі я працаваў у Камітэце дапамогі бежанцам. У гэты час я пазнаёміўся з кс. Тумасам, членам Дзяржаўнай Думы Н. Янушкявічусам[20], Балісам[21] і іншымі літоўцамі, з якімі ўдзельнічаў у канферэнцыях, нарадах, у Савеце рабочых дэпутатаў, у Маскоўскай дзяржаўнай нарадзе, ва Усерасійскай дэмакратычнай нарадзе, у Камісіі па выпрацоўцы правілаў аб выбарах ва Устаноўчы сход і г. д.

Цікава адзначыць, што беларусы лічылі сваім дзяржаўным сцягам той жа, што і літоўцы — белы вершнік на чырвоным полі, але нацыянальнага сцяга не было. Мне давялося зрабіць некалькі праектаў нацыянальнага сцяга і адзін з іх быў прыняты, а менавіта — бел-чырвона-белы. З таго часу гэты сцяг і лічыцца беларускім нацыянальным сцягам.

У 1918 г. я ўдзельнічаў ва ўтварэнні Беларускай Народнай Рэспублікі.

У 1918 г. мне давялося паехаць з дэлегацыяй у Берлін і весці перамовы з Эрцбергам. Пасля вяртання з Берліна я ўдзельнічаў у нарадах беларусаў адносна літоўска-беларускіх стасункаў, і мая кандыдатура была вылучана на пасаду міністра беларускіх спраў у Літве, але я, жадаючы закончыць Горны інстытут, адмовіўся і параіў (пра што цяпер шкадую) вылучыць кандыдатуру Я. Варонкі.

8 чэрвеня 1919 г., падчас польскай акупацыі, на з’ездзе беларускіх дэлегатаў Гродзеншчыны і Віленшчыны была створана Беларуская рада Гродзенскага і Віленскага краю. На з’ездзе вялася барацьба між прыхільнікамі беларуска-літоўскіх і беларуска-польскіх арыентацый. Беларуска-польскі бок узначальваў адвакат Аляксюк. Перамог беларуска-літоўскі бок, і мяне, прыхільніка літоўскай арыентацыі, выбралі старшынёй Рады. Была таксама прынята мая прапанова паслаць віншавальную тэлеграму літоўскаму ўраду ў Каўнас. Гэта вельмі заклапоціла польскую ўладу, і

палкоўнік Славак[22] вельмі ўгаворваў мяне зняць з парадку дня з'езда пытанне пра высылку тэлеграмы ў Каўнас, тым больш што польскаму ўраду ніякай тэлеграмы з'езд дасылаць не збіраўся. З'езд усё ж пагадзіўся з высылкай тэлеграмы літоўскаму ўраду. Я добра не ведаю, ці была атрымана ў Каўнасе тэлеграма, аднак у пратаколах з'езда гэта адзначана.

Пазней палякі мне ўсё ж адпомсцілі і ў некаторых газетах напісалі, што я нібыта ўзначальваў дэлегацыю да польскіх улад і падаў заяву, быццам беларуская нацыя жадае належаць Польшчы, хаця сярод беларусаў пытанне такое не ўздымалася. Мне прыйшлося пісаць у газеты абвяржэнні. Кс. Тумас таксама адгукнуўся на гэтыя звесткі і напісаў у газету «Laisvoji Lietuva» («Свабодная Літва») артыкул, у якім, не ўдакладніўшы польскіх крыніц, паспяшыў выказаць свой негатыўны погляд на гэты фіктыўны факт і на некаторы час сапсаваў беларуска-літоўскія стасункі ў тыя складаныя часы, калі беларусы ўсімі сіламі шукалі збліжэння з Літвой.

Мае адносіны з палякамі

У Польшчы ў мяне шмат сяброў-навукоўцаў і ўвогуле добрых знаёмых сярод польскіх палітычных кіраўнікоў. Я добра ведаю палк. Славака, Енджэевіча[23], Касцялкоўскага, Абрамовіча[24], Скірмунта[25], Арцішэўскага, знаёмы з Юзафам[26] і Янам[27] Пілсудскімі і г. д. Але ўсім я адкрыта казаў, што з'яўляюся праціўнікам далучэння беларускіх зямель да Польскай дзяржавы і ўвогуле вельмі моцнага беларуска-польскага збліжэння. Я падкрэсліваў, што толькі тады змагу спакойна ставіцца да палякаў, калі яны ачысцяць нашы землі і адыдуць за Буг і Нарву. Былі спробы з польскага боку перадаць мне «буйныя сумы на адраджэнне беларусаў». Я ад іх адмовіўся, падаў адрасы дабрачынных і культурных устаноў, якім патрэбны гэтыя грошы і якія змогуць належным чынам іх выкарыстаць. Тыя ўстановы і дагэтуль грошай гэтых не атрымалі.

Я не ўтойваў, што з'яўляюся рамантыкам беларуска-літоўскага збліжэння.

Нарэшце палякі мяне арыштавалі і каля трох тыдняў пратрымалі ў Лукішскай турме. Потым адпусцілі, і я выехаў у Літву.

Пазней Енджэевіч пісаў у варшаўскіх газетах, што палякі нарабілі памылак, што не змаглі зрабіць Душэўскага сваім прыхільнікам. У апошнія гады я некалькі разоў быў у Вільні, і кожны раз мне палякі прапаноўвалі вярнуцца ў Польшчу, аднак кожны раз я падкрэсліваў свой негатыўны погляд на Польшчу. Хоць трэба прызнаць, што многія з польскіх палітыкаў асабіста вельмі таленавітыя і сімпатычныя людзі, а таксама джэнтэльмены, аднак гэта не мяняе майго погляду на Польскую дзяржаву.



Мой погляд на незалежнасць Літвы

Пакуль Літва незалежная, беларусы могуць спадзявацца атрымаць незалежнасць Беларусі. Літва з'яўляецца адной з частак Літоўска-Беларускага і Жамойскага княства. Гэтая частка ўжо зноў атрымала незалежнасць. Гэтую незалежнасць трэба ўмацаваць справамі саміх беларусаў — другой часткі былога агульнага Вялікага княства.

Літва з'яўляецца фарпостам для беларусаў супраць нямецкага «Drang nach Osten». Слабая Літва не здолее выстаяць супраць немцаў, моцная ж Літва магла б абараніць ад германізацыі і сябе, і разам з тым Беларусь. Беларусь не мае мора, Літва ж мае мора і Клайпедскі порт. У будучым па дамоўленасці з Літвой Беларусь магла б карыстацца яе портам.

З усяго гэтага вынікае, што беларусаў павінна цікавіць не толькі існаванне незалежнай Літвы, але таксама і яе магутнасць і моц, тым больш што гісторыя не ведае фактаў вайны паміж беларусамі і літоўцамі.

Урад Беларускай Народнай Рэспублікі

У канцы 1919 г. я быў пасланы для ўдзелу ў Прыбалтыйскай канферэнцыі ў Тарту і прызначаны паслом Беларускага ўрада ў Прыбалтыцы. У Тарту я шукаў збліжэння з дэлегатам Літвы доктарам Шлюпасам[28], аднак са шкадаваннем адчуў, што ён так кепска быў зарыентаваны і, відаць, атрымаў ад міністра Вальдэмараса[29] такія інструкцыі, што з ім было даволі цяжка размаўляць. А шкада, шмат памылак можна было ў той час пазбегнуць, калі б існавала больш даверу і добрай волі.

У Прыбалтыцы мне ўдалося атрымаць з боку Фінляндыі і Эстоніі прызнанне de facto Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэта вельмі турбавала палякаў. У Талін нават прыбыў Славак і, сустрэўшыся са мной, выказаў шкадаванне, што палітыка Беларусі ідзе супрацьлеглым шляхам адносна палітыкі Польшчы.

У гэты час у Мінску на сесіі Рады Беларускай Рэспублікі, пры ўтварэнні Кабінета міністраў Ластоўскага, я быў уключаны ў спіс міністраў. Ластоўскаму і ўсім міністрам прыйшлося эмігрыраваць у Літву, дзе ўвесь урад прынялі як жаданых гасцей. Аднак урад не можа доўга існаваць у эміграцыі. Пачаліся расследаванні, адносіны сапсаваліся. Я выйшаў з Кабінета, а затым — і Ластоўскі. Абодва мы патрабавалі ад усіх самых добрых адносін з Літвой, іншыя былі процілеглай думкі. Я нават прыняў літоўскае грамадзянства. Мы стварылі «Цэнтр беларускай дзейнасці ў Літве» і пачалі весці беларускую культурную работу. Астатнія выехалі з Літвы.

Беларуская культурная дзейнасць у Літве

Я пачаў выдаваць беларускі часопіс «Беларускі сцяг», пазней — «Крывіч». Напісаў і выдаў на беларускай мове шмат навуковых кніг

па гісторыі, матэматыцы і прыродазнаўстве. Кіраваў некалькімі часовымі беларускімі курсамі. Чытаў па радыё лекцыі.

Як я ўжо згадваў, п. Галванаўскас запрасіў мяне на службу ў Міністэрства замежных спраў.

Паступіў у Літоўскі універсітэт, вывучыў літоўскую мову. Удзельнічаў у працы Саюза інжынераў Літвы. Быў адным з першых ініцыятараў і рэдактараў часопіса «Technika ir ūkis» («Тэхніка і гаспадарка»), г. зн., не пакідаючы сваёй беларускай дзейнасці і застаючыся беларусам, я «аблітовіўся» і стараюся быць добрым грамадзянінам маёй радзімы Літвы.

Цікавіцца сацыяльнымі праблемамі я не маю ні мажлівасцей, ні часу. Мне хапае беларускага нацыянальнага і культурнага адраджэння.

Да Літвы я стаўлюся як да сваёй радзімы і хачу быць карысным і добрым грамадзянінам, аднак ва ўнутраныя справы Літвы ніколі не ўмешваўся, таму што хачу быць карэктным да краіны, якая мяне прытуліла. Цяпер я з'яўляюся старшынёй «Беларускага цэнтра дзейнасці ў Літве». Рэдагую і выдаю беларускі часопіс «Беларускі цэнтр». З'яўляюся пастаянным супрацоўнікам радыёфона.

Апрача кніг на беларускай мове, я пішу і па-літоўску.

1) Удзельнічаю ў перыядычных выданнях «Mūsų Vilnius» («Наш Вільнюс») і іншых газетах і часопісах.

2) Напісаў некалькі артыкулаў па тэхніцы ў навуковым часопісе «Technika ir ūkis».

3) Распрацаваў нормы для цэглы. Гэтыя нормы з некаторымі папраўкамі прыняты Гандлёвай палатай Літвы.

4) Напісаў брашуру «Gudai ir Vilnius» («Беларусы і Вільня»).

5) Напісаў і выдаў кнігу «Statybos darbams vadovėlis» («Падручнік па будаўнічых работах»).

6) Напісаў друкаваную брашуру «Kūras šildymui» («Паліва для ацяплення»), у якой стварыў зусім новыя табліцы «Kūro ekvivalentai» («Эквіваленты паліва»).

7) Напісаў і рыхтую да друку кнігу з чарцяжамі «Statybos detalės» («Будаўнічыя дэталі»).

Важнейшыя мае будаўнічыя працы:

1) Кінатэатр «Метраполітайн» і дом на вул. Лайсвес алея, № 41.
2) Дом доктара Пурыцкіса, вул. Вайжганта.
3) Дом Аўкштоліса, вул. Аўшрос такас, 1.
4) Дом Антуліса, вугал праспекта Вітаўтаса і вул. Шаўлю.
5) Дом адваката Пожэлы, плошча Адзінства, 10.
6) Дом інж. Рэклайціса, плошча Адзінства, 11.
7) Беконная фабрыка, Каўнас.



8) Беконная фабрыка, Панявежыс.
9) Халадзільнік для масла, Клайпеда.
10) Фабрыка апрацоўкі кішак, Каўнас.
11) Свінарнік на 1000 галоў свіней, Каўнас.
12) Дом пошты ў Расейняй.
13) Дамы Жакявічэне і Гарунгшціса, вул. Тракайская, 15.
14) Будынак паштовай і аўтаматычнай тэлефоннай станцыі ў Шанчай[30].

К. Д.

31.VIII.1934.
Каўнас.

БДАМЛМ. Ф. 3. Воп. 1. Адз. зах. 241. Л. 114—120. *Аўтарызаваны машынапіс.*

## № 2
## Успаміны К. Дуж-Душэўскага

Пасьля першай Расійскай Рэвалюцыі палякі зьвярнулі асаблівую ўвагу на Віленскую вучнёўскую моладзь і сталі яе арганізаваць. Гэта арганізаваньне асабліва ўзмацавалася, пачынаючы з 1908 году.

Былі створаны імі дзьве асноўных арганізацыі — «Вызваленьне» і «Адраджэньне». Апрача таго, некалькі гурткоў, як «артыстычны» гурток, «літэратурны» і др.

У адзін з іх трапіў і я як вучань 4-й ці 5-й клясы рэальнага вучылішча.

Трапіўшы ў польскія арганізацыі, дзе галоўны націск клаўся на «Польскі патрыётызм», у мяне скора стварылася шмат колізій з самым сабой. Чытаньне і разбор Красіцкіх, Словацкіх, Сенкевічаў і другіх польскіх пісьменьнікаў, якія былі чужымі мне па духу, зарадзілі ў маей, яшчэ дзіцячай галаве шмат пытаньняў аб маей нацыянальнай прыналежнасьці. Я адчуваў, што Кракаў, Варшава, Познань — для душы маей нічога не гавораць. Прыпадкова трапіўшый у мае рукі нумар «Нашай Нівы» і «Смык Беларускі»[31] былі для мяне неяк блізкімі і роднымі. На адным са сходаў «артыстычнага» гуртка я несьвядома для сябе прадэклямаваў нейкі верш па-беларуску. Памятую, усім гэта дужа падабалася і мяне празвалі «беларусом». Я гэтаму не пярэчыў, але яшчэ сам добра не ўсьведамляў зьместу гэтага слова. Бо трудна было хлопцу, абкружанаму ў сьценах вучылішча расійскай чарнасоценскай рэакцыяй, а за сьценамі гэтай школы — польскім «патрыётызмам», самому выбраца на праўдзівы шлях. Але паволі, доўга і з вялікімі ўнутранымі перажываньнямі я пераконываўся ў тым, што я не паляк і што я не расеяц.

На адным са сходаў, на каторым быў прысутны і вядомы музыкант Рагоўскі, мы хорам засьпявалі: «А хто там ідзе». Пры сьпеве гэтай песьні я адчуў хутчэй сэрцам, чым розумам, што ёсьць Беларускі Народ.

Пасьля гэтага я ўжо ўцяміў, што я беларус, складовая частка аднаго вялікага Беларускага Народу, і стаў шукаць сабе падобных.

Быў сход артыстычнага гуртка ў вядомага маляра* Рушчыца. Сход быў пасьвячоны спэцыяльна народнай творчасьці і штукарству. На сходзе гэтым быў і Іван Луцкевіч, які горача прамовіў аб зьбіраньні «тутэйшых» мастацкіх рэчаў. Гаварыў аб беларускай поэзіі, разьбе, паясох, гліняных вырабах, тканінах, слуцкіх паясох і г. д. Пасьля яго прамовы я падыйшоў да яго ўжо як беларус і стаў гаварыць з ім па-беларуску. Ён даў мне свой адрэс і прасіў заходзіць.

Больш-менш у той самы час адзін мой таварыш, М. Бабровіч (псэўданім Гмырак), трапіў у партыю С-Р†. І вось мы вялі з ім доўгія гутаркі на грамадзка-палітычныя тэмы. Ён мяне вучыў соцыялізму, а я яго нацыянальнай справе. Нашы безканечныя гутаркі, зразумела, былі даволі наіўнымі, але ў рэзультаце іх мы парашылі ісьці «у народ беларускі» і цэлае лета «працавалі ў народзе» над разьвіцьцём соцыяльных і нацыянальных проблемаў. У рэзультаце гэтай працы ён трапіў у турму, а я неяк ацалеў.

На наступную зіму я ўспомніў аб адрэсе І. Луцкевіча і парашыў да яго зайсьці. Трапіў я ў рэдакцыю «Наша Ніва». Сталі мы гаварыць аб беларускай справе. Я высказаў фразу: «… але, нажаль, мы, беларусы, маем бедную гісторыю». Раптам скуль узяўся чалавек лысы, абросшы, нягалены, з круглым чалом і, ідучы яшчэ, паднятым голасам стаў гаварыць: «Як, мы ня маем Гісторыі? Скажыце, калі ласка, хто мае багацейшую гісторыю, чым мы, беларусы?» і г. д. Зразу ён мне насыпаў так шмат, што перавярнуў усю маю гістарычную веду да гары нагамі, і я павінен быў прызнацца, што гісторыі я ня ведаю. Гэта быў В. Ластоўскі. У той самы дзень я пазнаёміўся з Антонам Луцкевічам, Р. Зямкевічам і Уласавым.

БДАМЛМ. Ф. 3. Воп. 1. Адз. зах. 241. Л. 39—40. *Аўтограф*.

1 Ракашэвіч У. К. З прамовы К. С. Душэўскага на Літоўска-Беларускім сходзе ў Роўна ў 1927 г. // БАШ. Мн., 2002. Вып. 3.
2 Жыццяпіс (*лац*.).
3 Цяпер цэнтр Глыбоцкага р-на Віцебскай вобл.
4 Эрцбергер Мацыяс (1875—1921), германскі палітычны дзеяч. У кастрычніку 1918 г. — член урада Германіі, узначаліў дэлегацыю на перагаворах аб пераміры з Антантай. 11 лістапада ад імя Германіі падпісаў Камп'енскае пераміра.
5 Галванаўскас Эрнестас (1882—1967), літоўскі дзяржаўны і грамадскі дзеяч.
6 Асоба не высветлена.

* Так у тэксце. Маецца на ўвазе — мастака.
† Партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэры).



7 Арцішэўскі Томаш (1877—1955), польскі палітычны дзеяч.
8 Касцялкоўскі Станіслаў (1881—1960), польскі гісторык, прафесар.
9 Жмуйдзінавічус Антанас (1876—1966), літоўскі жывапісец, народны мастак Літвы. Прафесар.
10 Янулайціс Аўгусцінас (1878—1950), літоўскі гісторык, юрыст, акадэмік АН Літвы (1941). У сваіх працах закранаў і беларускую тэматыку.
11 Кайрыс Сцяпонас (1879—1964), літоўскі палітычны дзеяч, інжынер, публіцыст. Муж Цёткі (Алаізы Пашкевіч).
12 Сметана Антанас (1874—1944), літоўскі палітычны і дзяржаўны дзеяч, публіцыст, юрыст. У 1919—1920 і 1926—1940 гг. — прэзідэнт Літвы.
13 Тумас Юозас (псеўд. Вайжгантас; 1869—1933), літоўскі грамадскі дзеяч, пісьменнік, крытык.
14 Басанавічус Іонас (1851—1927), літоўскі грамадскі дзеяч, навуковец.
15 Біржышка Мікалоюс (1882—1962), літоўскі грамадскі дзеяч, гісторык літаратуры.
16 Жэмайціс Зігмас (1884—1969), літоўскі грамадскі дзеяч, матэматык.
17 Шымкус Стасіс (1887—1943), літоўскі кампазітар, дырыжор, педагог.
18 Талат-Кялпша Юозас (1889—1949), літоўскі кампазітар, дырыжор, педагог.
19 Вольтэр Эдуард (1856—1941), літоўскі і латышскі гісторык, філолаг, этнограф, археолаг. Прыват-дацэнт Петраградскага універсітэта.
20 Маецца на ўвазе Янушкявічус Міколас (1886—1942), літоўскі грамадскі дзеяч, публіцыст. Ініцыялы ў арыгінале прастаўлены памылкова.
21 Баліс Пятрас (1895—1918), літоўскі грамадскі дзеяч.
22 Відаць, Славак Валеры (1879—1939), польскі палітычны дзеяч, адзін з аўтараў Канстытуцыі Польшчы 1935 г.
23 Енджэевіч Януш (1885—1951), польскі палітычны дзеяч, педагог, палкоўнік.
24 Абрамовіч Людвіг Кароль (1879—1939), польскі гісторык, грамадскі дзеяч, журналіст, выдавец.
25 Верагодна, маецца на ўвазе Скірмунт Канстанцін (1866—1949), польскі дыпламат, або Скірмунт Раман (1868—1939).
26 Пілсудскі Юзаф Клемент (1867—1935), польскі грамадска-палітычны, дзяржаўны і ваенны дзеяч. Маршал Польшчы (1920).
27 Пілсудскі Ян (1876—1950), юрыст, віцэ-маршалак сейма, міністр фінансаў Польшчы.
28 Шлюпас Іонас (1861—1944), літоўскі грамадскі дзеяч, публіцыст.
29 Вальдэмарас Аўгусцінас (1883—1942), літоўскі палітычны дзеяч, гісторык.
30 Прыгарад Каўнаса.
31 Зборнік вершаў Ф. Багушэвіча.

*Публікацыя Я. М. Кісялёвай*

# АГЛЯДЫ

***А. К. Галубовіч, Л. М. Лісава***

## ДАКУМЕНТЫ З ЗАМЕЖНЫХ АРХІВАЎ У НАЦЫЯНАЛЬНЫМ ГІСТАРЫЧНЫМ АРХІВЕ БЕЛАРУСІ

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ) — багацейшая скарбніца матэрыялаў, якая захоўвае гістарычную памяць беларускага народа.

Вядома, што вялікая колькасць дакументаў па гісторыі Беларусі знаходзіцца па волі лёсу ў архівах Расіі, Літвы, Польшчы і іншых краін. Шмат гадоў складаецца картатэка дакументаў сярэднявечнага і новага часу, якія захоўваюцца ў гэтых архівах.

Паводле рашэння ГАУ СССР пра перадачу з архіваў СССР няпрофільных фондаў і дакументаў у 1950—1986 гг. у НГАБ паступілі з Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіва, Дзяржархіва Ленінградскай вобласці фонды: «Магілёўская рымска-каталіцкая духоўная кансісторыя» (1688—1922), «Канцылярыя папячыцеля Беларускай вучэбнай акругі» (1829—1850); з Дзяржаўнага гістарычнага архіва (ДГА) Літвы — актавыя кнігі Брэсцкага, Гродзенскага, Пінскага гродскіх судоў за 1667—1725 гг., актавыя кнігі Браслаўскага земскага суда за 1821 г., журналы і рэестры судовых дакументаў за 1765—1828 гг. (Навагрудскі земскі суд), прадпісанні і інструкцыі віленскага генерал-губернатара і камандуючага ваеннай акругі, справы аб перадачы дакументаў аб паўстанні 1863 г. у Віленскі музей графа Мураўёва, аб накладанні забароны на маёнткі ўдзельнікаў паўстання 1863—1864 гг. і інш.; з Дзяржаўнага гістарычнага архіва Латвіі — паасобныя справы фондаў «Мінскай казённай палаты», «Князі Радзівілы», старажытных актаў і інш. за 1753—1917 гг., фотакопіі (калекцыя) метрычных кніг евангелічна-лютэранскіх цэркваў Віцебскага і Полацкага прыходаў за 1834—1914 гг.; з Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва (ЦДГА) Украіны ў Кіеве — фонд «Яленскія, памешчыкі» (XVI—XX стст.), справы фондаў Мінскіх казённай і кантрольнай палат за 1853—1919 гг.; «Мінская губернская друкарня», «Радзівілы, князі» за 1697—1733 гг.; з Цэнтральнага дзяржаўнага архіва вышэйшых органаў улады і кіравання Украіны — планы гарадоў Рэчыца, Ігумен, Бабруйск, Нясвіж з фонда «Тапаграфічныя карты і планы вёсак, сёл, маёнткаў Мінскай губ.» (1905—1914).

У наступны час шмат намаганняў было зроблена кіраўніцтвам НГАБ для таго, каб мікрафотакопіі 663 спраў Метрыкі ВКЛ — унікальнай крыніцы па гісторыі народаў ВКЛ, якія захоўваюцца ў Расійскім дзяржаўным архіве старажытных актаў у Маскве і Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве, знайшлі сваё месца ў НГАБ.



Сёння супрацоўнікі НГАБ асноўную ўвагу, працуючы з дакументамі замежных архіваў, удзяляюць камплектаванню фондаў архіва мікрафотакопіямі профільных дакументаў, а таксама складаюць навукова-даведачны апарат да іх.

Зазначым, што выкарыстоўваемае сёння архівазнаўчае дзяленне архіўных спраў на «профільныя» і «няпрофільныя» — гэта дастаткова ўмоўная працэдура. Старажытныя справы змяшчаюць дакументы, якія аднолькава тычацца сучасных тэрыторый Рэспублікі Беларусь, Літвы, Украіны і Расіі. Гэта, напрыклад, фонды перыядаў ВКЛ, Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі, якія захоўваюцца ў НГАБ: «Задворны асэсарскі суд ВКЛ» (1772—1795), «Скарбовы трыбунал ВКЛ» (1661—1791), «Галоўны трыбунал ВКЛ» (1666—1835), «Калекцыя старажытных інвентароў каралеўскіх, памешчыцкіх і духоўных маёнткаў» (1612—1822) і інш.

Сёння больш за 11 тыс. спраў у выглядзе мікрафотакопій з архіваў Латвіі, Літвы, Польшчы, Расіі захоўваюцца ў НГАБ. З Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіва ў НГАБ перададзены 174 тыс. кадраў мікрафотакопій — па змесце гэта пераважна выкупныя справы — дакументы пра выкуп зямлі памешчыцкімі сялянамі па Віцебскай губерні (паветы: Веліжскі, Віцебскі, Гарадзецкі, Дзінабургскі, Дрысенскі, Лепельскі, Люцынскі, Невельскі, Полацкі, Рэжыцкі, Себежскі, Суражскі) і па Магілёўскай губерні (паветы: Быхаўскі, Гомельскі, Горацкі, Клімавіцкі, Мсціслаўскі, Магілёўскі, Аршанскі, Рагачоўскі, Сенненскі, Чавускі, Чэрыкаўскі) за 1862—1894 гг.

Значны набытак архіва ў апошні час — 256 тыс. кадраў мікрафотакопій маёмасна-гаспадарчых дакументаў па гісторыі беларускіх маёнткаў з архіваў князёў Радзівілаў, Сангушкаў, графаў Пшаздзецкіх; перапісу земскага войска ВКЛ за 1567 г., арыгіналы якіх захоўваюцца ў Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве.

Вялікую каштоўнасць уяўляюць і мікрафотакопіі дакументаў з фондаў Скарбовай камісіі ВКЛ (1765—1775) і Гродзенской казённай палаты (1680—1796), арыгіналы якіх захоўваюцца ў ДГА Літвы ў Вільні. Ніжэй мы змяшчаем вопісы «Калекцыі мікрафіш інвентароў архіва Скарбовай камісіі ВКЛ і архіва Гродзенскай казённай палаты». У вопіс № 1 увайшло 72 справы — люстрацыі і інвентары дзяржаўных маёнткаў (староstваў, дзяржаў, каралеўшчын) другой паловы XVIII ст., якія знаходзіліся на тэрыторыях сучасных Беларусі і Літвы, з фонда Скарбовай камісіі ВКЛ[1]. У вопіс № 2 увайшло 6 спраў — інвентары і люстрацыі Гродзенскай і Брэсцкай эканомій другой паловы XVII—XVIII ст. з фонда Гродзенскай казённай палаты. Вопісы складаюцца з загалоўка справы, даты напісання дакумента і архіўных аркушаў. Кожнай справе дадзены парадкавы нумар, а таксама пазначаны яе пошукавыя даныя ў ДГА Літвы. Да найбольш каштоўных дакументаў зроб-

лены анатацыі. Да вопісаў прыкладаецца геаграфічны паказальнік інвентароў староستваў, якія знаходзяцца на тэрыторыі сучаснай Беларусі.

### Вопіс № 1 мікрафотакопій інвентароў і люстрацый з фонда Скарбовай камісіі ВКЛ (калекцыя)

| № п/п | № справы ДГА Літвы | Назва | Дата | Архіўныя аркушы |
|---|---|---|---|---|
| 1. | СА-3786 (МФ 1—4) 133 к. | Люстрацыі староستваў і дзяржаў ЯКМ Рэчыцкага пав. за 1765 г.: | | |
| | | Люстрацыя Чачэрскага староства Рэчыцкага пав., якое знаходзіцца ў пасэсіі віленскага ваяводы Агінскага | 21 чэрвеня 1765 г. | 1—37 |
| | | Люстрацыя Рагачоўскага староства Рэчыцкага пав., якое знаходзіцца ў пасэсіі стражніка ВКЛ Пацея | 3 мая 1765 г. | 39—68адв. |
| | | Люстрацыя дзяржавы Расохі, або Расочыцы, Рэчыцкага пав., якая знаходзіцца пад кіраўніцтвам Мацея Янішэўскага | 21 сакавіка 1765 г. | 70—72адв. |
| | | Люстрацыя дзяржавы Хлусы Рэчыцкага пав. | 22 сакавіка 1765 г. | 73—75 |
| | | Люстрацыя дзяржавы Галавачы Рэчыцкага пав. | 26 сакавіка 1765 г. | 75адв.—78 |
| | | Люстрацыя дзяржавы Лозаў Рэчыцка-га пав. | 27 сакавіка 1765 г. | 78адв.—80 |
| | | Люстрацыя дзяржавы Стоўпня Рэчыцкага пав., якая знаходзіцца пад кіраўніцтвам Юрыя Шымкевіча | 28 сакавіка 1765 г. | 80адв.—83 |
| | | Люстрацыя дзяржавы Навілаўка і Бабічы Рэчыцкага пав., якую інспектаваў падчашы Ражанскай зямлі Ігнацы Шэлюта | 15 мая 1765 г. | 83адв.—87 |
| | | Люстрацыя дзяржавы Мяркаловічы Рэчыцкага пав., якая знаходзіцца пад кіраўніцтвам Андрэя Іліча | 25 сакавіка 1765 г. | 87адв.—91адв. |
| | | Люстрацыя дзяржавы Лукі Рэчыцкага пав., якая знаходзіцца пад кіраўніцтвам Антонія Уніхімоўскага | 2 красавіка 1765 г. | 92адв.—96 |
| | | Люстрацыя дзяржавы Сенажаткі Рэчыцкага пав., якая знаходзіцца пад кіраўніцтвам Вірпша | 8 чэрвеня 1765 г. | 96адв.—97адв. |
| | | Сумарыуш сялян, выдаткаў і кварты каралеўскіх уладанняў Рэчыцкага пав., люстраваных стольнікам Полацкага ваяв. Буйніцкім | 11 красавіка 1765 г. | 98 |



| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 2. | СА-3787 (МФ 1—9) 376 к. | Люстрацыі староستваў і дзяржаў ЯКМ Рэчыцкага пав. за 1765 г.: | | |
| | | Люстрацыя Гомельскага староства Рэчыцкага пав., якое знаходзіцца ў пасэсіі кн. Чартарыйскага, канцлера ВКЛ, па стане пасля выгнання людзей з гэтага староства генералам Маславым | 11 красавіка 1765 г. | 1—70адв. (39адв.—40) |
| | | Люстрацыя Гардуноўскага староства Рэчыцкага пав., якое знаходзіцца ў пасэсіі смаленскага скарбніка Юзафата Хелхоўскага | 24 красавіка 1765 г. | 73—81адв. |
| | | Люстрацыя староства Данілавіцы і дзяржавы Навасёлкі Рэчыцкага пав., якія знаходзяцца ў пасэсіі рэчыцкага старосты кн. Радзівіла | 17 сакавіка 1765 г. | 83—90 |
| | | Люстрацыя дзяржаў Нямковічы і Янаў Рэчыцкага пав., якія знаходзяцца ў пасэсіі рэчыцкага гродскага суддзі і мечніка Казіміра Вішчынскага | 15 сакавіка 1765 г. | 91—98 |
| | | Люстрацыя дзяржавы Рэчка Рэчыцкага пав., якая знаходзіцца ў пасэсіі рэчыцкага маршалка Халецкага | 18 сакавіка 1765 г. | 99—102 |
| | | Люстрацыя каралеўшчыны Юрковічы Рэчыцкага пав., якая знаходзіцца ў пасэсіі рэчыцкага харужага Дэрналовіча | 13 сакавіка 1765 г. | 103—104 |
| | | Люстрацыя дзяржавы Кашалёва Рэчыцкага пав., якая знаходзіцца пад кіраўніцтвам Казіміра Міцкоўскага | 8 сакавіка 1765 г. | 150—110адв. |
| | | Тарыфа кварты з староستваў, дзяржаў і каралеўшчын Рэчыцкага пав. | б/д | 111 |
| 3. | СА-3788 (МФ 1) 26 к. | Тарыфа люстрацый староستваў, дзяржаў і войтаўстваў Мазырскага пав., складзеная стражнікам і падстаростам гродавым мазырскім, крайчым і гродскім пісарам мазырскім, харужым пецыгорскім, Янам Валерыянам Вольскім, Юзафам Паўлам Жудрам паводле Канстытуцыі Канвакацыйнага сейма 1764 г.: | 1 сакавіка — 30 кастрычніка 1765 г. | 1—20 |
| | | а) Староства гродавае Мазырскага пав. і войтаўства Мазырскае, у пасэсіі Гервазія Людвіка Аскеркі, рэферэндара ВКЛ, старосты гродавага Мазырскага пав., і яго сына Людвіка Аскеркі, каралеўскага падкаморыя, мазырскага войта | 1 сакавіка 1765 г. | 2—3адв. |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | | б) Староства Шыіцкае, у пасэсіі Міхала Яленскага, падкаморыя Мазырскага пав. | 12 мая 1765 г. | 4—4адв. |
| | | в) Староства Сухавіцкае, у пасэсіі таго ж М. Яленскага | 15 мая 1765 г. | 4адв.—5адв. |
| | | г) Староства Якімовіцкае, у пасэсіі таго ж М. Яленскага | 16 мая 1765 г. | 5адв.—9 |
| | | д) Староства Нястнавіцкае, у пасэсіі таго ж М. Яленскага | 20 чэрвеня 1765 г. | 9адв.—10 |
| | | е) Дзяржаўка Фастовічы, у пасэсіі таго ж М. Яленскага | 26 чэрвеня 1765 г. | 10—11 |
| | | ж) Староства Азарыцкае, у пасэсіі Караля Панцэржынскага, гродскага суддзі Мазырскага пав., і яго жонкі Караліны з Зяленскіх Панцэржынскай | 26 чэрвеня 1765 г. | 11—12 |
| | | з) Дзяржаўка Сялец, у пасэсіі Багуслава Вольбека, старосты сялецкага, і яго жонкі Разаліі з Яленскіх Вольбекавай | 27 чэрвеня 1765 г. | 12—12адв. |
| | | і) Староства Грабніцкае, у пасэсіі Ігомаша Іпагорскага-Лянкевіча, стольніка Мазырскага пав. | 29 чэрвеня 1765 г. | 12адв.—13адв. |
| | | к) Староства Багрымавіцкае, у пасэсіі Антонія Аскеркі, маршалковіча Мазырскага пав., старосты багрымавіцкага | 30 чэрвеня 1765 г. | 13адв.—15адв. |
| | | л) Староства Барыскавіцкае, у пасэсіі Станіслава Яленскага, канюшага мазырскага, і яго жонкі Крыстыны з Іпагорскіх-Лянкевічаў, па першаму мужу Самуэлевай Яленскай, падчашынай мазырскай, Станіслававай Яленскай | 6 ліпеня 1765 г. | 15адв.—16 |
| | | м) Староства Дамановіцкае, у пасэсіі Юзафа Вольбека, земскага пісара Мазырскага пав., з-за хваробы якога 10 жніўня 1765 г. куратарам староства прызначаны Гервазы Людвік Аскерка, рэферэндар ВКЛ, староста гродавы Мазырскага пав. | 10 кастрычніка 1765 г. | 16адв.—17адв. |
| | | н) Староства Загальскае, у пасэсіі Юзафа Война з Быстрых Быстрага, надворнага лоўчага ВКЛ | 15 кастрычніка 1765 г. | 17адв.—18адв. |
| | | о) Староства Настольскае, у пасэсіі Паўла Колбы, старосты настольскага | 17 кастрычніка 1765 г. | 18адв.—19 |
| | | п) Засценкі Якаўшчына і Малюкоўшчына, у пасэсіі Казіміра і Брыгіды з Якімовічаў Рудзінскіх, земскіх і гродскіх рэгентаў Мазырскага пав. | б/д | 19 |



| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | | р) Зямля Букаты, у пасэсіі Станіслава Янтоўскага | б/д | 19 |
| | | Генеральны сумарыуш староставаў, войтаўстваў, дзяржаў, зямель і засценкаў Мазырскага пав. | б/д | 19адв. |
| 4. | СА-3789 (МФ 1—5) 207 к. | Сумарыуш усіх староставаў, войтаўстваў і каралеўшчын у Мінскім ваяв., люстраваных люстратарамі, прызначанымі Канстытуцыяй сейма 1764 г.: | 21 кастрычніка 1765 г. | 1—80 |
| | | а) Інвентар Мінскага староства | 22 сакавіка 1765 г. | 3—5 |
| | | б) Інвентар Радашковіцкага староства | 4 мая 1765 г. | 6—25 |
| | | в) Інвентар Краснасельскага староства | 23 мая 1765 г. | 26—35 адв. (32адв.—33 не сфатаграфаваны) |
| | | г) Інвентар Калачэўскага староства | 30 мая 1765 г. | 40—43 |
| | | д) Інвентар Гаенскага (Гайнаўскага) староства | 12 чэрвеня 1765 г. | 46—52адв. |
| | | е) Інвентар Ахельніцкага староства | 9 верасня 1765 г. | 54—56адв. |
| | | ж) Інвентар Цэльскага староства | 13 верасня 1765 г. | 58—60 |
| | | з) Інвентар Мінскага войтаўства | 23 верасня 1765 г. | 62—64адв. |
| | | Тарыфа кварты з староставаў Мінскага ваяв. | 21 кастрычніка 1765 г. | 65—66 |
| | | Сумарыйная табліца староставаў Мінскага ваяв. | б/д | 67адв.—68 |
| | | Тарыфа гіберны са староставаў Мінскага ваяв. | 21 кастрычніка 1765 г. | 69—69адв. |
| | | Разлік гіберны на панцырную харугву п. Сасноўскага, польнага пісара ВКЛ, з места Мінска ў 1765 г. | б/д | 72—80 |
| 5. | СА-3801 (МФ 1—3) 109 к. | Люстрацыя Бабруйскага староства Рэчыцкага пав., якое знаходзіцца ў пасэсіі п. Лопата, польнага стражніка ВКЛ | 3 чэрвеня 1765 г. | 1—29 |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 6. | СА-3809 (МФ 1—4) 174 к. | Сумарыуш агульных даходаў Гродзенскага староства, якое знаходзіцца ў пасэсіі п. Масальскага, надворнага падскарбія ВКЛ, гродзенскага старосты: | 21 сакавіка 1765 г. | 1—61 |
| | | а) Інвентар Перавальскага староства Гродзенскага пав., якое знаходзіцца пад кіраўніцтвам п. Жажнеўскага | 28 лютага 1765 г. | 1адв.—7 |
| | | б) Інвентар Палюнскага староства Гродзенскага пав., якое знаходзіцца пад кіраўніцтвам п. Раксімовіча | 3 сакавіка 1765 г. | 7адв.—9адв. |
| | | в) Інвентар Берзніцкага староства Гродзенскага пав., якое знаходзіцца пад кіраўніцтвам берзніцкага аканома Шліхтэра | 8 сакавіка 1765 г. | 9адв.—13адв. |
| | | г) Інвентар лавецтва ВКЛ, якое знаходзіцца ў пасэсіі лоўчага ВКЛ Забелы | б/д (1765 г.) | 13адв.—23 |
| | | д) Інвентар Філіпаўскага староства, якое знаходзіцца ў пасэсіі філіпаўскага старосты Пузыны | б/д (1765 г.) | 23адв.—31адв. |
| | | е) Інвентар Перарослськага староства | б/д (1765 г.) | 31адв.—36адв. |
| | | ж) Інвентар Віжанскага староства, якое знаходзіцца ў пасэсіі віжанскай старосцінай Струтынскай | б/д (1765 г.) | 36адв. —41 |
| | | з) Спецыфікацыя даходаў з 5 валок зямлі Вярсэлі Гродзенскага пав. Перарослькай парафіі, якая знаходзіцца ў арэндзе Тэадоры Ланеўскай | 14 мая 1765 г. | 42 |
| | | і) Інвентар гібернавага фальварка Бокшышкі, які знаходзіцца ў арэндзе Зыгмунта Невадоўскага | 14 мая 1765 г. | 42адв.—43 |
| | | к) Інвентар Сейвейскага староства, якое знаходзіцца ў пасэсіі сейвейскай старосціны Струтынскай | б/д (1765 г.) | 43адв.—47 |
| | | л) Інвентар дзяржавы Пялейкі, якая знаходзіцца ў пасэсіі п. Вярбіцкага | б/д (1765 г.) | 47—48адв. |
| | | м) Інвентар Васількаўскага староства | б/д (1765 г.) | 50—54 адв. (49адв.—50 не сфатаграфаваны) |
| | | н) Інвентар канюшаства ВКЛ, якое знаходзіцца ў пасэсіі канюшага ВКЛ Аленскага | б/д (1765 г.) | 55—60адв. (56адв.—57 не сфатаграфаваны) |



| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Табліца даходаў, экспэнсаў, кварты і г. д. староставаў Гродзенскага пав. | б/д | 61 |
| 7. | СА-3810 (МФ 1—14) 521 к. | Люстрацыі мастоў і грэбляў у паветах ВКЛ: тарыфы і рэестры чопавага, цялежнага і дымоў некаторых паветаў ВКЛ | б/д | |
| | | 1) Люстрацыя мастоў і грэбляў у Ашмянскім пав.: | | 1—4 |
| | | а) маёнтак Косічы | 23 мая 1772 г. | 1 |
| | | б) маёнтак Гаўя | 19 чэрвеня 1771 г. | 3 |
| | | 2) Люстрацыя мастоў і грэбляў у Віленскім пав. (на вокладцы памылкова Троцкае ваяв.): | | 6—8адв. |
| | | а) староства Раканцішкі і Лаварышкі | 26 верасня 1772 г. | 7—8 |
| | | 3) Люстрацыя мастоў і грэбляў у Ковенскім пав. | 1772 г. | 10—12адв. |
| | | 4) Люстрацыя мастоў і грэбляў у Жамойцкім княстве | 1772 г. | 14—16 |
| | | 5) Люстрацыя мастоў і грэбляў у Слонімскім пав.: | | 18—25адв. |
| | | а) Люстрацыя гасцінцаў, мастоў і грэбляў у Слонімскім пав. | 1766 г. | 19—23адв. |
| | | б) Памер і агляд грэбляў і моста ў маёнтку Івашкевічы Ігнацыя Стравінскага, старосты судовага гродскага Слонімскага пав. | 22 снежня 1769 г. | 24 |
| | | 6) Люстрацыя мастоў і грэбляў у Ваўкавыскім пав. (Люстрацыя мастоў і грэбляў на вольных трактах у Ваўкавыскім пав., выкананая Ануфрыем Дзяконскім): | 26 мая — 7 ліпеня 1766 г. | 27—32адв. |
| | | а) Мсцібаўскае староства | | 28—28адв. |
| | | б) маёнтак Гнезна | | 28 адв.—29 |
| | | в) маёнткі Блакітная і Рось | | 29—29адв. |
| | | г) Ваўкавыскае староства | | 29адв. |
| | | д) маёнтак Ізабэлін | | 29адв.—30 |
| | | е) маёнтак Зэльва | | 30 |
| | | ж) маёнтак Пяскі | | 30—30адв. |
| | | з) графства Рось | | 30адв.—31 |
| | | і) Воўпенскае староства | | 31—31адв. |
| | | к) мястэчка Новы Двор Ваўкавыскага староства | | 31адв. |
| | | л) /маёнтак Свіслач/ | | 32 |
| | | м) Ялаўскае староства | | 32—32адв. |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | | 7) Люстрацыя мастоў і грэбляў у Пінскім пав. | | 33—38 |
| | | 8) Люстрацыя мастоў і грэбляў у Брэсцкім пав. | | 38—42адв. |
| | | 9) Апісанне значнейшых кірмашоў у Пінскім і Брэсцкім пав. | | 43 |
| | | 10) Люстрацыя мастоў і грэбляў у Віцебскім, Мсціслаўскім і Аршанскім пав.: | 28 лютага — 22 сакавіка 1769 г. | 45—70 |
| | | а) места Віцебск | | 45—45адв. |
| | | б) тракт з Віцебска да Любавіч | | 45адв.—48 |
| | | в) тракт з Любавіч да места Мсціслаўля | | 48адв.—51 |
| | | г) тракт з Мсціслаўля на Дрыбін да Дуброўны | | 51—55 |
| | | д) тракт з Дуброўны да Віцебска | | 55адв.—56адв. |
| | | е) тракт з места Віцебска да места Смаляны | 19 сакавіка 1769 г. | 57—58 |
| | | ж) тракт са Смалян да места Вязышча | | 58адв.—59 |
| | | з) тракт з Віцебска ад карчмы Бароўкі да Смалян | | 59адв.—62адв. |
| | | і) Аршанскі тракт на Казловічы па левай руцэ за карчмой | | 63—63адв. |
| | | к) тракт, які паварочвае ад Чавус на Оршу праз Казловічы | | 63адв.—65 |
| | | л) тракт са Шклова на Казловічы і Чорнае і да Ляд | | 65—66адв. |
| | | м) тракт з Дуброўны да Оршы | | 66адв.—70 |
| | | 11) Рэвізія трактаў Мсціслаўскага, Рэчыцкага і Мазырскага пав.: | 1765 г. | 71—93 |
| | | а) Мсціслаўскае ваяв. | | 71—78адв. |
| | | б) Рэчыцкі пав. | | 79—90 |
| | | в) Мазырскі пав. | | 90адв.—93 |
| | | 12) Люстрацыя мастоў, грэбляў і гацяў у Віцебскім, Мсціслаўскім і Аршанскім пав. (Копія дакумента № 10) | 28 лютага — 22 сакавіка 1769 г. | 95—109 |
| | | 13) Рэвізія мастоў і грэбляў у княстве Інфлянцкім | б/д | 110—116 |
| | | 14) Люстрацыя мастоў і грэбляў Кернаўскага староства Віленскага пав. | 4 студзеня 1774 г. | 117—119 |
| | | 15) Люстрацыя мастоў і грэбляў на тракце ад маскоўскай граніцы з мястэчка Дабранка на Гомель і Горваль да Глуска | верасень 1765 г. | 121—123адв. |



| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | | 16) Люстрацыя мастоў і грэбляў у маёнтку Глінцішкі Віленскага пав. | б/д | 125—127адв. |
| | | 17) Карта (мапа) граніцы ВКЛ з Маскоўскай дзяржавай на р. Днепр | б/д | 128—129 |
| | | 18) Карта (мапа) злюстраваных трактаў Мазырскага пав. | б/д | 130 |
| | | 19) Апісанне генеральных купецкіх трактаў, гасцінцаў, грэбляў і мастоў Мазырскага пав. з памерай іх даўжыні і шырыні | 4 лютага — 9 ліпеня 1766 г. | 132—136адв. |
| | | 20) Рэестр чопавага і цялежнага падатку Вількамірскага пав. вераснёвай раты 1765 г. | 30 снежня 1765 г. | 138—148адв. |
| | | 21) Тарыфа чопавага і цялежнага падатку Брэсцкага ваяв. сакавіцкай раты 1765 г. | сакавік 1765 г. | 150—158 |
| | | 22) Тарыфа чопавага і цялежнага падатку Вількамірскага пав. Сакавіцкай раты 1765 г. (Чарнавік) | 12 сакавіка 1765 г. | 159—173 |
| | | 23) Рэестр чопавага і цялежнага падатку княства Жамойцкага сакавіцкай раты 1766 г. | сакавік 1766 г. | 175—188адв. |
| | | 24) Тарыфа чопавага і цялежнага падатку Брэсцкага ваяв. вераснёвай раты 1766 г. | 1 студзеня 1766 г. | 189—200 |
| | | 25) Рэестр выбраных падаткаў у Полацкім ваяв. вераснёвай раты 1772 г. падчас люстрацыі земскіх і іншых дымаў | 6 сакавіка 1773 г. | 201—211 |
| 8. | СА-3812 (МФ 1) 14 к. | Інвентар Альсевіцкага староства Ашмянскага пав., якое знаходзіцца ў пасэсіі слонімскага падкаморыя п. Слізня | 30 кастрычніка 1776 г. | 1—3 |
| 9. | СА-3813 (МФ 1) 18 к. | Інвентар падаўчы Шаўдаўскага цівунства Жамойцкага княства пры падачы ў пасэсію Юрыю і Францішцы з Венцлаўскіх Залескім | 15 сакавіка 1766 г. | 1—6 |
| 10. | СА-3815 (МФ 1) 11 к. | Падаўчы ліст з інвентаром дзяржавы Даргяны Вялёнскага пав. Жамойцкага княства | 28 жніўня 1766 г. | 1—2 |
| 11. | СА-3817 (МФ 1) 11 к. | Інвентар падаўчы дзяржавы Калабарышкі Віленскага пав. пры падачы Стэфану і Крыстыне з Янкоўскіх Плявакам, каморнікам Мінскага ваяв. | 9 снежня 1767 г. | 1—2 |
| 12. | СА-3818 (МФ 1) 9 к. | Інвентар каралеўшчыны ўрочышчаў Малакене і Мілянішкі Віленскага пав. | 11 жніўня 1768 г. | 1—2 |
| 13. | СА-3820 (МФ 1—2) 66 к. | Інвентар люстрацыйны маёнткаў артылерыі ВКЛ Ліпнішкі, Геранёны, Насевічы і Рэмезава Ашмянскага пав., фальв. | 1768 г. | 1—55 |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Вяршупе і Віленскай Антакольскай юрыздыкі Віленскага пав. | | |
| | | Дадаткі: | | |
| | | а) Копія фундушавага запісу Віленскаму кляштару францішканаў | 1437 г. | 53адв. |
| | | б) Копія запісу ад п. Міхала Паца, віленскага ваяводы, вял. гетмана ВКЛ, дзесяціны з маёнткаў артылерыі ВКЛ Геранёнскаму касцёлу | 1671 г. | 53адв. |
| 14. | СА-3822 (МФ 1) 8 к. | Інвентар Патумульшскага староства Ковенскага пав. | 22 жніўня 1769 г. | 1—2 |
| 15. | СА-3823 (МФ 1) 12 к. | Інвентар Кубілюнскага староства Жамойцкага княства пры падачы Ігнацію Забеле, мсціслаўскаму кашталянічу | 11 красавіка 1768 г. | 1—4 |
| 16. | СА-3824 (МФ 1—3) 87 к. | Інвентар Платэльскага староства Жамойцкага княства (без тытульнага аркуша і пачатку) | 1768 г. | 1—19адв. |
| 17. | СА-3829 (МФ 1) 8 к. | Інвентар дзяржавы Гердзюны Віленскага пав. пры падачы Юзафу Чыжу, віленскаму гродскаму судзічу | 5 кастрычніка 1769 г. | 1—2 |
| 18. | СА-3832 (МФ 1—2) 55 к. | Инвентар Горждаўскага староства Палончаўскага пав. Жамойцкага княства пры падачы Отану Генрыку дэ Ігельстрому, палкоўніку расійскіх войск | 8 чэрвеня 1769 г. | 1—14 |
| 19. | СА-3833 (МФ 1) 14 к. | Інвентар дзяржавы Жыкавічы і Дэрэні Ашмянскага пав. пры падачы Юзафу Козелу, петыгорскаму паручніку | 10 сакавіка 1769 г. | 1—5 |
| 20. | СА-3834 (МФ 1—4) 175 к. | Інвентар Даўгелішскага староства з фальв. Рымшаны, Цейкіны і Судацкім войтаўствам Ашмянскага і Браслаўскага пав. пры падачы Яну Борху, кароннаму падканцлеру | 8 верасня 1769 г. | 1—48 |
| 21. | СА-3835 (МФ 1) 14 к. | Інвентар дзяржавы Пралоўшчына, або Дубіноўшчына, Браслаўскага пав. пры падачы Казіміру і Гертрудзе з Маслоўскіх Гедройцям | 7 жніўня 1770 г. | 1—3 |
| 22. | СА-3836 (МФ 1) 15 к. | 1) Дэкрэт суда Рэчы Паспалітай Скарбовай камісіі ВКЛ у справе Валянскага з Янам Салагубам, санніцкім старостам, палкоўнікам расійскіх войск, і Валюжынічам аб завінавачанай суме грошаў | 4 лістапада 1774 г. | 3—3адв., 1—1адв. (арк. перастаўлены) |
| | | 2) Інвентар дзяржавы Ракішкі, або Ракоўшчыны, Ковенскага пав. | 4 ліпеня 1770 г. | 2 |



| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 23. | СА-3838 (МФ 1) 9 к. | Інвентар дзяржавы Анцлаўка Ковенскага пав. пры падачы Ігнатовічам, гродзенскім стольнікам | 23 сакавіка 1770 г. | 1—3 |
| 24. | СА-3839 (МФ 1) 11 к. | Інвентар гібернавай вёскі Ужледзі Ковенскага пав. пры падачы Юзафу Забеле, лоўчыцу ВКЛ | 22 мая 1770 г. | 1—2 |
| 25. | СА-3840 (МФ 1) 9 к. | Інвентар дзяржавы Вільчатова | 10 кастрычніка 1770 г. | 1—1адв. |
| 26. | СА-3841 (МФ 1) 18 к. | Інвентар дзяржавы Свідэршчына Браслаўскага пав. пры падачы Ганне з Шымкевічаў Францішкавай Прэвышавай-Квінтавай, браслаўскай падчашынай, пасля смерці яе мужа | 31 ліпеня 1770 г. | 1—4 |
| 27. | СА-3842 (МФ 1) 11 к. | Інвентар дзяржавы Красноўская Браслаўскага пав. пры падачы Антонію Фелькерзамбу, інфлянцкаму харужычу | 20 ліпеня 1770 г. | 1—2адв. |
| 28. | СА-3843 (МФ 1) 18 к. | Інвентар дзяржавы Янішкі Браслаўскага пав. пры падачы Яну Слюнку, мсціслаўскаму ротмістру | 28 красавіка 1770 г. | 1—6 |
| 29. | СА-3844 (МФ 1) 28 к. | Інвентар Тыркшлеўскага староства Жамойцкага княства пры падачы Феліксу і Марыяне з Шукштаў Скарбкам-Важынскім, тэльшэўскім судовым падстаростам | 24 студзеня 1770 г. | 1—7 |
| 30. | СА-3845 (МФ 1) 11 к. | Падаўчы ліст двараніна Скарбу ВКЛ Андрэя Адама Сухадольца, смаленскага чашніка, юдранскага старосты, на дзяржаву Рышкяны Вешвянскага пав. Жамойцкага княства Маўрыцыю Нагурскаму, харужаму бержанскаму | 10 чэрвеня 1769 г. | 1—2 |
| 31. | СА-3846 (МФ 1) 10 к. | Інвентар дзяржавы Боўкі Эйрагольскага пав. Жамойцкага княства пры падачы Яну Пржыалгоўскаму, жамойцкаму падчашаму | 20 мая 1770 г. | 1—2 |
| 32. | СА-3847 (МФ 1) 13 к. | Інвентар дзяржавы Навайці, Кудайці і Кадары Шаўдаўскага пав. Жамойцкага княства пры падачы Францішку і Ганне з Будрыкаў Мусвіцам | 26 жніўня 1770 г. | 1—3 |
| 33. | СА-3848 (МФ 1) 22 к. | Інвентар дзяржавы Алькішкі ў павеце Малых Дырвян Жамойцкага княства пры падачы Бенядыкту Бутлеру. (2 экз. — копія і арыгінал) | 20 кастрычніка 1770 г. | 1—2, 3—6 |
| 34. | СА-3849 (МФ 1) 17 к. | Інвентар дзяржаў Відайці, або Янаполь, і Бернатоўшчына Браслаўскага пав. пры падачы ад Разаліі з Плятараў Рудоміна- | 14 сакавіка 1771 г. | 1—4 |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | | вай, браслаўскай маршалкавай, Юзафу Рудоміне, браслаўскаму маршалковічу | | |
| 35. | СА-3850 (МФ 1) 14 к. | Інвентар дзяржавы Пласоўка Ковенскага пав. пры падачы Мустафе і Хадзі з Крычынскіх Рэйпсэўскім, каралеўскім ротмістрам, татарам | 24 мая 1771 г. | 1—3 |
| 36. | СА-3851 (МФ 1) 14 к. | Інвентар дзяржавы Зімнакрыме, або Бодбале, у Кальварыйскай парафіі Троцкага пав. пры падачы Мацею Славуце | 2 чэрвеня 1770 г. | 1—3 |
| 37. | СА-3852 (МФ 1) 16 к. | Інвентар дзяржавы Гердуканы ў Доўгаўскай парафіі Троцкага пав. пры падачы Юзафу і Ангеліі з Невядомскіх Даноўскім | 8 лютага 1772 г. | 1—3 |
| 38. | СА-3853 (МФ 1) 11 к. | Інвентар дзяржавы Шыланцы Троцкага пав. пры падачы Яну Ахматовічу, каралеўскаму паручніку татарскага палка | 15 лютага 1772 г. | 1—1адв., 3 |
| 39. | СА-3854 (МФ 1) 9 к. | Падаўчы ліст двараніна Скарбу ВКЛ на дзяржаву Нацуны Вялёнскага пав. Жамойцкага староства Станіславу і Еве з Белазораў графам Тышкевічам, гандынскім цівунам | 4 красавіка 1771 г. | 1—2 |
| 40. | СА-3855 (МФ 1) 11 к. | Інвентар дзяржавы Гервойны, Гульбі і Трумпайні Шаўдаўскага пав. Жамойцкага княства пры падачы Юзафу Давойне-Сыльвястровічу, намесніку петыгорскай харугвы войск ВКЛ | 3 сакавіка 1771 г. | 1—3 |
| 41. | СА-3856 (МФ 1) 10 к. | Інвентар дзяржавы Рубішкі, або Рупшышкі, Паюрскага пав. Жамойцкага княства пры падачы Юзафу і Францішцы з Сыльвястровічаў Давейкам | 26 сакавіка 1771 г. | 1—2 |
| 42. | СА-3857 (МФ 1) 15 к. | Інвентар дзяржавы Тарвіды Палончаўскага пав. Жамойцкага княства пры падачы Юзафу і Ганне з Касцюшкаў Кімбарам, ротмістрам Упіцкага пав. | 16 чэрвеня 1771 г. | 1—3 |
| 43. | СА-3858 (МФ 1) 11 к. | Інвентар дзяржавы Гучкомпы Вількійскага пав. Жамойцкага княства пры падачы Юрыю і Еве з Яленскіх Ляўданскім, гродскім пісарам Жамойцкага княства Расенскай рэпартыцыі | 29 ліпеня 1771 г. | 1—2адв. |
| 44. | СА-3859 (МФ 1) 11 к. | Другі экземпляр справы № 43 | | |
| 45. | СА-3860 (МФ 1) 13 к. | Інвентар дзяржавы Бушыны Вяшвянскага пав. Жамойцкага княства пры падачы Юзафу Нагурскаму, земскаму суддзі Жамойцкага княства | 30 верасня 1771 г. | 1—3 |



| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 46. | СА-3861 (МФ 1) 12 к. | Інвентар дзяржавы Гірдзюны Віленскага пав. пры падачы Юзафу Рудоміне, браслаўскаму маршалковічу | 24 сакавіка 1771 г. | 1—2 |
| 47. | СА-3862 (МФ 1—4) 136 к. | Пратакол размежавання выплат падаткаў з фальваркаў, цэхаў і насэсараў месцкіх пляцаў места Гродна | 1772—1783 гг. | 1—73 |
| 48. | СА-3863 (МФ 1) 9 к. | Інвентар дзяржавы Мехі Ашмянскага пав. пры падачы Яну Арамовічу | 31 студзеня 1772 г. | 1—2 |
| 49. | СА-3864 (МФ 1) 23 к. | Інвентар падаўчы і люстрацыя Трабскага староства Ашмянскага пав. пры падачы ў пажыццёвую пасэсію Андрэю і Галіне з Рдултоўскіх Зянковічам, смаленскім кашталянам, трабскім старостам | 3 мая 1772 г. | 1—6 (арк. Задв.—4 не сфатаграфаваны) |
| 50. | СА-3865 (МФ 1) 19 к. | Інвентар Жаранскага староства ў Жаранскім і Медынгянскім паветах Жамойцкага княства пры падачы Юстыне з Пшэцішэўскіх і яе мужу Юзафу Нагурскаму, земскаму суддзі Жамойцкага княства | 13 чэрвеня 1772 г. | 1—4 |
| 51. | СА-3871 (МФ 1—3) 87 к. | Інвентар Даўгелімскага староства з фальв. Даўгелішкі і Цяйкіні і Судацкім войтаўствам у Ашмянскім пав., а таксама фальв. Пымшаны Браслаўскага пав. пры падачы Казіміру і Ізабэлі з Борхаў Плятарам, дунебурскім старостам | 16 снежня 1773 г. | 1—48адв. |
| 52. | СА-3874 (МФ 1) 11 к. | Інвентар дзяржавы Мілюны, або Мілейкі, Браслаўскага пав. пры падачы Мікалаю Пятровічу, браслаўскаму ротмістру | 4 лістапада 1773 г. | 1—2 |
| 53. | СА-3883 (МФ 1) 10 к. | Інвентар дзяржавы Нячуны Вілкамірскага пав. пры падачы Яхіму і Тэрэзе з Кульвінскіх Клімовічам, ашмянскім стражніковічам | 30 жніўня 1773 г. | 1—3адв. |
| 54. | СА-3885 (МФ 1) 12 к. | Інвентар лепнага маёнтка Падракішкі, або Балтушышкі, і вёскі Даргі Вілкамірскага пав. пры падачы Міхалу Юзафу і Разаліі з Віткевічаў Лісецкім, вілкамірскім ротмістрам | 29 жніўня 1774 г. | 1—5 |
| 55. | СА-3886 (МФ 1) 12 к. | Інвентар в. Сікораўшчыны Троцкага пав., належачай да маёнтка Вігратаы п. Яновіча, а цяпер п. Ратынскіх | 21 кастрычніка 1774 г. | 1—3адв. |
| 56. | СА-3887 (МФ 1) 43 к. | Інвентар ключа Нядзведзіцкага Навагрудскага пав. пры падачы віленскаму п. Масальскаму | 16 лютага 1774 г. | 1—12адв. |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 57. | СА-3888 (МФ 1) 23 к. | Інвентар Макнюнскага староства Троцкага пав. войтаўства Шадзюны і Смарлюны Гродзенскага пав. пры падачы Вінцэнту Барычэўскаму | 18 чэрвеня 1774 г. | 1—5 |
| 58. | СА-3889 (МФ 1) 13 к. | Інвентар дзяржавы Таўсаляны, або Міцайці, Тэльшэўскага пав. Жамойцкага княства пры падачы Яну Антонію Бернатовічу, харужаму Вяшвянскага пав. Жамойцкага княства | 15 студзеня 1774 г. | 1—3 |
| 59. | СА-3891 (МФ 1) 11 к. | Інвентар дзяржавы Давідзяны і Лаўмяны Бяржанскага пав. Жамойцкага княства пры падачы Ігнацію Амульскаму | 28 студзеня 1774 г. | 1—5 |
| 60. | СА-3892 (МФ 1) 12 к. | Інвентар дзяржавы Мастэйкі Відуклеўскага пав. Жамойцкага княства пры падачы Шымону Ганіпроўскаму, земскаму суддзі Жамойцкага княства | 21 сакавіка 1774 г. | 1—3 |
| 61. | СА-3894 (МФ 1) 13 к. | Інвентар Дыргялы, або Янаўдова, Коршаўскага пав. Жамойцкага княства пры падачы Антонію Юцэвічу, сакратару пастара Жамойцкага княства | 26 красавіка 1774 г. | 1—3 |
| 62. | СА-3895 (МФ 1) 12 к. | Інвентар дзяржавы Шлед Тэльшэўскага пав. Жамойцкага княства пры падачы Юзафу і Марыяне з Сыльвястровічаў Лепарскім | 6 мая 1774 г. | 1—3 |
| 63. | СА-3896 (МФ 1) 16 к. | Інвентар дзяржаў Гельдзяны і Шліхтыны, або Апушаны, Вяшвянскага пав. Жамойцкага княства пры падачы Антонію Плятару, інфлянцкаму войскаму | 9 мая 1774 г. | 1—5 |
| 64. | СА-3897 (МФ 1) 12 к. | Інвентар пустоўшчын Гардзены і Дамейкі Крожскага пав. Жамойцкага княства пры падачы Яну Аляксандру і Тэадоры з Пятровічаў Вецінгхофам-Шэел, генерал-лейтэнантам войск ВКЛ | 12 кастрычніка 1774 г. | 1—4 |
| 65. | СА-3898 (МФ 1) 8 к. | Інвентар дзяржавы Дыргайце Пасвонскага пав. Жамойцкага княства пры падачы Тадэвушу Юрыю Гайжэўскаму, судовamу падскарбію Жамойцкага княства | 20 верасня 1774 г. | 1—2 |
| 66. | СА-3900 (МФ 1) 15 к. | Інвентар дзяржавы Сугінчы і Кірэі павета Вялікіх Дырвян Жамойцкага княства пры падачы Яну Аляксандру Вецінгхофу-Шэел, генерал-лейтэнанту войск ВКЛ | 5 лістапада 1774 г. | 1—6 |
| 67. | СА-3901 (МФ 1) 13 к. | Інвентар дзяржавы Лаўпайці і Зарубы Тэльшэўскага пав. Жамойцкага княства пры падачы Еве з Гелгудаў Адахоўскай, | 19 снежня 1774 г. | 1—3 |



| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | | цівуновай Малых Дырвян Жамойцкага княства | | |
| 68. | СА-3904 (МФ 1) 16 к. | Інвентар дзяржавы Таўтушы Тэндзягольскага пав. Жамойцкага княства пры падачы Якубу і Канстанцыі з Келпшаў Яленскім, ротмістрам Вількійскага пав. Жамойцкага княства | 7 красавіка 1775 г. | 1—4 |
| 69. | СА-3906 (МФ 1) 20 к. | Інвентар Шакіноўскага староства Жамойцкага княства пры падачы Яну Быстраму, маёру войск ВКЛ | 10 красавіка 1775 г. | 1—4 |
| 70. | СА-3907 (МФ 1) 9 к. | Інвентар дзяржавы Рышкяны Жамойцкага княства пры падачы Маўрыцыю і Людовіцы Нагурскім, харужым бяржанскім | 11 красавіка 1775 г. | 1—3 |
| 71. | СА-3908 (МФ 1) 28 к. | Інвентар Вількійскага лясніцтва Жамойцкага княства пры падачы Ігнацію і Ізабэлі з Любамірскіх Патоцкім, вялікім пісарам ВКЛ | 23 чэрвеня 1775 г. | 1—21адв. |
| 72. | СА-3909 (МФ 1) 12 к. | Інвентар дзяржавы Вітагола і Клюкі Каршэўскага пав. Жамойцкага княства пры падачы Крыштафу і Юзэфе з Бутлераў Шчытам, каралеўскім шамбелянам | 21 чэрвеня 1775 г. | 1—4 |

## Вопіс № 2 мікрафотакопій інвентароў і люстрацый з фонда Гродзенскай казённай палаты (калекцыя)

| № п/п | № справы | Назва | Дата | Архіўныя аркушы |
|---|---|---|---|---|
| 1. | СА-11291 (МФ 1—7) 258 к. | Інвентар Гродзенскай эканоміі, Сакольскага і Навадворскага лясніцтваў Гродзенскага пав.: | 7 чэрвеня 1712 г. | 1—141 |
| | | Гродзенская эканомія | | 1—100адв. |
| | | Сакольскае лясніцтва | | 101—120адв. |
| | | Навадворскае лясніцтва | | 121—136адв. |
| 2. | СА-11299 (МФ 1) 31 к. | Інвентар авульса (ключа) Скалубава Гродзенскага пав. | 1 ліпеня 1780 г. | 1—7адв. |
| 3. | СА-11488 (МФ 1—4) 112 к. | Рэвізія і інвентар Брэсцкай эканоміі і Брэсцкага замка, гарадоў, фальваркаў і валасцей | 1680 г. | 1—86адв. |
| | | Геаграфічны паказальнік да інвентара | XVIII ст. | 87—92 |
| 4. | СА-11497 (МФ 1—4) 126 к. | 1) Ліст караля Аўгуста III каралеўскім камісарам Юзафу Пшылускаму, варшаўскаму войскаму, і Францішку Расткоўскаму, пісару кароннага скарба, аб падачы Брэсцкай і Кобрынскай эканоміі ў адміністрацыю | 31 ліпеня 1735 г. | 1—3адв. |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | | графу Каралю Сядльніцкаму, падканюшаму ВКЛ, Мельніцкаму старосце | | |
| | | 2) Інвентар Брэсцкай і Кобрынскай эканомій пры передачы ў адміністрацыю графу Каралю Сядльніцкаму: | жнівень—кастрычнік 1735 г. | 4—100адв. |
| | | Брэсцкая эканомія | | 4—44адв. |
| | | Кобрынская эканомія | | 45—99 |
| | | Геаграфічны паказальнік да інвентара | | 101—106 |
| 5. | СА-11537 (МФ 1—2) 51 к. | Люстрацыя дымоў і насельніцтва Гродзенскай эканоміі і часткі Алітскай эканоміі: | 1796 г. | 1—13 |
| | | Гродзенская эканомія | | 1—9 |
| | | Частка Алітскай эканоміі | | 9адв.—10 |
| | | Гродзенская юрыздыка | | 10адв.—11 |
| | | Сумарыуш | | 11адв.—12 |
| | | Лясніцтва Гродзенскай эканоміі | | 13 |
| 6. | СА-11555 (МФ 1—2) 42 к. | Камісія Брэсцкай эканоміі, праведзеная каралеўскімі камісарамі Станіславам Гадлеўскім, каронным рэгентам, нурскім старостай, Цыпрыянам Крэнскім, вялюнскім харужым, і Якубам Зыгмунтам Рыбінскім, пакаёвым дваранінам караля. | 11—20 жніўня 1700 г. | (старонкі) 1—83 |
| | | У т. л. у складзе дакумента: | | |
| | | а) Інструмент (інструкцыя) каралеўскім камісарам ад караля Аўгуста II | | 2—11 |
| | | б) Апісанне гаспадаркі эканоміі | | 12—20 |
| | | в) Апісанне правоў насэсараў частак эканоміі і шляхецкіх вёсак эканоміі паводле каралеўскіх прывілеяў | | 20—59 |
| | | г) Камісарскія дэкрэты па Брэсцкай эканоміі | | 60—62 |
| | | д) Апісанне корчмаў эканоміі, скаргаў аб парушэнні граніц, выплаты падаткаў і гіберны, парадку разглядання скаргаў з боку пасэсараў і сялян, абавязкаў адміністратара эканоміі і інш. | | 64—80 |
| | | е) Прывілей караля Аўгуста II аб прызначэнні камісіі ў Брэсцкую эканомію | | 82—83 |

[1] Скарбовая камісія ВКЛ была заснавана ў 1670 г., а канчаткова зацверджана пастановай сейма 1683 г. Камісія збірала і фіксавала падаткі з уладальнікаў прыватных маёнткаў, здзяйсняла агульнае кіраўніцтва скарбовымі староствамі, з якіх збіраліся падаткі на ўтрыманне вялікакняжацкага двара, дзяржапарату і войска, складала інвентары і люстрацыі дзяржаўных маёнткаў. Пасля скасавання ў 1764 г. Скарбовага трыбунала камісія ўзяла на сябе яго абавязак па судовым разглядзе маёмасных і межавых спрэчак паміж дзяржаўнымі і прыватнымі маёнткамі, спагнанне нядоімак у судовым парадку. Установа спыніла існаванне пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 г.



***Г. М. Брэгер, Л. А. Лінская***

## ФРАГМЕНТ АРХІВА СЛУЦКАГА ТРАЙЧАНСКАГА СВЯТА-ТРАЕЦКАГА МАНАСТЫРА Ў ФОНДАХ НАЦЫЯНАЛЬНАГА МУЗЕЯ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ (1650—1687)

У выпуску 5 БАШ[1] распачата публікацыя апісання дакументаў архіва Слуцкага Трайчанскага Свята-Траецкага манастыра, які захоўваецца ў фондах Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі. Працяг апісання дакументаў у дадзенай публікацыі ахоплівае № 89—194, з якіх 105 дакументаў адносяцца да 1650—1687 гг. Паводле каталога А. Сніткі цяпер адсутнічаюць дакументы пад № 160, 164, і маецца адзін не нумараваны дакумент, якому ў каталозе дадзены № 164-bis.

Апісаныя дакументы тычацца як уласна Трайчанскага манастыра і яго маёмасці, так і іншых цэркваў і манастыроў Слуцкай архімандрыі. Вялікую цікавасць выклікаюць перапіска царкоўных іерархаў, універсалаў караля Рэчы Паспалітай і мітрапаліта Кіеўскага, якія датычаць праваслаўнай царквы ў дзяржаве, прывілеі, ардынацыі і іншыя лісты Радзівілаў, дадзеныя Слуцкай архімандрыі. Даволі шырока ахопліваецца ў дакументах геаграфія паселішчаў (не толькі Слуцкага княства, але і ВКЛ, украінскіх рэгіёнаў Кароны Польскай і Расійскай дзяржавы). Шырока прадстаўлены аўтографы і адбіткі пячатак розных асоб і дзяржаўных устаноў ВКЛ.

Прынцыпы археаграфічнага апісання вытрыманы ў рамках папярэдніх публікацый.

89. Прыватны ліст (пісьмо) [дарожскага ўрадніка] Абрагама Пшэторскага да Васіля Скачкевіча з паведамленнем аб няведанні, чаму даманавіцкія падданыя не выплацілі мядовай дані на Слуцкую царкву Св. Спаса, і абяцаннем пасла́ць слугу для атрымання дані ад падданых. Слаўкавічы, 14.02.1650.
   След кустадыйнай пячаткі і подпіс: Абрагам Пшэторскі.
   Арыгінал. Пол. м. Філіграль. 1 арк. (арк. 179—179адв.).

90. Выпіс з кніг Слуцкага замкавага суда. Сазнанне Фёдара Таратуты і яго жонкі Марушы Авяркевічаўны Бялкоўскай аб атрыманні належных грошаў за тры валокі зямлі ў вёсцы Навадворскай і зямлю ў Гурах, што некалі ім даў ў карыстанне нябожчык падчашы ВКЛ кн. Януш Радзівіл, ад Юркі Сямёнавіча, якому гэтыя землі цяпер передаў віленскі падстолі, дазорца княжацкіх маёнткаў Ян Сасноўскі. Слуцк, 28.04.1650.

Пячатка на кустодыі М. Бучынскага. Подпісы: Мікалай Бучынскі, падстароста слуцкі; Мікалай Крукоўскі, пісар.
Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. Ст. сігн.: № 19. 1 арк. (арк. 180).

91. Прыватны ліст (пісьмо) Яўфеміі Кярсноўскай Шчаснай Мерлінай да мітрапаліта Кіеўскага, Галіцкага і ўсёй Русі Сільвестра Косава з паведамленнем аб пасылцы яму копій дакументаў яе змерлага мужа на фальварак Амялянік, які трымаюць за даўгі крэдыторы, і просьбай дапамагчы ёй у справе адсуджэння маёнтка на сойме ў Варшаве. Слуцк, 12.11.1650.
Пячатка на чырвоным сургучы і подпіс: Яўфемія Кярсноўская Шчасная Мерліная.
Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. 2 арк. (арк. 181—182адв.; арк. 182 — чысты, з адрасам).

92. Прыватны ліст (пісьмо) слуцкага войта Сымона Ваўковіча да княжацкага рэвізора Самуэля Лязніцкага з паведамленнем аб пасылцы да яго енерала пана Прашыцкага для вырашэння справы войта з панам Летавам. Слуцк, 26.05.1654.
Пячатка на кустодыі і подпіс: Сымон Ваўковіч, войт слуцкі.
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 1 арк. (арк. 183).

93. Выпіс з кніг Луцкага гродскага суда ад 9.09.1651. Універсал караля і вял. кн. Яна Казіміра, выдадзены па просьбе мітрапаліта Кіеўскага, Галіцкага і ўсёй Русі Сільвестра Косава, на ахову манастыроў, цэркваў, святароў грэцкай (праваслаўнай) рэлігіі і іх маёнткаў ад жаўнераў і вызваленне ад вайсковых падаткаў. (Універсал прадстаўлены ў суд прэфектам калегіума пры Кіеўскай брацкай царкве Тэадосіем Васілевічам Баеўскім.) Варшава, 31.08.1651.
Пячатка на кустодыі Луцкага гродскага суда і луцкага старосты (імя не зразумела, кепскі адбітак).
Подпісы: звяраў [Павел] Сілява, [намеснік бургграбства Луцкага]; чытаў Перацяткавіч.
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. Ст. сігн.: № 11. 2 арк. (арк. 184—185).

94. Прыватны ліст (пісьмо) законніка [Цэперскага манастыра] Грыгорыя Пашкевіча-Талаконскага да браціі брацтва царквы Праабражэння Гасподняга ў Слуцку з выбачэннямі, што не можа хутка да іх прыехаць, бо яшчэ не мае дазволу ад свайго старшага, а таксама яшчэ не абраны старшы Слуцкага брацтва. Цэпра, 13.05.1652 (стары стыль).
Пячатка кустадыйная (кепскай якасці) і подпіс: Грыгоры Пашкевіч-Талаконскі, законнік Р. С. Б. В. (рэгулы св. Базылія Вялікага).
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 186—187адв.; арк. 187 — чысты, з адрасам).

95. Выпіс з кніг Наўгародскага гродскага суда. Скарга зямяніна Слуцкага княства Пятра Тышэвіча на падданых сёл Бярэзнікі і Малеевічы маёнтка Урэчча Слуцкага княства, які ў застаўным трыманні наўгародскага земскага пісара Юрыя Пратасовіча, аб нападзе на астравы-ўрочышчы Пясчанае Пагноішча і Карчова, якія належаць падданым скаржніка сяла Грычыновічы, пажацці і крадзяжы жыта. Таксама рэляцыйны квіт енерала Наўгародскага ваяв. Аляксандра Гратоўскага ад 21.08.1652 аб аглядзе гэтых шкодаў. Навагародак, 28.08.1652.
Пячатка на кустодыі Наўгародскага гродскага суда (кепскай якасці).
Подпісы: Яранім Укольскі, пісар; скарыгаваў Гутаровіч.
Арыгінал. Стб. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 188—189).



96. Выпіс з кніг Галоўнага Трыбунала ВКЛ у Навагародку ад 11.10.1652. Выпіс з кніг Ваўкавыскага гродскага суда ад 12.05.1650 інтрамісійнага квіта енерала ЯКМ Ваўкавыскага пав. Станіслава Даўгялы аб падачы ва ўласнасць ваўкавыскаму гродскаму суддзі Яну Смагарэўскаму і яго жонцы Гелене Трызнянцы вёсак Баянічы і Ніжын Наўгародскага ваяв. паводле прадажнага ліста ад зямян ЯКМ Наўгародскага ваяв. Геранімa Бруханскага і яго жонкі Аляксандры Скабейкаўны. Без месца, 6.05.1650.
Копіі подпісаў: Крыштаф Завіша, маршалак надворны ВКЛ, маршалак трыбунальскі; Віктар Азяблоўскі, дэпутат вількамірскі; Юзаф Талаконскі, дэпутат браслаўскі; Самуэль Уніхоўскі, дэпутат навагрудскі; Андрэй Калантай, дэпутат ваўкавыскі; Мікалай Сегень, дэпутат ваўкавыскі; Казімір Быкоўскі, дэпутат слонімскі; Максіміліян Стравінскі, дэпутат старадубаўскі; Аляксандр Сіруць, дэпутат упіцкі; Міхал Пацей, дэпутат брэсцкі; Юры Пратасовіч, пісар [земскі наўгародскі]; скарыгаваў Быкоўскі.
Копія XVIII ст. Стб. м. (пол. літ.) і пол. м. Філігрань. Ст. сігн.: № 9; 3. 2 арк. (арк. 190—191адв.; аркушы разарваны, цяпер паасобку).

97. Пяць квітацый манаха Іллі Рамановіча, О. Д. Б. М. (абрэвіятура не расшыфравана), аб атрыманні за кожны квартал у 1652 і 1653 гг. па 200 злотых ад Грыгорыя Ярашэвіча, старосты Слуцкага брацтва пры царкве Св. Спаса, паводле вуснай дамоўленасці з брацтвам. Слуцк, пры царкве Св. Спаса, 18.10.1652, 18.01.1653, 18.04.1653, 18.07.1653, 18.10.1653 (стары стыль).
Подпісы: Св. манах Ілля Рамановіч, О. Д. Б. М.
Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. Ст. сігн.: «квітацыі». 1 арк. (арк. 192).

98. Прыватны ліст (пісьмо) багамольца (манаха?) [Цэперскага манастыра] Міхаэля Грэковіча да браціі Слуцкага брацтва пры царкве Праабражэння Гасподняга з паведамленнем, што ніякіх лістоў ад мсціслаўскага епіскапа не атрымоўваў, але згаджаецца на кандыдатуру старшага Слуцкага брацтва айца Пашкевіча і запрашае наведаць яго манастыр. Манастыр Цэперскі, 2.06.1652.
Пячатка на кустодыі і подпіс: багамолец Міхаэль Грэковіч.
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 193—194адв.; арк. 194 — чысты, з адрасам).

99. Пабаровы квіт паборцаў Навагрудскага ваяв. Самуэля Крыштафа Уняхоўскага і Яна Пратасовіча-Астроўскага, выдадзены Пятру Тышэвічу ў сувязі з выплатай ім падымнага на заплату войску ВКЛ 156 злотых са свайго маёнтка Хранова ў Слуцкім княстве, г. зн. з 104 дымоў у сёлах Хранова, Дарашкевічы, Грычыновічы і Бранава-Ушаловічы. Навагрудак, 24.09.1653.
Дзве пячаткі на кустодыі С. К. Уняхоўскага і Я. Пратасовіча.

Подпісы: Самуэль Крыштаф Уняхоўскі, паборца в-ва Навагрудскага; Ян Пратасовіч-Астроўскі, паборца в-ва Навагрудскага; [заплочана] зл. 156, Стэцкевіч.
Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. Ст. сігн. (?): 38-12-4. 1 арк. (арк. 195).

100. Прыватны ліст (пісьмо) сакратара ЯКМ Мацея Ворбека-Летава да віленскага стольніка Яна Сасноўскага з паведамленнем, што Слуцкае брацтва Св. Спаса дарэмна турбуе яго наконт дані з вострава Качова, які ён не трымае, а хай брацтва звяртаецца непасрэдна да яго падданых даманаўцаў. Дарогі, 27.01.1654.
Пячатка на кустодыі і подпіс: Мацей Ворбек-Летаў, ЯКМ сакратар.
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 196—197адв.; арк. 197 — чыстыя, з адрасам).

101. Той жа тэкст, што ў дакуменце № 81-б. Слуцк, 8.01.1654. 1 арк. (арк. 198).

102. Той жа тэкст, што ў дакуменце № 81-а. Слуцкі манастыр Св. Тройцы, 1.10.1647. 1 арк. (арк. 199).
Тагачасная копія. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 198—199; абодва дакументы № 101 і 102 напісаны на двух аркушах аднаго стандартнага ліста, перакладзенага напалам).

103. Рээстр грашовых сум па облігах ад розных асоб, якія належаць Слуцкаму брацтву царквы Праабражэння Гасподняга і знаходзяцца ў распараджэнні брацкіх старостаў Сямёна Ваўковіча, слуцкага войта, і Івана Скачкевіча. Без месца, 13.02.1655.
Без пячатак і подпісаў.
Арыгінал. Пол. м. Філіграні. 4 арк. (арк. 200—203; арк. 200 — тытульны, арк. 202, 203 — чыстыя).

104. Рэкагніцыйны ліст Генрыха Ванзелева, скавышынскага намесніка пана Летава, выдадзены айцу ігумену і Захарыяшу Ваўковічу, пасланых ад Слуцкага брацтва Св. Спаса для вырашэння справы з падданымі сяла Даманавічы аб востраве Качова, з вызначэннем парадку і тэрмінаў выдачы мядовай дані ад згаданых падданых брацтву. Восава, 27.01.1656.
Пячатка на кустодыі не захавалася.
Подпіс: Генрых Ванзелеў, намеснік скавышынскі.
Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. Ст. сігн.: № 12. 1 арк. (арк. 204).

105. Квітацыйны ліст Слуцкага брацтва царквы Праабражэння Гасподняга Пятру Тышэвічу аб атрыманні ад яго в. Грычыновічы, якую яго бацька-нябожчык Амяллян Тышэвіч і іншыя слуцкія абывацелі, купіўшы з дазволу віленскага кашталяна [Багуслава Радзівіла] у зямян Слуцкага княства Ванкевічаў, запісалі на шпіталь пры Слуцкай царкве Св. Стэфана; а за невяртанне вёскі ў тэрмін П. Тышэвіч абавязаны зруйнаваную царкву св. Стэфана і шпіталь адрэстаўрыраваць. Слуцк, 1656 г. (без дня і месяца).
Подпісаў і пячатак няма.
Арыгінал (чарнавы варыянт). Пол. м. Без філіграні. Ст. сігн.: № 5. 1 арк. (арк. 205).

106. Прыватны ліст (пісьмо) манаха [Дзяцелавіцкага манастыра] Тэадосія Васілевіча да брацііі Слуцкага брацтва пры царкве Праабражэння Гасподняга з прэтэнзіяй аб нявыплаце яму пэўных працэнтаў з сумы грошаў, запісанай тэстаментам нябожчыка пана Дабранскага. Дзяцелавічы, 1.03.1657 (стары стыль).
Пячатка на кустодыі не захавалася, але застаўся след на мастыцы (кепскі).
Подпіс: багамолец і слуга Тэадосі Васілевіч.
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 206—207адв.; арк. 207 — чыстыя, з адрасам).



107. Прыватны ліст (пісьмо) манаха-базыльяніна Грыгорыя Пашкевіча да абывацеля места Слуцка Яна Скачкевіча з падзякай за пэўную дапамогу яму падчас службы. Пінск, 8.12.1656 (стары стыль).
Пячатка на чырвоным сургучы не захавалася.
Подпіс: Грыгоры Пашкевіч, базыльянін.
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 208—209адв.; арк. 209 — чыстыя, з адрасам).

108. Выпіс з кніг Слуцкага замкавага суда. Скарга зямяніна Слуцкага княства Пятра Тышэвіча на старосту Слуцкага брацтва пры царкве Праабражэння Гасподняга Івана Скачкевіча аб заўчасным захопе падданых в. Грычыновічы і недапушчэнні пасланцоў скаржніка Базыля Сечкі і Мікалая Тышэвіча для верыфікацыі даходаў і выдаткаў з вёскі, каб паводле дэкрэта перадаць вёску брацтву. Слуцк, 21.03.1657.
Арыгінал (дублетны экземпляр без пячаткі і подпісаў). Пол. м. Філігрань. 1 арк. (арк. 210).

109. Выпіс з кніг Слуцкага замкавага суда. Апавяданне ўрадавага віжа Марка Ваўка аб нез’яўленні Пятра Тышэвіча з-за хваробы, замест якога, але без даверанасці былі паны Казакевіч, Ціхан Баткел і Сечка для справаздачы аб даходах і выдатках в. Грычыновічы, прыналежнай шпіталю пры Слуцкай царкве Св. Стэфана, перад Іванам Скачкевічам, Тэадорам Ваўковічам і інш. брацііяй Слуцкага брацтва царквы Праабражэння Гасподняга. Слуцк, 22.03.1657.
Пячатка на кустодыі Слуцкага падстаросты Даменіка Валуцкага.
Подпіс: Мікалай Крукоўскі, пісар [Слуцкага замка].
Арыгінал. Стб. м. Філігрань. 1 арк. (арк. 211).

110. а) Квітацыйны ліст брацііі брацтва пры царкве Праабражэння Гасподняга ў Слуцку Пятру Тышэвічу ў сувязі з передачай у распараджэнне брацтва сяла Грычыновічы, запісанага некалі нябожчыкам Амяллянам Тышэвічам і інш. на шпіталь пры Слуцкай царкве Св. Стэфана, усёй рухомасці паводле інвентара і здзяйсненнем справаздачы аб даходах і выдатках сяла за апошнія шэсць гадоў. Слуцк, 22.03.1657.
Кустадыйная пячатка брацтва.
Подпісы: свяшчэннаінак Ілля Рамановіч, ігумен манастыра брацтва Слуцкага, з усёю брацііяю таго ж манастыра (стб. м.); Ян Ляўковіч; Іван Скачкевіч, брацкі староста гэтага года; Грыгоры Скарыніч-Стэфановіч; Тэадор Ваўковіч; Ян Стрэльніковіч (усе — пол. м.).
б) Нататка ўнізе, што гэтая квітацыя П. Тышэвічу не выдадзена, бо ён не зрабіў справаздачы аб в. Грычыновічы. Без месца і даты.

Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 212—213; арк. 213 — чысты).

111. Выпіс з кніг Слуцкага замкавага суда. Скарга ленінскага дзяржаўцы Базыля Глушкевіча на слуцкага мешчаніна Матвея Ваўковіча, завядоўцу в. Грычыновічы Слуцкага княства, аб забароне падданым гэтай вёскі выконваць даўнюю павіннасць ва ўдзеле аблавы на звяроў у Ленінскай пушчы. Слуцк, 4.02.1658.
Пячатка на кустодыі слуцкага падстаросты Самуэля Лязніцкага.
Подпіс: Мікалай Крукоўскі, пісар [Слуцкага замка].
Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. 1 арк. (арк. 214).

112. а) Позва ад імя полацкага кашталяна, ротмістра ЯКМ, слуцкага намесніка Яна з Сасноўцаў на Грозаве Сасноўскага зямяніну Слуцкага княства Пятру Амяллянавічу Тышэвічу ў Слуцкі замкавы суд па скарзе старосты брацтва царквы Праабражэння Гасподняга ў месце Слуцку Івана Скачкевіча аб няўступцы в. Грычыновічы ў карыстанне брацтву паводле дэкрэта слуцкага намесніка. Слуцк, 20.02.1657.
Кустадыйная пячатка Я. Сасноўскага або ўрада Слуцкага замка (вельмі кепскай якасці).
Подпіс: Мікалай Крукоўскі, пісар [Слуцкага замка] стб. м.).
б) Нататка на затылку аб падачы слуцкім урадавым віжам Лаўрынам Высакінскім гэтай позвы 20.02.1657 П. Тышэвічу ў яго маёнтку Хранова Слуцкага княства. Без месца, 21.02.1657.
Подпіс: Крукоўскі, пісар.
Арыгінал. Пол. м.(позва); стб. м. (нататка). Без філіграні. 1 арк. (арк. 215).

113. Выпіс з кніг Слуцкага замкавага суда. Скарга духоўных і свецкіх братчыкаў Слуцкага брацтва царквы Праабражэння Гасподняга айца Іллі Рамановіча, ігумена брацкага манастыра, Яна Ляўковіча і Мацея Ваўковіча, брацкіх старостаў, на слуцкага мешчаніна Базыля Глушкевіча аб нападзе падданых яго Ленінскай дзяржавы на брацкую в. Грычыновічы, збіцці падданых і прымушэнні іх выконваць яму павіннасці. Таксама сазнанне слуцкага ўрадавага віжа Марка Ваўка аб агглядзе 23.02.1658 гэтых збітых падданых. Слуцк, 25.02.1658.
Пячатка на кустодыі слуцкага падстаросты Самуэля Лязніцкага.
Подпіс: Мікалай Крукоўскі, пісар [Слуцкага замка].
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. Ст. сігн.: «Брацкая [справа]»; «Грычыноўскія справы, штук 6». 2 арк. (арк. 216—217адв.; арк. 217 — чысты, з затылкам).

114. Выпіс з кніг Слуцкага замкавага суда. Скарга войта места Слуцка Базыля Тышэвіча на слуцкага архімандрыта, ігумена Кіеўскага Міхайлаўскага і Грозаўскага манастыроў айца Тэадозія Васілевіча аб загадзе падданым вёсак Ямінск, Шыпілавічы, Рэдкавічы, Сенягова, Пухавічы і Убібахі на Палессі ў Слуцкім княстве Навагрудскага ваяв., якія скаржнік трымае арэндай за 3 000 злотых ад манастыра Св. Тройцы Слуцкай архімандрыі, не выконваць павіннасці арандатару. Таксама рэляцыйны квіт енерала Навагрудскага ваяв. Станіслава Беляkоўскага ад 25.06.1658 апытання сялян згаданых вёсак, прыналежных да фальварка Шыпілавічы, аб прычынах невыканання павіннасцей. Слуцк, 1.08.1658.
Пячатка на кустодыі слуцкага падстаросты Самуэля Лязніцкага.



Подпіс: Мікалай Крукоўскі, пісар [Слуцкага замка].
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. Ст. сігн.: № 1; 6-ы. 2 арк. (арк. 218—219адв.; арк. 219 — чысты, з затылкам).

115. Выпіс з кніг Пінскага гродскага суда. Скарга слуцкага архімандрыта айца Тэадозія Васілевіча аб забароне казакамі войска Запарожскага пачынаючы з 1655 г. выплочваць сялянамі сёл Сімагостычы, Малешава і Юрковічы Пінскага пав., якія скаржнік трымае паводле пэўнага права ад крайчага ВКЛ кн. Міхала Казіміра Радзівіла, пажыткаў скаржніку і падаткаў у Скарб Рэчы Паспалітай. Пінск, 17.05.1658.
Подпіс на затылку: у адсутнасці пана падпіска скарыгаваў Рыжкевіц.
Арыгінал (дублетны экземпляр без пячаткі падстаросты і подпісу пісара). Стб. і пол. м. Філігрань. 1 арк. (арк. 222).

116. Прыватны ліст (пісьмо) слуцкага падстаросты Самуэля Лязніцкага да слуцкага архімандрыта айца Тэадозія [Васілевіча] з зычэннем здароўя і іншых пажаданняў і просьбай прыняць яго для вырашэння пэўнай справы. Слуцк, 26.06.1658.
Пячатка на кустодыі (кепскай якасці) і подпіс: Самуэль Лязніцкі, падстароста слуцкі.
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 220—221адв.; арк. 221 — чысты, з адрасам).

117. Прыватны ліст (пісьмо) Ул[адыслава] Гурына да айца слуцкага архімандрыта з паведамленнем, што яго ліст да пана Дабкевіча прачытаны, які перадае айцу падзяку за добрыя словы і просьбу паведамляць аб падзеях ва Украіне для пэўных перасцярог. Слуцк, 10.12.1658.
Пячатка на кустодыі і подпіс: Ул. Гурын.
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 223—224адв.; арк. 224 — чысты, з затылкам).

118. Прыватны ліст [слуцкага архімандрыта] Тэадозія Васілевіча да брацііі Слуцкага брацтва пры царкве Праабражэння Гасподняга з тлумачэннямі аб сваім раптоўным ад'ездзе са Слуцка і абяцаннямі садзейнічаць дапамозе брацтву. Лахва, 3.03.1659.
Пячатка на кустодыі і подпіс: Тэадозі Васілевіч.
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 225, 227; арк. 227 — чысты, з затылкам.
*Заўвага*: збой пагінацыі, арк. 226 — гл. дак. № 119).

119. а) Ліст-заказ слуцкага падстаросты Самуэля Лязніцкага слуцкім мяшчанам Фёдару «Казлу» і Фёдару «Татарыну» Каненкам з'явіцца ва ўрадзе Слуцкага замка а трэцяй гадзіне пасля палудня, каб адказаць на скаргу брацтва Праабражэння Гасподняга аб аддачы сумы грошаў паводле іх запісу. Слуцк, 10.01.1659.
Пячатка кустадыйная С. Лязніцкага (кепскай якасці).
Подпіс: Мікалай Крукоўскі, пісар [Слуцкага замка].
б) Нататка на адвароце аб сазнанні ўрадавага віжа Івана Колакала аб падачы гэтага ліста-заказу згаданым мяшчанам. Без месца, 10.01.1659.
Подпіс: Крукоўскі, пісар.
Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. 1 арк. (арк. 226—226адв.).

120. Прыватны ліст (пісьмо) [слуцкага архімандрыта] Тэадозія Васілевіча да камісараў у Слуцкім княстве Казіміра Клакоцкага і Уладыслава Гурына з тлумачэннямі, што не абавязаны дапамагаць айцу ігумену брацкаму, але сам айцец мітрапаліт Кіеўскі лістом у Слуцкую кансісторыю загадаў ігумену засядаць у судзе, які працуе толькі па пятніцах не больш за адну гадзіну. Лахва, 13.03.1659.
Пячатка на кустодыі і подпіс: Тэадозі Васілевіч.
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 228—229адв.; арк. 229 — чысты, з адрасам).

121. Ардынанс (інструкцыя) ад слуцкага архімандрыта Тэадозія Васілевіча для свайго ўрадніка маёнткаў Слуцкай архімандрыі Пятра Данішэўскага, які рэгламентуе вядзенне гаспадаркі ў фальварку Шыпілаўскім з вёскамі Шыпілавічы, Рэдкавічы, Ямінск, Пухавічы і ў мястэчку Трайчаны. Без месца, 14.03.1659.
Подпіс: Тэадозі Васілевіч, архімандрыт слуцкі.
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. Ст. сігн.: № 46, да Архімандрыі належыць: «О шипиловичах». 2 арк. (арк. 230—231адв.).

122. Выпіс з кніг Наўгародскага гродскага суда ад 10.04.1659. Квіт-напіс енерала Наўгародскага ваяв. Казіміра Прэздзецкага (Пшаздзецкага) аб падачы адкрытага («атварыстага») ліста-абвесткі ад падчашага ВКЛ кн. Міхала Казіміра Радзівіла слуцкаму архімандрыту айцу Тэадозію Васілевічу ў м-ку Лахва Наўгародскага ваяв. аб жаданні ў пэўны тэрмін выкупіць у апошняга з заставы за 10 000 злотых гэты маёнтак. Без месца, 2.04.1659.
Пячатка кустадыйная Наўгародскага гродскага суда або наўгародскага падваяводы Яна з Харлежа Харлінскага (кепскай якасці).
Подпісы: Станіслаў Жаба, пісар [гродскі наўгародскі]; у адсутнасці пана падпіска скарыгаваў Савіцкі.
Арыгінал. Стб. і пол. м. Філігрань. Ст. сігн.: № 64. 1 арк. (арк. 232).

123. Выпіс з кніг Пінскага гродскага суда ад 24.01.1660. Тэстамент гаспадараўны земляў Малдаўскіх княжны Марыі Янушавай Радзівілавай, віленскай ваяводзінай, вял. гетманавай ВКЛ, казімерскай, барысаўскай, сейвенскай, вількійскай, рэтаўскай і быстрыцкай старосцінай, якім загадвае пахаваць сваё цела па праваслаўным абрадзе ў царкве Св. Духа ў Вільні, а шасціразовую суму па 100 000 злотых, забяспечаную ёй мужам на маёнтках Заблудаў і Беліца, запісвае Віленскаму брацкаму [Свята-Духаваму] манастыру, Заблудаўскаму манастыру і школе пры ім, Слуцкаму калегіуму і школе, Слуцкаму Свята-Траецкаму манастыру на рэстаўрацыю, Мінскім манастырам пры царкве Св. Пятра і Паўла і іншым цэрквам і манастырам. Любеч (!, трэба Любча), 29.11.1659.
Копіі подпісаў: Пётр Паклонскі, пісар гродскі пінскі; скарыгаваў Каплінскі.
Тагачасная копія. Стб. і пол. м. Філіграні. Ст. сігн.: № 1. 4 арк. (арк. 293—296адв.).
*Заўвага*: збой пагінацыі — нумарацыя аркушаў 233—292 прапушчана.

124. Вытрымкі з тэстамента віленскай ваяводзінай княжны Марыі Янушавай Радзівілавай ад 24.01.1660 (!, гэта дата актыкацыі, гл. дак. № 123), з пазначэннем цэркваў і манастыроў, якім зроблены грашовыя запісы. Без месца і даты.



Арыгінал дакумента 2-й пал. XVII ст. Пол. м. Філігрань. Ст. сігн.: № 7. 1 арк. (арк. 297).

125. Ліст служэбніка кн. [Багуслава Радзівіла] Крыштафа Вінклера аб наданні Траецкаму манастыру пляца № 8 на Рынку ў Слуцку між Цёмнымі крамамі для пабудовы новай крамы ў сувязі са спаленнем манастырскай крамы № 7 падчас пажару ўсіх крам і спіхлераў на Рынку 29.10.1669. Слуцк, 2.12.1669.
Пячатка на кустодыі і подпіс: Крыштаф Вінклер.
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. Ст. сігн.: № 8; 41; 69; 101; 36. 1 арк. (арк. 298).

126. Ліст-обліг («голы мемрам» з затылкам і подпісам) слуцкага архімандрыта Тэадозія Васілевіча на пазычаныя 900 злотых і 40 грывен серабра ў айцоў шафараў Саборнай царквы Успення Найсвяцейшай Панны ў Слуцкім замку з тэрмінам вяртання пазыкі ў храмавае свята гэтай царквы ў 1667 г. у Слуцкім Свята-Траецкім манастыры. Без месца і даты [1667 г.].
Подпісы: Тэадозі Васілевіч, архімандрыт слуцкі; Ян Адляніцкі-Пачобут; Аляксандр Крукоўскі.
Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. Ст. сігн.: № 13. 1 арк. (арк. 299—299адв.).

127. Выпіс з кніг Наўгародскага земскага суда. Дэкрэт у справе наўгародскіх гаспадарскіх зямян Яна Абрамавіча Ваўчка і яго жонкі Зузаны Кіяноўскай з паннай Марыянай Зыгмантаўнай Лахоўскай, дзедзічкай м-ка Зацерава Наўгародскага ваяв., Аляксандрам Лахоўскім, яе апекуном, рэчыцкім харужым Мікалаем Юдыцкім і яго сынам смаленскім падчашым Янам Юдыцкім, трымаючымі гэты маёнтак, аб невяртанні ў тэрмін пазычаных бацькамі адказчыцы нябожчыкамі Зыгмантам Лахоўскім і Леанорай Бруханскай у скаржнікаў грошаў. Навагародак, 16.01.1662.
Копіі подпісаў: Юрэй Пратасовіч, пісар земскі навагародскі; скарыгаваў Велямовіч.
Подпіс (XVIII ст.): звяраў Велямовіч, Р. З. В. Н. (рэгент земскі Навагрудскага ваяв.).
Копія XVIII ст. Стб. м. пол. літ. Філіграні. 4 арк. (арк. 300—303).

128. Выпіс з кніг Слуцкага замкавага суда сазнання ўрадавага віжа Івана Шарапіча аб падачы ва ўласнасць Герману Чэрніковічу дома з пляцам на вул. Спаскай у месце Слуцку паводле прадажнага ліста Касіяна Шутовіча. Слуцк, 8.01.1662.
Пячатка на кустодыі слуцкага падстаросты Самуэля Лязніцкага.
Подпіс: Аляксандр Крукоўскі, пісар [Слуцкага замка].
На адвароце адзнака, паводле якой зразумела, што дакумент знаходзіўся ў архіве Слуцкага Іллінскага манастыра.
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 1 арк. (арк. 304).

129. Прыватны ліст (пісьмо) законніка [Грозаўскага манастыра] Грыгорыя Пашкевіча да брацiі Слуцкага брацтва царквы Праабражэння Гасподняга з просьбай заплаціць яму 130 злотых паводле абяцанняў слуцкіх братчыкаў Стрэльніка і Захарыяша Ваўковіча, гэтыя грошы ён выдаткаваў на сваю казнадзейскую працу ў Слуцку. Грозаў, 23.04.1662.
Пячатка на кустодыі не захавалася.

Подпіс: Грыгоры Пашкевіч, убогі законнік Р. С. Б. В. (рэгулы св. Базыля Вялікага).
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 305—306адв.; арк. 306 — чысты, з адрасам).

130. Выпіс з кніг Наўгародскага гродскага суда. Скарга слуцкага архімандрыта, грозаўскага ігумена айца Тэадосія Васілевіча на смаленскага каноніка, слуцкага і капыльскага плябана кс. Міхала Рэймера аб недапушчэнні праваслаўных святароў да рэвізіі пагалоўнага ў праваслаўных парафіях Слуцкага і Капыльскага княстваў, якія (у т. л. і свае каталіцкія парафіі) рэвізаваў сам насуперак Канстытуцыі, ухваленай на сойме 1662 г., і атэстацыі на імя канюшага ВКЛ кн. Багуслава Радзівіла і дзяржаўцаў яго маёнткаў выдаў камісару княстваў Уладыславу Гурыну. Навагародак, 18.07.1662.
Пячатка на кустодыі наўгародскага падваяводы Яна з Харлежа Харлінскага.
Подпіс: скарыгаваў Гутаровіч.
Арыгінал. Стб. і пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 307—308).

131. а) Ліст слуцкага мешчаніна Цімафея Мішоты аб продажы слуцкім мяшчанам Яну Мазалеўскаму і яго жонцы Палагеі Ціхановічаўне свайго ўчастка зямлі ў 2,5 моргі ў месце Слуцкім у Трайчанах за 12 коп грошаў. Слуцк, 20.07.1662.
Тры пячаткі на кустодыі не захаваліся.
Подпісы: Цімахфей Фёдаравіч Мішота; Дзям'ян Якімовіч; Ян Цыбульскі (усе — стб. м.).
б) Нататка аб зацвярджэнні ад імя слуцкага архімандрыта гэтага ліста пры ўмове выканання павіннасцей з гэтай зямлі на карысць манастыра Св. Тройцы. Без месца, 12.07.1663.
Подпіс: Марцініян Валасовіч, ігум[ен] гроз[аўскі], нам[еснік] арх[імандрыі] Сл[уцкай].
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 309—310; арк. 310 — чысты).

132. Выпіс з кніг Наўгародскага гродскага суда. Скарга слуцкага архімандрыта, дзяцелавіцкага ігумена Тэадозія Васілевіча Баеўскага на віленскага кашталяна Міхала Казіміра Радзівіла і яго слуг Лукаша Тыбароўскага, нясвіжскага войта Мікалая Шахна, енерала Яна Саваневіча і інш. аб захопе 6.10.1662 маёнтка Лахва Наўгародскага ваяв., які М. К. Радзівіл заставіў архімандрыту 3.06.1659 у суме 20 000 злотых, не вярнуўшы пазычаных грошаў. Новагародак, 10.10.1662.
Пячатка на кустодыі не захавалася.
Подпісы: у адсутнасці пана пісара Стэфан Бруханскі (Бжуханскі), суддзя гродскі навагрудскі; у адсутнасці пана падпіска скарыгаваў Савіцкі.
Арыгінал. Стб. і пол. м. Філігрань. Ст. сігн.: № 52; 70. 2 арк. (арк. 311—312адв.).

133. Выпіс з кніг Слуцкага замкавага суда. Скарга ігумена Слуцкага брацкага манастыра Іллі Рамановіча ад імя духоўных братчыкаў, а таксама свецкіх братчыкаў слуцкага войта Базыля Тышэвіча, Яна Скачкевіча, Грыгорыя Ярашэвіча, Яна Стрэльніковіча і Захарыяша Ваўковіча на слуцкага жыда Хаіма Моўшавіча аб нападзе яго разам з жаўнерамі 21.01.1663 г. на брацкі манастыр, у святочны дзень, вызвалены загадам кн. Багуслава Радзівіла ад таргоў і судоў і арышце там падчас богаслужэння Якуба Барэцкага для судовага разбіральніцтва. Слуцк, 22.01.1663.
Пячатка на кустодыі слуцкага падстаросты Самуэля Лязніцкага.
Подпіс: Аляксандр Крукоўскі, пісар [Слуцкага замка].
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 313—314; арк. 314 — чысты).



134. Выпіс з кніг Слуцкага Св.-Траецкага манастыра. Сазнанне (перад Марцініянам Валасовічам, грозаўскім ігуменам, намеснікам Феадосія Васілевіча, слуцкага архімандрыта, міхайлаўскага, грозаўскага, дзяцелавіцкага ігумена, мітрапалітанскага намесніка) слуцкага мешчаніна Івана Мішкевіча аб продажы свайго морга зямлі ў Трайчанах слуцкаму мешчаніну Самуэлю Казаковічу за 25 злотых. Манастыр Жываначальнай Тройцы [у Слуцку], 5.08.1663.
Без пячаткі. Подпіс: Марцініян Валасовіч, ігумен гроз[аўскі], намеснік арх[імандрыта] слуцкага.
Арыгінал. Стб. м. Без філіграні. 1 арк. (арк. 315).

135. Выпіс з кніг Навагародскага гродскага суда. Скарга слуцкага войта Сімяона Ваўковіча, Івана Скачкевіча і Грыгорыя Ярашавіча Скарыніча ад імя брацтва царквы Праабражэння Гасподняга ў месце Слуцку на сакратара ЯКМ, дарожскага і скавышынскага дзяржаўцу Мацея Ворберка-Летава аб забароне свайму ўрадніку і падданым в. Даманавічы выдаваць 10 вёдраў мёду штогод згаданай царкве за карыстанне востравам Качова насуперак дэкрэту рэвізораў канюшага ВКЛ кн. Багуслава Радзівіла ад 7.09.1646 г., а таксама рэляцыйны квіт енерала ЯКМ Навагародскага ваяв. Фёдара Прашыцкага ад 21.02.1654 г. апытання падданых в. Даманавічы аб прычынах нявыдачы мёду царкоўнаму брацтву. Навагародак, 28.02.1654.
Пячатка на кустодыі навагародскага падваяводы Аляксандра Казіміра Шэмета.
Подпісы: Яранім Уняхоўскі, пісар [гродскі навагародскі]; скарыгаваў Гутаровіч.
Арыгінал. Стб. і пол. м. Філігрань. Ст. сігн.: № 7. 2 арк. (арк. 316—317).

136. Ліст-заказ [слуцкага ўрадніка] Казіміра Клакоцкага да грычыноўскіх і цімашоўскіх падданых, каб да пэўнага разбору на месцы яны не захоплівалі спрэчныя землі. Слуцк, 10.06.1664.
Пячатка на кустодыі і подпіс: Каз[імір] Клакоцкі.
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 1 арк. (арк. 318).

137. Обліг слуцкага мешчаніна і купца Томаша Сярковіча, выдадзены братчыкам брацтва пры царкве Праабражэння Гасподняга ў месце Слуцку слуцкаму войту Базылю Тышэвічу, Яну Ляўковічу, Фёдару і Мацею Ваўковічам, Грыгорыю Ярашэвічу і інш., аб пазыцы ў брацтва 230 коп грошаў з тэрмінам вяртання грошаў 24 красавіка 1665 г. (па старым календары) у Слуцкім брацкім манастыры. Без месца і даты.
Подпісы: Лаўрын Федаровіч; Фёд[ар] Канатопавіч; Мялеці Цішковіч.
Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. 1 арк. (арк. 319—319адв.).

138. Прыватны ліст (пісьмо) братчыка Віленскага брацтва Даніэля Чарняца да айца слуцкага архімандрыта з падзякай за дасланы мёд, а таксама з просьбай пас-

лаць назад да Вільні айца Мазевіча (які цяпер служыць айцу архімандрыту), без якога Віленскае брацтва зазнае пэўныя цяжкасці. Вільня, 2.05.1665.
Пячатка на чырвоным сургучы захавалася напалову.
Подпіс: Даніэль Чарнец.
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 320—321адв.; арк. 321 — чысты, з адрасам).

139. а) Прыватны ліст (пісьмо) Грыгорыя Неслухоўскага да свайго швагра слуцкага архімандрыта, міхайлаўскага, грозаўскага і дзяцелавіцкага ігумена Тэадозія Васілевіча з просьбай прыехаць 8 лютага да яго дома ў Курадаве для благаславення яго нованароджанай дачкі. Курадаў, 5.02.1665.
Пячатка на чырвоным сургучы і подпіс: Грыгоры Неслухоўскі.
б) Дапіска яго ж да архімандрыта, на адвароце першага аркуша, з паведамленнем аб перасылцы ліста ад пана [навагрудскага земскага] падсудка і просьбай даць рады наконт патрабавання пана падсудка да Г. Неслухоўскага трымаць у дазоры маёнткі айца мітрапаліта замест яго з-за яго занятасці. Без месца і даты.
Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. 2 арк. (арк. 322—323адв.; арк. 323 — чысты, з адрасам, на адвароце чарнавыя разлікі грошаў).

140. Прыватны ліст (пісьмо) давідгарадоцкага ўрадніка Дамініка Мацэнеўскага да слуцкага архімандрыта Тэадозія Васілевіча з паведамленнем аб накіраванні паводле загаду вайсковых дэпутатаў палка пана віленскага ваяводы манахаў Кіеўскага Межыгорскага манастыра, якія цяпер пад уладай Масквы, з Давыд-Гарадка ў Слуцк для часовага размяшчэння іх у адным з манастыроў. Давыд-Гарадок, 29.06.1665.
Пячатка на чырвоным сургучы (разламаная напалам) і подпіс: Дамінік Мацэнеўскі.
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 324, 326; збой пагінацыі; арк. 326 — чысты, з адрасам).

141. Квітацыя вайсковых дэпутатаў ад харугвы брэсцкага земскага суддзі, ротмістра ЯКМ Бабраўніцкага аб атрыманні досыць хлеба на іх харугву палка пана мазырскага падкаморыя паводле асігнацыі пана польнага гетмана ВКЛ з вёсак слуцкага архімандрыта Шыпілавічы, Рэдкавічы, Пухавічы, Ямінск і Лесуны. Слуцк, 7.06.1665.
Подпісы: Ян Здзытавецкі, дэпутат; Бальтазар Быленцкі, дэпутат.
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 1 арк. (арк. 325).

142. Обліг слуцкага мешчаніна і купца Васіля Маркіяновіча, выдадзены братчыкам брацтва пры царкве Праабражэння Гасподняга ў месце Слуцку слуцкаму войту Базылю Тышэвічу, Яну Ляўковічу, Івану Скачкевічу, Матфію і Захарыю Ваўковічам і інш., аб пазыцы ў брацкага шпіталя 580 злотых з тэрмінам вяртання грошаў 23 красавіка 1666 г. (па старым календары) у Слуцкім брацкім манастыры. Без месца і даты.
Подпісы: Васілей Марыяновіч (!) (стб. м.); Грыгорэй Лапіцкі (пол. м.); Фёдар Канатопавіч (пол. м.).



Арыгінал («голы мемрам» з затылкам). Стб. м. Філігрань. Ст. сігн.: № 4; 1. 2 арк. (арк. 327, 329; арк. 329 — чысты, з загалоўкам (затылкам), захаваўся напалову).

143. Ліст [слуцкага ўрадніка] Казіміра Клакоцкага да пана Дамашэвіча з паведамленнем аб нез'яўленні яго цімашэўскіх падданых на справу з падданымі грычыноўскімі і з загадам, каб пад пагрозай пакарання сталі яны на справу 17 мая. Слуцк, 3.04.1666.
Подпіс: Казімір Клакоцкі.
Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. 1 арк. (арк. 328).

144. Ліст канюшага ВКЛ кн. Багуслава Радзівіла, у якім запэўнівае, у дадатак да свайго застаўнага ліста Зузане Скіндэраўне Скопавай на маёнтак Морач, грашовую кампенсацыю ёй за дадаткова пастаўленыя будынкі і засеў у полі. Кралявец, 20.05.1666.
Пячатка кустадыйная і подпіс: Б. Радзівіл.
Арыгінал. Пол. м. Філіграні. Ст. сігн.: № 27; 13; 25; 6; 1817 года № 6; 30. 2 арк. (арк. 330—331адв.; арк. 331 — чысты, з затылкам).

145. а) Пабаровы квіт паборцаў Навагрудскага ваяв. аб заплаце ў Скарб ВКЛ слуцкім архімандрытам Тэадозіем Васілевічам падымнага падатку ў памеры 309 злотых са 103 дымоў маёнткаў Слуцкай архімандрыі — прадмесця Слуцка Трайчаны і маёнткаў Грозаўскага манастыра. Навагрудак, 11 … [1668] (месяц і год не пазначаны).
Сляды чатырох пячатак на кустодыі.
Подпісы: Аляксандр Чудоўскі, паборца ваяводства Навагрудскага; Станіслаў Керсноўскі паборца в[аяво]дства Навагрудскага; Ваўжынец Чаркоўскі, паборца в. Навагрудскага.
б) Нататка ўнізе аб заплаце архімандрытам падымнага. Без месца і даты.
Подпіс: Пятровіч.
в) Нататка на адвароце аб заплаце грошаў Чудоўскаму, падсудку, падваяводзе і падчашаму за пэўную працу. Без месца і даты.
Подпіс: Пілецкі.
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. Ст. сігн.: № 16. 1 арк. (арк. 332).

146. Прыватны ліст (пісьмо) енерала ЯКМ [Навагрудскага ваяв.] Мікалая Жоўрыда да навагрудскага [гродскага] намесніка Тэадора Савіцкага з просьбай прызнаць ва ўрадавых кнігах яго ліст інтрамісіі (падачы ў трыманне) на фальварак беліцкі законнікам [Слуцкага] манастыра Св. Спаса, так як енерал не можа сам з'явіцца з-за пэўных абавязкаў у кн. [Багуслава Радзівіла]. Белічы, 4.05.1668.
Подпіс: Мікалай Жоўрыд, енерал ЯКМ.
Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. 1 арк. (арк. 333).

147. Выпіс з кніг Слуцкага замкавага суда. Сазнанне слуцкага мешчаніна Апанаса Падтопты аб продажы Стэфану Чурыловічу сваёй чвэрці морга зямлі ў месце Слуцку за Іллінскай брамай, ідучы да Мысліўшчыны, за 10 коп грошаў. Слуцк, 5.04.1668.
Пячатка на кустодыі слуцкага падстаросты Яна Адляніскага-Пачобута.
Подпісы: Аляксандр Крукоўскі, пісар [замка Слуцкага]; скарыгаваў Кунцэвіч.

Арыгінал. Пол. м. Філігрань. Ст. сігн.: № 28. 1 арк. (арк. 334).

148. Выпіс з кніг Слуцкага замкавага суда ад 13.07.1668, выдадзены Базылю Тышэвічу. Дэкрэт плоцкага стольніка, губернатара Слуцкага і Капыльскага княства Казіміра Крыштафа Клакоцкага ў справе паміж падданымі сёлаў Грычынцы (Грычыновічы) і Цімашэвічы аб праве карыстання востравам Запруддзе (у дакуменце пералічаны папярэднія дэкрэты пачынаючы з 1608 г.). Слуцк, 31.05.1666.
Пячатка на кустодыі ўрада Слуцкага замка (герб «Пагоня»).
Подпісы: Ян Адляніскі-Пачобут, падстароста слуцкі; Аляксандр Крукоўскі, пісар [замка Слуцкага]; скарыгаваў Кунцэвіч.
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 335—336адв.; арк. 336 — чысты, з затылкам).

149. Обліг-цырограф [слуцкага купца] Фёдара Канатопавіча, выдадзены Базылю Тышэвічу, Яну Скачкевічу, Грыгорыю Ярашэвічу і іншай брацііі Слуцкага брацтва Праабражэння Гасподняга, аб пазыцы 115 злотых брацкага шпіталя з тэрмінам вяртання грошаў 6 студзеня 1670 г. (па старым календары). Слуцк, 6.01.1669.
Подпіс: Фёдар Канатопавіч.
Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. Ст. сігн.: № 13; 16. 1 арк. (арк. 341.
*Заўвага*: збой пагінацыі, арк. 337—340 гл. дак. № 150).

150. а) Тэстамент канюшага ВКЛ кн. Багуслава Радзівіла, у якім загадвае пахаваць сваё цела ў Кейданах па евангеліцкім або кальвінскім, абрадзе, а ўсе свае маёнткі і рухомую маёмасць запісвае адзінай дачцэ панне Луізе-Шарлоце. Орля, 27.12.1668.
Копіі подпісаў: Багуслаў Радзівіл, канюшы ВКЛ; Ян Сеўскі (?), суддзя земскі зямлі Дзебскай (?); Крыштаф з Залега Зельскі, пісар земскі зямлі Бельскай; Мікалай Лычка, чашнік па[д]ляскі, падстароста гродскі бранскі.
б) Нататка на затылку, што гэта копія тэстамента напісана 5.09.1671.
Подпіс капіста: Фёдар Хрысцініч.
Тагачасная копія (5.09.1671). Пол. м. Філіграні. 4 арк. (арк. 337—340).

151. Обліг Тэадора Ваўковіча, выдадзены Базылю Тышэвічу, Яну Скачкевічу, Грыгорыю Ярашэвічу, Мацею і Захарыяшу Ваўковічам, Яну Стрэльніковічу і іншай брацііі Слуцкага брацтва пры царкве Праабражэння Гасподняга, на пазычаныя ў брацтва 800 злотых з тэрмінам вяртання грошаў 24 ліпеня 1670 г. у Слуцкім брацкім манастыры. Без месца і даты [1669 г].
Подпісы: Тэадор Ваўковіч; Мікалай Рагоза; Іван Кухарэвіч; Базылі Цімафеевіч Хрысціні[ч].
Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. Ст. сігн.: № 12; 10. 1 арк. (арк. 342).

152. Выпіс з кніг Наўгародскага гродскага суда ад 21.01.1670. Інтрамісійны квіт енерала ЯКМ Навагрудскага ваяв. Мікалая Жоўрыда аб паўторнай падачы ў трыманне пасля смерці канюшага ВКЛ кн. Багуслава Радзівіла маёнтка Белічы з в. Мліна-Заброддзе ў Слуцкім княстве Навагрудскага ваяв. законнікам брацтва Праабражэння Гасподняга ў Слуцку паводле застаўнага ліста ад Б. Радзівіла ад 1668 г. Без месца, 13.01.1670.



Пячатка на кустодыі Навагрудскага гродскага суда і смаленскага стольніка, навагрудскага падваяводы Яна з Харлежа Харлінскага.
Подпісы: Самуэль Казі[мір] (?) Уняхоўскі, суддзя г[родскі] навагр[удскі], у адсутнасці пана пісара; у адсутнасці пана падпіска скарыгаваў Савіцкі.
Арыгінал. Стб. і пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 343—344).

153. Обліг слуцкага мешчаніна Аляксандра Баранчыка, выдадзены братчыкам брацтва царквы Праабражэння Гасподняга ў Слуцку Базылю Тышэвічу, Яну Ляўковічу, Яну Скачкевічу, Мацею і Захарыяшу Ваўковічам і інш., на пазычаныя 108 злотых брацкага шпіталя з тэрмінам вяртання грошаў 12 студзеня 1670 г. (па старым календары) у брацкім манастыры. Без месца і даты [1669 г.].
Подпісы: Аляксандр Баранчык (стб. м.); Ян Цыбульскі; Юзаф Пяршкевіч; Базылі Цімафеевіч Хрысцініч (усе — пол. м.).
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. Ст. сігн.: № 6; 9. 1 арк. (арк. 345).

154. Ліст саборны судовы айца Мяфодзія, архіепіскапа Канстанцінопаля, Новага Рыма і сусветнага Патрыярха, да ўсіх праваслаўных свецкіх і духоўных асоб аб прызначэнні айца Іосіфа Шумлянскага епіскапам Львоўскай, Галіцкай і Камянец-Падольскай епархіі, з паведамленнем, што епіскап Антоні Вінніцкі, не з'яўляючыся мітрапалітам Кіеўскім, Галіцкім і ўсёй Русі, няслушна прызначыў епіскапам на гэтую епархію Іярамію Свясцельніцкага. Без месца, …04.1670. (дата не пазначана), індыкта 8.
Копіі подпісаў: Варфаламей, іраклійскі мітрапаліт; Феафіл, нікамідыйскі мітрапаліт; Анфін, бруйскі мітрапаліт; Іякаў, дымоціху мітрапаліт; Захарыя, мелоніку мітрапаліт; Парфені, кіція мітрапаліт; Грыгорэй, халткас(?) мітрапаліт; Мітрафан, кізіку мітрапаліт; Яйфімі, халкідонскі мітрапаліт; Парфені, сандарыйскі мітрапаліт; Мароніус, дрысці мітрапаліт; Іосіф, самму мітрапаліт; Хрысанф, дэркон[скі] мітрапаліт.
Тагачасная копія. Стукр. м. (пераклад з грэчаскай м.). Філігрань. Ст. сігн.: «не нужное». 2 арк. (арк. 336—337; збой пагінацыі).

155. Ліст айца Мяфодзія, архіепіскапа Канстанцінопаля, Новага Рыма і сусветнага Патрыярха, да мітрапаліта Кіеўскага і усёй Русі Іосіфа Тукальскага з пажаданнямі трымацца праваслаўнай веры, бараніць паству ад ворагаў і г. д. Канстанцінопаль, … 04.1670 (без даты), індыкта 8.
Копіі подпісаў: Мяфодзі, патрыярх; Варфаламей, іераклійскі мітрапаліт; Мітрафан, кізіцкі мітрапаліт; Анфін, бруйскі мітрапаліт; Мароній, дрыйскі мітрапаліт; Захарыя, оанакійскі мітрапаліт; Парфені, клацийскі мітрапаліт; Феафіл, нікамідыйскі мітрапаліт; Яйфімі, халкідонскі мітрапаліт; Якаў, даматыхійскі мітрапаліт; Парфені, сандарыйскі мітрапаліт; Іосіф, самму мітрапаліт; Хрысанф, дэрконскі мітрапаліт.
Тагачасная копія. Стукр. м. (црксл. м.) (пераклад з грэчаскай м.). Філігрань. Арк. 338—339.

156. Ліст айца Мяфодзія, архіепіскапа Канстанцінопаля, Новага Рыма і сусветнага Патрыярха, да ўсіх праваслаўных свецкіх і духоўных асоб у Польскай, Літоўскай і Рускай землях, каб падпарадкоўваліся прызнача-

наму Патрыярхам Кіеўскаму мітрапаліту, архіепіскапу кір Іосіфу Тукальскаму, а не самазванцу Антонію Вінніцкаму, які не мае ніякіх папер на Кіеўскую мітраполію. Без месца, …04.1670 (без даты), індыкта 8.
Копіі подпісаў: (гл. дак. № 155).
Тагачасная копія. Стукр. м. (пераклад з грэчаскай м.). Без філіграні. Арк. 339—339адв.
*Заўвага*: дакументы № 155 і 157 напісаны на адным стандартным аркушы, перакладзеным нападам, што азначае два звычайных аркушы (арк. 338—339адв.)

157. Ліст саборны судовы айца Мяфодзія, архіепіскапа Канстанцінопаля. Новага Рыма і сусветнага Патрыярха, з паведамленнем да мітрапаліта Кіеўскага і ўсёй Русі кір Іосіфа Тукальскага, духоўных і свецкіх сенатараў і ўраднікаў зямлі Расійскай аб сваім загадзе епіскапу Антонію Вінніцкаму, які незаконна захапіў трон Кіеўскай мітраполіі, аб вяртанні законнаму мітрапаліту І. Тукальскаму захопленых царкоўных рэчаў і каштоўнасцяў пад пагрозай царкоўнага праклляцця. Без месца, …04.1670 (без даты), індыкта 8.
Копіі подпісаў: (гл. дак. № 155).
Тагачасная копія. Стукр. м. (пераклад з грэчаскай м.). Філіграль. 1 арк. (арк. 340).

158. Тэстамент Гальшкі Руткоўскай Янавай Шыкеравай, у якім свой маёнтак Ямінск запісвае ў пажыццёвае валоданне мужу, віцебскаму скарбніку Яну Шыкеру, а па яго смерці — сыну Зыгмунту Шыкеру навечнасць, а маёнткі Глуск-Дварэц і Воўкаўшчына запісала дзецям ад папярэдніх мужоў-нябожчыкаў Яна Скабейкі і Яна Невяртовіча. Ямінск, 1670 г. (без даты і месяца).
Копіі подпісаў: Гальшка Руткоўская Янавая Шыкеравая; Казімір Караль на Хальчу Халецкі, староста мазырскі; Стэфан Бруханскі, падсудак слонімскі; Мікалай Воўк з Ланевіч, гараднічы старадубскі.
Копія XVIII в. Пол. м. Філіграль. 1 арк. (арк. 341).

159. Ліст ігумена Слуцкага брацкага манастыра Геліяша Рамановіча і Слуцкага брацтва пры царкве Праабражэння Гасподняга аб продажы слуцкаму мешчаніну Захарыяшу Ваўковічу пляца на Рынку ў Слуцку, дзе да пажара крама стаяла, за 40 коп грошаў, так як брацтва атрымала ад слуцкай адміністрацыі іншы пляц для пабудовы крамы. Слуцк, 10.02.1671.
Пячатка кустадыйная Слуцкага брацтва і манастыра Праабражэння Гасподняга.
Подпісы: С[вяты] манах Эліяш Рамановіч, на гэты час ігумен брацтва Слуцкага Праабражэння Гасподняга з усёй брацiей законнай; Іван Скачкевіч, як на гэты год с[таршы] бр[ацтва].
Арыгінал. Пол. м. Філіграль. 2 арк. (арк. 342—343; арк. 343 — чысты).

160. Адсутнічае.

161. а) Ліст плоцкага стольніка Казіміра Клакоцкага, апекуна, і Станіслава з Незабытова Незабытоўскага, аканома маёнткаў княжны Людовікі-Караліны Радзівілаўны, да парафіян грэчаскай рэлігіі Зблянскай царквы [Успення] Панны Марыі аб прызначэнні слуцкім пратапопам айца ІаанаКівачыцкага прэзбітарам гэтай царквы. Слуцк, [2.03.1675].
Пячатка кустадыйная губернатара княства Слуцкага Казіміра Клакоцкага.



Подпісы: Казімір Клакоцкі, стольнік плоцкі; Станіслаў Незабытоўскі.
б) Нататка з левага боку аб прызнанні ўпаўнаважаным Станіславам Бужынскім, смаленскім скарбнікам, гэтага дакумента ў кнігах Галоўнага Трыбунала ВКЛ. Без месца, 19.01.1729.
Подпісы: Міхал Казімір князь Радзівіл, маршалак Трыбунала Галоўнага ВКЛ; Стэ[фан] (?) Міхал Гарабурда, пісар зем[скі] на[ва]г[руд]скі; выдаў з актаў Тшцінскі.
Арыгінал. Пол. м. Філіграль. Ст. сігн.: № 3. 2 арк. (арк. [344—345]; арк. [345] — чысты; правая частка дакумента адарваная і не захавалася, на якой былі пазначаны нумар дакумента і пагінацыя).

162. а) Пабаровы квіт паборцаў Навагрудскага ваяводства аб заплаце слуцкім архімандрытам Тэадозіем Васілевічам падымнага падатку ў памеры 618 злотых з 103 дымоў маёнткаў Слуцкай архімандрыі — прадмесця ў Слуцку Трайчаны і маёнткаў Грозаўскага манастыра. Вільня, 27.03.1671.
Подпісы: Вінцэнты Рымша, паборца ваяв. Наваг[рудскага]; Зыгмант Міхалоўскі, паборца ваяводства Навагрудскага.
б) Нататка ўнізе: «№ 45. З дымоў 103 аддадзена злотых 618. На месцы п. Пятровіча падпісаў Мігуневіч». Без месца і даты.
Арыгінал. Пол. м. Філіграль. Ст. сігн.: № 21. 1 арк. (арк. 346).

163. Выпіс з кніг Слуцкага замкавага суда. Дэкрэт слуцкага падстаросты Станіслава Касцюшкевіча ў справе слуцкіх мяшчан Хамы і Амелькі Пекішаў з Томашам Сяркевічам і яго жонкай Ксеніяй Залівачанкай, іх цёткай і былой апякункай, аб нявыплаце ім грошаў за затрыманыя ёю ў апецы рэчы. Слуцк, 6.07.1671.
Пячатка на кустодыі ўрада Слуцкага замка (герб «Пагоня»).
Подпісы: Аляксандр Крукоўскі, пісар [Слуцкага замка]; скарыгаваў Кунцэвіч.
Арыгінал. Пол. м. Філіграні. Ст. сігн.: «Дело Соборной церкви». 4 арк. (арк. 347—350).

164. Адсутнічае.

164-bis. (Без нумара). Обліг слуцкага мешчаніна Уласа Скіндэровіча, выдадзены братчыкам [Слуцкага] брацтва царквы Праабражэння Гасподняга Базылю Тышэвічу, Яну Ляўковічу, Івану Скачкевічу, Грыгорыю Ярашэвічу, Мацею і Захару Ваўковічам і інш., на пазычаныя ў брацтва 30 злотых з тэрмінам вяртання грошаў трыма ратамі ў 1671 і 1672 гг. у Слуцкім брацкім манастыры. Без месца і даты [1671 г.].
Подпісы: Базылі Хрысціціч; Ян Бунецкі; Ян Цыбульскі.
Арыгінал («голы мемрам» з затылкам). Пол. м. Філіграль. Ст. сігн.: № 13; 11. 2 арк. (арк. 355—356адв.; арк. 355 — чысты, з загалоўкам).

165. а) Ліст слуцкага мешчаніна Германа Чэрніковіча аб продажы братчыкам Слуцкага брацтва пры царкве Св. Спаса айцу Геліяшу Рамановічу, панам Базылю Тышэвічу, Яну Ляўковічу, Івану Скачкевічу, Мацею і Захарыяшу Ваўковічам, Міхалу і Грыгорыю Лапіцкім і інш. за 350 злотых двара з пляцам на Спаскай вул. побач з брацкім шпіталем, які двор ён набыў 1.01.1662 у Касіяна Шутовіча. Слуцк, 9.03.1674.

Подпісы: Мікалай Дубінскі; Іван Кухарэвіч; Лукаш Атачэніковіч.
б) Нататка з левага боку аб прызнанні гэтага ліста ў кнігах Слуцкага замкавага суда. Без месца, 20.07.1675.
Подпісы: Станіслаў Касцюшкевіч, падстароста слуцкі; Аляксандр Кру-коўскі, пісар.
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 357—358; арк. 358 — чысты).

166. а) Рээстр прывілеяў і спраў Слуцкага брацтва пры царкве Праабражэння Гасподняга, якія знаходзіліся на захаванні ў войта места Слуцка Базыля Тышэвіча, а цяпер перададзеныя абраным на гэты год старостам брацтва Яну Скачкевічу і Захарыяшу Ваўковічу. Без месца, 1.12.1662.
Подпісы: Ян Скачкевіч, Захарыяш Ваўковіч.
б) Нататка аб перадачы спраў брацтва паводле гэтага рээстра, а таксама ліста на фальв. Белічы новаабраным брацкім старостам Філіпу Алайке-вічу і Грыгорыю Лапіцкаму. Без месца, 1.12.1675.
Подпіс: Іван Скачкевіч.
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 359—360адв.).

167. Обліг Мацея Ваўковіча, выдадзены братчыкам Слуцкага брацтва пры царкве Праабражэння Гасподняга Яну Душэўскаму, Базылю Тышэвічу, Яну Ляўкові-чу, Яну Скачкевічу, Грыгорыю Лапіцкаму, Філіпу Алайкевічу і інш., на пазы-чаныя ў брацтва 560 коп грошаў з тэрмінам вяртання грошаў 1.11.1676 (па старым календары) у Слуцкім брацкім манастыры. Без месца і даты.
Подпісы: Мацей Ваўковіч; Станіслаў Касцюшкевіч; Ян Лісоўскі; Сымон Кунцэвіч.
Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. Ст. сігн.: № 1. 1 арк. (арк. 361—361адв.).

168. Ліст рэвізора [Слуцкага княства] Самуэля Уладыслава Вішнеўскага раз-межавання земляў в. Цесава-Зажава маёнтка Пагост і в. Закальніч маёнтка Ярэмічы канюшанкі ВКЛ княжны [Радзівілаўны] з землямі в. Цярушкі Слуцкага жаночага манастыра Св. Эліяша (Іллі). Цярушкі, 12.11.1676.
Копіі подпісаў: Самуэль Уладыслаў Вішнеўскі, рэвізор; гэтае агранічэнне зацвярджаем: Казімір Клакоцкі, стольнік плоцкі; Станіслаў Незабытоўскі, п[адчашы] к[алішскі].
Копія кан. XVIII — пач. XIX ст. Пол. м. Філіграні. 2 арк. (арк. 362—363; арк. 363 — чысты, з затылкам).

169. Обліг жыда Герцка Шлёўмавіча, арандатара Слуцкай мытніцы, выда-дзены Пятру Міхайлавічу і яго жонцы Аўдоцці Нікасянцы, на пазыча-ныя ў іх 310 злотых з тэрмінам вяртання грошаў 11.11.1676 у іх доме ў месце Слуцку на Рынку. Без месца і даты [1676 г.].
Подпісы: Герцык Шлёўмавіч (жыд. м.); Станіслаў Абрамовіч (стб. м.); Мікалай Дубінскі (пол. м.); Карнілей Карсюк (стб. м.).
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. Ст. сігн.: № 20 (папраўлена на 21). 1 арк. (арк. 364—364адв.).

170. Обліг слуцкага мешчаніна Мацея Ваўковіча, выдадзены братчыкам брацт-ва пры царкве Праабражэння Гасподняга ў месце Слуцку Базылю Тышэві-



чу, Яну Скачкевічу, Тэадору Марксу, Базылю Хрысцінічу і інш., на пазы-чаныя ў брацтва 400 злотых з тэрмінам вяртання грошаў 1.12.1676 у Слуц-кім брацкім манастыры. Без месца і даты [1676 г.].
Подпіс: Мацей Ваўковіч.
Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. Ст. сігн.: №16; 16; 8. 1 арк. (арк. 365—365адв.).

171. Прыватны ліст (пісьмо) Станіслава Незабытоўскага да дарожскага ста-росты Крыштафа Шандрона з просьбай забяспечыць выдачу 10 вёдраў мёду Слуцкаму брацтву пры Спаскай царкве за 1676 г. сялянамі в. Дама-навічы за карыстанне вострававам Качова. Слуцк, 22.04.1677.
Пячатка кустадыйная і подпіс: Стан[іслаў] Незабытоўскі.
Арыгінал. Пол. м. Філіграні. 2 арк. (арк. 367 — ненумараваны; апошні чысты, з адрасам; збой пагінацыі).

172. а) Апісанне карчомнага дома ў Трайчанах, які належыць Слуцкай архі-мандрыі. Без месца, 22.06.1677.
б) Апісанне шкод (разбурэнняў) у Трайчанскай карчме. Без месца, [22.06.1677].
Подпіс пісара [Слуцкага замка?] аб сазнанні дакументаў ва ўрадзе.
в) Нататка, што згаданыя дакументы належаць да справы слуцкага архі-мандрыта, мітрапалітанскага намесніка з жыдамі, слуцкімі арандатарамі Зымелем Літмановічам і Гершам Шаўловічам аб спусташэнні Трайчан-скай карчмы. Без месца і даты.
Арыгінал (чарнавы варыянт). Пол. м. Без філіграні. 1 арк. (арк. 366—366адв.).

173. Обліг слуцкага мешчаніна і купца Астафія Пятровіча, выдадзены братчыкам Слуцкага брацтва пры царкве Праабражэння Гасподняга Базылю Тышэвічу, Яну Скачкевічу, Мацею і Захарыяшу Ваўковічам, Тэадору Марксу і Базылю Хрысцінічу, на пазычаныя ў брацкага шпіталя 290 злотых з тэрмінам вяртання грошаў 1.02.1678 у Слуцкім брацкім манастыры. Без месца і даты [1677 г.].
Подпісы: Астафі Пятровіч; Адам Малюшыцкі; Мікалай Дубінскі; Ян Метыцкі.
Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. Ст. сігн.: № 18; 21; 19. 1 арк. (арк. 368—368адв.).

174. Обліг-цырограф Захарыяша Ваўковіча, выдадзены братчыкам Слуцкага брацтва пры царкве Праабражэння Гасподняга Базылю Тышэвічу, Яну Скачкевічу, Гры-горыю Лапіцкаму, Філіпу Алайкевічу і інш., на пазычаныя ў брацтва 112 злотых з тэрмінам вяртання грошаў 22.11.1678. Слуцк, 23.03.1678.
Подпіс: Захарыяш Ваўковіч.
Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. Ст. сігн.: № 18; 22. 1 арк. (арк. 369).

175. Обліг жыда Зымеля Ліпмановіча (Літмановіча), арандатара Слуцкай мытніцы, выдадзены братчыкам Слуцкага брацтва пры царкве Праабражэння Гасподняга Базылю Тышэвічу, Яну Скачкевічу, Грыгорыю Ярашэвічу, Мацею і Захарыяшу Ваўковічам і інш., на пазычаныя ў брацкага шпіталя 312 злотых з тэрмінам вяр-тання грошаў 6.03.1678 у Слуцкім брацкім манастыры. Без месца і даты.
Подпісы: Зымель Ліпмановіч (жыд. м.); Ян Метыцкі; Мікалай Дубінскі; Ян Стрэльніковіч (усе — пол. м.).
Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. Ст. сігн.: № 1; 18. 1 арк. (арк. 370).

176. Выпіс з кніг Слуцкага замкавага суда ад 26.05.1678. Угодлівы ліст прэзбітара Слуцкай Юр'еўскай царквы Міхала Салаў'евіча аб адмове на права ўласнасці на двух падданых з яго в. Лесуны, якія ў 1670 г. збеглі і пасяліліся ў мястэчку Трайчаны нябожчыка слуцкага архімандрыта Тэадозія Васілевіча, за што атрымаў ад трайчанскага старосты Пятра Данішэўскага 20 коп грошаў. Без месца, 10.05.1678.
Пячатка на кустодыі ўрада Слуцкага замка і княства (герб «Пагоня»).
Подпісы: Аляксандр Крукоўскі, пісар [Слуцкага замка] (стб. м.); скарыгаваў Кунцэвіч (пол. м.).
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. Ст. сігн.: № 61; 60. 2 арк. (арк. 371—372).

177. «Спісанне» (інвентар) манастыра пры царкве Св. Тройцы ў Слуцку за Іллінскай брамай, манастырскіх фальварка і мяшчан у Трайчанах, складзенае пасля смерці беларускага епіскапа, слуцкага архімандрыта [Тэадозія] Васілевіча. Без месца, 28.05.1678.
Без пячатак і подпісаў.
Тагачасная копія (?). Пол. м. Філіграні. Ст. сігн.: № 53; 61. 6 арк. (арк. 373—378; арк. 376, 377 — чыстыя, арк. 378 — чысты, з затылкам).

178. Выпіс з кніг Слуцкага замкавага суда ад 5.12.1678, выдадзены 21.02.1692 Тэафану Бунцэвічу. Рэестр да тэстамента Івана Скачкевіча размеркавання грошаў і рухомых рэчаў для цэркваў, манастыроў і розных асоб. Без месца, 1678 г.
Пячатка на кустодыі ўрада Слуцкага замка (герб «Пагоня»).
Подпісы (1692 г.): Міхал Буйневіч, пісар [Слуцкага замка]; скарыгаваў Дашкевіч.
Арыгінал (1692 г.). Пол. м. Філіграні. 4 арк. (арк. 379—382).

179. а) Выпіс з кніг Слуцкага замкавага суда сазнання Марыны Кажухоўскай Базылёвай Глушкевічавай аб продажы Томашу Дзёртцы свайго дома ў Слуцку на вул. Юр'еўскай, запісанага ёй нябожчыкам мужам, за 1000 злотых. Слуцк, 17.12.1678.
Пячатка на кустодыі ўрада Слуцкага замка (герб «Пагоня»).
Подпісы: Аляксандр Крукоўскі, пісар [Слуцкага замка]; скарыгаваў Кунцэвіч.
б) Надпіс на затылку (арк. 384адв.): «Права на дом, дадзенае Слуцкаму брацтву ад кс. Антонія Дзёрткі, грозаўскага ігумена, 1 верасня 1731 года».
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 383—384адв.; арк. 384 — чысты, з затылкам).

180. Выпіс з кніг Слуцкага замкавага суда сазнання Самуэля Ількевіча і яго жонкі Зосі Міхалаўны Мальцаўны аб асекурацыі (запэўніванні) для новага слуцкага архімандрыта Тэафана Крэхавецкага з абяцаннем пражываць у мястэчку Трайчаны Слуцкай архімандрыі і выконваць усе належныя павіннасці. Слуцк, 29.02.1680.
Пячатка на кустодыі ўрада Слуцкага замка (герб «Пагоня»).
Подпісы: Станіслаў Касцюшкевіч, падстароста княства Слуцкага; карыгаваў Браткоўскі.
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 385—386).



181. Выпіс з кніг Слуцкага замкавага суда сазнання слуцкага мешчаніна Андрэя Ангілея, каваля, аб продажы Амялляну Пекішу, кушнеру, свайго дома з пляцам у месце Слуцку на Крывасёлках за 200 злотых. Слуцк, 22.11.1680.
Пячатка на кустодыі ўрада Слуцкага замка (герб «Пагоня»).
Подпісы: Станіслаў Касцюшкевіч, падстароста кн[яства] Слуцкага; скарыгаваў Кунцэвіч.
Арыгінад. Пол. м. Філігрань. Ст. сігн.: «Соборной церкви». 2 арк. (арк. 387—388; арк. 388 — чысты).

182. Выпіс з кніг Мінскага гродскага суда скаргі Матэуша Абрамовіча, слугі мінскага стольніка Караля Уняхоўскага, на Яна Віткоўскага і яго сына Януша Віткоўскага аб крадзяжы Янушам яго каня, калі яны разам суправаджалі К. Уняхоўскага на Вальны сойм у Варшаве. Мінск, 6.07.1681.
Пячатка на кустодыі Марціна Казіміра Валадковіча, мінскага гараднічага і падстаросты.
Подпісы: Ян Кастравіцкі, пісар [гродскі мінскі]; скарыгаваў з кнігамі Стрэгоцкі (стб. м.).
Арыгінал. Стб. і пол. м. Без філіграні. 2 арк. (арк. 389—390).

183. Выпіс з кніг Слуцкага замкавага суда скаргі зямянкі Слуцкага княства Марыяны Сакалоўны [Юрынай] Кутылоўскай-Цярпіцкай на свайго мужа Юрыя [Кутылоўскага]-Цярпіцкага аб заключэнні без яе ведама ўгоды з законніцамі Слуцкага кляштара св. Геліяша пра уступку ім за 30 злотых падданага, які належыць да яе маёнтка Садовічы і быў прысуджаны ёй у справе з законніцамі ўрадам Слуцкага замка. Слуцк, 8.09.1681.
Пячатка на кустодыі слуцкага падстаросты Станіслава Касцюшковіча.
Подпісы: Аляксандр Крукоўскі, пісар [Слуцкага замка]; скарыгаваў Кунцэвіч.
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 1 арк. (арк. 391).

184. а) Ліст слуцкіх абывацеляў Захарыяша Ваўковіча і яго жонкі Марыяны Сашчанкі аб продажы сваім цесцю і дачцэ, Тэафану Бунцэвічу і Яўфеміі Ваўковічаўне, крамы з пляцам у месце Слуцку за 300 злотых. Слуцк, 12.09.1681.
Дзве пячаткі на кустодыі кепскай якасці (не зразумела чые).
Подпісы: Захарыяш Ваўковіч; Марына Сашчанка Ваўковічавая; Філіп Алайковіч; Аляксандр Крукоўскі, лоў[чы] чарн[ігаўскі?]; Ян Стрэльніковіч; (ніжэй): упісаны ў кнігі — Кунцэвіч.
б) Нататка на палях аб прызнанні гэтага дакумента на ўрадзе [Слуцкага замка]. Без месца, 31.10.1681.
Подпісы: Станіслаў Касцюшкевіч, падстароста кн[ятсв]а Слуцкага; Аляксандр Крукоўскі, пісар [Слуцкага замка].
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. Ст. сігн.: «не да нас гэта належыць». 2 арк. (арк. 392—393; арк. 393 — чысты, з затылкам).

185. а) «Атварысты» (адкрыты) ліст абознага ВКЛ, блудзенскага старосты, палкоўніка войск ЯКМ Юрыя Караля Хадкевіча да ўсіх людзей з паведамленнем, што ў сувязі са знішчэннем падчас вайны фундушавых дакументаў ён пацвярджае старыя наданні парафіяльным цэрквам Уваскрасення Господня-

га і Св. Мікалая ў яго месце Петрыкаве і іх цяперашнім святарам Міхалу і Яну Загароўскім, г. зн. вёску Смятанічы, 6 агароднікаў у Більцы і царкоўныя пляцы ў Петрыкаве, а таксама дае даходы з в. Бабынічы царкве Найсвяцейшай Панны ў Петрыкаўскай пушчы ва ўрочышчы Бабынічы, якая прыпісана да парафіі св. Мікалая. Пералічаны вёскі і вуліцы ў Петрыкаве, якія належаць да абедзвюх парафій. Петрыкаў, 01.1682 (без даты).
Копія подпісу: Юры Караль Хадкевіч, абозны В. Кн. Літ., староста блудзенскі, палкоўнік войск ЯКМ.
б) Надпіс ніжэй: «Гэты ліст, выдадзены маім бацькам-нябожчыкам Юрыем Каралем Хадкевічам, абозным ВКЛ, айцам святарам цэркваў Петрыкаўскіх, поўнасцю пацвярджаю. У Петрыкаве, 12.03.1709».
Копія подпіса: Ян Караль Хадкевіч, вел[ятыцкі?], блудз[енскі[, даўг[елішскі] староста.
в) Надпіс на палях (арк. 394) аб падачы дакумента кс. Нарцысам Сіняўскім, законнікам св. Базыля Вялікага, у акты Мазырскага гродскага суда. Без месца, 6.02.1737.
Копіі подпісаў: Гервазы Людвік Аскерка, староста мазырскі; Міхал І[пагорскі]-Лянкевіч, суддзя грод[скі] мазырс[кі]; Рафал Шумоўскі, пісар гродскі мазырс[кі].
г) Надпіс на арк. 395 аб выдачы копіі гэтага дакумента з канцылярыі Слуцкай архімандрыі айцу Яну Будовічу, прэзбітару Петрыкаўскай царквы Узнясення Гасподняга. Без месца, 30.01.1757 (стары стыль).
Копія подпіса: Давыд Насчынскі, архімандрыт слуцкі, намеснік Мітраполіі Кіеўскай.
Копія (2-я пал. XVIII ст.). Пол. м. Філігрань. Ст. сігн.: № 8. 2 арк. (арк. 394—395).

186. Кантрамісны ліст Стэфана Жаўткоўскага аб адсутнасці прэтэнзій да пана Самуэля Вышынскага ў сувязі са смерцю сына Якіма Жаўткоўскага, які служыў апошняму, задаўленага возам з дрэвам. (Месца напісання дакумента не захавалася: аркуш абадраны), 4.03.1683.
Подпісы: Іван Тэрлецкі, празбітар; Пётр Паўловіч; Жэрнер(?).
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. Ст. сігн.: «Дело Соборной церкви». 1 арк. (арк. 396).

187. Ліст калішскага падчашага, [слуцкага старосты] Станіслава Незабітоўскага, які пацвярджае старажытныя фундушы кн. Алелькавічаў замкавай царкве Успення Найсвяцейшай Панны з прыдзеламі ў Слуцку, якая пры слуцкім архімандрыце [Тэадозіі] Васілевічу са згоды канюшага ВКЛ кн. Багуслава Радзівіла была адрэстаўрыравана і пры ёй замест прыдзелаў былі пабудаваны дзве новыя царквы Богаяўлення і Уваходу Хрыста ва Іерусалім, а таксама захоўваючы старыя храмавыя фэсты (святочныя шэсці). Слуцк, 16.04.1684.
Копія (?) подпісу: Станіслаў Незабітоўскі, падчашы калішскі.
Тагачасная копія(?). Пол. м. Філігрань. Ст. сігн.: № 66. 2 арк. (арк. 397—398; арк. 398— чысты).

188. Выпіс з кніг Мітрапалітанскага духоўнага суда Слуцкай капітулы. Дэкрэт згодна скаргі Анастасіі Мінкевічаўны на свайго брата, слуцкага пратапопа Сімёна



Мінкевіча, былога апекуна яе і сясцёр Еўдакіі і Яўфіміі па смерці іх бацькі, слуцкага «ражэственскага» святара Іаана Мінкевіча, аб нявыдзяленні ёй пасагу пры выдачы замуж за слуцкага мешчаніна Іаана Васілевіча. Слуцк, 13.03.1685.
Пячатка куродымная [Слуцкай?] Знаменскай царквы.
Подпісы: Міхаіл Салаўевіч, прэзбітар Юраўскі, пісар капітулы Слуцкай; Феадор Арэховіч, святар Іванаўскі; Матвей Багушэвіч, інстыгатар судоў духоўных; Іаан Ахрэмовіч, прэзбітар Варварынскі; скарыгаваў Багушэвіч.
Арыгінал. Стб. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 399—400).

189. Выпіс з кніг Слуцкага замкавага суда сазнання слуцкіх мяшчан Таццяны Багданавай Шэлегавай, яе сына Стэфана Шэляговіча і яго жонкі Агапы Ахрэмаўны аб продажы цэхмістрам Юрыю Вайцяховічу, Паўлу Саванцэвічу, Мікалаю Казевічу і ўсёй брацііі Слуцкага шавецкага саф'яніцкага цэха свайго дома з пляцам у месце Слуцку на вул. Спаскай побач са Спаскім манастыром і месцкім дваром за 385 злотых. Слуцк, 27.06.1685.
Пячатка на кустодыі ўрада Слуцкага замка (герб «Пагоня»).
Подпіс: Аляксандр Крукоўскі, пісар [Слуцкага замка].
Арыгінал. Пол. м. Філігрань. Ст. сігн.: «да шаўцоў належыць у Слуцку». 2 арк. (арк. 401—402; арк. 402 — чысты).

190. а) Ліст-ардынацыя ўраднікаў Слуцкага і Капыльскага княства Людовікі Караліны Радзівілаўны для духавенства грэчаскай (праваслаўнай) рэлігіі ў княстве з рэгламентацыяй набажэнстваў і духоўнага жыцця сялян і мяшчан. Слуцк, 29.01.1686.
Копіі подпісаў: Станіслаў Незабытоўскі, падчашы калішскі, [староста слуцкі]; Ян Юры Хвалкоўскі, х[аружы?] н[айсвяцейшай] Н[ейбурскай] кн[яжны], м[аркграфіні] Б[рандэнбурскай], камісар; Ян Рэгер, канц[ылярыст?] і камісар.
б) Нататка аб выдачы гэтай копіі з арыгінала, які (арыгінал) з подпісамі духавенства застаецца ў Скарбе [Слуцкага замка]. Слуцк, 5.03.1686.
Подпіс: Ян Каспар … (недапісана).
Копія тагачасная (5.03.1686). Пол. м. Філіграні. 2 арк. (арк. 403—404).

191. а) Той жа тэкст, што ў дакуменце № 190-а.
б) Нататка ніжэй, што гэты дакумент падчас камісіі ў Слуцку быў публічна абвешчаны 4.02.1686, а таксама копія дакумента была выдадзена капыскім мяшчанам. Біржы, 5.08.1699.
Копіі подпісаў: Станіслаў Незабытоўскі, падчашы калішскі; Ян Юры Хвалкоўскі, х[аружы?] н[ай]с[вяцейшай княжны] як аканом.
в) Нататка аб зацвярджэнні гэтага дакумента. Брэгга … Сілезіор …, 18.09.1699.
Копія(?) подпісу: Караль Філіп, палацінус рэнскі.
г) Нататка на арк. 406адв.
Брэгенц(?) у Сілезіі, 4.10.1704.
Копія(?) подпісу: Караль Філіп, палацінус рэнскі.
Копія пач. XVIII ст. Пол. м. (а, б), лат. м. (в, г). Філігрань. Ст. сігн.: № 42. 2 арк. (арк. 405—406адв.)

192. Той жа тэкст, што ў дакуменце №190-а, б.

Копія кан. XVII — пач. XVIII стст. Пол. м. Філіграні. 4 арк. (арк. 408—411 (збой пагінацыі); арк. 411 — чысты, з затылкам).

193. Ліст брандэнбургскай маркграфіні княжны Людовікі Караліны Радзівілаўны да ўсіх жыхароў і духавенства Слуцкага княства аб пажалаванні Слуцкай архімандрыі і Грозаўскага ігуменства айцу Серафіёну Палхоўскаму, ігумену манастыра Дзяцелавіцкага, па смерці былога слуцкага архімандрыта, грозаўскага ігумена айца Тэафана Крэхавецкага. Берлін, 20.01.1687.
Копія подпісу: Людовіка Караліна Радзівілаўна, маркг[рафіня] бранд[энбургская].
Копія XVIII ст. Пол. м. Філігрань. Ст. сігн.: № 14; 3. 1 арк. (арк. 407).

194. Той жа тэкст, што ў дакуменце № 193.
Пячатка на кустодыі і подпіс Л. К. Радзівілаўны.
Арыгінал. Пол. м. Без філіграні(?). Ст. сігн.: № 1; 21; 73. 1 арк. (арк. 412; аркуш знізу падклеены адным слоем паперы; аркуш перакладзены напалам).

[1] Беларускі археаграфічны штогоднік. Вып. 5. Мн., 2004. С. 47—72.

***Я. Я. Янушкевіч***

## ВАЛОЖЫНШЧЫНА Ў МАТЭРЫЯЛАХ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ГІСТАРЫЧНАГА АРХІВА БЕЛАРУСІ

Матэрыял, прапанаваны чытачам БАШ, быў падрыхтаваны раней для гісторыка-дакументальнай хронікі «Памяць» Валожынскага р-на, аднак туды не трапіў. А прагалы ў гісторыі малых радзім непазбежна адбіваюцца прыкрым рэхам у энцыклапедычных выданнях, бо інакш як можна вытлумачыць, калі ва універсальнай «Беларускай энцыклапедыі» ў 18 тамах не змешчаны персаніліі, у прыватнасці, на братоў *Здзяхоўскіх* (колішніх уладальнікаў мяст. Ракаў) — славутага прафесара *Мар'яна* і ягонага брата-літаратара *Казіміра*. А быў яшчэ і *Здзяхоўскі Павел* (1914—1972; псеўданімы *Józef Maria*, *Ursyn*, *Józef Ursyn*, *Jerzy Maria Ursyn*) — празаік, публіцыст, перакладчык; нарадзіўся 1 лютага 1914 г. у мяст. Ракаў… Няма *Міхала Грушвіцкага* (1828—1904) — кампазітара з суседніх Выганіч. Няма прыгадак, што раней, у XVIII ст., Выганічамі валодаў другі кампазітар — Міхал Клефас Агінскі (1765—1833)… Што ў тых самых мясцінах жыў авантурны Сяргей *Пясецкі* (1899? або 1901—1964), аўтар слыннага бестселера *«Каханак Вялікай Мядзведзіцы»* (1937); да слова, толькі ў адной Італіі раман перавыдаваўся больш за 20 разоў. Між тым падрабязныя вопісы ацалелых архіўных скарбаў складаюць аснову, падмурак для распрацоўкі і развіцця гістарычнага краязнаўства.



### Пералік-рэестр дакументаў па гісторыі Валожыншчыны (да 1917 г.) з фондаў НГАБ

Пры апісанні архіўных дакументаў найчасцей слова «Справа пра…» («Дело об…») апускаецца; у лічбавым пераліку спасылкі *«Архіўная сігнатура»* першая азначае — *фонд*, другая — *вопіс*, трэцяя — *адзінку захавання*, чацвёртая, па магчымасці, азначае архіўную *пагінацыю старонак*. Напрыклад, 694, 5, 7 — фонд 694, вопіс 5, адзінка захавання 7; або: 1769, 1, 6, 743—746 — азначае: фонд 1769, вопіс 1, адзінка захавання 6, аркушы 743—746.

Уведзены наступныя скарачэнні: *адв.* — адварот архіўнай старонкі; *б/д* — без даты; *ваяв.* — ваяводства; *гр.* — граф; *засц.* — засценак; *згадв.* — згадваецца; *кн.* — князь; *м.* — маёнтак; *мяст.* — мястэчка; *пав.* — павет; *пам.* — памешчык; *польск.* (*руск.*, *старабел.*) — польская, руская, старабеларуская мовы, на якіх напісаны архіўныя дакументы (пачынаючы з сярэдзіны XIX ст. справаводства ў Беларусі, інкарпаванай да Расійскай імперыі, вялося выключна на рускай мове, таму мова дакументаў у пазнейшым пераліку не пазначаецца); *р.* — рэчка; *фальв.* — фальварак.

| Дата | Загаловак дакумента і анатацыя | Архіўная сігнатура |
|---|---|---|
| 1556—1558 | Дакументы адносна спрэчак Шэметаў з Кулешай пра ліквідацыю запазычанасці з гр. Завішамі, падзел м. Дзевалтова, Бакшты і інш. Менскага ваяв. (*польск.*, *старабел.*) | 694, 5, 7 |
| 1584—1804 | Выпісы з кніг Вішнеўскага пав. па разліках С. Хмары з арандатарам на права арэнды м. Дубровы | 1324, 1, 5 |
| 1609 | Інвентар Івянецкай плябаніі (м. Старынкі, Івянец, Волма, Юржышкі, Жукі, Дзедкавічы, Камень, Пучкары, Арыцэвічы, Дварчаны, Жукі; р. Мосцішча, Вяла, Цецяроўка) (*польск.*) | 1769, 1, 13, 126—130адв. |
| 1612—1689 | Дарчыя і ахоўныя граматы, інвентары і іншыя дакументы Шэметаў на м. Бакшты і Вязь Менскага пав. | 694, 5, 44 |
| 1623 | Акт інтрамісіі заменнымі пляцамі зямлі ў м. Пярэжыр і фальв. Юржышкі Івянецкай плябаніі Менскага ваяв. (*польск.*) | 1769, 1, 14, 407—407адв. |
| 1624 | Ліст падзелу м. Пярэжыры Менскага ваяв. паміж братамі Даніэлем і Аляксандрам Скіндэрамі (фальв. Плябань Івянецкая, в. Сідараўцы, Яцавічы, Волма, р. Ляшкаўка, граніца Юржышская) (*польск.*) | 1769, 1, 6, 743—746адв. |
| 1633 | Інвентар фальв. Галянова і Варэнікі Ашмянскага пав. | КМФ-5, 1, 1140. |
| 1644—1757 | Ведамасці ўліку грошай, жывёлы, збору ўраджаю, падаткаў і нядоімак з сялян м. Івань, Івянец, Іўе (*польск.*) | 694, 2, 3007 |
| 1665 | Ліст зямяніна Станіслава Пажарыскага на падзел спадчыннага м. Пярэжыры Менскага ваяв. (згадв. в. Сідаравічы, р. Нядзведка (Мядзведка?), грунты ганчароўскія, папкоўскія, Юржышкі) (*польск.*) | 1769, 1, 8, 36—39адв. |
| 1683—1759 | Грашовыя квітанцыі графа К. Завішы на м. Бакшты Менскага ваяв., атрыманыя ад розных асоб (*польск.*) | 694, 5, 168 |

| | | |
|---|---|---|
| 1686 | Фундуш віленскай ваяводзінай Канстанцыі Сангушка Ракаўскаму дамініканскаму манастыру зямельнага пляца ў мяст. Ракаў Менскага ваяв. (згадв. в. Гіневічы, р. Лявонаўка) | 1769, 1, 16, 400—403адв. |
| 1704 | Ліст маршалка надворнага ВКЛ кн. Казіміра Любартовіча Сангушкі ракаўскаму мешчаніну бурмістру нясвіжскаму Яну Абрамовічу на вольнасць (*польск.*) | 1727, 1, 9, 289—290адв. |
| 1704 | Апісанне граніц фальв. Кучкунаўшчызна і Баўфалаўшчызна Менскага ваяв. у сувязі з фундушам іх маршалкам надворным ВКЛ кн. Казімірам Антонам Любартовічам Сангушкам Ракаўскаму базыльянскаму манастыру (згадв. м. Ракаў, Кучкуны, Палікшты, Монькі, р. Манюнька) (*польск.*) | 1769, 1, 21, 369—370адв. |
| 1709 | Прывілей правінцыяла Рускай правінцыі доктара тэалогіі брацтва св. Якава закону казнадзейскага Тамаша Крушэўскага Ракаўскаму брацтву св. Ружанца пры Дамініканскім касцёле на абавязкі і правы брацтву | 1727, 1, 18, 17—18адв. |
| 1711 | Акт рэвізіі крыўд жыхарам места Ракава і Ракаўскай вол. Менскага ваяв. ад Карлінга (*польск.*) | 1727, 1, 7, 566—577адв. |
| 1713—1722 | Інвентары: м. Бакшты Менскага ваяв., складзены пры продажы Крыштафам і Мар'янай Жабамі Станіславу Лясвеў-скаму; фальв. Бабры; м. Кіявец Пуцяцінскі Менскага ваяв., складзены пры продажы Дамінікам Пажарыскім Антону і Тэклі Вінчам (згадв. в. Пятровічы); м. Старынкі Стражоўскія (з в. Сушы і Сульжыцы) Менскага ваяв., складзены пры продажы Эліяшам і Вікторыяй Вялічкамі Францішку, Тэрэзе Баўфалам Гзоўскім (*польск.*) | 1769, 1, 4, 733—734; 694, 2, 862; 1727, 1, 8, 93—94адв.; 1721, 1, 11, 320—321адв. |
| 1720—1780 | Пра спрэчку гр. Я. Завішы з гр. Т. Завішам на права валодання м. Бакшты, Смілавічы Менскага ваяв. (*польск.*) | 694, 5, 233 |
| 1722 | Ліст падзелу фальв. Казельшчына Менскага ваяв. паміж Бароўскімі (згадв. м. Ракаў, р. Манюнька) (*польск.*) | 1769, 1, 23, 125—126адв. |
| 1726—1727 | Рэестр недабору дзякла і чыншу з жыхароў м. Дубровы (в. Навасёлкі, Пугачы, Уша, Кайцені) Менскага ваяв. за 1720—1726 гг. Францішка Валадковіча (*польск.*) | 1727, 1, 8, 1382—1387 |
| 1729—1730 | Пра спрэчку гр. Я. Завішы з кс. Міхаілам аб ліквідацыі запазычанасці і правах валодання м. Ельня, Дварэц Слонімскага пав. і м. Бакшты Менскага пав. (*польск.*) | 694, 5, 256 |
| 1736 | Уводны інвентар м. Доры і Сівіца | КМФ-5, 1, 871 |
| 1738 | Фундуш Даніэля і Марыны Пажар(ы?)цкіх Кіявецкай уніяцкай царкве ў м. Кіявец Салагубаўскі Менскага ваяв. (*польск.*) | 1769, 1, 16, 67—68адв. |
| 1738—1781 | Дарчыя граматы і рэестр маёмасці Ракаўскай, Свірыдавіцкай, Савіцкай і іншых цэркваў (*польск., рус.*) | 694, 5, 273 |



| | | |
|---|---|---|
| 1745 | Інвентар падданых, дадзеных правам заменным падскарбіем ВКЛ Янам Давойнам Салагубам Івянецкаму Францішканскаму Канвенту | 1816, 1, 5, 557—558 |
| 1745 | Ліст угодлівы заменны паміж падскарбіем ВКЛ Я. Давойнам Салагубам і Івянецкім Францішканскім Канвентам (м. Івянец, Ракаў, Падгор'е, Пакуце, Ткачы, Кардуны, Маскалёўшчына, Хомічы, Яўневічы, Казарэзы, Папкі, Ваўкаўшчызна, Мешкуці, Эліяшы, Бахматаўшчызна, Пральнікі, Часнакі, Шастакаўшчызна, Вайцінева, Дзе(я)рыбы, Верабееўшчызна, р. Івенчык, Іслач, Волма, Пасячанка, Дубленнік) (*польск.*) | 1816, 1, 5, 549—556адв. |
| 1745 | Дэкрэт кампрамісарскага суда па справе паміж падскарбіем ВКЛ пісарам земскім Янам Давойнам Салагубам і архідыяканам смаленскім, плябанам івянецкім Міхалам Станевічам на права валодаць фальв. Южышкі (Юржышкі), зямельнымі пляцамі і людзьмі ў Падгужы (Падгор'е), Маскалёўшчызне, Старынках, Войткаўшчызне, Васішках і разрабаванні маёмасці Івянецкага фарнага касцёла (*польск.*) | 1769, 1, 5, 718—732 |
| 1748 | Інвентар м. Старынкі Стражоўскія Менскага ваяв., складзены пры продажы Ігнатам, Янам, Розай Гзоўскімі Антону і Вікторыі Коўзанам (*польск.*) | 1816, 1, 7, 342—343адв. |
| — | Ліст Яна, Ігната і Розы Гзоўскіх аб продажы Антону і Вікторыі Коўзанам м. Старынкі Стражоўскія (*польск.*) | 1816, 1, 7, 344—344адв. |
| 1749 | Інвентар фальв. Душкаў (в. Душкавічы) Ракаўскага графства Юзафа Пра[у]шынскага (згадв. р. Выгонка, гасцінец Волменскі) (*польск.*) | 1727, 1, 11, 814—815адв. |
| 1750 | Рэестр спраў па м. Яршэвічы Менскага ваяв. Ракаўскай парафіі за 1575—1689 гг. Яна Бародзіча (*польск.*) | 1727, 1, 12, 185—193адв. |
| 1752 | Запіс угоды паміж ротмістрамі Менскага ваяв. Свентаржэцкімі і Коўзанамі пра ўсталяванне граніц м. Кіявец Пуцяцінскі, Дражычы, Старынкі, в. Сульжычы (згадв. Івянец, Ярша[э]вічы); паміж канюшым Менскага ваяв. Янам Вяжэвічам, чашнікам смаленскім Ежы Пшэсецкім, падчашым Менскага ваяв. паручнікам пяцігорскім войск ВКЛ Ігнатам Карніцкім пра ўсталяванне граніц м. Старынкі і в. Вербаўцы (*польск.*) | Там жа, 739—740адв.; 1129адв. |
| 1756—1762 | Інвентар м. Старынкі Лапінскія Менскага ваяв., складзены пры продажы Іанай Вальтэр Тамашу і Людовіцы Лянчоўскім (в. Кіявец, Занкаўцы); м. Бакшты Менскага ваяв. для продажу чашнікавай смаленскай Мар'янай Галееўскай лоўчым Менскага ваяв. Яну і Ганне Паўлікоўскім (*польск.*) | 1816, 1, 10, 362—365адв. 1816, 1, 9, 76—79адв.; 1769, |

| | | |
|---|---|---|
| | | 1, 4, 278—283адв. |
| 1759 | Запіс угоды паміж чашнікам Упіцкага пав. Дамінікам Казімірам Заярскім і чашнікам смаленскім Ежы Прысецкім па справе размежавання м. Крывічы Есьманаўскія (з в. Салаўі, Русакі, Крэчаўцы) і Крывічы Во(а)ляноўскія (з в. Бакачы, Юшкелі) Менскага ваяв. (згадв. в. Яршавічы, Лягезы, ручай Курылаў, р. Крывічанка, Вісуча, Лопаўка, могілкі Бакачоўскія, Ракаўскі гасцінец, Крывічы Буйвідаўскія) (*польск.*) | 1727, 1, 13, 788—791адв. |
| б/д | Грашовыя ведамасці і спісы рабочых м. Дубровы і Красіва (*польск.*) | 1324, 1, 73 |
| 1766—1770 | Інвентары м. Дварышча Менскага ваяв. Жыжэмскіх; м. Эйнаравічы, або Селішча (з 1769 г. фальв. Радзькаўшчына і в. Эйнаравічы і Слабада), Менскага ваяв. Зыгмунта і Зофіі Узыцкіх (*польск.*) | 1727, 1, 14, 830—833, 928—929; 1769, 16, 278—282 |
| 1767—1787 | Судовая перапіска ваяводы Хмары пра закладныя м. Дубровы і пабудову Дуброўскага касцёла (*польск.*) | 1324, 1, 84 |
| 1770—1771 | Інвентары: фальв. Пральнікі або Студзяневічы, складзены пры продажы Антонам Сялявай паручніку гусарскіх войск ВКЛ Юзафу Даўнаровічу; м. Бакшты Менскага ваяв., складзены пры продажы лоўчым Менскага ваяв. Янам Паўлікоўскім ротмістру Траяну Рымвіду Міцкевічу (*польск.*) | 1324, 1, 9, 1275—1276; 1324, 1, 563—567 |
| 1773—1845 | Інвентар і акт абследавання Войценаўскай Раждзественска-Багародзіцкай царквы | 1571, 1, 1 |
| 1775—1777 | Інвентары: м. Старынкі Менскага пав.; фальв. Гародзькі з в. Гародзькі, Лістапады Ашмянскага пав. Тадэвуша і Кацярыны Валадковічаў (згадв. Ганкевічы, граніца Лоская); м. Пярэжыр Менскага ваяв., складзены пры продажы ротмістрам Юзафам Аборскім, старостам шаняўскім Францішку і Эльжбеце Ратыньскім (згадв. Пярэжыры, Ракаў, Івянец); фальв. Кіявец Есьманаўскі Менскага ваяв. ротмістра ашмянскага Яна Міkодыма Жаброўскага (Зяброўскага); фальв. Сідараўцы Менскага ваяв. для продажу палкоўнікам войск ВКЛ Самуэлем Ланеўскім Воўкам мечніку Менскага ваяв. Ігнату Ратыньскаму (згадв. в. Сідараўцы, Бесманаўшчызна); м. Задарожжа Менскага ваяв. суддзі Галоўнага Літоўскага Трыбунала Рымвіда Міцкевіча (згадв. Дубоўцы, Падгродзе, Шульжычы (Сульжычы), Навасёлкі, Гаўрылкаўшчына); м. Дварышча з в. Слабада (Слабодка) Менскага ваяв. (*польск.*) | 694, 2, 8135, 8181; 1732, 1, 12, 625—633адв.; 1769, 1, 8, 230—233адв.; 352—353адв.; 794—795адв. 807—811адв.; 1727, 1, 18, 168—171адв. |
| 1775 | Прызнанне жыда Гдаля Моўшавіча Ракаўскага пра ўдзел у абрабаванні Ракаўскай базыльянскай царквы 19 кастрычніка 1775 г. (*польск.*) | 1727, 1, 17, 396—397адв. |



| | | |
|---|---|---|
| 1776 | Угодлівы канвенцыйны запіс паміж Ракаўскім базыльянскім манастыром і жыдамі Ракаўскага і Красnасельскага кагалаў па справе абрабавання Ракаўскай царквы 19 верасня 1775 г. (*польск.*) | 1769, 1, 8, 291—294 |
| 1777 | Ліст палкоўніка войск ВКЛ С. Ланеўскага-Воўка на продаж мечніку Менскага ваяв. Ігнату Ратыньскаму фальв. Сідараўцы, Бесманаўшчызна) (*польск.*) | 1769, 1, 8, 796—797адв. |
| 1780 | Інвентар места Івянец і фальв. Маскалёўшчызна з в. Войткаўшчызна, Мешкуці, Абрамаўшчызна, Ткачы, Стамёшкі, Казарэзы, Хомічы, засц. Плескаўшчызна, Пупкаўшчызна, Грабаўшчызна, Мендзераўшчызна, Мазолеўшчызна, Радзееўшчызна, складзены пры продажы генерал-маёрам войск каронных Аляксандрам баронам дэ Сольдэнгофам генерал-лейтэнанту войск расійскіх Абрагаму дэ [Раманесаву] (*польск.*) | 1727, 1, 19, 219—248адв. |
| 1780—1783 | Рэестры ўліку пчаліных калод, збору грашовых падаткаў, адпрацоўкі павіннасцей жыхарамі засценкаў і вёсак м. Старынкі Менскага пав. (*польск.*) | 694, 2, 1783, 8183 |
| 1780—1907 | Планы зямель м. Валожын Ашмянскага пав. і Васільчанскага ключа (*польск.*, *рус.*) | 694, 425 |
| 1783 | Акты камісіі праверкі даходаў з м. Старынкі Менскага пав. (*польск.*) | 694, 2, 8191 |
| 1783—1786 | Інвентарны вопіс м. Дубровы, Навасёлкі, Гародзькі і інш. (*польск.*) | 1324, 1, 105 |
| 1788—1800 | Дарчыя і закладныя граматы гр. Завішаў на м. Бакшты і інш. Менскага пав. (*польск.*, *старабел.*) | 694, 5, 410 |
| 1789 | Табель дымоў, жыхароў і прыбыткаў м. Дубровы Менскага ваяв. суддзі земскага Лідскага пав. Станіслава Марцінкевіча. Апісанне мяст. Дубровы, в. Навасёлкі, Уша, Агароднікі, Пугачы, Татарская, Туркаўшчызна, Сялявічы, Гойжаў, Ялонка, засц. Сцецкі (*польск.*) | 1769, 1, 24, 18—22адв. |
| 1791 | Інвентар м. Дубровы (з фальв. Гойжава, Эпімахі, мяст. Дубровы, в. Навасёлкі, Уша, Бортнікі, Агароднікі, Татарская, Сцецкі, Кайцені, Сялявічы, Туркаўшчызна, Ялонка, Пугачы) Менскага ваяв., складзены пры продажы лідскім земскім суддзёй Ст. Марцінкевічам менскаму ваяводзе Адаму Хмары (згадв. Крывічы, Мехаўшчына, Янаўшчына, Вазгулы, Гіравічы, Клюкаўшчына, Халецкаўшчызна) (*польск.*) | 1769, 1, 25, 234—313 |
| 1793 | Геаметрычны інвентар (абводніца) фальв. Выганічы м. Ракаў Менскага ваяв., складзены пры продажы падскарбіем ВКЛ М. К. Агінскім ленчыцкаму лоўчаму Ксавэрыю Рыльскаму (згадв. мяст. Ракаў, Івянец, в. Варанкі (Варонкі), Душкаў Вялікі, Маляўкі, Лукашы, Выганічы, Трыпуці, Слабодка, Завішча, р. Булгакоўка, або Выгонка, Ісла\ч) (*польск.*) | 1769, 1, 25, 743—749адв. |

| | | |
|---|---|---|
| 1794 | Інвентар фальв. Выганічы (в. Выганічы, Слабодка, Душкаў, Грынюкі, Трыпуці) Ракаўскага графства, складзены пры продажы падскарбіем ВКЛ Міхалам Клеафасам Агінскім ленчыцкім лоўчым Францішку і Кацярыне Рыльскім (*польск.*) | 1727, 1, 33, 224—241адв. |
| 1794 | Прадажнае права на м. Выганічы з в. Выганічы, Душкаў, Грынюкі, Слабодка, Трыпуці, або Скіндзераўшчына, Ракаўскага графства ад падскарбія ВКЛ М. К. Агінскага Ф. і К. Рыльскім; м. Ракаў, в. Выганічы, Душкаў, Грынюкі, Слабодка, Трыпуці, або Скіндзераўшчына, Яршэвічы, Крывічы, Кіеў, Ілія, Ізабелін, р. Уса, Вісуча (*польск.*) | 1727, 1, 33, 221—223адв.; 1769, 1, 27, 8—11адв. |
| — | Інвентары: фальв. Іслач і Траскаўшчызна (в. Варанкі, Кавалеўшчызна, Траскаўшчызна) Ракаўскага графства, складзены пры продажы падскарбіем ВКЛ М. К. Агінскім Антону і Кацярыне Свентаржэцкім; фальв. Стары Ракаў (з в. Гярвелі, Маевічы, Гіравічы, Будраўшчына, засц. Багданаў, Крупшчызна) Ракаўскага графства, складзены пры продажы падскарбіем ВКЛ М. К. Агінскім стольніку Полацкага ваяв. Іасафату Сляве; фальв. Новае Поле (в. Палікшты, Жукі, Казакі, Ліхачы, засц. Рудзеўшчына) Ракаўскага графства, складзены пры продажы падскарбіем ВКЛ М. К. Агінскім стольніку Полацкага ваяв. Іасафату Сляве (згадв. р. Барздынка; фальв. Карабанаўшчына (в. Бузуны, Монькі) Ракаўскага графства, складзены пры продажы падскарбіем ВКЛ М. К. Агінскім лоўчаму Тадэвушу Варанцову) (*польск.*) | 1727, 1, 33, 163—202адв.; 205—217адв.; 247—256адв. |
| 1794 | Інвентарны вопіс праваслаўнай царквы ў в. Крывічы (*рус.*), метрычныя запісы нараджэння (1745—1794), шлюбу (1745—1793) і смерці (1790—1794) | 800, 1, 1—2 |
| 1798 | Інвентар фальв. Далідавічы Каменьскай плябаніі Менскага ваяв. каноніка смаленскага, пробашча каменьскага ксяндза Яна Жаброўскага (*польск.*) | 686, 1, 9, 237—239адв. |
| 1798 | Прашэнне падпалкоўніка С. Эстка аб пераводзе на яго імя выкупленага ім м. Івянец, Родзеўшчызна, Баравікоўшчызна і іншых Менскага пав. (*польск.*) | 588, 2, 19 |
| 1799 | Пра выдачу пасведчання М. І. Салтыкову аб колькасці мужчынскіх душ ў м. Ракаў і Ілія Вілейскага пав. для прадстаўлення ў Дзяржаўны дапаможны пазыковы дваранскі банк (*польск., рус.*) | 588, 2, 25 |
| 1800—1807 | Пра выдачу запазычанасці Дзяржаўнаму дапаможнаму пазыковаму дваранскаму банку і выключэнне з залогу прыгонных сялян м. Ракаў, Ілія Вілейскага пав. і вёсак Менскага і Вілейскага пав. памешчыка М. І. Салтыкова (*польск., рус.*) | 588, 2, 63 |
| 1801 | Пра пабудову хат у м. Івянцы пасля пажару без дазволу ўлад | 295, 1, 28 |



| | | |
|---|---|---|
| 1802—1803 | Пра спрэчку аб праве валодання фальв. Галянова Вілейскага пав. паміж памешчыкам Я. М. Лапацінскім і гр. Агінскім (*польск., руск.*). | 588, 2, 77 |
| 1802 | Пра абвінавачанне сялянкі м. Ракаў Менскага пав. Л. Раслеўскай у забойстве незаконнароджанага дзіцяці | 76, 2, 168 |
| 1803 | Інвентар фальв. Ракаў Менскага пав. (*польск.*) | 694, 2, 7309 |
| 1804 | Вопіс маёмасці Навадворскага касцёла Менскай губ. (*польск., рус.*) | 1275, 1, 1 |
| 1805—1806 | Пра абвінавачанне генерал-маёра Л. Здзяхоўскага ў прыцясненні жыхароў м. Ракаў (*польск., рус.*) | 76, 2, 243 |
| 1805—1807 | Пра скаргу шляхціца Менскага пав. В. Жывіцы на памешчыцу А. Багдановіч за захоп м. Скрундзеўшчына (*польск., рус.*) | Там жа, спр. 248 |
| 1819 | Пра спрэчку губернскага сакратара Захаржэўскага з панамі Хялкоўскімі на права валодання м. Яршэвічы Вілейскага пав. (*польск., рус.*) | 299, 2, 490 |
| 1820 | План зямельных надзелаў м. В(ялікія) Крывічы, Новы Двор (*польск.*) | 120, 2, 463 |
| 1821—1845 | Інвентар м. Старынкі Менскага пав.; правілы аб парадку выконвання сялянамі маёнтка павіннасцей; фальв. Папкі (*польск., рус.*) | 694, 2, 8143, 1—43; 8192, 1—10; КМФ-5, 1, 3237, 1—19 |
| 1827—1828 | Пра выдачу пасведчання аб законным валоданні і адсутнасці прыватных і казённых пазык, спагнанняў і забаронаў памешчыку К. Ф. Багдановічу на яго м. Забор'е Вілейскага пав. і памешчыку Ф. К. Здзяхоўскаму на яго м. Ракаў Менскага пав. | 588, 2, 204; 213 |
| 1827—1831 | Пра адшуканне свабоды жыхарамі м. Ракаў ад прыгоннай залежнасці К. Здзяхоўскага | 588, 2, 199 |
| 1828—1830 | Ведамасць збору падаткаў з сялян, прыходу і расходу зерневых, бабовых і тэхнічных культур, наяўнасці жывёлы, фуражу па фальв. Папкі (*польск.*) | 694, 2, 6617, 1—179 |
| 1829 | План земляў фальв. Гіневічы памешчыкаў Ракоўскіх (*польск.*). | 120, 2, 478 |
| 1830 | Інвентар фальв. Папкі Менскага пав. | КМФ-5, 1, 3239, 1—23, 3243, 1—45 |
| 1831—1832 | Пра адшуканне свабоды сялянамі м. Ракаў Менскага пав. Лукашэвічамі ад прыгоннай залежнасці памешчыкаў Здзяхоўскіх (*польск.*) | 299, 2, 877 |
| 1831—1838 | Пра абвінавачанне селяніна м. Літвяны Менскага пав. І. Байкачана ў забойстве месціча мяст. Ракаў Менскага пав. А. Яроцкага ў бойцы (*польск., рус.*) | 145, 2, 10 |
| 1832—1835 | Пра адшуканне свабоды ад прыгону памешчыкаў Халхоўскіх сялянамі Доўнарамі м. Ісiачкі Менскага пав. (*польск.*) | 146, 2, 1158 |
| 1832 | Ведамасць прыбыткаў і ацэнкі м. Валожын і Лезуны (*польск.*) | 694, 2, 1263 |

| | | |
|---|---|---|
| 1833 | Пра выдачу Абрампольскаму пасведчання аб вольнасці прыгонных душ м. Міхалова (*польск.*) | 159, 1, 129 |
| 1834 | Пра пабудову рыма-каталіцкай капліцы і касцёла ў в. Войценева і м. Старынкі (*польск.*) | 299, 5, 111 |
| 1836—1840 | Інвентар уніяцкай царквы ў в. Яршэвічы Вілейскага пав. (*польск.*) | 136, 1, 11593, 26—31 |
| 1836—1842 | Пра пераўтварэнне часоўні ў парафіяльную царкву ў в. Пральнікі | 136, 1, 11841 |
| 1836 | Пра абвінавачанне эканома м. Гіневічы Менскага пав. селяніна В. Каралька ў нанясенні пабояў селяніну Я. Варановічу, ад якіх ён памёр | 145, 2, 90 |
| 1837—1842 | Пра абвінавачанне ксяндзоў Івянецкага касцёла Менскага пав. Ф. Лейліёна і Ф. Скарульскага ў падлогу метрычнага запісу пра хрост селяніна Кужоўніка | 145, 2, 112 |
| 1837 | План земляў казённага м. Гіневічы | 120, 2, 497 |
| — | Перапіска памешчыка Хмары з ваяводам м. Германішкі аб прыбытках і растратах (*польск.*) | 1324, 1, 171 |
| — | Пра селяніна Якуба Варановіча, памерлага ў выніку пабояў, атрыманых ад эканома м. Гіневічы | 159, 1, 232, 1—27 |
| 1838 | Пра выдачу пасведчанняў на вольнасць душ м. Родзеўшчына памешчыка Плявакі; фальв. Крыніцы памешчыка Васілеўскага; м. Выганічы памешчыкаў Грушавіцкіх; м. Сівіцы памешчыка Е. Плявакі | Там жа, 275, 1—18; 276, 1—10; 277, 1—16; 278, 1—22; 279, 1—14 |
| — | План зямельных надзелаў в. Пярэжыры, Клявец, Юржышкі, Ігнатаў, Баброўнікі і іншых Ракаўскай і Івянецкай вол. Менскага пав. | 1477, 1, 3024 |
| — | Копія Юржышскага плана (паказаны тагачасныя граніцы Менскага пав.) | Там жа, 3210—3213 |
| 1840 | Пра пабудову А. Ленскім каменнай царквы ў в. Старынкі | 136, 1, 14736 |
| 1840—1853 | Інвентар (з дадаткам) і геаметрычны рэестр угоддзяў казённага м. Пакуці; геаметрычны інвентар і планы; люстрацыя | 27, 5, 167, 1—6; 168; 169; 171 |
| 1840—1841 | Пра грашовыя прэтэнзіі крэдытораў да памешчыка м. Крывічы Ф. Свентаржэцкага | 146, 2, 161 |
| 1840—1859 | Пра прэтэнзіі аб спагнанні фундушу Ракаўскага базыльянскага манастыра, Крывіцкай царквы і менскіх манахінь-марыявітак да конкурсных м. памешчыка Ф. Свентаржэцкага | Там жа, 160 |
| 1840—1858 | Люстрацыя казённага м. Кучкуны-1; геаметрычны рэестр угоддзяў | 27, 1, 148; 27, 5, 149, 1—4 |
| 1840—1863 | Прадстаўленні памешчыкам Р. Грушвіцкім тастамента памешчыцы Менскага пав. М. Вайдзевіч (*польск.*, *руск.*); памешчыкам Т. А. Набароўскім тастамента Ф. Вайдзевіча; месцічам мяст. Ракаў З. Фельгельманам тастамента месціча У. Фельгельмана | 146, 2, 150; 498; 2072 |



| | | |
|---|---|---|
| 1841—1842 | Пра абвінавачанне памешчыка м. Слацімкі Ашмянскага пав. Грушвіцкага ў перагрыманні сялян м. Германішкі Вілейскага пав. Зубковічаў (Звяркоў) памешчыка Цехановіча | 1456, 2, 181 |
| 1842 | Уводны інвентар фальв. Папкі Менскага пав. | КМФ-5, 1, 3240, 1—18. 3241, 1—35 |
| 1843 | Пра выдаленне з валодання м. Івянец памешчыка Плявакі і пра ўвод да валодання гэтым м. графіні Несялоўскай | 159, 1, 495 |
| 1844 | Люстрацыя ў казённым м. Юржышкі | 27, 5, 192 |
| 1844 | Люстрацыя ў казённым м. Гіневічы | 27, 5, 1211—1264 |
| 1844 | Інвентар м. Дубочын і Зарэчча памешчыкаў Свентаржэцкіх; м. Міжрэчча памешчыка Гурскага; м. Ракаў памешчыка Здзяхоўскага; Таўканы памешчыка Чарноцкага | 142, 1, 742, 1—20; 766, 1—25; 795, 1—40; 815, 1—34 |
| 1845 | Інвентар м. Доры, Сівіца, Пяршаі памешчыка Тышкевіча | 142, 1, 740, 1—33; 791, 1—42; 804, 1—30 |
| — | Інвентар м. Дубровы, Эпімахі памешчыка Хмары | 142, 1, 743, 1—38; 744, 1—31 |
| — | Інвентар м. Мешкуці памешчыкаў Яворскіх; м. Навасады памешчыка Пяшковіча; м. Родзеўшчызна памешчыка Плявакі | 142, 1, 767, 1—14; 778, 1—28; 799, 1—22 |
| — | План зямель в. Гіневічы і фермы Гіневічы; інвентар казённага м. Гіневічы; геаметрычны рэестр угоддзяў; план зямлі казённага м. Дзямідавічы | 120, 2, 477; 27, 5, 122, 1—20; 123, 1—36; 132, 1—32; 120, 2, 497; 498 |
| 1845—1846 | Пра раскладку і збор падаткаў з Івянецкага жыдоўскага кагала Менскага пав. і пра далучэнне да яго Ракаўскага і Каменскага жыдоўскіх кагалаў | 24, 1, 158 |
| 1845 | Пра выдачу пасведчанняў памешчыцы М. М. Грушвіцкай на м. Веркалы Ігуменскага пав.; Р. М. Грушвіцкаму на м. Міхалова | 146, 2, 565; 566 |
| 1845 | Прашэнне памешчыкаў Вінцэнта і Юзэфы Марцінкевічаў на заваршэнне купчай крэпасці ад іх тытулярнай саветніцы Пацейкавай на дом у Менску | 146, 2, 585 |

| | | |
|---|---|---|
| 1846 | Пра разгляд матэрыялаў аб адшуканні м. Сліжына і Сутокі Барысаўскага пав., Лагі і Ганутy Ігуменскага пав., Новы Двор Менскага пав. для доказу дваранскага паходжання роду Акулічаў | 299, 2, 2626 |
| — | Геаметрычныя рэестры угоддзяў казённага м. Юржышкі; казённага м. Дайнава, далучанага да м. Дзямідавічы | 27, 5, 193; 511; 512 |
| — | Інвентар м. Вялікія і Малыя Крывічы памешчыкаў Свентаржэцкіх | 142, 1, 712, 1—10; 713, 1—35; 764, 1—20 |
| — | Прыбыткі па м. Папкі Менскага пав. | КМФ-5, 1, 3241а, 1—4 |
| 1846—1859 | Люстрацыя казённых м. Дзямідавічы, Дайнава-Дзямідавічы, Судзевічы | 27, 5, 125, 1—94; 129, 1—150 |
| 1846—1847 | Пра зняцце забароны з м. Новы Двор памешчыка Акуліча за выплату пазыкі | 292, 2, 3120 |
| 1847 | Пра прыём у казну падухоўнага м. Кучкуны Менскага пав. | 27, 1, 266 |
| 1847 | Пра завяршэнне купчай крэпасці паміж памешчыкамі Любанскімі і Клімантовічамі на м. Мнішаны Менскага пав. | 146, 2, 754 |
| 1848 | Пра аб'яўленне сялянам м. Івянец Указа Сената ад 18 лістапада 1848 г. па іх скарзе на прыгнёт памешчыкам Плявакам | 299, 2, 3220 |
| — | Інвентар м. Камень памешчыкаў Кучукоў | 142, 1, 754, 1—25 |
| 1848—1851 | Скарга паверанага сялян мяст. Ракаў Акуневіча на прыгнёт іх памешчыкам Здзяхоўскім | 299, 2, 3223 |
| 1848—1915 | Пра пералічэнне ва ўладанне памешчыка Бярновіча купленага ў Ліхадзіеўскага паезуіцкага м. Навасады | 27, 1, 280 |
| 1849—1866 | Пра прадстаўленне для засведчання памешчыкамі Ласкімі «*рядной*» запісу на м. Кіявец Менскага пав. | 146, 2, 973 |
| 1850 | Геаметрычны рэестр угоддзяў м. Дзямідавічы; інвентар | 27, 5, 132, 1—32; 133, 1—47; 134 |
| 1850 | Наклад забароны на м. Бакшты Вілейскага пав. памешчыка Тарлецкага за пазыку Любавіцкаму | 299, 2, 3, 626 |
| 1850—1857 | Рэвізскія сказкі м. Папкі і Рубяжэвічы Менскага пав. | 694, 2, 6616; 6656 |
| 1850—1853 | Інвентар казённага м. Кучкуны-2; люстрацыя; геаметрычны рэестр угоддзяў; казённага м. Юржышкі; геаметрычны план | 27, 5, 153; 154; 155, 1—12; 27, 5, 194; 195 |
| 1852 | Прашэнне мяшчан-жыдоў м. Ракаў Менскага пав. пра залічэнне іх у разрад аселых мяшчан паводле цэхаў | 24, 1, 540 |



| | | |
|---|---|---|
| — | Інвентар казённага м. Кучкуны-1; геаметрычны план; дадатак да інвентара казённага м. Пакуці | 27, 5, 151; 152; 171 |
| 1851—1852 | Разгляд матэрыялаў пра адшуканне м. Кіявец для доказу дваранскага паходжання роду Даноўскіх | 299, 2, 3775 |
| 1851—1854 | Пра замену цераспалосных зямель м. Дайнава-Дзямідавічы на сумежныя палеткі памешчыка Бржазоўскага | 27, 5, 127, 1—15 |
| 1852—1871 | Пра камандзіраванне менскага павятовага каморніка Арцем'ева для вырашэння пазямельных спрэчак паміж уладальнікамі м. ў Мнішаны і Пяршаі Менскага пав.; для здымка плана і абмеру зямлі Ракаўскай і Выганіцкай цэркваў | 120, 1, 150; 193, 1—63 |
| 1853 | Люстрацыя казённага м. Дайнава-Дзямідавічы; дадатковая люстрацыя казённага м. Дайнава-Дзямі-давічы з выпадку вяртання ў казну зямель, якія знаходзіліся ва ўладанні Каменскага каталіцкага касцёла | 27, 5, 126; 128, 1—15 |
| 1853—1854 | Спазнанне пазыкі рыма-каталіцкаму духавенству з Ракаўскага жыдоўскага кагала | 24, 1, 673 |
| 1853—1857 | Пра рэвізію справаздач жыдоўскіх малітоўных упраў Івянецкага і Ракаўскага жыдоўскіх кагалаў па зборы падаткаў за 1851—1852 гг. | 24, 1, 669 |
| 1853—1857 | Інвентар м. Папкі Менскага пав.; рэвізскія сказкі | КМФ-5, 1, 3243—1; 694, 2, 6656 |
| 1853—1867 | Пра абвінавачанне месцічаў мяст. Івянец Менскага пав. у нанясенні пабояў служкам памешчыка Плявакі за ўвоз віна і супраціўленне паліцэйскім уладам | 145, 2, 397 |
| 1854—1855 | Пра выдачу пасведчання памешчыцы кн. К. Друцкай-Любецкай на м. Стары Ракаў і Новае Поле Менскага пав. (у справе статыстычны вопіс гэтых умоў за 1854 г.) | 146, 2, 1574, 23—25 |
| 1856—1857 | Пра пабудову дамоў для прычту Яршэвіцкай царквы Вілейскага пав. | 295, 1, 1338 |
| 1858—1864 | Пра правядзенне паверачнай люстрацыі казённага м. Гіневічы; казённага м. Дзямідавічы; праект паверачна-люстрацыйнага інвентара казённага м. Дайнава-Дзямідавічы; казённага м. Кучкуны-1; м. Кучкуны-2; м. Юржышкі; рэгламентаваны інвентар зямель м. Папкі; апісанне м. Папкі | 27, 5, 864—868; 890—894, 936—937; 30, 1, 160, 1—26. КМФ-5, 1, 3242, 3244 |
| 1861 | Пра выдачу грошай на пабудову праваслаўнай царквы ў в. Крывічы Менскага пав. | 333, 1, 614, 887—888 |
| 1861 | Пра броварства: бровар у м. Выганічы памешчыка Грушвіцкага; у м. Дубровы памешчыка Хмары; у м. Доры памешчыка Тышкевіча; у м. Дудка і Старынкі памешчыка Я. Бржазоўскага; у м. Кіявец памешчыка | 333, 1, 610, 413; 612, 555—774; 613, 667— |

| | | |
|---|---|---|
| | Ласкі; у м. Навасёлкі, Новае Поле, Стары Ракаў кн. Друцкай-Любецкай; у м. Пральнікі памешчыцы Ледухоўскай; у м. Івянец памешчыцы Плявака | 904; 616, 707 |
| 1863—1866 | Пра прэтэнзіі жыхароў мяст. Івянец Менскага пав. да памешчыка Плявакі за прыцясненні | 145, 2, 894; 1030 |
| 1864 | Пра водпуск леса з бліжэйшых казённых дач для пабудовы сельскагаспадарчых школ у Ракаўскай, Кулевіцкай, Заслаўскай, Пяршайскай вол. | 242, 1, 112, 44 |
| 1864—1867 | Прадстаўленне кн. Друцкімі-Любецкімі і памешчыкам Вілейскага пав. А. Е. Родзевічам запісу на трацейскі суд пра кіраванне м. Стары Ракаў і Новае Поле | 146, 2, 2831 |
| 1865 | Пра водпуск сасновых броўнаў з казённай Пакуцкай дачы на пабудову народнага вучылішча ў в. Доры | 242, 1, 112, 137 |
| 1865 | План дачы м. Пяршаі | 1477, 1, 1322; 1323; 1326 |
| 1865 | План сялянскага надзелу в. Палубоўцы | 1477, 1, 1354 |
| 1865 | План в. Шараі, Запруддзе і Задарожжа Дорскай вясковай грамады Пяршайскай вол. | 27, 3, 120 |
| 1865—1866 | Пра абвінавачанне дваранкі мяст. Ракаў Менскага пав. А. Сікорскай у падпале пабудоў у мястэчку | 145, 2, 1071 |
| 1865—1866 | Пра абвінавачанне сялянкі К. Ікановіч м. Пярэжыры Вілейскага пав. памешчыка Ратынскага ў забойстве незаконнароджанага дзіцяці | 145, 2, 1247 |
| 1865—1867 | Пра абвінавачанне двараніна І. А. Міхневіча ў пакражы валоў у памешчыка м. Міхалова Менскага пав. В. Абрампольскага | 145, 2, 1173 |
| 1865—1866 | Пра выдачу пасведчанняў сялянам в. Скрундзеўшчызна Менскага пав. на зямельны надзел, які падараваны памешчыкам А. Шышкам; в. Дубашы, Крывічы памешчыка А. Свентаржэцкага; в. Мнішаны памешчыка Г. Сушчынскага; в. Русакі памешчыка А. Ленскага; на м. Зарэчча Менскага пав. памешчыкаў Колашкаў; м. Кіявец памешчыка І. Ласкі; м. Люцінка памешчыкаў Марцінкевічаў | 146, 2, 2995; 3172; 3173; 3177; 3178; 3181; 3190 |
| 1866—1867 | Пра абвінавачанне бестэрмінова адпускнога радавога Л. Эдэльштэйна і ракаўскага месціча І. Ратынца ў пакражы збруі і коней у памешчыка Менскага пав. А. Буржынскага | 145, 2, 1307 |
| 1866 | Прашэнне бестэрмінова адпускнога радавога з сялян Мархіры в. Дубровы пра надзяленне яго зямлёй | 242, 1, 666 |
| — | Пра спагнанне свечнага збору з Ракаўскага жыдоўскага кагала Менскага пав. | 24, 1, 2123 |
| 1866—1869 | Правядзенне паверачна-люстрацыйнай камісіі ў казённых м. Дайнава-Дзямідавічы; Кучкуны | 30, 1, 161; 164; 165 |



| | | |
|---|---|---|
| — | Правядзенне паверачна-люстрацыйнай камісіі прынятых у казну царкоўных м. Аношкі, Войценева, Траццякоўшчына, Буцэвічы, Юржышкі | 30, 1, 169; 168, 1—45 |
| 1866—1867 | Паведамленні С.-Пецярбургскай сахраннай казны ад 10.01.1866 пра дазвол закладной на імя Г. Э. Здзяхоўскага на закладзены Э. Ф. Здзяхоўскім м. Ракаў Менскага пав.; аб даўгах на м. Валожын Менскага пав. памешчыка І. Тышкевіча; на м. Урублеўшчына памешчыкаў Набароўскіх; на м. Падневічы памешчыка А. Морэнца; на м. Тупальшчына памешчыкаў Жаброўскіх | 146, 2, 3231; 3369; 3396; 3403 |
| 1867—1873 | Прашэнне жыхароў м. Івянец пра аддзяленне Івянецкай грамады мяшчан ад Старынска-Івянецкай валасной сялянскай абшчыны | 242, 1, 894 |
| — | Інвентары м. Папкі, м. Рубяжэвічы | КМФ-5, 1, 3246 |
| 1869 | Пра прымусовае прынятце праваслаўнага вераспавядання мешчаніна м. Ракаў Л. Янчэўскага з сям'ёй | 295, 1, 2007 |
| — | План сялянскага надзелу в. Бурбаўшчызны Пяршайскай вол. | 1477, 1, 1445 |
| 1869—1873 | Пра прашэнне сялян Крывіцкай вол. пра перанос валаснога ўпраўлення з в. Крывічы ў в. Дубровы | 242, 1, 1258 |
| 1869—1871 | Пра вопіс, ацэнку і продаж хлеба з Пакуцкага запаснога і сельскага магазіна | 27, 2, 104, 1—42 |
| 1869—1897 | Пра вопіс і ацэнку на продаж зямельнага надзелу ў в. Папоўшчына з казённага м. Юржышкі | 27, 2, 115б |
| 1870 | Планы сялянскіх надзелаў в. Папкі, мяст. Пяршаі, в. Багушоўка | 1477, 1, 1331—1333 |
| 1870 | Геадэзічнае апісанне зямлі, выкупленай сялянамі мяст. Пяршаі, в. Сямернікі, Седлішча, Папкі Пяршайскай вол. у памешчыка Тышкевіча | 242, 3, 147, 153, 155, 162, 166 |
| 1870—1878 | Скарга мешчаніна в. Крывічы Менскага пав. Баранава аб няправільным яго лячэнні вольнапрактыкуючым лекарам Стржалкам | 299, 3, 128 |
| 1870 | Планы зямлі Ракаўскай і Выганіцкай царквы 1-й часткі | 120, 2, 726; 727 |
| 1871 | Геадэзічнае апісанне зямельнага надзелу, выкупленага сялянамі в. Багданава, Будроўшчына ў кн. Друцкай-Любецкай;. сялянамі в. Бакачы ў памешчыка Гурскага; сялянамі в. Бузуны, Залессе ў памешчыцы Пашковіч; сялянамі в. Навіны, Пятровічы ў памешчыка Ласкага; сялянамі в. Стражаўшына ў памешчыка Свентаржэцкага; сялянамі в. Туркаўшчына ў памешчыка Хмары | 120, 3, 673—677; 682—686 |
| — | План казённай Старынкаўскай дачы з пазначэннем лесасекі | 27, 3, 183 |

| | | |
|---|---|---|
| — | Звесткі пра царкоўнапрыходскія школы пры Дуброўскай, Кіявецкай, Навасадскай цэрквах (колькасць настаўнікаў, вучняў і г. д.) | 458, 1, 51, 9адв. — 10 |
| — | Геадэзічнае апісанне зямлі, выкупленай сялянамі в. Страплеўцы Крывіцкай вол. у памешчыка Свентаржэцкага; сялянамі в. Пярэжыры ў памешчыка Ратынскага; сялянамі в. Касцюкі ў памешчыка Пузіноўскага | 242, 3, 108; 136; 143 |
| — | Пра звальненне са службы адміністратара Пяршайскага касцёла Наркевіча і ксяндза Сырыновіча за адмову весці службу на рускай мове; святара Ракаўскага касцёла Бавульскага | 295, 1, 2240; 2241, 1—24 |
| 1873—1875 | Геметрычныя планы сялянскіх надзелаў в. Зарэчча Івянецка-Старынкаўскай вол., в. Вялікія Крывічы, Зарэчча, Пугачы Крывіцкай вол. | 120, 2, 717; 1477, 1, 1357; 1172 |
| б/д | План дачы м. Выганічы; план драўлянай царквы ў в. Доры | 1477, 1, 1144; 1430 |
| — | Івянецкае народнае вучылішча (звесткі пра пабудову новага будынка і пераводзе вучылішча з в. Старынкі ў м. Івянец) | 242, 16 1746 |
| — | План сялянскага надзелу і геадэзічнае апісанне зямлі, выкупленай сялянамі в. Вялікія Крывічы, Дубашы-1, Дубашы-2 у памешчыка Свентаржэцкага | 1477, 1, 1324; 120, 3, 675; 679—680 |
| 1878—1881 | Прашэнне жыхароў м. Івянец аб назначэнні ў Івянецкую цвінтарную капліцу ксяндза для выканання духоўнага абраду | 295, 1, 3297, 1—11 |
| 1879 | Зацемкі па прыняцці ад арандатараў м. Папкі будынкаў па кантракце ад 28.02.1879 г.; інвентар м. Папкі | КМФ-5, 1, 3241—1а, 1—2; 3247—1, 1—118; 3247—2 |
| — | Геадэзічны вопіс зямлі, выкупленай сялянамі в. Гярвелі Крывіцкай вол. у кн. Друцкіх-Любецкіх | 242, 3, 201 |
| 1881—1882 | Пра адкрыццё сельскіх пачатковых народных вучылішчаў (звесткі пра Дорскае, Івянецкае, Крывіцкае і іншыя вучылішчы) | 458, 1, 78 |
| — | Перапіска з народнымі вучылішчамі Мінскай губ. аб праверцы гэтых устаноў інспектарамі і прыняцці захадаў па паляпшэнні працы народных вучылішч (ёсць звесткі па Івянецкаму, Пяршайскаму, Ракаўскаму, Пярэжырскаму і іншых народных вучылішчах) | 458, 1, 242 |
| 1883—1884 | Пра ўтрыманне працэнтнага збору з м. Івянец уладальніка Мазарынава | 321, 1, 66 |
| 1884 | Пра абвінавачанне двараніна (з) в. Шэлеўшчына Івянецкай вол. П. Красоўскага ў знявазе судовага следчага | 183, 2, 172 |



| | | |
|---|---|---|
| 1884—1885 | Пра абвінавачанне ўрадніка в. Зарэчча Пяршайскай вол. Г. Хадасевіча ў хабарніцтве | Там жа, 268 |
| — | Прашэнне правізара Ю. Рышкевіча дазволіць адкрыць сельскую аптэку ў мяст. Ракаў | 299, 3, 458 |
| 1885 | Пра дазвол адкрыць царкоўнапрыходскую школу ў мяст. Івянец і мяст. Ракаў Менскага пав. | 458, 1, 111, 10адв. |
| 1886 | Зямельны план засц. Дворышча і сялянскіх надзелаў в. Дубашы | 120, 2, 494; 1477, 1, 1325; 1337 |
| — | Пра абвінавачанне сялян в. Бузуны Ракаўскай вол. Матылевічаў ў аказанні супраціву юрэвіцкаму сельскаму старасце пры вопісе іх маёмасці за пазыкі | 183, 2, 1535 |
| 1886—1887 | Іск селяніна І. Мурзы да сялян в. Гіневічы Ракаўскай вол. аб канфіскацыі з незаконнага валодання адказчыкаў урочышча Белае Балота | 183, 3, 796 |
| 1887 | Статыстычнае ведамасць пра бровар у м. Дубровы | 21, 1, 44, 417 |
| — | План сялянскага надзелу в. Туркаўшчына | 1477, 1, 1348 |
| 1887—1888 | Пра пабудову ў мяст. Ракаў каменнай капліцы з выпадку 28-й гадавіны адмены прыгоннага права | 295, 1, 4336 |
| 1888 | План зямельнага надзелу двараніна Мінкевіча ў 1-й і 2-й частках засценка Дворышча м. Маляўкі памешчыка Хамянтоўскага | 120, 2, 495—496 |
| 1889 | Ведамасць чыншавых уладальнікаў зямлі ў м. Папкі Менскага пав. | 694, 2, 6618, 1—13 |
| — | Пра зацвярджэнне праекта на рамонт прыходскай царквы ў мяст. Івянец | 299, 1, 858 |
| — | Прашэнне правізара Абрамава дазволіць адкрыць установу (прадпрыемства) для вырабу штучных мінеральных вод у мяст. Ракаў | 299, 3, 624 |
| 1890 | План зямельнага надзелу Дзямідавіцкай казённай дачы Мінскага лясніцтва | 27, 3, 455 |
| 1890—1897 | Прашэнне мяшчан Троцкага і Сапожніцкага дазволіць адкрыць установу для вырабу вод з садавіны ў мяст. Ракаў | 299, 3, 732; 733 |
| 1891 | Пра абвінавачанне двараніна І. Заленскага і селяніна з в. Смалеўшчына Пяршайскай вол. С. Жыдовіча ў навучанні дзяцей грамаце без пасведчання на права навучання | 183, 2, 5537 |
| — | План сялянскага надзелу ў в. Баркі | 1477, 1, 1432 |
| 1892 | Праверачны вопіс м. Кіявец Менскага пав. памешчыцы М. Л. Сакаловай | КМФ-6, 1, 243, 1—21 |
| 1893 | Пра прадстаўленне ў Менскую губернскую ўправу на разгляд плана прыбудовы цёплай царквы да каменнай царквы ў мяст. Ракаў | 899, 5, 1044 |

| | | |
|---|---|---|
| — | Пра ўтрыманне штрафу з ксяндза Вашкевіча за хрост дзяцей рыма-каталіцкага веравызнання фальв. Паліксаўшчына і Доры без дазволу ўлад | 295, 1, 5729, 1—7 |
| — | Прашэнне парафіян Пяршайскага касцёла прызначыць у касцёл ксяндза | Там жа, 5715, 1—2 |
| — | Пастанова Віленскага аддзялення дзяржаўнага дваранскага зямельнага банка ад 4 лістапада 1893 г. аб выдачы пазыкі памешчыку І. Г. Бунгу пад заклад м. Новы Двор і праверачны вопіс гэтага маёнтка | КМФ-6, 1, 243 |
| — | Планы акружной мяжы і зямельных надзелаў у в. Папкі і Янушкавічы Пяршайскай вол. | 1477, 1, 1291; 1443 |
| 1894—1895 | Пра пераўступку аптэкі ў мяст. Ракаў Менскага пав. В. Турэцкім — І. Турэцкаму | 299, 3, 903 |
| 1895 | Геаметрычны спецыяльны план в. Агароднікі | 1477, 1, 3050 |
| — | Прашэнне жыхароў мяст. Івянец дазволіць адкрыць ім жыдоўскае навучальнае вучылішча | 458, 1, 172 |
| — | Прадстаўленне ў Менскую губернскую ўправу на разгляд плана пабудовы слясарных майстэрняў мяшчанамі В. Рубінштэйнам і Фінкелем у мяст. Ракаў | 299, 56, 1093; 1230 |
| 1895—1896 | Іск сялян в. Канюшаўшчына і Рагулёўшчына Пяршайскай вол. да памешчыка м. Валожын А. Тышкевіча аб прызнанні за імі сервітутнага права пасці жывёлу ў лясных урочышчах Пяршайскай вол. | 183, 3, 1823 |
| 1896 | Планы Дзямідавіцкай зборнай казённай лясной дачы Менскага лясніцтва | 27, 3, 679—683 |
| — | Разліковая кніга раскладачнага збору з фабрык і заводаў Менскай губ. (пра бровары ў м. Душкава Э. Э. Булгака і ў м. Кіявец Е. Н. Малахавай) | 333. 1, 3149, 3—5 |
| 1896—1898 | Журнал фабрычна-заводскіх памяшканняў па паветах Менскай губ. (пра лесапільню памешчыка Э. Здзяхоўскага ў м. Міхалова) | 333, 1, 3801, 8—9 |
| 1896—1906 | Разлікі з падрадчыкамі пры пабудове Ракаўскага казённага броварнага склада | 338, 4, 42 |
| 1897 | Прашэнне мешчаніна Д. Нахімоўскага дазволіць яму адкрыць аптэку ў мяст. Івянец | 299, 3, 983 |
| — | Пра абвінавачанне селяніна мяст. Ракаў В. Ланеўскага ў адкрыцці ганчарнага завода без дазволу ўлад | 183, 2, 10844 |
| — | Пра ўвод у валоданне м. Руды Івянецкай вол. удавы калежскага саветніка С. Спонці | 183, 3, 2391 |
| 1897 | Пра продаж з таргоў фальв. Залессе Ракаўскай вол. дваран Раманоўскіх за пазыкі | 183, 3, 2423 |
| — | Пра забарону на м. Пральнікі Івянецкай вол. памешчыцы Ледухоўскай | 183, 3, 2432 |



| | | |
|---|---|---|
| 1898 | Пра абвінавачанне ўтрымальніка паштовых коней в. Сівіца Івянецкай вол. М. Кулака ў зняважэ станавога прыстава | 183, 2, 11594 |
| — | Скарга сялян в. Воўкаўшчына, Крупшчына і Гярвелі на рашэнне царкоўнапрыходскага сходу аб адбудове царкоўнапрыходскай школы ў м. Крывічы | 242, 1, 16506. |
| — | Прадстаўленне ў Менскую губернскую ўправу на разгляд плана пабудовы мешчанінам Ш. Ш. Пацешнікам гарбарнага завода ў мяст. Ракаў | 299, 5, 1316 |
| — | Прадстаўленне ў Менскую губернскую ўправу на разгляд плана пабудовы царквы ў в. Дубровы | Там жа, 1330 |
| 1899 | Ведамасць пра стан народных вучылішчаў Менскай губ. за 1899 г. (звесткі пра Івянецкае, Старынкаўскае і іншыя народныя вучылішчы) | 458, 1, 249 |
| — | План зямлі прычту Дорскай царквы | 120, 2, 513 |
| 1900 | Прашэнне мешчаніна М. К. Грынгольда пра дазвол адкрыць завод для вырабу (вытворчасці) прахаладжальных (ахаладжальных) напіткаў у мяст. Ракаў | 299, 3, 1157 |
| 1901—1902 | Іск сялян в. Баяршчына Івянецкай вол. да памешчыка м. Пральнікі А. Арцінкі аб прызнанні за імі права пасвіць жывёлу ў лясных урочышчах | 183, 3, 3814 |
| 1901—1910 | Разлік з падрадчыкамі пры пабудове Ракаўскага казённага віннага склада | 338, 4, 43 |
| 1902 | Прашэнне жыхароў мяст. Ракаў пра адкрыццё ў мяст. ярмарак | 299, 2, 11818 |
| — | Пратакол пасяджэння будаўнічага аддзялення Менскай губернскай управы ад 17 мая 1902 г. пра дазвол памешчыцы А. Любанскай пабудаваць паравое памяшканне пры бровары ў м. Дубровы | 299, 1, 875, 198—199 |
| 1902—1903 | Хадайніцтва селяніна в. Урублёўшчына Івянецкай вол. А. М. Гуда дазволіць яму перасяліцца ва Усходнюю Сібір | 514, 1, 16 |
| 1902—1907 | Пра адкрыццё ў мяст. Ракаў ніжэйшай рамеснай школы | 458, 2, 263 |
| 1903 | Пра зацвярджэнне праекта на пабудову капліцы ў м. Новы Двор над магілай памешчыка Бунге | 299, 1, 876, 396 |
| 1904 | Пра незаконныя дзеянні Пяршайскага грамадскага старасты Палуба | 514, 1, 232 |
| б/д | План дачы м. Пяршаі; зямельнага надзелу м. Кіявец | 1477, 1, 1449; 1515 |
| 1904 | Пра абвінавачанне сялян в. Вуглы Івянецкай вол. у нанясенні пабояў лесніку м. Пяршаі пры затрыманні іх за самачынную парубку ў панскім лесе | 183, 2, 16600 |
| 1904—1905 | Пра пералічэнне на імя Навадворскага народнага вучылішча зямлі, падараванай дваранінам Бунге з м. Новы Двор | 333, 4, 12272 |

| | | |
|---|---|---|
| 1904—1907 | Пра раздзел нерухомай маёмасці паміж саўладальнікамі дваранамі М. Здановіч і Раманоўскімі засц. Залессе Ракаўскай вол. | 183, 3, 5218 |
| 1905 | Пра пабудову лесапільнага завода ў фальв. Міхалова | 299, 1, 752, 102 |
| 1905—1906 | Пра высылку валаснымі ўправамі Менскай губ. грошай на набыццё кніг для бібліятэкі народных вучылішчаў і на камандзіроўкі членам педагагічнай рады (звесткі пра Івянецкае народнае вучылішча) | 458, 1, 323, 102 |
| — | Пра прызнанне права ўласнасці па даўнасці валодання на ўрочышча Крыніца Ракаўскай вол. сялянкі С. Бажко | 183, 3, 5852 |
| 1906—1907 | Пра разлікі з падрадчыкамі за пабудову Ракаўскага казённага віннага склада | 338, 4, 44 |
| 1906—1908 | Іск селяніна м. Камень Івянецкай вол. І. Яштольд-Гаворкі да ўпраўляючага рыма-каталіцкай духоўнай кансісторыяй аб прызнанні за ім права ўласнасці на зямельны надзел, які займае Каменскі касцёл | 183, 3, 6069 |
| 1906 | Пра адкрыццё Дуброўскай аднакласнай царкоўнапрыходскай школы 15 кастрычніка 1906 г. | 461, 1, 24, 156—157 |
| 1906—1908 | Тэхнічныя дакументы на пабудову 2 мастоў праз р. Свіслач пры м. Новы Двор | 324, 1, 400, 1—139 |
| 1907 | Пра пабудову моста і дамбы пры ім на р. Іслач па дарозе Пяршаі—Івянец, в. Бара(ві)коўшчына | 324, 1, 1309 |
| — | Пра абвінавачанне селяніна в. Пугачы Ракаўскай вол. П. Шніпа ў выказванні абразлівых слоў у адрас праваслаўнай веры | 183, 2, 18743 |
| — | План зямельнага надзелу ў в. Ціханаўшчызна і Бурбаўшчызна Пяршайскай вол. | 1477, 1, 1442; 1448. |
| — | Справаздача пра стан Ракаўскай ніжэйшай рамеснай школы за 1907 г. | 458, 1, 424. |
| 1907—1910 | Пра абвінавачанне сялян в. Якутава Івянецкай вол. М. Супрона і сялянкі в. Галімцы Івянецкай вол. У. Янушкевіч у падпале будынкаў прычту Кіявецкай царквы | 183, 2, 18739 |
| 1908 | Звесткі пра маёмасны, сямейны, эканамічны стан сялян Ракаўскай вол. | 46, 1, 10 |
| — | Ведамасць пра фабрычна-заводскія памяшканні Менскай губ. за 1908 г. (звесткі пра лесапільні, бровары, іх месцазнаходжанне, аб'ёмы вытворчасці і г. д.) | 333, 1, 3808 |
| — | Перапіска з Ракаўскай ніжэйшай рамеснай школай пра арганізацыю навучальнай справы, паспяховасці, паводзінаў вучняў і інш. | 458, 1, 467 |
| 1909 | Справаздача пра стан Ракаўскай ніжэйшай рамеснай школы за 1909 г.; перапіска папячыцеля Віленскай навучальнай акругі з Ракаўскай ніжэйшай рамеснай школай пра хваляванні сярод навучэнцаў школы, аб прызначэнні і звальненні настаўнікаў і інш. | 458, 1, 516; 552—553 |



| | | |
|---|---|---|
| — | Справаздача пра стан Івянецкага меставага 4-х класнага вучылішча за 1909 г. | 458, 1, 535 |
| — | Данясенне прыстава 2-га стана Менскага пав. Менскай павятовай паліцэйскай управе ад 25 кастрычніка 1909 г. пра адкрыццё бровара Л. Л. Ваньковічам у м. Дубровы, пра колькасць рабочых на заводзе | 311, 1, 303, 4 |
| — | Прадстаўленні павятовых управаў па справах земскай гаспадаркі і справаздачныя ведамасці пра стан і выдаткі на ўтрыманне земскіх школ за 1909 г., што субсідзіруюцца земствам (звесткі пра Дуброва-Старынкаўскае, Суднікаўскае, Івянецкае і іншыя народныя вучылішчы) | 324, 1, 658 |
| — | Матэрыялы па Нелюбскаму народнаму вучылішчу (пастанова сялян пра адкрыццё вучылішча, вопіс маёмасці і г. д.; ёсць пра м. Валожын) | 326, 1, 97 |
| — | Звесткі пра адкрыццё і дзейнасць Івянецкага 4-х класнага меставага вучылішча | 458, 1, 497; 535 |
| — | Пра абвінавачанне селяніна в. Дзмідавічы Івянецкай вол. С. Ваўчка і сялянкі Е. Мазанік аб адкрыцці без дазволу ўлад школы ў хаце апошняй для навучання дзетак грамаце; пра абвінавачанне дваран Шалевічаў м. Навасады Койданаўскай вол. | 183, 2, 20393; 20395 |
| 1909—1912 | Пра рамонт Ракаўскай рамеснай школы | 324, 1, 773 |
| 1910—1911 | Пра абвінавачанне сялян в. Пакуці Івянецкай вол. Трацэўскага і в. Сівіца Ф. Бурака ў патаемным навучанні дзетак грамаце | 183, 2, 21582 |
| 1910 | План сялянскага надзелу в. Пярэжыры Ракаўскай вол. | 120, 2, 690 |
| — | Прадстаўленні павятовых управаў па справах земскай гаспадаркі і справаздачныя ведамасці пра стан і выдаткі на ўтрыманне земскіх школ (звесткі пра Суднікаўскае, Івянецкае, Сівіцкае і іншыя народныя вучылішчы) | 324, 1, 838 |
| — | Перапіска з Ракаўскай ніжэйшай рамеснай школай пра навучальны стан, правядзенне экскурсій са школьнікамі, прыёме навучэнцаў у школу і іншыя пытанні | 458, 1, 590 |
| 1910—1921 | Матэрыялы па Агародніцкаму, Бузуноўскаму, Галімецкаму (Галімскаму!), Гіравіцкаму, Гярвельскаму, Далідавіцкаму, Івянецкаму, Каменскаму, Навасёлкаўскаму, Навікоўшчынскаму, Папкоўскаму, Пральніцкаму, Праўжалаўскаму, Пугачоўскаму, Пярэжырскаму, Ракаўскаму, Сівіцкаму, Слабода-Сярэднесельскаму народных вучылішчах (прысуд сялян пра адкрыццё вучылішча, даклад аб становішчы вучылішча, вопіс маёмасці, кантракт на арэнду памяшкання і г. д.) | 326, 1, 28; 31; 32; 36; 49; 50; 56; 99; 101; 114; 117; 119; 120; 122; 123; 126; 133; 138; 273 |

| | | |
|---|---|---|
| 1911 | Каштарыс і ведамасці земляных работ на пабудову дарогі да мяст. Ракаў, на пабудову 2 мастоў праз р. Свіслач у м. Новы двор | 520, 1, 24; 31 |
| — | Звесткі пра адкрыццё і дзейнасць Івянецкага 4-х класнага меставага вучылішча | 458, 1, 618 |
| — | Заява ўладальніка лесапільні ў м. Воўкаўшчына Разенблюма старшаму фабрычнаму інспектару Менскай губ. аб продажы заводу Францу Глушко | 311, 1, 140, 150 |
| — | Перапіска з Ракаўскай ніжэйшай рамеснай школай аб праграме выкладання слясарна-кавальскага рамясла, аб выбранні ганаровага наглядчыка школы | 458, 1, 635 |
| 1913—1914 | Хадаўніцтва Ракаўскага мяшчанскага таварыства аб водпуску грошай з астаткаў карабейнага збору на ўстаноўку вулічных ліхтароў у мяст. Ракаў | 299, 2, 15648 |
| 1913—1915 | Матэрыялы па будаўніцтве моста ва ўрочышчы Барок па дарозе Пяршаі—Івянец | 326, 1, 222 |
| 1913 | Матэрыялы аб рамонце дарогі і дарожных збудаванняў па тракту Менск—Ракаў | 326, 1, 201 |
| 1913—1914 | Хадаўніцтва двараніна С. Бачкоўскага пра развярстанне церапалосных зямель з сялянамі в. Крывічы Ракаўскай вол. | 46, 1, 55 |
| 1913—1920 | Матэрыялы па Душкаўскаму, Каменскаму, Ку(р)дуноўскаму, Падневіцкаму, Пярэжырскаму, Скрундзеўшчынскаму народных вучылішчах (прысуд сялян аб адкрыцці вучылішча, вопіс маёмасці, кантракт на арэнду памяшкання і г. д.) | 326, 1, 41; 51, 66; 109; 113; 136 |
| 1914 | План пабудовы казённага віннага склада ў мяст. Ракаў | 338, 1, 195. |
| 1912—1915 | Прашэнне сялян в. Старынкі пра выдачу ім грашовых пазыкаў, дапамогі і лесу на ўзвядзенне пабудоў (у справе ёсць спіс сялян вёскі і звесткі пра іх сацыяльна-маёмасны стан) | 46, 1, 46; 46, 2, 19 |
| 1912 | Праверачны вопіс м. Івянец памешчыка П. М. Дарагунцава | КМФ-6, 1, 763 |
| 1912—1913 | Перапіска з папячыцелем Віленскай навучальнай акругі і Ракаўскай ніжэйшай рамеснай школай пра набыццё фізічных прыбораў, гімнастычных снарадаў, выкладанні пачатковай механікі ў 3—4-х класах | 458, 1, 660 |
| — | Пра прадстаўленне ў Менскую губернскую ўправу на разгляд плана пабудовы мешчанінам В. Зелікоўскім млына ў м. Івянец | 299, 5, 2117 |
| 1912 | Пра абвінавачанне дваранкі А. Пугірскай і селяніна м. Ракаў А. Касовіча ў навучанні дзетак польскай грамаце без належнага пасведчання | 183, 2, 23821 |
| 1913 | Прысуд сялян ратынскай сельскай грамады аб адкрыцці народнага вучылішча ў в. Ратынцы | 326, 1, 41, 2 |



| | | |
|---|---|---|
| — | Заява арандатара лесапільні ў в. Воўкаўшчына Франца Глушко старшаму фабрычнаму інспектару Менскай губ. ад 18 лістапада 1913 г. пра спыненне работ на заводзе ў сувязі з пераходам апошняга да новага ўладальніка Л. І. Валадковіча | 311, 1, 140, 71 |
| 1914 | Звесткі пра лесапільні ў м. Ратынцы ўладальніка А. Рэзніка і ў м. Кіявец уладальніка Ф. І. Карkліса.; пра крахмальню ў м. Дзякаўшчына Б. К. Плявакі, пра крахмальныя і льноачышчальныя заводы ў м. Івянец уладальніка П. М. Дарагунцава; пра бровар ў м. Дубровы ўладальніка Л. Ваньковіча | 299, 5, 2259, 3—4 |
| — | Перапіска з папячыцелем Віленскай навучальнай акругі, Івянецкім вышэйшым пачатковым вучылішчам пра пабудову будынка, дазвол весці сумеснае навучанне дзетак абодвух полаў | 458, 1, 735 |
| — | План сялянскага надзелу в. Пярэжыры Ракаўскай вол. | 120, 2, 691 |
| — | План зямельнага надзелу в. Гіравічы м. Стары Ракаў кн. Друцкага-Любецкага, набытага селянінам Магініцкім | Там жа, 479а |
| — | Пра пабудову касцёла ў мяст. Ракаў | 295, 1, 8558 |
| — | Матэрыялы пра рамонт дарогі Ракаў—Івянец; Заслаўе—Ракаў; пра пабудову моста праз р. Волму у мяст. Івянец па дарозе Івянец—Камень.; пра рамонт моста ў в. Юржышкі па тракце Ракаў—Івянец | 326, 1, 204; 209; 514, 1, 228; 230 |
| — | Пра высвятленне правоў селяніна Багдановіча на валоданне зямельным надзелам у в. Часнакі Менскага пав. | 514, 1, 377 |
| 1914 | Пра высвятленне на месцы і паказанні ў натуры прасторы і граніцы пашавага сервітуту, замацаванага выкупнымі дакументамі за сялянамі в. Войценева | 514, 1, 100 |
| 1915 | Хадайніцтва сялян в. Макасічы Івянецкай вол. пра развярстанне на хутарскія і водрубныя ўчасткі прыналежных ім земляў | 46, 1, 74 |
| — | Прашэнне жыхара мяст. Ракаў Пазняка пра дазвол трымаць яму аўтамабіль для перавозкі пасыжараў паміж станцыямі Ізяслаў і Ракаў—Івянец | 326, 1, 10 |
| — | Справаздача пра стан Ракаўскай ніжэйшай рамеснай школы за 1915 г. | 458, 1, 795 |
| — | Імянны спіс служачых Івянецкага вышэйшага пачатковага вучылішча | 458, 1, 797, 6 |
| — | Перапіска з папячыцелем Віленскай навучальнай акругі і Івянецкім вышэйшым пачатковых вучылішчам аб прызначэнні настаўнікаў і выплаце ім пасобій | 458, 1, 767 |
| 1916 | Карткі суцэльнага абследавання гаспадарак сялянскага тыпу Івянецкай, Пяршайскай, Ракаўскай вол. | 325, 2, 280; 285—286 |
| — | Пасямейныя зводкі ўліку высеву ў гаспадарках сялян Крывіцкай вол. | 326, 3, 26 |

| | | |
|---|---|---|
| — | Спіс домаўладальнікаў Крывіцкай вол. | 326, 3, 27 |
| 1917 | Падворныя карткі суцэльнага абследавання вясковых гаспадарак Івянецкай і Пяршайскай вол. | 325, 2, 743—744; 760—761 |
| — | Абшчынныя бланкі абследавання сельскіх гаспадарак Пяршайскай вол. | 325, 2, 763 |
| — | Падворныя карткі суцэльнага абследавання сельскіх гаспадарак Ракаўскай вол.; абшчынныя бланкі абследавання сельскіх гаспадарак Ракаўскай вол. | 325, 2, 765—769 |
| 1917—1919 | Матэрыялы па Крывіцкаму, Пяршайскаму, Ракаўскаму, Сяродненесельскаму, Яшкавіцкаму народных вучылішчах (вопіс маёмасці, кантракты на арэнду памяшкання, дакументы аб прыёме вучняў і г. д.) | 326, 1, 278; 284; 286; 291; 294 |
| 1918—1919 | Пра затрату сродкаў на ўтрыманне земскай лякарні ў мяст. Ракаў | 326, 1, 165 |



# РЭЦЭНЗІІ

## КНІГА АНДРЭЯ ЯКАЎЛЕВА ПРА НЯМЕЦКАЕ ПРАВА Ў БЕЛАРУСІ

*Andrij Jakowliw. Das deutsche Recht in Wießruthenien. Berlin, 1994. 96 S.*

Адзначым, што ў перыяд, калі была напісана анаціруемая кніга (з 1933 па 1945 г.), даследаванням рэцэпцыі нямецкага права («Саксонскага люстра» і магдэбургскага гарадского права) у краінах Усходняй Еўропы аддавалася асаблівая перавага, што было абумоўлена палітычнымі матывамі. У Магдэбургу, напрыклад, у 1940 г. з'явіўся так званы Інстытут даследавання магдэбургскага гарадского права[1], сабраўшы і выдаўшы буйнейшы на сённяшні дзень збор выказванняў магдэбургскіх шэфенаў. Заснавальнікам інстытута лічыцца магдэбургскі обер-бюргермайстар, кандыдат юрыдычных навук Фрыц Маркман. Пры бамбардзіроўцы Магдэбурга 16 студзеня 1945 г. сярод іншых разбураных будынкаў апынуўся і дом пад № 6/7 на вуліцы Нойер Вэг, у якім размяшчаўся інстытут. Шматлікія фотакопіі і копіі, зробленыя супрацоўнікамі інстытута ў галінах непасрэднага распаўсюджвання нямецкага права, былі знішчаны. Інфармацыю аб мэтах заснавання і задачах інстытута можна атрымаць з артыкулаў розных аўтараў, апублікаваных у 1940—1944 гг.[2] Пасляваенная юрыдычная літаратура таксама дае сціслыя звесткі пра існаванне вышэйадзначанай установы[3].

Андрэй Якаўлеў — украінец па паходжанні — быў супрацоўнікам Інстытута даследавання магдэбургскага гарадского права. Ён займаўся пытаннямі рэцэпцыі нямецкага права ў Беларусі і Украіне. У 1942 г. у г. Лейпцыг было выдадзена яго даследаванне аб рэцэпцыі нямецкага права на тэрыторыі Украіны[4].

Другім вынікам яго навуковых пошукаў была кніга «Нямецкае права ў Беларусі», выдадзеная ў 1944 г. у Берліне[5]. Даследаванне ў кнізе размешчана на 96 старонках і складаецца з сямі частак.

Першая частка — прадмова (с. 5—6). Аўтар лічыць, што гістарычныя перадумовы і рэгулюючыя фактары, аказаўшыя ўплыў на распаўсюджванне нямецкага права ў Беларусі, былі ідэнтычны тым, што існавалі ў Літве ці ва ўсёй польска-літоўскай імперыі. Безумоўна, тут былі свае нязначныя адрозненні і мясцовыя асаблівасці. Сярод даследчыкаў, якія разглядалі гэты працэс у цэласнасці, ён вылучае М. Любаўскага, М. Доўнар-Запольскага і М. Грушэўскага; сярод тых, якія займаліся рэцэпцыяй нямецкага права ў Польшчы, Літве і Украіне, — М. Уладзімірскага-Буданава, А. Кісцякоўскага, Ф. Тарановіча, Р. Ф. Кайндла, А. Халбана, Р. Раепела, В. Вайцзекера, уласна сябе і інш. Дадзеная навуковая праца — гэта нарыс распаўсюджвання нямецкага права ў літоўскай краіне, уключаючы метады, формы і межы гэтага распаўсюджвання; кароткі агляд крыніц нямецкага права ў Беларусі. Спецыяльная частка працы прысвечана беларускім тэрыторыям і ўладанням, якія непасрэдна маюць адносіны да рэцэпцыі і дзеяння нямецкага права на іх. У прадмове А. Якаўлеў паведамляе, у якіх крыніцах апублікаваны прывілеі на магдэбургскае права, дадзеныя некаторым беларускім гарадам. Гэта: «Акты Заходняй Расіі» (АЗР), «Акты, якія адносяцца да гісторыі Паўднёвай і Заходняй Расіі» (АЮЗР), «Гісторыка-юрыдычныя матэрыялы, здабытыя з архіваў Віцебскай і Магілёўскай губерній» (ИЮМ), «Акты, выдаваемыя

Віленскай Археаграфічнай камісіяй» (АВАК), тры тамы «Беларускага архіва» (БА) і, нарэшце, іншыя рускія і польскія зборы.

Другая частка — «Беларусь з гісторыка-народазнаўчага пункту гледжання» (с. 7—11). У яе пачатку А. Якаўлеў адзначае, што ў старажытны час землі Беларусі насялялі тры ўсходнеславянскія плямёны: крывічы, дрыгавічы і радзімічы. Сярод значных гарадоў таго часу называе Полацк, Віцебск і Смаленск. У X ст., калі была заснавана Вялікая Кіеўская імперыя, спачатку Смаленская, а потым і Полацкая зямля былі далучаны да яе. Другая палова XII і пачатак XIII ст. прынеслі на землі Беларусі важныя змены, з якімі звязваецца гістарычны лёс беларускага і літоўскага этнасаў. Пад літоўскае панаванне адна з першых пападае заходняя частка Беларусі, так званая Чорная Русь, з гарадамі Гродна, Навагрудак, Слонім, якая лічыцца некаторымі гісторыкамі калоніяй Полацкай зямлі[6]. Пасля Чорнай Русі ўся Полацкая зямля трапляе пад літоўскае панаванне. У пачатку XIV ст. уступаюць у валоданне сваякі вялікага князя літоўскага Міндоўга: у Полацку — Таўтавіл; у Друцку — Йедэвіл; у Віцебску — Вікінт, а пасля Альгерд. У гэты час да Літвы адыходзіць Турава-Пінская зямля, заселеная на поўначы беларусамі, а на поўдні — украінцамі. У XIV ст. пачынаюцца напады Літвы на Смаленскую зямлю. Яны захапілі Ржэў, Белы, Мсціслаў, Тарапез і іншыя гарады. У канцы стагоддзя смаленскі князь з'яўляецца васалам вялікага князя літоўскага Ягайлы; затым вялікі князь літоўскі Вітаўт завяршае далучэнне Смаленска. Пры Вітаўце да Літвы таксама былі далучаны паўночныя землі з гарадамі Мсціслаў і Бранск. Такім чынам, да пачатку XV ст. усе без выключэння беларускія землі знаходзіліся пад панаваннем Літвы. Адначасова з імі, — падкрэслівае А. Якаўлеў, — пад літоўскае панаванне трапляюць і паўднёваўкраінскія землі, такія, як Брэст (А. Якаўлеў называе Брэст украінскім горадам! — *О. К.*), Валынь, Кіеў, частка Падоліі. З кангламерата літоўскіх, беларускіх і ўкраінскіх зямель на рубяжы XIV і XV ст утварылася шматлюдная дзяржава, з афіцыйнай назвай Вялікае княства Літоўскае. На самай справе ўласна літоўскія землі займалі прыблізна дзесятую частку тэрыторыі. Беларусы і ўкраінцы прыўнеслі ў ВКЛ хрысціянства; мову, якая стала афіцыйнай дзяржаўнай мовай; права і культурныя дасягненні Вялікай Кіеўскай імперыі.

З канца XIV ст. Літоўска-руская дзяржава ў палітычным і дынастычным плане знаходзіцца пад уплывам суседняй Польшчы. Акт Люблінскай уніі 1569 г. аб'яднаў абедзве дзяржавы ў адзіны саюз. Тэрытарыяльна-адміністрацыйна беларускія землі ў літоўскай краіне ахоплівалі пяць ваяводстваў: Віцебскае, Полацкае, Смаленскае, Мсціслаўскае і Менскае. З дзяржаўна-прававога пункту гледжання становішча беларускіх зямель у ВКЛ было неаднолькавым. Правінцыі Полацк, Віцебск і Смаленск атрымалі ад вялікага князя літоўскага спецыяльныя канстытуцыйныя прывілеіі. Акрамя гэтых аўтаномных зямель-правінцый да цэласнасці літоўскай дзяржавы належалі і маленькія княствы на чале з акружнымі князямі, такія, як Заслаўе, Свіслач, Слуцк, Копыль, Мсціслаў, Менск. Нельга забываць, — падкрэслівае Андрэй Якаўлеў, — і пра так званыя «вялікакняжацкія гарады і правінцыі», якія знаходзяцца ў розных частках дзяржавы: Кернаў, Трокі, Самагітыя. У межах беларускіх зямель «вялікакняжацкімі валоданнямі» згодна інвентуры 1551 г. з'яўляліся наступныя дамены: Навагрудак, Слонім, Менск, Полацк, Віцебск, Бранск, Клецк, Ліда, Ашмяны, Морач, Орша, Бабруйск, Барысаў, Крычаў разам з правінцыяй, Магілёў, Чачэрск разам з правінцыяй, Прапойск разам з правінцыяй, Рэчыца, Свіслач, Вількамір, Браслаў, Нясвіж і шмат іншых маленькіх мястэчак і вёсак[7].



У канцы XVIII ст. беларускія землі адыходзяць да Расіі. Згодна звесткам Я. Карскага, усяго ў 1917 г. налічвалася 9 300 000 беларусаў[8].

Трэцяя частка — «Гістрычны нарыс распаўсюджвання нямецкага права ў Беларусі» (с. 12—21). У ёй паведамляецца пра тое, як нямецкае права, распаўсюджанае ў Літве, перайшло на яе гарады перш за ўсё з польскай тэрыторыі. Аднак у Літве яно не прайшло ў сваім развіцці ўсе стадыі і формы, як у Польшчы. Першапачаткова нямецкае права насіла ў Польшчы каланіяльны характар. Пазней яно атрымала значэнне асаблівага, партыкулярнага права, якое існавала поруч з правам польскім і надавалася кіраўніцтвам не толькі нямецкім, але і польскім гарадскім жыхарам. У літоўскай дзяржаве не адбыўся працэс пераўтварэння нямецкага каланіяльнага права ў партыкулярнае.

На думку А. Якаўлева, вырашальным чыннікам у справе рэцэпцыі нямецкага (магдэбургскага) права паслужылі фінансавага адносіны, у першую чаргу —павелічэнне дзяржаўных і вялікакняжацкіх даходаў, што было цесна звязана з прыростам насельніцтва ў гарадах і вёсках, з удасканаленнем гарадскога самакіравання і ўздымам узроўню дабрабыту насельніцтва як аб'екта падаткаабкладання і крыніцы дзяржаўных даходаў. Аднолькава з прычынамі фінансавай палітыкі значная роля належыць жаданню палепшыць самакіраванне гарадоў і вёсак шляхам ліквідавання розных «праў і звычаяў» і ўстаранення злоўжыванняў з боку лакальных старостаў, намеснікаў, арандатараў і іншых асоб.

У асноўным нямецкае права ў Беларусі распаўсюджвалася ў форме магдэбургскага гарадскога права, — паведамляе ствральнік кнігі, — аднак у адпаведнасці з польскімі ўзорамі, а не з прымерамі з гарадоў-мацярок магдэбургскага права: Магдэбурга, Галле, Кульма ці Брэслаў.

Дапаўняе гэтую частку сціслы пералік беларускіх гарадоў, атрымаўшых прывілеі на магдэбургскае права: а) у канцы XV ст.; б) на працягу XVI ст. і в) на працягу XVII і XVIII ст.

Чацвёртая частка мае назву «Крыніцы (помнікі) нямецкага права ў Беларусі» (с. 22—41), якая ўключае ў свой склад чатыры раздзелы: прывілеі на нямецкае права; гарадскія судзебныя пастановы (вількюры); крыніцы магдэбургскага права; Літоўскі Статут.

1. Прывілеі на нямецкае права, — паведамляе А. Якаўлеў, — былі двух відаў. Адны надаваліся гарадам, якія з'яўляліся вялікакняжацкімі даменамі, або новым гарадам, якія павінны былі быць заснаваны на аснове нямецкага права па просьбе гарадской абшчыны. Другімі прывілеямі вялікі князь адорваў ужо існуючыя гарады ці якія павінны былі з'явіцца згодна прынцыпам нямецкага права па просьбе іх уладальнікаў. У адпаведнасці з тым, каму даваўся прывілей, змяняліся яго формы, выразы і змест.

2. Адміністрацыйныя распараджэнні ён падзяляе згодна зместу і спосабу іх прыняцця на дзве групы: 1) пастановы, якія зводзіліся да рэарганізацыі гарадскога самакіравання ці парадку судаводства, як правіла, прымаліся ўрачыста на зборах усіх гараджан на чале з гарадскім магістратам і павінны былі быць зацверджаны каралём

або ўладальнікам гэтага горада; 2) пастановы аб увядзенні новага падатку, ці пра пазачарговыя выдачы з гарадской казны, ці пра адпраўленне гарадскіх дэпутатаў да караля або ў рэйхстаг прымаліся на супольным пасяджэнні магістрата і прадстаўнікамі калегіума абшчыны. Такія пастановы з боку вышэйшай улады не пацвярджаліся.

3. У прывілеі на магдэбургскае права вялікім князем літоўскім падкрэслівалася, што гораду даруецца «права нямецкае або тэўтонскае», таксама «права магдэбургскае»; часам сустракаюцца спасылкі на канкрэтныя «пункты, артыкулы, часткі» і нават на глосы гэтага права. Напрыклад, — піша даследчык, — такое мы сустракаем у прывілеі беларускаму гораду Ваўкавыску ад 1507 года, апублікаваным у другім томе «Актаў Заходняй Расіі» пад нумарам 13. Аднак у аніводным з прывілеяў дасканала не ўдакладняецца, у якім кодэксе ці прававым зборніку магдэбургскага права можна гэтыя «пункты, артыкулы, часткі» адшукаць.

З гісторыі магдэбургскага права ў Польшчы вядомы той факт, што кароль Казімір I пасля пераносу ў 1356 г. Вышэйшага суда ў горад Кракаў захоўваў у Кракаўскім палацы дастаўлены з Нямеччыны рукапіс «Саксонскага люстра»[9] — адну з крыніц магдэбургскага гарадскога права. Напэўна, валодаў Кракаўскі магістрат і іншым помнікам гэтага права, — мяркуе А. Якаўлеў, — магчыма, «Вайхбільдам» (Jus Municipale). А адсюль копіі абодвух выданняў маглі трапіць у Вільню. Аднак гэта толькі здагадка; як было на самай справе — нам невядома.

А. Якаўлеў згадвае сярод крыніц магдэбургскага права наступныя выданні:

— апублікаваныя ў 1506 г. у Кракаве ў зборніку Ласкі два лацінскія пераклады «Саксонскага люстра». Першы быў зроблены епіскапам Томасам з г. Брэслаў у другой палове XIII ст.; другі — гарадскім пісарам Конрадам з г. Сандамір у 1359 г.;

— у 1535 г. у Кракаве з'віўся важны польскі помнік магдэбургскага права. Гэта новы лацінскі пераклад «Саксонскага люстра» і «Вайхбільда» Нікалаўса Яскіера, пісара Кракаўскага магістрата. Тое, што праца Яскіера ўжывалася ў магістрацкіх судах беларускіх гарадоў, відаць з аднаго дакументальнага дакумента Магілёўскага суда ад 1579 г.[10];

— польскія кнігі магдэбургскага права правазнаўцы Барталамея Граіцкага: «Artyruly prawy Magdeburskiego, ktore zowa Speculum Saxonum» (1558), «Porzadek sadow y spraw miejskich Prawa Maydeburskiego» (1559), «Ten Postepek wybran jest z Praw Cesarskich, ktory Karolus V. Cesar kazal wydac po wszystkich swoich panstwach…» (1559), «Tytuly Prawa Maydeburskiego do Porzadku y do Artykulow pierwey po polsku wydanych» (1567), «Reyestr do Porzadku y do Artykulow prawa Maydeburskiego y Cesarskiego» (1616);

— працы каралеўскага сакратара Паўла Шчэрбіча[11], выдадзеныя ў 1581, 1617 і 1646 гг. Гэта добра вядомыя беларускім судам «Speculum Saxonum albo Prawo Saskie y Maydeburskie» і «Jus Municipale to jest Prawo Miejskie Maydeburskie». У судовых актах яны цытаваліся наступным чынам: «Speculum Saxonum», далей ішло ключавое слова, напрыклад кароль ці іншае; або «Jus Municipale», потым артыкул, параграф (менавіта Шчэрбіч падзяліў артыкулы на параграфы, у Яскіера такога не назіраецца, — адзначае А. Якаўлеў);

— у 1623 г. у Познані з'явіўся польскі пераклад рэдакцыі Хелмінскага права ад 1580 г., зроблены Паўлам Кушэвічам.



4. На падставе гістарычных дакументаў можна канстатаваць, што магістрацкія суды некаторых беларускіх гарадоў у канцы XVII — пачатку XVIII ст. побач з выданнямі Шчэрбіча і Граіцкага пачалі выкарыстоўваць Літоўскі Статут у рэдакцыі 1588 г. і яго пераклад на польскую мову. А. Якаўлеў называе тут у якасці прыкладу Полацк (Рашэнне суда 1683 года. ИЮМ, VI, 274—285), Магілёў (Рашэнне суда 1710 года. ИЮМ, XI і XIV), Віцебск (Судовыя акты 1750—1753. ИЮМ, XVIII, № 77, 80, 89, 97, 100 і інш.), Крычаў (Судовыя акты 1752—1753, 1754. ИЮМ, XVIII)[12].

Пятая частка пад назвай «Заканадаўчае замацаванне нямецкага права ў гарадах і вёсках Беларусі» (с. 42—74) складаецца з трох раздзелаў: нямецкае права ў вёсках; заканадаўчае замацаванне нямецкага права ў беларускіх гарадах; структура цэхаў у беларускіх гарадах.

1. Сляды пэўнага ўплыву нямецкага права ў вёсках ВКЛ, праніклага сюды з Польшчы, былі ў наяўнасці ўжо ў час панавання вялікага князя Вітаўта. Тым не менш распаўсюджванне нямецкага права ў вёсках у значнай ступені трэба аднесці да сярэдзіны XVI ст.

2. Нямецкае права аказала радыкальны і моцны ўплыў на гарадское жыццё літоўскіх, украінскіх і беларускіх зямель ВКЛ.

3. Магдэбургскае права прынесла з сабой не толькі пераўладкаванне гарадскога кіравання, не толькі новую арганізацыю гарадскога суда і новыя формы грамадзянскага і крымінальнага права, але і пераарыентацыю ўнутранага гарадскога жыцця, заняткаў і звычаяў гарадскога насельніцтва. Гандаль і рамяство — галоўныя заняткі гарадскога насельніцтва, праз якія яно адрозніваецца ад насельніцтва сельскага, знайшлі на Беларусі сваё сапраўднае месца. Пры гэтым, аднак, адсутнічала іх зладжаная арганізацыя; імі займаўся кожны, хто жадаў і мог гэта рабіць. Цэхавы ўстаў, які перайшоў сюды з Нямеччыны, арганізаваў гарадскому насельніцтву прафесіянальна-карпарацыйную падставу, рэгуляваў яго заняткі і паставіў яго пад кантроль як службовых, так і гарадскіх органаў кіравання ў цэлым.

У шостай частцы — «Заканадаўчае замацаванне і практыка магдэбургскіх судоў у беларускіх гарадах» (с. 75—93) разглядаюцца судовы лад і судовая практыка і роля магдэбургскага права ў судах беларускіх гарадоў.

Па сваім складзе гарадскія суды на Беларусі падзяляліся на два віды: 1) суд, функцыі якога сканцэнтраваліся ў руках адной асобы і 2) калегіяльныя суды. Першы від уяўляў сабой персанальны суд гарадскога войта; другі — суды лаўнікаў (шэфенскія) на чале з войтам ці ландвойтам; змешаныя суды, дзе прысутнічалі бургамайстры, радцы і лаўнікі пад кіраўніцтвам войта ці ландвойта і, нарэшце, цэхавыя суды.

Кампетэнтнасць гарадскога суда адпаведна магдэбургскаму праву залежала не толькі ад яго складу, тэмы спрэчкі або варожых партый, але і ад розных форм яго арганізацыі, а таксама дзейнасці ў час разглядаемых задач. Існавалі наступныя катэгорыі магдэбургскіх судоў: 1) вялікі бургграфскі суд; 2) ардынарны пастаянны суд; 3) неардынарны бягучы суд; 4) неардынарны суд, выкліканы надзвычайнымі абставінамі; 5) спецыяльны суд для прыезджых і 6) асабісты суд войта. Разглядаючы судовыя акты беларускіх судоў, можна зрабіць вывад, што ў Беларусі з вышэйадзначаных катэгорый існавалі такія, як ардынарны пастаянны суд, затым неардынарны суд, вы-

кліканы надзвычайнымі абставінамі, спецыяльны суд для прыезджых і асабісты суд войта. што датычыцца вялікага бургграфскага суда, то такога ў краіне не было.

Дзейнасць беларускіх гарадскіх судоў на падставе магдэбургскага права добра адлюстроўваюць адпаведныя дэкрэты, прыгаворы, пастановы і іншыя судовыя акты. У архівах знаходзіцца вялікая колькасць гэтых актаў, але яны зусім у малой колькасці выдадзены і ў яшчэ меншай даследаваны.

Пытанне пра ролю нямецкага права ў практыцы гарадскіх судоў Беларусі непарыўна звязана з пытаннем пра тое, якія крыніцы сапраўды імі выкарыстоўваліся і адкуль яны чэрпалі працэсуальныя правілы і нормы грамадзянскага, а таксама і крымінальнага права. А. Якаўлеў лічыць, што гісторыю судовай практыкі беларускіх гарадоў адносна ролі і ўплыву на яе нямецкага права магчыма падзяліць на тры перыяды. Першапачатковы перыяд характарызуецца выкарыстоўваннем доўгі час беларускімі судамі раней сапраўдных норм. Наступны перыяд — час абсалютнага і неабмежаванага дзеяння нямецкага права ў практыцы гарадскіх судоў Беларусі — працягваўся да другой паловы XVIII ст. У гэты перыяд беларускія гарадскія суды ў сваёй практыцы ўжывалі толькі крыніцы магдэбургскага права. Даследчык удакладняе, што гэта былі менавіта лацінскі пераклад «Саксонскага люстра» і «Вайхбільда» Н. Яскіера, далей польскі пераклад «Speculum Saxonum» П. Шчэрбіча і працы Б. Граіцкага, апублікаваныя ў кнізе «Porzadek sadow y spraw…»[13]. Пераклад «Саксонскага люстра», зроблены Н. Яскіерам, ужываўся ў практыцы беларускіх гарадскіх судоў вельмі рэдка. А. Якаўлеў піша толькі пра адшуканыя ім два выкарыстоўвання гэтай крыніцы ў судовых актах Магілёўскага гарадскога суда. Зроблены жа Паўлам Шчэрбічам пераклад, наадварот, прымяняўся беларускімі судамі як пры разглядзе грамадзянскіх, так і крымінальных спраў даволі часта. Трэці перыяд, паводле ўкраінскага даследчыка, прыпадае на пачатак XIX ст. і, безумоўна, звязаны з арыентацыяй дзеяння нямецкага права ў Беларусі на завяршэнне. На працягу гэтага перыяду беларускія суды ўсё больш звярталіся да польскай рэдакцыі Літоўскага Статута 1588 г. або іншых крыніц.

Апошняя, сёмая, частка кнігі А. Якаўлева прысвечана разглядванню пытання аб завяршэнні дзеяння нямецкага права ў беларускіх гарадах (с. 94—96).

Пасля трох падзелаў Польшчы ў 1772, 1793 і 1795 гг. беларускія гарады, якія раней былі часткай гэтай дзяржавы, адыходзяць да Расіі. Кацярына II гарантавала жыхарам беларускіх гарадоў захаванне іх праў і прывілеяў. Таму ў практыцы беларускіх судоў яшчэ значны час заставалася актуальнай магдэбургская форма гарадскога права.

Нельга не адзначыць, што ў час кароткага кіравання Паўла I пачалася праца над распрацоўкай законаў для заходняй (беларускай) губерні.

Імператарскі Указ ад 25 чэрвеня 1840 г. (Поўны збор законаў, № 13 591) адмяніў дзеянне ўсіх іншых праў, акрамя рускага, у заходняй (беларускай) губерні Расійскай імперыі. Так завяршылася дзейнасць нямецкага права ў Беларусі.

[1] Heiner Lück. «Der Deutsche kommt also im Osten in kein Neuland…». Das Institut zur Erforschung des Magdeburger Stadtrechts (1940—1945), in: Historische Forschung in Sachsen-Anhalt. Ein Kolloquium anläßlich des 65. Geburstages von Walter Zöllner, hg. von Heiner Lück u. Werner Freitag (= Abhandlungen der Sächsischen Akademie der Wissenschaften zu Leipzig, Philolog.-histor. Kl. 76/3 ), Leipzig—Stuttgart, 1999. S. 125—145.



[2] Theodor Goerlitz. Das Institut zur Erforschung des Magdeburger Stadtrecchts. Stand und Aufgaben der Forschung über das Magdeburger Stadtrecht, insbesondere seine Verbreitung zwischen Ostsee und Schwarzem Meer, in: Jomsburg 6 (1942). S. 98—106; Theodor Goerlitz. Die Bedeutung und Verbreitung des Magdeburger Rechtes in Osten, in: Deutsches Recht 12 (1942). S. 1073—1075; Fritz Markmann. Magdeburger stadtrechtliche Forschungen im Osten Europas, in: Reichsverwaltungsblatt 61 (1940). S. 373—378.

[3] Guido Kisch. Der Lebensweg eines Rechtshistorikers. Erinnerungen, Sigmaringen 1975. S. 64; Friedrich Ebel. Magdeburger Recht, Bd. 1: Die Rechtssprüche für Niedersachsen (= Mitteldeutsche Forschungen 89/I). Köln—Wien, 1983. S. XIIf.

[4] Andrij Jakowliw. Das deutsche Recht in der Ukraine. Leipzig, 1942.

[5] Andrij Jakowliw. Das deutsche Recht in Weißruthenien. Herausgegeben von Joh. Papritz. Berlin, 1944. 96 S.

[6] M. Ljubavskij. Ocerki istorii Litovsko-Russkago gosudarstva do Lublinskoj unii. Moskau, 1915. S. 18.

[7] АЮЗР. Т. 1. № 125.

[8] Е. Карский. Карта расселения белорусского племени. Пг., 1917. С. 26.

[9] S. Kutrzeba. Historja dawnego prawa polskiego. II. S. 205—206.

[10] АВАК. Т. XXXIX. С. 413. № 425.

[11] НББ у горадзе Мінску таксама мае працы Паўла Шчэрбіча. Яны знаходзяцца ў зборніку пад шыфрам 09/3534.

[12] Andrij Jakowliw. Das deutsche Recht in Weißruthenien. Berlin 1944. S. 40.

[13] Ibid. S. 85.

***В. Б. Келер***

## НАВУКОВАЯ ПУБЛІКАЦЫЯ ЦАРКОЎНАСЛАВЯНСКАГА ПЕРАКЛАДУ «ГІСТОРЫІ ІУДЗЕЙСКАЙ ВАЙНЫ» Я. ФЛАВІЯ

*Иосиф Флавий. История Иудейской войны: Древнерусский перевод / Подгот.: А. А. Пичхадзе, И. И. Макеева, Г. С. Баранкова, А. А. Уткин. М.: Языки славянской культуры, 2004. Т. 1—2. 879 + 837 с. (Памятники славяно-русской культуры; Новая серия).*

Расійскае 2-х томнае выданне ўяўляе сабой навуковую публікацыю царкоўнаславянскага перакладу вядомага з часоў позняй антычнасці твора рымскага гісторыка яўрэйскага паходжання Язэпа Флавія[1]. Яго гістарычная хроніка была прысвечана паўстанню, якое ў I ст. н. э. узнялі жыхары Юдзеі супраць рымскага панавання. Сведкам і нават удзельнікам тых неспакойных падзей і быў Язэп. Апрача агульнай займальнасці гэты твор Флавія апавядаў пра часы ранняга хрысціянства, хаця і не ўтрымліваў згадак пра дзейнасць Хрыста і Іаана Хрысціцеля. Гэта забяспечыла творам Флавія папулярнасць у хрысціянскія часы і шматлікія пераклады на розныя еўрапейскія мовы яшчэ ў эпоху Сярэднявечча[2].

У раннія часы з’яўляецца і царкоўнаславянскі пераклад «Гісторыі Іудзейскай вайны», які дайшоў у колькасці больш за тры дзесяткі спісаў XV—XVIII стст. Час

узнікнення перакладу адны вучоныя адносяць да XII ст., іншыя — да XI ст. У Галіцка-Валынскім летапісе, што змяшчаецца ў Іпацьеўскім летапісе (каля 1425 г.) і апавядае пра падзеі першай паловы XIII ст., трапляюцца цытаты з твора Флавія, што сведчыць пра раннюю вядомасць яго перакладу сярод усходніх славян.

Аднак спрэчным застаецца месца з'яўлення перакладу. Пераважная большасць вучоных мяркуе, што ён узнік на Русі, на поўдні ці паўднёвым захадзе[3]. Але іншыя вучоныя пярэчаць гэтаму, мяркуючы, што пераклад з'явіўся сярод паўднёвых славян, у Балгарыі, і толькі пазней быў занесены на Русь. Усе вядомыя спісы твора маюць усходнеславянскае паходжанне, як і некалькі сербскіх спісаў XVI—XVII стст., што ўзыходзяць да ўсходнеславянскага пратографа. Але гэта яшчэ не сведчыць адназначна пра тое, што пераклад узнік сярод усходніх славян. Вядома нямала балгарскіх ці македонскіх помнікаў, якія дайшлі толькі ва ўсходнеславянскіх рукапісах.

Усе спісы «славянскага Флавія» можна падзяліць на дзве рэдакцыі, якія ўзыходзяць да аднаго пратографа. Першая, т. зв. хранаграфічная рэдакцыя, прадстаўлена ўсяго 2 спісамі: Архіўскім (XV ст.), які захоўваецца ў Маскве, і Віленскім (XVI ст.), які знаходзіцца ў Вільні. Гэтыя спісы належаць да кшталту хранографаў і, апрача «Гісторыі» Флавія, утрымліваюць яшчэ ўрыўкі з біблейных кніг і візантыйскіх хронік. Тэкст Флавія ў гэтых спісах перамяжоўваецца з устаўкамі з гэтых твораў. Да другой, т. зв. асобнай рэдакцыі, належаць усе астатнія спісы, якія ўтрымліваюць суцэльны тэкст помніка. Але ён пазбаўлены пачатку (няма першых 25 раздзелаў 1-й кнігі «Гісторыі»), які заменены кароткай прадмовай і мае некалькі невялікіх пропускаў у 2, 3 і 7-й кнігах.

Пераклад стаў вядомы навуцы, здаецца, яшчэ напрыканцы XVIII ст. Расійскія вучоныя XIX ст. (П. Строеў, А. Папоў, І. Сразнеўскі, Я. Барсаў) звярталі ўвагу на асаблівасці мовы і стылю гэтага перакладу і яго тэкстуальныя адрозненні ад грэчаскага арыгінала.

Напачатку XX ст. царкоўнаславянскі пераклад набыў сярод еўрапейскіх вучоных вядомасць дзякуючы гіпотэзе А. Берэндса пра прыналежнасць самому Язэпу Флавію шматлікіх дадаткаў, дзе паведамлялася пра першыя крокі хрысціянства[4]. На яго думку, дадаткі славянскага перакладу адлюстроўваюць арамейскую версію працы Флавія. Вучоны нават выканаў пераклад першых 4-х кніг «славянскага Флавія» на нямецкую мову, і толькі смерць перашкодзіла яму працягваць працу далей[5].

Гэтая гіпотэза была міжволі падтрымана крытычнай кнігай Ё. Фрэя[6] і рашуча і свядома — 2-х томным даследаваннем Р. Эйслера[7]. Ён развіваў ідэю Берэндса пра гістарычную каштоўнасць дадаткаў славянскага перакладу для біблеістыкі, хаця прызнаваў, што некаторыя інтэрпаляцыі славянскага перакладу маглі ўзнікнуць у хрысціянскіх перапісчыкаў. Пераклад, на яго думку, мог быць выкананы ў IX ст. славянізаванымі хазарамі.

У 1930-е гг. у свет выходзіць 2-х томнае выданне старажытнарускага перакладу ў аб'ёме ўсіх 8 кніг твора Флавія. Праца была падрыхтавана вядомым філолагам-гісторыкам В. Істрыным, які жыў у СССР, і апублікавана ў Парыжы пад рэдакцыяй буйнога французскага філолага-славіста А. Ваяна, што забяспечыў паралельны пераклад славянскага тэксту на французскую мову[8]. Публікацыя была здзейснена паводле спісаў асобнай рэдакцыі, лакуны ў якой былі папоўнены паводле Архіўскага спіса. В. Істрын паказаў, што пераклад помніка хаця і майстэрскі, але дастаткова вольны і мае шмат адхіленняў; ва ўсіх спісах прысутнічае адзіны пераклад, які ўзыходзіць да аднаго пратографа.



Працягам гэтых зацікаўленняў «Гісторыяй» Флавія стала публікацыя перакладу паводле рукапісу Віленскага хранографа XVI ст., выкананая расійскім славістам і арыенталістам М. Мяшчэрскім[9]. Мяшчэрскі, які пачынаў працаваць пад кіраўніцтвам Істрына[10], прыйшоў да высновы, што практычна ўсе дадаткі былі зроблены перакладчыкам самастойна, без апірышча на грэчаскія крыніцы[11]. Ён таксама здзейсніў пераклад гэтага помніка на рускую мову. Нядаўна на падставе публікацыі Мяшчэрскага быў выкананы новы крытычны пераклад твора Флавія на англійскую мову[12].

Пасля прац В. Істрына і М. Мяшчэрскага стала зразумела, што інтэрпаляцыі ў славянскім перакладзе не маюць дачынення да Язэпа Флавія і ўзніклі на славянскай глебе[13]. Гэта абумовіла страту цікавасці да «славянскага Флавія» з боку заходніх даследчыкаў. Але публікацыя помніка адкрыла шырокія перспектывы для яго вывучэння славістамі.

На падставе абодвух выданняў — Істрына і Мяшчэрскага — нямецкі славіст А. Хёрхель даследаваў перакладчыцкую тэхніку помніка[14], а другі нямецкі славіст Э. Ганзак нядаўна пачаў апрацоўваць лексіку перакладу[15].

Новае выданне «Гісторыі» Флавія, здзейсненае калектывам расійскіх філолагаў на чале з Г. Пічхадзе, уводзіць у навуковы ўжытак яшчэ адну версію «славянскага Флавія». У аснову выдання быў пакладзены тэкст Архіўскага спіса, да якога прыводзяцца разначытанні з Віленскага спіса і 2 спісаў Асобнай рэдакцыі.

Публікацыя выканана старанна, на высокім навуковым узроўні. У выданні захаваны падзел спіса на старонкі і радкі, таксама як і яго арфаграфічныя асаблівасці. Тэкст набіраецца літара ў літару, хаця неістотныя графічныя варыянты літар, як гэта прынята для наборных публікацый, уніфікаваны. Захавана таксама ў асноўных рысах пунктуацыя спіса і найбольш адметныя надрадковыя знакі. Усе выпраўленні выдаўцоў змешчаны ў крытычным апараце, унізе старонкі, дзе падаюцца разначытанні, найбольш важныя для рэканструкцыі пратографа.

Пасля царкоўнаславянскай часткі (т. 1, с. 65—408) апублікаваны грэчаскі арыгінал (т. 1, с. 411—684) твора Флавія паводле навуковай публікацыі Б. Нізэ[16]. Зроблены ім падзел грэчаскага тэксту на параграфы праведзены і ў царкоўнаславянскім тэксце, што палягчае пошук адпаведнікаў.

Далей у выданні змешчаны 2 словапаказчыкі, у якім усе цытаты пашпартызаваны паводле старонкі і радка арыгінала. Словапаказчык да царкоўнаславянскага тэксту (т. 1, с. 691—879; т. 2, с. 7—481) падае ўсе словаформы, што сустрэліся ў тэксце, з граматычнымі паметамі і грэчаскімі адпаведнікамі, калі такія маюцца. Грэчаска-царкоўнаславянскі словапаказчык (т. 2, с. 483—766) падае грэчаскія і славянскія словы ў зыходных формах, але словазлучэнні цытуюцца паводле арыгінала. Выданне заканчвае поўны адваротны слоўнік (т. 2, с. 767—837), які змяшчае словы (каля 10 тыс.) у зыходных формах. Словы згрупаваны паводле часцін мовы і забяспечаны граматычнымі паметамі. Словапаказчыкі і слоўнік сведчаць пра руплівую тэксталагічную і філалагічную працу, якая была б немагчыма без выкарыстання камп'ютэра.

Пільная праца расійскіх даследчыкаў з тэкстам помніка прывяла да больш глыбокага азнаямлення з яго мовай і палеаграфічнымі асаблівасцямі. Асноўныя набыткі сваёй філалагічнай працы выдаўцы выклалі ва ўводзінах (т. 1, с. 7—61).

Уводзіны пачынаюцца кароткім нарысам гісторыі даследавання помніка, напісаным Г. Пічхадзе. Аўтарка спыняецца на выніках прац В. Істрына і М. Мяшчэрскага. Далей яна пералічвае ўсе інтэрпаляцыі перакладу (у колькасці 59) і каратка характарызуе змест кожнай. Пераважная большасць з гэтых інтэрпаляцый мае хрысціянскую накіраванасць і пярэчыць апавяданню Флавія. Аўтарка згаджаецца з высновамі Мяшчэрскага і іншых даследчыкаў пра прыналежнасць гэтых дадаткаў славянскаму перакладчыку. Аднак пры гэтым яна канстатуе, што крыніцы, якімі карыстаўся перакладчык, дагэтуль застаюцца невядомымі. На яе думку, не ўсе з уставак былі прыдуманымі і маглі мець уласныя візантыйскія крыніцы (гл.: т. 1, с. 18—19).

Найбольш адметныя асаблівасці мовы помніка (у асноўным марфалагічныя і сінтаксічныя з’явы) ахарактарызаваны І. Макеевай і Г. Пічхадзе (т. 1, с. 19—26). Яны адзначаюць наяўнасць у мове перакладу вялікай колькасці старажытных, спрадвечных рыс і архаічных формаў, многія з якіх зніклі ці заняпалі пасля XI ці XII ст. Гэта сведчыць пра старажытнасць перакладу і грунтоўнае веданне перакладчыкам царкоўнаславянскай мовы. Даследчыцы даводзяць, што асобныя рысы ўласцівы ўсходнеславянскім помнікам ці дыялектам, але невядомы ці малавядомы паўднёваславянскім (галоўным чынам, балгарскім) крыніцам.

Пералік лексічных і словаўтваральных асаблівасцяў мовы помніка (т. 1, с. 26—39), які падрыхтаваны Пічхадзе, яскрава сведчыць пра ўсходнеславянскае паходжанне перакладу, тады як адметных паўднёваславянізмаў (за выключэннем 1 слова) ёю не заўважана. Найбольш пераканаўчымі прыкладамі ўсходнеславянскага паходжання слоў з’яўляюцца запазычанні са скандынаўскіх і фіна-ўгорскіх моў, якіх у помніку адзначана толькі некалькі. Менш надзейны іншы крытэрый, які аднак актыўна выкарыстоўваецца расійскімі даследчыкамі: вылучэнне слоў, значэнняў ці канструкцыі, не адзначаных у балгарскіх помніках ці слоўніках, але добра прадстаўленых ва ўсходнеславянскіх. Пічхадзе налічвае каля 45 слоў ці каранёў, якія невядомы паўднёвым славянам, а таксама каля 20 слоў, што ў помніку маюць значэнне, невядомае балгарскай мове. Яшчэ каля дзесятка прыведзеных ёю слоў адрозніваюцца частотнасцю: яны толькі зрэдку сустракаюцца ў старажытнабалгарскіх помніках, але часта прысутнічаюць ва ўсходнеславянскіх. Яскравай лексічнай асаблівасцю помніка, адзначанай многімі даследчыкамі, з’яўляецца шырокае выкарыстанне прыстаўкі *вы-* ў прасторавым значэнні разам ці нават замест тыповай для царкоўнаславянскіх помнікаў прыстаўкі *-из*.

Падобны падыход — звычайны для расійскіх мовазнаўцаў. Яны шырока выкарыстоўваюць параўнанне з усходнеславянскімі крыніцамі, але вельмі сціпла — з балгарскімі ці іншымі паўднёваславянскімі. Гэта стварае ўражанне, што дадзеная рыса ў паўднёвых славян адсутнічае. У славістыцы ўжо неаднаразова здаралася, што рыса, прызнаная адсутнай у паўднёвых славян, пазней, пры больш пільных росшуках, знаходзілася ў іх. Больш надзейным было б спалучыць аналіз мовы помніка з аналізам яго перакладу, але гэта публікатары, відаць, пакінулі на далейшае. І без таго імі праведзена вялізная праца, якая забяспечвае аналіз перакладу ўсім неабходным.



Палеаграфічныя і арфаграфічныя рысы помніка, ахарактарызаваныя Г. Баранковай і Г. Пічхадзе, сведчаць пра час узнікненне Архіўскага спіса (апошняя трэць XV ст.) і моцнае адбіццё на яго пісьме другога паўднёваславянскага ўплыву. У арфаграфіі спіса Г. Пічхадзэ адзначае наяўнасць шэрагу яскравых беларускіх і ўкраінскіх рыс (т. 1, с. 47—49), якія яна кваліфікуе як «заходнерускія»[17]. Найбольш адметныя з іх аканне, зацвярдзенне шыпячых і <r>, спалучэнні *ры*, *лі* на месцы былых рэдукаваных. Радзей адзначаецца блытаніна літар *ы* і *и*, *е* і *ę* (пасля шыпячых — *е* і *а*), зусім рэдка — блытаніна літар □ ці *е* з *и* або пераход [o] > [u]. Паўсюдна ў спісе прадстаўлена блытаніна літар *в-* і *у-*, *е* і □. У сукупнасці гэтыя асаблівасці характэрны для старабеларускай мовы і часта праяўляюцца ў царкоўнаславянскіх тэкстах як вынік яе ўплыву. Але заканамерную выснову адносна паходжання рукапісу — з земляў Вялікага княства Літоўскага — расійскія даследчыкі не робяць. Дарэчы, беларуска-ўкраінскае паходжанне Архіўскага спіса пацвярджае і яго акцэнтуацыя, хаця растаўленая перапісчыкам(і) не вельмі паслядоўна. І. Макеева, якая разгледзела акцэнтуацыю рукапісу (т. 1, с. 49—55), робіць выснову, што «працэсы і асобныя тыпы націску, прадстаўленыя ў помніку, характэрны для заходняй дыялектнай зоны ўсходнеславянскай моўнай тэрыторыі» (т. 1, с. 55). Такая, можна сказаць, завуаляваная выснова кантрастуе з упэўненымі кваліфікацыямі мовы твора як «рускай», якія робяцца даследчыцамі паўсюдна ў выданні.

У сувязі з гэтым некаторых заўваг патрабуе выкарыстаная ў публікацыі моўная тэрміналогія. Сам твор і яго мову выдаўцы называюць звычайна «рускімі» ці «старажытнарускімі», і толькі пры аналізе граматычных асаблівасцяў згадваецца старажытнаславянская ці царкоўнаславянская мова. Такая пазіцыя тыповая для расійскіх даследчыкаў, як і фігура замоўчвання, калі гаворка заходзіць пра старабеларускую мову. Гэта дазваляе ім упэўнена сцвярджаць, што пераклад і сам твор — «руския».

Але калі не лічыць гэтае пытанне вырашаным, то наконт месца і часу з’яўлення можна прапанаваць іншы падыход. Г. Пічхадзе паказала некалькі лексічных і марфалагічных беларусізмаў і ўкраінізмаў, уласцівых не толькі спісу, але і перакладу (т. 1, с. 48). Некаторыя лексемы, акрэсленыя ёю як «старажытнарускія» (напрыклад: *видокъ* ‘сведка’, *мытва* ‘мыццё’, *обрѧсати* ‘абвязаць’, *охвотимыи* ‘ахвочы’, *прикренъ* ‘круты’, *строумень*, *щоуплъ*), можна кваліфікаваць як беларуска-ўкраінскія. Даследчыца сама прызнае, што такі матэрыял «дазваляе рабіць высновы пра дыялектнае асяроддзе, у якім узнік пераклад «Гісторыі»» (т. 1, с. 28), і ўказвае на беларуска-украінскі арэал як найбольш верагодны. У такім выпадку можна паставіць пад сумненне меркаваную старажытнасць перакладу і аднесці яго з’яўленне да XIV ст., а можа, і да пазнейшага часу.

Публікацыя, падрыхтаваная расійскімі даследчыкамі, адкрывае ўсе магчымасці дзеля самых глыбокіх пошукаў у гэтым кірунку. З улікам публікацый В. Істрына і М. Мяшчэрскага цяпер вучоным дасяжны поўны «славянскі Флавій» — адзін з найбольш цікавых помнікаў старажытнасці, які належыць культурнай спадчыне некалькіх славянскіх народаў.

[1] Язэпу Флавію належыць шэраг твораў, напісаных на грэчаскай мове: «Іудзейская вайна» (75—79 гг.), «Іудзейскія старажытнасці» (93 г.), «Жыццё», «Пра старажытнасці іудзейскага народа — Супраць Апіёна». «Іудзейская вайна» напісана (мяркуюць, што першапачаткова — на арамейскай мове) з прарымскіх пазіцый, тады як «Іудзейскія старажытнасці», так і твор супраць Апіёна ўяўляюць сабой апалогію юдзеяў. У аўтабіяграфіі ён спрабаваў апраўдацца ў абвінавачаннях у здрадзе. Працы гэтага выдатнага гісторыка сталі класічнымі як па іудаіцы, так і антычнасці.

[2] Пераклад твора на сучасную беларускую мову адсутнічае. Не так даўно ў Мінску быў выдадзены пераклад твора на рускую мову. Гэты пераклад, выкананы Я. Чартком з нямецкага перакладу, з'явіўся ў 1900 г. Выдавецтва «Беларусь» перавыдала яго папулярным выданнем: Иосиф Флавий. Иудейская война / Подг. текста, предисл. и примеч. К. А. Ревяко и В. А. Федосика. Мн., 1991 (апрача таго, яно выпусціла яшчэ адзін вядомы твор Флавія: Иосиф Флавий. Иудейские древности. Мн., 1994. Т. 1—2). Як паведамлялі ў прадмове да гэтага выдання падрыхтоўшчыкі тэксту, пераклад Чартка быў імі папраўлены. У той жа час у Ізраілі з'яўляецца новы пераклад твора на рускую мову, выкананы з грэчаскай мовы: Иосиф Флавий (Йосеф, сын МатитьЯху). Иудейская война / Пер. с древнегреч. под ред. А. Ковельмана. Москва; Иерусалим, 1993. Вып. 1—2. [2-е выд.] 1999.

[3] Гэта абгрунтоўваў у многіх сваіх працах расійскі даследчык М. Мяшчэрскі (гл. напрыклад, прысвечаны «Гісторыі» Флавія раздзел 5 яго пазнейшай манаграфіі: Мещерский Н. А. Источники и состав древней славяно-русской переводной письменности IX—XV вв. Ленінград, 1978).

[4] Berendts A. Die Zeugnisse vom Christentum im slavischen «De Bello ludaico» des Iosephus // Texte und Untersuchungen zur Geschichte der altchristlicher Literatur. Leipzig, 1906. Bd. 29. Hf. 4; Berendts A. Analecta zum slavischen Josephus // Zeitschrift für die neutestamentliche Wissenschaft 1908. Bd. 9. S. 40—70.

[5] Flavius Josephus vom Jüdischen Kriege: Buch. 1—4. Nach der slavischen Übersetzung herausgegeben und mit dem griechischen Texte vergleichen von A. Berendts und K. Grass. Dorpat, 1924—1927. Teil 1—2.

[6] Frey J. Der slavische Josephusbericht über die urchristliche Geschichte nebst seimen Parallelen kritisch untersucht. Dorpat, 1908.

[7] Eisler R. Ἰησοῦς βασιλεύσ ου βασιλεύσας: Die messianische Unabhängigkeitsbewegung vom Auftreten Johannes des Täufers bis zum Untergang Jakobs des Gerechten nach der neuerschlossener Eroberung von Jerusalem des Flavius. Heidelberg, 1929—1930. Bd. 1—2. Гл. таксама: Eisler R. Jesus d'après la version Slave de Flavius Josephus // Revue de l'Histoire de Religion. 1926; Eisler R. The Messiah Jesus and John the Baptist. London, 1931.

[8] Istrin V. La prise de Jérusalem de Josèphe le Juif / Trad. P. Pascal, A. Vaillant. Paris, 1934—1938. Vol. 1—2. Пазней выйшаў толькі адзін пераклад: La prise de Jerusalem: Text traduit de vieux russe et pre-sente par P. Pascal. Monaco, 1964. В. Істрыным былі падрыхтаваны тамы 3 і 4, якія мусілі змяшчаць даследаванне перакладу і яго словапаказчык, аднак пачатак другой сусветнай вайны спыніў выданне. У архіве АН СССР у Ленінградзе захаваліся асобныя фрагменты даследавання Істрына ў чарнавым выглядзе, а таксама картатэка складзенага ім словапаказчыка да помніка. У новым выданні Г. Пічхадзе цытуе найбольш важныя высновы Істрына адносна паходжання перакладу (Т. 1. С. 9—12).



[9] Мещерский Н. А. «История Иудейской войны» Иосифа Флавия в древнерусском переводе: Исследование, текст и перевод. Москва; Ленинград, 1958; гл. таксама: Мещерский Н. Значение древнеславянских переводов для восстановления их архетипов: (На материале древнерусского перевода «Истории иудейской войны» Иосифа Флавия). Москва; Ленинград, 1958.

[10] Мещерский Н. А. Из наблюдений над древнерусским переводом «Истории Иудейской войны» Иосифа Флавия // Доклады АН СССР. Сер. В. 1930. № 2. С. 19—25.

[11] Мещерский Н. А. «История Иудейской войны» Иосифа Флавия… С. 65.

[12] Josephus' Jewish war and its Slavonic version: A synoptic comparison / Ed. H. Leeming, K. Leeming; transl. H. Leeming, L. Osinkina. Leiden; Boston/MA, 2003.

[13] Zeitlin S. The Christ passage in Josephus // The Jewish quarterly review: New series. 1928. Vol. 18. P. 231—255; Rubinstein A. Observation on the Old Russian version of Josephus' Wars // Journal of Semitic studies. 1957. Vol. 2. P. 329—348; Zeitlin S. The Slavonic Josephus and the Dead Sea scrolls: An exposé of recent fairy tales // The Jewish quarterly review: New series. 1968. Vol. 58. P. 173—203; Schreckenberg H. Rezeptionsgeschichtliche und textkritische Untersuchungen zu Flavius Josephus. Leiden, 1977. S. 44—45; Bickerman E. Sur la version vieux-russe de Flavius Josèphe // Studies in Jewish and Christian history. Leiden, 1986. Vol. 3. P. 172—195; Whealey A. Josephus on Jesus. The testimonium Flavianum controversy from late Antiquity to modern times. New York, 2003.

[14] Höcherl A. Zur Übersetzungstechnik des altrussischen «Jüdischen Krieges» des Josephus Flavius. München, 1970.

[15] Hansack E. Die Lexik der altrussischen Version des «Jüdischen Krieges» des Flavius Josephus / Hrsg. K. Trost. Regensburg, 1990—1991. Bd. 1: Belegstellenverzeichnis. Bd. 2: Rückläufiges Belegstellenverzeichnis. Bd. 3 Namen (1).

[16] Flavii Josephi opera / Ed. et instr. B. Niese. Berolini, 1894. [2. ed.] 1955.Vol. 6: De bello Judaico libros VII.

[17] Такія ж беларускія і ўкраінскія асаблівасці ўласцівы арфаграфіі Віленскага спіса, гл.: Мещерский Н. А. «История Иудейской войны» Иосифа Флавия… С. 7—29.

***І. П. Клімаў***

# ІНФАРМАЦЫЯ

## ДЗЕЙНАСЦЬ БЮРО АРХЕАГРАФІЧНАЙ КАМІСІІ БЕЛКАМАРХІВА
## *(ліпень 2004 г. — май 2005 г.)*

Бюро АК правяло 27 верасня і 9 снежня 2004 г., 9 і 24 лютага, 21 сакавіка і 30 красавіка 2005 г. пасяджэнні, на якіх абмяркоўваліся наступныя пытанні: праект выдання ранніх спісаў II Літоўскага Статута; праект Палажэння пра прысуджэнне штогадовых прэмій імя Дз. І. Даўгялы і І. І. Грыгаровіча беларускім архівістам і археографам, працяг серыйнага выдання кніг Метрыкі ВКЛ у Беларусі і інш.

6 кастрычніка АК разам з НАРБ правяла пасяджэнне «круглага стала», прысвечанае 10-годдзю прыняцця Закона «Аб нацыянальным архіўным фондзе і архівах у Рэспубліцы Беларусь», у якім прынялі ўдзел кіраўнікі і супрацоўнікі ўстаноў архіўнай галіны Беларусі.

12 мая АК разам з БелНДІДАС правяла пасяджэнне «круглага стала»: «Гісторыя Вялікай Айчыннай вайны: археаграфічны, архівазнаўчы і крыніцазнаўчы аспекты распрацоўкі», прысвечанае 60-годдзю Перамогі ў ВАВ. На ім прысутнічалі 25 архівістаў, гісторыкаў, музейных супрацоўнікоў, аспірантаў і магістрантаў. З прывітальным словам да ўдзельнікаў пасяджэння звярнуўся старшыня Белкамархіва У. І. Адамушка. Вёў пасяджэнне нам. старшыні АК М. Ф. Шумейка. Удзельнікі пасяджэння абмеркавалі праблемы выяўлення дакументаў і матэрыялаў часоў ВАВ, камплектавання імі архіўных фондаў, падрыхтоўкі да публікацыі зборнікаў дакументаў і матэрыялаў па гісторыі вайны, археаграфічнай культуры айчынных выданняў па ВАВ і інш. (у прыватнасці, праф. Э. Р. Іофа закрануў праблему колькасці чалавечых страт у ВАВ). Інфармацыя пра пасяджэнні змешчана ў часопісе «Архівы і справаводства» — № 6 за 2004 г. і № 3 за 2005 г.

Пад грыфам АК і БелНДІДАС выйшла з друку кніга «Пра вайну апошняе слова не сказана: Па матэрыялах пасяджэнняў «круглых сталоў», прысвечаных распрацоўцы гісторыі Вялікай Айчыннай вайны (май 2004 г., май 1990 г.)» (Мн., 2005).

24 сакавіка адбыўся чарговы сход АК. У ім прынялі ўдзел 28 вучоных, архівістаў і супрацоўнікаў музейных устаноў краіны, а таксама вядомы беларусіст А. К. Каўка (Масква). З дакладам «Гісторыя і сучасны стан археаграфічнай базы публікацый па Вялікай Айчыннай вайне ў Беларусі» на сходзе выступіў нам. старшыні АК М. Ф. Шумейка. Асноўную ўвагу дакладчык удзяліў арганізацыі працы па публікацыі дакументаў і матэрыялаў па гісторыі ВАВ, выкананню асноўных аспектаў эдыцыйнай працы. З інфармацыяй пра стан працы па выкананні плана публікацый дакументаў НАФ Рэспублікі Беларусь архіўнымі ўстановамі краіны на 2003—2008 гг. выступіў нам. старшыні АК Я. Я. Янушкевіч.

На сходзе абмяркоўвалася пытанне пра каардынацыю археаграфічнай працы паміж архіўнымі ўстановамі і паміж імі і навукова-даследчымі і вышэйшымі навучальнымі ўстановамі. У абмеркаванні прынялі ўдзел У. І. Адамушка, В. У. Скалабан, Г. Я. Галенчанка, А. М. Сарокін, М. У. Пішчулёнак, Т. І. Рошчына, Ю. У. Несцяровіч. І. В. Саверчанка станоўча ацаніў працу АК у апошні час, прапанаваў пры ажыццяўленні яе планаў выкарыстоўваць праграмна-планавы падыход, распрацоўваць навукова-даследчыя і навукова-выдавецкія праграмы.



А. К. Каўка звярнуўся да прысутных з заклікам арганізаваць і правесці міжнародную навуковую канферэнцыю, прысвечаную 100-годдзю з дня нараджэння М. М. Улашчыка. На сходзе абмяркоўваўся праект Палажэння пра прысуджэнне штогадовых прэмій імя Дз. І. Даўгялы і І. І. Грыгаровіча беларускім архівістам і археографам. Старшыня Белкамархіва У. І. Адамушка звярнуў увагу бюро АК на неабходнасць прыняцця практычных крокаў па заснаванні гэтых прэмій.

Агульны сход АК пастанавіў:

1. Прыняць да ведама інфармацыю нам. старшыні АК М. Ф. Шумейкі і Я. Я. Янушкевіча.

2. Арганізацыйна ўзмацніць каардынацыю археаграфічнай працы пры выкананні плана публікацый дакументаў НАФ Рэспублікі Беларусь архіўнымі ўстановамі краіны.

3. Прыняць у склад АК Жлутку Алеся Анатольевіча, кандыдата гістарычных навук, старшага навуковага супрацоўніка Інстытута гісторыі НАН Беларусі; Стэфановіча Аляксандра Віктаравіча, загадчыка аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі; Лебедзеву Валянціну Мікалаеўну, старшага выкладчыка Гомельскага дзяржаўнага універсітэта.

*Матэрыял падрыхтаваны Ю. У. Несцяровічам*

## О СОЗДАНИИ ФОНДА А. Д. КАРАСЕВА В ГОСУДАРСТВЕННОМ АРХИВЕ ГОМЕЛЬСКОЙ ОБЛАСТИ

В соответствии с протоколом ЭПК отдела по архивам и делопроизводству управления организационно-кадровой работы Гомельского облисполкома в Государственном архиве Гомельской области создан фонд (№ 1393) Карасева Анатолия Дмитриевича (1997—2004).

Карасев Анатолий Дмитриевич родился в г. Гродно 13 февраля 1947 г. в семье военнослужащего. После окончания семилетней школы поступил в Барановичский техникум легкой промышленности. В 1964 г. перевелся на вечернее отделение техникума и приступил к работе в качестве слесаря-ремонтника на Барановичский хлопчатобумажный комбинат. По окончании техникума, в 1966 г., получив специальность «техника-технолога», был призван в ряды Советской Армии. Службу проходил в Белорусском и Дальневосточном военных округах. После увольнения в запас из рядов Вооруженных Сил поступил на работу в воинскую часть № 36856 в г. Барановичи в качестве слесаря по ремонту самолетов.

В 1972 г. А. Д. Карасев поступил на учебу в Московский государственный историко-архивный институт на факультет документоведения и организации управленческого труда в государственных учреждениях, который успешно закончил в 1977 г., получив квалификацию документоведа и организатора управленческого труда и делопроизводства государственных учреждений.

В 1975 г. Анатолий Дмитриевич принял участие во Всесоюзном конкурсе студенческих работ по общественным наукам, истории ВЛКСМ и международного молодежного движения и был награжден дипломами I и III степени.

Во время учебы в институте принимал активное участие в общественной жизни: избирался в комитет ВЛКСМ, студенческий комитет общежития, был членом добровольной народной дружины, принимал участие в студенческих строительных отрядах.

Согласно распределению Главного архивного управления при Совете Министров СССР после окончания Московского государственного историко-архивного института А. Д. Карасев 1 августа 1977 г. был принят на работу в Государственный архив Гомельской области в качестве начальника отдела фондов, учета и научно-справочного аппарата. Позднее А. Д. Карасев руководил отделом ведомственных архивов, комплектования и экспертизы ценности документов.

С 10 марта 1986 г. до конца своих дней Анатолий Дмитриевич был бессменным руководителем Государственного архива Гомельской области.

Свою работу на посту директора архива А. Д. Карасев успешно совмещал с научной деятельностью, склонность к которой он проявлял еще в студенческие годы. Его работы были опубликованы в журнале «Архивы и делопроизводство», в вып. 4 БАШ, в вып. 5 сборника научных статей и материалов «Проблемы славяноведения» (Брянск. 2003), в израильском издании «Евреи в России и Восточной Европе» («JEWS IN RUSSIA AND EASTERN EUROPE»), 1(50), 2003; в сборнике «Гражданская война в России: события, мнения, оценки» / Сост. Е. Ю. Кораблева, В. Л. Телицын и др. М., 2002).

Памяти Анатолия Дмитриевича Карасева посвящается данный фонд. Разделы описи отражают его научную и профессиональную деятельность. Первый и второй разделы описи содержат ксерокопии документов, выявленные А. Д. Карасевым в ходе работы по темам: «Стрекопытовский мятеж в 1919 г. в г. Гомеле»; «История образования Гомельской губернии»; «Восстания в Корме и Рогачеве в феврале—марте 1919 г.»; «Мятеж, которого не было»; «Из истории еврейского религиозного движения».

В третьем разделе собраны документы, выявленные А. Д. Карасевым в ходе биографических и генеалогических исследований.

Четвертый, пятый и шестой разделы описи посвящены материалам, касающимся биографии и профессиональной деятельности. В них также представлены материалы о награждениях, альбом с фотографиями и документальные видеофильмы с участием А. Д. Карасева, которые были сняты и транслировались в эфире Гомельским телевидением.

*Материал подготовлен В. Н. Надежиной*



# ПАМЯЦІ ТАВАРЫША

## УЛАДЗІМІР МІКАЛАЕВІЧ МІХНЮК (27.09.1947—13.10.2004)

Вядомы беларускі вучоны, доктар гістарычных навук, прафесар Уладзімір Мікалаевіч Міхнюк нарадзіўся 27 верасня 1947 г. у вёсцы Грушаны Поразаўскага р-на (цяпер Свіслацкі р-н Гродзенскай вобл.). У 1969 г. ён скончыў гістарычны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута. Непрацяглы час працаваў загадчыкам аддзела пісьмаў у рэдакцыі свіслацкай раённай газеты «Заветы Ильича», служыў у Савецкай Арміі.

Са снежня 1970 г. У. М. Міхнюк — аспірант кафедры гісторыі СССР і БССР Гродзенскага педагагічнага інстытута, з 1973 г. — выкладчык, старшы выкладчык на той жа кафедры, з 1975 г. — старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, у 1982—1987 гг. і з 1991 г. — старшы, вядучы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР. У 1987—1991 гг. У. М. Міхнюк працаваў старшым выкладчыкам, прафесарам Мінскай вышэйшай партыйнай школы (у 1990 г. пераўтворана ў Інстытут паліталогіі і сацыяльнага кіравання КПБ).

У студзені 1992 г. — снежні 1996 г. У. М. Міхнюк працуе дырэктарам БелНДІДАС, у 1997—1998 гг. — загадчыкам аддзела Камісіі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. З чэрвеня 1998 г. Уладзімір Мікалаевіч прафесар кафедры гісторыі Беларусі новага і найноўшага часу гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, з верасня 2004 г. — прарэктар па навуцы Беларускага інстытута правазнаўства.

У. М. Міхнюк грунтоўна даследаваў праблемы гісторыі, гістарыяграфіі і крыніцазнаўства, археаграфіі і архівазнаўства, бібліяграфіі і гісторыі літаратуры Беларусі 20—30-х гг. XX ст. Ён першы пачаў комплексна і дэталёва распрацоўваць пытанні гісторыі гістарычнай навукі і палітычных рэпрэсій, масонства ў Беларусі.

У. М. Міхнюк — аўтар шматлікіх навуковых кніг, у т. л. «Крестьянство Белоруссии на пути к социализму: Историографический очерк» (1979), «Социалистические преобразования в западных областях БССР: Историографический очерк» (1979), «Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии. (1919—1941 гг.)» (1985), «Арыштаваць у высылцы: Дакументальны нарыс пра Алеся Дудара» (1996), «Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакументах і ўспамінах» (2001) і інш. Адзін з аўтараў кніг: «Нарысы гісторыі Беларусі» (ч. 2, 1996), «Историческая наука Белорусской ССР: 80-е годы» (1997, у сааўтарстве з П. Ц. Петрыкавым), «Гісторыя славянскіх народаў у

працах савецкіх даследчыкаў» (1988, у сааўтарстве з П. Ц. Петрыкавым і Г. Г. Сяргеевай), «Докторские и кандидатские диссертации по историческим наукам БССР. 1944—1987 гг.: Библиографический указатель», 2-е изд., перераб. и доп. (1988, у сааўтарстве з Л. М. Навіцкай), «Споведзь у надзеі застацца жывым: Аўтабіяграфія Браніслава Тарашкевіча» (1999, у сааўтарстве з А. І. Валахановічам), «Знешняя палітыка Беларусі» (1997—2002). Па яго ініцыятыве, пад яго кіраўніцтвам і непасрэдным удзеле выйшла 5 тамоў.

У. М. Міхнюк — першы з беларускіх гісторыкаў, які шмат зрабіў для вяртання з небыцця беспадстаўна рэпрэсіраваных беларускіх дзяржаўных, палітычных, грамадскіх і культурных дзеячаў XX ст. Яго пяру належаць навуковыя артыкулы пра К. Езавітава, У. Ігнатоўскага, В. Ластоўскага, А. Луцкевіча, У. Пракулевіча, А. Смоліча, А. Сокала-Кутылоўскага, А. Цвікевіча, М. Гарэцкага, А. Гурло, У. Дубоўку, Я. Пушчу, А. Дудара, Б. Тарашкевіча, Янку Купалу, У. Жылку і многіх іншых. Ён апублікаваў шэраг дакументальных матэрыялаў з Цэнтральнага архіва КДБ Рэспублікі Беларусь, НАРБ і інш., якія асвятляюць рэпрэсіі супраць беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі, сярод іх кніга «Антон Луцкевич: Материалы следственного дела НКВД БССР» (1997).

У. М. Міхнюк — аўтар 14 кніг і брашур, шматлікіх зборнікаў дакументаў і матэрыялаў па гісторыі Беларусі, у т. л. 4 манаграфій. У энцыклапедычных выданнях, навуковых зборніках, часопісах, газетах ён надрукаваў звыш 450 навуковых і навукова-папулярных артыкулаў. У 1974 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю, у 1986 г. — доктарскую дысертацыю на тэму «Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии (1919—1941)». У 1987 г. яму прысвоена навуковая ступень доктара гістарычных навук, у 1991 г. — званне прафесара.

Чытаючы спецкурс «Методыка гістарычнага даследавання» на гістарычным факультэце БДУ, У. М. Міхнюк працягваў даследаванне гісторыі палітычных рэпрэсій у Беларусі супраць нацыянальнай інтэлігенцыі ў міжваенны перыяд. Неардынарныя погляды і новы падыход да рашэння праблем развіцця гісторыі Беларусі многімі вучонымі рэспублікі старэйшага пакалення былі ўспрыняты неадэкватна… Для яго былі характэрнымі апантанасць і любоў да працы. Яго навуковыя работы — гэта новыя адкрыцці ў гістарычнай навуцы Беларусі. Даследаванне «белых» плямаў гісторыі нашай рэспублікі, курсы лекцый, якія ён чытаў у БДУ, адрозніваліся высокай навуковасцю, дакладнасцю і выверанасцю фактаў, абгрунтаванымі высновамі.

Працуючы ў Цэнтральным архіве КДБ Рэспублікі Беларусь, вучоны знайшоў арыгіналы вершаў А. Дудара, У. Дубоўкі, У. Жылкі і іншых беларускіх паэтаў, якія не былі вядомы нават беларускім літаратуразнаўцам. Да прыкладу, у час падрыхтоўкі кнігі пра Алеся Дудара, ён выявіў у архіве арыгінал верша класіка ўкраінскай літаратуры Уладзіміра Сасюры (1898—1965) «Наўкола радасці так мала», пра існаванне якога не ведалі нават землякі паэта — украінскія літаратуразнаўцы. Ва ўрачыстай абстаноўцы ў пасольстве Украіны ў Рэспубліцы Беларусь каштоўная знаходка У. М. Міхнюка была вернута на радзіму.



Уладзімір Мікалаевіч прымаў актыўны ўдзел у абмеркаванні праекта «Положения о присуждении ученых степеней и присвоении ученых званий в Республике Беларусь». У друку ён выказаў свой пункт погляду па шэрагу артыкулаў праекта, якія перашкаджалі росту маладога навуковага патэнцыялу. У. М. Міхнюк у першую чаргу думаў і клапаціўся пра маладыя кадры айчыннай навукі. Слынны вучоны заўсёды быў у творчым пашуку. Ён распрацоўвае актуальныя навуковыя тэмы, выкладае ў БДУ, чытае курс лекцый па тэме «Як дзялілі Беларусь», што выклікала цікавасць і захапленне ў слухачоў навізною фактаў, новымі поглядамі на шмат якія праблемы гісторыі Беларусі. Пры падрыхтоўцы навуковых прац, лекцый, дакладаў на навуковых канферэнцыях Уладзімір Мікалаевіч працаваў з дакументамі і матэрыяламі на польскай, чэшскай, славацкай, балгарскай, украінскай і іншых мовах. Для азнаямлення з літоўскімі архівамі вывучаў літоўскую мову.

Прафесар У. М. Міхнюк быў цудоўным аратарам, валодаў унікальнымі энцыклапедычнымі ведамі, якія падмацоўваліся цікавымі гістарычнымі фактамі, афарызмамі, проста зачароўваў студэнтаў-слухачоў на лекцыях. Студэнты называлі яго між сабой «сказочником» за цікавыя і незвычайныя лекцыі. Усе лекцыі і даклады Уладзімір Мікалаевіч тэзісна занатоўваў на бібліятэчных картках, але тэкст выступлення заўсёды быў у ім самім, гэта была яго творчая навуковая імправізацыя. У гэтым і заключаўся «феномен Михнюка».

У. М. Міхнюк быў членам экспертнага савета Вышэйшай атэстацыйнай камісіі Рэспублікі Беларусь па спецыяльнасці «гісторыя», членам навуковых саветаў па абароне доктарскіх і кандыдацкіх дысертацый БДУ, БДПУ імя Максіма Танка, Інстытута гісторыі НАН Беларусі, БелНДІДАС. Прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы навуковых кадраў, з'яўляўся афіцыйным апанентам і экспертам па доктарскіх і кандыдацкіх дысертацыях, старшынёй дзяржаўных экзаменацыйных камісій па гісторыі ў вядучых ВНУ Рэспублікі Беларусь. Ён быў старшынёй на рэспубліканскіх алімпіядах школьнікаў па намінацыі «гісторыя» ў 2001 г. (г. Ліда), у 2003 г. (г. Барысаў), у 2004 г. (г. Слонім).

У. М. Міхнюк быў членам рэдакцыйных камісій часопісаў «Беларускі гістарычны часопіс», «Гісторыя: Праблемы выкладання», «Архівы і справаводства», навукова-рэдакцыйных саветаў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (у 6 тамах), «Беларускай энцыклапедыі» (у 18 тамах). Ён наладжваў навуковыя сувязі з гісторыкамі іншых краін, арга-

нізоўваў, праводзіў і прымаў актыўны ўдзел у міжнародных навукова-практычных канферэнцыях па праблемах гісторыі Беларусі.

Уладзімір Мікалаевіч унёс значны ўклад у развіццё гістарычнай навукі Беларусі, увёў у навуковы абарот шмат новых архіўных крыніц, падрыхтаваў шэраг навуковых кадраў аспірантаў і вучоных. У яго было шмат вучняў і аспірантаў. Ён падрыхтаваў трох дактароў навук і трох кандыдатаў навук, восем аспірантаў працавалі пад яго кіраўніцтвам. Ён уважліва адносіўся да сваіх вучняў, як клапатлівы бацька, падказваў, раіў, чытаў, рэдагаваў, выпраўляў іх навуковыя працы, патрабуючы актуальнасці тэматыкі, навізны даследчага матэрыялу, высокага ідэйнага і навуковага ўзроўню, даступнасці і яснасці выкладання матэрыялу, новага светапогляду і практычнага значэння навуковага твора.

У. М. Міхнюк быў настойлівым прынцыповым вучоным, меў «бойцовский характер», мог мужна і настойліва адстойваць свае навуковыя погляды.

Людзі ішлі да яго за парадай, ведаючы, што Уладзімір Мікалаевіч ніколі і нікому не адмовіць, паклапоціцца дапамагчы. Здавалася часам, што ён хоча дапамагчы ўсяму свету. Звярталіся да яго за дапамогай і парадамі аспіранты іншых навуковых кіраўнікоў, і ён дапамагаў ім, карэкціраваў іх тэмы, планы, тэксты, заўсёды быў шчырым, уважлівым, далікатным у сваёй дапамозе.

Як навуковец Уладзімір Мікалаевіч заўсёды на першае месца ставіў інтарэсы беларускай навукі, заўсёды меў свой пункт погляду па тым ці іншым пытанні ці праблеме. Гэта быў Гісторык з вялікай літары. Прырода дала яму розум і талент. Па жыцці ён прайшоў, пакінуўшы свой яркі след. Быў адкрытым, прыстойным, шчырым, уражлівым чалавекам. Ад незвычайных, чуллівых сцэн з жыцця ў яго маглі з'явіцца слёзы спачування і радасці на вачах. А сваімі раднаснымі адчуваннямі і пачуццямі ён быў гатовы падзяліцца з усімі. Уладзімір Мікалаевіч умеў прыслухоўвацца да пункту погляду іншых, маючы пры гэтым асабістую пазіцыю і ніколі не саромеўся прызнацца, калі аказваўся не правым. У час абмеркавання той ці іншай падзеі ад яго сыходзіла такая моцная энергетыка, якая зараджала і ўцягвала ўсіх у дыскусію. Здавалася, што гісторыяй прасякнута паветра вакол яго.

Я быў сведкам, як Уладзімір Мікалаевіч мужна змагаўся з «артадоксамі» партыйна-савецкай навукі, якія не выпускалі ў свет яго манаграфію «Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии. (1919—1941 гг.)» у 1985 г. Сыр-бор разгарэўся на стадыі другой, падпісной, карэктуры, ужо аж у Галоўліце (савецкай цэнзуры). З-за 24 старонак наборнага тэксту ледзьве не пусцілі кнігу «пад нож». У. М. Міхнюк катэгарычна адмовіўся замяняць ці выпраўляць гэтыя старонкі тэксту. Выдавецтва «Навука і тэхніка», дзе выходзіла кніга, заступілася за аўтара. Усё ў рэшце рэшт скончылася добра — кніга выйшла пасля падпісання ў свет у Галоўліце за … 15 дзён.



Уладзімір Мікалаевіч быў добрым сем'янінам, мужам, бацькам, і сям'я плаціла яму тым жа. Жонка Аляўціна Мікалаеўна, гісторык па спецыяльнасці, дапамагла яму ў складанні бібліяграфічнага даведніка «Докторские и кандидатские диссертации по историческим наукам БССР. 1944—1982 гг.: Библиографический указатель» (1982).

У. М. Міхнюк выдатна іграў у шахматы, більярд, збіраў грыбы і ягады, нарыхтоўваў лекавыя травы, у якіх ведаў толк, рабіў прыемны лекавы чай (гарбату), рыхтаваў дамашняе смачнае віно. Як таленавіты кухар, радаваў сям'ю адмыслова прыгатаванымі смачнымі катлетамі з лісічак і цудоўнымі дранікамі са свежаю смятанаю. З задавальненнем у рэдкія часы адпачынку працаваў на сваёй дачы. Так атрымалася, што лёс адвёў яму нядоўгі век.

Уладзімір Мікалаевіч Міхнюк — незвычайны і неардынарны Чалавек, Вучоны, Даследчык, Педагог. Такім ён быў, такім і застанецца ў памяці тых, хто яго ведаў — родных, блізкіх, калег, сяброў, паслядоўнікаў, аднадумцаў.

*А. І. Валахановіч*

# РЭЗЮМЕ

**Шумейка Міхаіл Фёдаравіч**, канд. гіст. н., дацэнт БДУ — «От «культуры обычая» к «культуре правил»: история создания нормативно-методической базы археографии в России и в СССР».

Разглядаюцца асноўныя моманты стварэння нарматыўна-метадычнай базы археаграфіі, паказваецца ўклад у яе расійскіх, беларускіх, украінскіх гісторыкаў, археографаў, філолагаў.

**Несцяровіч Юрый Уладзіміравіч**, канд. гіст. н., старшы навуковы супрацоўнік БелНДІДАС — «Эксплікацыя паняцця навукі і акрэсленне археаграфіі як сацыёкультурнага феномена».

Абгрунтоўваецца паняцце навукі як сферы грамадскага жыцця. Удакладняюцца адзнакі паняцця сацыяльнага інстытута. Робяцца высновы пра суадносіны паняццяў навукі і практыкі, археаграфіі і практыкі. Вызначаецца з пункту гледжання сацыялогіі і культуралогіі статус археаграфіі (і архіўнай справы) як ўтварэння грамадскага жыцця і як з'явы культуры.

**Фядосаў Уладзімір Васільевіч**, канд. экан. н., дырэктар БелНДІДАС — «О содержании теории архивоведения и месте в ней теоретических основ экономики архивного дела».

Разглядаюцца пытанні навуказнаўчага статусу архівазнаўства, зместу тэорыі архівазнаўства, тэарэтычных асноў эканомікі архіўнай справы, пашырэння архіўна-эканамічных ведаў.

**Латушкін Андрэй Мікалаевіч**, вядучы архівіст НГАБ — «Да гісторыі Нясвіжскага архіва князёў Радзівілаў у 1790—1818 гг.».

Разглядаецца гісторыя Нясвіжскага родавага архіва Радзівілаў у канцы 1790-х — пачатку 1810-х гг. праз аналіз дакументальных матэрыялаў, якія ўваходзяць у яго склад.

**Гагуа Руслан Барысавіч**, аспірант кафедры сусветнай гісторыі ГрДУ — «Хроніка канфлікту Уладзіслава, караля Полышчы, з крыжакамі ў год хрыстоў 1410».

Упершыню на беларускай мове друкуецца крыніца па гісторыі Грунвальдскай бітвы і даецца крыніцазнаўчы каментарый да яе.

**Сагановіч Генадзь Мікалаевіч**, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі — «Маскоўская калекцыя дакументаў па гісторыі адносін ВКЛ і Нямецкага ордэна».

Даецца кароткае апісанне найбольш каштоўных для распрацоўкі гісторыі Беларусі тамоў № 1, 3, 11, 12 копій дакументаў былога архіва Нямецкага ордэна з рукапіснага збору Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі.

**Саверчанка Наталля Сяргееўна**, загадчык сектара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі — «Калекцыя інкунабулаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі».

Апісваюцца нямецкія, італьянскія, швейцарскія і французскія першадрукі, якія захоўваюцца ў фондзе НББ, прадстаўлены іх поўны рэестр. Разглядаецца іх рэпертуар, правененцыі, прыводзяцца вынікі вывучэння экземпляраў інкунабулаў.



**Сынкова Ірына Анатольеўна**, навуковы супрацоўнік аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі — «Інкунабулы ў фондах ЦНБ НАН Беларусі».

Даецца апісанне першадрукаў (інкунабулаў), якія захоўваюцца ў фондах ЦНБ НАН Беларусі. Робіцца выснова, што яны захоўваюць асаблівасці, уласцівыя іншым кнігам першага этапу еўрапейскага кнігадрукарства, і разам з тым маюць індывідуальныя рысы.

**Лісейчыкаў Дзмітрый Васільевіч**, вядучы архівіст НГАБ — «Візіты і інвентары уніяцкіх храмаў Беларусі як крыніца па гісторыі штодзённасці (паводле матэрыялаў НГАБ)».

Прыводзіцца пералік і дадзена крыніцазнаўчае апісанне найбольш інфармацыйных крыніц для распрацоўкі гісторыі штодзённасці рэлігійных устаноў у Беларусі — інвентароў і візітаў уніяціх храмаў.

**Стэфановіч Аляксандр Віктаравіч**, загадчык аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі — «Экслибрисы князей Радзивиллов в книжных собраниях Несвижской ординации».

Апісваюцца і вывучаюцца экслібрысы і іншыя кніжныя знакі бібліятэкі Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў 1940 г. Выказваецца меркаванне, што фонды гэтай бібліятэкі складаюцца з фрагментаў прыватных бібліятэк.

**Цітавец Алена Іосіфаўна**, навуковы супрацоўнік аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі — «Звесткі пра перапісчыкаў рукапісных кніг беларускіх татараў XVIII—XX стст.».

Падсумоўваюцца даныя пра перапісчыкаў рукапісных кніг з мусульманскімі тэкстамі, якія перакладалі і перапісвалі беларускія татары ў XVIII—XX стст., прыводзяцца іх запісы на гэтых кнігах.

**Самовіч Аляксандр Леанідавіч**, канд. гіст. н., кіраўнік аддзела ваеннагістарычнай працы і геральдычнага забеспячэння кіраўніцтва Узброеных Сіл, падпалкоўнік — «К вопросу о военнопленных наполеоновской армии в 1812—1814 гг. в Российской империи».

Канстатуецца недастатковая распрацоўка корпуса крыніц, якія тычацца гісторыі ваеннапалонных Айчыннай вайны 1812 г. Прыводзяцца даныя, пераважна дакументаў ДАРФ і НГАБ, пра ўмовы іх утрымання, спосабы выкарыстання і адносіны да іх розных слаёў расійскага грамадства.

**Клімаў Ігар Паўлавіч**, канд. філал. н., дацэнт БДУК — «Беларускія і ўкраінскія катэхізісы XVI—XVIII стст.».

Упершыню даецца сістэматызаваны агляд катэхізісаў, якія з'явіліся на этнічных беларускай і ўкраінскай тэрыторыях XVI—XVIII стст. Вызначаюцца творы, якія адносяцца да ўсходнеславянскіх катэхізісаў; устанаўліваюцца лік і склад беларускіх і ўкраінскіх катэхізісаў.

**Жаўняркевіч Рыгор Сцяпанавіч**, галоўны спецыяліст Белкамархіва — «Станаўленне сфрагістыкі ісламскіх устаноў Беларусі (XIX ст.)».

Характарызуецца сфрагістыка ісламскіх устаноў Беларусі падчас яе станаўлення. Прыводзяцца даныя па іканаграфіі і моўным афармленні пячатак мусульманскіх арганізацый нашай краіны. Робіцца выснова, што магаметанская прыходская пячатка

ў час станаўлення ісламскай установчай сфрагістыкі Беларусі захоўвала традыцыйную для мусульманскай рэлігіі сімволіку і пераважна з'яўлялася рускамоўнай.

**Лукашэвіч Андрэй Міхайлавіч**, канд. гіст. н., дацэнт кафедры гісторыі Беларусі новага і найноўшага часу пры БДУ — «Законодательные і делопроизводственные документы о рекрутских наборах в белорусских губерниях Российской империи (конец XVIII ст. — 1812 г.)».

Прыводзяцца даныя справаводнай дакументацыі пра рэкруцкія наборы ў Беларусі ў перыяд пасля інкарпарацыі ВКЛ у склад Расійскай імперыі. Робіцца выснова пра тое, што існуючыя сёння заканадаўчыя і справаводныя акты дазваляюць поўна апісаць умовы рэкруцкага набору, дакладна ўстанавіць колькасць рэкрутаў з беларускіх губерняў.

**Гронскі Аляксандр Дзмітрыевіч**, канд. гіст. н., дацэнт кафедры гуманітарных дысцыплін Інстытута парламентарызму і прадпрымальніцтва — «К вопросу о деятельности железнодорожных жандармов белорусских губерний Российской империи в начале XX в.».

Асвятляецца дзейнасць жандармскага паліцэйскага кіраўніцтва Расійскай імперыі па навядзенні і падтрыманні парадку на чыгуначных шляхах, па стварэнні сакрэтнай агентуры сярод рабочых Паўночна-Заходняга краю імперыі. Робіцца выснова пра абумоўленасць адсутнасці значных антыдзяржаўных выступленняў у Беларусі ў 1905—1907 гг. і эфектыўнай дзейнасці чыгуначных жандармаў.

**Шпілеўская Ірына Мікалаеўна**, навуковы супрацоўнік БелНДІДАС — «Структура, функции и постановка делопроизводства губернских правлений Российской империи после принятия «Временных правил» 1865 г.».

Разглядаюцца нарматыўныя акты, якія рэгулююць правілы працы і ўстанаўліваюць арганізацыйную структуру губернскіх кіраўніцтваў. Робіцца выснова пра тое, што справаводства ў канцылярыі губернскага праўлення Расійскай імперыі пасля 1865 г. было спрошчана.

**Жук Віталь Мікалаевіч**, малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі — «Развитие образования и культуры среди польского населения БССР в 1930-е годы».

Прыводзяцца новыя даныя і ўстанаўліваюцца факты, датычныя развіцця асветы і духоўнай культуры палякаў у БССР. Вылучаюцца два яго этапы: 1) 1930—1933 гг. — працяг пад'ёму польскай культуры ў БССР; 2) 1934—1937 гг. — згортванне праграм нацыянальнага развіцця польскай нацменшасці, развіцця культуры. Робіцца выснова, што ўсё гэта абумоўлена пагаршэннем савецка-польскіх знешнепалітычных адносін.

**Жумар Сяргей Уладзіміравіч**, канд. гіст. н., намеснік дырэктара БелНДІДАС, **Тарасевіч Алена Леанідаўна**, старшы навуковы супрацоўнік БелНДІДАС — «В. В. Чепко: из воспоминаний».

Публікуюцца мемуары аўтабіяграфічнага характару вядомага айчыннага гісторыка Валянціны Уладзіміраўны Чапко (1925—2004).

**Мянжынскі Валерый Станіслававіч**, канд. гіст. н., старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, **Несцяровіч Юрый Уладзіміравіч**, канд. гіст. н., старшы навуковы супрацоўнік БелНДІДАС — «З гісторыі Беларусі XVI ст.: канфірмацыйныя прывілеі ў кнізе Метрыкі ВКЛ 30».



Упершыню друкуюцца восем дакументаў з кнігі Метрыкі ВКЛ 30 за 1546 г., якія карысныя пры даследаванні сярэднявечнай гісторыі Беларусі. Прапануецца адрозніваць пры вызначэнні разнавіднасці дакументаў і матэрыялаў канфірмацыйныя прывілеі (якія часта маюць аўтэнтычную назву «прывилей потверженье») ад прывілеяў.

**Цвірка Аляксей Анатольевіч, Яцкевіч Зміцер Лявонцьевіч**, вядучы архівіст НГАБ, в. а. загадчыка аддзела публікацый НГАБ — «Візіты Заслаўскай уніяцкай царквы Праабражэння Гасподняга за 1681, 1792 гг.».

Упершыню публікуюцца дакументы Заслаўскай уніяцкай царквы, прыводзяцца пэўныя факты і звесткі з яе гісторыі. Дадзена кароткае апісанне фонду № 136 НГАБ («Мінская духоўная кансісторыя») і справы фонду «Візіты цэркваў Мінскага павета за 1792—1793 гг.».

**Анішчанка Яўген Канстанцінавіч,** д-р гіст. н., вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі — «Т. Касцюшка — генералу А. Хрушчову: «Вяртаю Вам Вашу сям'ю».

Упершыню публікуюцца ліст генерала А. І. Хрушчова да Т. Касцюшкі ад 19.07.1794 г. і адказ Т. Касцюшкі.

**Пашкевіч Аляксандр Васільевіч**, **Чарнякевіч Аляксей Мікалаевіч**, канд. гіст. н., старшы выкладчык Гродзенскага дзяржуніверсітэта — «Рапарты Р.Зямкевіча ў II аддзел Генеральнага штаба польскага войска за 1922 г.».

Упершыню друкуюцца рапарты вядомага дзеяча беларускай культуры пачатку XX ст. Р.Зямкевіча, якія змяшчаюць даныя пра заходнебеларускіх палітычных і грамадскіх дзеячаў. Робіцца кароткае агульнае апісанне дакументаў Цэнтральнага вайсковага архіва ў Рембергаве, якія з'яўляюцца карыснай крыніцай для апісання беларускага нацыянальнага руху.

**Кісялёва Яніна Міхайлаўна**, навуковы супрацоўнік БДАМЛМ — «Жыццяпіс» К. Дуж-Душэўскага».

Упершыню друкуюцца аўтабіяграфічныя матэрыялы беларускага палітычнага, культурнага і грамадскага дзеяча К. С. Душэўскага.

**Галубовіч Ала Купрыянаўна**, дырэктар НГАБ, **Лісава Ларыса Міхайлаўна**, намеснік дырэктара НГАБ — «Дакументы з замежных архіваў у Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі».

Робіцца кароткі агляд дакументаў і копій дакументаў з замежных архіваў, якія захоўваюцца ў НГАБ. Закранаецца пытанне пра падзел архіўных спраў на профільныя і няпрофільныя. Даецца вопіс калекцыі дакументаў НГАБ, якія ўяўляюць сабой мікрафотакопіі дакументаў Скарбовай камісіі ВКЛ (1765—1775 гг.) і Гродзенскай казённай палаты (1680—1796 гг.), арыгіналы якіх захоўваюцца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы ў Вільні.

**Брэгер Герман Максімавіч**, галоўны архівіст НГАБ, **Лінская Ларыса Антонаўна,** старшы навуковы супрацоўнік НМГКБ — «Фрагмент архіва Слуц-

кага Трайчанскага Свята-Траецкага манастыра ў фондах Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі (1650—1687)».

Працяг археаграфічнага апісання 105 дакументаў з архіва Слуцкага Трайчанскага Свята-Траецкага манастыра (пачатак у вып. 5 БАШ).

**Янушкевіч Язэп Язэпавіч**, канд. філал. н., загадчык аддзела археаграфіі БелНДІДАС — «Валожыншчына ў матэрыялах Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі».

Змешчаны пералік-рэестр дакументаў па гісторыі Валожыншчыны, якія захоўваюцца ў НГАБ і з'яўляюцца карыснай крыніцай для распрацоўкі гістарычна-краязнаўчай тэматыкі.

## SUMMARY

In his article Mihail Shumeiko ponders over the major milestones in the history of the creation of a historical-normative basis of archaeography in the $20^{th}$ century Russia and in the USSR.

Youri Nesterovich provides a foundation for understanding science as an area of social life, fine-tunes the specific features of the notion of social institute, defines the status of archaeography on the premises of sociological and cultural studies' analysis.

Andrei Latushkin throws light on the 1790—1810 history of the Nesvizh Archive of the Radzivill family.

The Director of the Belarusian Institute for document and archive studies Vladimir Fedosov talks about some issues of archive studies as a science.

Gennadi Saganovich carries out a source analysis of documents important for the development of the history of Belarus, that are to be found in the manuscript department of the Russian State library and containing some copies of the former archive of the German order.

Natalia Saverchenko and Irina Synkova describe incunabules kept in the central libraries of the Republic of Belarus.

Alexander Stefanovich gives a description of ex libris and other book markings of the library of the Nesvizh library of the Radzivills of 1940.

Alla Titovets makes a summary of the information about the scribers of the hand-written books of Belarusian Tartars of the $18^{th}$—$20^{th}$ cc.

Dmitri Liseichikov provides a list of inventories and visits of Uniate Churches preserved in the National Historical Archive of Belarus.

Igor Klimov carries out a textological analysis of East European Kathehisi of thew $16^{th}$—$18^{th}$ cc.

Grigori Jovnerkevich characterises the sfragistics of Moslem establishments in Belarus in the period of its formation.



Andrei Lukashevich presents data on conscription in Belarus in the end of the 18th century through 1812.

Alexander Samovich discusses the conditions under which the Napoleon's Army POWs were kept in 1812—1814.

Alexander Gronsky speaks about the anti-revolutionary activities of the gendarme Department of the Russian Police Board at the beginning of the $20^{th}$ c.

Irina Shpilevskaya regards changes in the structure and in book keeping of Gubernia Departments after 1865.

The article by Vitali Zhuk is about data and facts on the development of education and spiritual culture of the Polish population of BSSR in 1930-ies.

Ruslan Gagua made a translation from Latin into Belarusian of the «Chronicles of the conflict between Vladislav, the King of Poland, and the crusaders in 1410 AD.»

Valeri Menzhinski and Yuri Nesterovich offer the first publication of some documents from the GDL Metrics 30.

Alexei Stvirko and Zmiter Yatskevich publish 1681 and 1792 documents of the Zaslavl Uniate Church.

Yevgeni Anischenko provides a letter from a Russian Army General A. Khruschev to the leader of the Polish eliberation uprising of 1794 Tadeush Kostiushko and the answer to the letter.

Yanina Kiseleva gives the auto-biography of a Belarusian political and cultural leader Klavdi Duzh-Dushevski.

Sergei Zhumar and Elena Tarasevich publish the memoirs of V. Chepko, a Belarusian historian.

Alexandre Pashkevich and Alexei Cherniakevich provide some materials by a Belarusian cultural figure of the beginning of the $20^{th}$ c. R. Zemkevich that are used as the premises for the study of the Belarusian movement.

Olga Keller makes a review of the sources of Magdeburg Right and on a book by A. Yakovlev «Magdeburg Right in Belarus».

Alla Golubovich, Director of the Belarusian State National Archive(BSNA), and Larisa Lisova offer a review of the documents and copies of documents, received by the Archive from abroad.

German Breger and Larisa Linskaya describe some fragments of the Ttroichansk St. Trinity monastery.

Yazep Yanushkevich provided a register of documents on the history of Volozhin area that are kept in the BSNA.

There is information on the activities of the Archaeographical Committee of Belkomarchive in 2004-2005 and on the creation of a fund named after Belrusian Archivist A. Karasev in the State Archive of Gomel Region.

# ЗМЕСТ

Адказнасць за дакладнасць перадачы тэксту дакументаў, цытат і спасылак нясуць аўтары артыкулаў і публікацый.

Навуковае выданне

**Беларускі археаграфічны штогоднік**

Выпуск 6

Рэдактары *Т. М. Мальцава, В. М. Хлебавец*
Карэктар *З. Я. Губашына*
Камп’ютэрная вёрстка *П. А. Рэзванава*

Падпісана да друку 20.10.2005. Фармат 60×84 $^{1}/_{16}$. Гарнітура Times.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 20,5. Улік.-выд. арк. 16,5.
Тыраж 100 экз. Заказ № 97.

Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы (БелНДІДАС). 220002, г. Мінск, вул. Крапоткіна, 55.
Ліцэнзія ЛВ № 02330/0133094 от 30.04.2004.
Надрукавана на НВС БелНДІДАС.